

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Галоўны рэдактар
«Беларускага кнігазбору»
***Кастусь Цвірка***

Выканаўчы дырэктар
МГА «Беларускі кнігазбор»
***Генадзь Вінярскі***

# АЛЕСЬ ГАРУН



## Выбраныя творы

Мінск
«Беларускі кнігазбор»
2003



# ПАКУТЛІВЫ ШЛЯХ І ТВОРЧЫЯ ЗДАБЫТКІ АЛЕСЯ ГАРУНА

Алесь Гарун — адзін з найвыдатнейшых нашых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя. Па таленту ён не ўступае тым, каго мы па праву называем заснавальнікамі сучаснай беларускай літаратуры — Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, Максіму Гарэцкаму. Толькі лёс яго склаўся надзвычай трагічна: сам ён на працягу цэлых дзесяці гадоў быў адарваны ад свайго асяроддзя, ад роднай зямлі. Займацца літаратурнай творчасцю мог толькі ў няволі, а пад канец жыцця — ва ўмовах разбуральнай вайны, іншаземных нашэсцяў, пад уладай акупацыйных рэжымаў. Пры жыцці яго праследавала царскае самаўладства, а пасля смерці — бальшавіцкае. З канца 20-х гадоў беларускі народ, якому Алесь Гарун прысвяціў усё сваё жыццё, не меў права чытаць яго творы, ведаць пра яго заслугі перад роднай зямлёю.

І гэта невыпадкова, бо ён быў змагаром супраць несправядлівасці, супраць прыгнёту як нацыянальнага, так і сацыяльнага, супраць хлусні, якім бы мэтам яна ні служыла. Таму ён і пасля сваёй смерці заставаўся небяспечны ўсім тым, хто баяўся праўды, як агню. Амаль цэлых шэсць дзесяцігоддзяў яго імя ганебна выкрэслівалася з гісторыі нашай літаратуры, нашага народа.

Алесь Гарун — найбольш вядомы псеўданім пісьменніка, сапраўднае прозвішча якога — Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч. Нарадзіўся ён у Мінску ў беднай сям'і выхадцаў з вёскі Падстарынь Сталовіцкай воласці Наваградскага павета. (Сёння гэта Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці.) У метрычным выпісе мінскага Кальварыйскага касцёла для судовых органаў называецца дата 27 лютага 1887 года. Але не сказана, які гэта стыль — стары ці новы. Між тым каталіцкі касцёл ужо некалькі стагоддзяў карыстаецца новым стылем. У дарэвалюцыйнай Расіі быў узаконены стары стыль. Можна дапусціць, што ў выпісцы, прызначанай для афіцыйнай дзяржаўнай установы, прадстаўнікі касцёла падалі свае звесткі па старым стылі. Гэта дае падставу лічыць, што Алесь Гарун нарадзіўся 11 сакавіка.

У якасці месца нараджэння называецца не вуліца Багадзельная ў Мінску (сённяшняя Камсамольская), як гэта ўсюды пісалася да апошняга часу, а Новы Двор Мінска-кальварыйскага прыходу. Гэта, мабыць, была невялікая вёска ці фальварак ля Ракаўскай шашы.

Малы Алесь на працягу трох гадоў вучыўся ў Мінску ў царкоўнапрыходскай школе і тры гады — на дрэваапрацоўчым аддзяленні рамесніцкага вучылішча. Такой адукацыі было дастаткова, каб пачаць самастойнае працоўнае жыццё. Гарун стаў кваліфікаваным столярам і, пачынаючы з 1902 года, працаваў у розных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску.

Юнацтва і сталасць Алеся Гаруна прыпалі на гады, якія пакінулі ў гісторыі народа небывала яркі след: рэвалюцыя 1905 года, першая сусветная вайна, нямецкая акупацыя, Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі, грамадзянская вайна, іншаземныя інтэрвенцыі. На фоне ўсяго гэтага набірала сілы беларускае нацыянальнае адраджэнне, змаганне за права народам звацца, разгортванне вызваленчага руху.

Алесь Гарун з маладых гадоў ступіў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Яшчэ ў 1904 годзе ён стаў членам партыі эсэраў, разгортваў шырокую прапагандысцкую дзейнасць. Гэта мела для яго драматычныя вынікі. 4 сакавіка 1907 года яго арыштавалі ў падпольнай друкарні ў Мінску. Судзілі Алеся Гаруна і ягонага кампаньёна Абрама Левітаса двойчы. 10 ліпеня 1908 года суд прыняў канчатковае рашэнне адправіць абодвух падсудных на пасяленне ў Сібір.

Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» паведамляў, што Алесь Гарун адбываў ссылку ў Кірэнскім павеце Іркуцкай губерні — спачатку ў сяле Макараўскім над Ленай, затым у вёсцы Крывая Лука. Займаўся там сталярскімі і цяслярскімі работамі. У 1914 годзе пачаў працаваць на Лене вадалівам, а ў наступным перабраўся на прыіскі ў Бадайбо. Тут ён сустрэў Лютаўскую рэвалюцыю.

У адным з лістоў на волю Алесь Гарун паведамляў: «У гэтым годзе ў Кірэнскі павет Іркуцкай губ. прыйшло 4 партыі, а ў іх многа “палітыкаў”. Калі гэта перастануць пхаць сюды народ?! І так тутака людзі галадаюць, бо для ўсіх няма работы, дык і не ўсе ўмеюць што рабіць». Самога Алеся Гаруна ратавала тое, што ён да фізічнай работы ўцягнуўся змалку. А яшчэ ж была ў яго і спецыяльнасць столяра, патрэбная ўсюды. Таму ён меў надзейную магчымасць пракарміць сябе.

У Сібіры Алесь Гарун пазнаёміўся і пасябраваў з Язэпам Лёсікам, блізкім сваяком Якуба Коласа, будучым выдатным грамадскім і навуковым дзеячам. Іх абодвух вызваліла з няволі Лютаўская рэвалюцыя. У верасні 1917 года Гарун вярнуўся ў Мінск, дзе адразу ж уключыўся ў ідэйна-палітычную барацьбу. Тут жа шырока разгарнулася яго літаратурная і публіцыстычная творчасць.

У кастрычніку 1917 года на III з’ездзе Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ) — галоўнай палітычнай сілы беларускага народа — Алесь Гарун выбіраецца адным з дванаццаці членаў Цэнтральнага камітэта партыі. Разам з ім былі выбраны такія дзеячы, як Змітро

Жылуновіч (Цішка Гартны), Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Дыла, Аркадзь Смоліч, Сымон Рак-Міхайлоўскі. У снежні таго ж года Алесь Гарун стаў адным з кіраўнікоў I Усебеларускага кангрэса, на які сабраліся прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Беларусі, розных беларускіх арганізацый, раскіданых па Расіі. Ён увайшоў у склад Выканаўчага камітэта, выбранага з'ездам, і адказваў там за справы працы. Пасля распаду БСГ Алесь Гарун стаў членам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі.

У перыяд грамадзянскай вайны найбольш выдатныя дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння, у тым ліку і Алесь Гарун, звязвалі свае надзеі з сацыялізмам. Але па прынцыповых пытаннях іх праграма кардынальна адрознівалася ад праграмы бальшавікоў.

На свабодзе Алесь Гарун ніколі не спыняў актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці. У 1918 годзе, у час нямецкай акупацыі, ён рэдагаваў газету «Беларускі шлях». У жніўні 1919 года ўзначаліў Часовы беларускі нацыянальны камітэт, які ўключаў радных Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, прадстаўнікоў Культурна-асветнага таварыства, Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці, Першага таварыства драмы і камедыі, Вучыцельскага беларускага хаўруса і інш. Гэта была спроба згуртавання і кансалідацыі ўсіх патрыятычна настроеных нацыянальных сіл, каб дамагчыся іх эфектыўнай дзейнасці ва ўмовах акупацыйных рэжымаў.

Восенню 1919 года Алесь Гарун стаў членам так званай Беларускай вайсковай камісіі, якая павінна была — пры дапамозе польскіх улад — арганізаваць беларускую нацыянальную армію. Аднак ніякае войска, нягледзячы на шматмесячную — знешне вельмі актыўную — дзейнасць і на шматлікія спрыяльныя абставіны, так і не было створана. Польскія ўлады маглі б дазволіць толькі стварыць узброеныя сілы для барацьбы з бальшавікамі, а не для абароны інтарэсаў беларускага народа. А ў беларускіх дзеячаў былі свае планы і намеры.

У перыяд грамадзянскай вайны Алесь Гарун часта друкуе мастацкія і публіцыстычныя творы ў розных перыядычных выданнях і калектыўных зборніках. Кіраўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі ў найцяжэйшых умовах акупацыйных рэжымаў рабілі ўсё для абароны інтарэсаў беларускага народа, для развіцця нацыянальнай культуры. Якія б перашкоды ні даводзілася пераадольваць, беларуская літаратура жыла, змагалася за права беларусаў народам звацца. I ў першых шэрагах барацьбітоў за лепшую долю ішоў Алесь Гарун з палымяным паэтычным радком і ўсхваляваным публіцыстычным словам. I ўсё гэта нягледзячы на хваробу і на асабліва неспрыяльныя сямейныя і бытавыя ўмовы.

Вось якія звесткі пра тыя ўмовы паведаміла аўтару гэтых радкоў Зоська Верас: «...У 60-я годы — дастаўшы выпадкова адрас дачкі Ядвігіна Ш. — Ванды — маей мінскай сардэчнай сяброўкі — мы з ёй лістоўна прыпаміналі адна другой менскія падзеі, людзей, з якімі мы спатыкаліся...

У адным з лістоў да Ванды Л(явіцкай) я напісала, якім у маей памяці астаўся Алесь Гарун, што быў увесь час ціхі, прыгнечаны...

Яна мне на гэта адказала, што — нічога дзіўнага — вельмі неспрыяльныя ў яго былі хатнія абставіны... (Далей ідзе цытата з ліста Ванды — *У. К.*)

«...Я вельмі ўсё жыццё шкадавала М. Багдановіча, а другога Алеся Прушынскага... Ты ведаеш, у Алеся была сястра Зюня (Юзэфа), яна выйшла замуж за ваеннага паляка, калі яны былі ў Менску, і выехала з ім. У яго яшчэ быў брат Антось, хлапчук гадоў 13–14 — хуліган, злодзей і г.д., — маці Алеся — прачка, жанчына, змучаная жыццём, несымпатычная, жыла з гэтым Анцікам, а таксама і Алесь у кухні гэтага дому (г. зн. у даўн. Беларускай Хатцы), а я там, дзе Вы з Мамай жылі — у гэтым даўгім пакоі. Калі рэдакцыю (пры немцах) — (рэдакцыя "Вольнай Беларусі" — *У. К.*) зачынілі, а мы перабраліся ў дом Русецкіх — на Старажоўскай 1 — дык у гэтым пакоі, дзе Вы жылі з Мамай — яны сталі жыць (Алесь з сям'ёй), і там Алесь хварэў сыпняком, а мы з Язэпам (мужам) яго адведывалі. Гэта было ў 1919 годзе».

Цяпер дадам пэўныя выясненні (працяг пісьма Зоські Верас — *У. К.*).

Дом, аб якім В(анда) піша, — гэта была "Беларуская Хатка" — так называлі сталоўку Бел(арускага) Камітэту помачы ахвярам вайны — Захараўская 15. Калі дзейнічала сталоўка і яе загадчыцай была мая Маці — мы з ёю жылі, як Ванда кажа — у такім даўгім пакоі...

А. Гарун і яго сям'я жылі не ў кухні (тут В. памылілася), а ў пакоі за кухняй — дзе раней жыла кухарка...

Вось такія абставіны, паводле Ванды Л(явіцкай), дрэнна адбіваліся на настроі і здароўі А. Гаруна».

З Сібіры Алесь Гарун вярнуўся хворы на сухоты. Хвароба ўсё больш і больш абяссільвала паэта. У ліпені 1920 года яго на насілках унеслі ў санітарны цягнік, які завёз яго ў Кракаў. У гэтым жа месяцы ён і памёр, пражыўшы ўсяго толькі 33 гады. Пахаваны на вайсковых Ракавіцкіх могілках у Кракаве. І толькі амаль праз 70 гадоў пасля смерці, 24 верасня 1988 года, на яго магіле быў адкрыты помнік стараннямі актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

Пісаць вершы Алесь Гарун пачаў змалку, спачатку, як сведчыць Максім Гарэцкі, на рускай мове, затым — на беларускай. Раннія яго творы аднак да нас не дайшлі. 1905-м годам датуецца яго паэма «Мае Коляды», апублікаваная ў Вільні ў 1920 годзе пад псеўданімам А. Сумны. Гэта — гісторыя нечаканага абуджэння нацыянальнай свядомасці ў беларускага вясковага хлопчыка, які прыехаў да свайго школьнага сябра і правёў свята ў асяроддзі паноў. Тэма нацыянальнага ўсведамлення становіцца адной з галоўных ва ўсёй творчасці Алеся Гаруна — асабліва пасля вяртання з Сібіры, у перыяд рэвалюцый і грамадзянскай вайны.

Першы друкаваны верш «Маці-Беларусі» пабачыў свет у 1907 годзе ў 28 нумары газеты «Наша ніва». У 1908 годзе з'явіліся два вершы:

«Януку Купале» (паэтычны водгук на зборнік «Жалейка») і «Начныя думкі» — лірычны ўсхваляваны ўспамін аб родных мясцінах, ад якіх аўтар быў адарваны, знаходзячыся ў астрозе. Заслугоўвае ўвагі вобразная асаблівасць твора: тут ява ўвесь час пераплятаецца са сном, а рэальная рэчаіснасць — з казкай.

Гэтыя вершы сведчаць аб тым, што Алесь Гарун у астрозе не паў духам, не зламаўся маральна. Ён падтрымліваў цесную сувязь са знешнім светам, жыў яго клопатамі, займаўся літаратурнай творчасцю і знаходзіў магчымасць перадаваць вершы на волю. Больш стала літаратурнай творчасцю паэт заняўся ў Сібіры, адкуль пасылаў на радзіму вершы, апавяданні і, вядома, лісты.

Сібірскі перыяд творчасці Алеся Гаруна — з'ява фенаменальная ў гісторыі літаратуры. Юнак без адукацыі трапіў, можна сказаць, амаль што ў катаржныя ўмовы на чужыне, за тысячы вёрст ад роднага краю. Пра іх нейкае ўяўленне даюць раскіданыя па мастацкіх творах фрагментарныя і скупыя звесткі:

Часамі праца ўдзень кіпіць, —
Цярплю і я прыгон, —
Аж косць аб косць ў плячу рыпіць...
(«Людзям»)

Калі мы чытаем у апавяданні «Свята» пра тое, як ссыльны «політіческій» пасяленец Грыневіч дзеля заробку дзень за днём ідзе, перамерваючы незлічоныя сібірскія вёрсты, то і ў яго вобразе мы бачым самога аўтара: «Хада — не навіна для "пасяленца". Не першы раз праходзіў ён у гэты самы час і па гэтай жа дарозе, мяркуючы папасці ў Качуг на сплаў, а адтуль, наняўшыся асначом на барку, зноў спусціцца ўніз, аж да Якуцка, па веснавой вадзе».

Вось у такіх умовах у душы пасяленца нараджаліся «радкі звінючых слоў», пакідалі свой след на паперы і ляцелі з далёкай Сібіры на радзіму.

У Сібіры, у такіх умовах, што маглі зламаць маральна, скалечыць фізічна (а гэта з цягам часу з Алесем Гаруном і здарылася, бо ён захварэў на сухоты), ён знайшоў у сабе сілы і волю для барацьбы — за жыццё, за захаванне чалавечай годнасці. Там, на чужыне, ён мусіў і веды набываць — працягваць тую самаадукацыю, якой займаўся дома, хоць умовы для гэтага былі непараўнана больш складанымі, і засвойваць асновы мастацкай творчасці, а больш правільна — пракладваць у ёй зусім новыя, самастойныя шляхі, бо ні на каго ён не быў падобны, нікога не пераймаў, нічога ў творчасці не запазычваў (не з'яўляўся нічыім «падгалоскам», як сказаў пра яго Максім Багдановіч). А яшчэ даводзілася пісьменніку — без падручнікаў і граматык, нарматыўных і тлумачальных слоўнікаў, без бібліятэк і роднага асяроддзя — не толькі засвойваць, але і выпрацоўваць для сябе правілы і нормы роднай мовы з яе багатымі стылявымі і вобразнымі маг-

чымасцямі, з выкарыстаннем лексічных багаццяў, якія зберагла яго маладая памяць. Не трэба забываць, што гэта быў перыяд, калі правапіс і літаратурныя нормы беларускай мовы яшчэ толькі складваліся там, дзе з'яўляліся першыя перыядычныя выданні, кнігі, зборнікі, календары.

Алесь Гарун як паэт і празаік канчаткова аформіўся ў Сібіры, на выгнанні, на чужыне, куды трапіў у маладым узросце. Але як цесна на працягу ўсяго часу выгнання ён духоўна быў звязаны з радзімай! Усё тое, чым жыла родная зямля, адразу ж адбівалася ў яго творчасці. І не менш аператыўна, чым у тых аўтараў, што ўвесь час заставаліся на месцы, нікуды не адлучаліся. Творы яго станавіліся неаддзельнай, арганічнай часткай жывога літаратурнага працэсу, які на радзіме, пасля найбольш шырокамаштабных рэпрэсій у мінулыя стагоддзі, набіраў сілы, разгортваўся ў шырыню, даганяючы больш шчаслівых суседзяў, што паспелі так далёка абагнаць беларусаў у памнажэнні здабыткаў духоўнай культуры.

Прыклады гэтай злітнасці з літаратурным працэсам можа не заўсёды ляжаць на паверхні, але тым не менш яны ёсць — дастаткова выразныя, пераканаўчыя і жывыя. У гэтай сувязі звернем увагу на два творы: «Апокрыф» Максіма Багдановіча і «Першы снег» Алеся Гаруна.

Яны асабліва духоўна блізкія. Адзін з іх называецца «апокрыфам», а другі «легендай». У абодвух выпадках мы бачым услаўленне красы прыроды, красы жыцця, красы духоўнага свету чалавека, які з гэтай прыродай зросся.

Можна нагадаць радкі з «Першага снегу»: «Глядзіце, вось у мільёнах часцінак спадае ён чысты і белы, без сказы, як душы дзяўчатак, што з вёсак нашых ідуць у гарады іх; лягусенькі і мяккі, вясёлы, як птушка, у мільёнах часцінак іграе, блішчыць і падае, як тысячы моладзі нашай з мяккай вясёлай душой радасна ўступаюць у жыццё; да нас ляціць ён увесь светлы, без думак...

І вот паглядзіце — ужо ходзяць па ім, ужо топчуць нагамі і з граззю мяшаюць, і з брудам нячыстым...

Так топчуць яны і душу дзяўчаці і ціснуць у бруд жыццё моладзі нашай; так чэрняць і жыццё і памяць сваіх — справядлівых!..»

Любую красу, усё найсвяцейшае — у тым ліку і сляды Хрыстовы («Апокрыф») і бялюткі першы снег — можа патаптаць нага чалавека. І творы абодвух пісьменнікаў аберагаюць прыроджаную красу як нешта свяшчэннае, як небывала каштоўны духоўны скарб.

У Алеся Гаруна мы бачым пакутлівую трывогу за першародную чысціню душы чалавека, тую чысціню, якую бязлітасна знішчае, топча бесчалавечнасць як нейкая злавесная норма існавання нашага грамадства. Тут трывога за лёс самой красы, якой так пагражае паўсядзённа чыясьці бяздумнасць. І той бялюткі снег набывае глыбокі алегарычны сэнс, прымушае нас задумацца над складанымі пытаннямі нашага існавання, нашага быцця.

«Апокрыф» і «Першы снег» блізкія па часу нараджэння. Апавяданне Алеся Гаруна пабачыла свет у 1912 годзе, у 39-м нумары «Нашай

нівы», «Апокрыф» — у «Каляднай пісанцы» ў 1913 годзе. І ў тым жа 1913 годзе ў «Нашай ніве» з'явіліся заклікі «сплачваць доўг» перад красой роднай зямлі, але таксама і роздумы аб тым, «чаму плача песня наша?» Як быццам нечакана наспела і прарвалася на старонкі друку і ў мастацкія творы праблема аб жыццёвых вытоках і грамадскай ролі самой красы і мастацкага слова — у лёсе народа, у жыцці чалавека, які цяжкай працай здабывае свой хлеб надзённы. А там, быццам нейкім непазбежным водгуллем, прагучыць у Якуба Коласа такое набалелае:

Ды што краса без аўладання?
Адно пустое парыванне,
У цьме далёкі блеск зарніцы...

Краса каштоўная сама па сабе, але яна не існуе ў адрыве ад штодзённага жыцця і змагання чалавека з лёсам.

У апавяданні Максіма Багдановіча галоўным суддзёю выступае сам Хрыстос, а ў апавяданні «Першы снег» — Прарок. Але Сын Божы з'явіўся і ў Алеся Гаруна — у яго вершы «Малітва», духоўна асабліва блізкім да купалаўскага верша «Цару неба і зямлі». Нарадзіліся яны амаль што ў адзін і той самы час: верш Гаруна датуецца 26 кастрычніка 1912 г., а быў апублікаваны ў апошнім, 51–52 нумары газеты «Наша ніва» за той год, а пад купалаўскім творам стаіць дата: 24 снежня 1912 года (праўда, пабачыў ён свет упершыню толькі ў зборніку «Спадчына», праз 10 гадоў, гэта значыць, у 1922 годзе).

Абодва вершы пісаліся незалежна адзін ад аднаго, у розных канцах свету, адзін у самой Беларусі, а другі ў Сібіры, за тысячы вёрст ад роднага краю. А ўяўляюць яны сабою форму малітвы да Бога. У абодвух выпадках мы бачым і балючую скаргу на пакуты людзей, роднай зямлі і натхнёную малітву пакончыць з гэтымі пакутамі:

За што, о Божа праведны, магучы,
Караеш так няшчасны свой народ?
Чаму на стогн маўчыць Твой гром бліскучы,
На стогн, што да Цябе йдзе з году ў год?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прадаў на глум і годным і нягодным
Усё, што ёсць святым для нас і ў нас;
Мы дома — як не дома, правам родным
Сваім не смеема пажыць хоць раз.

*

І Ты глядзіш на гэта ўсё, і неба
Тваё маўчыць, як падзямелля мур;
Мальбы няшчасных: долі, праўды, хлеба!
Ты глух паняць, пасланц маланкі бур.

Так маліўся Янка Купала. Ён сам ад сябе звяртаўся да Цара неба і зямлі. Што ж датычыць Алеся Гаруна, то ён пасрэднікам паміж абяздоленым народам і самім Богам зрабіў Ісуса Хрыста, які калісьці праліў сваю ахвярную кроў дзеля выратавання чалавецтва, а цяпер зноў вярнуўся на зямлю. І Сын Божы жахнуўся, пабачыўшы тое, што тут робіцца. Свой боль ён выказаў у звароце да Бацькі нябеснага:

Паглянь: паўсюдах з краю ў край
Рабунак, глуз пануюць,
І льецца смех тых чорных зграй,
І ўсё з зямлёй раўнуюць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Схініся к нам Ты і абач:
З гадзінай горш жывецца,
Цяжэе боль, мацнее плач,
Галоў ўсё болі гнецца.
Паслухай ноччу, ўдзень, Святы,
Скажы маўчаці звонам, —
І колькі жальб пачуеш Ты!
Зямля азвецца стогнам...

І каб «праўдзівы гнеў будзіці», каб спапяліць гэтую нядолю, пакараць «чорну зграю», патрэбны маланкі, мільёны перуноў.

Так выглядае ў паэтычнай трансфармацыі Алеся Гаруна традыцыйная ў літаратуры тэма пошукаў справядлівасці ў Бога, вера ў тое, што Цар нябесны паможа ў бядзе, выведзе на дарогу да шчасця, палечыць душу і цела.

Да гэтай тэмы пісьменнікі звярталіся не аднойчы. Згадаем, напрыклад, раман польскага пісьменніка Баляслава Пруса «Фараон» (канец XIX стагоддзя), дзе ёсць сцэна, калі стары фараон Рамзес XII, дзякуючы чарадзейству халдзейскага мудраца, атрымаў незвычайную магчымасць ахапіць сваім позіркам увесь падуладны Егіпет і пабачыць самому трывогі, пакуты і жаданні людзей. Якраз канчаўся працоўны дзень. І нільскі рыбак, і стомлены селянін канчалі сваю працу. У гарадах запальваліся агні, а ў храмах жрацы рыхтаваліся да вячэрняга багаслужэння. У прыродзе ўсё адчувала набліжэнне ночы: дзённыя птушкі засыналі, а начныя будзіліся ў сваіх схованках. Драпежныя звяры рыхтаваліся да блізкага палявання. І раптам з зямлі ўзнялася чарада серабрыстых птушак. Яны вылятaлі з храмаў, майстэрняў, нільскіх суднаў, вясковых халупаў і нават з руднікоў. Кожная з птушак, стукнуўшыся ў паветры з другою, падала мёртвай на зямлю. Гэта былі малітвы людзей, скіраваныя да бога Амона.

А чаму так было? Хворы прасіў, каб яму Бог вярнуў здароўе, а лекар — каб яго пацыент хварэў даўжэй. Гаспадару хацелася, каб Амон ахоўваў яго свіран і хлеб, а злодзей марыў аб удалым паходзе па гаспа-

дарскае дабро. Падарожны ў пустыні маліўся аб паўночным ветры, які прынёс бы кроплю асвяжальнай вады, мараплаўцу ж патрэбен быў вецер усходні. Дзённая змена катаржнікаў не магла дачакацца ночы, каб хутчэй легчы адпачыць, а для начной змены лепш было б, каб дзень ніколі не канчаўся. Гандляры, якія куплялі абчэсаныя каменні, маліліся, каб у каменяломнях было чым найбольш катаржнікаў, а пастаўшчыкі прадуктаў прасілі Бога, каб мор вынішчаў рабочых, што давала б эканомію харчоў... І малітвы гэтых людзей, стукнуўшыся адна аб другую, забіваліся насмерць і падалі на зямлю. Нікога з гэтых людзей Бог не ратаваў, не пачуўшы малітваў.

У Алеся Гаруна, як і ў Янкі Купалы, няма ўпэўненасці ў тым, што і іх малітвы выратуюць народ. Вельмі ж паказальнымі з'яўляюцца канцоўкі абодвух вершаў:

Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,
Калі Ты цар і неба, і зямлі!

(Янка Купала)

Ах дай мне, Божа, гэткіх слоў,
Зямля б ад іх траслася!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пашлю тады маланкі ў люд,
Ў бясшчасны той брадзіці,
Блішчэць, яскравець там і тут,
Праўдзівы гнеў будзіці.
Мільёны кіну перуноў
У тых, каго я знаю,
У тых, маю што сочуць кроў,
У тую чорну зграю.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вялікі! дай, як можаш!

(Алесь Гарун)

Ці даходзяць малітвы да неба — не ведаюць нашы паэты. Не ўпэўнены яны ў гэтым. І таму, хоць яны і звяртаюцца да Бога, але перш за ўсё шукаюць апоры на зямлі, змагаюцца за духоўнае разняволенне народа. Неаднаразова гэта засведчыў Алесь Гарун:

Гэй, народзе, трэба ўстаць,
Дух свой з рабства распрастаць...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Вызваль дух свой, рабскі люд!»

(«Кліч»)

Паэтычная спадчына Алеся Гаруна ўключае ў сябе зборнік «Матчын дар», напісаны да пачатку першай сусветнай вайны, і вершы, апублікаваныя ў розных выданнях пад псеўданімамі А. Гарун, А. Сумны, а таксама Сальвэсь.

Алесь Гарун паказаў бесчалавечны, антыгуманны характар першай сусветнай вайны адразу ж пасля яе пачатку, калі яна яшчэ не паспела спустошыць беларускую зямлю агнём і мячом, заліць крывёю:

Сорам і ганьба для свету вайна,
Як ні мяркуй, ні судзі.
З боскіх законаў смяецца яна...

(«Праводзіны»)

Так было сказана ў жніўні 1914 года, а ў самім творы быццам прадугледжваецца магчымасць братання салдат варожых армій і бачыцца агульнасць іх чалавечага і салдацкага лёсу. У наказе навабранцу берагчы сумленне ў любых умовах, бачыць у асобе варожага салдата перш за ўсё чалавека, які таксама ідзе ваяваць не па сваёй волі, выяўляецца гуманістычнае светабачанне аўтара, яго непаўторная здольнасць увасобіць у мастацкім слове найбольш каштоўныя прынцыпы народнай маралі — тыя прынцыпы, якія аказваюцца непадуладнымі афіцыйнай дзяржаўнай шавіністычнай ідэалогіі. Разам з тым няма ў паэта апраўдання для баязлівасці: «Смелага сэрца не колюць штыкі, кулі яго не праб'юць».

Зборнік «Матчын дар» можна паставіць побач з такімі кнігамі, як «Шляхам жыцця» Янкі Купалы і «Вянок» Максіма Багдановіча. Зборнік Алеся Гаруна з'яўляецца адным з найвыдатнейшых паэтычных дасягненняў пачатку XX стагоддзя.

У беларускай паэзіі той эпохі шмат праграмных вершаў, або «песень аб песнях». Аўтары ставяць у іх канкрэтныя задачы перад сабою, перад нацыянальнай літаратурай у цэлым, палемізуюць з ідэйнымі праціўнікамі, раскрываюць свой эстэтычны ідэал. Такія творы ёсць і ў Алеся Гаруна. У нейкім сэнсе блізкім да праграмных можна лічыць верш «Людзям», якім адкрываецца зборнік «Матчын дар» і ў якім аўтар непасрэдна звяртаецца да чытачоў.

Янка Купала ў першым вершы зборніка «Жалейка» «Я не паэта» падкрэсліваў, што да чытача звяртаецца не проста нейкі фіктыўны, неакрэслены лірычны герой, а іменна ён сам — Янка Купала, які не шукае ў сучаснікаў ці нашчадкаў ні славы, ні гонару, ні ўзнагарод і жыве на свеце з адною мараю, з адным жаданнем — хоць некалі пабачыць долю «ў родным народзе». Пакуль што яшчэ ён сціпла абвяшчае: «Я не паэта, о крый мяне, Божа! Не рвуся я к славе гэткай німала». І толькі больш чым праз дзесяцігоддзе, маючы вялікія здзяйсненні ў паэзіі і драматургіі, ён будзе мець права з гонарам сказаць: «Цяпер беларускай я песні ўладар» («Мая навука»).

У вершы «Людзям» Алесь Гарун не менш сціпла, чым калісьці Янка Купала, гаворыць, што ён не паэт. Між тым ён ужо аддаваў на суд грамадскасці такі своеасаблівы і незвычайны зборнік — жывое сведчанне мужнасці, вытрымкі і патрыятычнага пачуцця, непадуладнага ніякаму гвалту, ніякім намаганням вытравіць яго з душы паэта. Аўтар не патрабуе падзякі ці прызнання і не надта разлічвае на іх. Ён піша таму, што не можа не пісаць. Песні самі нараджаюцца, жывуць і звіняць на працягу ўсяго дня, запоўненага катаржнаю працаю. Сам паэт знаходзіцца ў палоне дзвюх рэальнасцяў: той працоўнай, калі «аж косць аб косць у плячу рыпіць», і ўнутранай, духоўнай, звязанай перш за ўсё з успамінамі пра бацькоўскі край і клопатам пра яго. Гэтыя ўспаміны нараджаюць у душы мелодыю, якую ніштo не можа заглушыць ці задушыць:

Пачуеш ў сэрцы звон...
Ухопіш зык, за ім другі,
За тымі больш ідуць,
Зліюцца ў шых даўгі-даўгі
І цэлы дзень гудуць.

Пакутуючы ў Сібіры, паэт падтрымліваў няспынны кантакт з родным краем. Здавалася б, ніякай прасветліны ў жыцці. Да роднае зямлі — многія, незлічоныя тысячы вёрст. Кожны яго крок быў пад пільным наглядам і кантролем. Законы абмяжоўвалі яго правы і жаданні. Але ні суд, ні турэмныя ці адміністрацыйныя ўлады думку і годнасць чалавечую яго скаваць не маглі. І былі бяссільныя вытравіць з душы пісьменніка любоў да свабоды, да роднага краю, матчынай мовы, да веры ў свой народ, у яго лепшую будучыню.

Вершы паэта, напісаныя ў Сібіры, — гэта водгулле пакуты і сімвал веры, споведзь і скарга выгнанніка, а таксама сведчанне нязломнай, непахіснай вытрымкі. І разам з тым — шчымлівае, неадольнае пачуццё духоўнае сувязі з роднаю зямлёю, з усім тым, што на ёй адбываецца, а галоўнае — з тымі пераменамі, якія там наспяваюць, набіраюць сілы, з'яўляюцца вестунамі адраджэння дарагой сэрцу Беларусі:

Што мне багацтва? Без грошы, без золата
Быў бы магнат я, кароль, багатыр
Там, дзе пад націскам роднага молата
Жыцце куецца углыб і ушыр.
 Жыцце куецца, і сонца ўздымаецца,
 Свету праменні льецць з гарыні,
 З доўгага сну дзе народ прачыхаецца,
 Побыту шчаснага свецяць агні.

(«Думы ў чужыне»)

Багата ў Алеся Гаруна песняў жальбы, сумных настрояў, плачу. Але сум яго не так ідзе ад драмы ўласнага жыцця, колькі ад таго, што

паэт больш за ўсё баяўся страціць духоўную повязь з Бацькаўшчынай. Агнём у душы паэта гарыць пачуццё болю з тае нагоды, што ён не можа зрабіць для свае зямлі і свайго народа ўсяго, што хацеў бы, што трэба было б. Ён ні на хвіліну не дапускае думкі пра тое, што мог бы шукаць у жыцці лепшага, больш спакойнага лёсу. І ён меў поўнае права сказаць пра сябе:

Біўся з няпраўдай, з бядой і гаротаю,
Сэрца у попел няшчадна спаліў,
Сілы ўсе страціў у бойцы з цямнотаю,
Кроў, не рахуючы, кроў сваю ліў!

І адначасова паэт паказвае, што ахвяры лірычнага героя і пакуты, якія выпадаюць на яго долю, не могуць быць дарэмнымі. Гэтая аптымістычная выснова, падмацаваная заклікам да дзеяння, да самаахвяравання, зноў гучыць ва ўрачыста-патэтычным, іншасказальным вершы «Навука». Настаўнік, звяртаючыся да вучня (называючы яго сынам), усёй сілай пераканання заклікаеісці наперад, па абраным шляху, не зважаючы ні на перашкоды, ні на пакуты:

І вось калі табе трываць не хопіць змогі,
І цяжкім здасца крыж табе і доля вельмі злой,
Не трэба, сын, шукаць лягчэйшае дарогі, —
Ідзі старой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ідзі хутчэй, слуга! Спавіты свет маркотай,
Ў ім крыўды легіён забраў зямлі апошнюю чвэрць,
Нясі ж свой праўдзе меч. — Мой сын! Ідзі з ахвотай
На чэсць і смерць.

Ёсць у Алеся Гаруна алегарычныя творы з глыбокім філасофскім роздумам над кардынальнымі пытаннямі чалавечага быцця і грамадскіх працэсаў. Лірычнаму герою верша «Nokturno» Нядоля адкрывае вочы на глабальныя заканамернасці нашай рэчаіснасці: на бессмяротнасць жыцця, на непазбежнасць абнаўлення яго формаў, на вечны, нястрымны рух у прыродзе і грамадстве. Хоць лес восенню і замірае, але вясною ён заўсёды адраджаецца. Так пакуты людзей падрыхтоўваюць непазбежныя перамены і абнаўленне жыцця грамадства. Наогул жа мы неаднаразова пераконваемся, што паэзія Алеся Гаруна — вобразна-філасофскае асэнсаванне найважнейшых грамадска-палітычных і гістарычных працэсаў, а таксама змен у побыце і свядомасці людзей.

У хвіліны натхнення паэт душою вырываецца з няволі, «яснай зоркай» нясе ў родную вёску кліч да змагання за волю і шчасце. Часам складваецца ўражанне, быццам аўтар нікуды ад роднае зямлі не адда-

ляўся і па гарачых слядах апісваў нейкія здарэнні — такія, напрыклад, як у вершы «Спрэчка». Гэта — сумна-гумарыстычнае апавяданне пра спрадвечную цемнату беларускага мужыка, пра бойку ў карчме, у час якое ўдзельнікі кулакамі даказвалі перавагі і вартасці свае веры. І пытанне: «Ці ж не сорам гэтак, братцы?» — з якім стары разумны селянін звярнуўся да ўдзельнікаў бойкі, адрасуецца ўсім тым, хто хацеў бы распальваць на беларускай зямлі рэлігійныя канфлікты.

Хоць Алесь Гарун нарадзіўся, вучыўся і працаваў у горадзе, але жыў справамі, клопатамі і ўсімі разнастайнымі праблемамі вясковага, засцянковага ці дробнамястэчковага асяроддзя. Бо толькі там магла пашырацца і знаходзіць зацікаўленага чытача дыдактычная аповесць пра паненку, якая захацела паваражыць у пост, што ледзь не скончылася для яе трагічна («Варожба»). Толькі ў часе доўгіх зімовых вечароў на вёсцы магла перадавацца павучальная гісторыя такой смерці бессардэчнага і сквапнага мужыка Паўлючонка, які наздзекаваўся з абяздоленых жабракоў ды яшчэ прадаў душу нячыстай сіле («Канец Паўлючонка»). Такое ж самае паходжанне казкі пра гультаяватага і беднага Мацея, які падмануў святога і пабачыў, што круцельства — найбольш надзейны спосаб забяспечыць сабе дабрабыт. Некалькі пазней гэтую ж народную казку апрацаваў і Якуб Колас («Як Янка забагацеў»).

Творы Алеся Гаруна — жывое сведчанне цеснай духоўнай сувязі з родным краем, які ажываў у яго ўспамінах і паэтычных вобразах. На такую далёкую, але незабыўную радзіму паэт уцякаў бы шэрым воўкам, поўз бы вужакаю ці ляцеў бы арлом, а то і вольным ветрам, які можа борзда трапіць усюды, куды яму толькі захочацца («Думы ў чужыне»).

Усё ж доля наканавала яму вярнуцца на родны парог. І тут, на радзіме, у бурлівым віры падзей, калі на беларускай зямлі то пракочвалася кайзераўская ваенная машына, то зноў пад аховаю легіёнаў Пілсудскагааднаўлялі такі вядомы ад стагоддзяў лад польскія памешчыкі, у Алеся Гаруна ўзмацняецца пачуццё асабістай адказнасці за лёс роднага краю.

Гэтае пачуццё дастаткова выразна выявілася ў артыкуле «Одгукі», апублікаваным 7 студзеня 1918 года, у першым нумары газеты «Вольная Беларусь». Асноўны пафас артыкула накіраваны супраць экспансіі польскіх легіёнаў на ўсход. Звяртаючыся да тых, хто ўсімі сіламі намагаўся даказаць неабходнасць далучэння беларускіх земляў да будучай Польшчы (артыкул «Одгукі» з'явіўся ў друку за 10 месяцаў да афіцыйнага абвяшчэння незалежнасці Рэчы Паспалітай), Алесь Гарун з асаблівай сілай пераканання перасцерагаў: «Зразумейце, што калі слова "прыгоншчык" зрабілася адназначным слову "паляк", то тут ваша віна перад польскім народам... Як вольны з вольным, роўны з роўным, пойдзе ён, працоўны беларускі народ, поруч з другімі народамі, а ў тым ліку і з польскім, але не з вамі, прыхваснямі польскага імперыялізму, хоць бы вы былі і тутэйшымі здраднікамі і перакінчыкамі, забыўшымі бацьку і мацяр сваю.

Пара зразумець, што вашага "стану посядання" (маёмасці. — *У. К.*) на Беларусі няма і не можа быць. Гэты стан пасядання трымаўся на зямельнай уласнасці, каторая павінна перайсці да яе праўдзівага, адвечнага гаспадара — "хлопа бялорускего"...

...Вы запэўняеце, што будзеце бараніць свае зямлі... Ось гэта і падае нам думку, што вашы легіоны... трымаюцца на нашых Беларускіх абшарах дзеля акупацыі... Вы дамагаецеся большай спаяльнасці Беларусі з "Польскім краем", — а ці запыталі вы ў народу беларускага, пачом абышлася яму гэтая спаяльнасць?.. Зямельку нашую, каторую вы з такім запалам збіраецеся бараніць (ад каго і якім спосабам?), мусіце пакінуць народу...»

У гэтым артыкуле канкрэтызуюцца тыя праблемы, якія змагары за беларускае нацыянальнае адраджэнне лічаць неабходным вырашыць у першую чаргу. І зусім натуральна, што галоўнае месца адводзіцца найбольш актуальнай ва ўсе часы праблеме зямлі. Звяртаючыся да прадстаўнікоў польскай грамадскасці, Алесь Гарун піша: «Вы пакепліваеце з нас, што мы так заняты зямельным пытаннем. Так, — бо зямельнае пытанне — частка нашага нацыянальнага пытання, бо народ наш да гэтага часу быў у аблозе. Навокал яго сядзелі ворагі і з усіх бакоў будавалі "пляцоўкі" — у грамадскіх установах — маскоўскія, у дварох — польскія. Зруйнаваць гэтыя пляцоўкі — гэта першы крок у бок аслабанення нашага народу ад усякага ўціску: і матэрыяльнага і культурнага». Адначасова пісьменнік умеў сказаць добрае слова і аб заслугах расійскага пралетарыяту, і аб польскіх змагарах за незалежнасць сваёй краіны. У яго выказваннях мы не знойдзем якіх бы там ні было шавіністычных нотак або нядобразычлівых выказванняў у адрас суседзяў з захаду ці ўсходу.

Публіцыстыка Алеся Гаруна засведчыла яго бязмежную адданасць справе нацыянальнага адраджэння, шырыню яго кругагляду, уменне добра арыентавацца ў складаных і супярэчлівых праблемах ідэйнай барацьбы той эпохі. Палемізуючы з «Маніфестам Камуністычнай партыі», даказваў ён беспадстаўнасць сцверджання: «Работнікі не маюць бацькаўшчыны. Нельга пазбавіць іх таго, чаго ў іх няма». У артыкуле «Увагі да нацыянальнага руху» («Вольная Беларусь», 1918, № 9 ад 7 сакавіка) Алесь Гарун бескампрамісна выкрываў тое, што называў «вайной словам, агнём і мячом проці нацыянальнага адраджэння» і «хвальшывымі поглядамі на нацыянальнае пытанне і нацыянальны рух». Гэта была аргументаваная палеміка з ідэалагічнай платформай і палітычнай лініяй, якую ажыццяўлялі ў Беларусі кіраўнікі так званага Аблвыканзаха (Облискомзапа) — Абласнога выканаўчага камітэта Заходняй вобласці (так афіцыйна называлася Беларусь пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі) — Мяснікян (Мяснікоў), Кнорыньш (Кнорын), Ландэр, Берсан і іх аднадумцы пад непасрэдным кіраўніцтвам Сталіна.

Якімі б трывожнымі ні былі падзеі, ніколі не пакідала паэта вера ў жыццёвую сілу і вытрымку народа:

Народ — не мы, не чалавек, —
Яму нішто ні год, ні век,
Ні бой насмерць, ні гнеў, ні здзек;
Народ — не слабы чалавек.
Народ — крыніца. Шмат лам'я
Кідала ворагаў сям'я
Ў крыніцу тую — цёк спыніць,
Каб жыцце смерцю замяніць.
І ўсё дарма: з варожых пут
Народ ўстае, як нейкі цуд.

(«Народ»)

Да гэтай тэмы паэт вяртаецца зноў і зноў, каб яшчэ раз пераканацца самому і пераканаць сваіх чытачоў, што ніякія буры, ніякія пажары, як бы яны ні бушавалі, не здолеюць загубіць жыцця на зямлі:

... Сцішыцца стыхія,
І на пяпловішчы пустым
Праб'юцца зернеты жывыя.
А з тых зярнят ізноў ўзрасце
Агнём ачышчаная воля,
І ў новых шатах расквіце
Пажарам знішчанае поле.

(«Пажар»)

Для ўвасаблення сваіх ідэй Алесь Гарун неаднаразова выкарыстоўваў біблейскія матывы і вобразы («Хрыстос нарадзіўся! Хрыстос нарадзіўся!..», «Малітва», «Паэту»). Сваім зваротам да рэлігійнай вобразнасці або выкарыстаннем формы малітвы паэт падкрэсліваў непрымірымую супярэчнасць паміж абвешчанымі царквою маральнымі нормамі і той рэчаіснасцю, якая бязлітасна прыгнятала простага чалавека, узаконьвала сацыяльнае зло і бяспраўе.

Пераасэнсоўваюцца біблейскія матывы і ў вершы «Самсон», апублікаваным у газеце «Беларусь» 28 лютага 1920 года з прысвячэннем «На соты нумар "Беларусі"».

У залаты фонд сусветнай культуры ўвайшлі многія творы мастацтва, тэмай для якіх паслужылі паводзіны і подзвігі біблейскага асілка Самсона. Можна нагадаць гравюру ў скарынінскім выданні «Книги Судей» «Самсонъ пресилный расторгалъ льва напути», славуты фантан у Петрадварцы пад Санкт-Пецярбургам «Самсон, які раздзірае пашчу льва», карціны Рубенса «Самсон і леў», Ван Дэйка «Самсон і Даліла», Мантэны — таксама «Самсон і Даліла».

Подзвігі Самсона, паводле біблейскіх паданняў, звязаны з эпохаю войнаў паміж ізраільцянамі і філісцімлянамі. Філісцімляне — адзін з народаў, якія жылі на землях Палясціны. У Свяшчэнным пісанні яны

называюцца прышэльцамі, аб чым сведчыць і сама іх назва (філісцімляне — перасяленцы). А прыбылі яны, мабыць, з Егіпта.

Самсон адзін мог знішчыць тысячу ворагаў і заставацца неперамožным, аднак толькі да таго часу, пакуль на галаве ў яго зберагаліся валасы. Але аднойчы ён выдаў сакрэт свае сілы чарговай палюбоўніцы філісцімлянцы Даліле. У час сну яго абстрыглі, звязалі ланцугамі, асляпілі і аддалі на здзек натоўпу, а затым кінулі ў склеп.

Неяк падчас свята ў вялікім храме філісцімляне прымушалі Самсона забаўляць іх ігрою на арфе, каб гэтым яго больш зняважыць і зноў цешыцца сваёю перамогаю. Але ў Самсона ўжо адраслі валасы, Бог дараваў яму віну, а сам палоннік з малітваю і вераю магутнымі рукамі разбурыў слупы, на якіх трымаўся храм, пахаваўшы сябе і тры тысячы філісцімлянаў.

У трактоўцы Алеся Гаруна Самсон — гэта ўсяго толькі палоннік і ахвяра здзекаў. За што ён пакутаваў — аўтар не раскрывае. Для яго важна тое, што Самсон не пашкадаваў сябе дзеля знішчэння ворагаў, якія гэтак саманадзейна святкавалі перамогу.

Тут выразна бачыцца глыбінны сэнс твора. Народ, які паверыць у свае сілы і не пашкадуе ахвяраў, не будзе цярпець зняваги. А жыццё ў няволі не мае ніякага сэнсу. Пакорлівасці ж не можа быць апраўдання. Біблейскія матывы і вобразы садзейнічалі пашырэнню ідэйна-тэматычных рамак паэзіі Алеся Гаруна, увасабленню патрыятычных ідэалаў аўтара, звязвалі іх з агульначалавечымі каштоўнасцямі.

Пачуццё адказнасці перад часам і перад народам не змяншалася ў Алеся Гаруна да канца яго дзён. Яшчэ ў зборніку «Матчын дар», у вершы «Думкі — дыяменты, краскі жыцця...» паэт уявіў сябе ў апошнюю хвіліну жыцця, з якім ён хацеў бы развітацца толькі песняй аб шчасці людзей:

Хай заспяваю аб сне залатым
Веку людскога радства,
Роўнасці, вольнасці, брацтва — аб тым
Веку красы хараства.

Аб такой лебядзінай песні ён марыў для сябе. Такую песню ён і праспяваў. А называлася яна «Кліч». Сам паэт ужо, як той лебедзь, бачыў пад сабою бяздонне, але ў апошняй песні ўслаўляў «волі зычны звон», што будзіць народы «ўсіх старон» на штурм «крыўды трона».

Пры знаёмстве са зборнікам «Матчын дар» і вершамі, апублікаванымі ў перыядычных выданнях, здзіўляе незвычайнае багацце і разнастайнасць інтанацый, мастацка-вобразных, лексічных, сінтаксічных формаў і такое рытмікі, якая часта не ўкладваецца ва ўзаконеныя і апісаныя тэорыяй нормы і ўзоры.

У паэзіі Алеся Гаруна такая энергія і дынамічнасць радка, страснасць пачуццяў, багацце і разнастайнасць рытму, рыфмаў, формаў мастацкай вобразнасці, нечаканых паваротаў думкі, што ён у гэтым дачы-

ненні, як ніхто, бадай, мог спаборнічаць з Янкам Купалам. У кожным радку пульсуе жывая думка, кіпіць пачуццё. У яго творах набат і кліч («Гэй, народзе, трэба ўстаць, дух свой з рабства распрастаць!», «Вызваль дух свой, рабскі люд!») чаргуюцца то з заглыбленымі філасофскімі развагамі аб тайнах вечнага кругазвароту і заканамернасцях развіцця чалавечага грамадства, то з трывожным, часта такім пакутлівым роздумам над нягодамі людзей або іх пакорлівасцю («Жыві ж спакойна, вол, хадзі ў сваім ярме... Сляпому добра ў цьме... А ты — жывёлаў цар? Ці ж ты жывеш іначай?!»). То зноў інтанацыі жальбы і смутку змяняюцца іскрыстым гумарам, вясёлым настроем гучнай і скочнай мелодыі «Мяцеліцы» («Ой, спаліце, перуны, майго Янку, бо дурны! Назаляе толькі мне, а каб сватацца, дык не!»). Чыста асабістае чаргуецца з шырокімі абагульненнямі, адсвечваецца ў іх.

Ніякае пералічэнне не ахопіць усяго ідэйнага і інтанацыйна-рытмічнага багацця паэзіі Алеся Гаруна. Вось пра каго можна сказаць, што ён «з сталі» каваў, гартаваў «гібкі верш». Паэтычныя творы яго заўсёды будзілі «святое сумленне» (пра што марыў Максім Багдановіч) і памагалі рваць «духа путы», чаго патрабаваў ад паэзіі сам аўтар «Матчынага дару». І таму яны жылі ў свядомасці і пачуццях людзей нават і ў найбольш змрочную пару ганенняў і здзекаў з іх.

Алесь Гарун быў і выдатным празаікам. На працягу 1912–1915 гадоў у «Нашай ніве» з'явіліся чатыры яго празаічныя творы: кароценькая алегарычная легенда «Першы снег» і апавяданні «Пан Шабуневіч», «Маладое», «Чалавек без крыві». Пасля вяртання з Сібіры ў газетах «Вольная Беларусь» і «Беларусь» пісьменнік апублікаваў яшчэ тры апавяданні: «Свята», «П'ера і Каламбіна», «У Панасавым сяле». Празаічныя творы, як правіла, падпісваў псеўданімам І. Жывіца (Жывіца — дзявочае прозвішча маці Гаруна).

Проза пісьменніка надзейна абапіралася на нацыянальныя традыцыі літаратурнага і бытавога апавядання. Разам з тым яна незвычайна ўзбагачала традыцыйныя формы вобразнасці, мастацкага стылю, кампазіцыі. Найбольш адметная асаблівасць прозы Алеся Гаруна — яе ідэйна-тэматычнае багацце, смелы выхад за рамкі традыцыйнай тэматыкі, звязанай у творчасці пераважнай большасці беларускіх пісьменнікаў з жыццём вёскі, яе паўсядзённым побытам, трывогамі, спадзяваннямі і з няўхільным ростам грамадскай свядомасці, пошукамі найвышэйшых маральных крытэрыяў для чалавечага грамадства.

У сваёй прозе Алесь Гарун не абышоў пытання пра лёс роднай мовы і нацыянальную самасвядомасць беларусаў. Шчырым патрыётам свайго краю, свядомым беларусам выступае галоўны герой апавядання «Пан Шабуневіч», напісанага ў канцы 1912 года і апублікаванага ў «Нашай Ніве», у № 6 за 1913 год (7 лютага). У творы паказваецца складаны, вельмі і вельмі няпросты лёс тых людзей, якія спрабуюць абараняць права роднай мовы на існаванне ў штодзённым жыцці. На іх долю выпадае шмат расчараванняў. Нават калі ў газетах з'явілася паведамленне аб праве дзяцей вучыцца на роднай мове, то і тут ра-

дасць прыхільнікаў беларушчыны аказалася неапраўданай. Апавядальнік з горкім жалем вымушаны быў — у каторы ўжо раз! — пераканацца: «Беларускую мову яшчэ раз выкасавалі з ліку родных моў; напісалі, што роднай мовай маіх дзяцей... павінна быць ці польская, ці расейская, ці жыдоўская, ці літоўская, ці іншая. Чаму ж яшчэ не прылучылі французскай, нямецкай, японскай, не ведаю. Усё ж нічога сабе мовы». Тут ужо ў разважаннях героя адчуваецца з'едлівая іронія.

Пан Шабуневіч, звычайны шавец, нястомна, штодзённа змагаецца за права карыстацца роднай мовай за межамі дома, за права звацца беларусам. Вывад з апавядання напрошваецца адзін: ідэі беларускага адраджэння дайшлі ўжо да простых людзей, да іх свядомасці і пачуццяў. Ад іх у канчатковым выніку і будзе залежаць лёс беларушчыны.

Блізкай Алесю Гаруну была астрожная тэматыка. Са зместу апавядання «Чалавек без крыві» відаць, як астрожнае жыццё калечыць лёс чалавека, разбуральна ўздзейнічае на яго псіхалогію. Не знайшоўшы сэнсу жыцця на волі, былы астрожнік канчае самагубствам.

Вельмі нетрадыцыйным з'яўляецца апавяданне «Маладое». Тут рэальнасць пераплятаецца з фантастыкай: група зняволеных, якая ўцякла з астрога, магла праходзіць незаўважанай, нават найбольш блізка мінаючы людзей. Вырваўшыся на волю, людзі ішлі да нейкае мэты, якая давала сілы, вытрымку, хоць падарожнікі ад перанапружання знемагаліся. Некаторыя нават не вытрымлівалі і адсейваліся. Але асноўная частка ішла і ішла туды, куды вёў адзін з іх асяроддзя.

Увесь твор успрымаецца як алегорыя. Героі аказаліся ў экстрэмальных умовах. Яны пераносяць пакуты і ахвяры дзеля той волі, да якое імкнуцца, мабілізуючы ўсе свае фізічныя і духоўныя сілы. І тут узнікае пытанне: дзе тая мэта? Ці не ілюзорная яна, ці рэальная? Ці апраўданы ўсе нечалавечыя намаганні і пакуты?

Жыццёва праўдзівым у кожнай драбніцы з'яўляецца апавяданне «Свята», прысвечанае апісанню жыцця і побыту палітычнага пасяленца ў Сібіры — маладога Грыневіча родам з Беларусі. Начуючы ў незнаёмых людзей, ён выпадкова даведаўся, што цяжка хворая старая жанчына ў той сям'і — сястра яго роднае бабулі. Ён чуў пра яе дома, але ніхто там не ведаў пра яе лёс.

У апавяданні рэалістычна абмалёўваецца жыццё пасяленцаў — і тут, бясспрэчна, нямала аўтабіяграфічнага, — а таксама побыт сібіракоў, іх норавы і звычаі. А яшчэ ў творы — выпадкова ці невыпадкова — нейкім незвычайным матывам усплывае пераклічка рэвалюцыйных падзей розных гістарычных эпох. Малады пасяленец Грыневіч трапіў у Сібір за палітычную дзейнасць — трэба меркаваць, што за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905–1907 гадоў. А галоўным і па сутнасці адзіным арыенцірам у часе для старэнькае жанчыны служылі колішнія паўстанні, з якімі перапляліся лёсы блізкіх ёй людзей. Так храналагічная лінія падзей ідзе ў глыбіню мінулага стагоддзя — да 1863 і нават да 1830 года.

Шырокімі аказаліся і прасторавыя рамкі падзей у творы. Хоць яго героі — па сваёй ці не па сваёй волі — трывала заснаваліся ў Сібіры, але і паходжаннем, і думкамі яны звязаны з радзімаю, з далёкай Беларуссю. Так вызначылася духоўная сувязь розных пакаленняў, што на далёкім выгнанні прыходзяць на змену адны другім, захоўваючы ў сэрцы вернасць роднай зямлі.

У шэрагу апавяданняў пісьменніка асобна стаіць «П'ера і Каламбіна». Гэта — своеасаблівы празаічны трыпціх, паасобныя часткі якога сюжэтна паміж сабою не звязаны. Яны аб'ядноўваюцца толькі агульнай тэмай кахання, мастацкім роздумам аб загадкавай сіле гэтага пачуцця і аб тых тайнах, якія то збліжаюць двух чужых людзей, то зноў утвараюць паміж імі непераадольную бездань.

Калі іншыя апавяданні Алеся Гаруна так ці інакш звязаны з традыцыямі нацыянальнай прозы, а ў пэўнай ступені таксама з творчасцю пісьменнікаў найбольш блізкіх славянскіх народаў, то «П'ера і Каламбіна» сведчыць аб тым, што аўтар звярнуўся да здабыткаў еўрапейскай класікі мінулых стагоддзяў — прытым не так празаічнай, як драматургічнай. П'ера і Каламбіна (побач з іншымі вобразамі) — абавязковыя і вечна жывыя, але і вечна новыя вобразы славутае «камедыі дэль'артэ» — вандроўнага італьянскага (і французскага) тэатра XVI — пачатку XVIII стагоддзяў.

Хоць сама камедыя дэль'артэ як такая даўно аджыла свой век, але яна пакінула свой след у літаратуры і культуры, і да яе звярталіся некаторыя пісьменнікі XX стагоддзя. У п'есе Аляксандра Блока «Балаганчык» (1906 год) ажываюць найбольш традыцыйныя вобразы колішняга вандроўнага тэатра — П'ера, Каламбіна, Арлекін. Але паміж творамі Алеся Гаруна і рускага пісьменніка нічога агульнага няма. Героі Блока пазбаўлены рэальных чалавечых рыс, у іх паводзінах і дыялогах мы не знойдзем псіхалагічных матывіровак, абумоўленых збегам акалічнасцей, развіццём драматургічнага канфлікту, падпарадкаваных законам рэалістычнай драматургіі. Тут як быццам выліваюцца пачуцці і думкі, не звязаныя ўнутранай паслядоўнасцю і не прадыктаваныя неабходнасцю.

У апавяданні Алеся Гаруна (у самой назве і ў трэцяй частцы трыпціха) запазычаны ад тае традыцыі толькі імёны. Што ж датычыць галоўнага яе прынцыпа — умоўнасці, — то яна набыла ў беларускага пісьменніка зусім новыя і нечаканыя формы. Алесь Гарун — неспадзявана для нацыянальнай прозы і тагачасных гістарычных абставін (ішла вайна, канца якой відаць не было) — звярнуўся да абмалёўкі на першы погляд ідылічнага, але тым не менш багатага канфліктамі, глыбока матываванымі псіхалагічна, жыцця прадстаўнікоў заможных слаёў нейкага ўмоўнага грамадства (у першай і трэцяй частках), у якім спецыфічна нацыянальнага, беларускага практычна нельга заўважыць нічога.

Зваротам да гэтых традыцый, таксама, як, напрыклад, да біблейскай тэматыкі ў паэзіі («Малітва», «Самсон»), Алесь Гарун адкрываў перад беларускай літаратурай зусім новыя далягляды. Праўда, нашы

пісьменнікі і ў мінулым неаднаразова выходзілі за рамкі нацыянальнай тэматыкі, вобразаў, сюжэтаў, праблем (успомнім «Васкрасенне Хрыстова», «Энеіду навыварат», «Тараса на Парнасе», «Адвечную песню», «Сон на кургане», «Апокрыф»). Аднак выхады за межы нацыянальных форм вобразнасці або чыста бытавой тэматыкі былі не такімі ўжо частымі. Алесь Гарун звярнуўся да агульначалавечай, спрадвечнай праблематыкі, не звязанай ні з канкрэтным часам, ні з месцам, ні з нейкімі нацыянальнымі рэаліямі.

Апошнім празаічным творам пісьменніка з'яўляецца фантастычнае апавяданне «У Панасавым сяле». Паводле зместу — гэта своеасаблівы працяг апавядання «Панас на небе» Змітрака Бядулі. Панасава сяло, што па волі абодвух аўтараў апынулася на небе, бачыцца нейкім закуткам Палесся, бо там пасяляюцца радавітыя палешукі са сваімі рэальнымі зямнымі норавамі, звычкамі, уяўленнямі, якія надзейна ўкараніліся ў іх псіхіку і побыт.

І ў той жа час палешукі — нездарма ж яны на небе — вызваляюцца ад найбольш істотных і трывожных зямных праблем — ад думак і клопатаў пра свой хлеб надзённы, пра зямлю, працу, пра ўсё тое, што складае аснову існавання кожнага селяніна. Для герояў ствараюцца спецыяльныя ўмовы, над імі не вісіць кашмар паўсядзённага змагання за месца пад сонцам. Людзі трапляюць у рай, але з усімі зямнымі звычкамі, норавамі, традыцыямі.

А ці становяцца яны адразу святымі? Ні ў якім разе. Кожны з іх застаецца самім сабою. Адсюль чытач можа зрабіць вывад, што ў якія б умовы чалавек ні трапіў, у яго заўсёды захаваецца нешта сваё, атрыманае ў спадчыну ад стагоддзяў, выпрацаванае ўласным лёсам, побытам, асяроддзем.

У сувязі з гэтым напрошваецца пытанне: ці Панасава сяло на небе не ўяўляе сабою алегарычнай формы паказу будучага грамадства, у якім людзі атрымаюць зусім новыя магчымасці ўладкаваць свой лёс? Пісьменнік на прыкладзе нябеснага пасялення змадэляваў некаторыя працэсы, якія адбываліся на зямлі, ахопленай рэвалюцыйнымі катаклізмамі. У Панасавым сяле ўсталяваны лад жыцця пачаў нечакана разбурацца — прытым дашчэнту, да тла: «Не тыя пайшлі парадкі, не даўнейшыя. Хто ў пашане быў, той цяпер тамака ў запечку сядзіць, а той, чыйго духу там даўней не было, — найбольшую пашану мае».

Нават Панас, які заснаваў нябеснае сяло, аказаўся пазбаўленым усяго, што меў. Не так ужо цяжка здагадацца, які рай меў на ўвазе пісьменнік, абмалёўваючы змены ў жыцці нябеснага пасялення. Тым больш, што моладзь, якая накіроўвалася ў Панасава сяло, наймацней абуралася тым, што Панас «на добрую гаспадарку ўзлез». За яе «дык глынуць, здаецца, гатовы». Усё гэта ўспрымаецца як алегарычная абмалёўка тых парадкаў, што ўсталёўваліся ў час рэвалюцыі.

Пра ўсе тыя змены чорт апавядае з добрым гумаркам, сакавіта і каларытна: «Палешукі толькі вочы таропілі на тое, што дзеецца, але покуль раскусілі гарэх, дык час прабавілі — спозніліся. Цяпер, па-

праўдзе, дык не яны ўжо гаспадары, але гэныя, новыя. Панаса з хаты яны выгналі, той сабе ў варэннай* ціханька сядзіць, як мыш у мяшку, ды толькі вохкае, каб чаго горшага не дачакацца. Рэшта палешукоў сядзяць і не рыпаюцца на што-небудзь». Пры вырашэнні ўсіх спраў на першым месцы аказвалася партыйная прыналежнасць («А за новымі парадкамі паляшуцтвам ужо мала цікавіліся: больш пыталіся, з якой партыі») ды яшчэ ўменне добра малоць языком.

Аўтар не ідэалізуе сялян, але ўсё ж такі чытач пазірае на іх з сімпатыяй. Паляшук заўсёды і ўсюды застаецца самім сабою — самастойным у думках і ў паводзінах, незалежным, не надта падатлівым на чужыя ўплывы, на ўспрыняцце модных ідэй.

У канцы апавядання гаворка непрыкметна пераводзіцца на рэальныя беларускія справы:

«— Вот бачыце! Што ж у вас тут, якія навіны?

— Ад ліха — ціха, дабра не чуваць...

— Ці, хутчэй: "Папаўся ў нерат — ні ўзад, ні ўперад?" А Рада што?

— Рада — як Рада...»

Вось гэты развітальны абмен думкамі, увасобленымі ў шырокавядомыя прыказкі, уяўляецца зусім невыпадковым. Многія на працягу доўгага часу верылі, што кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі мела нейкую рэальную магчымасць вырашаць лёс Беларусі. «Дабра не чуваць» — гэта і сапраўды была самая адчувальная рэальнасць. Апавяданне апублікавана ў 1920 годзе, у перыяд чужаземнага панавання. Колішнія мары аб незалежнасці Беларусі аказаліся неажыццявімымі.

Алесь Гарун паказаў сябе арыгінальным майстрам кампазіцыі навелістычнага твора. Пра падзеі ў Панасавым сяле апавядальніку паведамляе нечаканы госць — чорт. Вельмі ж дакладна і дэталёва, можна сказаць, асабліва рэльефна, па ўсіх правілах і законах рэалістычнага мастацтва аўтар абмалёўвае яго выгляд.

Звернем увагу, напрыклад, на такое апісанне: «Чорны фрыдрыхаўскі траярогі капялюш ляжаў на каленях, а на ім адпачываў, скруціўшыся, як вужака, канец голага, ледзь апушанага пільсцю хваста. Асвойчыўшыся са светам, я разглядзеў і твар. Цёмны, але не як мурымскі (мабыць, мурынскі, г. зн. чорны, негрыцянскі. — *У. К.*), даўгавіды, але не выцягнуты, пажылы і абвеяны, але не паношаны, з цвёрдасцю, але не жорсткасцю ў міне, ён, зліваючыся ў барве з гладкімі, коратка абстрыжанымі валасамі на галаве, выглядаў пекнай рамкай для пары цёмна-нябескіх з чарнаватымі зрэнкамі вачэй, з якіх свяціліся не то глыбокая думка, не то яшчэ глыбачэйшая журба і агромністы, шалёны, надлюдскі розум». І так гэты неспадзяваны госць абмалёўваецца з ног да галавы.

Празаічныя творы Алеся Гаруна маюць наватарскі характар. Пра гэта сведчыць і спалучэнне рознамаштабных падзей у рамках аднаго і

* У варэннай — на кухні.

таго ж твора, і нечаканае, зусім нетрадыцыйнае выкарыстанне фантастыкі ў чыста, здавалася б, рэалістычным, бытавым апавяданні, і смелае ўвядзенне народных гутарковых лексічных, сінтаксічных, стылёвых форм. Апавяданні пісьменніка — жывое сведчанне няўхільнага пашырэння ідэйна-тэматычных абсягаў беларускай літаратуры, яе імклівага ўзбагачэння ўсё новымі жанравымі і мастацка-выяўленчымі сродкамі.

Настойлівыя ідэйна-творчыя пошукі вызначыліся і ў драматургіі Алеся Гаруна. Яшчэ ў 1912 годзе ён паведамляў з Сібіры Вацлаву Ластоўскаму, што піша п'есу «Дэпутат»: «...Як урву якую вольную часінку, то пакладаю на пісанне драмы для беларускага тэатру. Драма ў вершах, з сучаснага нам жыцця і будзе меці тытул "Дэпутат". Можа, крыху другі, але кончэ з "дэпут[ат]". Першы акт на-перша скончыў, пачаў другі, але калі ўсё давяду да канца — не ведаю». На вялікі жаль, ні сама драма, ні хаця бы той першы акт не захаваліся. Застаецца загадкай, колькі твораў пісьменніка згубілася вось так бясследна.

Перад самай смерцю, у 1920 годзе, Алесь Гарун выдаў зборнік п'ес «Жывыя казкі» для дзіцячага тэатра: «Хлопчык у лесе», «Шчаслівы чырвонец» і «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць». Двойчы таксама публікавалася перапробленая з польскай мовы дзіцячая п'еса «Датрымаў характар» (у адным выданні называецца «Датрымаў характару»). Пішучы гэтыя п'есы, аўтар быў прыкаваны цяжкай хваробай да ложка. Аднак, нягледзячы на гэта, у творах пануе светлая атмасфера жыццесцвярджэння, аптымізму, непрымірымасці да махлярства, фальшу, няпраўды, да любых заганных з'яў у жыцці, ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі.

У п'есах, што ўвайшлі ў зборнік «Жывыя казкі», вельмі арганічна спалучаецца народная казачная фантастыка і багацце фантазіі самога аўтара, раскрываецца свет дзіцячых уяўленняў. Усе канфлікты, увесь ход падзей падпарадкаваны ў іх задачы ўслаўлення так патрэбных людзям маральных прынцыпаў справядлівасці, а таксама выпрацоўкі пачуцця спагадлівасці людзям — тых якасцей, якія павінны выпрацоўвацца яшчэ ў дзіцячым узросце, каб назаўсёды стаць нормамі паводзін кожнага чалавека.

Першую казку зборніка — «Хлопчык у лесе» — можна параўнаць з драматычнай паэмай Янкі Купалы «Сон на кургане». Героі абодвух твораў заблудзіліся ў цёмным дрымучым лесе, дзе іх падсцерагалі нечаканыя прыгоды. І Саму (герою купалаўскай драматычнай паэмы) і Хлопчыку (з казкі Алеся Гаруна) лясныя фантастычныя істоты, казачныя гаспадары лесу навяваюць сны, у якіх увасоблена казка долі і Сама і Хлопчыка.

Незвычайныя прыгоды Хлопчыка ўспрымаюцца як своеасаблівы «сон на кургане». Ён заснуў, заблудзіўшыся ў цёмным лесе. Але яго лёс не такі, як у героя купалаўскай драматычнай паэмы, бо яму спагадаюць добрыя лясныя духі, увасобленыя ў вобразах кветак — Званочкаў, Незапамінайкі, Рожы (Ружы). Гэта яны, як і русалкі ў творы Янкі Купалы, наслалі на малога госця казачны сон. Сам па сабе гэты сон

пабудаваны па законах традыцыйнай народнай казкі, дзе выразна, лагічна і паслядоўна ўзаемазвязаны ўсе ўчынкі ўсіх герояў — гэта значыць, малога Хлопчыка і тых дзяўчат, якіх ён неспадзявана выратоўвае, выганяючы зачараванай жалейкай гаспадара заклятага царства.

Той лес, у якім заблудзіўся Хлопчык, аказаўся ва ўладзе добрых, спагадлівых духаў-кветак. Тут варта заўважыць, што паводле фальклорных уяўленняў бары, балоты, рэкі, азёры заселены таямнічымі істотамі, якія могуць з чалавекам зрабіць усё, што захочуць. І, як вядома, у асноўным — гэта сілы цёмныя, варожыя чалавеку, які па волі неласкавага лёсу трапіць сюды.

У творы Алеся Гаруна мы бачым выкарыстанне такога незвычайнага мастацкага прыёму, як перавод дзеяння з адной казачнай рэчаіснасці ў другую. «Хлопчык у лесе» — паэтычная гісторыя прыгод малога вясковага Хлопчыка, які, заблудзіўшыся і заснуўшы ў цёмным, страшным лесе, трапіў у царства магутнага чараўніка і выратаваў запалоненых дзяўчат. Гаспадарамі самога лесу былі добрыя духі, якія заапекаваліся Хлопчыкам, выратавалі яго з бяды і памаглі вярнуцца ў родную хату. Дзякуючы ім, ён, заснуўшы, трапіў у казачную краіну. А там, не пабаяўшыся пакалечыць свае рукі, дабыў заклятую жалейку, якая дазволіла яму перамагчы і выгнаць гаспадара зачараванага царства. І — што самае арыгінальнае — з таго сну Хлопчык вярнуўся ў рэальны свет з усім тым, што ён атрымаў там ад вызваленых палонніц.

У лесе існавалі — незалежна адзін ад аднаго — два зачараваныя светы: адзін — заселены добрымі духамі-кветкамі, і другі — той, што знаходзіўся пад уладаю чараўніка. У казцы атрымалася, што той свет, дзе панаваў чараўнік, перастаў існаваць: гаспадар яго ўцёк назусім, вызваленыя дзяўчаты вярталіся дамоў. Хлопчык прачнуўся і знайшоў сваю маці. А ў тым цёмным царстве не засталося нікога. Затое ж добрыя духі-кветкі на сваіх месцах, напэўна, і надалей будуць спагадаць усім тым, хто трапіць у бяду.

У казцы «Хлопчык у лесе», напісанай вершам, шмат песень з нотамі. Гэта — яшчэ адно сведчанне шматграннасці таленту аўтара.

Алесь Гарун у драматургіі ішоў таксама нетрадыцыйным шляхам. У казцы «Шчаслівы чырвонец» старая, хворая, зусім слабая Жабрачка ходзіць па свеце не для таго, каб прасіць хлеба, а каб памагаць людзям. Яна сама раскідае па дарозе чырвонцы, якія, аднак, прыносяць шчасце толькі сумленным людзям. І ў гэтай казцы перамагае дабро, справядлівасць, праслаўляецца спагадлівасць. Мы бачым, што праўда і крыўда, дабро і зло ўвесь час супрацьстаяць.

Малы вясковы пастушок — герой казкі «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць» — перажывае нечаканыя прыгоды, знаходзіць незвычайны лапаць-атопак, што ўмее гаварыць і дае магчымасць пастушку разумець чужыя думкі. Сама па сабе сцэнка з жыцця пастушка, яго канфлікт з мястэчковымі злодзеямі падаюцца на фоне рэвалюцыйных перамен у вёсцы, калі з суседняга маёнтка ўцёк пан, а рэальнымі гаспадарамі там сталі парабкі, якія ўтварылі свой камітэт.

Казка пісалася і друкавалася ў час іншаземнай акупацыі, пры якой памешчыцкае землеўладанне з'яўлялася непарушным, абаранялася ўсёй сілай законаў ваеннага часу. А гэта значыць, што Алесь Гарун — улічваючы зменлівасць абставін у перыяд грамадзянскай, а таксама савецка-польскай вайны — заглядваў наперад і прадбачыў такі паварот у лёсе працоўнага сялянства. Праўда, у сваёй казцы-жарце аўтар не канкрэтызаваў, якім чынам такое можа ажыццявіцца.

Казкі Алеся Гаруна ўсім сваім зместам выхоўваюць у малых чытачоў і гледачоў найлепшыя чалавечыя якасці. А яшчэ ў іх вельмі каларытна раскрываюцца дзіцячыя характары, паказваюцца іх гульні і ўяўленні.

Творчасць Алеся Гаруна адлюстравала ў сабе праўду жыцця і імкненняў таго далёкага пакалення, якое бясконца самаахвярна працярэблівала шлях да свабоды і роўнасці, справядлівасці і ўсеагульнага шчасця. Пракладваючы ўласныя шляхі ў літаратуру, аўтар «Матчынага дару» вельмі істотна дапаўняе Янку Купалу і Якуба Коласа і ў філасофскім асэнсаванні заканамернасцяў гісторыі, і ў пазнанні таямніц і глыбіняў чалавечай псіхалогіі. Ён блізкі да Янкі Купалы ўсведамленнем сілы і непераможнасці імкненняў народа шматпакутнай Беларусі, сваім пачуццём асабістай адказнасці за лёс мільёнаў. А да Якуба Коласа ён блізкі гуманістычным клопатам пра долю простага чалавека-працаўніка, рэалістычным паказам народных пакутаў, таго гора, «што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры і што ў мільёнах душ разоры правяло».

Сёння мы можам сказаць, што як грамадзянін і патрыёт, як адзін з прарокаў нацыянальнага адраджэння, як віртуоз паэтычнай формы Алесь Гарун стаў упоравень з імі. Яго натхнёныя вершы далі нам жывое ўяўленне пра пакуты і трывогі, заблуджэнні і ідэалы свайго часу. А галоўным героем твораў Алеся Гаруна заўсёды была праўда — не падфарбаваная, не прыпудраная, а толькі тая, якая многім вочы калола, але і пракладвала такім чынам шлях да духоўнага разняволення. Ён выносіць няшчадны прысуд здрадлівасці, няпраўдзе і фальшу. Сваім мастацкім словам заўсёды будзіў чалавечае сумленне і праведны гнеў супраць любых формаў прыгнёту і здзеку над чалавекам.

Сваёй творчасцю, паводзінамі, усім жыццём пісьменнік дае новым пакаленням урокі мужнасці і патрыятызму, паказвае, як трэба берагчы і славіць бацькоўскую зямлю і матчыну мову.

*Уладзімір Казбярук*

# *Вершы*

## МАЦІ-БЕЛАРУСІ

Родная, мілая старонка ты маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю,
Бедныя нівы твае, сенажаці
І нешчаслівую долю тваю.
Горам, матуля, даўно ты замучана,
Б'юць і дратуюць сямейку тваю.
Аборкай жалезнай, як сеткай, абкручана,
Ціха маўчыш ты на долю сваю.
Але ўжо бліжыцца сонечка яснае,
Свету ўсё болей і болей шле нам,
Гора бо горкае, доля няшчасная,
Маці, дадзелі тваім ўжо сынам...

*1907*

* * *

Брацця! Досыць цярпець нам і гнуцца, —
Беднасць і голад ліхой праміну́цца;
Ўстанем зараз мы за шчасце, за волю, —
За лепшую, светлую, вольную волю.

Гляньце — свет божы кругом так багаты:
Дзе ты абернешся — муры, палаты;
Золата свеціцца, сонцам гуляе;
Хлеба, адзежы на свеце хватае.

Многа працуюць і знаюць навукі,
Каб зменшыць цяжолыя людскія мукі;
І ўсё ж няма шчасця, і ўсё ж няма долі,
І век мы працуем, гаруем ў няволі.

Чаму ж гэта, брацця? Адкуль гэты мукі?..
Дзе гэты хлеб, палацы, навукі?
Дзе гэта шчасце?.. Яго укралі
Тыя, што пот наш на золата гналі.

Ўсё, што здабылі потам і кроўю,
Што мы рабілі з прымусу, з любоўю, —
Ўсё гэта, братцы, зладзеі забралі,
Тыя, што нашых бацькоў катавалі.

Гляньце кругом яшчэ раз: па астрогах,
Вёсках, дварох, гарадох і дарогах
Беднага люду колькі страдае,
Ў жыцці прасвету, ні шчасця не мае.

І зноў жа я крыкну усім, што бядуюць:
Брацця! Доўга ужо нас рабуюць...
Мы доўга аб гэтым нічога не знялі;
Доўга цярпелі мы, доўга маўчалі.

Пара перастаць ўжо нам, браткі, маўчаці
І толькі пaціху ў няволі ўздыхаці.
Трэба падняцца нам сільнаю сілай;
Трэба пакончыць з жыццем-магілай.

Трэба разбурыць свет гэты пракляты —
Мястэчкі, двары, гарады і палаты;
Больш не давацца сябе абкрадаці,
А ўсё, што ёсць наша, сабе адабраці.

Нашыя гады не будуць давацца;
Пашлюць салдатаў за дабро сваё драцца,
Збяруць усе сілы, каб нас перамоч, —
Мы дружна ўсе ўстанем, і кончыцца ноч.

Потым мы свет па-свойму пастроім
І жыцце ў корнях яго перакроім;

Багацтва ўсе света будуць народа, —
І будзе ў нас шчасце, спакой і свабода...

*1907*

## НАЧНЫЯ ДУМКІ

Часам я ўночы сны дзіўныя бачу:
Роіцца нейкі нязведаны край,
Повен то шчасця, то жаласці, плачу,
То зло-хмурлівы, то светлы, як рай.
Бачу вялікія стэпы з-над Нёмна;
Туліць у слёзах матуля сынка;
Сцелецца пушча глухая і цёмна;
Косці з магілы глядзяць бедака...
Бачу я: жоўтае жытняе поле
Коласам ціха шуміць-шалясціць;
Межы, курган векавечны і хвоя;
Каня з аднэю малітваю «піць».
Траўка ў ляску у цяню вырастае,
Корміцца сокам зямелькі сырой;
Птушка шчабеча — людзей пацяшае;
Льецца крынічка, плюскоча вадой.
Ночкай ля рэчкі раздольна, прывольна!
Гуртам русалкі смяюцца, пяюць,
Кветкі купальскай шукае бяздольны;
З зеллем шаптухі паціху снуюць...
Хочацца быць мне ў тым краю нязнаным,
Хочацца край той абняць з прастаты,
Хочацца крыкнуць: гэй, краю кахáны,
Будзь мне, як маці, будзь родным мне ты!
Дай мне зрабіцца крынічкай лясною,
Бераг вадой абмываць, цалаваць;
Дай мне век цэлы дружыці з табою,
Хвойкі і зоры ў сабе адбіваць.
Дай мне купальскую кветку у рукі,
Путы жалезныя мне развяжы,
Дай ты мне зелля на гора і мукі,
К шчасцю гасцінец мне дай, пакажы!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2 Зак. 1133

Ціха. Нічога не чую, не бачу.
Роіцца толькі нязведаны край,
Повен то шчасця, то жаласці, плачу,
То зло-хмурлівы, то светлы, як рай...

*1908*

## УСПАМНЕННІ

Ой, за вёскаю за далёкаю
Ўсё стаяць лясы ды яловыя;
А над рэчкаю над глыбокаю
Сенажаць лягла з травой новаю.

А пад вёскамі, там за хатамі,
Нівы плямамі раскідаліся, —
Як у старцаву, усю з латамі,
Світу шарую зямля ўбралася.

А на горцы там па-над вёскаю
Стаіць цэркаўка, ад год шарая;
І ля цэркаўкі пад бярозкамі
Спяць у могілках людзі старыя.

Каб ўсё старыя, не такі бы жаль,
І не так маё сэрца б рвалася, —
Хоць і старых жаль і аб тых пячаль,
Што і з імі смерць прывіталася.

Але ж век яны пражылі даўгі,
Ў жыцці ўсякі смак імі бачаны.
Мо не раз із іх гаварыў другі:
«Нашто век такі мне прызначаны?»

А чаго ж ляжыць пад бярозкаю
Мая любачка — зорка ясная,
Што гуляў я з ёй па-за вёскаю,
Мая Ганначка — кветка красная.

Ці ж то я яе не кахаў, як мог,
Яе постаццю счараваўшыся?
Ці к сабе яе перавабіў Бог,
У красу яе закахаўшыся?..

*1908*

## ЯНУКУ КУПАЛЕ

Хоць прастая і малая
«Жалейка» твая,
Але надта пекне грае,
Як паслухаў я.
Грае звонка, стаіць ёмка
За свой родны край;
Сярод бедаў і пацёмкаў
Будзіць, так і знай,
Каб ачнуліся, страпянуліся,
Кожны стаў брат, друг, —
Абярнуліся, аглянуліся
На сябе вакруг.
Сваё мора бяды, гора,
Крыві, поту, слёз,
Каб звёў кожны дружна, скора,
З паніжэння ўскрос.
Так спявае, так іграе
«Жалейка» твая...
Табе «дзякуй» скажа ўсякі,
Дык скажу і я!

*1908*

## ВЕТРУ

Ветрэ, ветрэ вольны,
Стой, зрабі паслугу!
Буду спосаб меці,
Аддзякую другу.

Злётай, лёгкі, борзда
Ў край, адкуль я родам, —
Бацьку, матку ўбачыш,
Мілую заходам;
Ўбачыш гэнам, ворле,
Ў краю тым — старонцы:
Брат мой беларусін
Гібее без слонца.
Ім усім паклонам
Нізкім ты скланіся,
Хай жывуць, красуюць...
А потым вярніся.
Гэтта скажаш, браце,
Мне, што там убачыў.
Буду спосаб меці,
Паглядзіш, аддзячу!

*З Сыбіры. 1909*

## ВЯСНА

### I

Дзе дадуць — зраблю пазыку
І найму сабе музыку, —
Дудара з яго дудою,
Каб іграў ён моцна ёю.
«Грайка, грай! я заспяваю,
Што цяпер на сэрцы маю...»
І дудар ужо іграе,
Маё сэрца так спявае:
«Прападзі, мая жуда,
Ўсё, што церпіць небарак,
Ўсе нястаткі ды бяда, —
Я счарнеў, глядзі, і так,
Толькі вус адзін бялявы...
Годзе мучыць! Я хачу
Сілы, працы і забавы
І вяселля уваччу...»

А з чаго ж я узбуяўся?
— Бо вясна ідзець да нас:
Як убачыў — засмяяўся
І вясёлы стаў на час...
Грайка, грай! бо сэрца скача,
Яму трэба моцна граць;
А жуда няхай паплача —
Час яе і забываць...

II

...Вясна прыйшла!
Што чакалі, выглядалі,
Да сябе даўно гукалі, —
Ў бляску сонца, ў зеляніне,
У прыгожасці, ў ярыне,
Сама — пекнасць, сама — свята
І прыгожа і багата.
Да нас прыйшла!
Я вітаю
Яе ў сонцы, ў зеляніне,
Што на роднай на краіне
Гоніць бляскам сваім ноч,
Гоніць снег і хмары проч;
Яна радасць мне і свята,
Ёй я дзякую багата
І вітаю!

*1910*

## ВЯСНА

Эх, вясна, вясна!..
Як прыйшла яна,
Прынясла святла,
Прынясла цяпла,
Наліла ў лагох
Снегавой вады,

Расцвіла ў лугох,
Распляла сады,
Прабудзіўся лес
На вясенні шум,
А глыбокі сум
Мне ў душу улез...
Першыя гусі ужо праляцелі,
Палі на рэчцы, узгорак абселі,
Гвагалі доўга, нараду сабраўшы,
Потым згадзіліся, дось пакрычаўшы,
Ўзляцелі высока над сосны, над елі
І недзе прапалі ў нябескім касцелі...
Ах, каб крылля, крылля мне
І той лёт гусачы,
Я прапаў бы ў гарыне,
Хто б мяне і бачыў!
Раз у пораз, раз у раз
Ў неба б біў крыламі...
Гусі, гусі, я да вас,
Я лячу за вамі!
Дзе былі вы? Што было там?
Дзе жылі вы? Над балотам?
Мо ля рэчкі? Мо ля хаткі?
Ля сялібы майго таткі?
Мае маткі, майго браткі
Вы не бачылі часамі?
А сястрыцы? А дзявіцы,
Маёй любы,
Вы не бачылі часамі?
А у шлюбы
Не збіраецца сястрыца?
Не? А люба, чараўніца?..
Ці там ймглістая,
Ці там ясна?
Красна? Міла?
Гусі! Шчасна?..

*1910*

## ВЕЦЕР

Вее вецер вольны,
Хмары шыбка гоніць;
З вадой, зямлёй, лесам
Зюкае-гамоніць!
Прыляцеў да рэчкі,
Прылёг, прытуліўся,
Крышачку па яснай
Віхрам закруціўся,
Сказаў слоўца[1] ласкі,
Свіснуў і падняўся
І за хмаркай лёгкай
Пырхнуў і пагнаўся.
Зноў прымчаў да лесу:
«О, здароў, мой браце!»
І пайшоў між хвоек
Ён дурэць, гуляці:
Адну пацалуе,
З другой пасмяецца,
Кіне слоўца, пару,
Да трэцяй бярэцца...
Годзе ўжо у лесе!
Зноў увыш падняўся,
Пакруціўся крыху
Ды удаль падаўся.
Задаў гону, пылу
І уніз ён рынуў,
Прыпаў да зямліцы,
Быццам дзесь загінуў.
«Ах, мая матуля,
Як я нагуляўся!
Бачыў сонца, месяц,
Ў рэчачцы скупаўся.
Хораша на свеце!
Колькі ў ім прастору:
Шыбаеш па рэчцы,
Прыпадзеш да бору...
Я хацеў бы болей
Ў свеце пагуляці, —
Адпусці ж, матуля,
Яшчэ палятаці!»

Пэўне, што пусціла
Вецер маць гуляці,
Бо падняўся ў неба
І пачаў спяваці...
Вось — нянацкам скончыў
Спяваці гуляка,
Гікнуў і панёсся
Ўдаль хутчэй за птака.

*1910*

## МАЕ ДУМКІ

Па-на горах снягі палеглі,
І даліны убраліся ў белі.
Мае ж думкі, як толькі маглі,
Хутка з ветрам удаль паляцелі.
Паляцелі удаль, дзе няма
Гэтых гор —вартаўнічых няволі,
Дзе не гэтак сурова зіма,
Дзе прыняў я і жыцце і долю.
Паляцелі спытаць, паглядзець —
Як жывецца на роднай старонцы?
Як той брат-беларус мой жывець?
Ці высока узнялася сонца?
Там жа ўсё, як раней, як было:
Беднасць, ціша кругом і цямнота.
Дзе там шчасце! Жыццё зацвіло,
Як наверсе якое балота.
Сонца нізка — не грэе саўсім
І саўсім жа не свеце без мала;
Раз блісне дзе-нідзе — і паўсім,
І зноў сваю твар захавала.
Колькі ж будзеш ты спаць? Не пара
Табе часам, мой браце, праспацца,
Каля бацькаўскіх ніў і двара
Працаваці зноў шчыра узяцца?
І усё, што утраціў сплючы,
Пазбіраці да роднае хаты?

Годзе спаць! I не будзе начы,
Будзеш вольны, разумны, багаты!
I высокае слонца тагды
Будзе працу тваю аглядаці,
I пазбудзешся крыўд і нуды, —
Будуць людзі цябе шанаваці.

*1910*

## БЕЛАРУСАМ У ЧАТЫРОХЛЕЦЦЕ «НАШАЙ НІВЫ»

Гэй, вы ўсе, каго зваць беларусам,
Не чурайцеся мовы айчыстай,
Не зракайцесь яе пад прымусам:
Ваша моц ў гэтай мове вячыстай.
Ад прадвеку, ад дзедаў-прадзедаў
Гэта спадак[1] і скарб наш багаты,
Жыцця вольнага памяць пабедаў,
Цяжкай працы і волі утраты.
Дык няхай жа жыве наша мова,
Гэты скарб наш, на доўгія годы,
Зажывём і мы з ёю нанова
Без бяды, без жуды, без нягоды.

*1910*

* * *

У чатырохлецце
«Н[аша]е нівы»

Ты, мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы сваей не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся.

Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,
Гэта скарб нам адзін захаваўся,
У сялянскай аграбленай хаце
Толькі ён незабраны астаўся.
Ў старыну беларус, не падданы,
Гаспадарыў, быў сам над сабою
І далёка у свеце быў знаны
За літоўскай і ляшскай[1] зямлёю.
Але час прамінуў, і нядоля
На народ, як бы камень, звалілась,
Беларуская слава і воля
Адышла, адцвіла, закацілась.
Не змяняючы шэрай апраткі,
Працаваў ты, як вол, гаратліва,
А у хаце тваёй недастаткі,
А на ніве тваёй неўрадліва.
А чаму? Ты не здольны, ці хворы,
Ці благі гаспадар, ці п'яніца?
Мусіць, не! Бо і іншым у пору
У цябе гаспадарыць навучыцца.
Светлы розум твой, брат, але дзетак
Ад цябе, як і ўсё, адбіралі
І на бацькаўскі родны палетак
Працаваць-памагаць не пушчалі.
Хто хацеў, той і смеў рабаваці,
Без прыпросу з'язджаліся госці —
Абдзіраць, аб'ядаць, апіваці
І крышыць гаспадарскія косці.
Можа б, ты і памёр і загінуў,
Каб не вешчая мова Баяна.
Хто ж быў добры, яе хоць пакінуў?
Як жа так, што яшчэ не забрана?
Бо што бачылі госцікі-герцы[2] —
І зямлю, і лясы, і кілімы, —
Ўсё забралі. А мову у сэрцы,
Ў сваім сэрцы хавалі-няслі мы.
Дык шануй, беларус, сваю мову —
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацця-народы!

*1910*

## СІРОЧАЯ ПЕСНЯ

Цераз хвойнічак да поля
Сцежка цягнецца вузенька.
Тою сцежкаю паволі
Йшла дзяўчына маладзенька.

Белы твар і кары вочкі
Нечым былі засмучоны,
Броўкі ценкія — шнурочкі —
Долу былі апушчоны.

Слёзы, нібы то з крышталю,
З воч каціліся, спадалі,
І уздохі, дзеці жалю,
Грудкі цяжка уздымалі.

«Дзе ж ты, дзе ты, мой міленькі? —
Ціха гэтак заспявала. —
Мой саколік даражэнькі,
Без цябе я тут прапала.

Жалю сэрца к сіраціне
Навакола ні у кога,
І няма к чужой дзяціне
Людзям дзела ніякога.

Толькі то адно і знаюць —
Цяжкай працаю душыці;
Як захочуць, патураюць.
Горка, любы, цяжка жыці!

Дзе ж ты, дзе ты, хлопча любы?
Можа, слышыш? Адгукніся!
Мой жаданы, мой галубы,
Ўзяць мяне з сабой вярніся!

Без цябе мне свет без сонца,
Ноччу месяц мне не свеце.
Ты ж не пройдзеш ля ваконца,
Як было у прошлым леце».

У кахання слоў нямала,
Песняў многа у дзяўчаці.
Але вёска відна стала,
Дзеўка кінула спяваці.

З воч крышталі наастатку,
Слёзы хустачкай змахнула.
От і вёска напачатку, —
Дзеўка цяжка уздыхнула.

*1910*

## ВОСЕНЬ

Восень халодная, чорная, хмурая
Сунецца ціха, нячутна штодзень,
Хварбы наўкола паклала панурыя,
Сонца хавае за чорную цень.
Збожжа пажатае з ніваў пазвожана, —
Голыя гоні самотна ляжаць,
Неба дажджліваю хмарай абложана,
Траўкай не грае сваёй сенажаць.
Кветкі не свецяць галоўкамі яснымі;
Кусцце без лісту, без красак стаяць;
З гэтымі восені днямі бяскраснымі
Цяжкія думкі у сэрца ляцяць.
Вольхі, рабіны, асіны з бярозамі
Лістам пажоўклым тужліва шумяць:
«Хутка надыдуць завеі з марозамі,
Ветры з снягамі ізноў наляцяць».
Толькі высокія хвоі іглістыя
Вечназялёны свой кажуць убор.
Днямі зімовымі, цёмна-імглістыя,
Будуць чарнець навакол, наузгор.
Зіму пачуўшы, мядзведзь неспакоіцца,
Ходзіць па лесе, шукае бярлог,
Хмурны і злосны, пакуль супакоіцца,
Горш на скаціну, на людзі налёг.
Гусі і качкі гуртамі збіраюцца;
Хутка на поўдзень саўсім паляцяць.

Хеўра за хеўрай на рэчцы змяняецца;
Ўранку крычаць на вадзе, лапацяць.
Так непрыкметна часамі, дзянёчкамі
Восень змяняе аблічча зямлі...
З гэтымі днямі асеннімі, ночкамі
Думкі мне ў сэрца жудосны прыйшлі.
Старое нешта усё спамінаецца,
Толькі няясна, маўляў, праз туман,
Нейкі няведамы жаль уздымаецца,
Вабіць і цягне ўспамінак-дурман.
Сэрца баліць пад жаданняў прымусамі,
Што за жаданні — ніяк не пазнаць;
Можа, ляцеці адгэтуль за гусямі...
Можа, заснуць, каб нічога не знаць?..

*1911*

## РОДНАМУ КРАЮ

Чаму з маленства, з ураджэнства
Ў жыццёвы май
Не ўмеў, як маці, шанаваці
Цябе, мой край?
То ж я з тваёю ключавою
Святой вадой
Напіўся болю аб нядолі,
Бядзе людской.
То ж ты, мой хмуры, даў мне пануры
І ціхі гнеў,
А днём падчасным, так пекным, ясным,
Надзею грэў.
Твае ж курганы, лясы, паляны,
Дубкоў тых шум,
Палёў абшары, люд бедны, шары
Мне далі дум.
А дум тых многа... Не, не убога
Ты даў мне іх.
І ты ж, як маці, навучыў спяваці
Аб думах тых.
Я браў, не бачыў і не аддзячыў

Табе нічым,
Бо счараваны — цябе, ўкаханы,
Не знаў саўсім.
Цяпер хоць знаю, дык што ж параю
Ад позніх скрух?[1]
Ў чужой краіне паволі гіне
За целам — дух.
Вазьмі ж хоць спевы, дум перапевы
Лясоў тваіх.
З тваёі глебы, з тваёга неба[2]
Узяў я іх.

*1911*

## НОЧ

У гэту ноч мне няўмоч —
Няма сілы чакаць і маліцца...
Каб я ўмеў, каб я смеў
Узляцець, паляцець ці разбіцца!
Як сакол, як арол,
Я падняўся б высока страшэнне,
Я б узяў, я б украў
І сабе і усім адпушчэнне.
Калі ж не, калі б мне
Адпушчэння на небе не далі,
Я б маліў, я б прасіў,
Каб і крыллі мае паламалі.
І тады, наўсягды
Папрашчаўшыся б з небам, зямлёю,
З гарыні, з вышыні
Паляцеў бы за смерцю сваёю.
Але ж не, то не мне
От такая вялікая доля:
Узляцець-паляцець
Ці упасці разбітым на поле.
Не пры нас святы час
Вызвалення людскога настане,
Мо праз век чалавек
Да вялікага жыцця устане.

Без бяды, без жуды
Будзе жыць-панаваць, весяліцца;
А для нас — цяжкі час —
І чакаць, і цярпець, і маліцца...

*1911*

## ЖУРБА

Сэрца болей не смяецца,
Сэрца плача жаласліва.
Ці дасць Бог, ці давядзецца
Быці там, дзе наша Ніва?
    Думкі, праца — ўсё далёка!
    Песні, казкі ў пазабыццю...
    Прад сабой я толькі вока
    Бачу страшнага нябыцця.
Волі, думак, шчасця, смеху
Дайце мне! Хоць пакажыце!..
Але не... Мне на пацеху —
Вока страшнага нябыцця.
    Я б узяў матыку ў рукі,
    Карчаваў бы, чысціў поле,
    Але — там... Я тут бязрукі,
    Я бяссільны... Я без волі.
Сэрца плача, і я плачу;
Плачу з сэрцам галасліва.
Дзе ты, дзе ты, краю родны?
Край далёкі, маці-Ніва?

*1912*

## ДУМЫ Ў ЧУЖЫНЕ

Гора мне цяжкае, гора бясшчаснаму!
Сэрца ўсё жаліцца, плача, баліць.
Хочацца к сонейку цёпламу, яснаму:
Хоць бы убачыць! Ўсю цяжасць зваліць!

Доля мая, што мяне узбагаціла,
Думак, жаданняў і сэрца дала,
Недзе гаман з маім шчасцем утраціла, —
З горам падняла і мне падала.

---

Што там наперадзе, што там нязнанае,
Што там са здзекам мяне сцеражэ?
Скрытна-варожае, з страхам чаканае,
Можа, і блізка на нейкай мяжэ.
Толькі не смерць, — не аб ёй неспакоюся.
Смерць — гэта што! Гэта дар для усіх;
Прыйдзе той час, і я з ёй заспакоюся,
Збыўшыся боляў і думак сваіх.
Іншае гора душу абцяжарыла, —
Камень цяжэйшы на сэрцы ляжыць:
Дні майго росквіту мглою абдарыла,
Ў жыцці штодзённа за мною бяжыць.
Доля мая — гэта доля гаротная,
Сэрца дала мне, навучыла любіць,
Дый прысудзіла яна ж, адваротная,
Век у сіроцтве, ў выгнанні пражыць.
Што мне жыццё, хоць бы самае краснае?
— Волі не маю! Ў няволі жыву.
Гэтае нуднае быцце уласнае
Смерцю страшэннаю з болем заву.
Сокалам вольным і з пташшай гуллівасцю
Я бы, здаецца, адсюль паляцеў...
Нельга і думаці, — доля без міласці
Варту паставіла. Вораг абсеў.

---

Беднасць — не гора саўсім мне, бясскарбнаму, —
Я багацей, замажней за другіх
І не зайздрошчу багацтваў тых марнаму,
Досыць з мяне бедных злыдняў[1] маіх.
Покі варушацца рукі скарэлыя,
Праца мне будзе на радасць, на смех.
Злотам багатыя, сэрцам знішчэлыя
Трутні не мецімуць гэткіх уцех.

Што мне багацтва? Без грошы, без золата
Быў бы магнат я, кароль, багатыр
Там, дзе пад націскам роднага молата
Жыцце куецца углыб і ушыр.
Жыцце куецца, і сонца ўздымаецца,
Свету праменні льець з гарыні,
З доўгага сну дзе народ прачыхаецца,
Побыту шчаснага свецяць агні.
Там, дзе цяпер яшчэ сілы нячыстыя
Жыцце карожаць, па-свойму вядуць,
Дзе ўстрапянуліся дубы густалістыя
І на курганах нямоўчна гудуць, —
Можа, і я з сваёй слабаю сілаю
Там працаваці бы крышку памог;
З гэтаю працаю шчыраю, мілаю
Смерці спаткаў бы спакойна парог.
Можа... А можа, не ўбачыці гэтага?
Можа, суджона тут век мне пражыць?
Дні адзіноты, сіроцтва бяссветнага
Грудай каменняў ў душы валачыць.

---

Страшна мне гэта, і ўсё ж не ядынае
Так навалілась, гняце ў глыбіне, —
Горшая мука ўтрапляець, што сынам я
Быць перастану сваёй старане.
Памяць не доўгая, любасць не вечная;
Сірасць, бязлюднасць — іх трудна нясці;
Мо, пажагнаўшыся з старым, на вечнае
З шляху звярну, па другім каб ісці.
Страшна мне нават аб гэтым і згадываць,
Страшна і думаць, і я не хачу.
Толькі ж надзеі не маю чым зрадаваць,
Сэрца і слёзы ссушыць уваччу.
Вось у чым гора бадзязе бясшчаснаму,
Вось чаму сэрца маё так баліць,
Вось чаму хочацца к сонейку яснаму —
Хоць бы убачыць, тым цягасць зваліць!..

---

Цяжка мне, праўда. Ці ж трэба мне жаліцца?
Цяжка ж другім — іх мільёны усіх, —

Жыцце іх рушыцца, б'ецца і валіцца,
Гінуць надзеі і думкі у іх.
Многа на свеце усякага творыцца!
Многа хто вершаў аб гэтым злажыў.
Часам паслухаеш, хто разгаворыцца,
Бог яго ведае, як яшчэ жыў?!
Біўся з няпраўдай, з бядой і гаротаю,
Сэрца у попел няшчадна спаліў,
Сілы ўсе страціў у бойцы з цямнотаю,
Кроў, не рахуючы, кроў сваю ліў!
Што ж тады плакаці мне, маладзейшаму?
Я ж не прайшоўшы пуціну сваю:
Сэрца асталася. Не, весялейшаму
Трэба мне быць, а я плачу-пяю.

*1912*

* * *

*Я. Коласу*

Усе з аднэй мы выйшлі нівы,
І сейбіт нас адзін кідаў,
І кожан з нас той дзень шчаслівы
Ў сваёй душы благаслаўляў.
А вецер быў. І хто цяжэйшы,
Астаўся там, куды упаў,
А хто, як я, хто быў лягчэйшы,
Ў далёкі свет павандраваў.
Бо сейбіт ёсць другі на небе,
Што судзіць нам гады і дні, —
І ты узрос на роднай глебе,
Пусціў глыбока карані.
Здалеў, браток, на свет прабіцца
Спраміж свірэпкі і асок!
І можам мы табой гардзіцца,
Прыгожы, слаўны Каласок.
Цвіці ж, расці, буйней надзіва
Ў сям'і прыгожых васількоў.
З тваіх зярнят хачу, праўдзіва,
Убачыць поле каласкоў.

## ПЕСНЯ

На чужой староначчы
Заняпаў душой,
І згубіў здаровейка,
І згубіў спакой.
Не глядзелі б вочанькі
На нялюбы свет,
Маладое радасці
Прападае след.
На чужой староначчы
Не цвітуць сады,
Не спяваюць птушачкі.
Не лятуць сюды.
І чужое лецейка
Для мяне — зіма,
І чужога соўнейка
Для мяне няма.
На чужой староначчы
Не шумяць лясы
І няма прыгожасці
Ў палявой красы.
Замірае душачка
На чужой зямлі,
А дамоў вярнуціся
Не ў маёй валі.
Дзе ж вы, ніўкі родныя
І дубовы шум?
Заспявайце голасна,
Каб пазнаў, пачуў.
Ўскаланіце песняю
Векавечных сноў,
Ўскаланіце душачку,
Ўскаланіце кроў.

## НАВАКОЛ...

Снягі, ляды,
абрус жуды
назаўсягды,
на вечны час
ляглі.

Гара, скала
наўкол лягла
і узрасла
паўскрайны пас
зямлі.
Узрос на ёй
вялізаў-хвой,
туману з мглой
прытулак, лес
стары.
Прадзіўны мур
нярушных хмур,
як той каптур,
на бор узлез
з гары.
І сонца свет
здалёка, з гэт!..
Нябёс прывет
не здужыць к нам
дайсці.
Адны вятры
праз хмар муры
лятуць з гары
праз лес той сам
гусці.
І разам з ім
на жах благім
і добрым, ўсім
тужлівы спеў
вядуць:
«Засні, засні,
у ноч ўсе дні
перамяні
і нас не гнеў,
не гудзь.
Скалей, як лёд,
На сотні год
і сэрца лёт
спыні. Вярні
да сну.
А сонца свет
здалёка, з гэт...

З нябёс прывет,
мана. Гані
ману.
Гані. Раі
тых дум спыні,
і жаль стаі,
і кінь з пяшчот
у цьмы.
На свет адны
твае паны
і вартаўны
табе пачот, —
то ж мы».

*1912*

## ПЕСНЯ-ЗВОН

Гэй ты, маці, родна мова,
Гэй ты, звон вялікі, слова,
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота збіты,
Загрымі ты,
Загрымі!
Гэй, званар, званар, мой пане,
Бій у звон, як змогі стане,
Без спачынку,
Безупынку,
Потам зліты,
Ім умыты, —
Бій, звані ты,
Бій, звані!
Гэй, гусляр, пясняр, мой браце,
Грай, спявай у полі, ў хаце,
Дзе гарота,
Дзе галота,
Дзе нясыты,

Дзе няўмыты.
Ім спыні ты,
Жаль спыні!
Струны хай грымяць і рвуцца,
З болю, з гневу. Хай смяюцца
Разам з імі,
Не чужымі,
Голас чысты,
Залацісты,
З імі зллй ты,
З імі зллй!..

*1912*

## З ПЕСНЯЎ НЯВОЛІ

*Я. Л–ку*[1]

Праўду мусім ведаць, браце:
Покуль мы не ў роднай хаце,
Не на ніве покуль роднай, —
Нашай думачцы ніводнай
Век не спраўдзіцца, не збыцца —
Мусім ў цеснай клетцы біцца
Нашых думак, і жаданняў,
І няволі наляганняў.
У гароце, у няволі
Без паспеху, а паволі
Нешта розум ў нас вымае,
Смокча душу — выпівае
І за шыю душыць больна,
Што часамі мімавольна
З болю гэтага заплачыш,
Што аж слонейка не бачыш!
Мусім ведаць, што мялеем,
Што паволі ўсё малеем,
Не жывём, але канаем, —
Зранку долы вымяраем
І надзею штодзень губім,
Хоць яе, як жыцце, любім.

Нашы брацця — там, на волі,
Палеглі моў-ся на полі,
Чыстым полі ваявецкім,
Велькім колам маладзецкім,
З пасячонымі плячыма,
З выпалёнымі вачыма.

Мы з'явілісь з яснай казкі,
Братняй міласці і ласкі,
З краю-Далі, краю-Света,
Дзе цяплюхна, вечне лета, —
А нас кінулі у пушчы,
Ды у холад, дый у гушчы,
Дзе брат з братам вечне б'юцца,
Спруцянелі, а дзяруцца.
Мы хацелі даць ім свету,
Зруйнаваці пушчу гэту,
Даць ім міласці прагненне,
Дзён шчаслівых даці менне...
Мы ішлі вялікім валам,
Войскам буйным а зухвалым[2],
Ды не стала нашай мочы:
Свет слабейшы быў ад ночы...

Што ж? Няхай! Няхай так будзе,
Мусіць, гэтак доля судзе.
Цяжка, страшна жыці, праўда,
Дык цярпеці ж нам не наўда.
Так на моры-акіяне
Часам хваля перастане...
Можа ж, прыйдзе навальніца,
Толькі б ветрыку з'явіцца!
Будзем ў неба цікавацца,
Будзем зорак прыглядацца;
Без пакоры у пакоры
Перабудзем сваё гора.
Мо і нам аднекуль з неба
Скажуць: «Чуйце, ўстаньце, трэба!»
І ўзмацняць. Парвуцца путы,
Будзе вольны, хто закуты.
Не адны, а з грамадою,
Разам з людзьмі, чарадою

Пойдзем поплеч зноў у далі,
Скуль прыйшлі і скуль паўсталі.
А калі ж не хопіць сілы
Ўстаць на гэты вокліч мілы, —
Сэрца хоць мацней заб'еццa,
Твар пахмурны усміхнецца.
Можа ж быць, раней загінем,
Дык усё ж мы след пакінем,
Бо, браток, хоць промень свету
Прыняслі мы ў пушчу гэту!

*Сыбір, 1912 г.*

## МАЛІТВА

Я бачыў: Сын Яго стаяў
На пушчы і маліўся
І словы ў гневе прамаўляў,
А твар слязьмі абліўся.
— Ах, дай мне, Ойча, моцных слоў!
Маланак слоў палючых,
Бо кроў мая сачыцца зноў
Із ранаў тых балючых...
Дзівіся, Пане, слабы я,
Саўсім не маю сілы;
Гарыць, баліць душа мая, —
О, дай жа моцы, Мілы!
Паглянь: паўсюдах з краю ў край
Рабунак, глуз пануюць,
І льецца смех тых чорных зграй,
І ўсё з зямлёй раўнуюць.
Зірні: дзе пекнасць тая, што
Надаў нам, Міласцівы?
Тваіх правоў трымае хто,
Братэрства, згоды хцівы?
Схініся к нам Ты і абач:
З гадзінай горш жывецца,
Цяжэе боль, мацнее плач,
Галоў ўсё болі гнецца.
Паслухай ноччу, ўдзень, Святы,

Скажы маўчаці звонам, —
І колькі жальб пачуеш Ты!
Зямля азвецца стогнам...
Узглянь: навокал чорны свет,
Прыцьмена праўды сонца,
Надзеі ў людзях болей нет, —
Пашлі ж ім Абаронца!
Ах, дай мне, Божа, гэткіх слоў,
Зямля б ад іх траслася!
Баляць бо раны мае зноў,
І кроў з іх палілася...
Пашлю тады маланкі ў люд,
Ў бясшчасны той брадзіці,
Блішчэць, яскравець там і тут,
Праўдзівы гнеў будзіці.
Мільёны кіну перуноў
У тых, каго я знаю,
У тых, маю што сочуць кроў,
У тую чорну зграю.
Тагды ізноў, як колькі раз
На свеце ўжо бывала,
Настане Твой вялікі час,
Твая засвеціць хвала.
Малюся ж, — дай мне гэтых слоў!
Сцаліш мяне, паможаш;
Гарыць душа, баліць ізноў...
Вялікі! дай, як можаш!

*1912*

## МАТЦЫ

Маці міла! любка родна!
Гэтта нет жыцця мне!
Дзень з дзянёчкам пачародна
У бяздонне цягне.

Сумна, рыбка, тужна, міла,
Што цябе не бачу!
Вочы нечым заімгліла, —
Ад слязы, ад плачу!

Край чужы — страшная мара:
Снег, мароз ды зоры;
А цябе, як чорна хмара,
Заступілі горы.

Маці родна! любка міла!
Хоць у сне падайся.
Ты ўспаіла, ты ўскарміла,
Ты ж не адмаўляйся!

*1912*

## ЖАБРАЧКА

Дайце кавалачак хлеба ёй цьмянага,
Дайце пуховага, — дзе ж ёй узяць?
Што яна возьме з жыцця бесталаннага?
Дайце, што можаце даць!

Гора памела на свеце убогая!
Гляньце: згрыбела, згарбела у крук,
Доля занадта надалася строгая, —
Выбіла шчасце ўсё з рук.

Была дзяўчынаю, была красуняю,
Была вагонь, — не глядзі, дзецюкі!
Ўглянеш — і сэрца праймецца, як куляю;
Мелі пацеху бацькі.

Час надышоў, і была гаспадыняю,
Быў гаспадар багатыр на сяле;
Была над мужам царыцай, княгіняю,
— Бог калі шчасце пашле!

Была і маткаю, была шчасліваю,
Двох аднагодкаў Вялікі ёй даў:
Сына малойца, дачку урадлівую.
— Скуль дзе і сват пад'язджаў.

Мела Нупрэіха, мела бяздольная!
Дзе ж гэта дзелася, як уплыло?

Што ж, сірацінка, быліца ты польная,
Што учынілась, было?

— Ой, мае дзетачкі, Бог мяне, грэшную,
Пэўне, за бацькаўскі грэх пакараў,
Крыўду ўчыніў да згон-веку няўцешную,
Чым надарыў, адабраў.

Неяк асенняй парою апоўначы
Хатку няведама хто падпаліў,
Я прахапілась, ўскрычэла а помачы:
— Людзі, ратуйце, хто жыў!

З крыку майго і сямейка збудзілася,
Ледзьве паспелі на двор уцячы,
Доня за рукі мае учапілася,
Просіць: — Матуля, маўчы!

Мужа я ў гэтым пажары пазбылася;
Кінуўся ў хату па скарб — ратаваць, —
Столь падгарэла ў той час, абвалілася...
— Бог захацеў пакараць!

Ох! Як пачне калі што руйнавацiся, —
Што ні рабі ты, а будзе дарма,
Толькі знядужаеш, сілаю страцішся,
Скуткаў[1] жа добрых няма.

Сын у Сібір ці ішчэ за Сібірамі
Недзе пайшоў на жыццё зарабляць,
Разам з дачушкай пайшла я пад дзверамі
На пагарэлых збіраць.

Дочка ад часу пажэжы праклятае
Чымсь захварэла, няведама чым;
Сохла, бляднела, як зелейка сцятае,
Покі не ўмерла саўсім.

З воласці мела паперу пісаную:
Сына маскаль занівошта забіў.
Нечым зграшыла дзіцятка рахманае,
Ціхі ж, паважлівы быў...

От і жыву я на свеце зязюляю
Тэй сіратлівай, адна наўсяды.
Смерць неўздалечку, — свой век перамуляю,
Збудуся цяжкай нуды.

Змоўкне — і слёзы па твару пакоцяцца,
Хусткай схісне іх і далей брыдзе,
Ціха ступае, ўсім целам калоціцца...
Ах! пашкадуйце ў бядзе!

Дайце кавалачак хлеба ёй цьмянага,
Дайце пуховага! Дзе ж ёй узяць?
Што яна возьме з жыцця бесталаннага?
Дайце, што можаце даць!

Дайце куточак, а дайце ж ёй, мілыя!
З ласкай у хату прыміце яе,
Хай адпачне гаратніца пахілая,
Раны пагоіць свае.

*1913*

## ЮДАМ

Да вас, паны, што голасна крычыце
Аб прыязні сваёй да «беднага народу»,
Што раіце па-ліссяму: «Маўчыце,
Нядоўга вам дамо багацтва, волю, згоду», —
Да вас мой гэты верш і словы ўсе благія,
Бо словам вы адны, а справамі — другія.
«Багацтва вам»... Няма вам нашай веры!
Бо ў той жа год ліхі, як ў полі не ўрадзіла,
Галоднаму на прокарм хлеба меры
Аднэй не далі вы. І злаялі няміла...
Калі для нас жадаеце багацтва,
Нашто з бяздольнага здзіраеце апратку?
Нашто ж тагды вы плодзіце жабрацтва,
Дамы пустошачы без ліку, без астатку?
«Мы волю вам»... Пракляцце вам і з ёю!
Чаму ад волі вашай мы стагнаць павінны?

Яна ланцуг над нашаю зямлёю;
Астрог на наш народ, спакойны і бязвінны.
Не воля гэта! Што нам ні цвярдзіце,
Мы вольнымі былі за даўнімі часамі.
Ідзіце ж проч! І з воляю ідзіце!
Да волі знанае хутчэй мы прыйдзем самі.
«Мы згоду вам»... Пакіньце ашуканства!
Вы — бойкі братняе чарнейшыя пракрокі,
Без звады вам, нашэптаў, падтыканства
Нямілы божы свет, не ясны, не шырокі.
Не просім вас! Не трэба вашай згоды!
Сваё вялікае дзядоўскае багацце
Хаваем мы; ад Бога ўсе народы
І бацькі аднаго ўсе дзеці — людзі, браццця.
Адкуль вы к нам? Чыйго племя і роду?
З якіх краёў прыйшлі без праўды і без сэрца?
І што вам з нас, ад нашага народу?
Чаму так жычыце яму хутчэй памерці?
Га! Знаем вас, атручання найміты:
Вы — служкі чорныя Яснейшага Мамона[1],
Вы — мора бруд ля берагу намыты;
Без дум і без мазгоў, вы — золата без звона.
З усіх бакоў на паслугі уціску
Чаргою воўчаю з'яўляецесь усюды,
Дзе клічуць вас для крыўды, для націску
На праўду вечную... Вы... імя вам Іуды![2]
Ідзіце ж проч! Бясплодна ваша трата
На ласкі ліссія. Пакіньце слова «брат»!
Вы цяжкі сон. Ка́ты... Вы горай ката!
Кругом праклятыя, вам бацька, брат — дукат!

*1913*

* * *

Нічога на небе... І зоркі ніводнай,
І цемень такая, куды ні зірні...
Калі ж гэта будзе, што ночкай пагоднай
Засвецяць на небе агні?

Нічога у сэрцы — пакоі пустыя...
І цемень у думках, і пусткі ў душы...
Калі ж вы прыйдзеце, пачуцці святыя.
О, Божа вялікі! Спяшы.

*1913*

## ГЭЙ ЖА Ж, МАЯ ВЁСКА!..

Гэй жа ж, мая вёска!
Як ты дзісь[1] далёка —
Каб глядзеў і доўга,
Не убачыць вока
Тваіх стрэх з саломы,
Мохам часу крытых,
Вокенцаў маленькіх,
Хат, ў зямлю убітых,
Гумнаў і хлявочкаў,
Нізенькіх, як хаты,
Вулічкі ўсяродку —
Крыху крываватай...
І за вёскай крыжа,
Што помніць дзядоў,
Мосціка праз рэчку...
І абшар палёў...
Адышло ўсё гэта,
Недзе дзісь далёка,
Каб глядзеў і доўга,
Не убачыць вока:
Засланяюць горы
І лясісты кнеі[2],
Дык да роднай вёскі
Даляцець умеюць.
Толькі ўспомніў даўны
Гора дні, уцехі,
Думка мігам скоча
Пад вясковы стрэхі —
Бачу вобраз родны:
Працы, гараванне,
Бедныя палеткі,

Сеянне, гаранне...
Родных бачу твары —
Хатніх і суседаў,
Жыццё бачу вёскі
І шчасця і бедаў...
Успамінак ўсенька
Ў вобраз адзін луча:
Вобраз сэрцу мілы —
Мілы, аж балючы...

Дык хаця ты, вёска,
Родна і далёка,
Што за гор лясамі
Це[3] не бачыць вока —
Я сардэчнай думкай,
Пакуль жыці буду,
Вёска мая родна,
Цябе не забуду!..

*1913*

## ІДУЦЬ ГАДЫ

Ідуць сабе гады, ідуць,
Бы карагод, бясконца,
Што ў небе зорачкі вядуць
Ля месяца, ля сонца.
Ідуць сабе гады, ідуць —
І чалавек за імі.
Куды цябе яны вядуць
І сцежкамі якімі?
«Няведама мне, скуль усё і што я;
Няведама мне сама сцежка мая,
Няведама мне, і куды я іду.
Пытання не маю, ці што там знайду,
Не ведаю жыцце, ці шчасце, ці не, —
Пачалася гэта, браток, не на мне».
Ідуць гады, ідуць гады,
І з імі ўсё на свеце.
Сягоння ты, а йшлі дзяды,

А заўтра пойдуць дзеці.
Ідуць гады, і ты ідзеш
Ўздагонь за імі, з імі.
Нашто, скажы мне, ты жывеш
І з думкамі якімі?
«З аднэю я думкай у свеце жыву,
Настаўнікам ўзяўшы і лес і траву,
Крыніцы, і кветкі, і цемру, і свет,
І месяц, і зоры, і сонца прывет.
Прысуджаны шлях свой рабі дарагім,
Красуйся на радасць сабе і другім».

*1913*

* * *

Як надарыцца мінута,
Што ад працы адарвуся,
І жыццёвая атрута
Не пячэць, і прахаплюся,
Дык цябе, мой Родны Краю,
Шчырай думкай аблятаю.
Ты няшчасны і убогі,
Ты бяздольны і забіты,
Ты без шляху, без дарогі,
Ты абдзёрты і прапіты,
Подлай здрадаю праданы.
Ты не свой, — даўно забраны.
Меў вялікія кляйноды,
Быў і моцны і багаты.
Задзіўляліся народы —
А дазнаўся горкай страты.
Сохнеш, вянеш, — вокам кіну,
Аж здаецца, што загінуў...
А як сонейка устане
І прыемна усміхнецца,
Па палетках, на кургане
І па вёсцы разліецца,
Як паводка, Родны Краю,
Над цябе тагды не маю...

Ты кваціcты, залацісты,
І прыгожы, і аздобны,
Ты лясісты, каласісты.
Можа, рай табе падобны —
Колькі ж моцы маеш скрытай,
Колькі сілы неспажытай!
Ты паўстанеш, працавіты,
Гаратнічы, невымоўны,
Шчасця, долі прагавіты,
Мой сланэчны, мой чароўны!
Будзе час, пабачаць сведкі,
Хоць не мы, дык нашы дзеткі.

*1913*

## МАТЧЫН ДАР

Як радзіла маці мяне ў цёмну ночку,
Дык дала скрыпіцу: «На, іграй, сыночку!
Грай сабе на шчасце, грай на добру долю,
Грай на век даўгуткі, грай на вольну волю».
Помню, дзіцянёткам з тугой я не знаўся,
Жыў, як тая птушка, граў і забаўляўся;
Дзень мне быў спакойны, ўночы сон бязгрэшны,
А цяпер застаўся я навек няўцешны.
Ой, чаму ж, матуля, жыцце-скрыпку дала,
Як іх шанаваці[1] дый не навучала?
Гэта ж падзівіся — я адкрыцца мушу,
Што сапсуў скрыпіцу, што згубіў я душу.
Здаўна, сівакрыла, шчасця я не маю,
Долі я не бачу, радасці не знаю.
Граю, праўда! граю... А на сэрцы важка,
А у сэрцы больна, аж трываці цяжка.
Тыя не прыходзяць песні-весялушкі,
Як пяе зямліца, як шчабечуць птушкі.
Жаль з нудой заплачуць, глуха як зайграю...
Маю я скрыпіцу, а душы — не маю!

*1913*

3 Зак. 1133

## МУЛЯРУ

— Муляр, слухай! Што кладзеш ты?
— Дол смяротны, бачыш, — склеп.
От, як скончу ўсё дарэшты,
Буду мець рубель на хлеб.
— Слухай, муляр: пакідай ты
Смерці сховы мураваць —
Хай не знаць іх! Уставай ты,
Пойдзем жыцце будаваць.
Бачыш: людзі, як бяздомкі,
Ходзяць скрозь без ўласных хат?
Я работнік спрытны, ёмкі,
Пойдзем, муляр, пойдзем, брат!
Возьмем кельні, малаточкі,
Дзве рыдлёўкі, вінкель[1], шнур,
Ґукнем: «Людзі, галубочкі!
Хто ахвочы класці мур?
Мур вялікі, вольнай волі,
Мур высокі да нябёс,
Мур братэрства, роўнай долі,
Мур для радасці без слёз?»
От, убачыш, прыйдуць людзі
На ўспамогу ў грамадзе;
Кожан цэглу класці будзе...
От дзе праца загудзе!
Сцены зробім чыста, гладка,
Як з крышталю, столь, як шкло,
Скажуць людзі: «Вось дык хатка!
Роўнай ў свеце не было!»
Будзем есці ў гэнай хаце
Смачны, чысты, пульхны хлеб.
Пойдзем, муляр, пойдзем, браце,
Хай другі канчае склеп!

*1913*

## ІВАНКУ

Слухай, Іване, паночку,
Кепска ты робіш, браточку:
Хіба ж не сорам так жыць,
Гэткім нядбайлівым быць?
    Ўзглянь навакол на суседаў,
    Некалі добра іх ведаў —
    Хто з іх спусціўся, як ты,
    Мае з твае беднаты?
Хіба ж яны галадуюць,
Хіба ж па-твойму бядуюць?
Ў іх і апратачка ёсць,
І часам пакорміцца госць.
    Гэта ж дзе людзі збяруцца,
    Зараз з цябе пасмяюцца,
    Кажуць: «гультай, абібок».
    Так яно, мой галубок!
«Бацька яго ў гаспадарстве
Быў, як бы цар ў сваім царстве:
Быў ў гаспадарачцы лад,
Мелася вока, дагляд...
    Быў чалавек яго татка!
    Ён жа: дзівіся, апратка
    Ў дзюрках, у гнідзе, сцвіла,
    Ў хаце — трава абышла.
Нейкае дзіва, дый годзе!»
Часам жартуюць ў народзе:
«Моцны гультай, моў-ся вол,
К працы ж пагнаць — трэба кол».
    Чуеш ты, чуеш, Іванка,
    Што у людцоў за гуканка?
    Слухай, над кім гэты смех?
    Грэх табе, братачка, грэх!..

## ВАЎКАЛАКІ

Ваўкалакі цёмна ноччу
З дамавін выходзяць
І лятаюць скрозь па свеце, —
Сабе жэр знаходзяць:
Дзе старое ці малое
Спіць у сне глыбокім,
Ваўкалака падсцігае
Ненасытным вокам.
Не пачуеш, як узляжа
На грудзях навала,
Не пачуеш, як ён з сэрца
Выссе кроў памалу.
Галасіста ж па світанню
Заспяваюць пеўні —
Ваўкалака адлятае
Неахвотна гнеўны.
Па старонцы роднай здаўна
Ваўкалакі ходзяць,
Але ж пеўні не спяваюць,
Слонка не ўзыходзіць!..

## ВЯСЕЛЛЕ

Гэй, гуляй, не думай,
Не глядзі панура!
Заспявай, заіграй,
Загудзі віхурай!
Грошы ёсць! Сала ёсць!
Бутэль манапалькі...
Ты не стой, трунак свой,
Пій, гуляй і — толькі!
Былі мы... Жылі там —
На роднай краіне...
А цяпер тут — як звер...
Жыцце наша гіне.
Гэй, гуляй, налівай!
Будзем піці, браце!

Што у нас? Цяжкі час?
Э! аб чым казаці!
Га-га-га! Бач, нага
Сама ў бокі скача,
Заіграй, заспявай!..
Не, брат: сэрца плача...
Дайце мне, дайце мне
Кварту не пустую, —
Я маё, я сваё
Сэрца пачастую.
От дык так! От дзе смак!
Эх ты, ведзьма-доля!
Яшчэ — не, мала мне...
Налівайце болей!
Гэй, крыгчы, не маўчы,
Сэрцу дай пацеху!
Заіграй, заспявай,
Смеху, болей смеху!
А што?! Не, вы мяне
Не забілі, гады!
Вось жа п'ю, вось пяю
З сябручкамі рады!
Ты гуляй, не зважай,
Што сляза на вочу, —
Гэта так, гэта я
Весяліцца хочу.
Пі, гуляй!
Грай, спявай!..

*1913*

## КАЗКА

Што, дзяўчаткі, парабочкі,
Казку вам сказаці?
Ну, якую ж проці ночкі
Лепей нагадаці?..
Добра!.. Слухайце уважна,
Не перабіваці!

Сядзьце чынам і паважна,
Кіньце блазнаваці!
За ваконцам вецер свішча,
Як ваўчына вые,
Ведзьмы справілі ігрышча,
Ведзьмы маладыя.
Ў хаце цёмна, ціха, смутна,
Цяжка а тужліва[1],
Уздыхае хтось пакутна,
Неяк сіратліва.
Ўдовай бабкі сын прыгожы
Сеў каля ваконца,
Чымсьці хворы, спаць не можа.
Выглядае сонца.
Ведзьмы скачуць і гуляюць,
Зірк ў вакно: хлапчына!
У ваконца барабанюць:
«Выйдзі, малайчына!»
Выйшаў. Чуе — нехта плача,
Ціха нехта кліча:
«Сюды, сэрца! Гэй, бурлача,
Пакажы аблічча!»
Йдзець. На прызбе каля хаты
Бачыць: маладзіца,
Пекнай ўроды, строй багаты,
Ясны, аж мігціцца.
Стаў і словам не азвецца,
Моцна задзіўлёны,
А яна — дык проста рвецца:
«Мілы, улюблёны!
Сядзь жа поруч, не цурайся
Ды любі мяне ты,
Ты ж наблутаў, не спірайся,
На мяне цянеты».
Сеў хлапец несамавіты,
З ведзьмаю абняўся,
Вецер, злога прагавіты,
Роў і не спыняўся.
Рукі белы аплятаюць,
Ўюцца каля шыі:

Кроў прыціскі калатаюць...
Вецер свішча, вые.
Потым палкім пацалункам
Ў вусны упілася...
Сэрца смокча... і з рабункам
Ў віхры паняслася.
А дзяціна так ля дому
І сядзець застаўся...
Ведзьмы вобраз маладому
Доўга ўспамінаўся.
Як успомніць — сэрца рвецца
Проста у скумацце,
Да нічога не прыткнецца,
Ўсё сядзіць у хаце.
І канец. А ведзьма? Можа,
Да другога ходзіць,
Маладая, ды прыгожа
Жарцікі разводзіць.

*1913*

* * *

Хай не льюцца дажджы цёмна-хмарныя
Над змярцвелаю пашаю.
Хай пачнуцца гады хлебадарныя
Над зямелькаю нашаю.
Хай красуецца жытам, пшаніцаю,
Каласочкамі цяжкімі,
Хай ўзмацуецца Боскай правіцаю[1]
І ўсятворчымі ласкамі.
Хай асвеціцца праўды навукаю
І братэрскаю згодаю,
Хай знявечацца крыўда з прынукаю
За яе загародаю,
Хай ўзлятаець хвала яе племені,
Упякнёнага цнотамі[2],
Хай шыбаець над скаламі з крэменю,
Над арлінымі ўзлётамі.

## У ВЫГНАННІ

Край чужы — за веру кара —
Снег, мароз ды горы.
Белы свет, як чорна хмара,
Заступілі горы.
Край чужы... І ты чужынец
Ўсім, не свой здаешся:
Ходзіш скрозь, як той адзінец[1]
Старакосны ў лесе.
Ходзіш ты, ніякай мэты,
Так, — абы цягацца,
Знаць сабе: жывеш яшчэ ты...
Для чаго ж, спытацца?
Хто цябе спагадным сэрцам
Да сябе прытуле?
Хіба з стрэльбы чужаверца
Чужаніца-куля.
Хто цябе спаткае міла,
Ў дом папросіць гожа?
Хіба дол, адно магіла
Разгарнуцца можа.
Што з таго — часамі сніцца
Край, ў якім радзіўся?
Толькі мусяць слёзы ліцца, —
Лепі б і не сніўся!

* * *

Думкі — дыяменты, краскі жыцця,
Песні — вас гэтак люблю,
З вамі салодкіх гадзін забыцця
Часам і я пазнаю.
Жыцце-няволя ў чужой старане,
Працы надмернай яром
Зараз знікаюць, бы ў госці ка мне
Вы паказаліся ў дом.
Слухайце ж, думкі: як прыйдзе мой скон,
Ў хатку зляціце ка мне,

Хай перадсмертны уцішыцца стон,
Сэрца на момант спачне.
Хай заспяваю, як лебедзь, калі
Прыйдзе гадзіна яму,
Ўзнёсшыся ў неба ад маці-зямлі,
Рыне ў адвечную цьму;
Хай заспяваю аб сне залатым
Веку людскога радства,
Роўнасці, вольнасці, брацтва — аб тым
Веку красы хараства.
Можа, пачуўшы прадзгонны[1] мой спеў,
Сціхла б на свеце вайна...
З радасным духам бы я паляцеў
Ў царства кахання, відна.

* * *

Дзяўчыначка-сэрца, сябе не трывож,
Не песці надзеі і жалю не множ.
З табою пабрацца мне волі няма, —
Даўно заручыўся я ўжо са трыма:
Айчызна, — я ёй у няволі жыву,
Штоноч яе бачу, маўляў, наяву,
За ёю сумую, журуся адно,
Бо шчырым каханнем звязаўся даўно.
Другая: матуля. Радзіўся калі
І голас мой першы падаў на зямлі,
Замучаны твар усміхнуўся яе:
«Сыночак мой любы», — вітала мяне.
Аб трэццяй, дзяўчынка, скажу, што яна,
Другое не знойдзеш — на свеце адна:
За краты няволі паслала «люблю»,
Дык хіба ж з табою яе падзялю?
Пакінь жа, галубка, з каханнем сваім!
Шукай сабе шчасця за кім за другім;
Пяшчоты, залёты не траць ззадарма,
Даўно заручыўся я ўжо са трыма.

## МАЯ ЛЮБА

У любы маеі дый косы ільняныя й вочкі нябескія,
Губкі вішнёвыя;
І шчочкі ружовыя, шыйка і ручкі, як бель лебядзіная, —
Грудкі пуховыя;
І голас у любай, як ў лесе звінючай, бліскучай крынічанькі
Спевы адвечныя;
А ўсмешка каханай — ў зялёным аксаміце лугу мурожнага
Перлы сланечныя;
Ідзець каралеўнаю, добрай, ласкаваю, роўнай паходкаю,
Ціха ступаючы;
Заўсёды ўсміхаецца думцы захованай, ў сэрцы мілосную
Песню спяваючы;
Вяночкі штовечара ў рэчку спушчаючы, кажа: «Плывіце вы
Разам з вадзіцаю!
Скажэце каханаму: станем прад Богам мы параю шлюбнаю,
Хоць бы з грамніцамі».

А гэтак далёкая! Так яно, зорачка захаду ранняя,
Будзе і станецца.
Над нашым каханнейкам людзі не сільныя, леты
не ўластныя[1] —
Хай жа мінаюцца.

## АДБІТАК

Дзіўлюся я на ззянне ясных зораў, —
І сумна-сумна так, што я не разам з імі,
Што жыць не лёс мне ў вышыне нагорнай
І сцежкамі хадзіць па небе залатымі.

Сярод нязнаных мне, не бачаных прастораў
Раўнінай той, што звецца Бесканечнасць,
Я лётаў думкаю б і воляй непакорнай
І, можа б, там пазнаў цябе, Адвечнасць.

Дзіўлюся я на зораў ясных ззянне,
На сцежкі іх, ўсё тыя ж, як прад векам,
І сумна гэтак мне, і родзіць сум пытанне:
Нашто пачаўся я ад Бога — чалавекам?

## НЯЗНАНЫ ГОСЦЬ

Дзіцятка малое у жыцце прыйшло.
Спытаўся яго я: — А дзе ж ты было?
Скажы мне, піскнятка, ў якіх гарадох?
Скажы мне, дзіцятка, ў далёкіх краёх?
Скажы, анялятка, ці доўга блукаў?
Скажы мне, ягнятка, каго ты спаткаў?
Скажы мне, малое, ці быў ты ў раю?
Скажы, залатое, ці долю сваю
У Эдэме[1] ўбачыў, спаткаў, палюбіў
Ці што, неабачны, благога зрабіў?
Напрыкрыўся ў небе? Ці сум сустрачаў
Па іншаму жыцці, што гэтта пачаў?
Скажы мне, малое! Хачу я пазнаць,
А дай, залатое, цікавасць спагнаць.

І ціхай задумы заслона зыйшла
З спакойнага твару, і хмарка найшла,
З блакітненькіх вочак, што з неба прынёс,
Скаціліся слёзкі — дзве перлінкі слёз.
Аб чым яно плача? аб райскіх садох?
Аб кветках праменных? анельскіх спявох?
Аб чыстасці, яснасці, святасці душ?
Тварца маястатнасці? Дзеткі, чаму ж?
Аб чым ты заплакала? Мне у адказ
Скаціліся новых дзве перлінкі ўраз.

## ЗМОРА

*М.В.*

Сэрца, спаць хачу я, спаць!
Заўтра рана ўстаць мне, ўстаць.
Вочы слепіць сон мне, сон,
Ў вуха шэпча ён мне, ён:
— Не журыся, палажыся, адпачні,
Мардаванне, сумаванне адгані.

— Заўтра зрана, свет не свет,
Выйдзеш з хаты з гэтай, з гэтт,
Стаць на працу мусіш, стаць,
Здаць прыгоны мусіш, здаць.
Не мардуйся, не крапуйся, адпачні,
Думаванне, сумаванне адгані!

Рыбка, спаць хачу я, спаць!

## НАЧЛЕГ

Спіць душа, і розум спіць,
Смачна, без трывогі,
Піць і есці, есць і піць —
Клопат ўвесь нямногі.

Лёгка так. Не маеш дум...
Ў прочках гдзесь маркота...
Боль прайшоў, уняўся сум, —
Спаць адно ахвота.

Спіць душа... і розум спіць!
Часам нехта ўзбудзіць,
Нібы ўстыдзіць, нібы кпіць,
Нібы крышку судзіць:

«Сорам, брат...» А далей слоў
Я праз сон не чую.
Знікне голас, ціха зноў...
Ў ясны дзень — начую.

## ЛЮДЗЯМ

Люблю і я скляпенне зор,
Люблю зямлі абшар,
І роўны луг, і ўзгібы гор,
І шум лясны, і гвар[1].
Люблю жыццё, а ў ім людзей

І кшталты[2] іхніх душ,
Люблю вянкі плясці з надзей, —
А не паэт. — Чаму ж?
Часамі праца ўдзень кіпіць, —
Цярплю і я прыгон, —
Аж косць аб косць ў плячу рыпіць...
Пачуеш ў сэрцы звон...
Ухопіш зык, за ім другі,
За тымі больш ідуць,
Злююцца ў шых[3] даўгі-даўгі
І цэлы дзень гудуць.
Загасне дзень, іду дамоў,
Кладуся спаць, — і ў ноч
Цякуць радкі звінючых слоў,
І сон адходзіць проч.
Тагды пішу. Перад вачмі
Нясецца зданняў рой,
І хтось стаіць па-за плячмі,
Здаецца, блізкі, свой.
Абыйме шыю пара рук
І кос дзявочых шоўк,
Ўзмацніцца ў сэрцы мерны стук,
А звон ў душы не змоўк...
Зірну: пакой пусты, няма...
А час слізнуў, як вуж.
І за вакном радзее цьма...
А не паэт... — Чаму ж?
Бо мой прыгон глытае час,
Мне воля — рэдкі дар.
Такіх паэтаў шмат у нас,
Дзе сам народ — пясняр.
Сваіх тут жменьку я спісаў
Маркотных песняў-дум;
Маёй душы іх сам спяваў
Па краю родным сум.
Скажу яшчэ, чаго б хацеў:
З дзявочых вуст пачуць
Хаця б адзін мой бедны спеў,
Хаця б калі-нібудзь!

*1914*

## З НАВАГОДНІХ ДУМАК

Новы рочак ўжо настаў —
Ці канчатак ўбачым?
Дажывем? Хто б сказаў?
Сколькі раз заплачым?
Немаведама. Не знаны
Рочак з віхрам йдзе —
Ночкай цёмнай праваджаны;
Людцы спяць сабе...
Ой, не спіце, не ляжыце
Вы, людцы, у хаце,
На свет божы паглядзіце —
Што трэ працаваці!
Каб мець ў хаціне дастатак:
Хлеба і да хлеба,
Аплаціць жыцця падатак,
Заслужыці неба...
Не з замкнёнымі вачыма
Трэба йсці праз жыцце,
А ўзірацца «абаіма» —
Шклы[1] яшчэ купіці:
Свет навукі ў гаспадарцы,
Як быці здаровым,
Не шукаць вяселля ў чарцы
Ды жыццё нанова
Распачаці з Новым рокам,
Працы, сілы, волі —
І спаткаці смелым вокам
Прышлу сваю долю!..

*1914*

## ПРЫВІТАННЕ

З чужой і далёкай краіны
Вітаем цябе, родна мова, —
Раскіданы скрозь твае сыны —
Вітаем, бацькоўскае слова!

Пайшлі мы за грошам, за хлебам —
Бадзяцца па свеце шырокім,
Рассталіся з родным нам небам
Ды згінулі ў краі далёкім.
Паміжы народаў чужых
Забыліся дзедавай мовы
І песняў, звычаяў сваіх —
Выродкамі стацца гатовы...
Не ў памяці вёска у полі,
Ды нівы, ды рэчкі-балоты,
Не ў думцы браты, што у болі
З вялікае стогнуць бядоты...
Усенька забыліся... доўга
Жылі мы — як? Самі не знаем:
Сваёй была Вісла і Волга,
Не ў думцы, што родны край маем...
Хоць, праўда, не надта харошы,
Хоць бедны — балоты з пяскамі, —
А ўсё ж даражэйшы за грошы,
Бо з нашых прадзедаў касцямі,
Бо ў ім і цяпер засталіся
Там родныя нашы браты
І з мовай, што мы забыліся
Для іншай — другой і — наўды!..

Аж раптама вестка дзіўная
Нягадана неяк дайшла,
Што наша гаворка жывая
У друку ўжо йдзе да сяла,
Што словамі дзедаў сваіх
Ў газетах там вучаць ўсяго —
Што трэба любіці усіх,
Што трэба трымацца свайго!

Вяліка было наша здзіўленне,
А радасці не ўжо і конца —
Што ўрэшце адвечна зацьменне
Разгоне народнае слонца!..
І шчасце вяліка пачулі
Ў змарнелых сіроцкіх грудзях,
Лягчэй мімаволі ўздыхнулі
За прышлы Бацькоўшчыны шлях!..

З чужой і далёкай краіны
Вітаем цябе, родна мова,
Раскіданы скрозь тваё сыны —
Вітаем, бацькоўскае слова!..

*1914*

* * *

Божа мой! Я чую зноў —
Як мацнее ў мяне кроў.

А у грудзях сэрца б'ецца,
Па галоўцы жа вінецца

Думка нова, ды старая,
А вагромна, а святая...

А ўсяму, ўсяму прычына:
Мая родная зямліна —

Ўжо варушыцца, ўстае,
Падымаецца, жыве...

Гэта чую я без слоў,
Дык мацнее ў мяне кроў!..

*1914*

## БРАТЫ! ДАКУЛЬ МЫ БУДЗЕМ СПАЦЬ?

Браты! дакуль мы будзем спаць
Страшэнным сном, бо сном магілы?!
Браты! ці не пара ўжо ўстаць —
Да працы ўзяцца што ёсць сілы?!
Ўвакола нас жыццё кіпіць,
Мы — толькі мы — яшчэ спімо,
Калі ж народным жыццем жыць —

Калі мы ўрэшце пачнямо?!
Над намі хмурны вісяць ночы,
І громы бед не будзяць нас,
Бо закрываем свае вочы —
Не бачым, як народ уграз
Ў лятаргу грозным лежымо,
І страх бярэ яго прарваць,
Ды дзіўны сны падчас снімо,
Што трудна нават расказаць...
Што мы — не мы! нам нат здаецца,
Вялікасць інша нас дурыць —
І сэрца шмат каго з нас б'ецца,
Каб як для іншых толькі жыць...
Чужое славіць слаўна імя
Сваёю працаю-крывёй
І жыць ў затрутым славай дыме —
І гінуць... гінуць, Божа мой!
Для краю гінуць — для братоў,
Збяднелых, цёмных і няшчасных,
Што мучацца вось ад вякоў,
Не маючы дзён жыцця ясных...
І гінуці для роднай мовы
Сваіх бацькоў і запрадзедаў, —
Браточак мой! ах, каб ты ведаў —
Страшэнна гэта рэч... гатовы
Хутчэй дык я на смерць лютую,
На вечны ў пекле цяжкі мукі —
Змяніць чым мову на чужую,
Здрадзіцелем чым быці ўнукаў!..

Браты! Кругом жыццё кіпіць,
А мы й далей яшчэ спімо...
Калі ж народным жыццем жыць,
Калі мы ўрэшце пачнямо?!

Даволі спаць! І вон што злое —
Магільны сон пара прарваць...
Нашто нам толькі ўсё чужое?
Пара да працы сваёй ўстаць!..

Пара! Пара! Нясецца стон
Вялікі, громкі з-пад магілы,

Шумяць лясы з усіх старон —
Пара устаць, злучыць нам сілы!
Рука у руку, усе разам,
З вялікай думкаю адной,
Як за цудоўным нам абразам —
Ўсяго народу грамадой —
Павінны ўстаць, ісці мы дружна
Па лепшу долю прышлых векаў!..
Даволі жыці нам з ялмужны!..[1]
Пара мець імя чалавекаў!..

*1914*

## СКУЛЬ У МЯНЕ...

Скуль у мяне
Мора дум —
Дзіўны шум —
Болю мора,
Жалю, гора
Нахлыне?..
Што зрабіў
Я каму?
Не згану —
Што спакой
Святы мой
Загубіў...
Што удзень
Сяк і так —
Усяляк —
Я вось б'юся,
Валачуся,
Моў той цень...
А уночы
Нейка мара,
Думак хмара —
Так нясецца,
Аж вінецца,
Аж рагоча —
Аж баюся...

Чую стон
Ды гамон,
Працы гукі —
Цяжкі мукі
Беларусі...
Далей бачу:
Народ мой
Возе гной...
Хоць маўчыць,
Стагнаціць,
Слёзна плача —
Наракае
На усё —
На жыццё,
Кепску волю,
Горку долю...
І не мае
Ён ўспамогі...
Цішына,
Цемната,
Не відаць,
Не згадаць —
Дарогі...

*1914*

## КАБ БЫЎ МОЛАД...

Каб быў молад,
Я кахаў бы,
Ў холад-голад
Я спяваў бы
Песні веры
Ў свае сілы,
Што без меры
Пружаць жылы...
І ў спадзеі
Лепшай долі —
Праз завеі
Бед, нядолі —

Йшоў бы чынам
Да здабыцця
Братам, сынам
Права жыцця...
А дарогай
Вечнай мэтай,
З думкай Бога
Ўсяму свету
Я каханне
Даў б законам,
Каб з зарання
Аж да скону
Быў тут кожны
З нас шчаслівым —

Калі можна
Ім быць — жывым!..
Каб быў молад,
Я кахаў бы,
Ў холад-голад
Я спяваў бы!..

*1914*

## НА ПРЫМІЦЫЮ[1] кс.[2] Г.

«Каль ўзяўся, браточак, за гуж,
Цяпер не кажы, што не дуж», —
    Так у гутарцы нашай стаіць...
    Раз ксяндзом адважыўся быць,
То ужо ж не аглядвайся ў зад,
Хоць кліча хто — маці ці брат.
    Ты непрыстанна йдзі ўпярод —
    Туды аж да райскіх варот...
Ідзі цераз працу і поты
І ці ёсць, ці няма мо ахвоты —
    Ідзі, пакуль маеш ты сілы,
    Ідзі — аж да самай магілы...
І бойся назад аглядацца,
Каб часам калісьці не стацца —

З вялікага жалю за тым,
Што кінуў, — стаўпом саляным,
Як жонка з Закону Старога...[3]
Ты мей прад сабой толькі Бога
У небе далёкім — высокім
Ды люд Яго ў свеце шырокім...
А ты, мой браток, паміж Імі
Моў Анял які са святымі
Мадлітвамі стой і хадзі,
Каль ёсць дзе нязгода — гадзі.
І шчэ вось адно: дарагі!
Народ наш людзі з горам спраглі.
Жывець ён, мой Лазар[4], убогі —
Помні! З цябе ён чакае ўспамогі!
Дык памятуй вечна аб ім
У думцы і ў сэрцы тваім,
Каб душы збаўляючы з грэху,
Меў ён і земску пацеху!..
Дык будзь жа такім, як наш Збаўца:
Ён мовы і вольнасці даўца
Вучыў у тэй мове народу,
З якога быў целам і родам!..
Прыклад гэта вечны і ясны!..
Жыві жа, працуй і будзь шчасны!..

*1914*

## У ПРЫПАР

Прыпарыла,
Нахмарыла
І ўдарыла!
— Святы Ілля...
Маланка ўраз з'явілася,
Мільгнула і звалілася,
І дожджыкам аблілася
Гарачая зямля.
Кроплі разам, згодна, жвава
Пояць ўсё, што хоча піць:
Збожжа, дрэвы, кветкі, травы,

Вулкі хочуць затапіць,
Б'юць у стрэхі, мыюць шыбы,
Мыюць хаты, мочуць сад,
Ў рэчцы спожыў маюць рыбы...
— Хто ў прыпар дажджу не рад?
Сцішаецца,
Змяншаецца,
Ўнімаецца.
— Няма!
І слонка паказалася,
Маўляў, само купалася;
Прыемна усміхаецца,
Блішчыць, пераліваецца,
Яскрава адбіваецца,
На траўцы, на лісточку,
У рэчцы, ў раўчачочку,
На вулачцы, ў садочку,
Зямля ўздыхае поўнымі,
Шчаслівымі, чароўнымі
Грудзямі усіма.

## ДОБРЫЯ ДЗЕЦІ

Паставілі дзеці сіло. Вераб'я
Хацелі злавіць на пацеху,
Злавілі сініцу, крычаць: — Вой-я-я!
А радасці колькі, а смеху!
Імчацца да маткі: — Сінічка, глядзі!
— А дзе ж вы узялі? — Злавілі,
Дастань ты ёй клетку, хутчэй пасадзі.
— Нядобра вы, дзеткі, зрабілі!
— Мы будзем яе і паіць і карміць,
Спявала б нам птушка прыгожа.
— Ах, дзеткі! ў няволі яна замаўчыць,
Спяваць у няволі не можа...
Успомніце толькі, як нудна сядзець,
Як з хаты мароз не пушчае.
То ж дзень, вам здаецца, як тыдзень ідзець,
Хоць я і усяк разважаю.

А птушку вы хочаце з хаткі яе
Узяць, пасадзіць у чужую...
Не мучце, пусціце, рыбулькі мае,
На волю яе залатую.
І матчыны словы у сэрцах дзяцей
Ласкавыя струны кранулі,
І добрыя дзеці — прыклад для людзей! —
Сініцы свабоду вярнулі.

## САЛАВЕЙКА

Салавейку ўзялі ды з гаю,
Пасадзілі у клетку за краты.
У маю
Тэй страты
Найцяжэйшай дазнаў салаўюшка.

Распусціўся лісток на дубочку,
Апранулась зямелька у краскі;
А ў ночку,
А з ласкі
Не спявае ніхто над рачушкай.

Ой, чаму ж, салавейка, ты болі
Чараўнічых спявоў не счыняеш?
Што волі
Не маеш
І спяваці не будзеш ніколі?

## ДЗЯЎЧАЦІ

Цябе спаткаў і сам не знаю,
Ад сэрца шчырага кажу,
Якую, дзеўча, думку маю
І спеў аб тым які злажу.

Здаецца, нешта ўскаланула
Ў душы маёй ты неўзнарок,
Былога струны закранула, —
Звіняць ледзь чутна аддалёк.
Ці ж будзе час, што нам спаткацца
Яшчэ раз здарыцца калі
І струны сэрца разбрымяцца
У тыя песні, што былі?
Ніхто не скажа! Толькі знаю
І не ўтаюся ад цябе:
Няхай цябе я не спаткаю, —
Пакінеш след ты па сабе.
І ў час, калі гадзінай шарай,
Сярод бязлюддзя, пустаты,
Нуда абляжэць чорнай хмарай,
Праменнем сонца будзеш ты!

## АСЕННІ СПЕЎ

Пойдзем, каханачка, двое
У лес у густы,
Ціхі, бо скончыў сваё панаванне;
Жоўкне, галее, мураўка ў ім вяне,
Чарнеюць кусты.

Пойдзем, галубка, пад дубам
Прысядзем, мая.
Гэнам убачым лістоў ападанне,
Шэлест іх сумны пачуем, шаптанне
І звоны руч'я.

Будзем адны мы на свеце
З табою, адны
Тыя, што прыйдзем у часе скanання
Беднаму лесу сказаць на жагнанне[1]:
— Да новай вясны!

## ПЕСНЯ

Прыказала слонца ветру
Перастаці,
Прамаўляла: «Годзе, ветрэ,
Бусаваці».
Прамаўляла: «Дай жывёлам
Адпачынку,
Перастань жа, ветрэ, дзьмуці
Безупынку».
І ўзышло ў бліскучай шаце
Залатое
І пястуець любым вокам
Ўсё жывое.
Не сядзіцца ветру ў хаце —
Быстраходу,
Не уцерпеў, узняўся бурай
Ад заходу.
Карагоды хмар па небе
Панясліся,
Паліліся з неба слёзы,
Паліліся...

Прамаўляла дзеўча сэрцу —
Ненаглядзе:
«Не хадзі ты вішні есці
Ў чужым садзе.
Не хадзі к другой ў залёты,
Не ўдавайся,
У другія вочкі, любы,
Не ўглядайся».

Лугавой лілеяй дзеўча
Расквітала,
Цалавала сваю ўцеху —
Мілавала.
А няверны той удаўся
За другою, —
З млынароўнай пахаджае
Над ракою.

З млынароўнай жарты строіць
Каля млына,
А дзяўчына сохне, вяне,
Як галіна...

Ой, з-за хмарак ясна слонца
Йшчэ узыйдзе,
Да дзяўчыны ж любы ўвечар
Больш не прыйдзе.

## МЯЦЕЛІЦА

Ой, спаліце, перуны,
Майго Янку, бо дурны!
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не!
Я казала, дый не раз:
Прысылай сватоў да нас;
Татка добры, ён аддасць,
У пасаг — цялушку дасць.
А той Янка, той благі,
Ўсё смяецца — «гі-гі-гі!»
Да таго ж часамі кпіць:
«Ну, чаго табе карціць?»
Ой, праліцеся, дажджы,
А ты, Янaчка, пажджы:
Учыню табе бяду,
За нікога не пайду!

## ХАТКА

Там, дзе сумна, з краю бора
Ў тры вaконцы свеціць хатка,
І з лясной травой гавора
Буракоў і бульбы градка;
Дзе жаўцеюць тры загоны,
А на кожным па дубочку,

Ціха шэпча бор зялёны
І глядзіцца ў ручаёчку;
Дзе чутно, як сонца грае
На праменнях свету горда
І ніколі не змірае
Зык шчаслівага акорда, —
У тэй хатцы, пры тым боры
Асяліліс аж тры горы:
Сын даўно пайшоў ў жаўнерку,
Хоць, здаецца, меў ён льготы...
Ах, згубілі Казімерку
У жаўнерцы тэй сухоты!
Доню мелі... Божа воля!
Выйшла замуж, ён п'яніца...
Што падзееш? мусіць, доля!.
І памерла белаліца.
Мелі месца. Хлеб трымаўся,
Быў рызман, хаця і зрэбны,
Пан ляснічы штосьць ўзлаваўся:
«Вы мне, кажа, непатрэбны...»
Аж тры жалі, аж тры горы,
Там у хатцы, там пры боры!

## ДВА КАХАННІ

У аднэй Марылі, маладой дзяўчыны,
Быў каханак Яська, вагнявы хлапчына.
Што ні вечар прыйдзе, што ні ночка стане,
А ў іх у садочку аб адным шаптанне:
«Дадушы, — Марыля свайму Янку кажа, —
Хіба смерць без часу нас з табой развяжа».
«Не кажы няпраўды, — малайчына вучыць, —
Нас ні Бог, ні людзі і ні смерць разлучаць».
І сядзяць і шэпчуць да зары-світання,
Былі вішні ў садзе сведкі мілавання...
А настаў дзянёчак — да Марылі ў сваты
Прыляцеў панічык, шляхцючок багаты,
І дзявоча сэрца, — ах, слабое, знана! —
Перайшло ад Яся да другога пана.

Хіба ж Ясь заплакаў? Не з таго дзесятку!
Пакахаў другую, пакахаў Агатку.
І цяпер, як цемразь западзе над вёскай,
Ён сядзіць з Агаткай пад старой бярозкай;
Пралятаюць змрокі неўсцярэжна хутка,
І ўся ноч здаецца, як адна мінутка!
А жыла ж Антоля, — мусіць, мела долю,
Ды згубіла долю ў шырокаму полю.
Мела двух прыгожых, мела двух каханкаў,
І адзін быў Янка, і другі быў Янка.
(Дзве́ душы няродных ў адным целе жылі
І дзяўчыну кожна паасоб любілі.)
Адзін з шчырым сэрцам, а другі з няверным
Надарылі дзеўку жалем непамерным.
Як адзін цалуе, ненагляду песціць,
Дык другі мяркуе, як бы абясчэсціць.
Як адзін ў садочку з любай пахаджае,
То другі у прочкі ў думцы ад’язджае.
Як адзін бажыўся, абяцаў жаніцца,
То другі у лыжцы жычыў утапіцца.
І ў канцы-ся стала, чаму было стаці:
Прычытала маці над дачкой у хаце:
«Ах, мая дачушка! А мая ж рыбулька,
А мая ж ты птушка, а мая ж зязюлька!
А чаму ж ты, доню, губкі сашчаміла?
А чаму ж ты, дзеткі, вочанькі закрыла?
А чаму, дачухна, міла не ўсміхнешся?
А чаму, красухна, мне не адгукнешся?
Што ж табе не добра, што ж было не міла?
Ці ж тваю галоўку не сама я мыла?
Ці ж тваю сарочку не сама я ткала?
Ці ж тваеі смерткі я, скажы, чакала?..»
Так было з Антоляй, што не мела долі
Ці згубіла долю ў каласістым полі.
Як жа тыя злыдні? Хоць адзін шкадуе?
Э! адзін часамі, а другі ганьбуе.
Як былі ж абодва у ядыным целе,
Дык жаніўся Янка і згуляў вяселле.

# ХМАРЫ

Бягуць, ідуць па небе хмаркі —
То цёмныя, то палавыя,
То белыя — маўляў жывыя
Разветру небнага пачваркі.
Бягуць... куды? чаму? ды скуль?
Ідуць... навошта? што ім трэба?
Іх вецер гоне — гулль і гулль...
Гуляюць хмаркі, крыюць неба.
Лятуць над высямі-даламі
І над вясковым цёмным борам,
Ў дарозе вечна, вечна самі,
Лятуць адны з сваім прасторам —
Маркотна, цяжка, з краю ў край...
І, мусіць, трудненька жыць ім,
Бо дзе прыкмецяць земскі рай
Са збожжам, кветкамі, з усім,
Што слонейка ды ніўка-маці
Ў злучэнні зродзяць цудны дары,
А чалавеку, моў дзіцяці,
Даюць як плату і ахвяру...
Збяруцца хмаркі грознай тучай
Ад думак горатных нядолі,
А цяжкасці, што іх так муча,
І дрогнуць громам над палямі...
Пачнуць свяціць маланак блыскам
Ды біць грымотна перунамі,
Над нівай звісшы нізка-нізка,
Заплачуць буйнымі слязамі...
Пачнуць дзяліцца, йсці далей —
Ў бяскрэсным пустыры-прасторы,
Бягуць ужо йзноў — як раней...
І так заўсёды — ноч і дзень —
Лятуць над высямі-даламі...
Зямлі кідаюць сумны цень
І плачуць частымі слязамі.

*1914*

## СЛОНЦА

Слонца праменна,
Вечна-штодзенна
Ходзе над намі —
Толькі вачамі
Бачым не ўсёды:
Хмар карагоды
Крыюць праменні...
Мы тагды ў цені
Ходзім, працуем,
Долю гаруем...
Робімся сумны —
Ды, не разумны,
Трацім надзею,
Верыць не смеем,
Што хмар не будзе,
Што слонца людзям
Твару пакажа,
Што сілы ўражы
Цемры, марозу —
Жыццёвай грозы —
Злечыць, злагодзіць,
Жыцце адродзіць.

Бо слонца сіла
Вечна-штодзенна,
Добра ды міла
Слонца праменна!..

*1914*

## ПРАВОДЗІНЫ

Браце мой любы!.. Ідзеш на вайну...
— Кліча агульны прыказ...
Кінеш радзімую ты старану,
Кінеш сямейку і нас!

Можа, не ўбачымся болей з табой —
Бог яго ведае, брат!
Як праканаціся ў долі сляпой:
Пусце? — не пусце назад?

Сорам і ганьба для свету вайна,
Як ні мяркуй, ні судзі;
З боскіх законаў смяецца яна...
Мусіш, аднак жа... Ідзі!

Йдзі, не трывожся: маленькіх тваіх
Будзем карміць, даглядаць,
Ў разе ж... дай Бог, каб вярнуўся да іх!..
Будзем, як ты, гадаваць.

Гэтак... І ўсё, што хацеў я сказаць?
Пэўне, усё... Пачакай!
Нам пастарайся адтуль напісаць,
З думкі сваіх не спускай.

Потым... Пасунуцца ў бітву палкі —
Ты баязлівым не будзь:
Смелага сэрца не раняць штыкі,
Кулі яго не праб'юць.

Будзе праціўнік пабіты ляжаць, —
Ты пашкадуй яго, брат!
Раны завяжаш, паможаш устаць, —
Й ён чалавек і салдат.

Брат, у далёкай сваёй старане
Мае ён дзетак, сям'ю...
Помста ці хцівасць цябе як штурхне,
Ўспомні сямейку сваю.

Старасці, цноце не помні ураз,
Гэтым сумлення не плям.
Быў чалавекам ты, браце, у нас,
Будзь чалавекам і там.

Мы у Вялікага будзем прасіць,
Ты каб вярнуўся здароў...
Н-ну! — развітаемся... Сэрца баліць...
Дай жа абнімемся зноў!

*1914, 14/VIII*

## БАЖАННЕ[1]

Не прашу я, Божухна, скарбамі ўладаці, —
Дай мне толькі сілы зарабляць, каб жыць,
Каб і ў дзень, як прыйдзе мне душу аддаці,
Хлеб я свой штодзённы працай мог здабыць.
Не прашу я, Божухна, Твайго свету знаці —
Ўсе пачаткі, змены, і канцы, і рух, —
Дай адно людскую праўду мне паняці
І яе быць верным, найпадданьшым з слуг.
І усё тут, Божухна, чым патурбаваці
Я хачу сягоння, просячы Цябе:
Дай мне праўду знаці, і ў людзях спаўняці,
І заўсёды з працы хлеб свой мець сабе.

*Барка на Лене, 1914 г.*

## ЗАВІРУХА

Завіруха скача ноччу
Патарочай, плача, вые;
Пухавыя сыпе ў вочы
Снегавінкі мне; рагоча.
Йду навобмацк; ледзь жывы я,
Нежывыя суну ногі
Без дарогі. Цела ные,
Калянее; верставы я
Прамінаю слуп убогі,
Траярогі крыж збуцвелы,
Пасівелы, цёмны, строгі.
Не чакаю дапамогі...

Прыступае нехта белы,
Асмялелы. Вот ўсцігае,
Акаляе, скамянелы,
Пасінелы, — абнімае.
Завіруха —
Рагатуха сыпе снегу
І ў прабегу шэпча ў вуха:
«Заначуеш — не пачуеш:
Я завею, я угрэю,
Зараз ляжаш, дзякуй скажаш,
Мне ты скажаш». Завіруха —
Рагатуха шэпча ў вуха.

Ажно чую: раптам злая
Улягае, уціхае
Завіруха. Замірае.
Праясняе ў полі. Нікне,
Ані зыкне вецер-сватка.
Бачу — хатка.
Як тры зоркі, тры ваконцы
Пры гасцінцу. Вераценцы
Дыму ў неба ўюцца, пнуцца.
Хатка, вокны, дым смяюцца,
Клічуць, вабяць, сустрачаюць,
Прывячаюць, запрашаюць.
Голас чую родных, мілых.
Ўзмацаваўшыся на сілах,
Крыкнуць рады: «Згінь ты, гора».
А яно ў адказ гавора:
— Над табою
Снег гурбою.

*1914 г. Сыбір*

## ПЕСНЯ

Віхар шугае у полі,
Грушу на межы калыша —
Выйшаў шукаць я долі,
З роднай вёсанькі выйшаў.

Цеснай мне была хаціна,
Вузкім вясковы загон,
Нудная проста дзяўчына...
Меці хацеў я разгон

Жыцця ў вялікім замчышчы,
Горнай кароне лясоў,
Громы вясёлых ігрышчаў,
Пекнай дзяўчыны любоў...

Некалькі лет мінавала,
Свету я многа прайшоў:
Болю і гора нямала
На тэй дарозе знайшоў.

Віхар шугаў, ды не ў полі,
А па зялезных дахох;
З сумнаю горкаю доляй
Хоцькі ды сам сябе спрог.

Места жаданых прастораў,
Горнай краіны лясоў,
Паміж паддашных я нораў
Нейкі прытулак найшоў.

Места вясёлай музыкі,
Мела што ёмка іграць, —
Чутны праклёны і крыкі, —
Вулічны гуты бразджаць.

Места дзяўчыны каханай —
Продаж і купля адна...
Ах, чым так людзі паганы?
І чым няшчасны так я?..

Годзе! даволі! цягацца,
Жыць жабраком гарадскім —
Трэба да працы узяцца
Хоць на загоне вузкім!..

Кіну нязбыты жаданні,
К роднае вёсцы пайду —
Там я дзяўчыны каханне
Сэрца прастога найду.

Цеснай не будзе мне хата,
Жыцце цяпер я пазнаў:
Той ёсць шчаслівы, багаты,
Хто сваё родна ўкахаў...

Віхар шугае хай ў полі,
Грушу на межы калыша —
Выйсці, шукаці ўжо долі
З вёскі ніколі б не выйшаў.

*1914*

## ГІМН РОДНАЙ МОВЕ

О, мова родная мая!
Вяскова, проста, а святая —
Хацеў бы свету крыкнуць я,
Што сэрцам ўсёгды паўтараю:
Хвала табе! О, цярпліва,
За муку вечную тваю —
Дагэтуль ты ўсяму надзіва
Схавала моц вялікую...
Не згінула... мерлі хаця
Прадзеды, дзеды і іх ўнукі —
Табой ж гаворыць іх дзіця,
І зноў ты, мова, церпіш мукі...
Хвала табе! Бо дні вякамі
Ішлі над гэным светам ўсім,
А ты трывала ўсцяж і з намі...
Хвала табе — табе і ім,
Хто здрады ў жыццейку не знаў,
Нягледзячы на хмары бед,
Хто ўсцяж табою стараваў,

Сцярпеўшы здзекаў пераслед.
Хвала табе! Прайшло ўжо тое...
Хоць не зусім, але мінецца:
Пачулі мы, што нам святое
І да чаго сардэнька б'ецца...
Хвала табе! О, дарагая!
О, беларуска проста мова!
Што сон магільны прарываеш,
Нясеш нам знак на жыцце нова!
Хвала табе! Вяліку справу
Спраўляеш ты між нас сярод,
Адвечнай кормячы нас стравай,
Даеш салодкі жыцця мёд.
Хвала ж табе — на кожным месцы
Па вёсках ўсіх ды гарадох,
Па Беларусі кожнай рэсцы
Гудзеў бы я, каб толькі мог!..
Хвала табе! — гудзеў бы ўсім,
На ўсю Бацькоўшчыны зямліцу,
Каб толькі вось братом сплючым
Дапамагчы са сну збудзіцца...
Хвала табе, о, родна мова.
Шапочуць лісці, рэчкі, зоры —
Гаворыць поле скрозь вяскова,
Грымяць лясы, прыгоркі, горы...
Хвала табе — няхай ж нясецца
Па Беларусі ўсёй шырокай...
Да сонейка няхай ўздымецца,
Да зорачак ў высі высокай!..
Хвала табе няхай жа будзе
У кожным сэрцы, ў кожнай грудзі?
І ад малога, й ад старога,
І ад мяне, сына тваёга, —
Хвала табе!..

*1914*

* * *

Развaж, гаю зеляненькі,
Маё сумаваннейка!
Няма, чуеш, дзяўчынанькі,
Маёга каханнейка.

Жыве, праўда, няверная,
Мая прываротніца,
З другім недзе мілуецца,
За мной не маркоціцца.

А мне цяжка, убогаму,
Трываці самотнаму;
Хаджу, ліха шукаючы,
Па свеце журботнаму.

Развaж, гаю зялёненькі,
Маё сумаваннейка!
Спачыць дай стамлёнаму
Ад слёзаў каханнейка.

*1914*

## НА ВАРЦЕ

Стаіць ён на варце, і плюшчацца вочы,
А цела хацела б пайсці на спакой
Заснулі бажання, нічога не хоча,
Не можа крануці рукой.

Тры месяцы з дому... Сабраўся ад жніва,
З народам паходам пайшоў ваяваць...
Успомніцца часам — як там, ці жывы?
А хто дапамог ім звазіць, паараць?

Тры месяцы з дому... Акопы, атакі,
Гарматы, гранаты і тысячы куль...

А як там у хаце мае небаракі, —
Ніякае звесткі адтуль?

Каруся адна... Ці памогуць суседзі?
А хіба ж маглі бы іначай зрабіць?!
Бо маюць жа сэрца, і ён, як прыедзе,
Здалее за ўсё і усім адплаціць.

Суседзі памогуць!.. Што ж дзеецца ў вёсцы?
Ці спорны, ці чорны удаўся там год?
Якое надвор'е, ці снег, ці марозцы,
Ці, можа, завеі? Які ж умалот?

Стаіць ён, вартуе, зліпаюцца вочы,
І цела хацела б спакою, заснуць...
А сэрца спакою не знае, не хоча,
А думкі ад варты лятуць ды лятуць!

*Люты, 1915 г.*

## ПЕСНЯ КАПАЧОЎ*

У цяжкай працы мы жывём,
Спачынку мы не знаем,
Ядзім нясмачна, горка п'ём,
А што за гэта маем?
Пагарду тых, каму ідуць
Работы нашай плёны,
Што нашай працаю жывуць
Ўспаёны і ўскармлёны.

---

* «Капачамі» называюцца на залатых прыісках людзі, каторыя, не працуючы, як іншыя работнікі ад гаспадара, ці працуючы толькі для віду, займаюцца дабычай золата на сваю руку з старых шахтаў, пакінутых пяскоў і г. д., што забараняецца як гаспадарамі, так і горнай паліцыяй. Гэта смелыя, адважныя, спрытныя людзі, часта багатыя, працуючыя толькі дзеля мілавання капацтва, з вялікай асабістай амбіцыяй і з асабліва гостракрытычным стасункам да сучаснай сацыяльнай няроўнасці. *(Тут і далей заўвагі А. Гаруна.)*

Руку нам грэбуюць падаць:
Ім простасць разіць вочы,
Душы не хочуць ў нас прызнаць,
Бо мы — народ рабочы.
Глядзяць на нас, як на сваіх
Валоў нямых, бясслоўных:
Працуй, працуй ды слухай іх,
Тваіх паноў знароўных.
Сваёй не важся воляй жыць,
Стлумі свой розум просты:
Парадкі іхнія судзіць,
На гэта — не дарос ты!
З дзяцінных дзён аж да труны
Цярплівасці нас вучаць,
Спрабуй не слухаць іх — яны
Без літасці замучаць.
Ў адно змяшаныя з быдлём,
Мы так жылі адвеку,
Аднак мы хутка зажывём,
Як следна чалавеку.
Панамі ў свеце будзем мы
І свой лад пастановім, —
Насталім толькі ўсе ламы
І дзюбы кайл* падновім!

*Прыіск «Пракопьевскій». Зіма 1915 г.*

## У ЧУЖЫНЕ

Думы

Якія жальбы?! Нашто мне плакаць?
Прад кім, з чаго?
— Свет людскі крывёю зліты,

* «Кайла» — начынне накшталт аднадзюбага малатка, каторым рудакопы выкалупываюць і выбіваюць з зямлі патрэбны ім пласт пяску з цяжкаю рудой, каменным вуглем, залатым пяском і г. д.

Цяжкім болем твар парыты, —
Твар яго!

Ну, што ж, няволя? Няхай, нядоля?
Сцярплю я сам.
Там, у вайне абнятым краі,
Смерць збірае ураджаі, —
Косіць там!

Няхай памру я... адзін... ў чужыне...
— Няхай! гатоў.
Там, дзе гром, дзе свішчуць кулі,
Сном апошнім шмат паснулі,
— Шмат братоў!..

Пакінь жа, сэрца, тужыць аб волі
Цяпер, пакінь!
Злійся з горам бедных матак,
Жонак, дзетак, ніваў, хатак
Ці загінь.

*1915 г., 1 марца*

## ЧАЛАВЕЧАЯ КРОЎ

Гэй ты, людская кроў, чалавечая кроў,
Разліваешся ты па зямліцы.
Ад пачатку людзей, ад пачатку вякоў,
Ад граніцы яе да граніцы.

Не шкадуюць цябе, неашчадна ліюць,
Мэрам ты і не варта нічога,
Па калені ў табе пасуваюцца, йдуць...
А куды? — без адказу дарога.

За дабро, дзеля зла праліваюць цябе,
Дзеля крыўды і скрыўджанай праўды,
Дзеля старых багоў ў маляваным грабе,
Дзеля новых — нязнаных запраўды.

І здаецца, няхай прабягуць, пралятуць
Векі цэлыя братняе згоды,
Ані высахнеш ты, будзеш чэмерам труць
Кожнай радасці людскае ўсходы...

Разліваешся ты, чалавечая кроў,
Безнадзейны усякія лекі,
І няма на цябе лекароў, знахароў
Запыніць, зачыніці навекі.

*15 марца 1915 г.*

## У НОЧ НА НОВЫ ГОД

Сяджу я адзін у святліцы
З душою, агорнутай сумам.
Гадзіннік стары на паліцы
Ўтуруе[1] самотлівым думам.

Усё прамінае у часе:
Няволя, самота, пакута, —
А йшчэ што у долі ў запасе?
«Дванаццаць гадзін і мінута».

Жыццё уцякае нязначна,
Па хвілечцы хвілька. Чаму ты
Не ловіш яго, неабачны?
«Дванаццаць гадзін, дзве мінуты».

Без следу, без знаку, цень ценню
Праз жыцце ідзеш у труну ты.
Якое ж найлепшае менне
Тваё, чалавеча? — «Мінуты!»

*1916*

## ТРЭНЫ[1]

З гадоў няволі

Беларускі мой радзімы краю,
Чым ты стаўся горшым перад светам —
Строгім гэтым...
Цяжкім лёсам ён за што цябе карае —
Забівае?
Скрозь пажэжа, пусткі і руіны,
Скрозь нядоля, голад і галота,
Скрозь стагнота.
Тут — што людзі! — ў полі кожная быліна —
Сіраціна.
Падрабнеўся твой народ на часці,
Зносіць ён благое ліхалецце
Па ўсім свеце,
Апынуўся дзе, раскіданы няшчасцем,
Злой напасцяй.
Перад гэтым быў ты, край, багаты,
Меў лясы, бязмежныя, як мора, —
Гора, гора!..
Павыгублена ўсё. Дзе людзі, дзе гарматы,
Спраўцы[2] страты.
Дык прызнайся ж мне, радзімы краю!
Завініўся чым ты перад светам:
Гневам гэтым
На цябе нялюдскім ён за што палае,
Так карае?

*Зіма 1916 г.*

* * *

Не журуся, што не маю
Дзён шчаслівых!
Што ж такое,
Мусіць, доля мая — гора
Векавое...
Не журуся, што ўздыхаю
Па айчыне

На чужыне!
Мусіць, доля, што і жыцце
Тут загіне...
Не журуся, што здароўе
Гора з'ела,
Што не служыць!
Хто ні ў чым не знае шчасця,
Той не тужыць.
Жыцця, шчасця і здароўя
Я не маю.
Што ж такое, —
Неяк з часам дацягнуся
На спакой я.

*1916*

* * *

Добры вечар, мой Язэпка[1]!
Добры вечар, мой каханы!
Мой ты браце, мой зямляча,
Мой ты дружа неслухмяны.

Ці ж не я прасіў астацца
Гэтта зімку зімаваці,
Каб хоць зрэдку ды спаткацца,
Разам хвільку скаратаці?

Не! Папоў яму мілейшы,
Ён прыяцель, кум і сват!
З кім Язэп, а з гэтай шэльмай
Хоць у пекла ехаць рад!

Што ж ты выйграў? «Дон Отэлло?»[2]
Ёсць жа «Чуда» ў Бадайбе.
Мо прысватаў там дзяўчыну?
Ой, не лжы, брат, не табе!

Можа, службай выйграў гэнам, —
Больш там пэнсыі[3] бярэш,

Лепш ясі, чысцей там ходзіш? —
Не паверу, хоць зарэж!

Служба й гэтта — чым не служба?
Ганіць — значыць саграшыць:
Можна й выспацца, й пад'есці,
І гульнуць, як набяжыць.

Што й казаць — ты выйграў мала,
«Як на мыдле пан Заблоцкі»[4],
Як той хлопчык, што [то] брату
Каўбасу змяняў на клёцкі.

«Ніц не зробіш», бо «рызыка» —
Гэта звычай шляхціцовы.
«Не шкадуе той валоссяў,
Хто ужо не мае гловы»[5].

Мушу скончыць наракання,
Бо не бачу з іх карысці.
Ты ж далёка — не дастануць.
Будзе час яшчэ калісьці!

Не сярдуй, што гэтак лаю:
Сумна, прыкра, вось і мушу
Хоць над тым, каго я знаю,
Адвясці на момант душу.

А на сэрцы, браце, гэтак, —
Хоць ты вешайся ад болю.
Думкі б'юцца, як бы птушка,
Хочуць вырвацца з няволі.

Ветрам дзікім паляцеў бы,
Воўкам нёсся бы галодным, —
Толькі б згэтуль адпусцілі
На відзенне з краем родным.

А трымае злая сіла,
І няма з ёй сілы біцца;
І няма душы спагаднай,
З кім бы горам падзяліцца.

Напішы ж ты мне, Язэпка, —
Ўспомні, брат, аб нашай дружбе,
Аб усім, што гэнам бачыш,
Аб сваім жыцці, аб службе.

Як ты час праводзіш вольны,
З кім там знаешся, гамоніш;
Як ты журбу, як ты гора
Ад сябе штодзенне гоніш.

Буду дзякаваць за гэта,
Буду знаць, што ёсць жа гдзесь
Мой Язэпка, мой каханы,
Мой прыяцель...
Твой Алесь.

*1916*

## ПАХОДНАЯ

Загрымелі ў барабаны,
Заігралі ў трубы —
Раскаціўся грукат грому
Чалавечай згубы.
Закурылася дарога,
Заіржалі коні,
Праваджала маці сына
Па зялёнай блоні[1].
Залівалася слязамі,
Каля стрэмя йдучы:
«Завісаюць над табою,
Галубок мой, тучы...
Загнятуць цябе марозы,
Мой пякнюткі квеце,
Астануся я зязюлькай,
Сірацінкай ў свеце...»
Пацяшаў яе хлапчына:
«Супакойся, мама,
Не навекі ты за мною
Зачыніла браму.

Яшчэ будзе вараненькі
Капыцікам біці:
— Выйдзі, выйдзі, гаспадыня,
Сыночку адкрыці!..
Яшчэ будзе вараненькі
Весела іржаці:
— Выйдзі, выйдзі, гаспадыня,
Сыночка ўстрачаці!»

*1917*

* * *

Хто сказаў: «I я з народам»,
Хто з ім поплеч стаў, як з братам,
Хто пайшоў з ім роўным ходам
К роўным зыскам, к роўным стратам, —
З тым і я. Няхай жа ліча,
Будзе трэба — хай пакліча.

Хто ж сказаў, а потым здрадзіў,
Хто пайшоў, а потым кінуў,
Хто ў душы сумленне згладзіў[1],
Ў кім апошні сорам згінуў, —
Хай дрыжыць. У дзень прысуду,
Ў страшны дзень, я сведчыць буду!

*1917*

## ЛІСТОК I НАДЗЕЯ

Высока-высока
На дрэва галінцы
Дрыжэў адзінока
Лісток на вярбінцы, —
Маленькі, зжаўцелы,
Ледзь-ледзь ён трымаўся,
Баязна, нясмела

Усцяж калыхаўся...
І неяк нат крыва
З галінкі вісеў,
І ветру парываў
Лісток не хацеў...

Глыбока-глыбока,
Бо ў душы аж недзе,
Дзе людскае вока
Ужо не загледзе,
Апошня надзея
Жыла ў чалавеку
На лепшыя дзеі
У гэнашнім веку...
Слабенька-слабенька
Трымалася сэрца, —
Ён сам нат ціхенька
Адкрыць свае дзверцы
Прад злосцяю свету
Баяўся, не смеў,
Надзею каб гэту,
Каб віхар не змеў...

Ды восені познай
Насталі дзянёчкі,
І сумнасцяй грознай
Навіслі і ночкі;
Ды ў цемры вялікай
Пачаліся гулі —
Асенняй музыкай
То ветры падулі.

Апошню надзею
Ў душы чалавека
Зглуміла завея
Бед, гора і здзекаў...
І частка душы
Лягла у балоце
І гіне ў цішы
Пры жыцця паходзе...

*1917*

## ПЕСНЯ

За рэчкай, за рэчкай
Шуміць, шуміць бор, —
Прыехаў Ясечка
У панскі двор...
Цёмны ходзяць хмары
Па небе высокім, —
Ці будзе ён ў пары,
Ці мо адзінокім?..
Грозна б'юць пяруны,
І зіхціць маланка, —
З конікам-скакунам
Стаў ён каля ганку...
Шуміць навальніца
З неба палавога, —
Вокны ў вакяніцах,
На ганку нікога...
У дзверы пастукаў
Сільнаю рукою, —
Толькі пярун грукаў
Недзе за гарою...
Зразумеў нядолю,
Нядолю сваю, —
Неба, плач ты болей,
Мый чорну зямлю...
Сталася, як людзі —
Суседзі казалі, —
Бура усцяж гудзе:
Няма яго кралі...
Вывез бацька дочку
Недзе за граніцу,
Вывез ў цёмну ночку —
Ў буру-навальніцу...
Дык грымі ты, неба,
Свяціце ж, маланкі, —
Нічога не трэба,
Калі няма Ганкі...
Дык шумі за рэчкай,
Бор, шумам вялікім, —
Каб зглушыць у Ясечкі
Сэрца болю крыкі!..

*1917*

## НА ПЛАЧ МЯНЕ ЗАБІРАЕ

На плач мяне забірае:
На ціхі плач,
Страшэнны плач
Без сілы...
Стаю на распуцці
У пушчы бяскрэснай,
Счарнелай, жалобнай,
Замёрлай, —
Без крышкі надзеі
Спаткаці жывое,
Хоць сэрца маё поўна
Вялікім жаданнем:
Не быці адному,
Кахаць, што ёсць годна
Кахання людскога,
Хоць думкі вялікі
Ўсялякіх пытанняў,
А часта і адказу,
Вінуцца, нясуцца,
Быц нейкія хмары,
Што цёплым дажджом
Не могуць праліцца
На чорную землю...
Так мыслі адказам
Ясным не могуць
Сказацца —
На страшны пытанні
Жыццёвы!..

І моўчкі стаю я
На жыцця распуцці,
Ўсяго бездарожжы...
Без сэрца кахання,
Без дум адказання,
Без сілы жыццёвай,
Без ўсякае сілы!..
І б'ецца напрасна
Ў грудзях маіх сэрца,
І рвуцца так думы,
І гасне душа...

Бо нават не маю
Я гэнай пацехі,
Каб ў сенкі ці жары
Духоўны —
Хацення пытання,
Каб высказаць словам
І кінуць ў твар людзям
Страшэнныя праўдай,
Магучыя словы...
Усцяж стаю моўчкі,
Ў сабе я тамлюся...
І чую, што робіцца
Здзек мне вялікі,
Вялікая крыўда...
А я ўсё ж без сілы
Стаю... чую, — болей
Ды болей на плач
Мяне забірае...
На ціхі, страшэнны,
На плач безгалосны,
На плач бясслёзны...

*1917*

## ТРОХЛІНЕЙКА-МАГАЗЫНКА

То не дудка мая,
Не жалейка, —
Гэта стрэльба мая —
Трохлінейка.
Бараніла мяне,
Даглядала,
На сваёй старане
Пільнавала.
Я ў астрозе сядзеў
Прад вайною,
Бо свабоды хацеў
Ды з зямлёю,
Сабіраўся ўцячы, —
Не ўдалося, —

Магазынак... сваіх
Не знайшлося.
Па астрозе папаў
Я у войска,
Навучалі мяне
Тут па-свойску:
Мала костак усіх
Не зламалі,
Трохлінейку за то
Даравалі.
З ёй цяпер я ужо
Не расстаўся
І свабоды пры ёй
Дачакаўся.
Ну, пацеха мая,
Журавінка,
Трохлінейка мая —
Магазынка.
Мы цяпер зажывём
Па-другому, —
Не падданы чарту
Ніякому;
Будзем мы ваяваць
Для народу,
Бараніці наш край
І свабоду...

*1917*

## АДЛЯЦЕЛА ДУША

З няволі

Ах, згубілась душа! Не жывець у грудзях,
Адляцела кудысь і прапала.
Напужала няволя, — ў нудзе па людзях
Падалася на свет, змандравала.

Як прасіла ж мяне! «Адпусці, не трымай!
Ці ж лягчэй, што я гэтта загіну?

Што табе за карысць? Лепш адзін памірай,
Не прасі мяне, любы, — пакіну!»

Што было мне пачаць? Адпусціў я. «Ідзі! —
Адказаўшы дружыне каханай. —
Але слухай: прашу, заклінаю, знайдзі
Край на свеце — сіроцкі, забраны.

Мусіш ведаць яго і адразу пазнаць
Той відок, апавіты журбою,
Што сьвяты мог спакой на усё насылаць...
Гэта край наш радзімы з табою.

Дык ідзі ж, паглядзі, што зрабілася там!
Кроў змяшалася з попелам, з глінай,
Незрахована страт, няма ліку слязам
Над спакою былога руінай.

І заплач над усім, як заплакаў бы я,
Калі б мог я з няволі урвацца,
І лягчэй мне тады будзе, люба мая,
З гэтым светам ў няволі расстацца».

Дзень праходзіць за днём, надышла і зіма,
Туга цяжкая ў сэрца запала...
Адляцела душа, і няма, і няма,
Заблудзілася дзе ці прапала?..

*1917*

## ЖЫЦЦЁ

Жыве спакойна вол пад тым ярмом сваім,
Намуляў карк. Мазолі, скрозь мазолі!
Падкінуць сена жмут — яму й таго даволі.
І лёс мізэрны свой не назаве благім.

Цярпліва зносіць ён нявыгады жыцця:
Няхай яго часамі злаюць ліха,

Хай свішча страшны біч, — пакорліва і ціха
Ідзе разораю. Кіруе ім дзіця.

Жыві ж спакойна, вол, хадзі ў сваім ярме,
Цягай плугі і лій свой пот на пана,
Хаця не ведаеш, якая рэч пашана.
Нашто яна табе? Сляпому добра ў цьме,
Лягчэй ісці яму дарогаю жабрачай...

А ты — жывёлаў цар? Ці ж ты жывеш іначай?!.

*1917*

## БАГАТЫ ВЫ

Багаты вы,
Мае паны,
Грашыма...
— Сваіма?
Дык бедны вы,
Мае паны,
Ў палацы...
— Да працы...
Багаты вы,
Мае паны,
Зямлёю...
— Сваёю?
Дык бедны вы,
Мае паны,
Работай...
— Ахвотай...
Багаты вы,
Мае паны,
І сілай...
— Змарнелай...
Дык бедны вы,
Мае паны,
Гадамі?
— Не! — днямі...

Багаты вы,
Мае паны,
Навукай?
— Не! — штукай.
Дык бедны вы,
Мае паны,
На розум...
— Цвярозы.
Багаты вы,
Мае паны,
Хаценьмі...
— З-пад цемні...
Дык бедны вы,
Мае паны,
Паверце...
— На сэрца...
Багаты вы,
Мае паны,
Шмат чым...
— Чужым...
Багаты вы,
Мае паны,
Кругом...
— Больш злом!..

*1917*

## ШЧАСЛІВЫ ТОЙ

Шчаслівы той,
Каму здаецца,
Што з доляй злой
Ён размінецца...
Што шчасця мець
Хвіліну будзе,
Што будзе пець,
Што зло забудзе...
Шчаслівы той,
Каму надзея
Хаця парой

Ўдалі яснее
І за сабой
Яго вядзе...
Шчаслівы той,
Хто верыць-йдзе...
Шчаслівы ён,
Шчасліў-шчаслівы,
Хоць нават сон
Жыцця фальшывы
Пасля загіне
І расплывецца, —
Ён ў магіліне
Ўжо апынецца,
Пражыўшы век
Ахвяр цярпення —
Адвечны здзек
Пад шчасця ценьмі...
І не зазнаўшы
Тых мук распачы,
Хто, ўсё згубіўшы,
Ужо й не плача...
Бо і не можа:
Згубіў надзею...
Азвацца — «Божа!»
Нават не смее...

Шчаслівы той,
Каму здаецца,
Што з доляй злой
Ён размінецца!..

*1917*

## НАВУКА

Казаў настаўнік мне (ён блізкі быў Прароку,
Які жывым узняўся ўвыш, ў блакіт нябескіх сфер):
«Мой сын, з пачатку мы падуладны пану-Року —
У гэта вер.

Які бы крыж табе ні выпаў ў жыцці гэтым:
Галеці век чы быць царом і царскі мець пасад,
Ў балоце броснеці чы йсці к нязнаным мэтам, —
Яго загад.
І вось калі табе трываць не хопіць змогі,
І цяжкім здасца крыж табе і доля вельмі злой,
Не трэба, сын, шукаць лягчэйшае дарогі, —
Ідзі старой.
І мусіць час настаць: убачыш свет праменны, —
Ідзець ўладар адвечны твой, яго спаткай здалёк,
Уздзеўшы бітвы меч на свой паяс раменны.
І скажа Рок:
"Ідзі хутчэй, слуга! Спавіты свет маркотай,
Ў ім крыўды легіён забраў зямлі апошнюю чвэрць,
Нясі ж свой праўдзе меч. — Мой сын! ідзі з ахвотай
На чэсць і смерць".»

*1917*

* * *

Эх, сягоння, ў гэту ночку
Я ўцяку адгэтуль проч!
Шэрым воўкам па лясочку,
Хай дагоніць, хто ахвоч!
Хай тагды сярод дарогі
Станець хто — не будзе рад:
Чорны вуж абкруціць ногі,
Буду вужам, буду гад!
Хай тагды шукаюць ў лесе
Цёмных, вузкіх, воўчых троп!
Як арол у паднябессе,
Я ўзлячу над земскі строп.
Ў небе роўным, чыстым шляхам
Яснай зоркай палячу
І скачуся па-над дахам
Роднай вёскі і ўскрычу:
— Гэй, хто ёсць тут! Люд галодны,
Люд пакутны! Да мяне!

Станьма, брацця, ў шых паходны —
Наша гора праміне.
Досыць нам з нядолі віці
Ценкі жыцця свайго пас,
Слухай, люд: прынёс я віці[1],
Хто за мною, брацця? Час!
Ўстануць, рушаць: «Проч з дарогі!
Хто нам хоча заступіць?
Мы пайшлі, мы, люд убогі,
Ўсё узяць ці ўсё згубіць...»
Думкі, думкі-звадыяшкі,
Ах, не мучайце мяне!
Вам ўсё гульні, а мне цяжка,
Мне няволя не міне...

## НА СМЕРЦЬ

Памёр ты, татачка, ўспакоіўся навекі!
На вочы сумныя насунуліся векі,
Прыціснула іх смерць мацней за чужанца.
І вот айца
Не стала, родны мой, ад смерці тваяе.

О, смерць без літасці, ратунак ты і кара!
Нашто ж яму, як тая чорна хмара,
Заслонай вечнаю ты стала прад вачмі?
Скажы, слязьмі
Нашто пасквапілась радзіны ты мае?

Ах, родны, блізкі мой! Гаротны і бяздольны,
Жыццё сваё, той шлях, няўдатны і нявольны,
Ты з боллю цяжкаю у сэрцы перабыў
І свой згубіў
Апошні стон, адзін, у чужжстве, у цішы.

Бясшчасны тата мой! Усім адна дарога...
І торгання разлукі не так катуюць строга,
Як тое, любы мой, што ў ноч, ў апошню ноч,
Ў цябе із воч
Сляза скацілася аб скрыўджанай душы.

Дратуе сэрца мне, цвікі ў мазгі ўбівае,
З грудзей і боль, і стоны здабывае
Здагадка страшная: ў гадзіну ўсіх гадзін
Ты там адзін,
Маўляў, бясплеменнік усім чужы, сканаў...

Адно бліжэйшае, адно б хаця стварэнне,
Хаця б не роднае, хаця бы на здарэнне,
Прасіў Вялікага к табе хутчэй паслаць,
Каб з ім аддаць
Сваім апошні свой, гарачы свой прывет.

Не меў Ён літасці, не даў табе спакою,
Ў самоце, ў больніцы жалезнаю рукою
Ён сэрца кволага спыніў нятрвалы рух
І бедны дух
Прымусіў твой пакінуць гэты свет.

Казаў: «Маліся ты». За што ж, каму маліцца?
Ці ж можна праўду нам знайсці, калі маніцца,
У неба чорнае ўляпіўшыся вачмі?
З журбой, з слязьмі
Нясці туды сваю найбольшую з надзей?

Пабач, гаротны мой: ці ж ты не моцна верыў?
Святою праўдаю ці ж кожан шаг не мерыў?
Слязьмі крывавымі не плакаў? не прасіў?
Не ўсё знасіў,
Запомнены[1] праз неба, нязнаны праз людзей?

Ці ж меў ты, родны мой, хоць дзень на адпачынак?
З гароты, з беднасці ці знаў перапачынак
За веру гэтую? Ці ж не балеў ты заўсягды,
Не сох з бяды
З душою прэснаю, адкрытаю да ўсіх?

Салодкіх мала хвіль, а горкіх натт багата
Памеў за жыцце ты, мой родны, бедны тата,
А можа, горкую табе і я хвілінку даў,
Не спагадаў
Табе калі... Цяпер за гэта выбачай.

Няхай пуховаю табе зямелька будзе,
Няхай спакой табе твой Пан прысудзе.
Я некалі прыйду пад той убогі крыж,
Дзе ты ляжыш.
І там наплачуся. А пакуль што — прашчай!

## NOKTURNO[1]

Спаткаў сягоння я сваю Нядолю,
Знайшоў яе у сіненькім ляску.
Брадзіў без мэты я, душа гарэла з болю,
І думаў: будзе мне лягчэй у халадку.
Спаткаў, пазнаў яе і вось пытаю:
— Скажы ты мне, Нядоленька мая,
Багата жыцця кніг яшчэ перачытаю?
Калі і на якой чытанне скончу я?
Скажы, не крыйся мне, мая камратка[2],
Дзянькі мае маркотныя чаму?
Адзін ў адзін ідуць, ва ўсіх адна апратка,
Як душы грэшныя ці вінныя каму.
Чаму, яшчэ скажы, мая ядына,
Люблю зямлю, вялікі жыцця ток,
Як неба зорачкі, каханнем моцным сына,
А сам — адлучаны ад дзераўца лісток?
Яна у вочы люба мне зірнула,
Ўзлажыла белы ручанькі на мне,
Маўляў, сястра мая, да сэрца прыгарнула,
Часамі так цябе каханка прыгарне.
— Чакай, харошы мой, пакінь задумы!
Душу сваю пытаннямі не муч,
Зірні на гэты лес, прыслухайся у шумы,
А можа, знойдзеш ты жыццёвы вечны ключ!
Стаіць магутны лес, ізноў убраны
Ў зялёны ліст дагледлівай рукой,
І п'ець спажыўны клёк, старыя гоіць раны...
Зірні: якая моц! Зірні, які спакой!
Штогод ўміраець ён парой асенняй,
Каб зноў аджыць, убачыўшы вясну.

I гэтак ўсё ідзець чаргою пераменнай:
То скіне сон з вачэй, то зноў ідзець да сну.
Расцець дубочак тут, — які зялёны!
Другі, стары, калодаю палёг;
I сын ідзець ўгару, як бацька ў час мінёны,
Што даў жыццё яму, а сам зваліўся ў мох.
Цячэць ручайка вось, і ту ж[3] не стала!
Няма яго, схаваўся у зямлі,
А недзе — тамака рака зямлю прарвала,
I воды тэй ракі па лузе пацяклі.
I ты, о, любы мой! Як лес зімовы,
Заснуў, ляжыш, не можучы устаць,
Але наступіць дзень вясёлы, пекны, новы,
I радасць вольнасці павінна завітаць.
Дзянькоў маркотнасць ты сваіх ў распачы
I тэй сваей адлюднасці не гудзь:
Пакуту Рок табе, шчасліваму, прызначыў,
I ўдзячным за яе Вялікаму ты будзь.
Няма пакуты дзе — няма пазнання[4],
Душа тагды лагчынамі паўзець,
А што гарчэй, скажы, цяжэй перапаўзання?
А што страшней яшчэ, як вочмі не глядзець.
Аб смерць пытаеш ты? Калі скончыцца
Жыццё тваё, — міленькі, не пытай!
Спрабуй ад думак тых, ад хворых палячыцца,
Прыходзь у гэты лес — паветра тут глытай.
Жыві, каб жыцце даць другім, малодшым,
Як дуб стары, што ўзгадаваў дубка.
А там... ручайка знік! I мы пуцём каротшым
Пайдзём ў зямлю за ім, каб выплысць, як рака.

* * *

Скажы, братухна, калі паранне?
Калі світаці пачнець у нас?
Прамчыцца ночка, і сонца ўстане,
I дасць вяселле, і дасць пакрас?

Скажы, братухна, калі прачнуся
Ад тэй навалы, ад тэй жуды
І з ветрам буйным гуляць пушчуся
На свет, на людзі ці хоць куды?
А можа, браце, і сонца ўстала?
І льецць праменні на лес, стэпы?
Ды так глыбока душа запала,
Што я нявістны[1], што я сляпы?

* * *

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецер злосны адарваў
І кінуў ў рэчку і з вадой
У даль няведаму пагнаў, —
Плыву сабе. Рака мая — жыццё,
Па ёй плывуць і кветкі і смяццё.

Я раз спытаўся у вады:
— Скажы, адкуль ты прыцякла?
Яна сказала: — З-пад грады
Каменных гораў уцякла..
— Куды ж бяжыш? — Цяпер бягу над спад
У мора сіняе. — А вернешся назад?

— Над мной закон — колазварот.
Плыву я з мора ў акіян
І стуль збіраюсь ў паварот,
Калі узнімецца туман
І ўзляжа ноч. Лячу хутчэй тагды,
Цячы ракой з-пад горнае грады[1].

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецер злосны адарваў,
І я плыву сваёй ракой,
Жыццём якую хтось назваў.
Нясець яна і кветкі і смяццё...
А ты ж скажы, ці вернешся, жыццё?

# ЛІТАННЕ АДЗІНОЦЕ

Зноў я прыходжу у часе змяркання.
Складаю Літанне[1], нясу Табе данне
Ад сэрца свайго, Адзінота;
Можа, раней, як яшчэ не радзіўся,
Табе быў адданы, Табе прысудзіўся,
Крулева мая, Адзінота;
Можа быць, маці, калі спавівала
І ночы не спала, над люлькай спявала,
Аддала Табе, Адзінота;
Меў я ад родных пяшчоты — упады[2],
Мне мамка-галубка і ўсе былі рады,
А Ты — над усіх, Адзінота;
Ты надавала мне брэдняў ў садочку
Ля хаткі радзімай, ў вішнёвым куточку,
Дзіцяці яшчэ, Адзінота;
Ласка Твая, што ўсяго навучыўся,
Ў жыццё, і ў людзей, і ў Цябе улюбіўся,
І воля Твая, Адзінота;
Смерцю сваёю — ці наглаю[3] згіну,
Ніколі Цябе я ужо не пакіну, —
Не здолеці мне, Адзінота.
Часам Табе пасылаю праклёны,
Зубоў скрыгітанне, уразаў[4] мільёны
Ўладанню Твайму, Адзінота;
І дух непакоры, руіны, паўстанні
Над усе пераможны, кідае ў расстанне,
Абы ад Цябе, Адзінота;
Потым прыходжу пануры, пахілы,
Хачу падзівіцца на вобраз Твой мілы,
Пякнейшы за ўсё, Адзінота!
Ты ж, як матуля, прытуліш і прымеш,
Ашушкаеш ласкай і тугу сунімеш,
І зноў я з Табой, Адзінота!
Гэтак, нявольны ніколі сабою,
Прыходжу сягоння па спрэчцы з Табою
Ў пакоры. Прымі, Адзінота!

* * *

*З. Б–ку*

Хрыстос нарадзіўся! Хрыстос нарадзіўся!
Спяваюць у небе анелі:
Збавіцель для свету на свеце з'явіўся,
Збавіцель, якога не мелі!
«Хрыстос нарадзіўся!» Каб гэтая праўда
З'ісцілася, браце, сягоння...
Каб ўстала на свеце вялікая Праўда,
Што крыўду у цемры прагоне.
«Хрыстос нарадзіўся!» Ці ж мала мы чулі
Такую з нябёс абяцанку?
А вочы свае ледзь ад сну разамкнулі, —
Няма і не відна паранку!
«Хрыстос нарадзіўся!» А дзе ж яго знакі?
Цяпер я Тамаш і не веру[1].
Здаецца мне свет, як і быў, адзінакі,
А ў ім лютаванне над меру.
«Хрыстос нарадзіўся!» Не, хіба што будзе
Яго нараджэнне. Мы знаем,
Яго дачакаюцца іншыя людзі, —
Не мы дачакаем.

## ПАЭТУ

Што кажаш мне, паэт, а праўдзе тэй, што будзе?
Мне сэрца кроіцца[1] ад крыўды нашых дзён!
А бачу добра й сам: ідуць да праўды людзі,
Расцець яе жаўнер, і шырыцца загон
Марудна, братачка! І покуль сонца ўзыдзе,
Дык вочы выесць нам салёная раса,
І покуль першы дзень людскога шчасця прыйдзе,
Мільёны сэрц праткне гароты злой каса.

Пакінь, пакінь спяваць а праўдзе тэй, што ў небе?
Яна чужая нам, таемных праўда сіл;
Яна не сходзіць к нам ў канечнае патрэбе,
Калі пакуты дзень так довег і не міл!

Прашу цябе, мой брат, спявай аб нашым горы,
Аб тым, што ёсць цяпер і што даўней было,
І што на ўсякі твар кладзець, як плуг, разоры,
І што ў мільёнах душ разоры правяло.
Прашу цябе, спявай аб горы песнь адну ты
І наш гаротны лёс рабі яшчэ цяжэй,
Тагды, убачыш сам, парвуцца духа путы
І будзе ясны дзень да нас тагды бліжэй.

## СЛАБАСЦІ

Няхай душы, каторай Бог надаў любоў,
Праклёны — грэх, — аб гэтым буду знаць я!
Кляну цябе, кляну цябе ізноў і зноў,
І буду праклінаць я.
То ж ты ка мне прыйшла, як волю адабраў
Тыран маю, скуў цела ланцугамі,
І думкі вольныя з душы павыдзіраў,
І растаптаў нагамі!
То ж ты прыйшла тагды і стала ля вакна
І ў вочы мне зірнула цераз краты,
Ты, подлая, ніхто, як ты адна,
Ты будзь праклята!
То ж ты мяне, як маці, моцна абняла,
Слязой спаўчуцця[1] бледны твар абліла,
Што хвіля ясных зор, святых ахвяр прайшла,
Ты гэта гаварыла!
То ж ты казала мне, каб я, хаця на час,
Змірыўся бы, пакуль тыран катуе,
А ён усё гняцець! Душыў не толькі нас, —
На ўсіх лютуе!
То ж ты шаптала мне: «Успомні, што ты сын,
Пацеха старасці». Калола грудзі
Мне тым. А дзе закон: «Ідзі, свой дом пакінь
І родных людзі?»
То ж ты аблутала душу ганебным сном,
І вось яна: гатовая магіла.
Замест жывой зямлі кладуць труну з мярцом..
То ж ты зрабіла!

Пусці ж, абрыдлая, з тваіх ласкавых шпон[2],
Няхай памру, калі не буду жыў я,
Абы мне споўніці сзяты жыцця закон,
Абы не згніў я!

## ХАЎТУРЫ

Не ў звоны хаўтурныя служка прабіў,
Як хаваў я дзяўчыну, катору любіў.
Не на могілкі людзі кахану няслі,
А у цэркву баяры яе павязлі.
Не халоднай зямлёй засыпалась труна,
А другому любіць прысягалась яна.
Не пясчаны над ёй вывадзілі капец,
А вясельныя дружкі трымалі вянец.
І не плакала матка, што ўмерла дачка, —
Цалавала жанулька свайго мужанька![1]
Не асінавы кол я над ёй забіваў,
А старэнькі дзячок даўгалецце спяваў...

## ГАБРУСЬКА

Габруся ў жаўнерку ўзялі,
Ад дамоўства адарвалі.
Ой, Габруська, Габруська!
Зажурыўся стары татка,
Стогне цяжка, плача матка:
— Ой, Габруська, Габруська!
Залілася слязьмі люба:
— Не запомні[1], мой галубе,
Мой Габруська, Габруська!
Муштравалі ў войску строга,
Не давалі думаць многа.
Ой, Габруська, Габруська!
Дзецюкова сэрца б'ецца,
Бацьку ўспомніць — скаланецца.
Ой, Габруська, Габруська!

Дзецюковы думкі ўюцца, —
Матку ўспомніць, слёзы льюцца.
Ой, Габруська, Габруська!
А дамовы вецер вее,
Любу ўспомніць — абамлее.
Ой, Габруська, Габруська!
Захварэў Габрусь на службе, —
Ліст пісаці кажа дружбе.
Ой, Габруська, Габруська!
«Не чакайце мяне ў хаце,
Час прыйшоў мне паміраці».
Ой, Габруська, Габруська!
Ой, сканаў Габрусь ў чужыне,
Жаль ўчыніў сваёй радзіне.
Ой, Габруська, Габруська!
Засмуціў ён сваю любу:
— З кім пайду цяпер да шлюбу,
Мой Габруська, Габруська?!

## СЫН

Гэй, у чыстым полі ды не сонца грэе,
Дый не сонца грэе, ды не вецер вее,
Не туман спусціўся,
Не дубок схіліўся.
На шырокім полі ды па тым прасторы,
Ля дарогі самай, на зялёным ўзгоры
З ног дзяцюк зваліўся,
Бразнуўся, пабіўся.
— Ці ж не сорам, хлопча, табе маладому?
Ганіць будуць людзі, едучы дадому:
«А ты ж маладзенькі,
Піці недужэнькі!»
— Ой, не ганьце, людзі, — з гарэлкай не знаўся, —
Я у свет далёкі за шчасцем пагнаўся,
Ад радзімай маткі
Ды і з беднай хаткі.
Ды па ўсёй зямліцы, дзе шыбае вока,
І пад самым небам, доле то ж глыбока
Быў я, цікаваўся,
Шчасця прыглядаўся.

Не памеў я шчасця, ды пазнаў я гора
І крыві разлевы, слёз сірочых мора,
Скрозь а скрозь гарота,
Дзе ні глянь — маркота.
І падумаў зноў я дахаты вярнуцца
Ды да роднай маткі[1] к сэрцу прыгарнуцца,
Рукі цалаваці,
Слёзы праліваці,
Каб прыняла сына свайго, валацугу,
Каб прыпеставала, адагнала тугу,
Зеллейкам паіла,
Раны пагаіла.
От не маю сілы, не трымаюць ногі,
Раптам занядужаў, паў каля дарогі,
Знаць — не ўбачыць маткі,
Не дайсці да хаткі!

## ЗГАВАРЫЛІСЯ

Dzień dobry, mój kochany Janku!
— Дабрыдзень!
Ja słyszałem, że jesteś Polak?
— Але, католік.
Nazwisko twoje, Janie?
— Не разбяру, мой пане...
Nazwisko... to nazowa.
— Які назола?
Nno... może powiesz, jak się zowiesz?
— А!.. Гэтак пан казаў бы!
Паходжу з Дзяўбы,
А па мянюшцы...
Poczekaj! po Moniuszcy
Zostało plemię tu? Ty jesteś Moniuszko?
— А ёсць мянюшка...
Sławetny pan z rodaka!
I może jaką
Operę pan napisał? I w ilu akty?
I w jakie takty?
— Ах ты... Што стракочаш?
Чаго пан хочаш?

Dla czego ż? Pan żeś Polak!?
— Ну, ну, каталік!
I gadasz że pan po polsku?
— Я? Не, па-свойску!..[1]

*1917*

## ЖЫЦЦЁ

Элегія

Жыццё — гасцінец, гады — як вёрсты,
Канец жыццёвы — то небаспад.
Ідзеш паволі, што далей — болей
Тых вёрст жыццёвых цячэць назад.
Што далей — болей... Сціха, паволі
Старэеш, слабнеш, цяжэеш ты,
Аж ўрэшце ледзьве нагі абедзве
Дацягнеш неяк да тэй вярсты,
Дзе гэным знакам, што ўсім аднакаў,
Ці хто ялмужнік[1], ці хто купец,
На страх выразна, для ўсіх паказна
Стаіць: «Спыніся, вось твой канец!»

*1917*

## ЖУРБА І СМЯХОЦЦЕ

— Брынкні, хлопча малады,
У свае цымбалы!
Ты ж бо, чуў я ад людзей,
Музыкант удалы.
Песняй ёмкай звесялі, —
Заплачу двухзлотку.
Хочаш? Выпі напярод,
Спагані ахвотку!

— Раз журба з смехаццём
Напіліся мёду

І пайшлі на кірмаш
Паглядзець народу,
Вось журба й завяла,
Несуцешна плача,
Смехаццё ж ля яе
Па дарозе скача.
— Гэй, сястрыца, пакінь
Разліваці слёзы,
Бо цябе ж засмяе
Чалавек цвярозы.
А-ха-ха! хі-хі-хі!
Ну, чаго, сястрыца,
Не хапіла табе?
— Перастань, дурніца!
— Не смяшы ты людзей,
А давай паскачам!
А журба яшчэ горш
Закацілась плачам.
«А-ха-ха!», «І-ы-ы!»
Па дарозе льюцца;
Йдуць журба з смехаццём,
А людцы смяюцца.
От журба і крычыць:
— Праз цябе выкпіны![1]
Смехаццё ж ёй у адказ:
— Не, асані[2], вінна!
— Праз цябе! Праз цябе!
Увайшлі у спрэчку,
А ў канцы пачалі
Малаціці грэчку.
Тут камар падляцеў:
«Кум з кумой дзярэцца?»
І пачаў ля журбы
Акругом вярцецца!
То у нос, то у лоб
Джыгане — уп'ецца,
От журба науцёк,
Бо няма дзе дзецца.
Смехаццё ж не бяжыць,
Даганяць не хоча,
А з людзьмі над журбой
Над дурной рагоча.

От і ўсё. Калі хто
З вас журбу убача,
Дык настрашце яе
Камаровым плачам.
Уцячэць! А цяпер —
Заплаці двухзлотку
І кілішачак дай
Прамачыці глотку.

* * *

*Вечнай памяці Т. Р. Шаўчэнкі*

За тысячу вёрст ад радзімага краю,
У стэпу, пустэчы бязлюднай
Сумуець казак па загубленым раю,
Па маці-Украіне цуднай.
Няма яму волі, пад вартаю пільнай
Начуе і днюе і ходзіць,
Ніводнай не мае людзіны прыхільнай,
Самотна дзянёчкі праводзіць.
А думка, як віхар, імчыцца, нясецца
Ад берагу мора Аралу
На родну старонку, дзе вораг смяецца
І ўсіх абдзірае памалу.
Ў душы яго ласка, каханне малююць
Пакутніцы вобраз без сказы[1].
Ах, мучаць Украйну, рабуюць, ганьбуюць!..
Імчацца, нясуцца абразы:

«Вее вецер, сонца грэе*
На сцяпу шырокім,
Што відаць здалёк, чарнее,
Дзе курган высокі?
Сляпы гэнам на бандуры
Перабэндзя грае[2],
Аб казацтве, аб гетманстве
Сам сабе спявае:

---

* «Вее вецер, сонца грэе...» — Узлюбёны абраз Т(араса) Р(ыгоравіча).

“Ой, лунала наша слава,
Аж у звоны білі!
Меч гетманскі і булава
К каралям хадзілі.
Мелі славу, мелі долю,
А цяпер прапала;
Мелі шчасце, мелі волю,
А цяпер не стала;
Стогнуць, плачуць стэп і людзі
Пад чужой рукою,
Вораг цёмны ўссеў на грудзі,
Не даець спакою.
Дзе, Багдане, слаўны Хмелю[3],
Дзе ты? Адгукніся!
За народ наш, за Ўкраіну,
Браце, заступіся”.
Слонца грэе, вецер вее,
Па стэпу разносіць
Тыя словы залатыя, —
Да касцоў даносіць.
    Ўчулі людзі праўды слова,
    Заспявалі ціха
    Аб тым здзеку, паняверцэ,
    Панаванню ліха.
Пан аконам — бочка піва, —
Цівуны у злосці:
“Нуж-ма, хлопцы, жыва, жыва!
Бо здзяром да косці!”
    Сорам, сорам!.. Люд пакорны
    Галавой схіліўся...
    Пане, пане — гадзе чорны,
    Каб ты з свету збыўся!..»

Адна за аднэю праносяцца з’явы,
Мігцяцца безупынна абразы,
Нявольнічы побыт, і слёзы крывавы,
І здзек глузавання, уразы...
    Туды, да няшчасных, у думцы сягае
    Пясняр геніяльны прыгону
    І Богу на небе любіць прысягае
    Народ свой, — любіці да скону.

## «КАЎКАЗ»

З Тараса Шаўчэнкі

...Скарэй, скарэй ў навуку к нам!
Пачом хлеб-соль пакажам вам...
Мы не пагане,
А з хрысціянаў хрысціяне.
Усё святое:
Іконы, цэркві, Бог у нас!
Нам толькі сакля вочы коле:
Чаго яна стаіць у вас,
Не намі дадзена? І вам
Чурэк* мы ваш чаму не кінем,
Як тым сабакам? І нам
Чаму за слонца не павінны
Плаціць вы? От, — ўсяго!
Нам трохі трэба! А за тое, —
Каб з намі дружбу вы трымалі,
Навукі шмат бы пераймалі.
У нас абшары!.. Як на тое —
Сібір на ўсходзе, — во краіна!
Людзей, астрогаў, — што лічыць!
Ад малдаваніна да фіна —
На ўсіх языках ўсё маўчыць...
Бо ўсім здаволена!..

*1918*

## БЕЛАРУСКІ МАРШ

Вецер сядравы пранёсся над борам,
Смагаю жыцця абвеяў лісты.
«Слухайце ўважна, людзі пакоры!
Йдзе вызваленне, ўставайце, браты!»

* Чурэк — каўказскі хлеб.

Разам, наперад, шлях працярэбім
Простым людзём да людскога жыцця!
І Беларусь-Маці долю агледзіць,
Устане, як Лазар, з руін, з забыцця.

Сціха пачалі шаптацца вяршыні,
Іхну гаворку пачуў увесь лес,
І загрымелі мільёны галінаў:
«Годзе ўжо здзеку! Народ уваскрэс!»
Разам, наперад...

З захаду, ўсходу на нашыя шыі
Селі б'ючыся два хіжых крукі,
Каб змацавацца, кроў нашу пілі,
Гэтак заснуў наш народ на вякі.
Разам, наперад...

Сон горш за смерць! Ірвуць цела жывое,
Дзеляць на часткі суседзі-звяры.
Вырвалі смехам і сэрца з душою,
Суд рассудзілі: памёр без пары.
Разам, наперад...

Толькі ж не знішчыць дух наш народны!
Вецер на крылле яго падхапіў,
Стаў ён з'яўляцца тады сыном родным,
Сон іх будзіць, каб усталі, ішлі.
Разам, наперад...

Тры зыркіх зоркі у цёмную поўнач
У будучыню нам сцежку ясняць,
Завуцца ж: воля, брацтва і роўнасць,
Будзем крывёй іх сваёй здабываць.
Разам, наперад...

Тых, што пагінулі ў бойцы за праўду,
Тых, што вякуюць у турмах гнілых,
Усіх памятайма, пакуль дамо рады,
Звольнім старонку, памсцімся за ўсіх.
Разам, наперад...

*1918*

## НА СЯЛО

Абы цёплійка прыйшло,
Абы слонка прыпякло,
Абы зімку пранясло —
Уцяку я на сяло.

Не люблю я места[1] — страх!
Што ні крок — высокі гмах,
Што ні мур — то цяжкі дах,
І бязлюдна на людзях.

А на вёсцы — там прастор,
А за вёскай вечны бор,
А ў бары тым птушак хор,
Міліёны ноччу зор.

Уцяку я на сяло,
Абы б цёплійка прыйшло!

*1918*

## ЁН НЕ ЗГІНЕ...

Настроі

Ці дзялю я свой сум з цішынёю,
Ці жартую з сябрамі над чарай,
Перад мысллю таемна маёю
Неадступнай, назойлівай марай,
Як жывы, як бы ўзяты з натуры,
Ўсё малюецца вобраз пануры:

Як калоссі ў жытнім полі,
стаяць людзі на раўніне;
Быццам вецер каласочкі, —
гэтак сум іх прыхіляе.
Ані шэпту! Часам толькі
маць-зямліца уздыхае:
«Ой, пагіне... Ўсё пагіне!»

Захаваўшы слонца, ўкрылі
неба ймглішчы і туманы;
Непагодай край, здаецца,
ад прадвеку той забраны;
І не кліч яму ты долі:
гіне зык тут незваротна;
Замірае слова нават...
Ах, маркотна!

Ўсё мне цяжкі вобраз той здаецца,
Ці адзін, ці хаджу між людзей я...
Толькі ж... раптам, часамі прарвецца,
Бы шаленства якое, надзея:
З-пад святых нябёс блакіту
Прамяніста сонца ззяе
І дзяцей зямлі з нябыту
І з заніку паднімае.
І буяе духам вольным
Той народ, што на раўніне,
І жывець жыццём давольным...
«Ён не згіне! Ён не згіне!»

*1918*

## НА ВІЦІМЕ*

Адзін ў жалезнай дамавіне**
Ляжу без дум, ляжу без слоў,
Не маю сноў, не бачу сноў,
Няма бажанняў і ў спаміне.
Навокал хлюпае вада —
Ракі няўвернай дар няшчыры;
Наўсцяж звініць, як спевы ліры,
Паспешных хвалек чарада.
Часамі ў шчылінку зірне
Праменьчык сонца, зелень бора,

* Віцім — сібірская рэчка.
** У віціне на рэчцы.

Між гор скалістая разора,
А ў ёй шумлівы вадаспад,
Заімкі* беднай вокны хат,
Рыбак у чоўне прамільгне —
Нішто не вабіць больш мяне!
Няма ў душы адгучных нот,
Кудысь падзеўся рым званчасты,
А чорны сум, як гад кальчасты,
Спыняе сэрца мерны ход.
Плыву адзін у дамавіне —
Здаецца, стыне ў жылах кроў.
Так голы куст ў глухой цясніне,
Між шчэбняў скал, ў прытулку соў,
Без дум і слоў паволі гіне.

*1918*

## ЛІРНІК

Хто лірніка з вас знаў? Хто ведаў з вас старога,
Які з кійком ў руцэ ўвесь край наш абхадзіў?
Памёр, памёр сівы! Свой дар панёс да Бога,
Што ліру даў яму і песню прысудзіў.
Хто бачыў з вас яго сідзячым на кургане
Тагды, як зачынаў румяніцца усход?
Ён там любіў спяваць, што некалі паўстане
І будзе вольна жыць каханы ім народ.
Шуміць вяршынай дум — падзеі ўспамінае,
Каторых сведкаю зрабіўся на жыцці,
А лірнік наш стары з шумоў тых спеў складае —
Рука на корбе спіць ў чароўным забыцці.
Праходзіць слава ўся — аб ёй народ забыўся —
Князі, і воіны, і мескі люд, і кмет,
Які не менш баяр старынаю гардзіўся...
І, сам не знаючы, раняе слёзы дзед.

*1918*

* Выселак — па-сібірску.

## КРАЙ НЯВОЛІ

Часам ноч бывае — воч не закрываю,
Не прыходзіць сон;
Бачу край далёкі — сумны, адзінокі
Мне здаецца ён.

Бачу горы-скалы, ад людзей завалы,
Што душу гнялі;
Бачу тыя воды, па якіх праз годы
Мае сны плылі.

Чуецца тайга мне, як на дзікім камню
Ад вякоў гудзе.
Песні больш тужлівай, скаргі больш праўдзівай
Я не чуў нідзе.

Дзён там шмат пражыта, цьма надзей разбіта
У бясконцы зім.
Сколькі летуценняў, думак і натхненняў
Пахавана ў ім!

Помню край далёкі... Сумны, адзінокі...
Не магу забыць!
Дораг сумны гэны край, дзе горы-сцены,
Край, дзе шчасце — сніць.

*1918*

## НАРОД

Ці ж хутка люд наш брацкі будзе
Народам моцным, вольным, слаўным,
Такім, каб ўсе прызналі людзі
Яго іным народам раўным?
Нашто пытацца? Сам сабой
Крыніца ён вады жывой;
І моцы шмат у той вадзе,

І тая моц не прападзе.
Народ — не мы, не чалавек, —
Яму нішто ні год, ні век,
Ні бой насмерць, ні гнеў, ні здзек;
Народ — не слабы чалавек.
Народ — крыніца. Шмат лам'я
Кідала ворагаў сям'я
Ў крыніцу тую — цёк спыніць,
Каб жыцце смерцю замяніць.
І ўсё дарма: з варожых пут
Народ ўстае, як нейкі цуд.
Нам трэба толькі лом адкінуць. —
— Бярыся ж той, хто ў працы жваў!
Ў народнай памяці не згінуць
Іменні тых, хто працаваў.

*1918*

## ПАЖАР

Дрыжыць ў паветры гул. Зямля
Агнём навокал занялася.
Дарэмна людская сям'я
Да неба з модламі ўдалася[1].

Зусюль чырвоны жах. Пажар
Варожым пламенем палышча.
Прад ім ў душы трухлее цар,
І мыслі рушацца бажышчы.

Нясець з сабой народам хрэст,
Цярпенне, хворасці і енкі,
Руіны страшучыя мест
І смерці з голаду пашчэнкі.

Ці ж дух людскі замрэць прад ім? —
Ніколі! Сцішыцца стыхія,
І на пяпловішчы пустым
Праб'юцца зернеты жывыя.

А з тых зярнят ізноў ўзрасце
Агнём ачышчаная воля,
І ў новых шатах расквіце
Пажарам знішчанае поле.

*1918*

## ШЛЮБ

Год за годам, дзень за днём,
Ўсцяж — гадзіну за гадзінай,
Паміж песняй салаўінай
І агідных жабаў крэктам,
Выццем буры, ветра шэптам
І касы смяртэльнай свістам,
Ў бляску полымя агністым
Мы да шлюбу свайго йдзём...

Мусіць, скора... Пэўне, блізка,
Чую я ўжо гэты час,
Поўны шчасця і пакрас, —
Дзён парвецца нашых нізка,
Дзён, затрутых соллю згуб, —
І, няпомныя былога,
Ўчуўшы голас горных труб,
Пойдзем, люба, мы да Бога
Браць апошні, вечны шлюб.

*12.X.1918*

## ВІДЗЕННЕ

### З гадоў няволі

Ідзець яна адна з адкрытай галавой,
Рызман расхрыстаны вісіць падзёрты
на грудзях,

З вачэй яе глядзяць прыймглёныя слязой
Сардэчны боль нязмераны, а з ім бязглузды
страх.
Праходзіць шлях яе між пушчаў і лясоў,
Засмечаны карчамі скрозь і дрэў сухіх вяццём,
З тых пушч ўсцяж чуюцца мільёны галасоў,
Якія гоняцца за ёй з праклёнамі, з выццём.
А дзе ж яе сям'я? Дзе кроўныя, сыны?
Куды усе падзеліся? Хаця б хто дапамог?
— Пакрыўдзіў род ліхі, і здрадзілі адны
З дзяцей. Другіх забраўшы, зноў ёй крыўду
справіў Бог.
Куды ж яна ідзець сірочаю ступой?
Ці ведае, куды той шлях, якім ідзець, ляжыць?
О, не! Яна ідзець, бо мусіць, хоць сляпой,
Хаця бы вобмацкам ісці, каб толькі жыць,
каб жыць!

*Восень 1918 г.*

## РЭДАКТАРСКІ СОН

Паэма не паэма,
а нешта «накшталт таго»

Рэдактар брукоўкі —
Соракграшоўкі,
Кладучыся спаць, —
Уздумаў напісаць:
«У гэтым месце старасвецкім,
Слаўным звычаем купецкім,
У гэтым сэрцу Белайрусі
Кажды поляк мувіць мусі,
Ці у краме, ці на рынку,
Ці ў кавярні, ці у шынку,
Ну, усюды, адным словам,
Чыстон польскон пенкнон мовон»*.

* «Placówka» № 37, артыкул «Elementarny obowiązek».

Напісаў і пазяхнуў,
Павярнуўся і заснуў.
І вось бачыць пан рэдактар
Яў не яў і сон не сон,
Быццам, выйшаўшы з касцёлу,
Да знаёмых цягнець ён.
Захацелася нябозе,
Каб цыгару запаліць,
Але ж трапіла ў дарозе
Партабачніцу згубіць!
«Ну, згубіў, дык ліха з ёю,
Хоць то паменць еднэй дамы».
Так мурмочучы з сабою,
Пан рэдактар ўходзіць ў краму:
«Ту цыгары сон правдзівэ?»
(Не курыў ён папярос.)
І адказ пачуў надзіва:
«Іх фарстэй ніт вілт-ір вос»[1].
Як ашпараны, ў другую
Забягае краму ён,
І прэстаўце рэч такую, —
І у гэтай той жа сон.
Толькі тут на запытанне
Чуць другі пачуў адказ:
«Москвічі-с мы-с, не цыгане,
Невозможно-с понять-с вас!»
«Ну й прыгода, ну й здарэнне!»
Бурай ў трэцюю ўляцеў:
«Сон цыгары до паленя?»[2] —
Запыхаўшыся, ўскрычэў.
«Сон-то сон, — гандляр гавора, —
Гандлем толькі і жывём,
Але бачыш, пане, гора:
Не сваім не прадаём!
От каб пан па-беларуску
Мне сказаў...» — «Кей я не умем»[3].
«Што ж рабіць. І я па-польску
Ані слувка не розумем!»
Пан рэдактар злаяў, плюнуў
І задаў з тэй крамы драла.
Вёрст з чатыры, мусіць, дунуў
(Злосць, бач, вельмі яго ўзяла),

Даляцеў да нейкай крамкі
І крычыць з парогу пан:
«Сон цыгары? Есть сігары?
Ёсць цыгары... ну, цігары ту фаран?!»
Ў краме тут як паднялося...
Збегся слухаць цэлы двор,
Бо хадзяіну здалося,
Што рэдактар — «крышку хвор».
«Каб вы самі звар'яцелі», —
Пан рэдактар науцёк
І... прачнуўся у пасцелі.
Ныў паціху левы бок...
Мыш пабегла у куточак...
Недзе певень горла драў...
Ўзяў рэдактар свой лісточак
І са злосцю разадраў.

*1918*

## КАР'ЕРА

Маленькі фельетон

Быў каліграфістым,
Кепскім граматыстым.
Стаў канцылярыстым, —
Ў часці паспартыстым.
Ўлопаўся з «нячыстым» —
Вылецеў са свістам
Й стаў сацыялістам
І федэралістам, —
Будзе камуністам,
Потым анархістам,
Ўзновіцца Раманаў, —
Стане хуліганам.

*1918*

## АДРАС

Маленькі фельетон

Заведывающие отделами, чины канцелярии и служащие Народнаго Секретариата преподнесли председателю Народнаго Секретариата 1-го состава И.Я.Воронко благодарственный адрес, артистически выполненный художником С.Волонсевичем.

*(«Новый Вестник», № 126)*

За услугі, за работу,
За карысць грамадскай справе
Не адмовіш нам ахвоты
Дзеячоў трымаць у славе.
Павярнуўся, круцянуўся —
Праслаўляць ужо гатовы.
І, здаецца, таго б досыць,
Ёсць прамога ў свет прадрацца,
Дык нашто ж павінны ўносіць, —
Саматугам праслаўляцца:
Пачакаці, змеркаваці,
І было б куды больш чыста,
Чым для «адрасу» наймаці
Валансевіча-артысту.

*1918*

## «САБОТАЖНІК»

«Дэкрэтам ураду ў Маскве і ц. Расіі стрэлка гадзінніка пасунута на 2 гадз. уперад»

*З газет*

Не было бальшавікоў, —
Бацька-час жыў незалежна
Пасярод гадоў, вякоў,
Валадар быў неабмежны.

* * *

Ад мінут, гадзін і дзён,
Тыдняў, месяцаў з гадамі,

Над усясветам правіў ён,
Звольна ходзючы вякамі.

* * *

А прыйшлі бальшавікі,
Зараз рэчны стан змяніўся:
Валадар і цар такі
Лёгка час ім пакарыўся.

* * *

Круцяць самі, як хаця,
Стрэлкі жвава у загарку[1],
Як свавольнае дзіця, —
Час ідзець для іх не шпарка.

* * *

«Стары дурань ты, крычаць —
Што паўзеш ты гэтак ціха?
Што? Закон такі... Маўчаць!
Усе твае законы к ліху.

* * *

Проста ты стары гультай,
Ці буржуям ты прадажнік.
Н-ну! Пашоў жа, не чакай
Палкі, сабатажнік».

*1918*

## МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН

Старыя сельскія совдепы ў Расіі дэкрэтам Леніна замяняюцца новымі з беззямельных сялян.

*З газет*

«Мы, Вялікі Ленін 1 і 2 Ульянаў,
Мы, Ільін непарушымы, гетман партызанаў,
Кунгс[1] латышскіх кандацьераў[2] і матроскіх банд,
Страх на правых ўсіх эс-эраў, бальшавіцкі гранд;
Мы, "всея"... Масквы "владыка", ў совнаркоме Першы,

Аб'яўляем нашу волю і жывым і ўмершым:
Наш парадак палітычны — кажа так рабіць —
Час цяпер камуністычны, трэба ўсё дзяліць.
І аднак, хоць гэта прыкра, мусім Мы прызнаць:
Сабатажнікаў Нам цяжка ўсіх перамагаць.
Хто не знае, што ў Расіі аж залішне грунтаў,
Што сяляне ўсе павінны ўзбагацець ад бунтаў,
А глядзіце — беззямельных скрозь па вёсках цьма.
Як жа так, што ёсць зямліца і ізноў, няма?
Не іначай, што кадэты і зямлю падбілі,
Скараціцца ёй, змяншыцца хітра ўгаварылі.
Тут віна старых совдепаў, трэба іх змяніць,
Вот прыклад Наш: беззямельных ў Рады пасадзіць.
А для іх наказ найстрожшы: Як зямля з нас хлусіць
І не хоча нам скарыцца, дык яе... прымусіць.
Дзе загон знарок звузее, — трэба пакараць:
Расцягнуць яго у двое — тады будзе знаць!
За адпорнасць, неслухмянасць батагоў даць дзесяць.
Калі ж гэта не паможа, — асудзіць! павесіць!»

(«Декрет С.Н.К.» «Известія» № 1234567890)

*1918*

## ДАКОРЫ

Ты не прыйшла, як быў я хворы,
І смерць парог мой сцерагла,
І мне канец здаваўся скоры, —
Ты не прыйшла, ты не прыйшла!..

Ты не прыйшла, калі мне снілась,
Што ты сястрой пры мне была
І, як дзіцём, са мной вадзілась,
Ты не прыйшла, ты не прыйшла!

Ты не прыйшла, калі рукі я
Не мог паднесці да чала.
Былі усе... Былі чужыя.
А ты адна, — ты не прыйшла!..

Ты боль уцішыць мой каханнем
Патрэбы ў сэрцы не знайшла,
І, як другія, з прывітаннем
Ты не зайшла, ты не зайшла!

*1919*

## З АСТРОЖНЫХ КАРТАК

### I

*Яму...*

...Любіла я без меры
Цябе, о, любы мой, каханы мой, ядыны!
І пломень той кахання не пагас —
Ў вясенні кожны дзень, як зацвітуць язміны,
Ледзь спусціцца з-пад неба сумерк шэры,
Я йду у наш садок і там праводжу час.

Праходжу сцежкамі, заросшымі травою,
Каторымі даўней хадзілі мы з табою...

Хаджу адна па іх, — а кожан кусцік рожы,
І дрэўца кожнае, пахучыя язміны,
І ўсё, што тут садзіла я сама,
Далёкі, любы мой, аплаканы, ядыны!
На болесць мне адно варожа:
Яго няма, няма!..

### II

*Ёй*

Сягоння ліст твой я узяў ў канторы, дарагая,
А з ім бязглуздую уразу атрымаў,
Бо той жандар, што ўсіх лісты чытае,
Ўсміхнуўся подла так, як мне перадаваў
Яго: «Любовное-с! Весьма...» Я не даслухаў,

А ён не даказаў за звонкай аплявухай...
(Жандар не скрыўджаны, бо ён не без атвету,
Надзелі там жа мне на рукі «бранзалеты».)

Найлюбшая!.. Не многа ёсць мінутаў,
Калі астрожніка святлее смутны твар,
Калі, запомніўшы[1] на гэта, што закуты,
І ўвесь аддаўшыся уплывам пекных мар,
Ён пераносіцца ў палац із думак ўласных.
Вось ты адну з такіх хвілінак шчасных
Тваім лістом сягоння мне падаравала, —
Ты гэта ад мяне не раз ужо чытала...
Бывае, ведаеш, матыль часамі з волі
У клетку вязеня вясною заляціць,
Здзівіўшыся крыху, што тут не як на полі,
На гратах[2], на стале, на ложку пасядзіць,
Пакруціцца па цэлі[3], абгледзіць суфіт[4], сцены,
Зірне на каляндар, што кажа часу змены,
Абвее твар нявольніка, трапечучы крыламі,
Прылепіцца к руцэ махнатымі нагамі,
Заціхне, як суддзя, вусамі пашаволіць,
Часамі дык падняць сябе з рукой пазволіць
І лёгенька другой да крылляў дакрануцца,
Каторыя яму памогуць зноў вярнуцца
Туды, назад... Ах! З ім з палёў
Да вязеня ўлятае жыцце: слонца, лес,
І дворычак стары між стромкіх тапалёў,
І рэчка быстрая між лозаў вузкалістых,
І ранкі, й вечары ў туманах серабрыстых,
І ўсё, што бачыў ён, што знаў, пакуль не счэз,
Зачынены ў астрог, дзе сцены, граты й сцены!..
Як госць жаданы гэны,
Мне ліст твой быў сягоння...
Аднак... Прасіць хачу цябе я, дарагая,
Ты толькі суд рабіць над мною не спяшы —
Хачу прасіць... Найлюбшая, святая!
Пакінь пісаць ты мне... Забудзься... Не пішы!..
Каб знала ты, як мыслі аб няволі
Пасля тваіх лістоў яшчэ цяжэй гнятуць,
Як гэтае знаццё, што ты ужо ніколі
Не вырвешся адсюль, што ты навек...
Забудзь,

Забудзься ты аб тым, што некалі любіла, —
Не можаш? Пераплач адна ўсё у душы,
А толькі каб мая цяжэй яшчэ магіла
Мяне не мучыла, — забудзься, любая;
забудзься, не пішы...

*1919*

## ХВЕЙНАМУ[1] ДРУГУ

Але, ну так, але, але, —
Мы ўсё яшчэ ў няяснай ймгле,
Наперад глянуць, — далі там
Няма, здаецца, жаднай[2] нам.

Па тэй дарозе, што ідзём,
Калоды, пні, завалы, лом,
І страх, і жах глядзяць зусюль,
Няма палёгкі ніадкуль.

І сілаў нам, здаецца, брак...
Ўсё так, ўсё так! Але ж, аднак,
Пазбудзь трывог душы сваёй,
Няхай пануе вера ў ёй, —

Глядзі: ідзём мы не адны
Шукаць дабра для стараны, —
За намі рушылі яны —
Зямлі радзімае сыны!

*

Яшчэ не спаў з іх даўні сон,
Не прэціць ім кайданаў звон,
Не вытхнуў з іх ганебны дух
Рабоў адданых, верных слуг.

І можа быць, што раз, ізноў,
На даўніх трапіўшы паноў,
Ім паднясуць свае дары, —
Нічога, гэта да пары!

*

Нясмелы крок іх і цяжкі,
Дык ён і мусіць быць такі,
Бо гэта толькі першы крок...
Прыпомні, як вясной паток

Здаецца слаб, здаецца хіл,
Здаецца, ён не мае сіл,
І часта як тамуе[3] бег
Яго вясняны рыхлы снег.

Аднак што далей, то смялей
Бяжыць паток шырэй, глыбей,
І хлусіць з розных перашкод
Ён сілай вод... Як ён — народ!

*Мінск, у верасні 1919 г.*

* * *

Брацця, к агульнаму шчасцю
Трэба жыццё кіраваць.
Роўнасць, братэрства і згода
Будуць нам шлях асвятляць.
Згоднай, вялікай сям'ёю
Пойдзем к дзянькомзалатым,
З думаю ў сэрцы святою,
З нашым жаданнем адным.
Крыўды людской нам не трэба,
Слёз не бажаем ніч'іх,
Хочам, каб з яснага неба
Слонца свяціла для ўсіх.
Досыць было панавання
Квотнікаў[1] злых, махляроў,
Досыць для нас гаравання,
Новых паклічам майстроў.
Мусім народ абудзіці,
Голасна мусім пазваць:
Гэй, хто работнік? Хадзіце
Новы ўсім лад будаваць!

Будуць для ўсіх там палацы,
Стане на ўсіх там цяпла,
Ў панстве[2] братэрства і працы,
Вольнасці, хлеба й святла.

*1919*

* * *

Лётала чайка, сумна крычала, —
Збурылі гнёздка, што збудавала:
— Кіулі, кіулі!
Ў неба ўзлятае, моцна галосіць,
Чорную хмару жалабна просіць:
— Кіулі, кіулі!
Хмару мінула, слонейка бачыць, —
Жаліцца слонцу, жаліцца, плачаць:
— Кіулі, кіулі!
Лётае чайка, скігліць у жалю, —
Людзі благія дзетак забралі:
— Кіулі, кіулі!

*1919*

## У ГАРЫ І ДОЛЕ

З нотаў аб Паўночы

Там ў цясніне, дзе свет гіне,
Людзі ў камню міны[1] б'юць,
Рыюць міны, плястры гліны
Прамінаюць і пяскі,
Ўглыб капаюць — ўсё шукаюць
Дно спрадвечнае ракі...
Ёсць прыметы, казкі зветы,
Што на дне тым шмат дабра —
Дробных зорак, як пацёрак,
Залатых і з серабра.

Так ў вышынях і ў нізінах
Зоркі вабяць ўзрок[2] людскі:
Там — на Млечным Шляху вечным,
Тут — на дне старой ракі.

*28.XII.1919 г.*

## БАДАННЕ[1] АБ СПОСАБАХ (МЭТОДЗЕ)

Нарыс для лекцыі па новай гісторыі

Якая лепшая, ці руская, ці пруская мэтода, —
Матэрыі для спрэчак тут хопіць на паўгода,
А злашча[2] у каго характар любіць звады[3],
Чым слоўмі вальчыць ту[4], дык лепей браць прыклады.
(Прыклады нам даюць і веду і заруку
Таго, што наша мысль ідзець ў нагу з навукай
І праўду адшукаць хутчэй дапамагаюць.
Ўсе гэта знаюць.
Аднак не ўсе прыкладаў ужываюць.)
Каб растрасці «мэтоднае» пытанне,
Павінны помніць мы, што ўжо няма і звання
Расіі даўняе з даўнейшаю мэтодай,
Што й у Прусах іншаю павеяла пагодай
І што для нас
— Якраз —
Прыклад бліжэйшы ёсць і больш цікавы:
Мэтода будавання Польскае Дзяржавы,
І асабліва тут, на нашых «Крэсах».
Такі разгляд тым больш у нашых інтарэсах,
Што тут матэрыі сабралася не мала.
І так пачнём. Вось напярод —
«УХВАЛА»[5]
Дня дзісейшага[6] (-таковага)
У мыслі пана рэвіровага[7],
Мы: тубыльцы нашай воласці,
Пры начальсцве ва ўсёй поўнасці,
Ухвалілі вось ніжэйшае:
1) Школу нашую, тутэйшую,
Перадаць у «Мацержэ»[8] польскую;

2) Адчыніць крамніцу свойскую;
3) Дом Людовы; з прыстаўленнямі
I 4) са ўсімі пакаленнямі
Увайсці ў Рэчпаспалітую,
Аб чым Сойму чалабітную
Пераслаць не адкладаючы.
З гэтым прыгавор канчаючы,
Мусім выказаць сардэчную
Мы падзяку за скутэчную[9]
Працу нашаму свяцільніку,
Абаронцу і прыхільніку,
I старшыне ганароваму, —
Пану NN рэвіроваму.
NN — Сходу прасядацель;
NN — Сходчык (Абываталь);
NN — Сходчык (кс. канонік);
Пісар гмінны А. Палонік.
«ДАНАШЭННЕ»
N дня, X месяца, Z году,
Пакінуўшы на зборні ў м. падводу,
Я з сведкамі і солтысам Мікітай
Зайшоў у хату Z-эт, дзе вось што мной адкрыта:
Дачка яго, Z-этцянка (год дваццаты,
Нос крышачку, здаецца, кірпаваты,
Два вокі, дзве рукі і вушы ёсць абое,
Аблічча чыстае, хоць крышачку рабое,
А колер валасоў брунатна-залацісты,
I вочы светлыя, і голас чуць басісты,
Жыве ў бацькоў даўно ужо, аседла) —
Сядзела з кніжкаю ў руках на зэдлю.
А за сталом, на покуці, з дзесятак
Дзяцей сядзела — хлопцаў і дзяўчатак —
I перад кожным з іх ляжалі кніжкі, і з паперы
Па сшытку (у чвэрць аркушнай меры).
Усё на домысел наводзіла даўкола,
Што гэтта кутняя істнуе, мусіць, школа.
Z-цянка, як відаць, не баючысь ні сколькі: —
«Я Вас чакала, пане, кажа толькі
Прашу Вас, вось, дзяцей не налякаць,
Дазвольце мне дамоў іх папускаць».
Я гэта ёй дазволіў. Потым
Ўзяўшыся з сведкамі за шчырую работу,

На куфры ля сцяны знайшлі мы сшыткаў з сотак
Закрэмзаных ужо. А на стале дык «Зорак»[10]
Мы дзесяць штук знайшлі — граматак ў беларускай мове.
Запытаная мной аб гэтым перахове
Z-цянка адказала, што кніжкі (ўсе) купіла
У Школьнай Радзе ў М., калі на курсах была,
Навуку ж выкладаць заўсёды будзе ў школе.
Зрачэння ўсё яе спісаў я ў пратаколе;
Каторы й пасылаю пры гэтым данашэнні
І аб далейшым для сябе прашу распараджэння.
N Камісар (?) рэвіру.
Сяло-на Жвіру.
«ПАВЕДАМЛЕННЕ»
У Павятовае Бюро Крэсовай Стражы
Агента М у вёсцы N
Паведамленне.
Пры гэтым ведамасць аб атрыманні «гаржы»[11]
Тутэйшымі «прадстаўнікамі пасялення»
За месяц лістапад і студзень далучаю
І разам выказ на расход «літаратуры».
Раздадзеных тыднёвак я з трыста (300) налічаю
І сто і трыццаць дзве (132) брашуры.
На павятовы зьезд ад гміны дэлегата
Мы выбралі такога, што можна не баяцца.
Хаця пры выбарах зацверджаны мандаты,
Што мае права ён да Сойму зварачацца,
Калі захоча зьезд к Мацержы прылучацца.
(Пры гэтым і мандату пасылаю одпіс)
Дзень, месяц, год. М. (— подпіс).
З вышэй паданых вось няхітрых дакументаў
Нам лёгка выснаваць, што болей элементаў
Разумных ёсць ў бліжэйшай нам мэтодзе,
Чым ў рускай альбо прускай — іх слава ўжо на зводзе.

Спісаў з гісторыка САЛЬВЭСЬ

*1920*

# САМСОН

На соты нумар «Беларусі»

«Самсон![1] Гаворыш ты: адзін твой Бог
праўдзівы,
І толькі ён адзін у сіле ўсё зрабіць.
Няхай — скажы яму — свае пакажа дзівы:
Хай ўзрок пагаслы твой спрабуе аджывіць,
Хай волю дасць табе і зверне моц былую,
З якою ты, бы леў, губіў філісцімлян.
Парві ты свой ланцуг, як завязку гнілую,
Тады мы ўверымся, што Бог твой не балван,
Якога ты сабе сярод нябёс уроіў,
Катораму палац ў сваёй душы састроіў
І ніцма прад чыім ляжыць твой розум тронам...»
Так над Самсонам
Смяялася гурба ў Баалавай святыні[2],
А ён між іх стаяў, не чуючы іх слоў.
Здавалася яму, што ён ізноў ў пустыні
Сярод Ізраілю радзімага шатроў.
Так... Раніца яшчэ. Пакуль расой халоднай
Насяклы[3] з вечару пясок не грэе ног,
Яшчэ ў глыбокім сне вялізны стан паходны
Народу божага, што столькі меў дарог.
Самсон не спіць ужо. Адзін з ўсяго народу
Тварца свайго ён звык штораніцы вітаць
І, дня чакаючы, звярнуўшыся да ўсходу,
Малітвы шчырыя сыноўскія шаптаць.
Бялее рыхла[4] ўсход. Вось зараз ў сонца шаце
Найвышні з'явіцца у дзенным маястаце[5]
І ўсё благаславіць: зямлю, і неба, й воды,
І рыбаў, і звяроў, і птаства розных роды,
І гадаў-попаўзняў, і рабакоў, й травіцу,
Й расліны ўсякія, дзе толькі могуць быць,
Паветра ціхае, і хмары, й навальніцу,
І гэты свой народ, — усё благаславіць.
Вось небасхіл прад ім ружовай павалокай
Пакрыўся, спакваля змяніўшы колер свой...
І раптам баграю, ў кароткім мгненні вока,
Заліўся ўвесь усход. У кароне залатой
Ў праменнях сонечных Уласцiцель паказаўся,

І з Божай ласкі дзень людзям і ўсім заняўся.
Самсон мяняўся ўвесь ў набожным паднясенні,
І твар яго мужскі за небам развідняў.
«Мой Бог, мой Пан, мой Свет!» — шаптаў ён
ў патрасенні
І рукі замест крыл душы сваёй падняў...
Аж голас чуець стуль: «Прыйдзі, мой сын
бяздольны!
Ты адпакутаваў за грэх свой мімавольны».
З тым моц даўнейшую ў сабе пачуў Самсон...
Калі ж блюзнерчыя яго ўзбудзілі крыкі:
«Дапамажы мне, Бог, ўсяхмоцны і вялікі!» —
Так пракрычаў ў акропным[6] гневе ён
І путы разарваў звычайным рухам рук —
Упёрся у калоны, пачуўся грукат, стук...
І сцены капішча да грунту патрасліся,
Магілай стаўшыся для тых, што ў ім знайшліся.

*28 лютага 1920 г.*

## ПРАЛЕСКІ

*Да Е.К.*

Прынеслі вы чароўныя дары вясны — пралескі,
У добрасці святой іх для мяне сваім зрабіўшы дарам,
Як колер гэтых кветачак, так домысл ваш — нябескі, —
Прыйсці, парадаваць вясной мяне ў маім замкненні
шарым.
Зрабіўся мой пакой цяпер — пудэлак цесны мескі —
Тайгой шумячаю на шчыце гор, ў паблізку к сонцу,
к хмарам,
Ляжу у ёй, хваін жывушчы пах п'ючы і горных зёлкаў,
А ў думках і ўваччу — праслічная[1], паўночная фіёлка.

*1920*

## КЛІЧ

Гэй, народзе, трэба ўстаць,
Дух свой з рабства распрастаць, —
Чуеш: Волі зычны звон
Будзіць, кліча меддзю ён
Ўсе народы ўсіх старон,
Каб разбурыць крыўды трон.

Скрозь, куды хаця зірні, —
Здзівіць з дзіваў дзіва-цуд:
Ў небе літара-агні
Свецяць ноччу і пры дні —
«Вызваль дух свой, рабскі люд!».

Ў гэты час пракляты будзь,
Хто свой карк захоча гнуць,
Й рукі ворагу лізаць,
Й словы льсцівыя казаць.

*1920*

## САЛДАЦКІЯ ПЕСНІ

### I

### ЯК ВЫПРАВІЛІ НА ВАЙНУ

Выправіла сына маці
Родны край адваяваці.
А пры гэтым загадала,
Каб у бітвах быў удалы.
 «Бо, сыночку, калі не, —
Не варочайся ка мне».
 Раз, два, тры.
 Ад зары і да зары
 Будзем біцца,
 Весяліцца.

Бацька з сынам разлучыўся
І пры гэтым засмуціўся:
«Я — няшчасны, бо старэнькі.
Ты шчаслівы-маладзенькі.
Будзеш край свой ратаваць
І за долю ваяваць».
Раз, два, тры і г. д.
Жонка з мужам развіталась,
Моцна з ім расцалавалась.
І казала: «Будзь героем,
Будзь адважным, смелым воем.
Каб не дзеці, — я з табой
Разам бы пашла у бой».
Раз, два, тры і г. д.
Удаленькага хлапчыну
Выправіла ў бой дзяўчына.
І пры гэтым зашаптала:
«Калі хочаш, каб кахала,
Ад чужынцаў барані
Волю нашае зямлі».
Раз, два, тры.
Ад зары і да зары
Будзем біцца,
Весяліцца.

II

Ой, не кукуй, зязюленька,
На дубочку.
Ой, не сумуй, матуленька,
Па сыночку.
За родны край, за волечку
Сын твой б'ецца,
За лепшую за долечку
Ў бітву рвецца.
Ён не чытае пацеры
У пакуце;
Ён не сядзіць пры мацеры
У родным куце.
Душа яго жывенькая
Да малітвы,

6 Зак. 1133

А сіла маладзенькая
Ў полі бітвы.
Ён прынясе для матанькі
З бітвы поля
Падарак багаценькі —
Долю-волю.

*1920*

## ЛЯБЁДАЧКА-ДЗЯЎЧЫНАЧКА

— Ой, белая лябёдачка, куды паляцела?
Ой, красная дзяўчыначка, чаго засмуцела?
Я за мілым несуджоным слёзкамі зальюся.
Я за белым лебядочкам ў сугонь[1] паімчуся,
— Скажы, бела лябёдачка, дзе лебедзь лятае?
Скажы, сэрца-дзяўчыначка, дзе любы вітае?
— Ой, мой лебедзь, мой бяленькі, у тумане збіўся,
А мой любы, мой міленькі, з другой адружыўся!

Дзе ляцела лябёдачка, перайка губіла, —
Дзе ступала дзяўчыначка, слёзанькі раніла.
Ой, у полі па-над лугам лябёдку забілі, —
Тыя слёзкі, тыя горкі, дзеваньку згубілі.

* * *

Як дзеўча ў веку квіцення
Жыццёвую вабу пачуе, —
У думках сваіх летуценне
Аб нечым нязнаным пястуе.
Заўсёды адно ёй пляцецца:
Аб хлопцах і тым, як адзецца.

Хлапчына ж той з'явіцца скора;
Прыемны з ім слоўцы, ўздыханні,
Як ён аб уродзе гавора,
Аб моцным сваім закаханні,

І кліча ён неба у сведкі.
Ах, любы дзяўчыне слых гэткі!

Паволі ён сетку абводзе
З думкай сваёй патаемнай,
І гэтак і так падыходзе,
І просіць аб ласцы ўзаемнай.
Такая-то птушачкі доля,
Што зараз ёй клетка — няволя.

Калі ж удаецца дзяўчыне
Убачыць сіло у мякіне,
Тагды спадзявайцеся буры, —
Хлапец распачнець авантуры:
Такое паказуе гора,
Што літасць яе загавора.

Ашукана так ці іначай,
Аддаўшыся мужу навекі,
Потым бывае, што плача,
Пазнаўшы і здраду і здзекі.
Дарэмна сябе, бач, маркоціць,
Бо страты сваёй не вароціць.

## ПЕСНЯ

Ды ўжо слонейка за лес коціцца,
Мне, малойчыку, жыці хочацца.
Як у гаі тым ды дубкі растуць,
Ды як красачкі па лугох цвітуць, —
Ды вясёламу, ды шчасліваму,
Не гаротнаму, не тужліваму.
Каб зялёным я ды дубочкам рос,
Ды страйней хваін, ды вышэй бяроз, —
То б узяў сабе я хмяліначку
Тую ценькую за дружыначку;
Тая дружанька ля мяне б ішла,
Тая кветачка для мяне б жыла.
Ясна слонейка захавалася,
А мне доленька праміналася.

# РАЦЭЯ

*Зюні на 19/III*[1]

Сястра! За звычаем старынным
Хачу цябе павіншаваць
І рымам[2], хоць не вельмі плынным,
Жычэнняў колькі звершаваць.

Сягоння ў дзень твайго імення
Якіх жа добр табе схачу?
Багацтва? Думак ўсіх спаўнення?
Цярплівай будзь, — я іх злічу.

(Нудней ў хваробе за паэту
Няма, бо мозг яго гарыць,
Заснуць не хоча ён да свету
І рад ўсё вершам гаварыць.)

Багацтва й беднасць... Хто з навукай
Рубеж паміж іх правядзе?
Была б дарэмнай спроба мукай,
Бо не раздзеліш іх нідзе.

Граніца іх — у нашай волі,
Іх мера — ў нашай галаве:
Аднаму грош на дзень даволі,
Другі сто тысяч пражыве

І скажа: «Мала!» Як магу я
Табе багацтваў жычыць тых,
Што кожан іх сабе малюе
На бляер[3] свой, на ўласны штых.

А ёсць кляйноды барвы вечнай,
Багацтвы вечнае цаны:
Вясёласць духу, гарт сардэчны,
Цвярозасць мыслі, — вось яны.

Няхай табе, як рабы, служаць,
Каб горкіх дум табе не знаць,

Каб з імі клопат ўсякі здужаць,
Ўва ўсякай вальцы[4] панаваць.

Звычайна кажуць, як віншуюць:
«Хай мыслі збудуцца усе!»
Ану ж як мысль адна сфалшуець
І толькі гора прынясе

Замест дабра? Ці ж мусіць збыцца
З усім яе укрытым злом,
Каб жыццё — можа так зрабіцца —
Скруціць нам Гордзія вузлом?

Не, не! Няма ўва мне такога
К табе, мой свеце, ў сэрцы зла,
Каб жычыць штось табе благога,
З чым ты няшчаснаю б была.

Жаданні нашы не заўсёды
Сваімі слушна можам зваць:
На нас найльжэйшыя[5] прыгоды
Наймоцней здольны уплываць,

Дый так, што часам нашы змыслы[6]
Гатовы зблутацца саўсім.
Калі тады прыходзяць мыслі,
То верыць трэба ім не ўсім!

## ГАЛАСУЮЦЬ

Пацукі з мышамі ў тане
Смела скачуць, — кот не ўстане:
То крануць яго за лапкі,
То падзьмухаюць у храпкі.

Ўкруг ката яны танцуюць
І бяды сваёй не чуюць.
Раптам ўскочыў хітрун шэры, —
Палавіў усіх танцэраў.

* * *

Jaś konia poił[1].

Сталася здарэнне дый каля крыніцы
Ў хлопца-баламута, ў сіроткі дзявіцы.
Ясь спаткаў Марысю, што вадзіцу брала,
Ды і ну дурыці, каб памандравала.
«Забяры, Марыля, мамчына багацце, —
Разам у чужыне мы дазнаем шчасця».
«Што ж ты намаўляеш, як мне мандраваці,
Ў доме ўсё замкнута, а ключы у маці,
Ды і грэх вялікі мне за гэта будзе,
Пан Бог пакарае, свет увесь асудзе».
«Ой, ключы нядоўга, дзевачка, дастаці,
Папрасіся толькі у камору спаці.
Людзі не пазнаюць і не будуць чуці, —
Мы з табой здалеем на край свет умкнуці».
Ну і збаламуціў хлопец той дзявіцу,
Покі гаманілі, стоя ля крыніцы.
Цёмнай ноччу ў вёсцы людзі моцна спалі,
Ясечка з Марыляй ў свет памандравалі.
Ведала ж Марыля ці сабе гадала,
Што праз тры дзянёчкі Ясю абрыдала?
Дзеўка ашуканца шчыра пакахала,
А што ён надумаў, дык не спрачувала.
Праз Дунай праз ціхі як пераплывалі,
Скінуў Ясь Марылю з коніка у хвалі.
Ўскрыкнула дзяўчына ў страху, у распачы, —
Ясь не аглянецца, ад злачынства скача.
Нераты паблізу рыбакі стаўлялі,
От яны нябозе ды ратунак далі.
«Скуль, скажы, дзяўчынка, што каму зрабіла?»
Плакала Марыля: «Я яго любіла».
З свету баламуты каб усе спрагліся
От за тыя слёзкі, што тут праліліся.

# *Чарнавыя накіды*

## НЕКАЛІ

З ліста да А.Б.

Будзе, браце, панаваці
Ў сваёй хаце беларус,
Звычай родны шанаваці
(Пойме шаннасць, скіне глуз).

Гора збудзецца старонка
Разам з брацьмі усіма;
Заспявае вольна, звонка,
Пойдзе ўдаль, дзе зім няма.

## НЕ ПЛАЧ

Не плач, мамачка, што няма Антоські,
Што забілі беднага шаблямі вуланы!
Знаць, такая воля, такі прысуд боскі,
Што ў чужой зямліцы мусіў быць схаваны.

Не плач, мамачка, — прыказаў Антоська, —
І слязьмі маркотнымі не мачы хусціны!
Не адна матухна дый не з еднай вёскі
Не убачыць роднае сваяе дзяціны.

* * *

Дайце мне слоў, як звінючы крышталь,
Песню зляжыць на адход.
Дайце мне слоў, як бліскучая сталь,
Песняй ўзбудзіці народ.
Хай крышталёвыя словы звіняць
Музыкай пекнай лясоў...

* * *

Кволая кветачка, бледная ружачка,
Хворая дзетачка, бедная Юзечка!

Сіверам-холадам кветку прыціснула,
Звялі пялёстачкі, лісці павіснулі.

Слабыя, хілыя, ледзьве трапечуцца, —
Думкі маркотныя ў сэрцы не змесцяцца.

Бедная Юзечка, кволая кветачка,
Бледная ружачка, хворая дзетачка!

Толькі не варта быць хвораю, кволаю,
Трэба зноў стаціся моцнай, вясёлаю.

Ну, але з хіраю неяк мы справімся,
З нашаю дзетачкай йшчэ пазабавімся.

Купім ёй лялечку, ксёнжачку, пернічак,
Купім арганічак, смачных цукерачак.

Пойдзем у садзічак [разам з мамухнаю],
Пойдзем у [садзічак, звераў пабачым там].

* * *

Як не плакаць, — я ж сіротка,
Страціў татку, [маму].
Ах, сарочка, ах ты, цётка,
Я няшчасны самы.

«Ціха, — кажа белабока, —
Ты не плач, маленькі:
Яны ж гэтта, недалёка,
Дзе растуць апенькі».

Зайчык зразу як падскоча
Ад такоі весці, —
Скача, круцічча, рагоча,
Не ведае, [як] сесці.

«Ну, ну, досыць вычвараці, —
Кажа белабока, —
Пойдзем лепі іх шукаці,
Знойдзем недалёка».

От пайшлі, ляціць сарока,
За вяццё чапляе,
А за ёю зайчык ззаду
Шпарыць, патрапляе.

* * *

Дзіця! Ты бачыла траву,
Калі яна бліснець вясной
І чуць пакажа галаву
Над гладдзю поля ледзвяной.

Тагды ж здавалася ж табе,
Што, покуль жыў яшчэ мароз,
Ён гэту траўку заграбе,
Не дасць дажыць да цёплых рос.

Тагды ты думала: пары
Траве расці яшчэ няма,
Не грэець соўнейка згары,
I не спраглася йшчэ зіма;

I не убачыць траўцы дзён
Вясёлых, летніх дзён жыцця,
Якое б'ець з усіх старон
Ты гэтак думала, дзіця?

* * *

Дзе ясныя зоры, на неба дарога,
Ясней, як усюды, ўначы зіхацяць, —
На поўначы горы — каменныя груды,
Нахмурыўшысь строга, самотна стаяць.

Ад часу счарнелі іх можныя грудзі,
Падаўшыся сіле адменных пагод.
Лясамі збяднелі на доўгія мілі,
Згубілі пакрасу — лясоў карагод...

* * *

Вецер асенні халодны, сярдзіты...
Жоўтыя плачуць бярозкі...
[Суфіт паўдзенны] імглою закрыты,
Дожджыку дробнага слёзкі.

Часам на момант імгла разарвецца,
Слонка далёкае гляне,
Смутнае дзеткам сваім усміх[нецца].
Беднае! Й слонейка вяне.

Вецер асенні, халодны, зрыўчасты
Лес абдзірае з убёру.
Дожджык драбнюткі, [дадзейлівы], часты...
Сумна у гэткую пору!

* * *

Дзякуй, паночкі, за ласку, —
Каб умеў, дык сказаў бы я казку,
Заспяваў бы, як чыжык, гулліва
Ці заплакаў бы ветрам тужліва —
І зрабіў бы усё, як хацелі,
Толькі ж думкі мае адляцелі...

* * *

Загуляў Сцяпанка,
Быццам на Каляды, —
Прапіў пару коні
І два панарады.

Як паехаў ў горад
Збожжа прадаваці,
Дык дамоў прыйшлося
Пеша пратрапаці.

Бо канькі і збожжа,
Збрую і вазочкі
За гарэлку сплавіў
Сцёпка у шыночкі.

У вясковай карчме
Ён застанавіўся
І на грош астатні
Да канца упіўся.

Прыцягнуўся ноччу
Сцёпачка да хаты, —
Абяднелы грошам,
Дурманом багаты.

«Адчыняйце дзверы!»
«Хто там?» — «Гаспадару!
Завіхайцесь жыва,
Бо задам вам жару».

Адчыніла дзверы
Жонка маладая
І на мужа сумным
Вокам пaглядае...

* * *

Сцяпан Дзяўджук цяпер багаты,
А быў бы ён саўсім без хаты,
Каб розум Бог не даў такі.
(Усё ж радзімыя браткі...)
Малодшым ў бацькі быў Сцяпанка,
Апроч яго Язэп, Іванка.
У згодзе жылі ўсе яны, —
Старога слухаліся сыны.
Сам Дзяўга жыў даўно без бабы,
І быў стары здароўем слабы.
Ўва ўсё, аднак, уходзіў сам:
«Не дам, казаў, я волі вам;
Пакуль змагу яшчэ цягацца,
Сам буду ўсім распараджацца,
А як памру, тады канец,
Жыві, як хочаш, маладзец!
А толькі, дзеткі, ты, Іванка,
І ты, Язэп, за вас Сцяпанка
Жыве найменшыя гады
І розум мае малады.
За ім, малым, вы даглядайце,
Ніякай крыўды не ўчыняйце.
Як выйдзе з Сцёпкі чалавек,
То будзе дзякаваці век.
З таго дабра, што вам пакіну,
Адзначу я усім часціну,
Каб спрэчкі не было між вас, —
Бо мой ужо падходзіць час.
Табе, Язэп, з тваёй сям'ёю
Я воляй бацькаўскай сваёю
З усіх траіх найболі дам,
Каб не жылося дрэнна вам.
Жаніцца мусіш ты, Іванка,

І дзеўка ёсць — Рыгора Ганка.
Ужо схадзіў ты ў маскалі, —
Пара асесці на раллі.
Табе, як ты яшчэ без дзеці,
А толькі жонку будзеш меці,
Я мушу мені аддзяліць, —
Папраўдзе так павінна быць.
Малодшы ты за ўсіх, Сцяпанка,
Табе найменшая дзялянка.
Як Бог пазволіць, будзеш жыць, —
Здалееш больш і сам здабыць.
А покуль што да Сцёпкі ўзросту
Жывіце з ім, сынкі, папросту.
За ім ўсё трэба даглядаць:
Карміць, вучыць і адзяваць.
Няхай качаецца між вамі,
Як узрасце [—], то вы самі
Яму аддайце, што яго,
Дзеля прыказу маяго».
Так навучаў дзяцей часамі,
А тыя слухалі і самі
Казалі бацьцы у адвет,
Што будуць слухаць той завет...

* * *

Ад вёскі нашай недалёка,
Бадай, чы будзе тры вярсты,
Балотам шлях наш разарваны
І злучан грэбляю ізноў.

Здалёку стаць, таго балота
Амаль не відна, — так яно
Ў адно сабе злілося поле
З мурогам, з краскамі лугоў.

Аб ім цікавых шмат паданняў
Жывець у нашай старане.
Старых ты толькі распытайся, —
Паслухаць будзе што табе...

Калі у нас хадзілі швэды,
Вялікі быў ў народзе страх, —
Хавалі ўсё дабро у ямы,
А самі жыць ішлі у лес.

Бо швэды, хай іх трасца, зверы.
Куды ні прыйдуць, як рабак,
Усё пап'юць, з'ядуць, а рэшту
З сабой ў дарогу забяруць.

А да таго яны часамі
Без спуску білі мужыкоў,
І малых дзетак мардавалі,
І моцна крыўдзілі кабет.

Ну што ж, — за гэтакія здзекі
Народ ім шкодзіў як мага.
Даўней і з нашых былі зухі, —
На штукі ўсякія ішлі.

Дзядок Даніла стары векам, —
Здаецца, ссохлы ў лесе грыб, —
Згубіў іх конных два аддзелы,
Ў балоце гэтым патапіў.

Пачуў ён знекуль, быццам швэды
Ідуць да Менску нацянькі, —
І з весткай гэтай — скуль і [жвавасць] —
Прышпарыў раніцай у лес.

Кабеты, звесна, зараз плакаць,
Маўляў, чаму паможа плач.
Мужчыны гэтаксама ў страсе,
А дзед сабраў мужчын і кажа:

«Хадзіце грэблю раскідаць».
Народ паслухаў: дзед Даніла
Лічыўся мудрым навакол, —
Не вельмі доўга намаўляў іх.

«Чаму? Нашто?» — усе пытаюць.
«Нашто, аб гэтым знаю я,

А вы, як хочаце спакою,
Рабіце толькі, што кажу».

Усякі ведаў — дзед не дурань;
Таму, забраўшы з лесу снасць,
Памкнуліся людзі ўсёй грамадай
Бурыць дзядоўскі [моцны ссек].

Паверыць трудна, паглядзеўшы
На нашу грэблю, як яны
Паспелі ў дзень разруйнаваці
Яе — амаль не на вярсту.

Па гэтым кажа дзед [Ігнацы]:
«Цяпер усё, — ідзіце ў лес,
[Вазьміце трубы] і чакайце,
[Пакуль не будуць шведы тут].

Як прыйдуць шведы і на грэблю
Уступіць іх апошні конь,
Тады ў катлы ударце, [ў трубы
І затрубіце як мацней].

Рабіце гэтак, мэрам войска
Ідзець вялікае праз лес,
І самі ўбачыце, што будзе,
А мне ісці ад вас пара».

«Куды?» — спыталі. — «Дый да шведаў,
Хачу іх быць правадыром».
Сказаўшы гэтак, сам падаўся
У той, адкуль з'явіўся, бок.

От ноч прыйшла, ніводнай зоркі
На чорным небе не відаць.
Стаяць людцы на варце ў лесе
І Богу моляцца усе.

Здаля пачулі тупат конны,
[Калькох] паслалі дзец[юкоў]
Сядзець на купках у балоце
І пільна шведаў [сцерагчы].

Бліжэй, бліжэй, — ужо ля грэблі;
Ужо чуваць іх галасы,
І ржанне конскае, і тупат.
Ужо на грэблі... Ў той жа час

Дзяркач азваўся у балоце,
Па ім другі умоўны знак, —
І з лесу трубы, бубны [сурмаў];
Пачулі швэды страшны шум.

Змяшаліся швэды. Ім здалося,
Што войска збоку йдзе на іх.
Пусцілі коні наўцёкі,
Ды не ўдалося уцячы...

* * *

«Бабуля, казку!» — так, бывала,
Малы я бабцы назаляў.
Мяне старая пеставала,
І з ёй я гэта дазваляў.

«Якую казку? Дзе іх ўзяці?
Ідзі, кладзіся лепі спаць, —
Пачынкі[1] трэба мне звіваці,
І ты павінен рана ўстаць».

«Бабулька-рыбка, ну, адну хоць, —
Паглядзіш, ўстану рана я,
Цябе заўсёды буду слухаць,
Бабулька-кветачка мая!»

І твар стары яе, абняўшы,
Я моцна, моцна пацалую
І так прашу, к грудзям прыпаўшы:
«Бабуля, казку, хоць малую».

І сэрца добрае старэнькай
Змякчэе з ласк і просьб дзіцяці.

«Ну, добра, казачкай маленькай
Пацешу я, як будзеш спаці».

«Маленькай мала! Лепей тую,
Што ты учора мне казала».
«Ну, не таргуйся, я другую
Скажу табе. Не будзе мала».

Сказаўшы пацеры за бабкай
І ўсіх пазбаўлены грахоў,
Гатоў я слухаць казкі гладкай
Хоць да астатніх петухоў.

Пад коўдру цёплую кладуся
І з нецярплівасцю чакаю,
А побач з працаю бабуся
Сядзіць, прадзе ці што сукае[2].

«Ну, слухай, дзеткі. Было гэта
Даўно. Таму са сто гадоў.
Зімою, пэўне, не у лета,
Настроіў холад гарадоў.

Ён з лёду вылажыў палацы,
І цэрквы з лёду, і красты.
Не пакладаўшы рук для працы,
Зрабіў дарогі, ўзняў масты.

Як добры майстар, ўсякіх цацак,
Аздобаў ўсякіх нарабіў,
Панастаўляў іх на палацах,
Дзе толькі трэба — іх прыбіў.

Праз нейкі час, сканчыўшы працу,
Пайшоў наўкола аглядаць,
Ад цэркві к мосту, стуль к палацу, —
Чы дзе там фальшу не відаць.

Усё так добра, чыста, гладка:
З аглядам майстар як ні біўся, —
Нідзе не ўбачыў непарадку.
Таму быў рад, крыху гардзіўся.

І, праўду кажучы, гардзіцца
Яму было-такі з чаго,
Бо можна б і ў заклад пабіцца,
Што не было йшчэ ні ў каго

Такога царства самацветаў,
Якімі ссыпаў ён дамы,
Што так ігралі ўсякім светам
І ў ясны дзень, і сярод цьмы.

І ні адзін кароль на свеце
Такога царства не імеў,
І нават так, хоць на прымеце
Каб мець такое бы, не смеў.

Так, абхадзіўшы ўсе будынкі
І абглядзеўшы гарады,
Ён вецер, лёгкі на ўспамінкі,
Заве хутчэй к сабе тады:

“Ляці, мой сын, да скраяў света,
Заві усіх сюды людцоў,
А каб скарэй рабіў ты гэта,
Вазьмі з сабой сваіх хлапцоў.

Пашлі найменшага к усходу,
На поўдзень большага пусці
І выпраў старшага к заходу,
А сам на поўнач паляці.

Завеце ўсіх ў мае дзядзіны,
Усіх, паноў і чорнай косці,
Ганеце ўсякае звярыны,
Каб есці мелі мае госці”.

І вецер посвістам працяжным
Умомант змог сыноў сабраць
І ўсіх траіх з наказам важным
Паслаў па свеце пагуляць...»

# *Паэмы, апавяданні вершам і байкі*

## МАЕ КОЛЯДЫ

Быў калісьціка час
І ў мяне, як і ў вас,
Што я быў маладым
Ды так ў меру — дурным...
Дык да школы хадзіў;
Між панамі і жыў
У вялікім у месце;
Спосаб панскі і есці
І адзетку узяў, —
Словам, панам я стаў...
Хаця пуста ў галове,
А у панскае мове
Я пачаў стараваці,
Забывацца аб хаце,
Аб звычаях вясковых,
Бо — прывык да мястовых...

Па такім уступленні
Раскажу вам здарэнне!

Ужо восеню цэлу
Школа намі грымела,
І пачатак зімы
Правучыліся мы, —
Прыйшлі святы, Каляды...
Я быў вельмі ім рады:
Будзе час аддыхнуць,
Кніжкі ў кут шпурлянуць.

Да таго — мой кампан
Казюк — з прадзедаў пан,
Хлапец вельмі багаты, —
Запрасіў вось на святы
І мяне ў бацькаў двор...
Я на гэнае скор —
Зараз даў сваю згоду...
Як бач панскай падводай —
Пара коні, хвурман —
Еду я ды кампан!

Было пекна ў двары:
Гасцей шмат ўвечары,
Ёсць што есці ды піць,
А музыка грыміць
Ад змуроку да рання —
Шло усцяж баляванне!..
Я быў добра прыняты,
Бышцам нейкі багаты
Хлапец, роўны Казюку;
Падаваў усім руку:
Паном, паннам ды паням
Ды займаўся скаканнем!..
Ды была жа ахвота:
Танцаваў я да потаў
Вальцы, полькі, кадрылі
Са сваёю Марыляй,
Казюковай сястрою, —
Хто з кім, а я з ёю...
Бо ўжо вельмі ў спадобе
Была грыўка на лобе,
Вочкі мела анёла.
Ох, было мне вясёла!..
Не агледзеўся я —
Як сталася бяда
Ці вялікая ўцеха...
Цяпер смех... Не да смеху
Там было мне тагды,
Як сардэчнай жуды
Пачуў першыя сціскі...
Да каго? — да Марыські!
Як то кажуць: па вушы

Ўсёй хлапчынаю душай
Закахаўся ў дзяўчыне —
Ў яе вочках, грывіне,
Ў яе смеху звінячым...
Нат начамі маячыў
Ды аб ёй мармытаў —
Так Казюк мне казаў!
Дык прызнаўся яму
(Толькі! — больш — нікаму!),
Што кахаю Марылю,
Больш чым польку, кадрылю,
Больш чым нават яго,
Казюка свайго!..
За адно яе слова
Ўсё зрабіць я гатовы:
Купіць стрэльбаў, нажоў
Ды пайсці на звяроў
Індыянскае дзічы —
Стацца там паляўнічым...
Сярод стэпу пажараў
Увіхацца з Эмарам...
Дык за ўсю нагароду
Хацеў б мець яе згоду:
Што мяне не забудзе,
Што скакаці не будзе
Ўжо ніколі з баронам
(Нейкім там нарачоным!)
Ды аддасць мне з галовы
Сваю ўстужку ружову,
Як знак вечны ўспаміну...
Так кахаў я дзяўчыну!..

Усё чысценька гэта,
Пад вялікім сакрэтам,
Казюкові на вуха
Расказаў, а ён слухаў...
Ён спрыяў мне душою...
Абяцаўся з сястрою
Аба ўсім гаварыць
Ды аб ўстужцы прасіць...
Бо я сам, далібог,
Стараваць з ёй не мог —

Толькі ў вочкі глядзеў
Ды, як рак, чырванеў!..

Цэлу ноч мы шапталі,
Розны планы ўкладалі,
Ўрэшце стала на тым
(Мусім мець на сваім!),
Калі ўстужкі не дасць,
То патрапімо ўкрасць!

Ужо вокны світалі,
Як мы змову канчалі,
Разоў колькі зяўнулі,
Затым скора паснулі!..

Я ўва сне не прысніў,
Чым дзянёк мне грaзіў,
Што ўжо наступаў...
Я спакойненька спаў.
Раптам чую: «Паніч!
А, паніч!» — нехта кліча,
Ды за коўдру тармосіць,
Ды ўставаць мяне просіць...
Глянуў я — так, з-пад вока —
Аж то дворнавы лёкай
Нахінуўся ды кажа
(Прападзі сіла ўража!), —
Што ось з вёскі за мною,
Каб забраці з сабою,
«Хтось» санямі прыехаў
(А сам скерыцца смехам).
А бадай це напасці!
Зразумеў я няшчасце:
Будуць ведаць паны,
Каго маюць яны —
Што я ім нераўня!
Што я — так — мужычня!
Што ўжо, пэўна, ніколі
Быць не прыйдзецца болей
На Калядах — на святах —
Ў такіх дворах багатых
Між паноў між вялікіх

На іх скоках, музыках!..
Бо мне стыдна й самому,
Што я з простага дому!..
(Вось якога паняцця
Быў калісь — хлапчаняцем.)
Ды ўсё гэна нічога...
Мукі пекла самога
Я вялікі цярпеў —
Калі йшчэ зразумеў,
Што ніколі з Марыляй
Не пайду у кадрылі,
Ў яе вочкі не гляну
Ды ўстужкі не дастану!..
Пацямнела ў вачах,
Зашумела ў вушах,
Я быў блізкі распачы, —
Чуць стрымаўся ад плачу...
Ды сказаўшы: «Устану!»,
Коўдрай вочы апрануў,
Бо, жадаючы схову,
Я закрыўся з галовай!..
Дык паганы лякай
Далей кліча «Ўставай!»
Ды за коўдру бярэцца...
Аж Казюк адазвецца
(Разбуджаны са сну):
«Дай спакой ты яму,
Ужо ўстанем мы самі —
Йдзі скажы гэна маме!»

Лякай выйшаў. Казюк
Дай рабіці стук-грук,
На маё ложка ўскочыў,
Развясёлы — хахоча,
Ўспамінае Марылю,
Што аб ёй гаварылі...
Я маўчлівы... Ледзь слова
Магу мовіць... «Галова, —
Кажу, — надта баліць...»
Што рабіць? Што рабіць?
Ўсцяж пытанне вінецца:
Што рабіць? Куды дзецца?

Ці, адзеўшыся мо,
Уцячы праз вакно?!.
Кабы толькі з панамі
Не сустрэцца вачамі...
Ды прад любай дзяўчынай
Мне дарэшты не згінуць!..

Зноў лякай дакладае,
Што з гарбатай чакаюць;
Дык далей адцягаці
Нельга было — ўставаці
Трэ ужо нам, канешна...
Мы ускочылі спешна
Ды адзеты, памыты
Ідземо... моў прыбіты
За Казюкам цягнуся —
Так сарому баюся!..

А ў сталоўцы гасцей —
Хмара ўсякіх людзей:
І старых, і малых,
І сваіх, і чужых,
Я не помню нічога:
Ці казаў што да кога,
Ці каму пакланіўся...
Помню толькі: абліўся
Я гарбатай гарачай,
Як Марылю убачыў,
Што з баронам сядзела
Ды так дзіўна глядзела
На мяне, небарака...
Сколькі спёк я там ракаў[1]
Каб хацеў, не злічыў бы —
Ды і вас умарыў бы!..
Дык як ўсенька на свеце
Свой канец мае прэце —
Так і мука-гарбата
Мела ўрэшце канчатак:
Паны ўсталі і пані —
Ды з падзякай снядання
К Казюковай матулі
Грамадой пацягнулі...

Скарыстаў я з замехі
Ды з вялікім паспехам —
Міжы іншых паноў —
Падышоў да бацькоў
Кампана: за гарбату,
За гасціну, за свята
Я падзяку злажыў —
Але як? каб я жыў!
Сам я не разумеў,
Што казаці хацеў!
Дык і выйшаў мармыт
Адзін — проста, ну, стыд!
Потым йшчэ камусь руку
Я падаў ды з Казюкам
Наўцёкі пусціўся,
Ажно аж апыніўся
У сваім я пакоі...
Казюк сёе ды тое —
Усцяж трэле-гавора,
Ўспамінае, што ўчора
Мы так лоўка на балі
Ўдвох гулялі-скакалі;
Што ён вельмі шкадуе,
Чаму з бацькам еду я
(Гэны «хтосьбыў мой татка
З сваёй простай апраткай!), —
Бо яму без мяне
Ўжо так весела не —
Час не будзе мінацца!
Ах, каб мог я астацца!..
Мне яго ўспамінанне
Ды па мне бедаванне —
Ўсенькі гэныя жалі
Косцяй ў губе стаялі:
Каму ўцеха, забава,
А мне выйшла няслава!..
Хаця ён — маладой
З панскай добрай душой
Майго гора не ведаў...
Я б ж? хацеў толькі з едаў
Усіх гэных звярнуцца,
Найдалей апынуцца,

Каб злажыці манаткі
Ды ўцячы без аглядкі!
Вось і кошык гатовы.
Шапку ўздзеў на галову
Ды пальточка на плечы
Я — гатоў да уцечы!..
«Ну, дык будзь жа здароў!»
І без лішніх там слоў
З Казюком абняліся
Ды з сабой расталіся!..

Я стаю ўжо на ганку
Ды бацькаву хвурманку
Паглядаю скрозь вокам
На дзядзінцы шырокім...
Шмат бо была канёў
Ды з званкамі санёў,
Што паноў тых і паняў
Прывязлі на сняданне...
Ды ні бацькі, ні санак
Міжы панскіх хвурманак
Не чуваць ані духу...
Аж ў тым шэпча над вухам
Дворны лёкай паганы,
Што вун там, ля паркану,
Да хлявоў дзе дарога,
Каля санак «з убога»
Бацька здаўна чакае...
Пракляў ў душы лякая
За ягоны парады!..
Ды хоць вельмі нярады,
Мушу йсці пехатой
Праз хвурманак пастой
Прад палацу вакнамі!.
Чуць не плачу слязамі
Над нядоляй сваёй;
Пэўна, шмат хто з гасцей
Будзе ў вокны ўзірацца,
Нада мною смяяцца —
І барон, і Марыля,
І ўся панска хэўрыля!.
Стала мне гарачэ...

Хоць мароз аж пячэ
Ветрынёй студзяной,
Снег скрыпіць пад нагой,
Я не йду, а ляту —
Кабы скончыць бяду!

Вось ўжо сані ды татка...
І не знаю: парадкам
Якім сталася гэна —
Толькі нейкая змена
У маёным паняцці
Пачала наступаці...
Стала стыдна мне стыду,
Паказаўся я брыдай
Для сябе нат самога...
Застыдаўся я — кога?
Свайго роднага таты!
Сваей роднае хаты!
Сваей роднай сярмягі!
Сваей роднай павагі!
Сваей роднае мовы —
Беларускай — вясковай!
Бяды свае з мусу!
Ды што я — з беларусаў!..

Памаленьку, памалу
Праясняцца мне стала
Ўсіх адносін загадка,
Палажэння, парадкаў,
Што пануюць на свеце —
Мы ж сям'і аднэй дзеці!..
А жыццёвы варункі
Ды ўсялякі рахункі
Раздзялілі народ
На вярхі ды на спод —
На багатых паноў,
На бяду — беднякоў...
Адны ў пекным адзеты
І зімою і летам —
Добра маюцца ўсёгды...
Так праходзяць ім годы:
Быць у нейкім у сне,
Быць у вечнай вясне!..

А другія — ў бядзе,
Што ўвакол іх гудзе
Ды к няшчасцю вядзе,
Па жыццёвай грудзе
Валакуць свае лямкі...
Не чапаюць нат клямкі
Тых да шчасцейка дзвераў
Ды жывуць жыццём звераў,
Жыццём гора-нядолі
Ды ўсялякай няволі!..
Стала ясна мне ясна:
Што да гэных няшчасных,
Ўсё жыццё працавітых,
Ўсім і ўсімі прыбітых, —
Я павінен схінацца
Ды ім сэрцам аддацца!
Усягды быці з імі,
З бедакамі сваімі:
З іх я целам-крывёю —
З імі быць трэ душою!..
Трэба мне літавацца
(А не то што стыдацца!),
Напрагчы свае сілы
Для карысці для мілых
Братоў шэрых вясковых...
Вучыць поступкам, словам, —
Як змагацца з нядоляй,
Каб багатшымі болей
Былі ў розум і сэрца,
Не былі ў паняверцы!
Каб іх хата бальшэла,
Цяпла, свету больш мела!
Кабы бедныя нівы
Былі больш урадлівы!
Ды каб быў больш здаровы
Ўвесь народ мой вясковы!..

Думкі гэны — другія,
Хаця сілай цяжкія,
Скрой-маланкай бліснулі
І — душу закранулі!
Гэны міг быў мне векам,

І я стаў чалавекам!
Другім-іншым — і новым —
З другім чуццём, галовай!..
Ўсю жыцця шумавіну
Розум пряткі мой скінуў!..
Ды убачылі вочы,
Што было у змурочы
Пад плашчом дзецінады...
І быў вельмі я рады
Праўдзе болю святога!
Ўжо не стыдна нікога:
Ні барона й Марылі,
Ні жыцця камарылі!..
Падбег борзда к татулю
Ды як добры сынулек
Ўцалаваў яго рукі —
Быццам з доўгай разлукі!..
З ім гаворку пачаў,
Памагаці тож стаў
(Не стыдаўся нізвання!)
Папраўляць упраж, сані...

З мінай пэўнай мы селі
Ды на «двор» паглядзелі...
І адважна і смела.
(Ніякога мне дзела
Не было — ці ўзіраўся,
Ці хто плакаў, смяяўся...
Я сядзеў з татам мілым
І пачуў ў сабе сілы...
Быў на ўсенька гатовы!)
Дык з двара па жыццёвы
Я паехаў дарогі —
Кінуў панскі парогі!..

Вось якое здарэнне
Апісаць замярэннем
Было — з дзецінады!..
Ці патрапіў? даў рады?
Гэта меншая рэч:
Скінуў працу я з плеч!

*Вёска Капанікі, 13 студзеня 1905 г.*

## ШЧАСЦЕ МАЦЕЯ

Старадаўная казка

Жыў сабе ў сяле Мацей,
Меў шасцёра ён дзяцей,
Сядзеў, бедны, без работы,
Бо не меў к таму ахвоты.
Красці ён высцерагаўся,
Знаць, астрога крат баяўся,
А шасцёрка дзетак плача,
Трэба хлеба ім, аднача.
Вось ад гэтае нядолі,
Каб не чуці стогнаў болей,
Рушыў раз Мацей ў дарогу
Проста ў рай, к Самому Богу.
Ўздумаў праўды дапытацца,
Што рабіць, за што узяцца?
Брыў ці многа ён, ці мала,
Ў лес густы яго прыгнала.
Паўдня, мусіць, йшоў па лесе
Ды зблудзіўся, нос павесіў,
Сеў пад дрэвам і чакае,
Можа, пройдзе хто. Гукае.
Толькі ўчуў ён: нехта едзе;
Лес трашчыць, як ад мядзведзя,
Конь капытам так грукоча...
Уцячы Мацейка хоча,
Хоча ўстаць — ніяк не можа...
— Вось бяда дзе, моцны Божа!
Зліўся потам ўвесь, трасецца...
Бачыць — свет к яму нясецца:
Бяжыць ясны, пекны конь,
Ўвесь гарыць, маўляў агонь,
Збруя белая раменна,
Ўбрана ў золаце адменна;
На кані, узяўшысь ў бокі,
Чалавек сядзіць высокі,
Пекна надта прыадзеты,
Але быццам з таго свету.
Вось уз'ехаў на паляну,
Дзе сядзеў Мацей зляканы,
Конь спыніўся, стаў, чакае,

З воч яго агонь шугае.
«Што сядзіш тут, маладзец? —
Так спытаўся той яздзец. —
Куды брыў, на што сабраўся?»
Мацей духу тут набраўся,
Зірнуў проста на яздца:
«Ў імя Сына і Айца!!!
Святы Юр'я, пэўне, гэта:
Такі з твару, так адзеты,
Як я бачыў на абразу!»
Пасмялеў Мацей адразу
Дый прамовіў да святога:
«Я — Мацей з Бару Крутога,
Шмат дзяцей, паночку, маю,
А карміць іх чым — не знаю.
Працаваў бы — не здалеці,
Бо гультай я ў гэтым свеце!
Красці? — краў бы, дык баюся,
Бо, крый Божа, пападуся
Да пачцівых як людзей,
Так паходзяць ля грудзей,
Што жыць стане неахвота!
Вось такія мне клапоты.
Я і думаў, як мне быць,
Дзе спакой сабе здабыць?
Не дайшоў сам да нічога,
А надумаўся — да Бога
Я пайду і запытаю,
Што рабіць на свеце маю?
Ды у лесе во зблукаўся,
Начаваць у ім сабраўся...
Вы ж, паночак, быць павінна,
Ў неба едзеце ў гасціны?
Дык мне ласку там зрабіце,
Аба мне ўсё раскажыце
І аб дзетках маіх разам;
Што там скажуць? З пераказам
Сюды едзьце проста ў лес».
«Добра, добра, я увесь
Для цябе гатоў служыць!
Як мне толькі не забыць
Тое ўсё, што ты казаў?

Я б паяс расперазаў
На ўспамін, — дык меч спадзе,
Што параіш у бядзе?»
«Эт, панок! Я спосаб знаю, —
Простым розумам параю:
Каб вам мець перасцярогу,
Не забыцца б ў Пана Бога, —
Адно стрэмя залатое
Вы пакіньце мне на тое,
Помніць будзеце ўвесь час,
Што я тут чакаю вас».
«Добра, розуму бярэмя
Маеш, чалавеча! Стрэмя
На, вазьмі маё; сядзі
Ды чакай мяне, глядзі!»
І, Мацею стрэмя даўшы,
Сам паехаў, паскакаўшы
Зноў па лесе на каню...
Бляск ідзе, маўляў з агню,
Ззяе стрэмя залатое.
«Вот бы мне яшчэ другое! —
Гэтак думае Мацей —
Было б хлеба для дзяцей».
(Ўзрос Мацей і жыў без цноты,
Не было бацьком турботы, —
Дык не дзіва, што лазаты,
Бэльзэбула[1] сын рагаты,
З гэткай думкай падступіў,
А Мацей яе ўхапіў.)
Потым стрэмя закапаў,
Палажыўся і праспаў
Аж да заўтра, да паўдня...
Пралупіўшы толькі вочы,
Чуе: конь ізноў грукоча.
Святы Юр'я то нясецца,
Мацей ў вус сабе смяецца.
Многа часу не чакаў,
Хутка Юры прыскакаў;
Конь пад ім гуляе, скача.
«Ну, ты слухай, небарача:
Аб табе з тваёю справай
Я ў абедзе за расправай



«Беларуская хатка» у Мінску, дзе жыў з маці і братам Алесь Гарун



Алесь Гарун. 1907 год.
Найбольш ранні партрэт






Фотаздымкі Алеся Гаруна з судовай справы



Язэп Лёсік і Алесь Гарун
у Сібіры



БЕЛАРУСКІ
ШЛЯХ

Газета «Беларускі шлях»
за 1918 г., рэдактарам якой
быў Алесь Гарун



Беларускія пісьменнікі і дзеячы культуры.
.Сядзяць: Змітрок Бядуля, Аляксандр Уласаў, Алесь Гарун, Янка Купала;
стаяць: Міхась Чарот, Уладзіслаў Галубок, Язэп Фарботка. 1920 г.




Вокладка зборніка «Матчын дар». 1918 г.


Молітва

Аўтограф верша Алеся Гаруна «Малітва»



Васіль Зуёнак і Уладзімір Казбярук на адкрыцці помніка Алесю Гаруну. Кракаў. Ракавіцкія могілкі. 24 верасня 1988 г.

Богу ўсё як ёсць сказаў;
Пастараўся, як звязаў,
І як ты жывеш, гаруеш
І з дзяцьмі сваймі бядуеш;
Як галаву сваю ламаеш
І які ты розум маеш!
Так казаў, што ледзь-не ледзь
Сам не плакаў. Адпаведзь
Бог такую табе даць
Меў мне міласць прыказаць:
Красці — гэта грэх! Глядзі,
Ты ніколі не крадзі!
Калі ж будзеш ты што браць
У людзей, то, каб аддаць,
Надта рупіцца не трэба,
От і будзеш меці хлеба.
А то часам і саўсім
Не аддай нічога ім:
Я не ведаю, не браў...
Калі ж будуць набівацца,
Ты не бойся адпірацца,
Шчасце знойдзеш так сваё.
А цяперака маё
Стрэмя зноў ты мне звярні».
«Стрэмя?! Я яго не браў!
Хіба ж пан мне аддаваў?!» —
«Ану, як жа, — можа, не?» —
«Не давалі, панок, мне!
Мо ў дарозе дзе згубілі,
Мо саўсім без стрэмя былі?..»
«Не кажы, Мацей, пустога,
Свайго стрэмя залатога
Я ніколі не губіў;
Я пакінуў, як тут быў,
Ды ад'язджаць ўжо збіраўся».
А Мацейка не спужаўся:
«Ясны пане, мяне маці
Не вучыла, каб ілгаці,
І калі я вам сказаў,
Стрэмя вашага не браў, —
Значыць, так яно і ёсць,
Дайце веры, ваша мосць».

Так Мацей выпрысягаўся.
Святы Юры паспрачаўся,
Потым бачыць, што дарма
Тут стаяці, што няма
Ўжо ніякае надзеі
Вярнуць стрэмя ад Мацея,
Уздыхнуў дый кажа ціха:
«Ну, не жычу табе ліха,
Бог з табою... Спажывай!
Дробных дзетак паднімай,
Хоць... Папраўдзе... Каб я знаў,
Стрэмя б мо табе не даў».
І, сказаўшы так, святы
Паскакаў у лес густы.
Мацей стрэмя адкапаў
Дый за пазуху схаваў
І пайшоў сабе дахаты
І вясёлы, і багаты.
Як ён сцежачку знайшоў,
Як дадому ён прыйшоў,
Як далей ён сабе жыў,
З кім сварыўся, з кім дружыў,
Які ў жыццю меў ён цэль. —
Я не ведаю. «Круцель!» —
На яго казалі людзі.
Хай і гэтак сабе будзе!
Мне ж, калі так ваша ласка,
За маю за гэту казку
Чару мёду паднясіце
Ды закускаю дарыце.

*1910*

## КАМУ ШТО

*Жарт*

У самы жар, у летні час,
Ужо ў поўдзень, па абедзе,
Назаўтра ў горад на кірмаш
Народу цьма ідзець і едзе.

Ну, ехаць добра, хоць пячэ,
Але ж ісці дык во дзе мука!
А як з паклажаю яшчэ,
Дык то найгоршая дакука.
Хаця каб крышку адпачыць —
Ідзеш, ідзеш, ды трэба сесці,
Бо пуд ці пару валачыць,
То не пярынку ў жмені несці.
Калі ж карчма — ну, тутка стой!
Тут можна выпіць і паесці,
А за работай мілай той
З знаёмым гутарку завесці.
Зышліся гэтак ў карчме раз
Наш беларус, цыган, хахол,
І неяк трапіла на час,
Што за адзін прыселі стол.
Адзін узяў сабе мядку,
Другі — гарчыну, той — паўпляшкі,
Пакуль сядзелі ў халадку,
Звялі знаёмства, то ж не цяжка.
Цыган да гораду спяшыў, —
Каня ён добра знаў ўсе вады, —
Купляў, мяняўся — не грашыў,
Купцам на коні даваў рады.
Хахол Маўчба ішоў з работ, —
Заробак добры меў, багаты, —
Шукаў сябра, каб без клапот
Даехаць з ім да роднай хаты.
У горад брыў цялё прадаць
Наш Янка Цвік, празваннем Дыба;
Падатак мусіў ён аддаць,
А так — цялё самому трэба.
Адно вось так, другое не, —
Сядзяць і зюкаюць паціху,
Ажно глядзі ты, вохці мне!
Зайшлі у спрэчку, клічуць ліха.
Каб іх на царства узвялі,
Аб гэтым здумалі спрачацца! —
Дык што рабіць бы пачалі,
Якою працаю займацца?
«Вось я, здаецца, добра б жыў,
Гульнуў бы я тады бяспечна,

З сваім народам бы дружыў,
Кулеш ўсё еў бы ды яешні», —
Так кажа Янка першы наш.
«Ну, дзе твой розум, белавусы? —
Крычыць Маўчба. — Саўсім нямаш
Між вас разумных, беларусы.
От я іначай бы зрабіў:
Ў садку пад вішняю ляжаў бы,
Увесь урад пры мне б тут быў,
А я бы правіў ды спяваў бы.
А есці — еў бы з салам хлеб,
Крышыў галушкі бы зубамі,
І сала з салам, і яшчэ б
Я сала так бы еў часамі».
«Каб вас пярун! — крычыць цыган. —
Абодва варты вы нямнога,
Вунь той аббіты ўвесь саган
Хоць грошык варт, а вы — нічога!
Каб я папаў у каралі,
Дык мне ўсё гэта было б мала,
З казны б украў я тры рублі,
Украў каня — і... махні драла!»

*1910*

## ЖУРАЎ І ЛІСІЦА

Байка

Разумным добра быць. То праўда — не смяхом.
Усё каб ведаці, з усякім справіцца грахом,
То можна была б пажываць.
Але ж не трэба мудраваць,
Бо гэта добра, а не надт.
От знаю я таму прыклад.

Прыйшлося неяк жураўлю
У лесе ў дол папасць звярыны.
Чаго зляцеў ён на зямлю,
Аб тым я ведаць не павінны.

З такой бяды жураў крычаў,
Аб сценкі долу крыллем біўся,
А потым і сціхаць пачаў,
Бо надта бедны прытаміўся.

Сядзіць і думае бядак,
За што напасць найшла такая?
Жураў бо быў разумны птак, —
Што будзе далей, ён чакае.

Аж тут праз час які — глядзіць —
Галлё трашчыць над галавою:
Кума ліса к яму ляціць, —
Бяда страслась, відаць, і з ёю.

«Здароў, кумок! А як жа ты
Папаў сюды? Чы проста з неба
Сюды зваліўся праз кусты?
Ці, можа, тут табе што трэба?»

«Якога ліха тут шукаць?
Якой мне трэба тут напасці?
Упаў, прыйшлося паскакаць, —
От як наверх бы мне папасці?»

«Ну, гэта што! От зараз я
Нараю што-нібудзь такое...
Эх, думак роіцца сям'я,
Як бы вяселле ў іх якое.

От так зрабі... Чакай ты... не,
Здаецца, лепі будзе гэтак...
Эх, думак, думак у мяне,
Маўляў, у качкі дзікай дзетак».

Пакуль яна гадала так,
Жураў надумаў, як спасціся, —
Хацеў бы ён аднэю як
Хаця бы думкай запасціся.

Ліса ж вядзе саўсім не то, —
Мудруе, круціцца наўсякі:
«І гэтак добра бы, нішто,
А так найлепей — скажа ўсякі».

От гэтак дзень у іх прайшоў, —
Ляцяць ў бядзе дзянькі без знаку.
Мыслівы з стрэльбай падышоў, —
Лісе у гэтым мала смаку.

Сюды, туды яна глядзіць,
Рабіць жа што — сама не знае;
І ўсё адно сабе цвярдзіць,
Што думак надта многа мае.

Жураў жа бачыць: кепска так, —
Зваліўся з ног, ляжыць без духу,
Не зварухнецца аніяк,
Каб а сабе не даці слуху.

Галлё мыслівы разабраў,
Улез у дол і вось што бача:
Там нежывы ляжыць жураў,
Наўкол лісіца жвава скача.

«От нечысць дзе, каб ты прапаў,
Што за праклятая звярына:
Не годзе то, што сам папаў, —
Душыць другіх яму павінна!»

І, стрэльбу зняўшы з-за пляча,
Лісе у бок не доўга цэліў, —
Спусціў курок і згарача
На месцы тут яе застрэліў.

А потым, ўзяўшы жураўля
За ногі, ўгору яго кінуў;
Пад тым ўскружылася зямля,
Як на лам'ё бакамі рынуў.

Але праз момант ачуняў
І крыкнуў радасна і звычна, —
І, ўгору ўзняўшыся, жураў
Пайшоў лятаць, як лётаў звычна.

---

Ну во і ўвесь тут мой прыклад, —
З яго марал такі усім:
Мудруйся, браце, а не надт,
Бо замудруешся саўсім.

*1910*

## ВАРОЖБА

Засцянковая аповесць

Бліжыцца поўнач. У гэтай пары
Сон пахаджае па панскім двары.
Спяць, паканчаўшы звычайную працу,
Чэлядзь ў пякарні, паны у палацу;
Толькі стары вартаўнічы Ігнацы
Ходзіць з клякоткай і піпкай сваёй:
Двор сцеражэ ад людзіны ліхой.

Ходзіць стары і мурмоча пад нос:
— Ну і праклятыя ж сягоння мароз!
Новы кажух прабірае, пся вера,
Быццам кажух — не кажух, а папера!
Брэша, не зломіць старога жаўнера, —
Панна Эмілья, хай Бог ёй аддасць,
Вызваліць з гора, не пусціць прапасць.

Цёнгле, як толькі пачнецца цямнець,
Зараз палынаўкі з кухні нясець,
Міла глядзіць і ласкава смяецца:
— Хочаце, можа, Ігнацы, пагрэцца? —
Гэткі парадак не ўсюды вядзецца!
Добрае сэрца! Павет абысці,
Роўную панне, бадай, каб знайсці...

Адвэнт[1] на сходзе. Яшчэ да Каляд
Тыдзень астаўся адзін акурат.
Неба у зорках, і кожна з іх ззяе,
Месяц зялёны свой свет пасылае,
Лёгкі марозік за шчокі хапае,
Снег пад нагамі прыемна рыпіць, —
Ведае варту Ігнацы, — не спіць.

Панна Эмілья тым часам сабе
Вечар праводзіць у нейкай журбе:
Нейкія брэдні плятуцца дзяўчыне, —
Быццам яна не ў дварэ ахмістрыня,
Быццам яна не жывець ў ахвіцыне,
Быццам яна немаведама хто,
Хочацца сэрцу няведама што.

Ўспомніць мамульку, татульку, свой дом,
Ўспомніць сябе невялічкую ў ём,
Старшага брата і няньку-бабульку,
Тэклю, Агатку, Ганульку, Аршульку,
Даўных равесніц... кароўку Рабульку...
Дзе яно ўсё? І не вернеш тых дзён,
Знікла, як дым, расплылося, як сон!..

Страшна і ўспомніць далёкі той год
(Чорным яго называе народ), —
Пошасць з касою па свеце хадзіла,
Панну Эмілью сіроткай зрабіла,
Родных, сямейку зямлёю пакрыла.
Доля, няйначай, — ў яе ўсё руцэ:
Ўзялі паны гадаваць пры дачцэ.

Ўстане, паходзіць і сядзе ізноў,
Б'ець у галоўку гарачая кроў;
Нейкія ў сэрцы парваліся тамы[2],
Твар то збляднее, то зробіцца ў плямы...
Стане прад Маткай Святой з Вострай Брамы[3],
Просіць: «Прачыстая, згінуць не дай,
Гора адкінь, ад бяды захавай!»

Ручкі заломіць, і слёзы цякуць...
Новыя думкі ізноў набягуць,
Жыцце у людзях сабе выкладае,

Цяжкае жыцце! Хаця спагадае
Маткі заступніца — пані старая,
Пан як бы родны, — нявесела жыць!
Час у жалобе, ў маркоце бяжыць.

Хочацца сэрцайку ласкі не той, —
Хочацца спогадзі панне другой...
Тэкля, Аршулька, Ганулька — малжонкі,
Шлюбныя носяць на пальцах пярсцёнкі...
Моліцца панна да ўласнай патронкі:
— Панна святая, ты неба ўмалі,
Вернага друга мне ў жыцці пашлі!

Потым ўсміхнецца прыгожа... Каму?
Ведама — пэўне, яму аднаму...
Рожы[4] цвітуць на бялюсенькім твары,
Што ж тут за цуд і чые ж гэта чары?
Праўду сказаць? Вінаваты гусары,
Ну, хоць не ўсе, дык, прынамсі, адзін
Панне прычынай маркотных гадзін.

Статны, прыгожы, — праўдзівы жаўнер, —
Гляне — як сокал! Які ж кавалер!
Майстар на жарты які, на хіхоты,
Як удаецца ў шабунькі, ў залёты,
Лёсткі пушчаць — навучыся ў яго ты!
Як ён часамі умее глядзець,
Ў танцы які! — не пазволе сядзець!

Ручку як сцісне, на вуха шапне
Слоўца такое, што й сэрца замрэ!
Шкода, нядоўга яны пастаялі...
Толькі тры дні усяго балявалі
Гэтта ў дварэ і паехалі далей.
Рушылі ў Вязьму, а стуль пад Маскву,
Чуець паненка, маўляў, наяву,

Як прад ад'ездам ён цяжка ўздыхаў;
Помніць — навекі аб ёй прысягаў,
Як ад'язджаючы, бачыць, скланіўся...
Праўда ж? Ці помніць? Ці, можа, забыўся?
Любіць? Не любіць?.. Ў другую ўлюбіўся?

Можа, ўдаваў закаханне на жарт?
Трэба аб гэтым спытацца у карт!

Праўда, што адвэнт і грэх варажба,
Што ж — калі гоніць ў сухоты журба!
Бог міласэрны няхай выбачае...
Панна Эмілья ў красэлка сядае,
Талью картуе, шэсць карт выкладае,
Сёмая карта кладзецца пад ніз
Хітры пасьянс пачынае: «Маркіз».

— Любіць? не любіць? Любіў? не любіў?..
Верным астаўся?.. Ці верным не быў? —
Шэпча паненка. Пасьянс збунтаваўся...
Дзе ж той чырвоны кароль падзяваўся?
Мусіць, не любіць!.. Не, гэты не ўдаўся!..
Іншы спрабую цяпер разлажыць —
Час памаленьку бяжыць ды бяжыць.

Поўнач прайшла. У дварэ петухі
Раз прапялі з-пад цёплай страхі,
Крайчыкам месяц з-за туч выглядае,
Панна Эмілья варожб не кідае,
Новы, хітрэйшы пасьянс раскладае:
— Любіць, не любіць, любіў, ашукаў,
Верным астаўся ці ім не бываў?

Рыпнулі дзверы... І вось на парог...
Панначка — зірк! — гэта ж ён, далібог!
Палец да губ прылажыў, усміхнуўся,
Дзверы прымкнуў за сабой, азірнуўся.
— Панна чакала, каб я дый вярнуўся?
Ціха на пальчыках к ёй падышоў,
Дзеўча адразу не знойдзе і слоў.

Потым здзіўленне крыху адышло.
— Скуль пан узяўся і што прывяло? —
Гэтак пытае. Урода асанны.
Сам, як ягнятка, ласкавы, рахманы.
— Жыць не магу без каханае панны!
Мусіць, нігдзе не спаткаю такой...
Дай ты мне шчасце, вярні мой спакой!

Рукі злажыў і на коленкі стаў,
К ножкам дзяўчаці галоўкай упаў.
Панна Эмілья, смуціўшыся гэтым,
Хоча устаць, адхіснуцца, а дзе там!
Ён не пушчае і моліць ўсім светам:
— Будзь гаспадыняй, царыцай маёй,
Сэрца злячы мне, душу заспакой.

Што тут рабіць? Гэта ж могуць пачуць,
Потым у вочы усе засмяюць:
Панна уночы госцяў прымае!
Ручкай гусара з кален падымае,
Просіць устаць, не крычэць, сунімае,
Садзіць у крэсла, прыносіць вады...
— Ціха, мой пане, наробіш бяды!

Людзі пачуюць, — нічога табе, —
Сеў дый паехаў, і сам па сабе.
Я ж і назаўтра тут мушу астацца;
Будзе ад сораму недзе схавацца,
Людзі пачнуць як навокал смяяцца:
«Ў панны Эмілі ёсць кавалер».
— Хай не смяюцца! Бо плакаць, павер,

Будуць, паненка, яны над сабой,
Покуль гуляю яшчэ з галавой,
Покуль не судзіць мне доля прапасці,
Хіба сама ты захочаш напасці,
Думкі не споўніш маеі аб шчасці.
Ведай: прыехаў забраць я цябе,
Ў разе ж нязгоды — застрэліць сябе.

Бачыш, кладу я на стол пісталет:
Коркі падняты, набоі як след.
Добрая гэта турэцкая штука!
Дзед адабраў на вайне ў мамалюка[5];
Можа, сягоння прыдасца на ўнука.
Воля твая: рассудзі, выбірай, —
Шчасцем дары ці насмерць пакарай.

— Пан, не даеш мне з чаго выбіраць,
Я не хачу ні судзіць, ні караць!

Як жа так раптам... Ці ж можна, скажэце?
То ж не гульня, а мы з панам не дзеці, —
Трэба падумаць яшчэ, паглядзеці.
— Панна Эмілія, мне не пярэч!
Хіба не любіш?.. Не панская рэч!

Пану да гэтага дзела няма,
Ведаю думкі свае я сама,
Можа б, любіла, каб гэтак не яглііў[6],
Так не пужаў і з адказам не наглііў[7],
Быў да паненак не гэтак паваддліў,
Можа б, тагды і пайшла... А цяпер?! —
Панна збляднела, маўляў, бы папер;

Хоча сказаць і баіцца сказаць,
Вочкі спусціла, павекі дрыжаць...
Той жа гусар, як смала, прычапіўся,
Ручку цалуе і з крэсла ўсхапіўся,
Зноў на каленях у ног апыніўся.
— Слонейка, — просіць, — кажы, не чакай:
Ў пекла мне судзіш ці разам у рай?

Любіш — не любіш, шкадуеш ці не,
Дай жа спакою, не мучай мяне!
Сэрца паненскае, ведама, з воску,
Возьмем мы места ці звернемся ў вёску,
Толькі б агоньчык і зараз жа слёзку,
Ясную слёзку на вочка пашле,
Хоча — не хоча, дый скажа «але».

Гэтак і з паннай Эмільяй было.
Нешта ад сэрца к грудзям падышло,
Потым у горле клубком перасела,
Быццам бы выскачыць сэрца хацела;
З вочак слязінка скацілась нясмела,
Следам другія спяшаюць ісці..
— Люблю, — кажа панна, — люблю... адпусці!

Ускочыў, падскочыў гусар малады
Так, як бы чорт ад свянцонай вады.
Рады, смяецца і ручкі цалуе,
Пусціць, абніме, ізноў прымілуе,

Ну, не раўнуючы, мора хвалюе!
Нават апомніцца ёй не дае,
Рупіць збірацца, капоцік ўздзяе.

Гасіць лаёўку, вядзець на парог,
Клямку шукае... Ды Бог засцярог:
Панна зірнула каханку у вочы, —
Так, як вуголлі, гараць сярод ночы...
Верыць — баіцца, не верыць — не хоча.
— Хто тут? — пытае. Ён цягне, маўчыць...
Панна ў трывозе тады як ўскрычыць:

— Маці Прачыстая! Ў помач прыйдзі!
Згінь ты, шатане, — мара, прападзі!
Згінь, прападзі ты, нячыстая сіла! —
Правай рукою яго ахрысціла.
Чуе: рука, што трымала, пусціла.
Прывід той страшны прапаў ў цемнаце.
— Кінь варажыць ў адвантовым пасце! —

Голас чужы з-за дзвярэй праграмеў.
Панна... прачнулась. Ліхтар абгарэў,
Мусіць, даўно дагарэла лаёўка,
Смрод у святліцы... балела галоўка,
Ціха праз сені прайшла пакаёўка.
Стары гадзіннік паказвае пяць...
— Ах, як заспалася!.. Трэба ж так спаць!

*1917*

## КАНЕЦ ПАЎЛЮЧОНКА

### I

Ноччу позна, па кірмашу,
Ехаў з места Паўлючонак,
А празванне меў «Жучонак»,
Гаспадар быў з вёскі нашай,
Ўнучак Паўла, сын Антося
(Той быў к пану дапушчоны),

Баўтрамеем быў хрышчоны,
Чалавек быў з мухай ў носе.
Едзе ў страсе: цёмна, ціха...
Ў дальнім лесе хтось рагоча...
Уляпіў у цемню вочы,
І здаецца... Што за ліха?
Нехта йдзець сярод гасцінца,
Пэўне, двое, штосьць гамоняць.
«А каго тут чэрці гоняць?» —
Аж падняўся на драбінцэ.
Бачыць: нейкіх аж тры цені
Ўбок зышлі і разам сталі.
Пад'язджае. Усе аддалі
Хвалу божаму імені.
«Хто тут блудзіць?» — запытаўся
Баўтрамей ў ліхой трывозе,
Бо тагды, па той дарозе,
Не адзін гультай бадзяўся.
«Старцы, дзядзька! — Кныш, Вароба
З Краснай Долі, Крук Нічыпар...»
«А бадай жа вас Люцыпар
Ці напасніца хвароба!
Чорт вас водзіць тут, галыткі,
Добрым людзям на спатканне,
Хай вас трасца...» — «Годзе, пане!
Час пакінуць звычай брыдкі, —
Кажа Кныш. — Ці ты маленькі,
Што на нас дарам злорачыш?[1]
Нам хады не запярэчыш
Па гасцінцу. Можа ўсенькі!»
«Нас не лай, — Вароба прэціць, —
Бачыш, ночка: допуст боскі;
Хоць не многа вёрст да вёскі, —
А ўсяго здалееш стрэціць.
Лепш зрабі ты па-хрысцьянску,
Падвязі, памей к нам ласку,
Змардаваліся мы цяжка, —
Чымся лаяць па-паганску».
«Вох, разумны дзе знайшоўся!
Хочаш ездзіць на дурніцу?
Маеш дулю, пане Грыцу!
Не з такім, браток, зышоўся!»

Свіснуў пужкай па канёчку,
Мэрам бічык, а не пуга:
«Но, Буланы! Но, шаўлюга!
Марнаваць не след нам ночку».
«Гэй, суседзе, — Кныш зноў крача, —
Дай прысесці ж на драбінку!
А у цяжкую гадзінку
Мы заплацім па-жабраччу».
«Ну, ну, як жа, — маеш збыткі! —
Так Баўтрук ў адказ рагоча. —
Ходзіць ў латах, яшчэ хоча
Заплаціць; а чым, галыткі?»
Тут Нічыпар рыкнуў басам,
Моўся той мядзведзь з дубровы
(Голас надта меў здаровы):
«Падвязі да карчмы, васан!»
«Што дасце?» — Баўтрук на гэта.
«Што ж у нас? Кіі, ружанцы...»
«Дык прасіце, абарванцы,
Хай лазаты дасць карэту!»
Ўдарыў лейцам. Конь падскочыў,
Як падстрэлена казуля.
«Лепей чорта падвязу я!» —
Баўтрамей пад нос мурмоча.

II

Мрок запаў яшчэ цямнейшы,
Хоць калі ты шылам ў вочы,
Ў каляіне гразь хлюпоча,
А Баўтрук цяпер смялейшы:
«Хутка будзем, коню, ў хаце,
Скончым нашу райтараду[2],
Гаспадыня будзець рада,
Выйдзе з хаты спатыкаці!»
Аж цыганскую гаворку
Чуе раптам прад сабою.
Быццам йдуць яны гурбою
І вядуць аб нечым спорку.
«От яшчэ не меў хваробы —
З цыганамі мець спатканне:
Сядзець сам без запытання, —

Звесны нораў цыгановы!»
Як ні хоча ззаду быці,
Конік цягне дробным трусам...
Даганяе, хоць і мусам,
Зраўнаваўся, — што рабіці!
«Што за дзіва?» — Паўлючонку
Падкальнула ў сэрца нешта.
Толькі трое, а дзе рэшта?
Два цыганы йдуць і жонка.
«Здрастуй, бацьку!» — гыркнуў збоку
Цыган доўгі, чарнатвары,
І другі за ім да пары,
І цыганка: «Скуль, здалёку?»
«Еду з торгу». — «А, вяльможны!
Падвязі да карчмы хоця,
Бо па гэтакай хлюпоце
Пехатой ісці не можна».
«Рад бы я, ды сам ты бачыш,
Што на колах, братка, цесна,
Не усядземся сумесна...»
«Эй, аб чым ты, бацьку, плачаш!
Цыган, пане, як вужака:
Хоць ўшасцёх здалелі б сесці!
А ля карчмы хочам злезці, —
Не замучыцца каняка».
Не паспеў Баўтрук паўслова
Адказаць на просьбу гэту,
А мужчыны і кабета
Шась на колы Баўтруковы!
«Н-но! Гані сваю шаўлюжку!
Дадай ходу!» — І рагочуць,
Штосць па-свойму там стракочуць,
Адабралі лейцы, пужку...
Буркнуў быў на тыя рэчы
Баўтрамей, дык — д'ябла дзеці! —
Ледзьве здолеў усядзеці, —
Так заштурхалі у плечы
«Сядзь спакойна ты, зрабніна!
Кінь плявузгаць гэтта лішку:
Вып'еш ў карчме тры кілішкі,
І заплацім, што павінна».
Што ты зробіш? Няма волі,

Іх жа сіла, перамога,
Дзякуй толькі пану Богу,
Не спаткалася іх болі.
Праз гадзіну, — час кароткі
Баўтрамею доўгім здаўся, —
Свет з ваконца паказаўся
У карчомцы пана Ноткі.
«Ну вот, бацьку, гаварыў ты!
Зараз злезем, купім гары
І заплацім тры таляры —
Мы не любім жаднай крыўды».

III

Цесна ў карчме — ў бочцы мэрам
Селядцоў, людзей набіта.
Дымам лямпачка спавіта
Тытуневым, едкім, шэрым.
Гоман, грукат, смех і спрэчка...
Гэнам граюць, гэтта скокі
Вырабляюць, ўзяўшысь ў бокі,
Аж трасуцца сцены, печка.
Баўтрамей спацеў, чырвоны
З цыганамі п'ець гарэлку,
Скінуў світу і мяргелку,
Выглядае, моў шалёны.
Мусіць, дзюбнуў чарак многа, —
Нешта старцаў ўспамінае,
З іхняй долі выкпівае
І смяецца з Пана Бога.
«От, халеры! Дай ім хлеба,
Дай рызманчык, тое, сёе
Гультаям!.. За што, якое?
Суляць ласку божу з неба...
Ласку божу!.. Абібокі!
Мне пуховы хлеб смачнейшы,
Ў роце коле, а сытнейшы,
А нябескі... вох, далёкі!
Кажуць, ў небе ёсць збавіцель.
Мне здаецца — людзі брэшуць,
Языкі аб зубы чэшуць:
"Ёсць збавіцель, спакусіцель..."»

Тут цыган, што быў ля боку,
Лезе проста цалавацца:
«Можаш з царствам распраўляцца,
У галоўцы маеш клёку,
Маеш, братка! Мусім выпіць,
Я з бутэлькі выллю рэшту».
На другіх міргнуўшы нешта,
Абмачыў ў гарэлцы кіпець.
Баўтрамей, як выпіў гэта,
Крэкнуў, плюнуў, аблізнуўся...
Цыган хітра усміхнуўся.
«Прад табою, — кажа, — мэта:
Хочаш злота мець, як бруду?
Хочаш срэбрам слаць падлогу?
Хочаш медзі? Дам спрамогу,
Ўсё дастану, ўсё здабуду.
Хочаш панам быць прыдворным?
Грапам, князем, дваранінам,
А не бедным селянінам,
Не хадзіць у целе чорным?..
Хочаш, браце?.. Ну, кажы нам?»
Баўтрамей крыху змяшаўся:
«Я папраўдзе не збіраўся
Быці нейкім кармазынам...»
«Ён не думаў, — вох, прастота!
Хіба ты ужо напіўся? —
Цыган зноў жа прычапіўся: —
Ты кажы: ці ёсць ахвота?»
«Быці панам... Жыць ў дастатку...
Быць ў пашане... Ўсё пазнаці, —
А за гэта... Што вам даці?!»
«Што? Драбніцу толькі, братку:
Нам душы тваёй не трэба,
Не бяром цяпер ні ў кога, —
Адступіся ты ад Бога,
Адступіся ты ад неба.
Згода, слухай? Кажы: "ладна"!
Вып'ем разам гарнец мёду».
Баўтрамей не чуў падходу
І згадзіўся безаглядна.
Цыган ўстаў з услону важна,
Ў правы, ў левы кут падзьмухаў.

«Ну, цяпер устань, і слухай,
І кажы за мной выразна».
Стаў Баўтрук, змяніўшысь ў твары,
Ўвесь дрыжыць, — калоціць фэбра[3], —
Дзеля злота, панства, срэбра
Прамаўляе ціха чары
З кожным словам ўлазіць звольна
Сум ў душу і страх смяротны.
Прамаўляе неахвотны,
Над сабой цяпер не вольны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Скончыў цыган: «Сядзь, ягомасць, —
Кажа чорны, — скончым дзела,
Пагуляем, братку, смела
За прыемную знаёмасць».
Баўтрамей вачыма лыпнуў,
Як бы зараз ён прачхнуўся,
Глынуў сліну, папярхнуўся.
«Я залішне, мусіць, лыкнуў,
Толькі што я відзеў страхі:
Ясны анёл з чорным біўся,
Гром грымеў, а свет зацьміўся,
І прапалі неба знакі.
Хтось душыў мяне за горла,
Аж пачуў я у вуш'ю звоны,
Аж цяпер здаюцца шпоны
Тут, на шыі. Дух запёрла...»
«Глупства гэта. Вып'еш болей,
Мары, пане, зараз знікнуць, —
Цыган кажа, — нават пікнуць
Не адважацца ніколі».
Выпіў кубак мёду поўны
Баўтрамей, другім паправіў.
«Ты, цыгане, — кажа, — правіў,
Што я буду пану роўны,
Буду злота мець без ліку,
Срэбрам ў хаце біць падлогу,
Дай жа грошы, колькі змога,
Хоць бы тайстру[4] невяліку».
«О! За гэтым, брат, не стане, —

Будуць грошы, будзе панства!
Маеш патэнт на дваранства:
Гербу Воўка на Кургане.
Маеш грошы: чыстым злотам
Мех скураны вось набіты.
Ну, цяпер, здаецца, квіты,
Ці чаго яшчэ ахвота?»
«Дзе, у ліха, больш хацеці? —
Баўтрамей ў адказ смяецца. —
Хопіць мне, і застанецца
Ашчасліўіць нават дзеці!»
«Досыць? Добра! Схочаш болей,
Дзьмухні толькі ўлева, ўправа,
Па загаду зробім жвава,
Як ніхто, нігдзе, ніколі.
Віват! — крыкнуў цыган, — слава!
Жычу шчасця Баўтрамею!»
І пайшла ў карчме завея,
І пайшла ў карчме забава.
Ўсё сплялося ў нейкім віры:
Рукі, твары, плечы, світы,
Кужаль панскі, аксаміты,
Порт мужыцкі, скрыпкі, ліры.
Ў дзікім тахце рэюць зыкі,
Баўтрамей з цыганкай скача:
«Хадзі, імасць, хадзі, ваша!
Скачы, пані!.. Чыкі-брыкі!..»

IV

Цэлу ноч сядзела жонка, —
Муж з кірмашу зараз будзе...
Прывязлі ёй ўранку людзі
Нежывога Паўлючонка.
Ён загінуў, грэшны, блізка,
Ў дзвюх вярстах ад вёскі роднай,
У дрыгве сырой, халоднай,
У вадзе, густой і слізкай.
Там ляжаў ў асоцы голы,
Твар абдзёрты меў і рукі...
«Гэта, пэўне, чорта штукі», —
Разняслося навакола.

Сто гадоў таму здарэнню,
Можа, нават больш мінула.
У зямліцы тры заснула
Чалавечых пакаленні, —
Род загінуў Баўтрамея.
З часам смерць усё выводзіць!
А паданне ў вёсцы ходзіць
І дзядоўскім духам вее.

## СПРЭЧКА

Дзядзька Тодар, два Пранцішкі,
Сват Гілерык, кум Тамаш
Раз ў мястэчку Зацвілішкі
Насмяшылі ўвесь кірмаш.
Што было прадаць — прадалі,
Кум Тамаш змяняў каня,
Покі ўсё панакуплялі,
Зірк — ай-ей: каля паўдня!
— Праўда, справіліся ёмка,
Але ж хай ты... во, абед...
— Ну дык што! Хадзем ў карчомку! —
На суседзяў так сусед.
Ўзялі кварту. На закуску
Пару ўзялі тараноў.
Што ж ім кварта? На затруску!
Ўзялі квартачку ізноў...
Больш пілі дзядзькі, чым елі:
Квас, гарэлку, піва, мёд.
Быццам чмелі, загудзелі,
Як і ўвесь ля іх народ.
Хоць там словы ледзьве вяжуць, —
Тэй бяды! А што ж маўчаць?
Той штось скажа, той заўважыць,
Кіне чарку наліваць.
Так ад цэнаў, бульбы, меры,
Што на рынку хвальш дае,
Зачапілі справы веры
Дый... счапілісь за яе!

Гэтта слоў ім не хапіла, —
Знана вёска: словаў брак!
Потым, слова — хіба ж сіла?
Хіба ж зробіць, як кулак?
От і пляснуў Тодар ў вуха
Па-суседску Тамашу,
І паўстала завіруха
У карчме на кірмашу.
Кум Гілерык, сват, Пранцішкі,
Тодар, — звіліся ў клубок...
Ўсё мястэчка Зацвілішкі
Раптам збеглася ў шынок...
Праз гадзіну дзед Ігнацы
Ўсіх бусайлаў тых мірыў:
— Ці ж не сорам гэтак, братцы? —
Дзед паважна гаварыў. —
Ну, наліха вам сварыцца?
З розных вераў вы — адны
Дзеці гэтае зямліцы,
Краю гэтага сыны.
Вера з жыццем ўсім даецца,
Хто іх даў — яму іх знаць!
Дурань той, хто спадзяецца
Веры сілай паяднаць
Мы і так, браткі, знявагі
Досыць мелі ад чужых,
Каб спрачацца без развагі,
Ці не цешым толькі іх?
Глузу хіба ж вы не мелі?
Біў чужы вас лёгка смех?
Эх вы, шэршні! Эх вы, чмелі!
Ну, не сорам вам?.. Не грэх?..

## ЗГОДА

### I

Ваявалі поплеч брацця:
Баўтрамей з Гарвазым.
І ў магілу іх прыйшлося
Палажыці разам.

А дагэтуль жылі кепска,
Не як след, не ў згодзе, —
Аж гулялі прыгаворкі
Аб іх у народзе.
Як пачуюць было людзі
Лаянку ці спрэчку, —
«Як Баўтрук у нас з Гарвазым,
Кажуць, за авечку».
Як на торзе ці у шынку
Бойка завядзецца, —
«Як Баўтрук у нас з Гарвазым», —
Не адзін смяецца.
Па судох сусед суседа
Кожны год цягае, —
«Як Гарвазы з Баўтрамеем», —
Люд аб іх гукае.
Дарма пробашч[1], спавядаўшы,
І не раз з амбоны
Выкараў ім: «Бог асудзе
Гнеў дурны, шалёны».
Дарма людзі па-суседску
Шмат разоў мірылі, —
Баўтрук з братам непапраўны:
Ворагамі былі.

II

А з дурніцаў пачалося,
Як часцей бывае:
Ад парток і камізэлькі
Іх вайна трывае.
Як па бацьку йшчэ сукцэсы[2],
Спадчыну дзялілі,
Дык з тых злыдняў крыві колькі
У той час пралілі.
Падзяліўшыся жывёлай,
Збожжам і будынкам,
Падзяліліся па-боску
І усім рыштынкам.
І адзежу як і следна
Бацькавую брацця

Падзялілі, потым згоду
Селі палівацi.
Падпілі, як следна ў свята,
А было ў нядзельку;
Баўтрамей на лаўцы ўбачыў
Порткі й камізэльку;
«Пачакай, браток! А гэта
Хіба ж мы дзялілі?»
«Не, Гарвазы». — «Якім чынам?
Як мы прапусцілі?»
«Э, пустое, — кажа брату
Баўтрамей знянацку, —
Хай вісіць, а часам ўздзену
На ўспамін аб бацьку».
«Захацела свіння мёду», —
Падкалоў Гарвазы.
Баўтрамей, такое счуўшы,
Закіпеў адразу.
Не сцярпеў, ударыў брата,
Сапсаваў паперы, —
І раз'юшыліся брацця
Без канца, без меры...
Ледзьве людзі іх разнялі,
Развялі па хатам.
Ось з чаго пачалась звада
Ў Баўтрамея з братам.
У людзей усіх прыкладам
Няўвагі былі.
А вось раптам як жа стала?
Чым іх памірылі?

III

Памірыў іх Бог ласкавы
Міласці абразам,
Як прыйшлося паміраці
Баўтруку з Гарвазым.
Як пайшлі у бой апошні,
Памаліліс Богу,
Загаіўшы страх і болесць

І сваю трывогу.
Апыніўшыся у сэрцы
Віхравой атакі,
Што ён робіць, больш не ведаў
І не думаў ўсякі.
Коле, паліць наш Гарвазы,
Ціхамоўчкі б'ецца;
Перад ім, як прад адзінцам
Ў лесе, ўсё кладзецца.
Захапіўшы люфу[3] моцна,
Баўтрамей малоціць;
Расшчапіў, згубіў ён кольбу[4],
А ўсё далі коціць.
Ажно чуе: енкнуў нехта.
Зірк ў той бок, — што ж гэта?
Там Гарвазы, як снапочак,
Аж на трох багнэтах[5].
Зарычэў, як звер, і брату
На ўспамогу прэцца.
Скуль бярэцца тая жвавасць,
Сіла скуль бярэцца?
Даляцеў... І тая люфа
Шмат бы нарабіла,
Каб не куля каля сэрца
Грудзі апаліла...
Пахіснуўся, пусціў люфу,
Галаву павесіў
І зваліўся, як сасонка
Пад сякерай ў лесе.

## АПЯКУН

### Байка

Недарма прыказка ў народзе —
Бяда адна к нам не прыходзе.
Ў вялікім і багатым месце,
Здаецца, на усходзе гдзесьці,
Ўдава, йшчэ моцная кабета,

Памерла раптам. Праўда гэта,
Што смерць людзям не навіна,
Але ж пакінула яна
Дзяцей, каторых гадавала,
Тых, што дадзённа лупцавала
І так таўкла, як крупы ў ступе,
За тое, што трымала ў купе.
Няшчасныя не зналі б дзеці,
Куды сябе з бядой падзеці,
Каб з сэрцам людзі не знайшліся,
Што памагчы ім узяліся.
Суседзі, бачыце, успомніўшы аб Богу,
А можа, ўгледзеўшы сабе перасцярогу,
Сказалі як адзін: «Паможам, чым можам!»
Знайшлі Марыльцэ жаніха —
Была дзяўчына у парэ, —
А Петруся за пастуха
Служыць аддалі у дварэ.
«Каму ж бы Яначку аддаць?»
Гадкоў, здаецца, меў ён з пяць.
«Ну, што ж — хай будзе мой хлапец», —
Сказаў знаёмы ўсім шавец,
Які ў суседнім жыў даму.
Шаўцу таму
Ніхто дзяцей сваіх ў навуку не даваў,
Бо кожны добра знаў,
Што у шаўца дзіцяці — мука, не навука.
Сам п'яніца, гультай і абібок,
А з вучняў выціскаў апошні сок.
Бывала, дацямна сушыў іх за работай!
«Я, — кажа, — хлопчыка з ахвотай
Сабе вазьму.
Імя сваё і цэх яму
І хлеб штодзённы дам».
Дык мо, здаецца вам,
Што праўду шчырую пачуў ён ад народу?
Суседзі далі згоду!
Рацэю трэба вам?
— Заўсёды слабым гора, —
Ўвесь свет гавора.

*23/III 1918*

# СПОГАДЗЬ

Байка

Што ж, Мікалай быў бедны чалавек,
І з гора нам яго падшкеліваць не след;
Хутчэй пашкадаваць, што церпіць гэткі здзек...
Не праўда ж, мой сусед?

Падцяла Мікалая і горасці нагнала
Хвароба жончына. А потым — дзеці зноў
У ложу паляглі, і — рукі адабрала!
Хоць быў ён, Мікалай, як вол, маўляў, здароў, —
Здароўя тут замала!
Вазіць павінен быў ён к жонцы дахтароў,
А дзетак даглядаць — то мусіў ўзяць кабету.
І, падаўшы за тым і дзень і ноч да свету,
Экспенсаў[1] шмат рабіў і скарб да ніткі звёў.
Ці ж трэба ўспамінаць, што ўсе закінуў справы,
А з імі разам, бач, забыўся і аб суд?
Ігнат жа скеміў ўсё — ой, быў на штукі жвавы! —
Дый... тут як тут!
Двух лаўнікаў зláвіў, падсунуў «куку ў руку»,
Падсудку справіў баль, а віжа напаіў.
І, ўпэўніўшы сабе у спосаб той заруку,
Трах — скаргу ў суд! І працэс аднавіў.
А ён ужо даўно цягаўся з Мікалаем:
Хацеў, бач, у яго паўхаты адабраць
Па праву земскаму ці нейкім там звычаем, —
Хай іх не знаць!
Хоць ведаў Мікалай, як трэ даводзіць правы,
І добры меў язык яго умацаваны, —
Што ж? — гол, як мыш! А гэта смерць для справы.
І... працэс быў прайграны.
Цяжкая страта!
Прыйшлося адступіць паўхаты для Ігната,
Уціснуўшы і жонку і дзетак у куток...
«А мой каток, —
Ільсціцца да яго, ўвабраўшыся, Ігнат, —
— Ах, як я рад,
Што, разам жывучы, часамі памагу!
Ці ж мо табе здаецца, што я не спачуваю
Тваёй бядзе? Я гэтак не магу,
Залішне мяккае, браток, я сэрца маю!

Як будзе трэба што — бяры і не прасі —
Хіба ж не аддасі?!»
Ты думаеш, Ігнат
І зробіў акурат?
Ого! Дык ты не знаў Ігната.
Заходзіць ён праз пару дзён у свята:
«Ты ведаеш, каток, аб чым хачу прасіць?
І грэх, і смех, і дзіў, а не магу знасіць,
Як стогнуць хворыя. Дык толькі ты не злуй,
Бо я к табе прыйшоў па-брацку і з прыязню:
На час у лазню
Ты жонку палажы і дзетак улякуй.
І цёпла будзе ім, і поўны там спакой...»
Ад прапазіцыі такой
Хоць Мікалай спачатку бараніўся, —
Не вытрымаў — згадзіўся!
Прайшло так пару дзён. І зноў Ігнат на вочы,
І просьбу новую услышаў Мікалай:
«Асэсар да мяне прыехаць ў госці хоча —
Падзець не маю гдзе. Змілуйся, вызваляй!
Як-небудзь з жонкаю — дзянькоў найболей пару,
Пакуль гасціціме — сяк-так перажывеш.
Ну, зробіш так? Ну, як? Зрабі ахвяру!
З мяне ты вінніка дасконнага знайдзеш...»

З манаткамі ўсіма і кодлам перабраўся
Асэсар праз два дні. Навёз рачэй на двор.
А потым... дом яму, няначай, спадабаўся,
Жыве сабе й жыве і нават ані хвор!
Прыйшла чарга хадзіць і Мікалаю...
Ідзець да Ігнася дый кажа: «Мой сусед!
Твой госць хацеў пражыць...» — «А, знаю, браце, знаю!
Маўчы, мой свет!
Я сам хацеў ісці к табе па просьбе госця:
Спыні ты дзетачак, каб так не рагаталі.
Мітрэжаць сон яны, трывожаць ягамосця...»
А што, пытаеш, далей?
Ігнат з асэсарам у хаце распанелі,
А Мікалай з дзяцьмі — згалелі.
Ну, ведама, яго не лёгка і судзіць:
З нядоляй — што рабіць?!

*1918*



# ПЕРШЫ СНЕГ

Легенда

...Адзін раз прыйшлі яны да Прарока і кажуць яму:

«Вучыцель! Глядзі, ідзе першы снег».

А ён выйшаў разам з імі з дому свайго і ўбачыў першы, чысты, белы снег, што ў вялікім чысле мяккімі пухавінкамі падаў з неба і засцілаў зямлю. І казаў ім:

«Глядзіце, вось у мільёнах часцінак спадае ён чысты і белы, без сказы[1], як душы дзяўчатак, што з вёсак нашых ідуць у гарады іх; лягусенькі і мяккі, вясёлы, як птушка, у мільёнах часцінак іграе, блішчыць і падае, як тысячы моладзі нашай з мяккай вясёлай душой радасна ўступаюць у жыццё; да нас ляціць ён увесь светлы, без думак, як лепшыя з іх ідуць на ахвяру...

І вот паглядзіце — ужо ходзяць па ім, ужо топчуць нагамі і з гразззю мяшаюць, і з брудам нячыстым...

Так топчуць яны і душу дзяўчаці і ціснуць у бруд жыццё моладзі нашай; так чэрняць і жыццё і памяць сваіх — справядлівых!..

І от кажу я вам: колькі разоў я бачыў, як прыходзіць да нас першы снег, столькі разоў вочы мае залівалісе слязамі; і столькі разоў бачыў я, як за першым снегам з ветрам і бурай ішоў другі снег і ўсё нячыстае пакрываў на зямлі; і слёзы радасці цяклі тагды па маім твары.

Дык ідзіце ўсюды і кажыце ўсім, што па першым снягу будзе другі снег!..»

*1912*

# МАЛАДОЕ

## З казак астрогу

Гэтае апавяданне чуў я ад аднаго старога арыштанта, брадзягі, у N-скім астрозе. Быў ён чалавек добры сэрцам і ў сваім жыцці нічога нікому благога не зрабіў; толькі натуру меў беспакойную, каторая не пазваляла яму нідзе доўга застанаўляцца. Нейкім спосабам, яшчэ маладым будучы, папаўся ён у астрог — а торбы і астрогу — не заракайся — і ад таго часу зрабіўся заўсягдышным яго жыхаром.

Апавяданне сваё пераклаў ён напалавіну праўдай, напалавіну казкай, і дзеля гэтага мала хто даваў яму веры.

...Было гэта... Калі?.. Ат! Ды ці не ўсё роўна?! У гэтым нашым штодзённым перасуванню ад згубы да згубы, у шэрым, як нашы сярмягі, аднастанню жыцця хто прыкмеціць, як праходзіць час? Той год не адлучыш ад гэтага, учора не аддзеліш ад сягоння...

Толькі ведаю, што быў я маладзейшы — у барадзе не меў сівога воласу і сядзеў тамака, недзе ў другім астрозе... Добра не скажу дзе. Ды і не спазнаеш: і свет адзін, і людзі тыя самыя, куды б ні прыйшоў...

І вось раз тамака, у тым, другім, астрозе, увечар, калі ўсе паклаліся спаць, наш дазорца[1], глуха бразгаючы ключамі, адным з іх два разы павярнуў у замку нашых дзвярэй. От ён пакручывае тры разы, а там было два. Потым заскрыпелі заржаўленыя кручча, і праз шырока расчыненыя дзверы да нас увайшоў новы, той, аб кім я хачу вам казаць.

— Во вам яшчэ сябрук — любуйцеся! — з агідлівым рогатам і нялюдскай пасмешкай на твары сказаў дазорца. І зноў з рыпам зачыніліся дзверы, і два разы крутнуўся ў замку ключ.

Тыя з нас, што не спалі яшчэ, зара скочылі на ногі і абступілі прыбыльцу. Прахапіўся, хто спаў. З паспехам, перабіваючы адзін аднаго, штоўхаючыся, стараліся працісну́цца да яго, каб прыгледзецца, які ў яго твар, якія вочы? Хто ён?

Пыталіся:

— Скуль? Ці бачыў каго з тых, каго мы раней ведалі?.. — Але на ўсе нашы пытанні ён не адказываў: вочы яго глядзелі на нешта па-за намі, чаго мы не бачылі; і ў твары нешта паказывала, што ён не з намі. Ледзь значна дрыжэў на ўсім целе. Яшчэ малады, ледзьве заўважыш, што верхняя губа крыху чарнейшая. Твар без румянцу, але пекны.

Пэўне, панадны быў дзяўчатам.

Вочы вялікія меў, бліскучыя.

Высокі, як топаль.

Стройны.

Як казуля, меў ценкія, лёгкія ногі і не мог адарвацца ад таго, што тут-тут было, а ўжо прамінула!

Пасля ён страпянуўся, кінуўся да нас, працягнуўшы рукі, і загаманіў, бязмала не крычэў:

— Ах, я не ведаю, аб кім вы пытаеце!

— Міхалка? Пётра? Сцёпка?! Чырвонавалосы?

— Не, не! Можа, і бачыў, можа, і ведаў, а нікагусенька не помню. Скуль прыйшоў? Ды з вастрогу ж, не раўнуючы, як гэты!

— А за што, пытаеце? У нас тамака не любяць маладых — от і пасадзілі.

— Не, сядзеў нядоўга! От, бачыце: як захацелі мы ізноў волі, пачалі ў куточку, як мышы, скрабціся. А мур жа каменны, і нічога, ніякай снасці, апрыч пальцаў на руках, мы не мелі. Здзіралі кіпці — скрэбаліся...

— Не адзін з надлюдскага болю, у безнадзеі, размажджыў сабе галаву аб закляты мур. Хто больш трывалы быў, сцяўшы зубы, калупаў і скроб, аж скура з мясам на пальцах пазлазіла да самай косці.

А тагды адыходзіў на час, і клаўся, і лізаў раны, аж пакуль пагаіліся.

Адылі ж дазорцы нашы пачулі нешта і не адзін раз прыходзілі, каб як-небудзь угледзець. Га, га! Мы былі хітрыя!

Мы гэтак рабілі: шукай як толькі хочаш, а не знайдзеш! От я вам пакажу, як гэта робіцца, а потым уцячом; бо вы пастарэлі, пэўне, тутака, што не рушылі нікуды з самага пачатку, як вас пасадзілі. (А ён не ведаў, што самі мы гэта нядаўна і ўжо скрэбліся! Нічога, заўтра!)

— Нам павялічылі варту. Але як настаў час, як рака вясной з высокіх снегавых пагуркаў, кінуліся мы з нашае каморкі, перакулілі варту, разбурылі сцяну і зніклі ў лесе.

Адзін дзень, і другі дзень, і паўтрэцяга мы ляцелі праз гушчар, абдзіраючы сабе твар і рукі аб калючыя галіны і збіваючы ногі аб усякае гніллё.

Ах, мы ляцелі! Як вецер! Толькі стагнаннем адгукалася пушча!

Потым мы прысталі ўсе разам, маўляў па змове, каб даць якую часінку сабе аддыхацца.

8 Зак. 1133

Як перачатаваліся[2], угледзелі, што больш палавіны з нас пагубілася; дзе яны?

А хто ж ведае... Мо каторы проста слабейшы быў ды сеў на гніляк адпачыць; іншы ізноў не вытрываў шалёнага бегу, і разбілася ў яго сэрца; хто заблудзіўся; адзін, я бачыў, прабіўся на вострый ражон, сухую галіну, што неяк тырчэла з зямлі, — гэтак імчаўся, што не мог стрымацца або схінуцца ўбок...

І вот нас засталося семнаццаць. Цяперака, будучы далёка ад месца нашае пакуты, мелі мы спраможнасць ісці вальней, робячы час ад часу прыстанкі, каб пасіліцца, чым знойдзем: карэннямі, ягадамі. Умовіліся ісці ўсёй грамадай, у кучы, каб не траціцца.

Ізноў ішлі. Каб дух узмацаваць, часам спявалі, згадывалі, куды прыйдзем, са смехам успаміналі дні пазбытай няволі. Былі мы рады з нашых паходаў, і панавала ў нас згода.

Але часам здаецца каму, што трэба ўзяць другі кірунак, і ўступіць той у спрэчку з усімі; і гэта рабілася ўсё часцей, аж сталася штодзённым, а пасля дванаццаць нашых сябрукоў не захацелі ісці наўперад.

«Паппрабуем шчасця і пойдзем у гэты бок; калі пашэнціць, дастанецца нам воля і доля. Калі ж не, дык і няма на свеце нічога!»

А мы ўпяцёх пайшлі далей.

Як родныя браты! Усе адзін у адзін, усе з вялікай патрэбай у сэрцы сунуцца далей і далей да нейкага нечага, да любой вялікай волі.

У шарпоццю, бо апраткі нашы не вытрымалі церняў і сушняку, рагатых галін векавечных хвояў. Але дармо! Жартавалі:

«Як зваліцца апошні лахман — будзем лягчэйшыя. А калі і апошні кавалак скуры застанецца на хвоі, яшчэ лепей будзе — нам тагды нічагусенька не зашкодзіць!»

З вялікім разгонам прадзіраліся мы праз гушчар, пакідаючы па сабе шырокую сцежку.

Аж во — лес пачаў радзець. Зрабілася неяк разлажней і відней. «Воля! Воля!» — крычалі мы і, як на Вялікдзень, абнімаліся. Дый праўдзі воля! — адзін раз мы знайшлі ўстужачку: пэўне, дзяўчына якая згубіла каснік гэтта; потым угледзелі другія адзнакі людскога побыту: патухшае вогнішча, а неўздалёк — астаткі нейкай яды. Крошкі хлеба, кажуркі ад яйкаў, косці.

Крошкі хлеба ўгледзелі мы! І кінуліся збіраць. Поўзалі, выбіралі з травы па аднэй, і кожная здавалася нам смачней-

шай за ўсе марцыпаны на свеце, за ўсе царскія стравы, узятыя разам.

Гэтак не дагледзелі мы, калі падышоў да нас ён, той, шосты, якога і дагэтуль не ведаю, як клічуць. Калі азірнуўся адзін з нас — бачыць: стаіць ён і ўсміхаецца — як крыкне з перапуду! Тады і мы ўскочылі, каб уцячы. А ён і кажа: «Не пужайцеся, я ваш і з вамі». Быў ён на першы пагляд стараваты і невысокага ўзросту. Адно апратку меў не як наша, і твар, аздоблены ў клінчастую бараду, і вусы. І адразу пазнаеш, што людскасці ў ім многа. А вокам як гляне на каго: відаць, самую душу бачыць і да яе прыглядаецца.

Дык мы пачалі распытывацца яго, дзе мы, як называецца гэта старонка, куды кіравацца трэба, сам ён скуль?

«Браты мае! — адпавядаў. — Воля здаецца вам блізка? Не, не! Абмылка ў тым ваша, яна гэнь-гэнь», — і скінуў рукой на ўсход сонца.

«Праўда, і гэтта ёсць людзі, я бачыў іх, яны, калі ў гэты бок пайсці, — жывуць. Ды марнеюць яны, як і тамака, адкуль вы ўцякаеце, і таксама будуюць астрогі.

Вы, пэўне, з Першае? — знаць па абліччу вашым — ну і я стуль. А колькі туляўся я па свеце, і цьмы людзей бачыў, і не ў адным астрозе быў... А куды ні прыходзіў, меў толькі глуз і смех з сябе».

«Бачыш які! — кажуць людзі. — Дадумшчык! Куды трапіць хоча!.. Брадзяга! Толькі лес глуміш!»

Але за век свой, ужо доўгі, і тулянне без канца ўсё ўдаль і ўдаль, напаткаў я паміж іх і такіх, што, нідзе не быўшы, ведалі яны, куды трэба ісці, бо ўмелі чытаць і навучыліся разбіраць, што кажуць зоры. Гэтых бачыў я мала, саўсім мала, але яны навучылі мяне кіравацца.

«Калі хочаце — пойдзем разам, вы і я з вамі; я болей туляўся, болей ведаю ў свеце, люблю моладзь, як вы...»

І мы пайшлі разам. Цяперака мы ішлі ўпяцёх, а ён быў шосты. А мо ён сам быў пяць, а кожны з нас быў шосты. О! Ён ведаў, куды ідзе! Колькі разоў з людзьмі мы спатыкаліся, а яны не бачылі нас! Ён разбіраў, куды ідзе сцежка і што паказвае дрэва.

А адзін раз! — слухайце: ён прайшоў з намі паміж людзей, а яны не бачылі нас і не ведалі, што між іх ёсцека нехта іншы.

Добра ведаў, дзе расце якая быліна ці ягада і што можна есці, а чаго высцерагацца. Чым можна загаіць рану, ведаў ён, і як лепей зваліць якое дрэва...

А неяк мы пусцілі пал! Ён навучыў нас — а што ж гэта было! Вялізарныя векавечныя хвоі паліліся ля самых каранёў, а пасля з жудасным, страшэнным стогнам рыналі на зямлю, крышачы сушняк і ламаючы маладняк, сваю порасць, што з атрутным сокам пялася ў неба на змену прадвечным.

Мы ішлі пасярод гэтага грукату, і стогну, і злога сычэння вогненных змеяў, абкураныя, дзе-нідзе з абсмаленымі валасамі, але з вясёлай мінай паглядалі на гэту руіну. Было крыху страшна, крыху пужліва, але ж вясёла, вясёла!

Пасля лес зрабіўся яшчэ радчэйшы. Дажджы і росы залілі пал, але ісці было лягчэй.

Ды толькі што ў нас усярэдзіне нешта ізноў збунтавалася. Абрыдала бязлюддзе чы духам падупалі, але нешта ўсё шырылася і рабіла перашкоды.

Тады мы ўставалі:

«Годзе! Вядзі нас на людзі».

Ён не спрачаўся, прамовіўшы «добра!», браў другі кірунак, і мы ўцішаліся.

Няпэўнасць у людзях, у тым, як нас спаткаюць, змушала нас прасіць яго зноў кіравацца, «куды б ён хацеў», «куды б ведаў»...

Неяк заўсёды ён быў першы. І калі ён паважна адмяраў свае крокі, мы бязмала не беглі за ім, як маленькія дзеткі. Я прабаваў гэтак, як ён, ісці, дык скуткі меў няўцешныя: то залішне высунешся наўперад, то зноў застанешся. А ён хітры! — пазнаў, чаму гэта, і неяк паціху сказаў мне: «Не прабуй дарэмна! Навука ў тым, каб ісці». Ах, ісці...

Я казаў вам, што ён навучыў нас праходзіць праз людзей і каб ніхто не бачыў: «Ёсцека такі "мізгер", што ягоным павучыннем як заслоніш твар, дык цябе ніхто не ўбачыць. Тупат твой чуцен будзе, нават рукой каго зачэпіш, а ён цябе не бачыць і не ведае, што і скуль гэта. Толькі ад павучыння неяк морачна ўваччу ды душна крыху, а скідаць не можна».

Вучыў нас: «Помніце, як на людзях будзем, не адсланяйцеся, хоць будзе душна. Цярпіце да астатняга, як толькі можна».

А ўчора!.. — І адразу зблядне ў яшчэ болей наш малады таварыш, і з воч адна па аднэй пакаціліся буйныя, як перлы, слёзы. Захістаўся на нагах і сеў на ўслончыку ля сцяны... — Учора праходзілі мы каля гэтых месц... Трэба было паміж людзей прайсці... І я не ўцерпеў! — Стаялі і чамусьці ўсміхаліся, сярод іх дзяўчына, а гэткая панадная, здалося мне, што я, каб лепей прыгледзецца, адсланіў крыху павучынне.

Зара абхапілі мяне, можа, сотні рук, і павалаклі, і тузалі, і білі. А ў зверскім гомане галасоў, што сцёбалі мяне здзекам і пагрозай, не чуў я ніводнага, каб быў спагадны мне. I дзявочага, і нават дзяўчыны той не ўбачыў...

Схіліў нізка галаву сваю на калені і моўчкі сядзеў. Нейкія дрыжыкі праходзілі на ўсім целе, трасліся апушчаныя плечы і галава на каленях. Плакаў ён.

Мы навакол маўчалі. Што ж? Няхай паплача! Гэта добрыя слёзы — з імі дух не згіне. А заўтра мы адкрыем яму свой сакрэт і хутка ізноў пойдзем разам.

Аж во, ён мацней уздрыгнуў і разам схапіўся на ногі. З непазбытай мукай у вачах, а з вялікай цікавасцю паглядзеў ён на ўсіх нас і з напорам, звонкім голасам, спытаўся:

— Слухайце, а хто ён быў, гэты шосты? I скуль узяў ён сваю вялікую моц?

— Ах ты! Маладзенькі! Дык хто з нас скажа табе, што гэта быў ты, я, ён, вун той, вось гэты?! Што ён быў такі самы, што моц у яго чалавечая! Ты яшчэ веры гэтаму не дасі.

Гэтак памысліў сабе кожны з нас... I мы маўчалі.

*1912*

## ПАН ШАБУНЕВІЧ

### I

...З панам Шабуневічам са старапапельскіх Шабуняў пазнаёміўся я тады, як «усё на галаве пайшло хадзіць». Вялізная пекная зала ў будынку гарадской думы была паўнюсенька людзей. Здавалася, знекуль укаціўся сюды магутны ручэй і ніяк не можа супакоіцца, і гарачыя, спацелыя хвалі чалавечага цела налазяць адна на адну, пнуцца ўперад, адліваюцца ўзад, перакочваюцца ў бакі, шукаючы выхаду з гэтых чатырох мураваных, у пекныя абразы маляваных сценаў.

Пасярод гэтага мора маленькай выспачкай падвышалася амбона, а на ёй па чародзе прамаўлялі лепшыя красамоўцы нашага горада. Кожны з іх ганіў чужую «веру», хваліў сваю і, запрашаючы «пана абываталя» пад свае параты, дакляраваў, што, толькі гасцююючы ў яго хаце, знойдзе «пан абываталь» і патрэбную абарону, і патрэбную апеку над яго інтарэсамі.

Вось гэтта стаялі мы з панам Шабуневічам поплеч і слухалі. Лепей сказаць, слухаў, аб чым гукалася, пан Шабуневіч, бо я, заняты сваімі думкамі, і не прымеціў, калі на амбоне стануў невысокі, маладога веку, светлавалосы, са светлай бародкай чалавек у шэрым адзенні і пачаў гаварыць. Нешта незвычайнае ў яго мове адразу здзівіла мяне і зацікавіла; ад першых слоў прыемна заказытала ў грудзях, на момант перахапіўся дух, і спуджаныя думкі, змяняючыся адна па адной, праляталі, як бліскаўкі, каб у цемнях памяці знайсці сабе вечны прыпынак. «Што ж гэта і хто гэта?! — Мужык? Просты вясковы мужык, араты, прыйшоў, адарваўшыся ад працы, прыйшоў да гэтых, у чорныя сурдуты ўбраных паноў і сам праз сябе і ад сябе загукаў сваёй "простай мовай"? Ці ж гэта можа быць?» І вочы, звярнуўшыся да амбоны, шукалі зрэбнай кашулі, шэрай сярмягі.

Але той, хто гаварыў, саўсім не паходзіў на мужыка. Барзджэй можна было прызнаць у ім чалавека з лічбы «панскага роду». Гэта, аднак, не шкодзіла мне слухаць яго далей і далей, не выпушчаючы з вушэй ніводнага слова. Ён журыўся на чорную нядолю, якая агарнула бацькаўшчыну, на глуз і здзек, што запанавалі над ёю, на атрутнае занядбанне роднай мовы. Запрашаў усіх, у каго ёсць «крышачку сэрца і кропелька міласці, даць у іх месца выгнанай стуль Бацькаўшчыне». Словы гэтыя былі мне — ой, ці мне толькі — сякучы меч і гаючая вада адразу. Калі праўдзівым дакорам расцінаў ён сэрца, то і добрым словам гаіў яго, бо даваў надзею, што ёсць мага хоць што, калі ўжо не ўсё паправіць. Моцай іх падняў ён мяне па-над гэтай заляй, па-над гэтымі людзьмі і памчаў за горад, за лес, за поле, у бясконцы цёмнай ночы. Шумелі курганы, быццам прыціснутыя цемняй, ляжалі палеткі, пачарнеўшыя з нядолі, раскідаліся вёскі. Маўчала зямля, і адзін вецер толькі трывожыў гэту цішу. Калыхаючы старыя крыжы на курганах, блукаючыся пад саламянымі стрэхамі, блудзіў ён — ціхі стогн. Ціхі, ціхі. Як слабыя шэпты стэпавага сухабыльніку.

«Божа мой, Божа мой!»

Блізкасць і праўдзівасць гэтага стогну-шэпту зноў звярнулі мяне да тэй залі і людзей, сярод якіх я стаяў. Азірнуўшыся навакол, я ўбачыў, што мой сусед з левага боку, чалавек ужо сталага веку, з невялікай лысінай на макоўцы, з доўгімі спадзістымі вусамі на круглым і строгім твары, чырвонай хустачкай гаротліва выціраў дзве рыскі, што глыбока ўрэзаліся ў твар ад пераносся аж да вусоў, ля краю вуснаў. Вочы яго чырванелі, як хустачка, і блішчэлі.

Відаць, нейкая цягасць у сэрцы расчуліла чалавека.

З усёй прыязню і спагадай, якія я толькі здолеў паказаць на сваім твары і ў голасе, я адважыўся запытацца: «Аб чым васан?» Маё неспадзяванае запытанне засароміла ці перапудзіла суседа; мо яму здалося, што яго ніхто не бачыў, ці што.

Адхіснуўшыся крыху, быстра зірнуў мне ў вочы, потым памкнуўся, як бы шукаючы дапамогі, туды, да амбоны, дзе ўжо стануў другі, яшчэ раз даўжэй паглядзеў мне ў твар і ў вочы і, відаць, не паверыўшы мне, мармытнуў: «Так сабе! Проста ў галаву ўлезла». І, адвярнуўшыся ад мяне, зрабіўся, як каменны, уляпіўшыся вачамі ў амбону. Але праз хвілінку парухаўся і набраўся адвагі ці ўжо пачуцці не давалі маўчаць, звярнуўся да мяне і, паказаўшы галавой на амбону, высмаліў:

«От гэта аб чым казалі!.. Ці ж я не казаў?! Га? Усё праўда! Далібог, праўда! Я казаў!..»

Пасля, панізіўшы голас, пэўны ўжо ў маёй асобе, бурчлівым, як бы каму вымаўляў, на некага гневаючыся, голасам цягнуў далей:

«Здаецца другому дурню, што змяніў ліповыя падэшвы на раменныя, дык ужо і сам не сам зрабіўся. І лапці ганіць, і з сярмягі смяецца, а над сваёй гутаркай, якой маці пеставала, кпіць, ажно слухаць прыкра. А хай жа, бязглузды, прыйшоў бы сюды ды паслухаў, як людзі кажуць!..»

І, кінуўшы яшчэ раз вокам у бок амбоны, сусед мой пакіраваўся да дзвярэй. Мне самому не хацелася болей стаяць і слухаць, бо лічыў, што нічога цікаўнага не пачуеш ужо гэтта, і дзеля таго я паспяшыў таксама выйсці разам з ім. На вуліцы быў позні вечар, калі мы, хлюпаючы галёшамі, ішлі і зюкалі сабе, як даўнейшыя прыяцелі. Ён расказаў мне невялічкую гісторыю свайго жыцця, з тымі крыўдамі, якія ён цярпеў у сваёй сям'і, і, калі мы расставаліся, каб разысціся кожнаму ў свой бок, папрасіў мяне заходзіць да яго часамі: «Як будзе вольны час, бо мне дык не надта можна ад варстату».

Пан Шабуневіч паходзіць ад бацькі католіка, а маткі-нябожчыца была праваслаўнай. У метрыках пішацца «каталіцкай веры», але нічога не меў ён і да праваслаўя. Бацькі, хай іхнім душачкам у Бога вечны спакой будзе, пакінулі яму ў спадчыну кавалак зямлі, так што добры агарод выходзіць, ды хатку. Навучылі майстэркі — праз пяць год тэрмінаваў[1] у суседа пана Бэркавіча і навучыўся шавецтву. І ажанілі, узяўшы яму ў жонкі дачку пана Німартовіча, шляхцянку з Старога Папеля. Дык цяперака, маючы з чаго жыць, маючы жонку, сынка, мог

бы пан Шабуневіч, здаецца, жыць і Богу дзякаваць, але каб усё так было, як здаецца.

Уся бяда з жонкі ідзець. Паня Шабуневічыха лічыць сябе і мужа «польскай веры» і дзеля таго не спушчае свайму гаспадару ані рэлігійнай бесстароннасці, ані яго «простай», «мужыцкай» мовы. Каталічка аж з «дзесятага калена» заўсягды выракала і вытыкала яму: «А ты грэх робіш, а ты ў царкву ходзіш, а ты не саромішся, а ты людзей не ўважаеш, а ты сам сябе і мяне не шануеш, бо гаварыць, як у тваім стане след, не хочаш», — і пачне і пачне. Што ты ёй на гэта скажаш?! Кажы не кажы, што і Бог адзін, што і Матка боская, і пан Езус адны на ўвесь свет, яна ўсё сваё. Ты ёй слова, яна табе два, ты ёй два, яна табе тры. Дык пан Шабуневіч ніколі доўга не спрачаўся, калі жонка пачынала аб веры.

Але калі Янова прычэпіцца да яго за «простую» гутарку, тутака пан Ян, не ўважаючы на свой спакойны, па бацьку-нябожчыку, характар, ніколі не ўступіць. Тутака жонка з ім нічога не зробіць. Упрэцца, як вол каля стайні, і ні туды, ні сюды. Яшчэ пашкелівае часамі з яе «польскай» мовы: «Я в огродзе полем грэнды[2], а мой Янка, сюды, тэнды[3], ах, Ясенчко муй коханы, дам паясэк прэтыканы...» Ды яшчэ гэтак усміхаецца, што ў пані Яновай вочы выскачыць гатовы са злосці. Колькі разоў быў я сам сведкам гэтых спрэчак. Нават заслужыў няміласць у Яновай. Бо калі здаралася мне папасці да іх за суддзю, дык і асцерагаючыся, і ўсё, але заўсёды судзіў у карысць мужа. Прызнацца, тады мне нясоладка было пад яе вокам. З'есці гатова.

## II

Ну, але і на вайне ёсць замірэнні, і на моры пагода. Пануюць яны і ў гэтай сямейцы часамі. Тады, Божа мой, не трэба лепшай пары на свеце. Проста радасць бярэць, як убачыш, якую пару Бог злучыў. Адно аднаго слухае і паважае, адно другому стараецца дагадзіць, гукаюць паміж сабой лагодненька, міленька — галубкі, дый годзе! Пан Шабуневіч, седзячы ля ваконца, што ў агарод выходзіць, пры сваім варштаціку і муркаючы, як кот, пад нос сабе якую-небудзь песню, падшывае дратвай перады ці падбівае падноскі на чаравікі. Пані Янова, як тая курка, ту ж пад ваконцам у гародчыку полець грады і, выбіраючы па каліўку зяло, не-не ды адвернецца да чалавека: «А падзівіся, Ясечка, як бурачкі ўзышлі, ніводнае зернетка не прапала; ці

бачыш, як цыбулька ў нас у цыбучкі ідзець, а расада якая зялёненькая, пэўна, ужо саўсім абмацавалася». І пан Шабуневіч, высунуўшы галаву з ваконца, з радасцю бачыць, як праўдзе бурачкі ўзышлі, і цыбулька паперылася, і расада, абмацаваўшыся, зелянее.

— А ведаеш, Каруся, здаецца, бурачкі гэтта крыху густавата сядзяць.

— Але! Заўтра я бацвінкі згатую на абед.

— Добра. Люблю я зяляніну! Гм... а як жа ў нас абед сягоння?

— Абед гатовы. Віця прыбяжыць, і зараз есці будзем.

— Час, час — у жываце ўжо нешта пабурківаець.

Праз паўгадзіны прыходзіць са школкі Віцька — едынак і ўлюбенец панства Шабуневічаў, пястунчык матчын і гордасць бацькі, і ўсе сядаюць за стол. І пры стале дух згоды чуецца як найлепей. Бацька з сынам аж пачырванеюць ад натугі, стараючыся дагадзіць матцы, а яна, як тая ластавачка, увіхаецца каля стала. Падлівае ў талерку гарачай стравы то аднаму, то другому, падсоўвае хлеба, просіць есці, каб сыты былі. Віця апавядае, аб чым казалася ў школцы, як вучыцель пакараў каго-небудзь з вучняў, што спаткаў, ідучы ў школку і адтуль.

У Віці разумная галоўка. Сам бацька часам, як роўнага сабе, плясне яго па плячы і кажа: «Ты, сынку, пойдзеш далёка! Хай ужо мы з маткай без жаднай адукацыі, а ты будзеш мець. Выўчым цябе на доктара або на інжынера...» Гэтта Янова заўсёды ўстрэнчыцца: «Не, лепей на ксяндза»...

А бацька на гэта: «Не хачу, каб ён ксяндзом быў. Памятай ты, маці, што пад старасць і нам дапамагаць трэба будзе. А ад ксяндза дапамога кепская; дый якая табе ахвота сваё дзіця ад сябе адлучыць? Я хацеў бы, каб сын на маіх вачах быў, а яна ўсё не!» Ну, Янова адпіраецца: «Я хіба кажу?! Хай сабе доктарам будзе. Як лепей...»

— От жа ж! А ты, сынку, як кажаш?

— Я, татачка, хачу ў чужыя краі паехаць. Вельмі цікава, як тамака людзі жывуць.

— От табе і маеш! Маці з хаты выпраўляець, і сам уцячы хоча. Эх вы!..

— Калі я казала, каб ішоў з хаты?

— А не...

Але спрэчка гэта ніколі далёка пры добрым гумары не зойдзець. І згода势 пануець дзень у дзень, аж пакуль ізноў як-небудзь не падкусіць яе чым адвечны наш вораг-бес.

## III

Прайшло з паўгода, як я пазнаёміўся з панам Шабуневічам, і ў адну пекную ноч, калі з саду праз расчыненае вакно майго пакоіка ліўся прыемны пах кветак, а ад далёкага возера пачуваліся пералівы песні маленькага песняра кахання, а я меў моцнае перакананне, што Зося Альбэртаўна — прыстайнейшая дзяўчына на цэлы свет, — у гэткую ноч да мяне прыйшоў адзін даўны знаёмы з двума сваімі сябрукамі і гэтак шчыра запрасіў да сябе ў госці, што, не адкладаючы на другі раз, пазбіраў я, што было трэба, і пайшоў з імі. А потым... потым я ўжо не прыходзіў дадому цэлыя пяць год. Пазнаў я за гэты час, як добра мандраваць па чужых краёх і як цяжка тужыці па сваім куточку. Пазнаў багата чаго і іншага. А нарэшце ізноў апынуўся дома. За пяць год многа чаго можа змяніцца. Змяніўся крыху родны горад, змяніўся я сам душою і целам, змяніліся тыя, каго я ведаў. Некаторых нават і не знайшоў на месцы. От аднаго дня пайшоў я да свайго старога прыяцеля, некалі бабыля, як і я цяпераka, а цяпер ужо чалавека жанатага і бацькі. Якраз дзень быў святковы, калі «адны святкуюць, а другія смуткуюць». Свята было і навокал. Святла і сонца, колькі чалавеку трэба на вясёлы дух і яснасць уваччу. Чыстага паветра і зелені — таксама. Здаецца, радуючыся цёпламу свету, ціўкалі ў гушчары тапалёвых прысадаў па абодвух бакох вуліцы вераб'і, і ад таго ж усміхаліся твары сустрэчаных людзей. І хаця свята адчувалася ўва мне, недзе ў сэрцы скробся сум, і нехта, крыху глузуючы, шаптаў: «А спрабуй, спрабуй, павесяліся, як яны, гэ-гэ! З'елі, браце, твой смех! Гэ-гэ!» Гэтак ішоў я, адзін сам-насам з сваімі думкамі, аж пакуль на рагу аднэй вуліцы не спаткаў пана Шабуневіча. Ён бадай што не змяніўся саўсім, такі самы спакойны ў хадзе, такі самы пахмуры твар. Толькі ў вусы ўплялося колькі срэбных нітачак, і больш нічога. Тая самая статэчнасць ва ўсёй постаці. Угледзеўшы мяне, ён дужа абрадаваўся, першы падскочыў і, па свойму старому звычаю, сціскаючы ў сваіх моцных руках мае, што яны аж захрусцелі, адразу загаманіў:

— А! Пан зноў дома! А чаму ж да мяне не заходзіш? Ці забыліся, дзе жыву? Гэ-гэ! Час немалы, можна было і забыцца. Хадзем, хадзем! — І пацягнуў мяне ў той бок, куды сам ішоў і куды мне было якраз па дарозе.

Абрадаваўся і я, спаткаўшы дарагога прыяцеля. Распытваўся аб усім; цікавы быў — ці не пераканала пана Шабуневіча жонка на сваю старану. Але не! Жонка сваёй грызнёй зрабіла

толькі, што пан Шабуневіч цяперака яшчэ большы патрыёт. Заахвоціўся ён да чытання, а злашча гэткіх кніжак, скуль мог больш узяць доказаў сваёй справядлівасці; зрабіўся найшчырэйшым чытачом беларускай газеты і, пазнаўшы багата чаго новага, яшчэ і другіх навучае. Кінуўся ў палітыку, стараецца, бегае, палавіну сваёй вуліцы цягнець за сабою і, здаецца, знайшоў, чаго ўсё жыццё шукаў.

Але ў апошніх часах спаткала пана Шабуневіча колькі цяжкіх няўдач. Як не плакаў чалавек, апавядаючы аб гэтым!

— Ведаеце, былі гэтыя выбары ў земства. Падзялілі нас, тутэйшых жыхароў, на курыі[4]. Як яшчэ ў петухі не прыдзялілі, а толькі ў куры. Ну, я проста не ведаю, што рабіць. Маю права выбіраць, цэнз у мяне ёсць, а да каго кінешся? Запісалі мяне ў польскую курыю, а я кажу: «Дзякуй вам, я ўжо лепей у жыдоўскую пайду». У жыдоўскую, ведама, мне не можна, але гэта я ўжо са злосці, ведаеце. А жонцы гэтая крыўда, як лазанка з макам: от, кажа, табе і вучоныя твае, і беларушчына! А вот жа вучоныя знайшліся, га?!. Я ўжо спрачацца пакінуў, маўчу... Потым ізноў выбары ў думу. Ну, гэтта, думаю, не папушчуся. Узяў я кніжку, ёсць у мяне гэткая добрая кніжка! Надта добрае аб нас у ёй пішацца, і пайшоў. Прыйшоў у гарадскую думу. Кажу: я такі і такі, ці мяне запісалі на выбары? Паглядзелі ў спіскі: «А вы якой веры?»

«Каталіцкай», — адказваю.

«Ну, дык вы, гэтта, у польскую курыю запісаны».

«Як, — кажу, — а чаму не ў беларускую?»

Смяюцца, шэльмы: «Бо такой, — кажуць, — няма, а ёсць проста руская, калі хочаце туды, то яшчэ можна».

«Дык я ж, дзякуй вам, не расеец, не паляк і не жыд! Як жа беларускай курыі няма?»

«А вы каталік?»

«А ўжо ж!»

«А мы ўсіх каталікоў у палякі...»

«Дык гэта, — крычу, — жонка не разумней судзіць! — і паказваю ім кніжку. — От паглядзіце, як гэтта пішацца!»

Папрасілі не крычаць у прысутцтвіі, а кажуць, што вы кніжку паказваеце, дык у нас у паперах саўсім іначай пішуць, але! Бывайце здаровы, бо не маем часу! Каб вас, думаю! Хіба мяне маці дзеля вашых папераў радзіла?

А жонка і зноў рада: хай цябе, проста сам сабе не рад, ані свайму жыццю. Тутка няўдача, у хаце адна згрызота, эт! Можа, вы ведаеце, калі гэта ўсё зменіцца?

І ўпёрся ў мяне вачамі, чакаючы, ці не дам я часамі якой рады, якой пацехі.

— А я што ведаю? Будзем чакаць, а пакуль што будзем рупіцца, каб больш нашых «тутэйшых» не хацелі пісацца ў гэтыя курыі. Як пачнем дакучаць кожны раз, як будзем прыходзіць штораз усё большай грамадою з кніжкай, у якой надта добра пішацца аб беларусах, тады, можа, ды, пэўна, нешта будзе.

— Праўда, праўда ваша. Яшчэ дачакаемся свята. Зробім сабе свята. Калі мяне скранула, што, як хлопец які, бегаю, то і з усімі тое будзе. А ведаеце што? — і пан Шабуневіч азірнуўся, ці хто не падслухвае. — Ведаеце, у мяне ёсціка думка, і хацеў бы яе з'існіць. Добра было б зрабіць у нас нешта кшталтам школкі беларускай. Чытаць, пісаць і крыху гісторыі. Га? Як на вашу думку? Хата ў мяне знойдзецца, а вы мо б былі настаўнікам. Гадзіны дзве ў дзень. Га? Заходзьце да мяне, пагамонім лепей.

Але мы якраз падышлі да таго двара, дзе жыў мой прыяцель, і я, паабяцаўшыся зайсці да пана Шабуневіча і пагаварыць як след аб гэтай важнай справе, падаў яму на развітанне руку. Ён зноў сціснуў яе, што аж захрусцела, сказаўшы яшчэ раз: «Прыходзі ж, пан», — пайшоў сабе дахаты, весела ступаючы моцнымі абцасамі па тратуары.

Прайшло колькі дзён, і я, яшчэ не сабраўшыся пайсці да пана Шабуневіча, зноў спатыкаю яго на вуліцы.

Ён налятае на мяне, як каршун на голуба:

— Ага! Чулі?

— Што?

— Дык не чулі?

— Аб чым?

— А вот, — і, выцягнуўшы з кішэні апошні нумар газеты, пальцам паказвае на першай старонцы, — чытайце!

Пішуць, што цяперака ў пачатковых школах веры дзяцей будуць навучаць у тэй мове, якою гукаюць бацькі. А значыцца, павінны будуць вучыць чытаць і пісаць у роднай мове.

— Ну, як вам падабаецца?

— Што ж — мне гэта надта да смаку, бо я хацеў бы, каб мае дзеці (а я ж некалі ажанюся яшчэ!) разумелі крыху, «якіх бацькоў, чые сыны яны».

— Праўда! Ну, мой Віцька, ведаеце, той добра чытае пабеларуску! Як рэпу рэжа. Вот, пачуеце, калі прыйдзеце да нас. А я жонцы от цяперака гэтым самым у нос тыцну. «Чытай», — скажу. Я дзеля яе раней і газету лацінкай выпісваў. Хоць

крывілася, а часам і чытала, бо «па-польску друкавана». Ха, ха! Заходзьце ж. — І весялейшы, як у першы раз, пайшоў сабе ў свой бок.

* * *

Да пана Шабуневіча я яшчэ ніяк не ўлаўчыўся схадзіць. Нядаўна даведаўся, што нашая з ім радасць крыху паспяшылася. Беларускую мову яшчэ раз выкасавалі з ліку родных моў: напісалі, што роднай мовай маіх дзяцей (бо я не пакідаю надзеі жаніцца) павінна быць ці польская, ці расейская, ці жыдоўская, ці літоўская, ці іншая. Чаму ж яшчэ не прылучылі французскай, нямецкай, японскай, не ведаю. Усё ж нічога сабе мовы. Гм, але досыць жартаў, я гэтага, панове, саўсім не хачу; і пан Шабуневіч не хоча! Трэба, мусіць, пайсці да яго і пільна пагаварыць аб школцы... «Беларускую школку. Пісаць, чытаць і крыху гісторыі». Ах, мілы пане Яне, пэўне, і ён невясёл, бо ў яго ж ёсць пані Янова. Яму, пэўне, яшчэ горш за мяне.

Бедны пан Шабуневіч са старапапельскіх Шабуняў!

*1913*

## ЧАЛАВЕК БЕЗ КРЫВІ

Нядаўна ў нашым N-ску памёр мой стары прыяцель, на жаль, не сваёй смерцю. Нябожчык вярнуўся з ссылкі і спачатку быў вясёлы і ўсё збіраўся зноў узяцца за працу на карысць роднай старонкі. А ў нядоўгім часе з ім зрабілася нейкая змена — спахмурнеў, пачаў адсоўвацца ад людзей, нават блізкіх, і ў канцы налажыў на сябе рукі.

Аб цікавым жыцці гэтага чалавека з чыстым сэрцам і вялікімі здольнасцямі, а неласкавай доляй я яшчэ спадзяюся расказаць некалі чытачам, а пакуль што друкую яго, здаецца, ядыны твор, знойдзены мною сярод другіх папераў нябожчыка. Мо людзі, знаўшыя яго, зразумеюць, якую муку нёс у сабе гэты чалавек, і слова асуду яму не зляціць з іх вуснаў.

— Дык чаму, пытаецеся, твар мой бледны такі, і вочы запалыя, і рукі белыя з сінімі жылкамі, і ад чаго пахілы я, кволы, як тое зелле, што расцець у скляпох сярод вільгоці і гнілога павет-

ра? А той, знаны вам, быў саўсім іншым чалавекам! Чаму ж? Хіба трэба яшчэ пытацца? Хіба нават каб не ведалі, не можна адгадаць, што я прыйшоў з няволі?! Хіба твар мой, вочы мае, рукі мае, карк мой крывы і цела кволае не сведчаць вам, што я — чалавек без крыві? З няволі, з няволі вярнуўся, — зразумейце гэта і не пытайцеся больш!

Хай кроў мая гнілая, вільготная, хай сэрца маё, як дрыгва, — пашкадуйце мяне і не пытайцеся!

Ах, сорам мне, ах, ганьба мне! Пракляцце на галаву маю, на дзень той, што першы ясным сонейкам павітаў мяне, — няшчасце дому свайго і гора маткі сваёй... Галубачка мая сівакрылая! зязюлечка! ластавачка мая гаротная! Ці помніш ты, як бянёхала мяне малога, як плакала ты над калыскай маёй, калі плакаў я, і як смяялася, калі я смяяўся? Ці помніш ты дзень той прыгожы, калі, пагнаўшыся за свавольным зайчыкам, якога любае сонейка пусціла праз балонку ў хатку нашу, я аддзяліўся ад лавы і зрабіў першыя два крокі па бітай падлозе? Якім шчасцем засвяціліся вочы твае тагды і сама ты абпрамянілася, як сонца! А смачнейшыя выбіраючы кавалачкі хлеба і сала, укладала ў торбачку маю — дзянны харч мой у школку, — помніш ты? А ці помніш, матачка, як далёка за ваколіцу выходзіла ты спаткаць мяне са школы? Якою гордасцяй залівалася тваё сэрца і твар твой расцвітаў, калі ты чула пахвалы мне ад чужых? І потым як, спагадаючы моладасці, пазірала на мяне з маёй мілаю і, згодная ў сэрцы з маім выбарам, казала: «Добрая з вас, дзетачкі, пара»? Помніш ты? Помніш жа?

Ах, бачу я, помніш ты гэта і нават болей чым помніш! Думкі і вочы твае не нацешацца тым, што прайшло ўжо, і дні сягонняшнія замяніла ты ўчарайшымі днямі. Дык адарвіся ж ад іх! Прызнай жа твайго пярвінку, улі ў сэрца маё кроплечку роднага пачуцця і ўбачыш, як заб'ецца яно, як чырвоным зробіцца твар мой, і вясёлымі вочы, і простым карк мой, і моцным цела.

У няволі, у няволі жыў я гэтыя гады, і захірэў без роднага паветра, і зрабіўся, як гнілое зелле ў гнілым скляпу!

А цяжкая ж гэта рэч — няволя — і што яна з людзьмі робіць!..

Спярша, як злоўленае арлё, нічога не ведаеш і кідаешся ў вокны на жалезныя краты, у шчылінкі — усюдах, адкуль ідзець свет, — абы ўцячы, абы вярнуць сабе волю. Але ж не: краты моцныя і шчылінкі вузкія, і цераз іх не праціснешся. Яшчэ не трацячы надзеі, пачынаеш біць галавой і кулакамі і ўсім целам стукацца аб сценкі — дарма! Мур стаіць сабе нязрушаны, а га-

лаве і ўсяму робіцца балюча. У злосці, у роспачы грызеш тады сабе рукі і раздзіраеш грудзі свае да крыві, плачаш, крычыш — дарма, толькі жорстка-сардэчная варта рагоча, гледзячы на твае мукі. У канцы нестаець сілы. Кідаешся на падлогу, моцна сплюшчываеш вочы і хочаш памерці. І смерць не ідзе! Мучышся гэтак; змяняюцца дні і ночы, у сэрцы тваім надзея змяняецца роспаччу і роспач надзеяй многа-многа разоў, і толькі тагды, паціху і паволі, як астрожны вартоўнік, падкрадаецца к табе смерць.

Каб жа ж гэта была яна! Каб не жыць саўсім! Не бачыць, не думаць, не хацець, не быць!

У няволі гэтак не паміраюць. Вось ■ з белым тварам, і рукамі з сінімі жылкамі, і вачмі без жыцця, а хто скажа з вас, што я нябожчык? Усе забыліся, ніхто не можа пазнаць, нават родная маці кажа: «Гэта не сын мой», а ніхто не скажа, што я нябожчык.

Бо смерць мая — жыццё маё, і гэта смерць, якой паміраюць у няволі. Толькі тамака можна гэтак цяжка канаць, так мучыцца не стогнучы, бо няма каму слухаць і каму памагчы. Толькі тамака, у няволі, прыходзіць нехта ці нешта і, раз прыпаўшы да грудзей, ужо не адыходзіць, пакуль не выссе ўсёй крыві і сам не атруціцца той атрутаю, якую пусціў у жылы.

І калі яно пачнецца, адразу перастаеш усміхацца нават найлепшаму ў свеце: яснаму сонцу і прамінуўшым дням сваім. І гневацца на найгоршае ў свеце, на знявагі чалавечай павагі тваёй перастаеш. Ясны дзень, ці ходзяць па небе чорныя хмары — усё роўна. Далі табе спакою ці дратуюць цябе і здзекуюцца над табой — усё роўна. Нічога не жадаецца сабе, ні другім. Нічога не хочаш рабіць. Свет навокал робіцца мутным і белым, як вочы сляпога, і невыразным, як твар звар'яцелага. Нешта парнае, праціўнае, замест паветра, уліваецца ў грудзі, ласкоча ў горле, туманіць розум і робіцца тваёй істотаю. Ах, цяжка мне, людзі!

Чаму гэта сэрца чалавечае такое, што ёсць у ім нейкія сховы, дзе крыецца людскі боль? Чаму, забыўшыся аб мінуўшчыне, успамінаеш будучыню, а ўбачыўшы наперадзе сябе чорную бяздонную яму, баішся яе, і, маўляў, забрытаны конь, пакіраваны ўночы рукой бяспечнага ездака, стаіш і круціш галавою, і ўпіраешся, не хочучы далей ісці, і, шкадуючы жыццё сваё, трасешся ўсім целам? Нашто мне жыццё, калі яно — смерць, калі родныя мае не ведаюць мяне, а маці цураецца мяне? І хіба вам, людзі, што не хочаце прыняць мяне за свайго, не ўсё роўна? Нашто пытаецеся, чаму твар мой бляды? Нашто

дакучаеце, даведаючыся, чаму вочы мае запалыя і рукі белыя з сінімі жылкамі? Праз цікавасць? Хіба ёсць закон такі паміж вас чужое гора абцяжаць сваёй безупыннай цікавасцю і дзеля памаўзлівасці сваёй бярэдзіць чужыя раны? Ці, можа, міласэрдзе ўзварухнула сэрца ваша і, пашкадаваўшы мяне, запыталіся? Тое міласэрдзе, якое робіць цуды і падымае з ложа смерці, якое золатам праменняў сваіх прабівае цьму, і душы сляпыя выводзіць з панства роспачы, і пахучымі кветкамі абсыпае іх, і купае ў млечнай расе векавечнага шчасця? Калі гэтак, не пытайце ж, а бардзей прыміце мяне на грудзі свае і скажыце мне: «Брат мой» і «Сын мой», каб сэрца маё, разагрэўшыся ад ласкі вашай, часцей забілася і вышэй узнімаліся грудзі, набіраючы роднага паветра, і зноў палілася ў жылы чырвоная кроў, і кветкамі жыцця аздобіўся твар, і шчасцем заблішчэлі вочы. Ці найзлейшых сабак сваіх нацкуйце на мяне, каб яны перагрызлі горла маё, забралі смерць маю і жыццё маё, і я не скажу, што вы без літасці.

Бо з няволі, з няволі вярнуўся я і не маю спакою!..

*1915*

## П'ЕРА І КАЛАМБІНА

### I

...«Дарагі мой, добры! Не шкадуй, не сумуй за мной!.. Ах, сэрца маё баліць, як нагадаю сабе тваё журлівае сумаванне, калі ты застанешся адзін... Дык не магу ж я, не магу! Беспераможнае пачуццё цягне, кліча мяне за ім... Пакоі нашага дому гнятуць, душаць мяне, наша пасцель зрабілася жарстчэйшай ад цвёрдага каменя! Не магу... Павінна ісці, уцякаць, бо гэтта — смерць. Не шукай нас. Не сярдуй.

*Твая Альжбета».*

І другою рукою:

«Дарагі Антосю! Датачу і я колькі слоў: іначай не магло быць. Не сярдуй на Альжбету, а на мяне — як ведаеш.

*Віктар».*

...Маленькая ружовая картачка з дробнымі жаноцкімі літарамі адразу сталася зялёнай. Вагнёвыя, чырвоныя, свідруючыя вочы літары, паволі ўцякаючыя з паперы, некуды зніклі. По-

тым белы свет спірытусовай лямпы змяніўся, зжоўк, потым сцямнела і зрабілася пуста.

Раптам сэрца, якога ніколі не было чуваць, застукала ў грудзях так моцна і звонка, што аж забалела ў вушах. Млосць ахапіла ўсё цела, і левая рука, разам з картачкай, сама ссунулася са стала і, ударыўшыся аб поручань крэсла, звесілася ў паветра.

Калі ён, перамогшы хвілёвае абяссіленне, устаў з крэсла, лямпа зноў засвяцілася роўным белым светам, але прамені яго, затрымоўваючыся пад зялёным каптуром, узмацнілі страшэнна цяжкае пачуццё пусткі.

Ад гэтага пачуцця закруцілася галава і некуды паплылі цёмныя сцены дубовага кабінета з алейнымі малюнкамі і старасвецкай зброяй. Цяжкая гатыцкая канапа з шафачкамі, палічкамі па баках і над спінкай і вялікі партрэт жонкі над ёй на сцяне, як па загаду цудоўнай сілы, змянілі свае месца і сталі якраз проць вачэй, засланіўшы высокія дзверы.

З партрэта глядзелі на яго вялікія карыя вочы; вітаючы, міла ўсміхаліся чырвоныя пекныя вусны, голая, з-пад багатага чорнага ўбрання шыя свяцілася дзявочай белізной; непакорная пасмачка валасоў спусцілася, уючыся, на пекны лоб.

Яна паўстала з партрэта перад ім як жывая, і на хвілю, здалося, як святая, абпрамянілася яркім залатым светам. Але як толькі ён, запомніўшыся, схацеў падысці і стаць перад ёй на калені і, сашчапіўшы рукі, прасіць, каб не адыходзіла, і крануўся з месца — усё знікла, і зноў зрабілася пуста.

Асцярожна, трымаючыся за стол і за парасстаўляныя ў пакоі крэслы, падышоў да канапы, і, падлажыўшы пад галаву вышываную шоўкам на зялёным аксаміце падушку — яе работы, — палажыўся, і доўга, без ніякай мыслі, прыслухоўваўся да шуму ці то ад лямпы, ці ад вялікага болю ў галаве. Потым устаў, зняў са сцяны яе партрэт і ўмацаваў яго на крэсле з высокай спінкай. Паправіў каптур на лямпе, каб увесь свет падаў ёй на твар, і сеў на канапе.

Як кінематаграфічныя абразкі, змяняючыся і мігаючы, панясліся ўспамінкі. Праз усё жыццё!.. Праз усё жыццё любіў ён яе!..

Вось Тосік і Бэта ў высокім белым з пазлацонымі гзымсам і мэблямі пакоі гуляюць у хованкі: з-за шырокага фатэля высоўваецца яе нябеская сукенaчка, чуцен стрыманы залаты смяшок, але Тосік нібы не бачыць і не чуе — трэба шукаць даўжэй, каб справіць больш радасці сваёй свавольнай любоце.

Вось — «пан Антось» просіць «высокапаважаную пані, каб зволілі аддаць руку панны Альжбеты, як яна ласкава дакляруе аддаць сваё сэрца», а «панна Альжбета», стоячы гэтта ж, чырванее, як піён, і вочкамі, поўнымі брыллянтовых слёзак, таксама благае «высокапаважаную пані», «каб зволіла».

Потым гучнае вяселле — гуляў увесь павет бязмала. Потым штогоднія балі, на якія з'язджаліся адусюль госці, — музыка, танцы, рой уздыхачоў да непрыступнай пані Альжбеты, а паміж імі і гэты самы Віктар Студніцкі, школьны прыяцель, вядомы ўсяму свету артыста-маляр.

«Так, так — ён жа і рабіў партрэт. Яшчэ жартаваў тады, што гатоў закахацца. На другі год па нашым шлюбе, праз тры ці чатыры месяцы, як радзіўся Янук, а, здаецца, праз год радзілася Стэня...»

Думка аб дзецях перарвала рой успамінкаў, а на змену ім прыйшоў клопат: што рабіць з дзяцьмі? Што ім сказаць і як?

«Ну, Янук — ён мужчына і не маленькі, дык можа ўсё ведаць. А Стэня? Як ёй скажаш — яшчэ ж дзіця! Гора, гора! Гэта ж на ўсё жыццё адаб'ецца на іх маладых, неаформаваных душах. І навуцы зашкодзіць, калі напісаць, а не самому паехаць. Напісаць хіба сястры, хай яна, як умее...»

Быццам знайшоўшы найлепшы выхад з клопату, зараз жа запомніў аб дзецях і зноў пачаў углядацца ў партрэт.

Цяперака ён зрабіўся менш выразным. Таксама глядзяць яе карыя вочы і міла ўсміхаюцца губы, і дзявочаю белізной свеціцца адкрытая шыя, і непакорная пасмачка валасоў, уючыся, спадае на пекны лоб, але, здаецца, пакрытыя рэдзенькай, як бы з туману, сеткай, адсоўваюцца далей і далей, трацяць колеры і зліваюцца ў вялікую бруднавата-белую пляму на сцяне цёмнага дуба. Адзінота прысунулася бліжэй...

«Мілая, што ты нарабіла?..»

Дзве буйныя слязы нячутна вымкнуліся з куточкаў вачэй і, як бы хаваючыся ў неглыбокіх, адцяняючых пекнасць поўнага сілы твару маршчынах, пабеглі ўніз. Адна, спаткаўшы на сваёй дарозе густы вус, раздзялілася на некалькі дробных кропелек і схавалася ў каштанавых валасах, а другая, прабраўшыся нейкай убочнай сцежкаю, упала і разбілася аб грубы шлюбны шчырага золата пярсцёнак на правай руцэ.

## II

У цішыню цёплага летняга вечара, абражаючы маестатычны спакой глыбокага сіне-цёмнага неба, з летняга, збітага з дашчок тэатрыка ўбіваюцца ўражлівыя згукі шпаркай, вясёлай музыкі і, як бы разумеючы непрыстойнасць свайго ўчынку, хаваюцца ў бочных цёмных каштанавых алеях, дзе, напаткаўшы каля нізкай драўнянай лавы пад старым магутным каштанам новых два галасы, хаваюцца ў траве, у лісцях дрэў і, як свавольныя дзеці, хіхочучы, пераклікаючыся, слухаюць, пільнуюць, што тутака будзе.

— Марыля, сэрца маё! У апошні раз пытаюся, ці любіш ты мяне?

— Паўлачка!..

— Ну, кажы ж, кажы далей... Не магу я вытрываць, калі ты маўчыш... Ну, маўчы, але прысунься бліжэй, пакажы свае вочкі, дай гэтыя зорачкі, я пацалую іх, як даўней цалаваў.

— Не!..

— Што не? Запомніла, як было? А вось так: пацалуемся, і — згода! Ну, Марысь!

— Паўлічак, змілуйся! Не трэба!..

— Чаму, Марысь? Чаму ты смутная такая ўвесь гэты апошні месяц: ці нядужаеш?

— Не, я так, Паўлічак... не магу...

— Чым жа ты не можаш?

— Не хачу...

— Не хочаш? Яшчэ навіну чую, што ты не хочаш? Хадзіць са мною, сядзець, гаварыць? Чым жа я так апрыкрыў табе, чаму раней гэтага не было, хіба я цяпер горшы?

— Не, ты не...

— А-а-а, я не горшы — значыць, ёсць лепшы? Ёсць? Ёсць?! Ну, кажы, ну, чаму ж ты нічога не скажаш, чаго маўчыш?! Ну, дык я скажу: я ўсё, усё ведаю. Я ведаю, па кім ты ўздыхаеш. Гэта гэты надзьмуты франт, гэта выстава парыскага краўца вінен, што ты пры мне і смутная і не маеш чаго казаць. Згадаў? Праўда? Ну, Марысь, ну, мілая, адумайся — каго ты любіш толькі! Дзе яго розум, што ён рабіць можа? Піць, ілгаць, гуляць у карты? Не, не — не веру, каб ты закахалася ў ім... Марылечка! А чаму ты так дрыжыш? І рука, як лёд. Холадна? Ну, прытуліся, і будзе цёпла, і будзе добра...

— Мне цёпла, Паўлічак; я так сабе!

— А нашто дрыжаць! Хіба баішся? Каго, мяне баішся?

— Не, я не баюся, але... я хачу ісці дамоў.

— Так хутка дамоў! Няміла, невясёла табе са мной. Даўней ты ніколі так не казала. Наадварот, сама прасіла: пасядзім, пагаворым. Ну, калі ж ізноў спаткаемся — заўтра? Ці, можа, саўсім не?

— Не, але я думаю, што нам не можна гэтак позна сядзець і... наогул...

— Што наогул?

— Не трэба.

— Не трэба наогул?!. Вось што!.. Ідзі, ідзі — я цябе больш не трымаю, не хачу затрымоўваць, бо, ведама, там жа чакае «ён». Ха-ха! Ідзі, ідзі!

Цень, чарнейшы ад старога каштана, устаў з лавы і прапаў у цемнаце алеі. Нагле каля дрэва выпраставаўся другі цень, роўны, просты, як абрубак, захвіляваўся ды скрывіўся.

— Марыля! Слонейка маё! Не адыходзь, пасядзі яшчэ. Не любі, не трэба — толькі пасядзі. Астанься, Марылечка!

— Паўлачка, братка, не прасі — не магу я, не магу... Я не люблю больш цябе!

— А каго любіш?

— Ведаеш сам.

— А, дык не пушчу! Хай ні яму, ні мне!

Хвілюючыся, крывы абрубак адарваўся ад каштана і, як пракаціўшыся па скрыпучай жарстве алеі, знік у цемнаце.

Вясёлыя, шпаркія, цікавыя, як свавольныя дзеці, згукі музыкі на хвілінку сціхлі, прыслухоўваючыся: што далей? Раптам, нарушаючы запанаваўшую ціш, пачуўся цяжкі, металічны стук, як ад кінутага ў жалезны чоп каменя. Напружана высокі чалавечы голас крыкнуў: «А-а-а-ай!»

Потым новы камень у жалезны чоп, і ўсё сціхла.

Перапалоханыя, як цікавыя, свавольныя дзеці, каторым часамі здарыцца натрапіць на нешта страшнае, згукі вясёлай музыкі з ціхім шэптам нястройнай гурбаю панясліся назад у дрэнненькі, збіты з дашчок летні тэатр...

## III

Свет, свет!.. Белы, чырвоны, жоўты, зялёны цененькімі праменнійкамі і цэлымі снапамі ліецца з суфіту з усіх бакоў, куткоў, праз галінкі і лісце цяплічных дрэваў і кветак у жоўтых вазах і зялёных кадушках, з глыбіні дэкараваных кіёскаў, і смя-

ецца, і гладзіць па галоўках, і песціць дробненькія дзівачныя хвігуркі, што хвалямі рознакаляровага лугу пераліваюцца па залі вялікага тэатра.

Цененькія галасочкі, як шчэбет дробнага птаства, зліваючыся ў адзін гул, твораць ураЖанне пекнага летняга паранку ў лесе, калі маленькія вясёлыя цэладзённыя гаротнічкі спяшаюць памаліцца міламу слонцу за тое, што яно дало ім дзень, вясёлы характар і пекныя галасы.

Аб чым гамоняць між сабой П'ера і Каламбіна, — не можна пачуць, бо іх галаскоў не вылучыш з гэтага агульнага гулу, але па іх тварочках, з якіх не сходзіць вясёлая міна, па іх жвавых рухах, бляску вочак, цікава аглядаючых усіх гэтых к...оў, пеўняў, сланёў і зайчыкаў, налпаў і анельчыкаў, каралёў і дзядоў, рыцараў і камінараў, — усе знаёмыя з кніжак і пеставаныя ў неабмежнай дзіцячай фантазіі хвігуры, — відаць, што побыт у гэтым дзіцячым царстве спраўляе для іх вялікую прыемнасць.

Маленькія сэрцайкі не стоўпяць усяго шчасця ад новых уражанняў, і, шукаючы, з кім падзяліцца, яны бягуць да сваіх мамачак, якія, таксама ўсміхаючыся, пазіраюць на дзіцячае свята са сваіх месц на крэслах каля сцяны. Смеючыся, перабіваючы адно другога, кідаюць ім крыху сваёй радасці і, абласканыя цёплай мамінай ручкай, бягуць, узяўшыся за рукі, у гэты натоўп, у якім так дзіўна і смешна, так хораша.

Атласовыя, белыя з чырвонымі пампушкамі-гузікамі ў П'ера і рознакаляровымі ўстужкамі ў Каламбіны ўбранейкі іх мігцяць па залі, з'яўляюцца там і гэтта; ножкі ў белых пантофлічках ледзьве паспяваюць туды, куды хочацца бліскучым расцікаўленым вочкам.

Ручкі, маленькія гарачыя ручкі ўзаемна сціскаюцца мацней, мацней... Іх доўгая дружба расце гэтта з кожнай новай радасцю, робіцца шыршай, — цясней аплятае іх ніцямі ўзаемнай чуласці і разумення.

Але вось каля вялікай, убранай ватовым снегам і праўдзівымі хвоямі лядоўні, у якой румяны калядны дзед абдзяляў усіх, хто зварочваўся да яго, цэлымі прыгаршчамі цукеркаў, арэхаў, пернічкаў, разам з забаўнымі жартамі, каторых не шкадаваў нікому, — каля гэтага кіёска з П'ера сталася нямілае здарэнне.

Каламбіна, прыняўшы ў абедзве ручкі дзедавы падарункі, была затурбавана[1] пытаннем, што рабіць, не ведаючы, куды з імі дзецца, і з бяспомачнай мінай абярнулася к П'ера, шукаючы ў яго дапамогі. Але і той, якраз у гэты момант, дастаў сваю

частку, а з ёй такога ж клопату, як і яго пекная дружынка. Убачыўшы сябе ў адным стане, дзеці на момант аслупянелі ад неспадзяванкі. І ў той самы момант пачулі над сабой зухаваты, абразлівы смех і непрыемна-звонкі крык:

«Глядзіце, глядзіце! Як дурныя, як дурныя, стаяць!»

Спалоханыя і абражаныя, прыяцелі абярнуліся ў той бок, з якога наляцела на іх неспадзяваная ўраза. Тамака, пырскаючы смехам, стаяў грубы, большы за іх хлапец у матроскім убранні і ўсё яшчэ дурна крычаў: «Як дурныя, абое — стаяць і глядзяць!» Другія дзеці, ласыя да смеху, як пчолы да красак, пачуўшы крык грубога бусайлы, згрудзіліся каля іх і, самі яшчэ не ведаючы з чаго, пачалі смяяцца і дражніць іх.

Каламбіна, апрытомнеўшы ад першага замяшання, страшэнна разгневалася. Яе маленькае сэрцайка гатова было разарвацца ад запанаваўшага ў ім пачуцця; нябескага колеру вочкі сцямнелі і кідалі іскры на свавольнікаў, з дрыжэўшых губак гатовы былі паляцець у адказ ім гнеўныя, гострыя, як нож, словы.

П'ера таксама быў абураны на ўсіх, а асабліва на таго бамбізу, з-за якога падняўся ўвесь гэты смех і здзек над імі. Незаслужаны, неспадзяваны здзек грыз, еў яго, як вераломная крапіва, за якую часамі зачэпішся, гуляючы ў садзе. Каб не дзедавы падарункі, што гэтак не ў час прыйшліся, то пакаштавалі бы яны, а асабліва той «дурань», ці моцныя ў яго кулакі. Ён бы ім паказаў!

Але звязаны па руках падарункамі, палавіна каторых прызначалася любай прыяцельцы, ён, сраброўна адшукваючы найлепшага спосабу адплаціць ім, стаяў, нічога не пачынаючы.

Каламбіна ў канцы не вытрывала. Вялікі гнеў змяніўся на вялікія слёзы. Закрыўшы рукамі твар, каб ад ворагаў утаіць сваю слабасць, і пагубляўшы пры гэтым усе цукеркі і пернікі, яна пабегла схавацца ад людской няпраўды пад матчыну ласку, уцякаючы да тае вялікай сілы, пры якой заўсёды гэтак бяспечна і гэтак спакойна. Кінуўшы некалькі абражаючых слоў усім гэтым забіякам, і П'ера таксама пабег за Каламбінай, каб, аддаліўшыся ад крыўдзіцеляў, падтрымаць і пацешыць яе сваім прыхільным, сваім... мужчынскім словам.

Сталася, аднак, дзіўная рэч: тая, якую ён моцна любіў і каторай усім сэрцам заўсёды спагадаў, успакоіўшыся пры матцы, на яго глядзела гнеўнымі вачыма — як там на абражаўшых яе распуснікаў. Ні ціхі, даходзячы да сэрца погляд, ні цукеркі, захаваныя з вялікім самаахвяраваннем для яе, ад каторых яна

цяпер адварочвалася, ні благальныя нясмелыя словы — нішто не рабіла ўражання, не змяняла гневу на міласць. Толькі заступніцтва маткі Каламбіны за няшчаснага і ні ў чым не віннага хлопчыка, здаецца, пагадзіла яе з П'ера, і яна згадзілася пайсці з ім гуляць зноў.

Але закаханым, чулым сэрцам ён даведаўся, што Каламбіна ўжо не тая, якой была за паўгадзінкі ўперад. Праўда, яны, як і тагды, хадзілі разам па залі, узяўшыся за рукі, і часамі здавалася, што ўсё ўжо запомнена, усё мінула, але — толькі здавалася! Бо калі бліскучыя радасцю вочы Каламбіны звярталіся на яго, каб расказаць аб нечым пацешным, — блеск іх паволі мяняўся, рабіўся халодны, сталёвы, радасць у іх гасла, усмешка мілая на твары распрастовывалася, хмурыліся броўкі, і пахаладзеўшая ручка мімаволі выслізгівала з цёплай і такой бяссільнай рукі П'ера...

П'ера чуў, як з кожным такім момантам траціцца яго шчасце, — дык што ж ён мог зрабіць? Толькі непакоіцца, толькі дрыжаць за яго ў душы.

Чамусьці яму здавалася, што найлацвей паправіць справу, трымаючы ўвагу Каламбіны толькі на сабе, і, робячы гэта, ён няўмоўчна гаварыў ёй усякія смешныя рэчы; нясмела трымаючы за руку, вадзіў яе па залі, шукаючы ёй новых уцех, а з пачаткам агульнай гульні стараўся быць лаўчэйшым і спрытнейшым за другіх, каб яна бачыла яго здольнасці і цаніла. Першую дзяцінную польку ён танцаваў з ёй доўга, аж покуль сама Каламбіна не сказала, што больш не хоча, бо закруцілася галава.

І ўсё ж!..

Калі пястуючыя, як лясная вясенняя песня, гукі закруцілі дробненькія, дзівачныя, аблітыя рознакаляровым светам фігуркі ў плаўным чароўным вальцы, — П'ера адзін не круціўся, а стаяў і горка плакаў.

Каламбіна — яго Каламбіна, вясёлая, шчаслівая, саўсім другая, а не такая, як з ім, — танцавала, крышачку адкінуўшы назад галаву, моцна і уфна[2] апіраючыся на руку нейкага золатавалосага маркіза ў кароткай пунсовага колеру апончы і са шпагай пры боку.

Дзівуючыся з-за густой ліствы цяплічнага лаўру на гэтую пару, на сваю — не яго — Каламбіну, П'ера плакаў.

Бедны П'ера!..

*1918*

# СВЯТА

## I

Грыневіч ішоў ужо трэці дзень. Ісці было лёгка, вольна. Насустрач дзьмуў цёплы вясновы ветрык, сонейка ласкава ўсміхалася з неба, ногі ступалі цвёрда, не слізгаючыся, на апаўшую, чарнеўшую ад гною дарогу.

Абапал шырокай ракі, па якой пралягаў «зімнік», узносіліся ўгару высокія, аж пад неба, як шапкай, пакрытыя цёмна-зялёнымі хвоямі берагі. Чырвоныя з зеленаватымі плямамі абрывы гор выглядалі весела, асабліва з левага боку, залітага сонцам.

Але Грыневіч не ўважаў на ўсю гэту пекнату.

Ён як бы не чуў цёплага дыхання ветрыку, не бачыў сонечнай усмешкі і ішоў, гледзячы сабе проста пад ногі, — як машына. Прапушчаў часамі фурманкі, якія абганялі яго ці пападаліся насустрач, нічога не адказуючы на прывітанні ездакоў, ды ішоў далей, не паднімаючы галавы.

Яму аставалася прайсці да бліжэйшай вёскі яшчэ дванаццаць вёрст, ногі пачыналі прыставаць ад доўгай, ад самага цямна, безупыннай хады, але не гэта займала яго думкі. Хада — не навіна для «пасяленца». Не першы раз праходзіў ён у гэты самы час і па гэтай жа дарозе, мяркуючыся папасці ў Качуг на сплаў, а адтуль, наняўшыся асначом на барку, зноў спусціцца ўніз, аж да Якуцка, па веснавой вадзе. Ён думаў сабе аб другім.

Наогул, ідучы, ён любіў думаць і дзеля гэтага цураўся таварыства ў дарозе.

У поўнай адзіноце, нікім не перабіваныя, а яшчэ мэрам разахвочаныя мернасцю хады думкі, лёгкія, кароткія, не чапляўшыя пачуцця, цесным роем круціліся наўкол галавы, і гэта было надта прыемна. Часамі ўгледжаны сабе пад ногі, часамі са слепа глядзеўшымі перад сабой вачыма, часамі высвістваючы пад нос нейкую песню, не далятаўшую да вушэй, ён не заўсёды здолеў бы сказаць, аб чым думае.

Проста думаў, бо гэта было прыемна, а аб чым — нецікава.

Сягоння была Вялікая Субота. Заўтра павінен наступіць першы дзень Вялікадня, каторы ў Сібіры не прыносіў Грыневічу ніколі той вясёласці, ані ўрачыстага настрою, як некалі дома. Праўда, здаралася часамі і павесяліцца дні са два, са тры ў нейкай дзярэўні, пападаючы прыпадкам у «гулянку», гойдаючыся з дзяўчатамі, голасна спяваўшымі смутныя сібірскія песні, на «качулі», трапляючы з моладдзю на «смятку», — з гатаваннем

яец, гарэлкай, музыкай, скокамі дзе-небудзь на вярхолку ачышчанай сонцам ад снегу і ўжо крыху зялёнай гары высока над ракою, але ўсё гэта не пакідала ўражання на даўжэйшы час.

Задумаўшыся аб прычынах гэтага і параўноўваючы сібірскія святы са сваімі, Грыневіч паволі акунуўся ў рой успамінкаў аб мінуўшчыне. Як і заўсёды, яго думкі ў дарозе і ўспамінкі гэтыя былі кароткімі, прылятаі і знікалі без усякага парадку і гатовы былі штомомант разляцецца, каб толькі хто ці што папрабавала іх спалохаць.

...Раптам з памяці выплыў астрог. З высокаю мураванаю сцяною наўкруг, з невялікімі здаля вакенцамі, з чатырма вежамі на рагох і пятай — з высокім шпіцам — на сярэдзіне, — увесь белы, пад шырокім чырвоным дахам, абсаджаны навокал вясёлымі зялёнымі дрэвамі, ён, як вялізны грыб, стаяў на гарэ і панаваў адтуль над горадам.

Маленькім хлопчыкам Грыневіч баяўся яго, бо ўбачыў, як адзін раз з-за яго цяжкай жалезнай брамы выйшла шарэнга шэрых людзей. Ногі некаторых бразгалі грубымі жалезнымі ланцугамі, з-пад маленькіх круглых шапак свяціліся напалавіну абголеныя галовы. Твары ў людзей былі пахмурыя, вочы з-пад ссунутых броў паглядалі коратка і як бы калюча. Аслупянелы, баючыся глядзець на гэтых людзей і не смеючы апусціць шырока раскрытыя вочы ў зямлю, перастаяў Грыневіч, пакуль каля яго не прайшла ўся шарэнга, і потым, падганяны нейкім страхам, пабег дамоў і з таго часу ўжо баяўся астрогу.

Маладым чалавекам уступіўшы пад цёмныя скляпенні астрожнай брамы, каб надоўга не выйсці з-за яе, Грыневіч прыняў гэта, як нешта яго не абходзячае. Усе думкі яго былі яшчэ тамака, з таварышамі на волі, а на тое, што здарылася, ён папросту не звяртаў увагі. Астрог ужо даўно стаўся ў яго мыслях простым пунктам, на якім раней ці пазней на нейкі час выпадала затрымацца. І — толькі.

Праўда, потым пераж ытыя дні паказалі Грыневічу, што астрог не пазваляе так няўважна адносіцца да сябе нікому. Не раз сэрца яго гатова было разарвацца ад болю, што не можа выскачыць услед за думкаю за краты, у цішыню чароўнай вясновай ночы. Не раз да болю ў пашчэнках, моцна сціскаючы зубы і мружучыся так, што аж балелі вочы, стараўся потым Грыневіч заціснуць мазгі, каб яны, зрабіўшыся меншымі, не давалі прастору думкам... Так, астрог умеў даймаць, умеў паказаць сваю сілу!

І, аднак, успомніўшы цяпер аб астрогу, Грыневіч нібыта нават пашкадаваў аб ім. Усё ж такі гэта былі лепшыя годы! Каб

вярнуць іх назад, з іх ідэалізмам, з іх напалавіну дзяцінным незнаёмствам з светам і верай у трыумф дабра, — у канцы, каб вярнуць зноў тую Галгофу, што давала столькі перажыткаў, ён ахвотна адступіўся б ад сваёй нуднай, бясчыннай сібірскай волі.

І яшчэ што даў бы астрог: гэта злучэнне з сваімі, пакінутымі тамака ў родным месце — маткай і сястрой. Быў яшчэ брат малюпаценькі, з круглымі шчочкамі і вясёлымі чарнушкамі-вочкамі, якія залзавелі[1] пры расставанні, калі маленькія ручкі моцна абхапілі шыю Грыневіча, але ён, пакінуты бясклопатным неразумным дзіцяцяю, не быў так блізкі, як матка і сястра. Шчыры прыяцель ад тых дзён, як Грыневіч пачаў сябе помніць, і апякун да самай разлукі — матка і выгадаваная ім на руках, пераЖыўшая з ім шмат дамовых радасцяў і няўзгод, лёгкая, як козачка, быстрая, разумненькая дзяўчынка — сястра, былі той сілай, каторая заўсёды цягнула яго дамоў. Для іх ён яшчэ трымаўся за жыццё ў гэтай непрыветнай, суровай і страшна маркотнай сібірскай глушы, дзеля іх толькі браўся за ўсякую работу, каб мець права напісаць ім праўду, што ні ў чым не мае недастатку, і часамі паслаць ім маленькі падаруначак.

Было яшчэ каханне, якое, аддзеленае ад роднага краю тысячамі вёрст, цэлыя годы білася ў прадсмертным скананні, перамагло яго і асталося, — але толькі як вялікі, ясны ўспамін.

За сям'ёй і каханнем дамоў цягнула Грыневіча яшчэ грамадская праца, але яна была тым паветрам, без каторага цяжка, але неяк можна было трываць, замяняючы жыццё — друкам, а чыннасць — цяжкаю фізічнаю працай.

...Збіваючыся, круцячыся, як рой вясёлых мушак, віліся думкі, напамінаючы то дзяцінныя годы, то даўнейшых прыяцеляў у небяспечнай патаемнай працы, то астрог, то школу, то сям'ю, то ссылку. Грыневіч не ўбачыў, як увайшоў у ваколіцу вёскі, хаця для гэтага яму прыйшлося ўзысці па абсаджанаму хвойкамі ўз'ездзе на высокі бераг, дзе стаяла вёска. Галасы дзяцей, бегаўшых па вуліцы, прабудзілі яго ад думак і адразу напомнілі, што трэба недзе знайсці начлег і падумаць аб ядзе.

## II

Доўга аб тым, куды зайсці, Грыневіч не разважаў. У кішэні яго ляжала пятнаццаць рублёў, а з грашмі, як ён ужо пераканаўся, ува ўсякую хату прымуць. Якраз другім з краю стаяў нечы нанова пабудаваны двор з высокімі, сібірскага кшталту, на дзве

весніцываротамі і шырокаю форткаю. У гэты двор Грыневіч і зайшоў.

На ганку новай, з памаляванымі ў нябескі колер акяніцамі хаты яго спаткала сама гаспадыня, каторая, відаць было, толькі што адарвалася ад нейкай работы, каб паглядзець, на каго так моцна брэша прывязаны каля свірна сабака.

Змерыўшы адным быстрым, уласцівым для сібірскіх кабет поглядам незнаёмага ёй чалавека, гаспадыня стаяла моўчкі, чакаючы, што ён ёй скажа.

Асвечаная счырванеўшымі праменнямі схіленага на захад сонца, высокая, поўная, праўдзівая загладуха — кабета, яна з сваёй высока паднятай, у белай наметцы галавой, з крышачку халодным і кпінкаватым[2] светам у вачох, здавалася тут праўдзівай гаспадыняй, царыцай гэтай загароды. Грыневіч зняў шапку і пакланіўся.

— Добры вечар, хадзяюшка! — сказаў ён.

— Ждраштуіш! Чё шкажыш? — адказала гаспадыня, выгаваруючы словы сваёй сібірскай гутаркай.

— Заначаваць думаю ў вас, калі пазволіце.

— А ты ц'іх будес? — запыталася гаспадыня.

— От Маркавых, — назваў Грыневіч тую вёску, у якую быў прыпісаны на пасяленне.

— А ў Маркавых ц'іх будес? — пыталася далей кабета, выяўляючы звычайную ў сібіракоў недаверчывасць да незнаёмых людзей.

— Да я політіческій, разве не відіш, хадзяйка, — адазваўся, ужо крыху злуючы, Грыневіч, катораму гэтыя выпытванні на каждым начлезе ўжо апрыкралі.

— А, ну-к чё, проході, начюй, — сказала разам упэўніўшая сябе ў асобе незнаёмага чалавека гаспадыня і ўступіла праз адчыненыя дзверы ў хату, прапускаючы за сабой гатовага ўжо раззлавацца начлежніка.

Широкія, з вялікім, на чатыры створы «італьянскім» акном сені, каторымі ўся будыніна перадзялялася на дзве палавіны — хадзяйскую і для гасцей, — яшчэ раз прыпомнілі Грыневічу, што заўтра свята. Нанова пабеленыя сцены, і жалезная печка, і ачышчаная ад саломы падлога проста блішчэлі ў насоўваючымся праз вакно змроку і сведчылі, што хата мае добрую гаспадыню. Звычайнага лахмоцця, якое заўсёды вісіць на ўбітых у сцяну «спічках», тутака не відаць было, і толькі каля самага ўвойсця ў сені вісела на калочках на сцяне конская збруя — тры хамуты і шлеі ў поўнай спраўнасці. Усё гэта Грыневіч прымеціў адным вокам,

адразу, толькі пераступіўшы парог і зачыніўшы за сабой дзверы. Гаспадыня нават не пачакала, пакуль ён скіне з плеч сваю катомку і разапранецца, і, нічога не сказаўшы, так, як бы яго і саўсім не было, пайшла сабе далей на хадзяйскую палавіну, дзверы ад якой стаялі расчыненымі. Але Грыневіч гэтым ні мала не зсмуціўся, ані стрывожыўся, добра ведаючы, што сібіракі многа слоў траціць не любяць. Ён паволі зняў катомку і паложыў яе на стаяўшы ў правым кутку, каля вакна, куратнік, зняў шапку і павесіў яе на адзін калок, потым павесіў свой «азям» на другім калку, добра выщер аб ляжаўшы пад дзвярыма бярозавы мацік свае намокшыя ў дарозе «ічагі» і тагды, уступіўшы ў хату, сказаў, хаця нікога не было відно: «Здравствуйте!»

Хата, у якую ён уступіў, была досыць вялікая. Малёваная цёмнаю фарбаю перагародка, пачынаўшаяся ад дзвярэй, дзяліла яе на дзве палавіны. У тэй палавіне, у каторую ўвайшоў Грыневіч, каля сцяны, у якой былі прасечаны дзверы, стаяла ложка, далей каля дзвюх надворных сценаў стаялі лавы, а ў левым кутку, пад абразамі, стаяў накрыты напалавіну белым абрусом стол.

Адказ на сваё прывітанне Грыневіч пачуў з другой палавіны, з так званай «куці», гдзе гаспадыня, мусіць, нешта перамывала, бо адтуль чуцен быў пляск вады і бразганне спушчанай у ваду глінянай пасуды.

— Проході, посіді, — адказала яму гаспадыня, каторая толькі адна была ў хаце. Грыневіч, аднак, не сеў, але, падышоўшы да дзвярэй, якія вялі ў куць, запытаўся ў гаспадыні, стаяўшай каля стала з пасудай: «Ці не можна было б, хадзяюшка, чайку ілі поесть чего-нібуть у вас дастаць?»

— Поісь? — адвярнулася да яго гаспадыня, — чё с я тебе дам поісь, — у наш віть пошт?

— Ды і ў мяне сягоння пост, хадзяюшка, бо ад самага цямна яшчэ нічога не ўкусіў, аж жывот падцягнула, — засмяяўся Грыневіч, не адыходзячы ад дзвярэй.

— Вох ті мне батюскі! — здзівілася гаспадыня, — экій ты, паря, і не шкажал, сто с утра не ел. Ну, посіді, я тебе редецкі ш квашам ізлазу, а потом і цай будем піть.

А потым, раптам успомніўшы, запыталася: — Ты, может, в баню пойдес? Вон напротів уліцы, в ней как раз теперь музыкі. А после бані і поісь дам, — дадала яна, як бы ўгаварываючы Грыневіча не адмаўляцца ад лазні.

Прапазіцыя пайсці ў лазню спадабалася Грыневічу, і ён, не разводзячы аб гэтым далей гутаркі, папрасіў сабе ў гаспадыні

венік, бо хацеў папарыцца, і пайшоў, накінуўшы на плечы «азям», дзеля таго, што ўжо звечарэла і на вуліцы было халаднавата.

— Пар у баню! — сказаў ён, пераступаючы высокі парог напоўненай пякучым парам і едкай горкасцю нявыйшаўшага саўсім дыму маленькай курнай лазенькі. Праз густую, акутаўшую ўсё пару не можна было разабраць, колькі чалавек мылася ў лазні, але Грыневіч дагадаўся, што іх было толькі двое, хаця на яго прывітанне адазваўся толькі адзін голас з палатак, адкуль чуваць было хвастанне венікам.

— Мілості просім! Кто это, Захар Мітріч, ты? — пачуўся адтуль крыху грубаваты, але прыемны мужчынскі голас.

— Не, гэта я; папрасіўся на начлег, дык вот хадзяйка мне сказала, што ў вас ёсць баня!.. — выясніў Грыневіч абмылку адказаўшага яму чалавека.

— А, гость будеш! — сказаў той самы голас з палатак, — прахадзі, прахадзі, баня харошая, пару многа, только гарчіт маласть, — ранавата шкуталі. Ты, Федьча, дай ему саечку, — скончыў гаспадар (гэта быў ён) і зноў пачаў хвастацца венікам.

Федьча, да каторага ў часе гэтай гутаркі ўспеў прабрацца Грыневіч, аказаўся не хлапчуком, як выснаваў сабе Грыневіч з яго імені, сказанага гаспадаром, але чалавекам каля паўсотні гадоў, з маршчыністым тварам і пачынаўшай сівець клінчастай бародкаю. Гэта быў таксама гаспадар з вёскі, але жыў бедна, бабылём, часта наймаўся да другіх на работу і ў лазню ўпрасіўся таксама, не маючы каго, каб «шкутаць» сваю, разваліўшуюся ад неўжывання, лазеньку. Ён моўчкі, не ўстаючы з тапчана, на каторым мыўся, падаў Грыневічу дзеравяную судзінку для мыцця і, матнуўшы галавой, сказаў толькі адно слова — «там», паказуючы гэтым, дзе трэба шукаць ваду.

Вымыўшыся і адзеўшыся, выйшаў Грыневіч, як прыйшоў, адзін з лазні, у каторай ён доўга раскошываў цяплом, ажыўляўшым усе жылачкі яго, змучанага сямідзённай хадой ад цямна да цямна цела. На вуліцы яшчэ не саўсім сцямнела, але на бялявым небе з'явіліся ўжо ў некаторых мясцох бледныя зоркі. Гварны вясновы дзень у вёсцы заціх. Не зышоўшы яшчэ з зямлі снег блішчэў сваёй цвёрдай скарлупкаю на полі за пераплотамі агарода, дзе ўдалі, за ракой, насупіўшыся, стаялі пацямнеўшыя горы. Далёкі глухаваты шум скінуўшага з сябе зімні сон ручая сведчыў аб недалёкім, праз тыдні два-тры, трыумфе вясны.

У хаце, куды, не спяшаючы, набіраючы сабе поўныя грудзі яшчэ не саўсім астыўшага ад дню свежага паветра,

пайшоў Грыневіч, ён застаў ужо святло. Маленькая лямпачка на сцяне кідала скупаваты свет на стол, на каторым стаяў кіпеўшы самавар, высокі «тувіз» з-пад квасу, тры кубкі, міска з цёртаю рэдзькаю і ляжаў невялічкі баханак хлеба. Гаспадар, выйшаўшы з лазні раней за Грыневіча, сядзеў ужо за сталом і наліваў сабе квас з высокага тувіза. Гаспадыня стаяла каля драўлянай ляжанкі, прымацаванай да печы, каторая адным сваім бокам выступала з-за перагародкі на святліцу, і збірала нейкія рэчы.

— С лёгкім паром! — прывітала яна Грыневіча і, не чакаючы яго падзякі, запытала далей: — Ну, харасо мылша, мой хажяін гаваріт: рана шкуталі?

— Спасіба, хадзяйка, баня харошая і саўсім не горкая, — адказаў Грыневіч, хочучы падзякаваць гаспадыні і разам, пахваліўшы, заступіцца за яе перад гаспадаром, відаць, зрабіўшым дагану жонцы.

— Ну, штупай к шталу, поужнай. Хажяіна не зді — он у меня пошной, севодня говеет, — сказала гаспадыня і зноў адвярнулася да свайго дзела — збірання сабе бялізны.

Прывітаўшыся за руку з аглядзеўшым яго цікавымі вачыма гаспадаром, Грыневіч сеў за стол і, падсунуўшы да сябе міску з цёртай рэдзькаю, пачаў з апетытам галоднага ўвесь дзень чалавека есці, каротка адказваючы на распытванні гаспадара.

Гаспадар быў моцны, шыракагруды, у поўнай сіле малады чалавек. Круглаваты твар яго з невялічкімі вусамі і спакойнымі шэрымі вачыма не здаваўся ані пекным, ані непрыемным і выдаваў вялікую сілу, поўнае здаволенне ўсім і крышачку флегматычнасць. Ён паволі, нібыта і не надта цікавячыся, распытваўся ў Грыневіча аб тым, адкуль ён родам, ці даўно жывець у засланні, дзе жыў і як жыў, і далей аб усім падробна.

Гаспадар коратка пытаўся, Грыневіч, ужо прызвычаены да гэтых допытаў сваёй шасцігоднай сібірскай практыкай, адказваў таксама ў кароткіх словах, і гутарка, мабыць, скора скончылася б, каб у яе не ўступілася гаспадыня, каторая таксама схадзіла памыцца і цяпер, уся расчырванеўшаяся ад жару, села за стол выпіць шклянку гарбаты. Яна так весела загаварыла да Грыневіча — халадок у вачох прапаў і замяніўся цяпер светлымі іскрачкамі, — што ён пачуў сябе як бы ва ўласнай хаце і зрабіўся больш словаахвотным. Расказаў важна слухаўшым яго людзям аб сваім горадзе, аб сваіх родных, аб некалькіх выпадках на выгнанні і, мусіць, гаварыў бы яшчэ доўга, каб гаспадыня не перарвала яго, устаўшы ад стала:

— Ну, таперь пуссайте, музыкі! Буду убірать ш штола, — сказала яна, паднімаючы за ручкі самавар. — Ідзіце адпачніце крыху, — дадала далей па-свойму і вынесла самавар у «куть».

Кароткае заклапатанне Грыневіча, падумаўшага, куды яму легчы, развязаў гаспадар, сказаўшы, устаючы з лавы, што, мусіць, Грыневічу прыйдзецца легчы ў сенях на куратніку, бо ў летняй хаце ложак заняты яго хвораю маткай, аб каторай гаспадыня ўспамінала, седзючы за сталом, і насіла ёй гарбату.

Калі Грыневіч ужо лёг адпачываць, палажыўшы сабе пад бок свой «азям», а ў галаў катомку, — на парозе з хаты ў сені паказалася гаспадыня.

— А цябе трэба разбудзіць к жаутрінай? Где уз будіть! Поді, жавтра рана уйті захочыш? — сказала яна, не то пытаючыся, не то проста так сабе, каб яшчэ пагаварыць аб нечым. На адказ Грыневіча, што заўтра ён у дарогу не пойдзе, але і на заутраную таксама не хоча ісці, а лепей адпачне, гаспадыня звярнулася да яго з нечаканай просьбай.

— Ты вот чё жджелай, паря, позалуста! Мне ахота шхаджічь в цэркав з мужыком, так я тебя разбузу, ты постерегі ізбы-та. І маменькі зделас чё-нібуть, піть ей падаш, чёлі там. А я сказала, стоб она тебя не боялася, — закончыла гаспадыня сваю просьбу.

На гэта Грыневіч згадзіўся, і гаспадыня, падзякаваўшы яму, не перашкаджала далей заснуць.

## III

Прачнуўся Грыневіч, пачуўшы, што нехта яго трасе за плячо. Адплюшчыўшы вочы, ён убачыў гаспадароў, мужа і жонку, ужо саўсім адзетых, каб ісці ў царкву. На дварэ за вакном гулка бомкалі звоны. Гаспадыніна рука трасла яго за плячо, а гаспадар стаяў подаль і прыязна ўсміхаўся.

— Эк тебя ражашпало! — сказаў ён з кароткім смяшком. — Ну, паря, мы пойдем в церкву, а ты тут домовнічай, не спі. Мамка воды, можэт, попросіт, так подаш.

— Добра, — сказаў, ужо саўсім ачнуўшыся, Грыневіч, — ідзіце з Богам, а я спаць не буду.

— Проссай!..

— З Богам!

Перад тым, аднак, як выйсці, гаспадыня зазірнула ў летнюю святліцу, дзе ляжала хворая матка. «Мама, — сказала яна голасна, — мы пайшлі ўжо, а тут з табой Мікалай застанецца».

Мікалаем звалі Грыневіча, аб чым гаспадыня даведалася яшчэ звечару з гутаркі за гарбатай. У адказ ёй пачуўся слабы старушачы голас: «Добра, дачушка, ідзіце, а я і адна пабуду!»

Кіўнуўшы яшчэ раз прыветліва да яго галавою, выйшла і гаспадыня. Грыневіч астаўся адзін на ўсю хату з хворай старушкай.

Тое, што ён пачуў перад выходам гаспадыні, яго і здзівіла і страшэнна зацікавіла і... можа, абрадавала, — у гэтым ён не паспеў яшчэ разабрацца.

Бабка гаварыла па-беларуску! Словы, якімі яна зрабіла свой адказ нявестцы, звінелі, як тыя, каторымі ён думаў. Адкуль тут яго родная мова? Каб выясніць хваляваўшыя яго розум пытанні, ён бы ахвотна пайшоў у тую святліцу, дзе ляжала матка гаспадара, і пачаў бы з ёй гутарку. Але баяўся, будучы чужым чалавекам у хаце, гэта зрабіць, каб не напалохаць старушку.

Заснуць, канечне, цяпер, нават каб і схацеў, ён бы не мог і ляжаў на сваім куратніку, прыслухоўваючыся да ўсіх шорахаў і робячы ўсялякія дагадкі, каторыя ў хуткім часе так перапляліся адна з другою, а потым зліліся з другімі абразамі, што Грыневіч зноў забыўся аб месцы і варунках, у якіх ён знаходзіўся, і толькі думаў.

Доўгі, цяжкі кашаль з летняй святліцы, у якой ляжала старушка, распалохаў думкі Грыневіча. Падумаўшы, што ёй цяпер можа запатрабавацца якая-небудзь помач і што гэта, можа, найлепшы выпадак, пры якім найзручней з ёй разгаварыцца, ён саскочыў са свайго месца на куратніку і, знайшоўшы ўпоцемку дзверы, зайшоў у памяшканне старушкі. Тая ж самая лямпачка, якая свяціла пры вячэры, стаяла цяпер тутака на стале і з прыкручаным кнотам давала яшчэ меней свету. Таксама, як і ў гаспадарскай святліцы, тут каля сцяны, у якой былі дзверы, стаяў ложак, а на ім Грыневіч убачыў накрытую цёплай і лёгкаю «ушканьяй», коўдрай, ляжачаю, з чорнай хустачкай, завязанай на галаве, старушку.

— Можа, вам чаю трэба, бабулька? — запытаў ён, яшчэ не адышоўшы ад парогу.

— Вады... дзеткі... падай, вунь... на стале.. — пачуў ён перабіваны кашлем адказ.

Пакуль старушка піла паданую ёй рассаладжаную воду, Грыневіч разглядаў яе высахшы ад старасці і нядугу зморшчаны твар. І дзіўная рэч, — у рысах ніколі не бачанага дагэтуль твару ён убачыў нешта знаёмае, даўно-даўно ўжо бачанае і мілае.

Прымаючы з сухой, пачарнеўшай ад веку і працы рукі недапіты кубак з салодкай вадой, Грыневіч раптам успомніў другое аблічча, так падобнае да гэтага і ў такіх самых варунках.

На старым, абітым пры пераездах з кватэры на кватэру, аблысеўшым ад доўгай службы ложку ляжыць, укрытая дзвюма саматканымі коўдрамі, старушка. Сударагі доўгага, цяжкага ўстрыманага кашлю варушаць рукамі, якія, выцягнуўшыся з-пад цяжкіх коўдраў, дарэмна стараюцца ўтрымаць каля засмажаных вуснаў кубак з салодкай гарбатай.

Каля ложка стаіць хлопчык гадоў дванаццаці і, бачачы бабуліну бяспомачнасць, бярэцца ёй памагаць. Адна рука асцярожна падтрымоўвае бабульчыну галаву, а другая бярэцца за кубак... «Дзякуй, дзетачкі!» — чуе хлопчык за сваю ўслугу...

— Дзякуй, дзеткі! — пачуў Грыневіч, ставячы недапіты кубак на стол. — Такі гэты кашаль неадступны, хадзіць не дае, ані ляжаць.

Цяпер Грыневіч ужо не баяўся патрывожыць старушку. Ён смела падышоў да ложка і запытаўся са спачуццём у голасе:

— А ці ж даўно нядужаеце, бабулька?

— Якая мая хвароба, дзеткі!.. Вось ужо веку дажыла, мусіць. Тады лягу, тады лягу... А ўсё толькі адзін кашаль і даймае, старасць, мусіць...

— Хіба ж вам так шмат гадоў, бабулька?

— Ой, шмат, шмат! Усіх і не ўпомню... Ну, вось сам палічы, калі радзілася я за два гады перад першым паўстаннем...

— Скуль жа, бабуля, ведаеце аб паўстанні? — ухапіўся Грыневіч за гэтыя словы, якія маглі быць ніццю, што прывяла б яго да выяснення цікавага пытання.

— Паўстанне... дык яно ж каля нас было... Яшчэ мой нябожчык бацька гэных паўстанцаў у лесе хаваў, — ляснікам служыў у князя...

— Якім жа спосабам вы, бабулька, сюды папалі — не з бацькам за паўстанне?

— Не, не, што ты, дзеткі! Якім там з бацькам за паўстанне, бацька ж мой у паўстанні саўсім не быў, — запярэчыла жыва старушка, як бы баялася, што яе нябожчыка бацьку і сапраўды могуць саслаць яшчэ раз у Сібір разам з ёю. — Гэта я з мужам сюды прыйшла, з мужам, з мужам, — тлумачыла яна Грыневічу, стараючыся адхіліць небяспечнасць, вісеўшую над дарагім, жывым у яе галаве ценем.

— А муж як сюды папаў? — запытаўся далей Грыневіч. — І ці даўно?

9 Зак. 1133

— Муж? — адазвалася адразу паспакайнеўшая і пасмутнеўшая старушка. — А муж таксама даўно... От Васіль, гэты сын, што тут жыве, яшчэ тагды не радзіўся, ён радзіўся, як мы тут восем гадоў пражылі, а яму ўжо, можа, пад сорак гадоў будзе... Мужа, дзеткі, заслалі сюды за мяне. Бачыш, я тагды хаця двох дзетак ужо мела, але маладая кабета была. А ў нашага пана-нябожчыка аканомам быў пан Ігнацы, зухаваты такі паніч, — Бог яго ведае, скуль родам. Дык вось гэты пан Ігнацы, дай Бог яго душачцы спакой, і прычапіўся да мяне са сваімі залётамі. Куды б я толькі ні паткнулася з хаты, ці ў царкву, ці ў поле, тут і ён са сваімі залётамі. А я свайго Васільку любіла і на ніякага паніча не прамяняла б. От і даў мне Бог дурасці: узяла ды паскардзілася адзін раз Васілю свайму на паніча. Ён і ўскіпеў і раз паніча пры людзях аблаяў, а потым узяў да ў карчме пахваліўся, што адвучыць гэтую панскую пугу на чужых жанок замахвацца... А потым знайшлі паніча каля лесу на дарозе... забітага... Як ехаў ноччу ў сваёй каламашачцы, так нехта стрэліў з лесу і забіў... Ну і прычапіліся да майго Васіля, — ён жа часам і са стрэльбай хадзіў... Так і засудзілі на пасяленне. От і я з ім пайшла, — скончыла старушка сваё апавяданне.

— Бабулька, а дзе вы тагды жылі, як гэта здарылася? — запытаўся з жывасцю Грыневіч.

— У Грыччыне, можа, чуў калі, дзеткі?

— А... — і Грыневіч запнуўся на паўслове. — Не, не чуў, бабулька, і не ведаю, — паправіўся ён праз момант, — не чуў, не чуў...

У гэты самы час першы гук царкоўнага «чырвонага» звону вылецеў з-пад нізкіх арак старой драўлянай званіцы і панёсся па свеце, абвяшчаючы вялікую радасць, перамогу праўды над крыўдай, дабра над злом, духа над целам.

— Вось ужо і ў званы б'юць, — пачуў праз звон у вушах Грыневіч слабы старушачы голас. — Хрыстос уваскрос, дзеткі!

Не ведаючы, што рабіць, стаўшы перад ложкам на калені, ён пачаў цалаваць гэтую маленькую, сухую, пачарнеўшую руку, якая ціханька дакранулася да яго пры словах велікоднага прывітання. Тутака, у страшнай сібірскай самоце, ён знайшоў родную душу. На гэтым ложку перад ім ляжала сястра яго роднай і так кахаўшай яго да самай смерці бабулькі, ад каторай ён не раз чуў апавяданне аб гэтай прапаўшай Бог ведае гдзе ў далёкім Сібіру «другой бабцы».

Слёзы, немаведама ад чаго выплыўшыя з вачэй і капнуўшыя на руку старушцы, выклікалі ў яе спачуццё да невядомага ёй

«пасяленца». Другая рука ласкава апусцілася на гэтую чужую галаву, гора каторай было блізкім і зразумелым для старушкі.

— Нічога, нічога, дзеткі, не плач! Яшчэ малады, яшчэ Бог пазволіць убачыць сваіх, — пацяшала яна Грыневіча, слухаўшага гэтыя словы ў нейкім паўзабыцці.

*1918*

## У ПАНАСАВЫМ СЯЛЕ

### Бывальшчына

Было так: пачуўшы раптоўны неспакой на ўсім целе, маўляў, ад электрызацыі, я адвярнуўся ў другі бок. Ён сядзеў на крайчыку ложка. Прымракаваты свет прыкручанай лямпы на стале дазволіў мне адразу разглядзець толькі цёмна-зялёны нямецкага крою сурдут, ёмка сядзеўшы на доўгім, жылястым тулаве, высунутыя з недазволена кароткіх рукавоў цёмныя калматыя рукі з чалавечымі пальцамі і цёмнымі кругла астрыжанымі пазногцямі на іх канцах і голыя, але аброслыя калматай шэрсцю, так што выглядалі, нібы ў футраных нагавіцах, ценкія, але, відаць, моцныя ногі з нейкімі петушынымі ці індычымі лапкамі замест ступняў нагі. Чорны фрыдрыхаўскі траярогі капялюш ляжаў на каленях, а на ім адпачываў, скруціўшыся, як вужака, канец голага, ледзь апушанага пільсцю хваста. Асвойчыўшыся са светам, я разглядзеў і твар. Цёмны, але не як мурымскі[1], даўгавіды, але не выцягнуты, пажылы і абвеяны, але не паношаны, з цвёрдасцю, але не жорсткасцю ў міне, ён, зліваючыся ў барве з гладкімі, коратка абстрыжанымі валасамі на галаве, выглядаў пекнай рамкай для пары цёмна-нябескіх з чарнаватымі зрэнкамі вачэй, з якіх свяціліся не то глыбокая думка, не то яшчэ глыбачэйшая журба і агромністы, шалёны, надлюдскі розум. Мой рух вывеў яго з задумлення.

— А, вы прачнуліся, — звярнуўся ён да мяне, — выбачайце! Я не хацеў вас абудзіць, хацеў дачакацца, пакуль не ўстанеце самі. Не ўставайце, калі ласка, я магу і тут пасядзець. Яшчэ лепей, бо да печы блізка, а я мушу пагрэцца. А-а? Вот сівер дык сівер, — сказаў ён, паціраючы рукі, — так, ведаеце, да самых вантробаў дастае, да маслакоў праядае, як сабака.

— Ці ж ваш сурдут кепска грэе?

— Э, ліхое ў ім спасенне. Стары ўжо, выбіўся, але вот прызвычаіўся да яго ўжо, дык шкода мяняць Ну, што тут у вас чаўпецца, якія навіны?

— Навіны кепскія: кажуць людзі, на носе канец свету.

— Глупства! Глупства! — запярэчыў ён двойчы, зрабіўшы строгую міну. — Проста, пане, некаторым амерыканам удалося на вайне добра зарабіць, дык на канцы свету хочуць яшчэ лепей паправіцца. От і ўсё!

— Як так?!

— Ды вельмі проста: паглядзеце, што цяпер на біржах робіцца. Паперы, пане мой, цяпер папраўдзе паперамі сталіся, бо ўсякую вартасць згубілі, а чаму? Таму, што тысячы легкаверных, пачуўшы аб канцы свету, кінуліся ліквідаваць сваё менне. Гэ-гэ! Ліквідацыя! Добрая выдумка. У Амерыцы гэтымі днямі ўжо трэцяя «Кампанія ліквідацыі» залажылася, і ўсе добра зарабляюць.

— А Порт, астраном?..

— А гэты Порт, ці Хорт, брэша, як наняты, бо такі і наняты, і нават добрыя грошы яму плочаны, — во хто Порт.

— Та-ак! — працягнуў я, проста прыгнечаны гэтай навінай.

— Так, так! Свет ашукаць — як хухнуць: раз, і скончана, і лаві рыбку. Пусціў качку ў газетную рэчку, і гатова, зроблен завод, пайшла машынэрыя! Ху-га-а, сколькі цяпер на вашым свеце качак гэтых на газетных хвалях пялёскаецца! Нашто далёка шукаць: вазьмеце «Беларусь»...[2]

— Што ў «Беларусі»? — перабіў я, напалохаўшыся, ці няма зноў якой плебісцытнай справы. — Шкода б было газеты...

— А вось што: чыталі хіба, як З. Бядуля панапісываў аб Панасавым жыцці на небе[3] — і зорачкі, і не зорачкі, — а яно саўсім не гэтак, і ўсё няпраўда. Не думайце толькі, што я хачу вас з панам З. Бядуляй пасварыць — вінаваты не ён, а спозненае радыё, — аднак я больш дзеля гэтага і прыляцеў, каб вас аб усім праўдзіва паведаміць. Усё, што напісаў пан З. Бядуля, — праўда, шчырая праўда, але цяпер гэта ўжо старая праўда. Усё змянілася...

— Якім спосабам?

— Простым, — праз бабу. Помніце, як Панас бабу сваю на небе прыняў? Уцёк ад яе, а замест яе з дзвюма другімі, маладзейшымі, пабраўся. Думаў, пэўне, за іх схавацца, — ого, ліха з два ты ад злоснай бабы схаваешся: з-пад каменя ў вадзе дастане і дапячэ. І гэта дапякла. Круціла-вярцела мазгамі і знайшлатакі спосаб.

— Што ж яна зрабіла?

— Пацярпеце — раскажу. Помніце, што ў канцы Бядулінага паведамлення сказана? Добра жывуць палешукі, толькі трывожацца тым, што да іх з зямлі ўсё болей ды болей людзей прыбывае, а палешукі ніяк гэтаму дарадзіць не могуць. Ну, дык вот і выкарыстала Панасіха гэты іхні клопат. Ды як спрытна! Ні адзін з маіхураднікаў[4] з ёй не зраўняўся б.

Гады са тры таму назад выпрасілася яна ў Петры жыць за райскую браму. «Я, ка, кабета простая, без работы ані дня не ўседжу, а тамака, ля дарогі, суніцы, бачыла, растуць пекныя. Во буду збіраць ды прадаваць, — тым і сыта буду. Усё ж роўна мяне тут мой гэты дранцвіцель хлебам не корміць». Угаварыла Петру, а ў самой «суніцы» саўсім другія на вуме. Прыладзілася жыць каля дарогі і як ні спаткае якога палешука, дык і пачне яму на Панаса кідкі кідаць, нагаварываць — «а ён такі, а ён гэтакі... А мяне, справядлівую жанчыну, пакінуў, а сам з бонкамі[5] жыве...» Спачатку гэта мала давала карысці, бо кожны паляшук, спаткаўшы яе, рад успомніць быў, што ад свае пілкі-шчэрбы адкараскаўся ўрэшце. Гэкне пару разоў, хмыкне сабе пад нос, паправіць піпку ў зубох і далей тралюе ў Панасава сяло.

Але вось ад двох ужо гадоў змяніўся народ. Ідуць ужо палешукі, але найчасцей не такія самыя, як раней ішлі. Здзівіла гэта спачатку Панасіху. Што за ліха? Даўней ідзе сабе паляшук па дарозе проста,валіць, як мядзведзь праз пушчу, не аглянецца, не прывітаецца; на прывітанне стрэліць маланняй з-пад апушчаных броў — і толькі таго так, што каб з імі разгаварыцца, дык трэ было дарогу заступіць ды канюкаць: «Дзядзюшко, родненькі, паслухай мае крыўды...» А тутака ляціць гэтакі лёганькі, шпаркаваты, ва ўсе бакі галавой, як цыган, аглядаецца, а абачыўшы Панасіху, яш чорт... (выбачайце, абмовіўся паляшуцкім словам) яшчо ліха ведае адкуль шапку скідае і кланяецца гжэчнінька, як пісар з воласці, і па-панску вітае «Здрасце, таварыш!» Прызнаёміўшыся крыху і з гэтым станам[6], убачыла Панасіха, што з гэтымі людзьмі можна бражку курыць яшчэ лепш, мажа, чымся з сапраўднымі палешукамі. Бо гэтыя ўжо не хмыкаюць у сваю піпку, быццам вол той у цэбар з пойлам, на яе скаргі, але, пачуўшы, што Панас на добрую гаспадарку ўзлез, самі пачынаюць яе ўгаварываць, што ён кепскі чалавек, дый з такім заўзяццем, якога і свой за свайго не заўсёды пакажа. За жонак яшчэ не так: «Ета, — кажуць, — таваріщ, новый порядок дажа одобряет», але за гаспадарку — дык глынуць,

здаецца, гатовы. Панасіха на ўсё згодна: «Хай сабе і гэ, дзядзюшкі, ка, знайду я сабе без яго добрага чалавека, — толькі вы яму маёй крыўды не даруйце».

Далей болей, так адукавалася кабеціна, што яе і сам Панас не пазнаў бы, — такая зрабілася асэсарка. Набрала сабе, пане, такіх звычаяў не паляшуцкіх, як у павятовай спраўнічыхі, — разважнела, распанела, а языком меле, як цэпам б'е. Лепей за ўсіх гэных каватараў. Нават самы закаранелы паляшук, адышоўшыся ад яе, пачынаў ужо, схаваўшы піпку і капшук, як папугай бэкаць. «Бур... жуй!.. Як... сплю... а... тага...»

І, як думаеце, свайго-ткі даканалася. Зрабіла так, што хаця яна й адна на дарозе свае «суніцы» збірае (а хто ведае — можа, у гэты час ужо і не збірае), але і Панасу ўжо жыцця няма. Выжывуць яго, мабыць, хутка з Панасавага сяла. Бо валасы ўжо страціў разам з галавой. Пачалося гэта ад таго, што як назбіралася тамака жменька гэтага вархольства, Панас свае жонкі страціў: адбілі і саўсім на свой капыл перарабілі. Потым, бачучы, што палешукі на іх касавурацца і волі не лішне даюць, знайшлі спосаб, як сваё таварыства пасяліць. Пасадзілі ў воласць сваіх людзей, балазе ўсё пісьменнікі — і ўстанавілі свае парадкі, для сябе зручнейшыя. Даўней, бывала, у воласці пыталіся ў таго, хто хацеў упісацца: «А ты, чоловіча, паляшук?» Калі той, не вымаючы люлькі з зубоў, акуратна адказваў: «Эге», — то, нічога не зробіш — свой — прымалі; калі ж не — дык выпраўлялі шукаць іншага свету. А за новымі парадкамі паляшуцтвам ужо мала цікавіліся: больш пыталіся, з якой партыі.

Палешукі толькі вочы таропілі на тое, што дзеецца, але покуль раскусілі гарэх, дык час прабавілі — спозніліся. Цяпер, папраўдзе, дык не яны ўжо гаспадары, але гэныя, новыя. Панаса з хаты яны выгналі, той сабе ў варэннай[7] ціханька сядзіць, як мыш у мяшку, ды толькі вохкае, каб чаго горшага не дачакацца. Рэшта палешукоў сядзяць і не рыпаюцца на што-небудзь. На млыне няма завозу, бо ніхто нічога не прывозіць, а што было, дык чысцюсенька вымелі. Борух ярмолку страціў і, бегаючы, барадой трасе; няма ўжо Борухавай карчмы — цяпер тамака клюб зрабілі. Гарэлку, аднак, п'юць яшчэ мацней, чым даўней у карчме, на што ў беднага Боруха сэрца кроўю абліваецца гледзячы — такі профіш страціць! Усё цяпер па-іншаму ў Панасавым сяле. Не тыя пайшлі парадкі, не даўнейшыя. Хто ў пашане быў, той цяпер тамака ў запечку сядзіць, а той, чыйго духу там даўней не было, — найбольшую пашану мае. Панасіху, хоць яе яшчэ там і няма, лепш ведаюць і болей шануюць, чым самога

Панаса, каторы сялу пачатак даў. Цяпер хочуць сяло на рэспубліку перайначыць, а Панасіха, кажуць, мае прэзідэнтам зрабіцца. І гэта не дурна кажуць: нейкія перамены там будуць незабавам, конча будуць...

— Шкода Панаса і наагул усяго сяла шкода, — сказаў я бачучы, што мой бяседнік перастаў гаварыць, мабыць, скончыў.

— Нічога не параіш! Час такі дый баба зух, хай яе не знаць. Дый сам Панас вінен, што так усё прамiргаў. Ну, але вы гэтага яшчэ ні ад каго не чулі? — перабіў ён сам сябе пытаннем да мяне.

— Не, ад вас першага...

— Вот бачыце! Што ж у вас тут, якія навіны?

— Ад ліха — ціха, дабра не чуваць...

— Ці, хутчэй: «Папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад»? А Рада што?

— Рада — як Рада...

— А!.. Ну, выбачайце — дзякую за тое, што паслухалі, і за цёплую печку: адагрэўся знамяніта. Бывайце здаровы!

Коратка сціснуўшы маю далонь у сваёй мяккай і цёплай ручцы, чорт адкінуў хвост набок, як шаблю, адзяваючы на галаву капялюш, на момант паказаўся ўвесь, як стаіць, і ў мгненню вока счэзнуў праз вакенны вушак.

Лямпа згасла... але, калі я прачнуўся, праз вакно заглядаў паранак. Я ўстаў з пасцелі і, насунуўшы на плечы кажух, сеў пры стале і пачаў запісываць гэтую цікавую версійку.

*1920*

## ДНІ

Жыву на чацвёртым паверсе ў гатэлі, саўсім не выходжу, бо чуюся хвора, праседжую дні прад вакном у фатэлі[1], — сягоння... учора... заўчора...

Ні дум, ні пачуццяў. Праз дым цыгарэткі за шыбамі вочы ўвесь дзень на папасе: у тумане там ловяць касцёлаў сыльвэткі, дым з комінаў, часам сход галак на дасе; драты тэлеграфу вісяць у паветры, між імі калмацяцца тучкі капрызна; запаў небасхіл ў алавяныя нетры, далёка, над грудай Панараў[2] вялізнай.

...Часцей за ўсё пападаецца воку насупраць вакно ад гары, стыль «бароку» крыху непакоіць... Наогул жа дніны праходзяць прыемна: някрыўдна, няўцешна. Сяджу ў фатэлі, занятак ядыны — шаптаць: «Усё добра, усё добра!..» Хоць... смешна!..

Так... Людзі ж... З'яўляецца зрана дзяўчынка:

— Прыбраць пан пазволіць?

— Так... Але, прыбраць!

— Гарбаты прынесці? З цытрынай?[3]

— З цытрынкай! І потым газеты...

— Газет жа шмат браць?

— Дзве возьмеш...

Праз хвілю гатова гарбата, праз пяць хвіль звычайна прыходзяць «кур'еры», праз квадранс[4] прыбрана. Ці ў будні, ці ў свята, — у дзесяць за ёй зачыняюцца дзверы, і больш не трывожаць да самай вячэры. Ніхто не трывожыць... Так добра... Без меры!..

*1920*



# ЖЫВЫЯ КАЗКІ

Аўтарская прадмова да зборніка
«Жывыя казкі»

«Жывымі» назваў я казкі, надрукаваныя ў гэтай кніжачцы, дзеля таго, што я не чуў іх ад каго-небудзь і потым запісаў, але ўласнымі вачыма бачыў і вушамі чуў усё тое, што ў іх дзеецца. Спадзяюся, што мае чытачы гэта і самі ўмеюць: бачыць тое, чаго для іншых саўсім няма.

«Жывымі» назваў я іх яшчэ і дзеля таго, што хацеў, каб з іх была для маіх чытачоў большая карысць, чым з тых апісанняў больш ці менш цікавых здарэнняў, каторыя звычайна называюцца таксама казкамі і па прачытанні найчасцей забываюцца. Я хацеў, каб кожная з маіх казак пасля яе прачытання выклікала ахвоту паказаць прачытанае ў асобах — «згуляць»; адным словам, мае дарагія прыяцелі, да вашых гульняў я хацеў дадаць вам яшчэ тры гульні: у «хлопчыка ў лесе», у «шчаслівага чырвонца» і ў «дзіўны лапаць».

Пры гэтым я саўсім не буду пакрыўджаны, калі, гуляючы — паказываючы гэтыя казкі, вы штось у іх зменіце подлуг свайго ўпадабання, што-нішто дадасцё, што-нішто ўйміцё. Наадварот, я буду вельмі рады гэткаму папраўлянню, а калі б, заахвочаныя сваёй працай над гэтым, выдумалі б нешта саўсім новае, то я віншаваў бы сябе з тым, што мае казкі добрыя ўдаліся.

*Аўтар*

*1920*

# ХЛОПЧЫК У ЛЕСЕ

Казка ў трох абразкох

## АБРАЗ І

На сцэне — падножжа лесу: камлі вялікіх дрэваў, высокія кусты, буйная трава, з якой дзе-нідзе выглядаюць кветкі званочкі.

### З'ЯВА І

Нейкі час ціха. Пасля чуваць, збліжаючыся паволі, дзяціны голас: «Мама, мама!» На сцэну выходзіць Х л о п ч ы к гадоў 8–9, адзеты ў зрэбніну, паверх якой — латаная світачка. Хлопчык у лапцёх, без шапкі. Валасы падстрыжаны роўненька і гладка ўчасаны. Усё на ім беднае, але чыстае.

Х л о п ч ы к

*(кліча)*

Мама!.. Мама!

*(Шукае між кустоў.)*

Мама!.. Мама!..

*(Падыходзячы на перад сцэны, як бы сам сабе.)*

Дзе ж мама?
Хаджу, хаджу, шукаю і...
нігдзе няма мамы...

*(Аглядаецца, не сходзячы з месца, кругом;*
*як бы да публікі.)*

Мама некуды пайшла...
Сам не ведаю, дзе я...
Страшна ў лесе: скрозь імгла...

*(У глыб лесу.)*

Мама!.. Мамачка мая!

*(Зноў абходзячы кусты.)*

Мама!.. Мама!.. Мама!..

*(Як раней.)*

Ну, куды цяпер ісці? —
Скрозь тут дрэвы, слізкі мох...
Ах, — мне сцежкі не знайсці
Ў гэтых нетрах, пустырох...

*(Зноў у глыб лесу.)*

Мама!.. Мама!..

*(Паўза.)*

Тут звяры...
Могуць ноччу разарваць...
Ой, так рана, без пары,
Не хачу я паміраць.

*(У глыб лесу, злажыўшы, як для малітвы, рукі.)*

Мама!.. Мама!..

*(Паўза.)*

*(Адступаючы ў глыб сцэны, з плачам.)*

Ой, згубіла,
Ой, наўмысля з воч спусціла,
Каб астаўся ў лесе я...

*(Падае ў траву, закрыўшы рукамі твар; з плачам.)*

Мама!.. Родная мая!..

*(Паўза. Хлопчык плача, паволі ўціхае,*
*нарэшце, відаць, заснуў.)*

## З'ЯВА II

Х л о п ч ы к спіць. З-за аднае К в е т к і З в а н о ч к а выглядае галоўка дзяўчынкі з блакітнымі вочкамі, у жоўта-чырвонай шапачцы на светлых ільняных валасох, — душа кветкі званочка. За ёй такім спосабам паказуецца другая, трэцяя, чацвёртая. З-за аднаго з кустоў выглядае Н е з а п а м і н а й к а ў блакітным вяночку і бела-зялёнай суконачцы.

П е р ш ы З в а н о ч а к

*(аддзяляючыся ад куста, падбягае да Хлопчыка, схіляецца над ім і цікава прыглядаецца, дакранаючыся нават да валасоў)*

Хлопчык... Людскае дзіця...

Д р у г і З в а н о ч а к

*(з'яўляецца, як і першы)*

Як ён папаў сюды ў лес?

Т р э ц і З в а н о ч а к

*(як першыя)*

Маленькі яшчэ ён саўсім...

Ч а ц в ё р т ы З в а н о ч а к

*(як першыя)*

Бедненькі! Дзе яго дом?

Н е з а п а м і н а й к а

Моцна змогся ён, спіць...

*(Паўза, у часе якой з лесу збіраецца ўсё болей кветак.)*

П е р ш ы З в а н о ч а к

Што ж, сястрычкі, з ім рабіць?

Д р у г і З в а н о ч а к

Мусіць, трэба разбудзіць,
Сцежку з лесу паказаць...

Незапамінайка

Не, не трэба абуджаць!
Хай паспіць ён, адпачне,
Страху збудзецца у сне...

Трэці Званочак

Хай паспіць, а тэй парой
Трэба збегаць за сястрой
Нашай старшай, хай яна
Ўзбудзіць хлопца ада сна.

Адна з кветак

Так найлепей нам зрабіць!

Першы Званочак

Хто ж пакліча з вас сястру?

Незапамінайка

Дзе яна?

Другі Званочак

А мусіць быць
У тым баку, ў старым бару.

Кветкі

*(адна да аднэй)*

Пойдзем! Пойдзем! Пабяжым!

Трэці Званочак

Я другіх пайду склікаць...

*(Разбягаюцца адна за аднэй.)*

Незапамінайка

Я пабуду тут пры ім.

Першы Званочак

Я таксама.

*(Схіляецца над Хлопчыкам )*

## З'ЯВА III

Некаторыя з кветак разбягаюцца па лесе, а некаторыя, між імі і Незапамінайка, Першы Званочак, застаюцца пры Хлопчыку. Паўза.

Першы Званочак

Гэтак спаць
Моцна можа толькі той,
Хто ад матачкі адбіўся
І сярод травы густой,
Як мурашачка, зблудзіўся.

*(Гладзіць яго па галаве, у часе гэтага іншыя кветкі абступаюць Хлопчыка і маўчліва глядзяць на яго.)*

Незапамінайка

Ведаеце, сястрыцы, што я надумала? —
Госць гэта рэдкі у нашым лесе,
Трэба яго і як след прывітаць:
Трэба казак яму і нашых песняў
Наказаць, наспяваць, нашаптаць.
Беднага роду, мусіць, гэта дзіцятачка,
Вырасце і не будзе знаць радасці, —
Хай жа яму тыя песні ўспамінаюцца,
Што пачуе тут у нашай зарaслі.

Усе кветкі

*(адна да аднэй)*

Праўда! Добра! Пaспяваем!
Трэба ў кола ўсім пастаць.

*(Становяцца ў кола.)*

### Першы Званочак

Ну, сястрычкі, пачынаем
Разам, разам запяваць.

*(Становяцца ўсе ў кола і рытмічнымі рухамі то ў адзін, то ў другі бок рыхтуюцца да спеву.)*

### Усе

*(спяваюць, ходзячы карагодам)*

ПАВОЛЬНА

Ле_ты дзі_ця_чы_я, ле_ты шчас_лі_вы_я,
поў_ны_я ра_дас_ці дзе_ці вяс_ ны,
ў но_чы а_ сен_ні_я, ў сцю_жы зі_ мо_вы_я
сняц_ца і ро_яц_ца ў дум_ках я_ ны!

Яснае сонейка, светлыя зорачкі,
Цёплыя дожджычкі, — ласкі зямлі, —
Ўсё для вас лецейкі — годы дзяцінныя,
Толькі б вы радасцю яснай цвілі.
Толькі малое, нявіннае, чыстае
Свету прыўкрасай праўдзіва слыве,
Толькі для дзетачак, пекненькіх кветачак,
Ўсё на зямельцы красуе-жыве.

ЖЫВЕЙ



Слон_ца пра_ мен_ні з ня_бёс па_сы_ ла_ е,
з мі_лай ус_ меш_кай ма_ лых за_баў_ ля_ е.



Ра_ніч_кай ці_ха ля вуш_ка ка_ зы_ча, –
бу_дзіць: ўста_вай, і на ву_лач_ку клі_ча.

Месячык, зоркі — пасцель пасцілаюць,
Срэбнай тканінай ад сцюжы ўтуляюць,
Ветрык цяплюсенькі ціханька дзьмець:
«Люлі, дзіцятачка, люлі», — пяець.

ЖЫВА



І мы ўлет_ку, квет_кі-дзет_кі, зас_пя_ва_ем, як і ён:



Спі наш гос_цік, я_га_мос_цік, спі, ла_ві спа_кой_ны сон!

Пройдуць годы — скараходы,
Дні дзяцінства праміnуць,
Сцюжы, буры і віхуры
Не дадуць тады заснуць.

*(З лесу чуюцца вясёлыя крыкі, кветкі перастаюць спяваць, слухаюць, паволі кола разнімаецца.)*

Н е з а п а м і н а й к а

Ідуць! Нашы йдуць.

Усе

*(адна за аднэй, спатыкаючы)*

Ідуць! Нашы! Йдуць!

## З'ЯВА IV

З лесу выходзіць Р у ж а, першая сярод кветак, вясёлая, рухавейшая і крышачку вышэйшая ад усіх.

Р у ж а

Кажуць мне, мае сястрыцы,
Быццам дзіва вы знайшлі.
Малы хлопчык?

*(Прыглядаецца да Хлопчыка.)*

А не самі
Яго ў лес вы завялі?

П е р ш ы   З в а н о ч а к

Не, сястрыца, ён быў з маткай,
Ды згубіўся неяк сам;
Матку ўсё шукаў, бядацтва...
І прыблукаўся аж к нам.

Р у ж а

Што ж вы тут без нас рабілі?
Чым прынялі вы гасця?

Н е з а п а м і н а й к а

Карагод яму вадзілі
І спявалі...

Р у ж а

А дзіця?

П е р ш ы   З в а н о ч а к

Спаў, нябога, час увесь.

Другі Званочак

Не хацелі мы будзіць.

Незапамінайка

Прыкажы ты нам сама,
Што з ім, бедненькім, рабіць.

Ружа

Што, па-вашаму?

Першы Званочак

Яго абдараваць мы мусім шчасцем.

Другі Званочак

І грошы даць яму, каб знаў
І помніў дзікі лес і кветкі.

Незапамінайка

І пекны сон, каб ўспамінаў яго
Усё жыццё ён —
І нават і тады, калі яму
Благія сны пачнуць збывацца
Ўсё часцей...

Ружа

Ну, значыць, вы сказалі ўсё, што думала і я;
Іначай я сама бы не зрабіла.
Дык слухайце: вось тут, на гэтым мейсцу,
Дзе мы стаім,
Вялікі скарб закопаны; яго
Дзіцяці аддамо, каб меў з чым жыць.
А каб умеў шчаслівым быць,
Дык сон яму пакажам, казку.
Няхай усё жыццё ён лес прыпамінае
І дзякуе за сон.
Дык зараз...

*(Глядзіць навокал: кветкі, зразумеўшы знак, разыходзяцца ў шырокае кола. Ружа нахіляе рукой галінку ад куста і ёй дакранаецца да Хлопчыка.)*

Няхай пачнецца казка!

*(Пры апошніх словах раптам яркае святло кладзецца шырокім праменем на Ружу і Хлопчыка. Хлопчык узварухнуўся, паднімае галаву і праціраае вочы.)*

*З а с л о н а.*

## АБРАЗ II

Сцэна — альтана з дрэваў, галіны каторых, пасплятаўшыся, твораць як бы цыркульны строп[1]. Пасярэдзіне — увойсце, завешанае павучыннем, на якім — залаты павук. Відаць, што альтана апіраецца на чосаных з жоўтага дрэва арках, каторых слупы і цыркулі амаль не саўсім хаваюцца ў галлі і лісцях. Дрэвы — дзіўныя, хваіны і лісцяныя, але з яскравымі кветкамі. У глыбі альтаны, у левым кутку на трох прыступачках — як бы трон, высокі ўслон. Каля тыльнай і правай сцен — услоны, каторыя, як і трон, — з нейкага бліскучага крышталю. Напярэдадзе, з правага боку — сярэбраныя кросны з залатою асновай. У адным месцы левай сцяны — заросшы ўючыміся ружамі (незвычайна вялікімі) чатырохкутнік — як бы запон над нейкімі дзвярыма. Праз увесь абраз шчабечуць-заліваюцца птушкі.

### З'ЯВА I

С я л я н а ч к а прылягла на троне. Ч а т ы р ы п а п р а д у х і — дзве ля тыльнай і дзве ля правай сцен — сядзяць на ўслонах і прадуць. Т к а ч ы х а сядзіць ля красён, аб нечым замысліўшыся.

С я л я н а ч к а

Што вы, дзевухны мае,
Прыуціхлі, прыунылі?
Ні адна не запяе —
Хоць бы гаварылі
Аб чым-небудзь... Ўсё маўчаць,
Як ім слоў не стала.

Ах, каб я магла спяваць —
Я б вам заспявала!

Адна з папрадух

Ой, паненачка, не грашыце людзям,
Гэта ж голас маеце чысты, салаўіны,
І як мы часамі промеж сябе судзім,
Дык спяваць вы голасна й хораша павінны.

Сяляначка

Ах, не тое, ах, не тое!
Хіба ж можна пець ў няволі,
Калі туга сэрца кроіць?..

Другая папрадуха

Эй, паненка, у гэткай холі
Грэх тужыць, ды сумаваці,
Ды красу сваю губіць...

Сяляначка

*(горача)*

Не хачу я гэтак жыць!
Я расла ў мужыцкай хаце...
Тата... Мілыя браточкі...

*(Плача.)*

Мама-любка... гадавала...

Ткачыха

*(падыходзячы, пацяшае)*

Пашкадуй, паненка, вочкі.

Сяляначка

*(з гневам)*

Нашто буду шкадаваці? —
Каб мне імі здрайцу бачыць,
Што забраў мяне праз сілу?

Т к а ч ы х а

*(ласкава)*

Дык не можна ж гэтак плакаць...

С я л я н а ч к а

*(устаючы, да Ткачыхі)*

Ах, мне гэты свет пастылы!

*(Абнімаючы Ткачыху.)*

Заспявай ты, любанька, заспявай ты, міла,
Тую песню сумную, што я навучыла! —
Можа, гора ўкоіцца[2], пераціхне, згіне.
Ты, як я, няшчасная, — паслужы дзяўчыне.

Т к а ч ы х а

Зараз, зараз, паннachка мая ты гаротная,
Абы б твае думкі мінулі маркотныя.

*(Паўза. Ткачыха спявае.)*




У роднага татачкі
Ў прыволлі жыла,
У роднай матуленькі
Пастушкай расла.
А браты, саколікі,
Мяне сцераглі,
Ласкавы, прыветлівы
Са мною былі.

Надумалась коршуну
Мяне пагубіць —
Надумаўся горлічку
Ў няволю ўсадзіць...

*(Ткачыха спявае адразу чатыры радкі, а потым усе паўтараюць за ёй апошнія два радкі.)*

## З'ЯВА II

Пад канец песні, каторая наводзіць на дзяўчат задуму, у дзвярах з'яўляецца Х л о п ч ы к. З вялікім зацікаўленнем глядзіць на дзяўчат і на ўсё. С я л я н а ч к а, убачыўшы раптам яго, ад здзіўлення не можа нічога выгаварыць, хаця як бы памыкаецца нешта сказаць Потым зрываецца з месца і радасна перабівае спявачак.

С я л я н а ч к а

Дзяўчаткі! Дзяўчаткі! Госць!

П а п р а д у х і  і  Т к а ч ы х а

*(убачыўшы Хлопчыка, здзівована, разам)*

А-а! Ай! Хлопчык!.. Просты... Хлопчык...

С я л я н а ч к а

*(падбягае да Хлопчыка і за руку ўводзіць яго ў альтану)*

Хадзі, хадзі, наш госцік любы!
Хадзі, не бойся нас, дзяўчат!

Х л о п ч ы к

А мама дзе?

Т к а ч ы х а

*(разам зразумеўшы пытанне)*

Шукае згубу...

С я л я н а ч к а

Чыя? Твая?

Хлопчык

Але!..

Сяляначка

Наўрад
Яна сюды зайсці б магла.
Не, не, дзіця, твая матуля
У нас ніколі не была! —
Але нічога! Лепш скажы нам,
Якім здарэннем ты забрыў,
Куды не ходзіць і звярына?

Хлопчык

Я ж хіба вам не гаварыў,
Як мы сягоння зрана, мамачка і я,
У лес пайшлі абое назбіраць лам'я,
Бо мы небагата, мы бедна жывём,
Хаця сваё жыцце нягоршым завём.
Сушняк зараз мама пачала збіраць,
А я схацеў кветак для мамы нарваць.
Рвучы тыя кветкі, ад мамы адбіўся,
Хадзіў, хадзіў лесам, пакуль заблудзіўся.

Ткачыха

Ай, вось няшчасце!

Адна з папрадух

Аяй, аяй, бедны!

Другая папрадуха

Якая ж то матка, што спусціла з вока
І дала дзіцяці зайсці так далёка!

Трэцяя папрадуха

Трэба ж гэтак: ў лесе дзіцятка пакінуць!
Маглі звяры з'есці, і так мог загінуць!

С я л я н а ч к а

Ціха, сястрыцы! У добры ён час
Трапіў здарэннем к нам ў госці:
Знойдзе дарогу ён, выведзе й нас,
Вызваліць бедных...

А д н а з п а п р а д у х

*(здзіўлена)*

А вохці!
Як ён зробіць гэты цуд?
Як жа станецца яно?

*(Хлопчык слухае здзівіўшыся.)*

С я л я н а ч к а

Той, хто нас сюды садзіў

*(паказвае рукамі навакол)*

Мне усё адкрыў даўно...

*(Да Хлопчыка.)*

Слухай, хлопча: нас адзін
Чараўнік дзяржыць ў няволі.
Ён заморскай ведзьмы сын,
Злы вядзьмар, і мы ніколі
З-пад яго замкоў ўцячы
Не здалелі б, каб не ты.
Але дзержыш ты ключы,
Ты, што любіш так цвяты.

*(Падводзіць Хлопчыка да ружанай заслоны, паказуючы рукой на заслону.)*

Бачыш: рожы! — Гэта дзверы —
Сам вядзьмар іх змайстраваў,
А за гэтымі дзвярыма
Ён жалейку захаваў.
Як зайграць на тэй жалейцы —
Уцячэць адсюль вядзьмар
За тры моры-акіяны,
І не стане болей чар.
Але мы зачараваны,

Нам дзвярэй не адчыніць,
Толькі ты, неспадзяваны,
Можаш гэта учыніць
І сябе і нас уволіць...

Х л о п ч ы к

*(жвава, з бляскам у вачох)*

Праўда? Як жа?

С я л я н а ч к а

Сашчыкні
Адну рожу ты рукой
І убачыш, як заслона
Распадзецца прад табой.

Т к а ч ы х а

*(сумняваючыся, махае рукой)*

Не адна з нас рожы рвала,
Дый нічога не відаць!

С я л я н а ч к а

Бо пад чары ты папала
*(паказваючы на Хлопчыка)*,
А ён здолее іх зняць!

Х л о п ч ы к

Я спрабую.

*(Падыходзіць да заслоны і мяркуецца сарваць ружу. Папрадухі, Ткачыха і Сялянчка глядзяць на яго са страхам і надзеяй. Хлопчык, адрываючы руку.)*

Ой, пячэцца,
Маўляў, жыжка-крапіва...

С я л я н а ч к а

Рві, нічога!

Хлопчык

Кепска рвецца...

Сялянaчка

Асмяляйся! Рві... Раз...

Хлопчык

Два!

*(Моцна, адразу тузае адну ружу і зрывае яе. Заслона падае, і ў глыбі тайніка відаць абітую зялёным саф'янам шкатулу. Хлопчык хапае ў рукі шкатулу і вымае з яе просценькую жалейку. З трыумфам.)*

Вось яна!

Ткачыха і Папрадуха

Дудка! Дудка!

Сялянaчка

Я казала!

*(Чуецца гук трубы. Усе, апрача Сялянaчкі, палохаюцца.)*

Папрадуха і Ткачыха

Ён! Ён! Пакарае ўсіх яшчэ!

Сялянaчка

Не, цяпер нам страху мала,
Сам ад нас ён уцячэ.

*(Раптам надумаўшыся.)*

Трэба ўдаць, як не бывала
Тут нічога і ні ў чым,
Каб яго душа не знала,
Што зрабіць мы хочам з ім.

*(Да Ткачыхі і Папрадухі.)*

Вы на мейсцы сядзьце чынам
І пачніце ўсе спяваць.

*(Да Хлопчыка.)*

А ты, хлопча, як я скіну[3]
Рукой — зараз пачні йграць...

*(Усе разыходзяцца і сядаюць, як спачатку. Сяляначка хавае Хлопчыка за сваім крэслам і сама сядае, як у пачатку сцэны.)*

Усе

*(спяваюць)*




## З'ЯВА III

На парозе з'яўляецца Гаспадар-чараўнік у высокай футранай шапцы, з доўгай да кален сівой барадой, у чырвоным кантушы і зялёных саф'янавых ботах. Насустрач яму кідаецца Сяляначка і за абедзве рукі вядзе яго на сваё месца. Абнімае і цалуе яго, саджае на ўслон, але ўсё робячы так, каб ён не відзеў змены, якая зрабілася з заслонай. Знімае з яго шапку, потым угаворвае зняць боты і раптам, адставіўшы іх далей, засмяяўшыся, адскакуе ўбок і дае рукой знак Хлопчыку. Увесь гэты час дзяўчаты пяюць, а як толькі пачынае граць дудачка — сціхаюць.



Птаха прыляцела
З мора-акіяна,
Села на вароцех:
— Прынімайце пана!
Прыехаў, прыехаў,
Прывёз нам гарэхаў,
Для яснай малжонкі
Прывёз два пярсцёнкі...

Пачынае іграць дудачка, песня перарываецца, птушкі перастаюць спяваць. Чараўніка як бы нешта падкідае з месца: ён дзіка азіраецца наўкол і, убачыўшы тайнік раскрытым, бяссільна падае на месца — ад страху, але зараз жа падскакуе зноў і, не могучы нічога сказаць, уецца на месцы, як уюн, і крывіць усялякія грымасы, — такім спосабам паволі спускаецца з прыступак на памост, хапаючыся то за бакі, то за галаву, то за грудзі, то за бараду. Хлопчык выходзіць пры гэтым наперад і грае, ідучы за Чараўнікам, каторы, як пабіты сабака, пасуваецца да дзвярэй. У вачах Чараўніка — часам страшны, бяссільны гнеў, часам шкода, часамі — страх. Падышоўшы да дзвярэй, ён, як маланка, кідаецца вон. За ім у лесе чуецца трэск ламаючыхся дрэваў, гром, моцны свіст.

## З'ЯВА IV

Тыя ж, без Чараўніка. У альтане робіцца шмат святлей, відаць, як сонечныя праменні, прабіваючыся праз лісце, іграюць светлымі плямкамі на сценах, тварах, падлозе: ружаная заслона сама паднімаецца і закрывае тайнік. На тварах усіх, апроч С я л я н а ч к і і Х л о п ч ы к а, відаць вялізную радасць, змяшаную з такім жа здзіўленнем. Толькі Хлопчык не страціўся[4]: ён з цікавасцю разглядае просценькую жалейку. Сялянaчка глядзіць угару, як бы дзякуючы некаму. Гэта сцэна як можна нядоўгая.

Т к а ч ы х а і п а п р а д у х і

*(падаючы на калені і, зламсыўшы, як бы молячыся, рукі, у адзін голас)*

Дзякуй табе, долечка, за гэтакі цуд,
Што мы не асталіся, не згінулі тут...

С я л я н а ч к а

*(з нецярплівасцю)*

Дурныя, вас не доля збавіла,
А хлопчык гэты. Гэта ён

Не шкадаваў сваіх маленькіх рук
Для нашага дабра — дык дзякуйце
Яму.

Т к а ч ы х а   і   п а п р а д у х і

*(саскочыўшы з каленяў, з крыкамі)*

А гэта праўда!
Праўда! Ён збавіў!

*(Кідаюцца на свае месцы і зараз жа варочаюцца бягом да Хлопчыка, несучы ў руках падарункі.)*

П е р ш а я   п а п р а д у х а

Вось клубок вазьмі ты ніцей залатых,
Я іх сама напрала. У якія б нетры ты
Ні трапіў — не бойся з ім. Кінь толькі —
Ён пакоціцца і выведзе дамоў.
Яго сама я прала, але ўцякаць баялася,
Бо Чараўнік усё роўна бы дагнаў.

*(Аддае залаты клубок Хлопчыку.)*

Д р у г а я   п а п р а д у х а

А гэта — пасак мой. Надзень яго,
І сілы у цябе аддасца утрая.

*(Аддае пасак.)*

Т р э ц я я   п а п р а д у х а

А ад мяне кудзельку вазьмі прадзіўную,
З якой яна расліны — я не ведаю,
Але як дзьмухнеш на яе, дык зараз самалёт
Перад табой рассцелецца, кілім.

Ч а ц в ё р т а я   п а п р а д у х а

Вазьмі зярняты гэтыя. Пасееш, і ўродзіцца
З іх залаты табе лянок.

Т к а ч ы х а

А я хачу табе аддзякаваць апраткай гэтаю —
Зімой у ёй не холадна, а ўлетку не пячэць.

С я л я н а ч к а

А я табе, збавіцель наш, вось што прыгатавала:
Не мела чым дарыць, дык ад яго забрала —
Вось гэта боты-скараходы і шапка-цемязень,
Яны хоць для якой прыгоды у жыцці
Не шкодзяць.

*(Падае.)*

На, надзень.

Х л о п ч ы к

Не-не, не буду, надзяваць я —
Бо ў іх ад вас я уцяку.
Але скажэце мне: багацця
Нашто мне столькі, мужыку?
Што з ім рабіціму?..

С я л я н а ч к а

Для братняй
Яго карысці ужывай
І, як сягоння нам, хлапчына,
Ўсім шчыра ў горы памагай.

*(Да ўсіх весела.)*

Ну, а цяпер ідзём адгэтуль! —
Хай будзе птушкам гэты дом,
Ў якім не бачылі мы свету.
Ідзём!

Х л о п ч ы к

*(радасна)*

Ідзём!

П а п р а д у х і

*(таксама)*

Ідзём!

Т к а ч ы х а

*(таксама)*

Ідзём!

Усе вырушаюць з альтаны.

*Заслона.*

## АБРАЗ III

На сцэне ўсё, як у канцы першага абраза. Тыя самыя асобы ў тых самых пастацях, тыя ж дрэвы, травы, кветкі — усё, як у канцы першага абраза.

### З'ЯВА І

Р у ж а

*(адпушчае галінку, каторая зноў выпростваецца)*

Скончылася казка... Час пачацца жыццю!

*(Пры гэтых словах прамень, асвятляўшы Ружу і Хлопчыка, знікае, кветкі збіраюцца зноў у кола каля іх.)*

Зараз ён устане і памкне дамоў.
Ды і вы, сястрычкі, зараз пабяжыце,
Бо і слонца хутка скоціцца далоў.
Ці вы ўсе у зборы?

П е р ш ы З в а н о ч а к

Не, аднэй нямаш.
Незапамінайка з вёскі не прыйшла.

10 Зак. 1133

Ружа

Куды ж яна збегла?

Трэці Званочак

А у вёску тую, адкуль хлопчык наш,
Мы яе прасілі, каб матку прывяла.

Ружа

А?.. Вось гэта добра. Так яно і трэба,
Незапамінайка пэўна справіцца з усім.
Ну, пачырванела на захадзе неба,
Досыць нам тут дляцца.

*(Пытаецца ў першага, другога, трэцяга і чацвёртага званочкаў.)*

А вы тут пры ім?

Чацвёрты і іншыя Званочкі

Мы адгэтуль самі...

Ружа

Ах, я прызабыла!
Трэба скарб адзначыць той, што тут ляжыць.
Чым яго адзначыць, каб прыметна была?
А!.. Знайшла, знайшла я! — Грыб тут пасадзіць!

*(Перасаджвае з другога месца на тое, каля якога спіць Хлопчык, вялікі грыб. Да тых, што застаюцца.)*

А вы заспявайце яму калыханку,
Хай, пакуль да маткі, саладзей паспіць!

*(Да ўсіх.)*

Ну, пара, сястрыцы!

*(Да тых, што астаюцца.)*

Да другога ранку.

*(Збіраецца ісці з іншымі кветкамі.)*

З в а н о ч к і

*(каторыя астаюцца)*

І табе, красуня, сон вясёлы сніць!

Р у ж а іншыя К в е т к і адыходзяць. П е р ш ы, д р у г і, т р э ц і і ч а ц в ё р т ы З в а н о ч к і становяцца на свае месцы за кустамі.

## З'ЯВА II

Х л о п ч ы к спіць, як раней. З в а н о ч к і толькі аднымі галоўкамі выглядаюць з-за кустоў. Ціхі-ціхі пачынаецца спеў калыханкі і паволі мацнее, але не да поўнага голасу. Падчас спеву змрок гусцее, і пад канец абраз асвячаецца месяцам.

Н е з а п а м і н а й к а

*(ціхенька, на пальчыках, выбягае на сцэну, на хвіліначку схіляецца над Хлопчыкам і таксама бяжыць на сваё месца. Спеў у часе гэтага не перарываецца.)*

Спеў

УМЕРКАВАНА, СПАКОЙНА







Бор заснуў і ціха спіць,
Месяц лісце серабрыць.
Ветрык-жэўжык шмыгануў,
Роску з лісцяў страсануў.
Трэба спаці, ветрык-свет,
Бор бурчыць яму услед.
Люлі, люлі — на палёх
Над ракой туман залёг...

Некалькі разоў у часе песні ў лесе чуецца далёкі кліч: «Сынку! Сынку!» Перад апошнімі словамі песні ён чуецца саўсім блізка — тут жа, у кустох. К в е т к і як бы ўздрыгваюць і перарываюць спеў. З-за кустоў выходзіць М а т к а.

## З'ЯВА III

М а т к а

*(шукаючы промеж кустоў, слабым голасам)*

Сынку! Сынку! Сынку!

*(Выходзячы наперад.)*

Мілае маё, каханае дзіцятка,
Дарагі ты мой званочак залаты,
Заблудзіўся, бедненькі, ў лесе, як ягнятка,
Адгукніся, маё роднае, дзе ты?..
Сыначку! Сыночак!

*(Заўважыўшы Хлопчыка.)*

А хто ж гэтта, скорчыўшыся,
пад кустамі спіць?

*(Прыглядаецца, а пасля, пазнаўшы, кажа.)*

Сыначку! Дзіцятка! Рыбка мой!
Каточак! Сыначку!

*(Будзіць. Хлопчык абуджаецца; соладка пацягуецца пасля сну і, увідзеўшы Матку, успамінае, дзе ён, і кідаецца ёй на шыю.)*

Х л о п ч ы к

Мамачка!

*(Цалуе Матку.)*

М а т к а

*(цалуючы Хлопчыка)*

Сыночак! Месячык!

Хлопчык

Як мяне знайшла ты?

Матка

А ты як тут спаў?

Хлопчык

Ох! Не мог я сцежкі адшукаць да хаты
І ужо не помню, як сюды папаў.

*(Раптам.)*

Ах, які я відзеў сон!
Каб ты, мама, знала!
Мне й цяпер здаецца ён...

Матка

А я? Як шукала
Цябе, сынку... Каб ты знаў,
Як душа балела...
Страх мяне такі абняў,
Што ледзьве не млела.
Голас твой ў маіх вушах
Ўсё звінеў, як струнка:
«Мама, мама, памажы!
Мама! Дай ратунку!»

Хлопчык

Мамачка бедная! Столькі трывогі
Ты праз дурнога мяне прыняла!

*(Пацяшае Матку.)*

Матка

Не, мае дзеткі, не будзь к сабе строгі:
Я наўмысля цябе завяла
Ў гэтыя нетры...

Х л о п ч ы к

*(не верачы, з абурэннем)*

Няпраўда?

М а т к а

*(прыцягуючы яго да сябе, з плачам)*

Ой, каб гэтак!
Каб няпраўдаю было! —
Мяне б скруха так не брала,
Так бы сэрца не пякло!
Але праўда!.. Мусіць, знаеш,
Як прыходзіцца нам жыць:
Ані хлеба, ні да хлеба
І няма дзе зарабіць!..

*(Плача.)*

Х л о п ч ы к

Не плач, мамачка-галубка,
Прамінецьусё, як цень.
Голад, холад нас з табою
Не разлучаць ні на дзень.

М а т к а

Веру, веру, маё шчасце,
Залаценькі хлопчык мой,
Што ні холад, ані голад
Не раздзеляць нас з табой!
А цяпер, маё каханне,
Час ужо ісці дамоў.
Ото ж радасці там будзе,
Што ты вернешся здароў!

Х л о п ч ы к

Пойдзем, пойдзем!

*(Убачыўшы грыб.)*

Ай, што гэта?
Грыб вялізны які ўрос!

Матка

Грыб?

*(Нахіляецца над грыбам.)*

Мусіць, усё лета
Быў тут.
Бачыш, мохам як зарос.

*(Да Хлопчыка.)*

І які з сябе вялізны!
Рві, дый пойдзем — пуць не бліжні,
А нам вёрст са тры адмерацъ!..

Хлопчык

*(радасна)*

Вось і будзе чым вячэраць!

*(Зрывае грыб, за якім паднімаецца дзёран, і з-пад яго аббітая срэбнай бляхай шкатула з медзянымі абручамі. Хлопчык у радасці цягне Матку за руку.)*

Мама, мама, падзівіся,
Тут куфэрак нейкі з бляхі,
Рэчы нейкія знайшліся!

*(Вынімае шкатулу і паказуе Матцы.)*

Матка

*(здзівована)*

Ах!
І напраўду нехта тут
Нешта нейкае схаваў!
Дай адчынім, ці не скарб
Пад табою тут ляжаў?

*(Абое нахіляюцца і, адчыніўшы шкатулу, вымаюць з яе рэчы.)*

Хлопчык

*(хапае з радасцю жалейку)*

Жалейка! Тая!

М а т к а

Боты...

*(Вымае і ставіць іх на зямлю.)*

Х л о п ч ы к

*(паднімае боты і, пазнаўшы, кажа)*

Скараходы!

М а т к а

*(вымае)*

Шапка...

*(Кладзе на зямлю.)*

Х л о п ч ы к

*(паднімае з радасным крыкам)*

Цемязень!

М а т к а

*(вымае)*

І вопратка багатая...

Х л о п ч ы к

*(не ўстрымлюючы радасці)*

Мама, любка, — гэта ж сон,
Сон мой дзіўны! Каб ты знала,
Што я тут надойчы сніў!
Тут навокал ўсё спявала,
Чараўнік тут страшны быў...
Яго я прагнаў ігрой
Вось на гэтай во жалейцы.

М а т к а

*(спыняючы)*

Перад ноччу, хлопчык мой,
Так не трэба гаварыць.

Яшчэ ў лесе, можа быць,
Праз такія словы зблудзім...

Х л о п ч ы к

Не, блудзіць ужо не будзем.

*(Паказуючы залаты клубок.)*

Во ў клубку у гэтым сіла:
Ён дарогу, дзе б ні была,
Сам пакажа, толькі кінуць...

*(Кідае клубок.)*

М а т к а

*(хапаючы яго за руку, каб стрымаць)*

Што ты робіш, ніці згінуць...

Х л о п ч ы к

*(паказуючы другой рукой)*

А глядзі, глядзі ж!

М а т к а

*(здзівована)*

І праўда!
Клубок коціцца прасцютка...
Ды не траиьма ж ні мінуткі,
Пойдзем зараз!..

*(Збіраючы рэчы, каб ісці.)*

Х л о п ч ы к

*(скідае лапці і адзяе боты)*

Вось я толькі скараходы
Замест лапцікаў адзену...

М а т к а

Што ты, дзетачкі, надумаў
Тут у лесе рабіць змену?

Х л о п ч ы к

Я хачу папрабаваць,
Як у іх хадзіці трэба
І як імі кіраваць...

*(Устаўшы да Маткі.)*

Ну, цяпер ідзём дамоўку!
Куфар, мамачка, бяры.

М а т к а

*(хоча надзець яму шапку)*

Надзень шапку на галоўку!

Х л о п ч ы к

*(рукой не дае адзець)*

Не, не трэба без пары!
Пойдзем!

*(Бярэць Матку за руку і хоча ісці разам,
але зараз жа апераджае яе і хаваецца ў лесе.)*

## З'ЯВА IV

М а т к а

*(крычыць Хлопчыку ўслед)*

Сынку!.. Сынку!..

*(Ламаючы рукі.)*

Божа мой! Зноў згубіла!..

*(Крычыць у лесе.)*

Сынку!.. Сынку!..

*(У роспачы ламае пальцы і аглядаецца навокал.
Чуецца голас Хлопчыка з лесу.)*

Хлопчык

Я тут, мама!

*(I зараз жа ён выбягае сам вялізнымі крокамі і, стаўшы з імпэту, аж сеў у траву.)*

## З'ЯВА V

Матка і Хлопчык

Матка

*(з дакорам да Хлопчыка)*

Ці ж так можна жартаваці?!
Гэтак матку абіжаці...
Ад каго ты навучыўся?

Хлопчык

*(жыва ўскочыўшы з травы і лашчачыся да Маткі)*

Не, матуля дарагая,
Гэта боты-скараходы
У гэтым разе вінаваты:
Як памчалі, як памчалі,
Не замчалі чуць да хаты.

Матка

Праўду кажаш?

Хлопчык

*(Не адказуючы, сядае скідаць боты. Гледзячы на яе ўгару.)*

Я іх скіну,
Панясу ўжо у руках...

*(Устаўшы, трымае ў адной руцэ боты, другой бярэ Матку за руку.)*

Пойдзем, мама!

Матка

Пойдзем, сыну!
Прамінуў ужо мой страх,
І трывога больш не мучыць:
Ўжо мы разам...

Хлопчык

*(жыва, у вялікай радасці)*

Разам, разам!
І ніхто нас не разлучыць!

*(Ідуць дамоў.)*

## З'ЯВА VI

Першы, другі, трэці і чацвёрты Званочкі і Незапамінайка паказуюць галоўкі з-за кустоў і, гледзячы на пайшоўшых Матку і Хлопчыка, ціха шэпчуць «Пайшлі з лесу, пайшлі з лесу» і з гэтым шэптам зноў хаваюцца. Услед за гэтым пачынаецца нямы спеў калыханкі. У лесе робіцца цямней. Перад канцом з нямога спеву калыханкі крышачку мацней выдзяляюцца словы:

Ходзіць месяц промеж зор,
Спіць, заснуў драмучы бор.
Тучкі мкнуцца у паўсне,
Часам ветрык шалясне...

У часе спеву паволі апушчаецца заслона.

*Канец.*

# ШЧАСЛІВЫ ЧЫРВОНЕЦ

Казка ў двох абразкох

Асобы:

Жабрачка — старэнькая, нізенькая, гадоў мае — Бог яе ведае колькі.

Рускі — у брылю, рускай паддзёўцы, ботах бутэлькамі, з скураной калiткаю праз плячо.

Гяндлярка ласоткамі
Гяндлярка вопраткамі
} Звычайныя местачковыя мяшчанкі-гандляркі. Разбітныя, беглавокія — з такімі ж калiткамі, як у Рускага.

Сляпы — такі, каторага ўсякі бачыў, з лерай і даўгім кіем.

Габрусь
Гальяш
Тарэска
Стэфка
Ганулька
Адна дзяўчынка
Мікалай
Іванька
Тодар
Міхась
Андрэй
Пятрук
} Усё вясковыя дзеці, шкаляры. Габрусю 12 гадоў, Гальяшу 10, каля 11 гадоў. Рэшта дзяцей у веку ад 9 да 12 гадоў. Адзеты звычайна, па-вясковаму, хто бядней, хто крыху багацей, хаця больш-менш усе роўна.

Павадыр — гадоў 7–8. З торбачкамі для хлеба.

Вясковыя хлопчыкі і дзяўчаткі школьных гадоў.

## АБРАЗ І

Дарога за сялом. Удалечыні, праміж лугоў, відаць рэчка. За імі няроўны відок. Невысокія непарыўныя горы, пакрытыя зараснікам, праміж якога там-сям — старэйшыя дрэвы. Справа пад вечар. Каля дарогі валяецца таўстая калода.

### З'ЯВА І

Ж а б р а ч к а выходзіць з правага боку, апіраючыся на даўгі кій, і ідзе па дарозе. Адзенне яе зборнае, з усякіх лахманоў. Абвешана торбачкамі і кайстрачкамі.

Ж а б р а ч к а *(убачыўшы калоду)*. А, адпачыць можна! *(Сядае на калодзе, палажыўшы кіёк каля сябе, і зверху ўніз гладзіць сабе ногі; прамаўчаўшы.)* Ходзіш, ходзіш, цягаешся, валочышся па свеце... Апрыкрала! Людзі мяняюцца, а я ўсё адна... Усякаму дагадзі, усякаму шчасця дай, а мала хто падзякуе, — усякі на долю наракае. «Доля такая, доля гэтакая», — а я ўсё адна — ні добрая, ні благая... Не ўсё ж роўна людзі, што ў гэтай вёсцы, што ў тэй? Мне ўсё роўна! Я іду, сваё раблю, а назад не аглядаюся. Бывае так, што часамі таго самага чалавека на дарозе спаткаю, — дык што ж? Мне ўсё роўна: той чалавек, гэты чалавек — адны людзі!.. Для ўсіх адным шчасцем сееш, а што яно няроўна абыходзіць, ды я ў гэтым нявінна... Я сабе іду, сваё раблю, а аглядацца некалі: людзей шмат, я адна — усім дагадзіць мушу... Вось так *(вымае з адной кайстры жменю чырвонцаў і кідае яе на дарогу, рассяваючы)* вымеш, пад ногі кінеш, а хто знойдзе і як спажыве, хто яго ведае — мне аглядацца няма калі! *(Зноў гладзіць ногі.)* Ох, ножкі мае... ножачкі, замучыце вы мяне, так балючы. *(Нахіляе галаву ніжэй і ніжэй, ціха мурмоча сабе пад нос, задрэмліваючы, і, заснуўшы, ссоўваецца з калоды на зямлю і кладзецца на бок. Мурмоча, як бы праз сон.)* Ды і я вас мучаю... Ножачкі... Людзі... Людзей шмат... Хадзі, хадзі... А я не аглядаюся...

### З'ЯВА ІІ

Ж а б р а ч к а і ш к а л я р ы.

Шкаляры выбягаюць гурмам, — відаць, варочаюцца са школы. Хлопцы, дзяўчаткі — вясковыя дзеці, па-ўсякаму адзеты. Наперадзе іх Г а б р у с ь. Крычыць, абярнуўшыся да другіх, махаючы кніжкамі.

Г а б р у с ь. Хлопцы! Дзяўчаты! Каму дамоў не пільна?

У с е *(пытаюцца разам, але кожны па-свойму)*. Чаму? Дык што? А што будзе? *(Чуецца некалькі галасоў.)* Мне, мне...

Г а б р у с ь. Бо каму не пільна, дык маглі б тутака астацца пагуляць.

Н е к а т о р ы я. Можна! Можна!

А д н а д з я ў ч ы н к а. А мне трэба ісці: мама казала не бавіцца. *(Ідзець.)*

Т о д а р. А мне есці хочацца: снедаць нічога з сабой не браў.

Ідзець ён, а за ім і першай дзяўчынкай дзеці часткаю расходзяцца. Некаторыя моўчкі, некаторыя з слоўмі: «І мне трэба ісці», «І ■ не магу астацца», «У хаце чакаюць» і інш. аддзяляюцца і ідуць. Ім услед з той часці, якая застаецца, крычаць: «Стэфка, пачакай! Пойдзем разам, толькі крышку пагуляем», «Яська, куды ты?» і г. д. Але да іх адказуюць тыя, каго клічуць, — «Не пайду», «Мама казала» і г. д.

## З'ЯВА III

Некаторыя астаюцца, усяго душ 10, з іх 3 дзяўчынкі...

С т э ф к а *(да Габруся)*. А ў што гуляць будзем?

Г а б р у с ь. Ды ў што хочаце. Ну, у гарэлыша давайце!

Т а р э с к а. Не, не, лепей у звон.

М і к а л а й. У жмуркі! У ката!..

Г а н у с ь к а. У сяло!

І в а н ь к а і і н ш ы я *(наперабой)*. У краскі! У Маскву! У караля! *(Потым крычаць.)* У соль, будзем у соль гуляць! У соль! У соль!

Г а б р у с ь. Ну, хто сядзе са мной? *(Сядае на зямлю.)*

М і к а л а й. Я! *(Падбягае і сядае, рэшта становіцца ў кучы і потым, расцягнуўшыся ў адзін рад, пераходзяць праз ногі сядзячым на зямлі, спяваючы хорам: «Ідзець байдак без солі, без солі! Ідзець байдак без солі, без солі». Перайшоўшы так, паварочуюцца назад і адзін па адным пераскакуюць праз ногі тых, што сядзяць, з крыкам: «Ідзець байдак з соллю!» Чацвёртага з чаргі, Іваньку, Габрусь ловіць.)*

У с е. Ай-яй, Іванька папаўся, не перайшоў з соллю!

Г а б р у с ь *(устаўшы, да Іванькі)*. Ну, цяпер ты сядай, а я соль пацягну. *(Усе пачынаюць гульню зноў, Мікалай злавіў Стэфку, каторая, як толькі Мікалай устаў, кажа.)*

С т э ф к а. Ай, я не хачу сядзець! Што гэта за гульня, каб сядзець? Лепей у што-небудзь другое будзем гуляць.

Г а б р у с ь. А ў што другое?

Г а н у с ь к а. У перасечкі, у перасечкі!

І н ш ы я *(падтрымваюць)*. У перасечкі, у перасечкі!

Г а б р у с ь. А хто першы пачне гарэць? Хочаце, я буду?

Н е к а л ь к і г а л а с о ў. Не-не, чатавацца[1], каму першаму!

Г а б р у с ь. Ну, добра, будзем чатавацца. Станоўцеся роўна. *(Усе становяцца каля яго паўколам, а ён пачынае лічыць напаўспяваючы.)*

I

Саломінка, яромінка
Прэла, гарэла,
На мора ляцела,
Выйдзі вон, Радзівон!

II

Цок — цылірок,
Пана Фіда футарок
Прэў, гарэў, пастарэў!
Апанас, выйдзь ад нас!

Калі скончылася чатаванне, М і к а л а й, катораму прыпала гарэць, кажа: «Ну, станоўцеся, будзем гуляць». Усе становяцца за яго плячыма пара за парай, а Т а р э с к а не мае сабе пары.

Т а р э с к а. А ў мяне пары няма.

М і к а л а й. Дык пастой так, пакуль мы не скончым.

Т а р э с к а. Ай, я не хачу, я бардзей дахаты пайду!

Н е к а т о р ы я *(абярнуўшыся)*. Чакай, Тарэска! Мы толькі раз абяжым без цябе, а потым усе будзем гуляць.

Т а р э с к а *(стаўшы збоку, нараўліва)*. Ай! Я не хачу.

Г а б р у с ь. Ай, слухайце, вунь Тарэсцы і пара ідзе!

У с е *(глядзяць на дарогу, адкуль прыйшлі; адзываюцца галасы)*. Гальяш! Гальяш!

М і к а л а й. Хадзі хутчэй, Гальяш, станавіся ў пару!

## З'ЯВА IV

Тыя ж і Гальяш, хлопчык гадоў 9–10, з кніжкамі, адзеты не горш за іншых шкаляроў.

Гальяш *(усім, каторыя яго абступаюць, некаторыя нават ухапіўшы за рукавы)*. Куды вы мяне клічаце?

Габрусь. У перасечкі гуляць з намі.

Гальяш. Ой не, я і без гульні дамоў забавіўся! Будзе мама сварыцца, што спазніўся. Яшчэ трэба па каня ў лог ісці.

Мікалай. Паспееш! Разам пойдзем у лог. А дзе ж ты быў?

Гальяш. У вучыцелькі. Дровы ёй заставаўся пілаваць.

Стэфка. Якія дровы?

Гальяш. Ды вучыцельчыны ж!

Габрусь. А хіба наша настаўніца сама свае дровы рэжа?

Гальяш. Як жа сама? Бачыш жа, я памагаць аставаўся.

Габрусь. Ну, то ты, ведама, любіш падласціцца...

Гальяш. Чаму так — люблю?

Габрусь. А што ж, астаецца памагаць вучыцельцы, маўляў, бы яна і наняць каго не магла?

Гальяш. А каго ж яна нойме? Ды і грошай у яе нямашака. Гэта ж яе мама хворая, дык усё сваё жалаванне аддае на яе лякобу[2]. Чаму ж не памагчы? І што тут кепскага?

Тарэска. Праўда, праўда! *(Да першага хлапца.)* Ты не добры, Габрусь, не шкадуеш нікога.

Габрусь. Эт, усіх шкадаваць... Давайце лепей гуляць. *(Да Гальяша.)* Ты ў нас гульню толькі перарваў!

Гальяш. Вы самі мяне, не ведаю чаго, клікалі.

Мікалай. Гуляць, гуляць! Нашай Тарэсцы пары няма ў перацінкі стаць.

Гальяш. Не, я не магу, трэба ісці...

Мікалай. Астанься, астанься! Толькі адзін раз згуляем, ды ўсе пойдзем разам.

Усе *(просяць)*. Астанься! Астанься!

Гальяш. Ну, добра, добра, абы хутчанька, не забавіцца.

Мікалай *(хлопнуўшы Гальяша па плячы і падскочыўшы ад радасці)*. Гэтак лепей адразу казаў бы! *(Да усіх.)* Ну, у пары, у пары! *(Становіцца сам, а за яго плячыма становяцца іншыя, кажа: «Гару!» і аглядаецца назад.)*

Усе *(крычаць)*. Не, не, цур, цур! Не глядзі назад! Не глядзі назад! Глядзі роўна!

М і к а л а й *(затыкаючы вушы)*. Ой, не верашчыце ж так! Буду роўна... Ну, гару!

У с е *(хорам)*. Гары, гары яс-на, кабы не пагас-ла. Пых!

Пасля «пых» апошняя пара, абягаючы ўсіх, а таксама і М і к а л а я, стараецца злучыцца наперадзе. Перасечнік Мікалай ловіць аднаго з пары з крыкам «Ага, братка, спаймаў! Ну, цяпер ты сячы!» — і, узяўшыся за рукі з другім з тэй пары, становіцца наперадзе ўсіх. Новы перасечнік, так, як і Мікалай, становіцца да ўсіх плячмі і крычыць «Гару!» Тады ўсе, як перад тым, спяваюць зноў «Гары ясна...» і пасля «пых» — апошняя пара таксама абягае з двух бакоў гуляючых, каб злучыцца, што ёй і ўдаецца. Яна становіцца ў першы рад. Той самы перасечнік, стаўшы наперадзе, крычыць зноў «гару», і гульня ідзець і далей аж да таго часу, пакуль абягаць усіх не прыходзіцца тэй пары, у якой стаяў Г а б р у с ь. Уцякаючы ў бок ад перасечніка, ён раптам становіцца і, жвава нахіліўшыся, паднімае нешта. Перасечнік яго ловіць у гэты час.

П е р а с е ч н і к. Ага!

Г а б р у с ь. Цур, цур, я не буду!

П е р а с е ч н і к. Чаму? Пакажы, што ты падняў!

У с е *(кідаюць рады і падбягаюць да іх)*. Што? Што?

Г а б р у с ь. Што! *(Паказуе ўсім.)* Вось што! Чырвонца знайшоў!

У с е *(здзівована)*. Ай-яй! Чырвонец!.. Чырвонец...

С т э ф к а. Трэба пашукаць, ці няма тут яшчэ чырвонцаў! *(Кідаецца шукаць, а за ёй усе. Чуюцца галасы: «Не, няма, нехта адзін толькі, мусіць, згубіў». «Не, тут знойдзем яшчэ аднаго».)*

Г а л ь я ш *(раптам ускаквае з зямлі і, высока падняўшы ў руцэ чырвонец)*. Ага, вось ён! І я знайшоў чырвонца. Залаты, залаты! *(Пакручвае чырвонец у пальцах на ўсе бакі.)*

У с е *(абступаючы яго)*. Аяй, і ён знайшоў! І ён знайшоў!

Г а б р у с ь *(працягуючы руку да Гальяша)*. Дай!..

Г а л ь я ш *(кладзе яму на далонь чырвонец)*. На...

Г а б р у с ь *(борздзенька хаваючы абодва чырвонцы ў кішэню)*. Дзякуй! Ха-ха-ха!..

Г а л ь я ш. Як «дзякуй»? За што ты дзякуеш?

Г а б р у с ь. Ды за таго ж чырвонца, каторы ты мне падараваў!

Г а л ь я ш. Я табе не дараваў чырвонца, я толькі даў табе паглядзець на яго.

Г а б р у с ь. Я ж у цябе не прасіў паглядзець. Я папрасіў «дай», а ты сказаў «на» і аддаў мне чырвонца; тагды я табе за яго падзякаваў...

Г а л ь я ш. Але я хацеў сказаць: «На, паглядзі», а ты мяне перабіў...

Г а б р у с ь. Ну, я гэтага не чуў. Ты сказаў мне — «на», я табе — «дзякуй», і на гэтым квіта. *(Частка дзяцей смяецца.)*

Г а л ь я ш *(з плачам у голасе)*. Нашто ты мяне ашукаў? Я табе не аддаваў саўсім, а ты...

Г а б р у с ь. Гэта ты мяне ашукаць хочаш: сам аддаў наперад, а цяпер зноў даходзіш. Ідзі на гэта такога дурня, як сам, пашукай... Хай табе вучыцелька дасць чырвонца за тое, што ты ёй дровы пілаваць астаешся. *(Частка дзяцей смяецца, другая трымаецца няпэўна.)*

Г а л ь я ш. Аддай!..

Г а б р у с ь. Ого! Наша каза за слёзы ўзялася: бэ-э... *(Да ўсіх.)* Ідзём, я вас цукеркамі пачастую. Хіба дурнявых слёз не бачылі, ідзём! *(Усе адварачуюцца за ім і ідуць па дарозе ў вёску. Габрусь яшчэ раз абарачуецца і дражніць Гальяша.)* Бэ-э... бара-ан...

Г а л ь я ш. Абакула! Ашуканец!

Г а б р у с ь *(выбягаючы)*. А, дык ты яшчэ і лаяцца?! Дык вось жа табе! *(Б'е Гальяша пад ножку, аж той падае, і ўцякае, а за ім усе дзеці, каторыя яшчэ заставаліся.)*

## З'ЯВА V

Г а л ь я ш і Ж а б р а ч к а.

Г а л ь я ш *(паднімаючыся з зямлі, з горкім плачам)*. Адабраў... Чырвонец адабраў ды пабіў яшчэ... Ашуканец... *(Плача, выціраючы рукавом слёзы.)*

Ж а б р а ч к а *(прачнуўшыся, паднімае галаву)*. Ох! *(Глядзіць на Гальяша.)* Хто гэта плача тут? *(Паднімаецца, бярэ ў рукі кій і, папраўляючы катомкі.)* Нейкае хлапчанё... Падысці запытацца?.. *(Па-старэчаму падыходзіць ззаду да Гальяша і кладзе яму сваю руку на плячо.)* Аб чым засмуціўся, дзіцятка, чаго плачаш? *(Гальяш аглядаецца на яе як бы са страхам, яна гладзіць яго па шапцы рукой.)* Не бойся, не бойся мяне, дзіцятка, скажы, чым цябе пакрыўдзілі?

Г а л ь я ш *(праз плач, пакрыўджаным голасам)*. Мы гэтта гулялі...

Ж а б р а ч к а *(ківаючы галавой)*. Гулялі, гулялі.. Што ж бы яшчэ рабілі, каб не гулялі!..

Г а л ь я ш. А ён знайшоў чырвонец...

Ж а б р а ч к а. Хто ж ён, дзетачкі?

Г а л ь я ш. Габрусь...

Ж а б р а ч к а. А-а... Бач, Габрусь знайшоў чырвонец, а... далей што?..

Г а л ь я ш. А потым я знайшоў чырвонец...

Ж а б р а ч к а *(як бы здзіваваўшыся)*. І ты знайшоў чырвонец?.. Дзе ж твой чырвонец?

Г а л ь я ш. Дык ён у мяне адабраў яго...

Ж а б р а ч к а. Хто?..

Г а л ь я ш. Габрусь. Ён кажа: «Дай». Я думаў, што ён хоча паглядзець толькі, дык кажу: «На», а ён узяў, палажыў у кішаню і гаворыць: «Дзякуй»! *(Усхліпае.)*

Ж а б р а ч к а. Яй, які нягодны! І не аддаў?

Г а л ь я ш. Не... А потым узяў мяне і штурхануў на зямлю...

Ж а б р а ч к а. Ах, нягодны які! Яшчэ пабіў. Вось круцель!.. Ну, нічога, дзеткі, ты не плач. Усё роўна яму тыя чырвонцы не паслужаць. Круцялём, кажуць, свет пройдзеш, а назад не вернешся. Не плач, дзеткі, што ж зрабіць. Забраў дык забраў, няхай гэта яго шчасце будзе. А я табе... *(вымаючы з кайстры чырвонец і кладучы яго ў руку Гальяшу)*, а я табе другі чырвонец дам, вось маеш! Гэты, можа, шчаслівейшы будзе... *(Гаворыць з затоенай думкай.)* Ніхто яго ад цябе не забярэ... не адбярэ... *(Гладзіць Гальяша па галаве, зняўшы з яе шапку.)*

Г а л ь я ш *(ловячы яе рукі, каб пацалаваць, жыва)*. Дзякуй, дзякуй, бабулечка!

Ж а б р а ч к а *(не даючы рукі)*. Не трэба, дзеткі, мяне ў руку цалаваць, хоць я і старая. Дай лепей я цябе ў твае гэтыя бедныя вочкі, што плакалі, пацалую. *(Адхіляе яго галаву і цалуе яго ў вочы.)* Ну, а цяпер ідзі дамоў, там на цябе, пэўне, чакаюць. Але толькі нікому пакуль што аб сваім чырвонцы не кажы. Рана людзі даведаюцца — пашкодзіць можа. А ў нядзелю, як будзе фэст, дык ты раней за другіх пастарайся на торг трапіць і там на ўсё, што ні ўпадабаецца, смела падыходзь і пытай цану — усё за свайго чырвонца купіш. *(Так гаворачы, падводзіць хлопчыка аж на край дарогі ў вёску і, запыніўшыся сама, яго лёгенька падштурхуе рукою.)* Ну, ідзі, мае дзеткі! Там цябе ў хаце чакаюць...

Г а л ь я ш *(з-за дрэваў ужо)*. Дзякуй, бабулечка!.. Дзякуй!
Ж а б р а ч к а. Няма за што, дзеткі, няма за што!..

## З'ЯВА VI

Ж а б р а ч к а адна.

Ж а б р а ч к а *(па-старэчаму)*. Ой, трэба ісці... Трэба сабе ісці... Што там шчасце?.. Адзін даў, другі ўзяў... Ой, ногі мае, ножачкі! Калі вы хварэць перастанеце?.. Ой, ой!.. *(Так паволі вохкаючы, ідзе сабе далей па дарозе ў бок ад вёскі.)*

# АБРАЗ II

Адзін з куткоў рынку. У глыбі сцэны, каля паркану, стаяць тры паходныя крамкі на ручных каламажках. У першай, з правага боку, — пернікі, цукеркі, ласоткі[3]... У другой — абразкі, малюнкі, стужкі, каралі, цацкі; у трэцяй — хусткі, сукенкі, боты — усялякія адзежы. За парканам — вуліца, абсаджаная дрэвамі, край нечыяй сялібы, поле; хаваецца ў лесе далёкая крывая дарога.

## З'ЯВА I

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і, Р у с к і,
Г а н д л я р к а в о п р а т к а м і.

Р у с к і *(тупае каля сваёй крамкі, развешваючы тавар; да Гандляркі ласоткамі)*. Што й, матушка, престол-то ў вас вялік?

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Яшчэ які вялікі, чалавеча. Народу таго звычайна, як мурашак, бывае — толькі спраўляйся...

Р у с к і. Ішь ты! А чаво ж не відаць — народу-то?

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Як не відаць, а што гэнам робіцца, паглядзі? *(Паказуе ў правы бок.)* Толькі яшчэ рана крыху; гэта — толькі тыя, што здалёк на наш фэст прыязджаюць.

Р у с к і. Вона!

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Але. Ты, мусіць, першы раз тут купцуеш, што не ведаеш?

Р у с к і. Впервой.

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Відаць — бо пытаешся. Тутака ў нас на ўсё свой парадак. Бачыш *(паказуе рукой)* вунь, аж там, за царквой, — там усё толькі коньмі гандлююць — бо ў гэты дзень у нас конскі кірмаш; той канец конскім дзеля таго завецца. Бліжэй ля царквы — там дзядоў, як мурашак, збіраецца — гэты канец дзядоўскім завецца. А гэтта, дзе мы стаімо, і бліжэй сюды да нас, тут, бачыш, усё моладзь, ды бабы, ды дзеці таўкуцца, дык наш канец называецца дзяцінцам...

Р у с к і. Эва!

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Але, дзяцінцам!

Як раней, усе прыбіраюць тавары на сваіх латкох.
Кароткая паўза.

## З'ЯВА II

Тыя ж і Ж а б р а ч к а.
Ідзець, вохкае, кіхкае. Першай на яе звяртае ўвагу Г а н д л я р к а л а с о т к а м і, кінуўшы прыбірацца, глядзіць на яе з здзіўленнем. Жабрачка паволі ступае-сунецца.

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Куды ідзіцё, бабуля? Мусіць, не туды трапілі, у нас жабракі ўсе тамака *(паказвае рукой)*, у старэцкім канцу.

Ж а б р а ч к а. Га? Кх-х-х-х... Што? У старэцкім канцу, кажаш, маладзіца?

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Ну, але!

Ж а б р а ч к а. Але паехаў на вале, кажуць, такам праўду араць.. Хэ-хэ-кх-кх-кх. Ой, старасць, дачушка!

Р у с к і. Ішь ты, бабушка! Старая, старая, — а, відаць, бывалая... Как урезала-то!

Ж а б р а ч к а. Як старая, то і бывалая — ведама. Мусіць, нікому з вас, як мне, не давялося столькі бываць на свеце ўсюды.

Р у с к і. Ой лі? І в Ярусаліме пабывала?

Ж а б р а ч к а. І ў Ярусаліме... Усюдых мяне было досыць...

Р у с к і. Ішь ты!

Ж а б р а ч к а. А ў вас гэта што сягоння за збор народу — фэст ці кірмаш?

Гандлярка ласоткамі. І фэст, і кірмаш на коні, бабка. А жабракі ў нас вунь там каля касцёла сядзяць. Пайшлі б і вы туды, усё ж бы нешта сягоння мелі.

Жабрачка. Не, маладзіца, дзякуй, я не жабрую. Часамі, бывае, папрашу хлеба кавалачак, а так у мяне дзяк-кх-х-х *(кашляе)*, у мяне і сваё ёсць. Нашто людзям у вочы лезці?..

Гандлярка ласоткамі. Ну, як хочаш сама. Я так сабе раю.

Жабрачка. А, ведама, так сабе, ведама. Якое ўбранне, так таму і прыманне, а які пачот, такая і падзяка А ў вас гандаль, ці што?

Гандлярка ласоткамі *(грубавата)*. Няўжо ж не бачыш: гандлюем!

Жабрачка. А-а, ну я крыху недабачу. Купец з мяне кепскі, мусіць, не куплю нічога. Во хіба сама што прадаць спрабую...

Рускі і Гандлярка ласоткамі *(у адзін голас)*. Ты?!.

Жабрачка. Ох, напужалі! Чаго вы гэтак здзівіліся? І я тавар сякі-такі маю...

Рускі. Што за тавар?

Гандлярка ласоткамі. Які тавар, бабулька? *(Гандлярка вопраткамі адыходзіцца ад свайго латка і цікава прыслухоўваецца і прыглядаецца.)*

Жабрачка. Як на каго, як для каго!.. Усяго патрошку... Вось тут, здаецца, яшчэ нікім не занята, я тут і прыспасоблюся...

Ідзе на левы бок, крыху наперад, і скінуўшы з плячэй торбы, ставіць іх на зямлю. Потым вымае з аднае торбы пасцілку і, паслаўшы яе на зямлі, раскладае на ёй, вымаючы з торбы, усялякае рухмоцце: пучкі засушаных кветак, шчарбатыя нейкія міску і кубак, маленькую барылачку ад гарэлкі, старую шапку-мяргелку і скрыпачку з адной толькі рымкай і як бы абгрызаным смыком і г. д. Вымаючы, старая прыгаварвае-мурмоча: «Тавар... У мяне ўсякага краму досыць, хай толькі бяруць, каму што трэба! Будзе з чаго і паесці, і папіці, і людзей смяшыці». Пакуль яна ўсё гэта робіць, усе прыглядаюцца на яе тавар, гандляркі ўсміхаюцца жаласліва, а Рускі, падступіўшы ўсіх бліжэй, глядзіць-глядзіць, нарэшце кажа, пакашліваючы: «Тоже сказала — тавар!» У часе гэтай сцэны чуецца гоман народу на рынку, а каля слоў Рускага гоман чуецца бліжэй. З яго выдзяляюцца галасы, смяшкі, крыкі. Гандлярка вопраткамі, падняўшы вочы ў той бок, адкуль ідзець гул.

Г а н д л я р к а в о п р а т к а м і. Ай, вохці мне, любенькія, ідуць ужо, ідуць!

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. Але, а мы тут саўсім аб торгу забыліся. *(Становіцца прытка за свой латок.)*

Р у с к і. І пра!.. *(Таксама ідзе да свайго латка і нешта яшчэ папраўляе.)*

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і *(запрашаючы на спеў).*

Пернічкі-цукерачкі,
Прысмачнікі-ласотачкі!
Не мінайце, цётачкі!
Пернічкі, цукерачкі,
Смачныя, салодкія!

## З'ЯВА III

На вуліцу адразу гурмамі выходзяць некалькі па-святочнаму прыбраных дзяцей; са смехам, з крыкам разбягаюцца яны купкамі каля крам, прыглядаюцца; некаторыя дзе-што купляюць. Першым чынам торг пачаўся ў Г а н д л я р к і л а с о т к а м і. Яе пытаюць: «Колькі каштуе», «Пачым», «Па сколькі», яна, завіхаючыся, адказуе: «Па грошыку», «На капейку дзве», «Шастак» і, беручы грошы, аддае то аднаму, то другому тавар. Некаторыя, купіўшы ў яе, ідуць далей пад Р у с к а г а, дзівяцца на абразкі, потым пераходзяць далей. Некалькі прайшло і міма Ж а б р а ч к і, жартам пытаюцца «Пачым», а пачуўшы ад яе адказ, кажуць: «Ого, шмат хочаш, бабулька!»

Р у с к і (у часе гэтага спявае).

Шпількі да іголачкі,
Сергі да прыколачкі,
Лентачкі, калечкі...
Бусы да каралікі,
Чыстыя хрусталікі,
Кніжачкі, картіначкі —
Падхадзі, дзявчіначкі.

Г а н д л я р к а в о п р а т к а м і *(абрывіста).* Боцікі... Шапачкі... Світачкі... Хустачкі... Пекныя... Боцікі...

З гурту выдзяляюцца С т э ф к а і Г а н у с ь к а, выходзяць наперад, як бы для перагавораў.

С т э ф к а. Ганунька, як ты скажаш, купіць мне гэтыя каралікі *(паказуе на кораб Рускага)* ці не купіць?

Г а н у с ь к а. А чаму ж не, калі грошы маеш — купі. Я б сабе дык купіла б.

С т э ф к а. Калі ж ён дорага хоча.

Г а н у с ь к а. Ну, дык не купляй, калі дорага.

С т э ф к а. Не-не, я куплю сабе, куплю! Хадзем!

Бярэ за рукаў Гануську, скоранька ідзе да латка. Ад латка з вопраткай адыходзіць І в а н ь к а, а з ім М і х а с ь і А н д р э й. Іванька трымае ў руках боты.

М і х а с ь. Але ж файныя ты боцікі ўзяў!

І в а н ь к а *(радасна, аж падняўшы боты прад вочы)*. Але!

А н д р э й. Толькі што ты не памераў, можа, яшчэ і не па тваёй назе?..

І в а н ь к а. Чаму не па маёй? А во ж я іх адзену. *(Сядае і накладае на босую нагу адзін бот.)*

А н д р э й. Палез?

І в а н ь к а. Ого! Яшчэ як... Зараз і другі надзену! *(Адзяе другі бот і, ускочыўшы на ногі.)* Ну? Дзівіцеся! *(Хлопае па халяве.)*

М і х а с ь. І нідзе не ціснуць?

І в а н ь к а. Нідзесенькі! Быц на маю нагу і шыты. Ну як, добра? *(Да Жабрачкі, жартам.)* Добра, бабулька, мне боты пасуюць?

Ж а б р а ч к а. Але, пасуюць... Усё тое добра, што пасуе, і ўсё пасуе, што добра! Можа, яшчэ і ў мяне купіш?

І в а н ь к а. Не, грошы не маю. Татка мне колькі даў, то я ўсе на гэтыя боты выдаў.

Ж а б р а ч к а. Шкода, шкода, усё ў мяне на аднаго купца болей было б! Насі здароў, дзеткі, насі здароў...

І в а н ь к а. Дзякуй, бабулька! *(Да хлапцоў.)* Ну, пойдзем: яшчэ ў мяне дзесятка засталася, купім цукеркаў — я вас пачастую. *(Зварачуецца да латка з ласоткамі.)*

## З'ЯВА IV

Выходзіць на вуліцу С л я п е ц з лераю. Х л о п ч ы к падводзіць яго пад бярозу з правага боку і саджае на зямлю. Сляпец скідае шапку, кладзе леру на калені і, рымнуўшы пару разоў на пробу, пачынае граць, потым спявае.

ПАВОЛЬНА







«Прашчай, брацітка мой родненькі!
Ці ж удасца нам спаткаціся,
Як тым птушачкам разлучаным —
Ці патрапіцца зляцеціся?
Ой, не людзі нам учыншчыкі —
З табой, брацітка, разлучнікі —
Разлучае нас нягоднае
Гора цяжкае, гаротнае.
Як памерлі тата з мамкаю,
Не к каму нам прыхіліціся».
А на тое брат адказаваў:
«Не маркоцься, мая кветачка!»
Ў адну брата ўзялі сторану,
У другую павязлі сястру.
Брата хочуць, каб узяць ваяваць,
А сястру за тры злоты прадаць.
Засмуцілася адна сястра,
Слязьмі шчырымі заліласся,
Пала вобземлю, заплакаўшы, —
Птахай шэраю зрабілася.
Прыляцела на сваю старану,
Апусцілася, пала на сасну.
А на сосну сокал прылятаў,
Ён зязюльку тую так пытаў:
«Ці не ты дачка Іванава?
Ці не ты дачка Таццяніна?»
«Гэта я дачка Іванава,
Гэта я дачка Таццяніна;
Ці ж не ты то родны брацейка,
Родны брацейка Іванавіч?»

«Гэта я, сястра каханая,
Твой брацітка я, Іванавіч;
Вось жа бачыш, мы й спаткаліся,
Як саўсім не разлучаліся!»

## З'ЯВА V

У часе сляпцовай песні часць дзяцей абступае яго і слухае. Некаторыя кідаюць яму ў шапку грошыкі, некаторыя цукеркі, абаранкі, кавалкі перніка. З двума другімі хлапцамі выходзіць сюды і Габрусь і становіцца таксама слухаць сляпцоўскай песні. Слепец, скончыўшы песню, як бы глядзіць на ўсіх, падняўшы твар угару. Дзеці адыходзяцца зноў ад яго, але двое застаюцца і просяць, прысеўшы на кортачкі, зайграць яшчэ што-небудзь. Сляпец ківае галавой і пачынае настройваць леру. А тыя так сядзяць, аж пакуль ён зноў нешта не зайграў, але што — за шумам не разбярэш. У часе гэтага, зараз жа, як толькі Сляпец перастаў іграць, дзея ідзе далей.

Габрусь *(да Міхася, каторы таксама слухаў)*. Здароў, Міхась!

Міхась. Здароў, альбо падужаемся!

Габрусь. Нашто дужацца — я і без таго ведаю, хто з нас дужэйшы.

Міхась. Хто ж?

Габрусь *(з смехам)*. Мусіць жа, не ты, ды я!

Міхась. Ого, які асілак, а давай папрабуем?

Габрусь. Не хочу і прабаваць, нашто мне пэцкацца!

Міхась. Ага! Бо баішся, што я цябе кіну...

Габрусь. Яшчэ як!

У часе гэтай гутаркі каля іх збіраюцца дзеці — большая часць з тых, што гулялі на лузе.

Андрэй *(з-за другіх)*. Габрусь, а куды ты свае чырвонцы падзеў, купіў што-небудзь за іх?

Габрусь. Не, не купіў, але прыйшоў вось, каб купіць нешта. Можа, што знайду падобнае...

Андрэй. Багаты ты... Пашанцавала табе!

Габрусь. Але, пашанцавала!

Тарэска. Добра пашанцавала: у Гальяша адабраў дый кажа: «Пашанцавала». Мала хто гэтак мог бы!..

Г а б р у с ь *(перадражнююючы)*. Мала хто... ды не ты толькі! Мала хто гэтак ілгаў бы, як ты: Гальяш мне сам аддаў. Я яму кажу: «Дай», а ён гаворыць: «На» дый дае...

Г а н у с ь к а *(збоку)*. Няпраўда, няпраўда!.. Адабраў!.. Ты!.. Ты яму не сказаў, нашто просіш... Бо ты хацеў скруціць.

Г а б р у с ь *(звысака на Гануську)*. Адкасніся! Я цябе не чапаю, дык адыдзіся, пакуль не зачапіў.

## З'ЯВА VI

Тыя ж і Г а л ь я ш.
Ён выходзіць, узіраючыся на ўсіх, і падыходзіць да С л я п ц а.

П я т р у к. Аво і сам Гальяш. Гальяш, хадзі сюды — тут аб табе гутарка!

Т а р э с к а. Ага, ага! Вось ён сам скажа... *(Да Гальяша, каторы падыходзіць.)* Ён кажа *(паказвае на Габруся)*, што ты яму чырвонца аддаў. Праўда гэта?

Г а л ь я ш. Я яму даў паглядзець, а не саўсім, а ён узяў ды не схацеў аддаць. Але няхай бярэ сабе, я нават татку не пажаліўся. Мне не шкода, бо мне другі далі.

Г а б р у с ь. Ага! Я гаварыў, што ён аддаў.

П я т р у к *(да Гальяша)*. Хто табе даў другога?

Г а л ь я ш. Бабка нейкая, быццам жабрачка, спаткала мяне тамака, як я заплакаў, калі вы разбегліся, пашкадавала, а потым выняла з торбачкі чырвонца і дала...

Г а б р у с ь. Ну, дык табе гэнага і знаходзіць не трэба было саўсім, бо меў бы ты два і быў бы ты за мяне багацейшы, а цяпер дык усё добра.

Г а л ь я ш. Няхай ужо ты будзеш багаты — я не злую.., але сябраваць з табой больш не буду.

Г а б р у с ь. І не трэба, як сабе хочаш. Я вось пайду за свае грошы пернікі купляць. Як куплю, то, мусіць, папросіш, але не дам. І табе *(да Тарэскі)* не дам — не будзь гэткай вострай.

Т а р э с к а. Я і за свае здолею купіць — мне мамка шастак на цукеркі дала, а ад цябе дык і сама не вазьму.

Г а б р у с ь. Накупляеш ты шмат на свой шастак! *(Да хлапцоў.)* Хадзем, хлопцы, сягоння я ўсіх пачастую!

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і *(акружаная дзецьмі, гандлюючы, праз увесь час паміж адказамі, што колькі каштуе, заклікае купцоў)*.

Пернічкі, ласотачкі,
Цукерачкі салодкія!..

Габрусь. Годзе, цётка, спяваць! Дай мне таго, што ў цябе ёсць.

Гандлярка ласоткамі. Чаго ж, ласкавенькі?

Габрусь. Ды ўсяго. Не па малу хачу браць. Дай мне на паўчырвонца.

Гандлярка ласоткамі *(круцячы галавой)*. Ой-ёй! А грошы ж у цябе ёсць?

Габрусь *(падкідаючы на руцэ чырвонцы)*. А гэта — не грошы?

Гандлярка ласоткамі *(укланяючыся)*. Яшчэ якія!. Зараз, зараз я табе ўсяго назбіраю — адважу. *(Бярэцца адважываць яму цукеркі, пернікі і інш. Вялікшая часць дзяцей, абступіўшы іх, дзівіцца на торг.)*

Гальяш (з *некалькімі іншымі дзяцьмі і Тарэскай, падышоўшы да Рускага перад гэтым, прыглядаўся да тавару)*. Дзядзька, колькі гэта люлька каштуе? *(Бярэ ў рукі пекную люльку з даўгім крывым цыбуком.)*

Рускі. Неужель куріш?!

Гальяш. Не, гэта я свайму татку купіць хочу — ён заўсёды курыць, а люлькі добрай не мае.

Рускі. А! Іш ты, і аб атцэ забота... Дорага, брат, пяць рублёв...

Гальяш. А колькі гэта будзе — больш ці менш за чырвонца?

Рускі. Ха-ха-ха! Вот так купец! Да в червонце, братец ты мой, тры пятёркі будет. Разі у тебя чірвонец есть?

Гальяш *(ківае галавой)*. Ёсць.

Рускі. Пакаж — настаяшнай лі? *(Гальяш дае яму чырвонец. Рускі, агледзеўшы чырвонец, прабуе яго на зуб. Да сябе.)* Іш ты, старінный дукатец, давнішняго золата! *(Да Гальяша.)* Настаяшнай! Я те, братец, за няво і трёх трубак не пажалею. *(Аддае чырвонец.)*

Гальяш. Не, я толькі гэту люльку вазьму. А гэты сцізорык дарагі?

Рускі. Да ентат худой, вазьмі вот палучша, двадцаць пять копеечек. Завяловскі, братец, как брітва!

Гальяш. Добра. А кніжкі гэтыя пачым?

Рускі. Енті? Па трі капеечкі. А вот — Францыль — Венціан антірэснай расказ. Вот ещо Ілья Муромец — чюдо богатырь, он всех на свете сільней богатырей был.

Гальяш. Як багатыр — за ўсіх багацейшы?

Рускі. Да нет жа, сільнеяя всех! Дюж больна был, как тут у вас говорят. А вот іщо — Персідскія сказкі, тысяча і одна ночь — развлікательная, брат ты мой, чтенія!

Гальяш. Дык я гэтыя кніжкі куплю: вось гэту, гэту, гэту, гэту і гэту. Пачым у вас гэтыя напарсткі, трэба маме адзін купіць?

Рускі. Пятнаццаць копеечек. А іщо чіво возьмёш?

Гальяш. Нічога болей.

Тарэска. Дзядзька, а колькі за гэтыя каралі?

Рускі. Рублішка, рублік, раскрасавіца! Возьмёшь?

Тарэска. Рубе-е-ль?.. Не, не вазьму...

Гальяш. Чаму, яны ж пекныя?..

Тарэска. У мяне столькі грошы няма — рубля... Мама толькі шастак дала...

Гальяш. Дык бяры, я за цябе заплачу, колькі не хваце.

Тарэска *(радасна)*. Можна?

Гальяш. Бяры, бяры. *(Да Рускага.)* Знімеце ёй, дзядзька, гэтыя каралі.

Рускі. Вот маладчына. На, насі, раскрасавіца! *(Адзяе каралі Тарэсцы на шыю.)*

Гальяш *(да Рускага)*. А цяпер злічэце, колькі за ўсё мушу плаціць?

Рускі бярэцца лічыць, усё складаючы разам. У той час, як ён гаварыў з Гальяшом, Гандлярка ласоткамі наважыла і аддала Габрусю некалькі пакункаў. Атрымаўшы ад яго грошы, пакруціла галавой і аддала іх Габрусю назад. Ён падаў другі чырвонец.

Гандлярка ласоткамі *(паглядзеўшы на чырвонец, са злосцю да Габруся)*. Што ты мяне ашукаць хочаш? Даець мне нейкія асьмакі мядзяныя. Давай чырвонца!

Габрусь. Дык я ж вам даю...

Гандлярка ласоткамі. Што ты мне даеш?! Паглядзі сам, што ты мне даеш! *(Тыкае яму пад нос чырвонцам.)* Гэта ж чыстая медзь, якое ж гэта золата? Аддавай, што набраў! Аддавай зараз жа ўсё!

Рускі *(абярнуўшыся ў іх бок)*. Ішь ты, крік какой, что-й то сделалось? *(Да Гандляркі ласоткамі.)* Ты чаво, суседка?

Гандлярка ласоткамі *(адабраўшы ўсё ад Габруся, паказвае чырвонец Рускаму)*. Як жа, дзівіцеся, людзі добрыя, які ашуканец: набраў, набраў усяго на чырвонца, а як плаціць прыйшлося — дык медзякамі хоча аддаць — паглядзі ты, якія ў яго чырвонцы.

Р у с к і *(узяўшы чырвонец у рукі).* Эва! *(Падміргіваючы.)* Ішь ты, абманшчік. Како ж это золата. Нясі дамой, пусть яво там тебе на золото обменяют! *(Аддае чырвонец Габрусю.)*

Г а б р у с ь *(паглядзеў на ляжачыя на яго далоні чырвонцы і, паказуючы іх Рускаму, крыху змяшаўшыся).* Чым жа гэта не золата, я ж у таты відзеў такія самыя грошы?!

Р у с к і *(глядзіць яму на руку).* І пра[во] золотые, по всей форме! Покаж, покаж-ка... *(Бярэць абодва чырвонцы ў сваю руку, здзівована глядзіць на іх.)* Вот так штука! Навожденіе... Настоящчыя медзякі... Ну-ка, возьмі.

Габрусь прымае ад яго чырвонцы і трымае на руцэ.

Р у с к і *(глядзіць на руку Габрусю. Хлопае сябе па падзеўцы).* Упять жа золата! Дай-кось. *(Бярэ чырвонцы ў сваю руку.)* Упять вот медзякі! *(Аддае Габрусю чырвонцы.)* На-кось тебе твоё золата назад, пусть оно с тобой будет, а нам такова не надобе, мілай! *(Да Гальяша.)* Покаж свой, может, і твой золотой с евоным — одной фабрікі. *(Бярэ ад Гальяша чырвонец.)* Не-е! Вот энтот как раз золото. *(Прабуе чырвонца на зуб.)* Вот где правда-то! Золотой без всякой хітрості. *(Да Габруся).* Іді, іді отцэдава з своім золатам: неправільное оно... *(Да Гальяша.)* А твой возьму. Сколько тебе сдачі-то? *(Лічыць, потым аддае Гальяшу тавар і рэшту і пры гэтым надта ласкава гаворыць і смяецца.)*

Г а б р у с ь *(расчараваны, адышоў, яго абступіла гурба дзяцей).* Якіх ім яшчэ іншых грошы трэба. Праўдзівыя чырвонцы, а яны не бяруць...

Т о д а р. Калі ж бачыш, твае чырвонцы якіясь дзіўныя: як іх хто другі ў рукі возьме, дык зараз медзякамі робяцца.

Г а б р у с ь. Ну, глядзі ж — золата?

Н е к а л ь к і г а л а с о ў. Золата, золата!

М і к а л а й. А цяпер дай мне патрымаць.

Г а б р у с ь. На, патрымай.

М і к а л а й. А цяпер медзякі!

Г а б р у с ь. Няпраўда! Гэта ты падмяніў — аддай мае чырвонцы!

М і к а л а й. Калі я іх падмяніў, што ты? На, вазьмі іх назад сабе.

Г а б р у с ь. Не вазьму, не вазьму — аддай мае чырвонцы!

М і к а л а й *(схапіўшы Габруся за руку і ўлажыўшы ў яе чырвонцы).* На, вазьмі! Ну што, ізноў чырвонцы?

Г а б р у с ь *(амаль што не плачучы)*. Не хачу, не хачу я такіх грошай, калі яны хвальшывыя! *(Хоча кінуць іх, але, убачыўшы Жабрачку, спыняецца і, нешта падумаўшы, падыходзіць да яе і пытаецца.)* Прадаеш, бабка?

Ж а б р а ч к а. Прадаю, дзеткі, усё прадаю, што каму знадобіцца.

Г а б р у с ь. Ну, дык маеш табе два чырвонцы, а я ў цябе на іх тавару набяру. *(Да сябе.)* Старая, сляпая, дык, можа, ёй і ўдасца ўсунуць.

Ж а б р а ч к а *(бярэ ад Габруся грошы)*. Можна, можна і такі гандаль зрабіць. *(Разглядаючы чырвонцы.)* Хаця я і не дабачу трошкі!.. Але ж ты мяне не ашукаеш? Гэта і праўда золата?

Г а б р у с ь *(глядзіць ёй на руку. Да сябе)*. Ізноў медзякамі парабіліся! *(Да яе.)* Золата, бабулька, золата!

Ж а б р а ч к а *(апускаючы чырвонцы ў капшук)*. Ну, дык выбірай, што спадабаеш.

Г а б р у с ь *(да сябе)*. Гм, што ж тут выбраць — усё старызна нейкая... *(Паднімае з зямлі філіжанку.)* Колькі гэта філіжанка... *(Выпушчае філіжанку з рук, яна падае і разбіваецца на чарапкі і таксама разбівае некалькі шкляных рэчаў.)* Ах!

Ж а б р а ч к а *(адначасна)*. Ах, што ты нарабіў! Хай цябе з тваімі чырвонцамі — ты ж мне болей, як на два чырвонцы, патраціў, мае дзеткі!

Г а б р у с ь. Нічога, я заплачу...

Ж а б р а ч к а *(раззлавана)*. Заплачу, заплачу!.. Ты, думаеш, мала мне шкоды нарабіў? На табе, лічы сам!.. *(Збірае чарапкі і, паказуючы іх Габрусю, вылічае, колькі каштуюць пабітыя ім рэчы.)*

Г а л ь я ш *(каторы перад гэтым перайшоў да латка Гандляркі ласоткамі і, накупляўшы ў яе ўсяго, палез у кішэнь па грошы, выняў руку з кішэні і, убачыўшы зноў свой чырвонец замест дробных, атрыманых ім рэштай, кідаецца ад Гандляркі ласоткамі да Рускага)*. Дзядзька, ці я вам грошы аддаў?!

Р у с к і. Ты-та? Атдал, атдал, малой. Во он, твой золотой. *(Адкрывае сваю каліту і глядзіць туды, вытарашчыўшы вочы, да сябе.)* Фью!.. Вот так іголачка... А відь золотой-то был всяво одін, явонай... *(Працершы вочы, заглядае зноў у каліту, да сябе.)* Іш ты, все деньгі золотымі сделаліcь! *(Выняўшы з каліты адзін залаты, да сябе.)* Золотой і с шчербінкай! *(Вымае другі, трэці, яшчэ некалькі, і паглядзеўшы, кладзе іх назад.)* І всё со шчербінкамі, как я на зуб пробовал! *(Да Гальяша.)* А... ты чаво?

Г а л ь я ш. Бо... бо вы ж мне давалі рэшты сярэбранымі рублямі, пяць, здаецца, далі, а ў мяне зноў адзін чырвонец у кішэні...

Р у с к і *(не верачы)*. Врё?.. Покаж-ка! *(Паглядзеўшы на Гальяшоў чырвонец, вымае з каліты адзін з сваіх і, палажыўшы іх адзін ля аднаго на далоні, кажа да сябе, здзівіўшыся.)* Іш ты, как родныя братцы! *(Кладзе яшчэ адзін чырвонец на далонь.)* І ёнтат такой жа. *(Аддае Гальяшу чырвонец.)* Заплатіл, заплатіл, мілай, всё сполна. Можаш ідті! *(Да сябе.)* Вот дзіво-то. Нікогда такова со мной ешчо не бывала. Эх, уходіть надо! Довольно заработал, будет с меня. *(Жвава збірае ўсё сваё, звязывае і, моўчкі міргаючы Гандлярцы ласоткамі, ідзе з торгу.)*

Г а л ь я ш *(паціскаючы плячыма)*. Як яго так? *(Ідзе да Гандляркі ласоткамі.)* Колькі вам трэба, цётачка?

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. За пернікі рубель, за цукеркі гэтыя паўрубля, за гэтыя... *(Далей гаворыць і лічыць нешта, але што — не чуваць.)*

Ж а б р а ч к а *(да Габруся)*. Ну, ты ж тут шкоды нарабіў на ўсе твае грошы. Што цяпер будзе?

Г а б р у с ь. Я не ведаю што. Як жа так: я два чырвонцы аддаў і нічога не куплю... *(Жабрачка далей нешта гаворыць: не то што шкадуе Габруся, не то яму выгаваруе.)*

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і *(да Гальяша, узяўшы ад яго чырвонец)*. Табе шэсць рублёў трэба рэшты. Толькі — ці не кепскі твой чырвонец, як у таго хлапца?

Г а л ь я ш. Не ведаю, глядзіце самі...

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і *(кінуўшы чырвонец аб дошку)*. Добры, звініць. Знача, табе шэсць рублёў з палавінай. *(Вымае з кішані на фартух грошы і дае Гальяшу.)* На табе: рубель, два, тры, чатыры, пяць, шэсць... На табе паўрубля... Ой, не, гэта твой чырвонец! *(Вымае другія грошы.)* На табе... Што гэта — зноў твой чырвонец, чаго ён у рукі лезе? На табе... *(Глядзіць у кішэню і рукой шукае тамака паўрубля; раптам кажа да сябе.)* Братухны, тут жа адны чырвонцы! Самае золата! Вось дык дзіва! *(Да Гальяша, жвава.)* Я табе лепей гэты вялікі пернік за паўрубля дам! Возьмеш?

Г а л ь я ш *(радасна)*. Вазьму, вазьму. Дзякуй, вазьму, цётачка.

Г а н д л я р к а л а с о т к а м і. І табе дзякуй за добры гандаль. *(Гальяш, абдзяляючы дзяцей пернікам і цукеркамі, ідзець з імі да Гандляркі вопраткамі. Гандлярка ласоткамі жвава збіраецца і вывозіць свой тавар; заглядаючы па дарозе*

*ў кішэню, сціскае плячыма і гаворыць нямоцна.)* Адзін чырвонец быў, а тут... Як яно зрабілася? Во дзіва!

## З'ЯВА VII

Тыя ж без Гандляркі ласоткамі, Рускага і Сляпога, каторы выйшаў яшчэ раней, апіраючыся на хлопчыка.

Г а б р у с ь *(да Жабрачкі).* Дык што ж, бабулька, вы нічога і не дасцё за мае грошы?

Ж а б р а ч к а. Шкода цябе, дзеткі, што з табой зрабіць, і ты не саўсім вінаваты, што твае чырвонцы шчарбаты... Трэба табе цацку якую даць... На! *(Дае Габрусю цацку.)*

Г а б р у с ь. Што гэта за цацка? Нейкая кішка...

Ж а б р а ч к а. А ты спрабуй надзьмі яе, дык і ўбачыш, якая гэта цацка.

Г а б р у с ь *(дзьме ў кішку і выдзьмувае пузыр, на якім нарысована нейкая морда; як толькі скончыў дзьмуць, пузыр моршчыцца і з піскам робіцца зноў падобным да кішкі. Усе дзеці кругом смяюцца, смяецца і Габрусь).* Ого, які чорт, з піскам! *(Зноў надзьмувае цацку, каторая потым таксама з піскам змяншаецца. Да Жабрачкі.)* Бабка, пазволь мне яшчэ на гэтай скрыпцы пайграць!

Ж а б р а ч к а. Пайграць можна, толькі струны не парві.

Г а б р у с ь (з *пэўнасцю).* Ну, я не парву!

Бярэ скрыпку і пачынае іграць. Надзіў пальцы яго працуюць як след, смык ходзіць, як трэба, чуецца музыка, нотай падобная да «Лявоніхі». Усе кругом слухаюць. Да музыкі падыходзяць дзеці і ад Гальяша, каторы купіў сабе ў Гандляркі вопраткамі шапку белую, белую світку з сінімі аблямоўкамі, боты з падкоўкамі і ўсё гэта панадзяваў, завязаўшы старую вопратку і ўсё, што накупляў у Рускага і ў Гандляркі ласоткамі, у хустачку. Гальяш аддае свой чырвонец гандлярцы; тая дае рэшты, а потым, паглядзеўшы ў кісу, раптам дае Гальяшу дарагі пояс і, кіўнуўшы галавою, што плаціць больш не трэба, штомомант зазіраючы ў кісу і часам вымаючы з яе чырвонцы, паспешна збірае, складае ўсю сваю краму і мяркуецца ісці. У гэты момант моцны гук, як бы ад вялікага барабана альбо ад ружжа, пужае ўсіх. Г а б р у с ь, спалохаўшыся, кідае іграць і апушчае рукі са скрыпкай і смыком.

Ж а б р а ч к а. Ой, што гэта?

Г а б р у с ь *(глядзіць на скрыпку).* Струна парвалася... апошняя...

Ж а б р а ч к а *(злосна).* Давай сюды скрыпку! Казала табе — струны не парві, а ты такі парваў, давай скрыпку! *(Забірае ў яго з рук скрыпку.)* Ідзі сабе, досыць ты мне шкоды нарабіў!

Г а б р у с ь *(таксама злуючы).* Бяры сваю скрыпку! Я яе не з'еў, а што струна парвалася, дык я хіба вінен... *(Убачыўшы Гальяша.)* Ого, як выстраіўся, як павук перад калодай, бачыш, які пышны! *(Праходзіць міма Гальяша, каторы, нічога яму не адказуючы, падыходзіць да Жабрачкі.)*

Г а л ь я ш *(падыходзячы да Жабрачкі і не пазнаўшы яе).* Дзень добры, бабулька, ці не прадаеце скрыпку?

Ж а б р а ч к а. Прадаю, усё прадаю. Ты хіба іграць умееш?

Г а л ь я ш. Не, навучыўся б, можа.

Ж а б р а ч к а. А-а! Добра, добра, можаш купіць.

Г а л ь я ш. А што вам за яе даць?

Ж а б р а ч к а. Чырвонца, дзеткі, аднаго чырвонца! Хаця яна больш варта, але тут адзін бусайла на ёй струну парваў. Але струну я табе дам і сама нават начаплю. *(Бярэцца начапляць струну.)*

У часе гэтай Гальяшовай гутаркі з Жабрачкаю Габрусь, перайшоўшы на правы бок сцэны, астанаўляецца і надзьмувае свой пузыр, але той неспадзявана лопаецца, што выклікае дружны смех акаляючых Габруся дзяцей. Габрусь са злосцю кідае пузыр аб зямлю і ідзе саўсім з рынку, а дзеці абступаюць Жабрачку і Гальяша.

## З'ЯВА VIII

Тыя ж, без Габруся.

Т о д а р. Колькі ты заплаціў за боты?

Г а л ь я ш. За ўсё аддаў 12 рублёў, а пасак мне крамніца за пяць злоты аддала, бо не мела рэшты.

Ж а б р а ч к а *(падняўшы галаву).* Дванаццаць рублёў? Скуль жа ты такі багаты, адкуль твае грошы?

Г а л ь я ш. Мне адна бабулька падаравала чырвонец.

Ж а б р а ч к а. Цэлы чырвонец?.. За што?

Г а л ь я ш. Бо мы гулялі каля вёскі, і той хлопец, што струну парваў, знайшоў аднаго чырвонца, а я другога, а ён у мяне ўзяў ды мой чырвонец і адабраў ды яшчэ мяне штурхануў, а сам уцёк. Я заплакаў ад крыўды, а мне бабулька... *(Пазнаўшы Жабрачку.)* Ды гэта ж вы былі, мусіць!

Ж а б р а ч к а *(удаючы, што не помніць)*. Я? Калі? Не! Я табе нічога...

Г а л ь я ш. А я думаў, што тая самая... Ну, дык другая, надта падобная да вас бабулька дала мне чырвонец, а калі я сягоння пайшоў сабе купляць, дык што ні куплю — той чырвонец назад да мяне варочаецца, вось і накупіў усяго, і цяпер ён у мяне ёсць — хачу ў вас скрыпку ўзяць.

Ж а б р а ч к а. А-а, дзіва якое, пакажы ж, пакажы свой чырвонец!

Г а л ь я ш. Во ён, маеце. *(Падае чырвонец.)*

Ж а б р а ч к а *(трымаючы скрыпку ў руцэ, бярэ чырвонец і, паглядзеўшы на яго, кажа да сябе)*. Быў ён новы і гладкі, а паміж людзей пахадзіў — пашчарбаціўся. Кажуць, доля... доля... самі людзі шчасце шчарбатым робяць: не сваё, дык чужое. *(Да Гальяша.)* Ну, вазьмі, дзіцятка, скрыпку. Грай, сябе цеш ды людзям пацеху рабі... Яны часта самі сябе крыўдзяць, а потым на долю наракаюць... Спрабуй, зайграй...

## АПОШНЯЯ СЦЭНА

Г а л ь я ш бярэ скрыпку і пачынае іграць, спачатку разануўшы не да ладу колькі разоў па струнах. Паволі з-пад яго рук выплывае пекная музыка, каторая ўсё мацнее і мацнее. Нота музыкі вясёлая, але спакойная, гаворыць аб ясным сонечным дні, спакоі на палёх і на ўсім свеце, аблітым радасцю жыцця. Усе дзеці слухаюць гэтай музыкі як зачараваныя. Ж а б р а ч к а паціху збірае ўсё назад у свае клумкі і, непрыкметна выходзячы са сцэны, гаворыць, абарачываючыся да Гальяша: «Гэты будзе іграць, ён нікога не пакрыўдзіць, ён не парвець струнаў... ні сваіх, ні чыіх...» Пасля яе выхаду да музыкі Гальяша прылучаецца музыка звонаў. На сцэну выходзіць зноў С л я п е ц з лераю. На твары яго яснасць, як бы ён бачыў рай.

*З а с л о н а.*

# ДЗІЎНЫ ЛАПАЦЬ,
## або
# НЕ ЎСЁ ТОЕ ПОРАХ, ШТО Ў ПОРАХУ ЛЯЖЫЦЬ

Казка ў адным абразку

Асобы:

П а с т у ш о к — вясковы бойкі хлопчык гадоў 10–12.

Ш ы м а н о в і ч, Г а л я к о в і ч — зладзеі з места, адзеты па-мяшчанску. Шымановіч здаравейшы за Галяковіча. Мае грубейшы голас і заўсёды як бы на нешта насуплены. Галяковіч мае рухлівы твар, па катораму надта скора пераходзяць міны, паказваючы, што мае на мыслі. Вясёлы чалавек наогул.

Л а п а ц ь — але... хіба з лапця асоба?

## У АДНЫМ АБРАЗКУ

На сцэне — дарога, каторая ідзе каля лесу. На тыльным плане зараз жа за дарогаю пачынаюцца нівы, за імі ўдалечыні там-сям віднеюцца ўзгоркі, апушаныя дробнай кудзіркай, а яшчэ далей віднеецца верх нейкай будыніны — цэрквы ці то касцёла — за далечынёй не разбярэш. Пры адкрыцці заслоны на сцэне пуста.

## З'ЯВА І

П а с т у ш о к *(выходзіць з правага боку, памахуючы пужкай. Праз плячо ў яго прывешана берасцяная труба. Гаворыць, разважаючы).* Ну і доля нашая, пастухоўская, крычы: «Куды, Раба?», «Куды, Падласа?» Гнёзды, праўда, можна яшчэ часамі папароць, дык зноў жа птушанят шкода... Эх! Як вырасту, аніяк пастухом не буду! *(Ідзець па дарозе і напатыкае стары, з кавалкам гнілой аборы лапаць. Паднімае яго і, павесялеўшы, кажа.)* Ага, знаходка! *(Аглядаючы з усіх бакоў лапаць.)* Ну, во! Такое і шчасце пастухоўскае: знойдзеш часамі лапаць стары на дарозе альбо ў лесе ды кавалак гнілой аборкі: а да чаго вось такое шчасце *(паказуючы лапаць)*, да чаго такое смяццё прыдасца? На рэчку пусціць, дык і то на дно пойдзе. *(Хоча адкінуць лапаць убок і ўжо намеркаваўся гэта зрабіць, аж тут яго перапыняе невядомы голас.)*

Г о л а с *(хрыпаваты, стараваты, як бы пацярпеўшага шмат чалавека).* Ой, не наракай на шчасце! Не гань таго, што само ў рукі даецца. Даронаму каню, кажуць, у зубы не глядзяць, а не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць.

П а с т у ш о к *(страх здзівіўшыся, апушчае руку з лапцем доле і аглядаецца кругом: хто б гэта гаварыў? Пытаецца, крыху здэтанаваўшыся[1]).* А хто гэта гаворыць?

Г о л а с *(чуецца з таго боку, у якой руцэ пастушок трымае лапаць).* Ды я ж, лапаць!

П а с т у ш о к *(падняўшы лапаць перад сабой, сумляваючыся).* Ты хіба гаварыць умееш?

Л а п а ц ь *(гэта і раней быў яго голас, апрысклівa[2]).* А ты без вушэй хіба? Чуеш жа сам, што гавару.

П а с т у ш о к *(рассмяшыўшыся, махае лапцем у паветры і зноў, падняўшы яго перад сябе).* Ха-ха-ха! Во дзіва. А каб ты скіс з гэтакім лапцем! *(Як бы да публікі.)* Вось усе кажуць: «Просты, як лапаць», «Дурны, як лапаць», а тутака — маеш! Не лапаць нават — атопак, а гаворыць! Смеху варта, далібог, пантачкі! *(Смяецца.)*

Л а п а ц ь. От, відаць, што ты дурнейшы за ўсякі атопак! Дзіву даўся, што лапаць гаворыць!.. А чаму табе не дзіва, як маўчыць лапаць?

П а с т у ш о к *(зацікаўлена).* А нашто трэба, каб ён гаварыў?

Л а п а ц ь *(навучаючы).* Запытайся «чаму», ды не «нашто»? Вось, напрыклад, каб такі ўзвей-вецер, як ты, ды цябе на

нагу адзеў дый пайшоў бы гайсаць, падаць па-твойму, калоцячы цябе аб камні, дый аб жвір рэзаць, дый аб галлё драць — як бы ты тады быў? Не маўчаў бы, пэўне!

П а с т у ш о к *(жартаўліва)*. Ого-го, які ты краснабай! Ну, добра! Цяпер я па-твойму запытаюся: чаму лапаць маўчыць?

Л а п а ц ь *(раздумляючы)*. Бо-о...

П а с т у ш о к *(са смехам)*. Бо, мусіць, дурны лапаць! Дурны лапаць, як бот!

Л а п а ц ь *(сярдзіта)*. Ілжэш, я з ліпавага лыка зроблены, знача, не бот!

П а с т у ш о к *(паблажліва)*. Ну, добра — годзе сварыцца, пачнем мірыцца! Якую ж ты мне карысць даць можаш?

Л а п а ц ь *(сярдзіта)*. А вось такую, што і не хачу табе сказаць!

П а с т у ш о к. Чаму?

Л а п а ц ь. Так сабе... Бо ты дурны!

П а с т у ш о к *(жартам)*. Як лапаць?..

Л а п а ц ь *(з вялікай злосці аж заварушыўся ў руках у Пастушка)*. Як бот!!! Як дзве... Як дзвесце пар ботаў у аднэй кучы!

П а с т у ш о к *(заспакойваючы)*. Ну, добра, лапцік, — хай буду я дурны, толькі ты не злуй... Ну, лапцік... Міленькі... Досыць злаваць, я болей не буду!

Л а п а ц ь *(змякчэўшы, але яшчэ бурчліва)*. А-а? Гэтак спачатку трэба было, гжэчнінька[3], а не наругаючыся!

П а с т у ш о к *(шчыра)*. Не буду, дадушы, не буду болей!

Л а п а ц ь *(яшчэ мякчэй)*. І не трэба! Дарма што я толькі лапаць, а як табе дапамагу, як захачу — ого-го!

П а с т у ш о к. Як жа?

Л а п а ц ь *(саўсім змякчэўшы)*. А во як: палажы ты мяне за пазуху, каб мяне людзі не бачылі, дык усё будзеш ведаць, што другія думаюць, ніхто ад цябе са сваімі думкамі не схаваецца.

П а с т у ш о к *(радасна і здзівована)*. О-ой! Няўжо праўда?

Л а п а ц ь *(зноў запаліўшыся)*. Сам ты ілжэш!

П а с т у ш о к *(ад здзіўлення шырока расчыніўшы вочы)*. Дык я ж не кажу, што ты ілжэш!

Л а п а ц ь *(гняўліва)*. Але падумаў!.. І ніякага табе дзела няма, адкуль я ўсё ведаю!.. Замалы ты яшчэ, каб усё ведаць.

П а с т у ш о к *(шчыра)*. Лапцік, лапцічак! Не буду, ніколі не буду! Не злуй, лапцічак! Бо я ж дурны...

Л а п а ц ь *(весела, паблажліва)*. Гэ-гэ-гэ! Прызнаўся! Ну, добра, добра, хавай мяне за пазуху, дый пойдзем. Там твае каровы даўно думаюць, як бы ім у дзеравенскі авёс убіцца.

П а с т у ш о к *(успомніўшы аб каровах, з імпэту)*. Няўжо?

Л а п а ц ь *(без злосці)*. Пакінь ты гэты звычай — пытаць ды перапытваць! Кажу: ідзём — значыць — ідзём.

П а с т у ш о к *(паспешна хаваючы лапаць за пазуху)*. Ідзём, ідзём!.. *(Бяжыць у той бок, адкуль прыйшоў. Праз хвілінку чуецца яго голас: «Куды, Раба! А каб цябе!»)*

## З'ЯВА II

По дарозе з праціўнага боку выходзяць Ш ы м а н о в і ч і Г а л я к о в і ч — зладзеі з места. У кожнага з іх за плячыма здаровы мех.

Ш ы м а н о в і ч *(запыніўшыся, да Галяковіча)*. А што, пане Галяковіч, чы не пасядзім часамі край дарожкі? Нешта я замарыўся, ногі як не свае — ледзьве перастаўляю.

Г а л я к о в і ч. З ахвотай, з ахвотай, пане Шымановіч. І мне, па праўдзе кажучы, гэтая *(падмігвае на сваю торбу)* «бульба» плечы адабрала! Але... можа *(паказуе на лес)*, у лесе... зацішней будзе?

Ш ы м а н о в і ч. Ды і тутака не гасцінец, не вельмі хо-дзяць. Могам спакойна пасядзець. А ў лесе яно, праўда, зацішней, — але ж камары, пане Галяковіч...

Г а л я к о в і ч *(згаджаючыся)*. Ну, то й сядзем, пане Шымановіч.

Ш ы м а н о в і ч *(ківае галавой)*. І адпачнем...

Г а л я к о в і ч. І перакусім *(падмігваючы на торбу Шымановіча)*, чым Бог паслаў... *(Абое сядаюць на мяжы каля дарогі і скідаюць свае катомкі з плеч.)*

Ш ы м а н о в і ч *(вымаючы з кішэні бутэльку, ківае галавой)*. Але! І перакусім... Хлебам нашым штодзённым...

Г а л я к о в і ч. Га-га-га! Ёмка сказаў, пане Шымановіч! *(Жыва бярэ з рук Шымановіча бутэльку і, адкаркаваўшы яе.)* Бывайце здаровы, пане Шымановіч! *(П'ець з бутэлькі.)*

Ш ы м а н о в і ч *(матануўшы галавой)*. На здароўе! Абы б не цераз край...

Г а л я к о в і ч *(п'ючы)*. О... не... *(Адпіўшы палавіну трункі з бутэлькі, кракае і, абціраючы рукавом вусы, другой рукой паднімае бутэльку ўгару, як бы адмяраючы, ці столькі адпіў, колькі трэба, а потым аддае бутэльку Шымановічу.)* Трымайце, пане Шымановіч, каб не ўпала — шкода будзе, як разальецца.

Ш ы м а н о в і ч *(прымаючы ад яго бутэльку)*. Ну, каб н бутэльку выпусціў! За здароўе! *(П'ець.)*

Г а л я к о в і ч. На здароўе, за нашу ўдачу! *(Вынімае з аднаго свайго клумка кавалак сала, некалькі яец, соль у паперцы, хлеб, нож. Усё раскладае на вынятай з торбы паперцы, потым рэжа хлеб, сала.)* А цяперака закусім.

Ш ы м а н о в і ч *(паставіўшы ля сябе пустую бутэльку)*. Падмацуемся, казаў той!

Кожны з іх бярэць па кавалку сала і хлеба і са смакам закусуе. Аж пакуль не з'яўляецца П а с т у ш о к, яны, правячы свае гутаркі, закусуюць.

Г а л я к о в і ч *(жуючы)*. Праўду кажаце, пане Шымановіч, што мусім падмацавацца. Не малы ж гэта кавалак дарогі перамералі, а сколькі яшчэ засталося да места!

Ш ы м а н о в і ч. Ну-у, цяпер клопат невялікі, лічы, што мы ўжо ў месце. Да вечара паспім, адпачнём, а потым, сам ведаеш, якія ў тутэйшым двары коні — як львы! І агледзецца не паспеем, як на месцы будзем!

Г а л я к о в і ч. Каб жа толькі ўсё памысна зышло! Каб толькі ніхто не пачуў, як будзем каламажку выцягваць ды коні ўпрагаць...

Ш ы м а н о в і ч *(з незадаваленнем)*. Ат! Што ў ягамосця за звычай — перад самай справай заўсёды, як варона, прааракуеш?! Коні ты ніколі не краў, ці што? Чаго ж баішся?

Г а л я к о в і ч *(трошкі вінавата)*. Бо звычайна чалавек я смелы, а ў такім дзеле заўсёды неяк баюся, пане Шымановіч. Хто яго згадае, як можа трапіцца: не сам клаў... А цяпер суды — ведаеш, якія!.. Так упякаюць...

Ш ы м а н о в і ч *(перабіваючы, нецярпліва)*. Аднак жа як у царкву ты лез гэтыя ліхтары ды шаты *(паказуе рукою на клумак Галяковіча)* красці альбо калі вартаваў, як я гэтыя шынкі *(паказуе на свой клумак)* з клеці ў гаспадара праз страху выцягваў, дык нічога з табой не сталася!

Г а л я к о в і ч *(абоімі рукамі ўцішае яго)*. Ш-ш! Вунь нехта з лесу ідзе... Чалавек нейкі!..

Ш ы м а н о в і ч *(аглянуўшыся)*. Які там чалавек — падпасавіч! *(Варочаючыся да перарванай гутаркі.)* Дык не бойся, і цяпер нічога не станецца.

Г а л я к о в і ч. Ш-ш-ш!

## З'ЯВА III

Тыя ж і Пастушок.

Пастушок (*вітаючы*). Дзень добры паном!
Шымановіч. Здароў! Хто ты тут такі?
Пастушок. Пастух, паночку.
Шымановіч. Чый? Дзеравенскі?
Пастушок. Не, дворны. Дзеравенскія ў другім месцы быдла пасуць. А я ад двара.
Шымановіч. Дзе ж ваш пан цяпер, у двары жывець?
Пастушок. Ого, у двары! Тата кажа: «Ці такі наш пан дурны, каб чакаць, пакуль яго ў двары арыштуюць». Няма нашага пана, яшчэ перад зімой некуды выехаў.
Шымановіч. За што ж вашага пана ў двары арыштавалі б?
Пастушок. Я хіба ведаю? Тутака кругом якія былі паны — усіх павывозілі. А пана Банадысюка самога не было, дык жонку і матку ўзялі...
Галяковіч. А хто ж гэта іх браў?
Пастушок. Салдаты... Маскалі нейкія з места прыязджалі.
Шымановіч. Хто ж у вас цяпер у двары, калі няма пана?
Пастушок. Пан Ігнацы.
Шымановіч. Які пан Ігнацы — брат паноў, ці што?
Пастушок. Не, не брат, камісар. І пратсядаціль...
Шымановіч. Пратсядаціль? Адкуль жа ён узяўся?
Пастушок. Ды гэта ж наш Карнюк, парабак. Цяпер жа ў нас у двары камітэт, а на вёсцы ёсць яшчэ камітэт.
Шымановіч. Камітэты?!. Што ж яны ў вас робяць?
Пастушок. Сварацца... Як начальства... Наш Карнюк усё дзеравенскага прадсядаціля лае.
Галяковіч (*да сябе*). Дай распытаюся, як у іх там, ці лёгка нам будзе коні ўзяць? (*Голасна да Пастушка.*) А якія ж у вас цяперака парадкі? Добра?
Пастушок (*маючы нешта сабе на мыслі, але ўдаючы нядбаласць*). Го-о! Добра, ды яшчэ як! У нас парадкі цяпер: як толькі павячэраюць, дык зараз жа і кладуцца спаць і такую хропку задаюць, што аж сцены дрыжаць... Не тое, што раней!
Галяковіч (*да сябе*). Добра! (*Да Пастушка.*) А хурманы як?

Пастушок. Што — як хурманы?

Шымановіч *(груба)*. Ну, як яны, спяць таксама ці гуляюць?

Пастушок *(як раней)*. Дзе там гуляюць! Спяць! Ды яшчэ раней кладуцца за парабкаў... А цяпер дык і месца змянілі: не пры стайні спяць, а ў палацы.

Галяковіч *(да сябе)* Во лоўка! Значыць, конікі нашы!

Пастушок *(да сябе)*. Ого! *(Жыва паглядае на абоіх зладзеяў.)*

Галяковіч *(да сябе)*. Замок у стайні зламаць, і квіта!

Пастушок *(як бы пачуўшы яго словы.)* Не, паночку, — нават і замка ламаць не трэба: цяпер у нас такі парадак, што ўсё парасчыняна, — бяры, што хочаш, выводзь, што хочаш, выносъ, што хочаш...

Галяковіч *(трывожна да Пастушка)*. А ты скуль ведаеш?..

Пастушок. Аб чым? *(Да сябе.)* Ого!..

Шымановіч *(ратуючы з клопату Галяковіча)*. Што ў вас такія парадкі! *(Да сябе.)* Д'ябал!

Галяковіч *(да сябе)*. Як ён трапіў на думку, што мы хочам рабіць?! Ці не чуў часамі, як гэты *(асцярожна паказуе на Шымановіча)* мядзведзь роў, што ў нас у мяхох ляжыць?

Пастушок *(да сябе)* Ого! *(Да Шымановіча)* Як жа мне не ведаць, што ў двары робіцца, калі я сам з двара? Гэта было б усё роўна, што па гары хадзіць, ды сонца не бачыць. Тут не трэба і д'яблам быць *(да Галяковіча)*, не тое што чуць, як гэты дзядзька *(паказуе на Шымановіча)* роў, што ў вас у мяхох пахована?

Шымановіч і Галяковіч *(ускочыўшы разам)*. Што-о?!!

Шымановіч *(аглядаецца на свой мех)*. Ці не развязалася часамі сала?

Галяковіч *(аглядаецца на свой)*. Ці не прадраўся мех ліхтаром?

Шымановіч *(прыступаючы да Пастушка)*. Хто тут роў па-твойму і аб якіх мяхох ты гаворыш? *(Да сябе.)* Ці ёсць тут яшчэ пастухі?

Галяковіч *(ласкава да Пастушка)*. Табе, мусіць, здалося нешта, хлапчанё! Ніхто тутака не роў, дый мядзведзяў тут, здаецца, няма. *(Да сябе са страхам.)* Не дай Бог, як зловяць з крадзеным ды яшчэ з цэрквы. А і за сала па галоўцы не пагладзяць!

Пастушок *(да сябе)*. Ага! Цяпер я з вас нацешуся, паночкі. *(Да зладзеяў.)* Тут і чуць не трэба, каб ведаць, што вы цэркву абдзёрлі і ў дзядзькі Сымона з клеці сала выцягнулі — па вас відаць. *(Да Шымановіча.)* А пастухоў, нас дворных, некалькі, і я зараз іх усіх паклічу, хай вас звяжуць ды ў камітэт завядуць альбо да камісара, каб вы ведалі, як на чужое дабро сквапіцца! Зараз! *(Кідаецца ў лес, адкуль чуваць яго голас.)* Дзядзька Апанас! Дзядзька Мікалай! Яўхім! Лавеце зладзеяў, што цэркву абакралі! *(Чутно, як трубіць у рог.)*

## З'ЯВА IV

Тыя ж без Пастушка.

Шымановіч *(да Галяковіча)*. Ну?

Галяковіч *(да Шымановіча)*. Ну?

Шымановіч. Што рабіць будзем?

Галяковіч. Уцякаць, пане Шымановіч... Хай яго ліха з хлопцам!

Шымановіч. А з гэтым *(паказуе на клумкі)* як? Панясём?

Галяковіч. Здурнеў хіба? Дай Божа самім уцячы, а не тое, што з гэтым — такі цяжар! Бо як зловяць нас гэтыя камітэты... *(Махае рукой.)*

Шымановіч (шкадуючы). Шкода!

Галяковіч *(жыва)*. Чаго болей шкадаваць: сваёй скуры ці гэтага?

Шымановіч *(нахмарыўшыся)*. Шкода!

Галяковіч. Ну, шкадуй сабе, калі хочаш, а я больш сябе шкадую... *(Кідаецца бегчы у лес, у той бок, адкуль прыйшлі, але не па дарозе.)*

Шымановіч *(за ім услед)*. Куды ты, у лес?

Галяковіч *(запыніўшыся, праз кусты ўжо)*. А ты хацеў, каб па дарозе? Каб нас на конях зараз жа дагналі? Нябось конскія ногі — не нашыя — спрытнейшыя. Хадзем, бо я чакаць не буду! *(Хаваецца ў лесе.)*

Шымановіч *(азірнуўшыся на клумкі, цяжка ўздыхае)*. Э-эх, шкода! *(Паволі ідзець за Галяковічам, азіраючыся на мяхі. Дайшоўшы так да кустоў, кідаецца бегчы.)*

## З'ЯВА V

На дарозе нейкі час нікога няма. Потым з-за кустоў асцярожна выглядае П а с т у ш о к. Бачучы, што нікога няма, ён выскакуе на дарогу.

П а с т у ш о к. Ха-ха-ха! Ха-ха-ха! Уцяклі-такі? Вось дзе настрашыў дык настрашыў! Малайчына лапаць — як ён спрытна мне падказваў, што яны думаюць... Ха-ха-ха! Во дзівіліся!.. *(Падыходзячы да клумкаў.)* А цяпер паглядзім, што ў іх сапраўды ў гэтых клумках пахована. *(Развязвае мех Шымановіча.)* Ог-го-о! Паўнютанькі сала. От зладзеі — гэтак чалавека пакрыўдзіць, увесь скорам выцягці! *(Бярэцца развязваць мех Галяковіча.)* А ў гэтым што? Бацюхны-светухны! *(Вымае сярэбраны ліхтар.)* Ліхтары!! *(Другой рукой перабірае ў мяшку рэчы.)* Ай-я-й-я-а! Гэта ж яны, мусіць, усе абразы ў Залужжу паабдзіралі! От зладзеі! *(Кідае капацца ў мяхох і сядае на мяжы паміж імі, як бы да публікі.)* І што рабіць з гэтым? *(Коратка падумаўшы.)* Трэба, мусіць, пратсядацілю сказаць гэта: хай робіць, як ведае, бо ён жа начальства. *(Успомніўшы аб лапцю.)* Лапцік, мілы лапцік! *(Лезе рукой за пазуху вымаць лапаць.)* Ты разумнейшы за ўсіх зладзеяў на свеце! *(Выняўшы з-за пазухі лапаць і трымаючы яго перад сабой.)* Ты чуў, як яны ўцяклі?!

Л а п а ц ь *(хрыпаватым голасам, здаволена)*. А што, жук ты яловы, бачыш? Хэ-хэ-хэ!

П а с т у ш о к. Бачу, бачу! *(Увідзеўшы сала і хлеб на паперцы, што пакінулі зладзеі, — да лапця.)* А цяпер давай папалуднуем, тут і сала і хлеб ёсць — усё пакінулі! *(Кладзе лапаць на калені і, узяўшы ў рукі кавалак хлеба і скрылік сала, пачынае есці. Паказуючы ў публіку хлеб і сала.)* Хоць чужое, ды не крадзенае!

Л а п а ц ь *(навучаючы)*. А зробленае!

П а с т у ш о к. Так, лапцік, а зробленае! А ты, мусіць, ніколі не прабаваў сала, ні чужога, ні зробленага, — дай жа я цябе хоць раз ім пачастую, можа, твой голас паправіцца, хрыпкі не будзе! *(Бярэ лапаць у адну руку, а другой хоча шмараваць яго салам.)*

Л а п а ц ь *(крычыць)*. Пачакай, азарднік, што ты робіш?!.

Пастушок усміхаецца ў час гэтых слоў і апушчае руку з салам.

*З а с л о н а.*

# ДАТРЫМАЎ ХАРАКТАР

Абразок ў адной адслоне

Асобы:

З ю к — хлопчык 11 гадоў.
В і н ц у с ь — яго брат 10 гадоў.

Даволі абшырны, але пусты пакой. Проста ад публікі дзверы з шыбкамі ўгары. У левай сцяне даволі высока ад падлогі вакно на 4 шыбы. Апрача стала і 2-х крэслаў — ніякіх мэбляў. Сцены голыя. На стале кнігі, сшыткі.

## З'ЯВА I

З ю к і В і н ц у с ь сядзяць каля стала.

В і н ц у с ь *(голасна ўздыхаючы).* Гэта ўсё роўна, але каб мы вучыліся, цётка напэўна б ніколі нас тут не замкнула... У гэтым ты вінен. Ужо трэці дзень, як мы не хочам вучыцца.

З ю к *(устаючы).* А я табе кажу: будзе па-мойму. Трэба толькі не траціць натуры.

В і н ц у с ь. Не ведаю, што гэта мае значыць «не траціць натуры», але ведаю, што ў сто разоў ляпей было б цяпер гуляць, чымся тут сядзець. Бо гэта агромне нудна — сядзець пад замком за кару.

З ю к. Цётка, трэба сказаць, залішне строга з намі абыходзіцца, асабліва са мной. Мяне, у маім вяку, пазваляе сабе

замыкаць у гэты абрыдлівы пакой. Табе ад гэтага нічога не станецца, ты яшчэ дзіця, але я. Я маю ўжо адзінаццаць гадоў.

Вінцусь *(абражаны)*. А я дзесяць...

Зюк. Дзевяць і пяць месяцаў.

Вінцусь. Ну, сем месяцаў што ж... дурніца...

Зюк. Ого! гэта розніца. Па дзесяцёх гадох кожны мужчына ўжо дарослы. *(Трагічна.)* Але я не папушчу ёй!

Вінцусь. Цікавасць. Што ты зробіш?

Зюк. Першае: як толькі тата прыедзе, зараз яму ўсё раскажу, як тут без яго з намі абыходзіліся, як не шанавалі мяне, яго старшага сына... і хто: нейкая кабета, нейкая цётка, якая, можа, меней правоў мае тут распараджацца, чым я...

Вінцусь. А другое?

Зюк. Другое? *(Збіты запытаннем з тору.)* Потым пабачым.

Вінцусь. Так... Але, бачыш, калі цётка тут усім у нас парадкуе, то, значыцца, ёй можна... Яна ж у нас ужо даўно, ад самай мамінай смерці, і тата ёй ува ўсім даець волю і цяпер. Тата ведаў жа, калі мы маемся прыехаць на вакацыі, і, калі выязджаў, пэўна ж прыказываў цётцы, як нас трымаць. А потым — старшыя заўсёды барзджэй з сабой згаворацца, чым з намі, і нам яшчэ так можа дастацца, што хто яго згадае як!

Зюк *(неспакойна)*. Ты так думаеш?

Вінцусь. Але, так...

Зюк. Э... хто там ведае...

Вінцусь. Павер мне! Старэйшыя заўсёды разам.

Зюк. Гэта праўда. Але як быць, калі штодня тое самае? Цётка прымушае нас працаваць па дзве гадзіны кожную раніцу. Ці табе здаецца, што гэта мяне можа забаўляць?

Вінцусь. Наагул мне нічога не здаецца.

Зюк. Блазнюк! То ж вялізнае надужыццё цяпер нас змушаць да навукі. Вакацыі — саўсім не пара для навукі!

Вінцусь. Але, праўда. Толькі як мы добра папрацуем гэтых дзве гадзінкі, дык потым цётка даець нам волю гуляць праз цэлы дзень, а як мы не вучымся, дык замыкае... Калі так далей пойдзе...

Зюк. Слухай, Вінцусь, ці ты думаеш, што цётка... Куды цётка... Што яе муж, нябожчык дзядзька, вучыўся, калі быў такім маладым мужчынаю, як я?

Вінцусь. Скуль жа мне ведаць. Але пані Прыборская, гэта з вялікім ружанцам[1], што так з цёткаю цалуецца, калі ні прыедзе, дык тая, я чуў сам колькі ўжо разоў, усё гаворыць цётцы: «Ах, пані муж быў вялікім чалавекам!»

З ю к. Ну, Прыборская... дужа яна знаецца ў гэтым... А мне здаецца, што дзядзька калі нават і вучыўся, дык ненашмат што яму навука прыдалася. Ён быў усяго толькі паслом[2].

В і н ц у с ь. А дзеля чаго гэта паслы?

З ю к. Не шмат дзеля чаго, ва ўсякім выпадку. Некалі я быў з таткам тамака, дзе яны працуюць. Мяне дык не адразу і пусцілі — нібыта малады яшчэ тагды быў. Называецца гэта «ізба»[3]. Не вельмі важна і называецца. У ізбе гэтай вялізная саля, а ў ёй парасстаўляны сталы і лавы акурат як у школе. Усе паслы сядзяць у гэтай школе і адзін па аднаму ўстаюць адказваць свае заданні нейкаму лысаму пану ў акулярах.

В і н ц у с ь. Гэта, мусіць, іх прафесар?

З ю к. А ўжо ж. Ён даглядае за імі са свайго падвышэння і нават, калі занадта вялікі гармідар паднімуць, звоніць у такі званочак, каб сціхлі.

В і н ц у с ь. А... а замыкаюць іх за кару, калі пачнуць залішне даказваць?

З ю к. Гэтага не ведаю... Але мусілі б, бо часамі ліха ведае якія штукі выпраўляюць. А потым... разумееш, п'юць толькі ваду, цукраваную ваду.

В і н ц у с ь. Як маленькія дзеці...

З ю к. Як дзеці... Ну хіба ж гэта не глупства — гэтыя паслы.

В і н ц у с ь. А ты чым будзеш, як будзеш вялікім?

З ю к *(з абурэннем)*. Я буду вялікім... але я ўжо вялікі — як на мой век. Хочаш хіба сказаць, як буду яшчэ старшым?..

В і н ц у с ь. Але...

З ю к *(важна)*. Напэўна яшчэ не ведаю. Змоладу я хацеў быць уласнікам цукерні... або ўласнікам крам з цацкамі, але цяпер аддумаў. Барзджэй што зраблюся міністрам...

В і н ц у с ь. Гэтта? У Мінску?

З ю к. Сказаў! Скуль жа ў Мінску будуць міністры, калі ім няма тут чаго рабіць! Міністры жывуць толькі па вялікіх мясцах. Ах, браце, што за пекная штука быць міністрам! Убранне, вышыванае золатам, капялюш такі таксама з золатам...

В і н ц у с ь *(з здзіўленнем)*. Дык ты будзеш выглядаць бязмала як прыдзвер у Гранд-гатэлю?

З ю к. Ого — шмат ляпей! А потым буду мець шмат медалёў. Паначапляю ўсе іх на грудзі — паглядзіш, гэта будзе хараша выглядаць. І будуць да мяне зварочвацца: «Ваша Вяльможнасць, Ваша Эксцэленцыя». *(Паказуючы.)* «Ваша Вяльможнасць зволіць прыняць?» — «Хто гэта асмеліваецца мяне турбаваць?» — «Гэта турэцкі паўнамоцнік і японскі імператар

просяць іх выслухаць, Ваша Вяльможнасць». — «А, добра, гэта штo іншае... хай пачакаюць, яго Вяльможнасць вельмі заняты, паліць цыгару». *(Сядае на крэсле бокам да гледачоў і ўдае, як бы паліць.)*

В і н ц у с ь. А я зраблюся Генрыкам Сянкевічам, куплю сабе шмат паперы і напішу «Патоп», «Крыжакаў»...

З ю к *(смеючыся)*. Разумненькі. Даўно гэта ўжо і без цябе напісана.

В і н ц у с ь. Гэта нічога не шкодзіць, што напісана. Напісана, ды па-польску, а я напішу па-нашаму і потым усё іначай. Кміціца[4] я так доўга мучыць не буду. Данусі не дам памерці, як гэта зрабіў Сянкевіч, але выдам яе за Збышку, а на Ягенцы[5] сам ажанюся...

З ю к. Глупотка. Гэнай жа Ягны няма, і не было яе ніколі.

В і н ц у с ь. Няўжо і не было? А ці ж ты думаеш, што гэта цяжка пісаць?

З ю к. Бадай што, і не цяжка. Іншыя пісьменнікі, глядзі, як памногу пішуць. Мусіць, каб было цяжка, то не здужалі б. Дый Сянкевіч, ён, кажуць, у школе найгоршыя знакі атрымоўваў.

В і н ц у с ь *(радасна)*. Акурат як я! І мне здаецца, што гэта не цяжка: трэба толькі паперы, пер'яў і атраманту... нават і выдаткі не вялікія.

З ю к. А мыслі?

В і н ц у с ь. Што там мыслі... Мыслі прыходзяць самі...

З ю к *(пераконаны)*. Праўда. Ну, дык едзьма! *(Устае з крэсла.)*

В і н ц у с ь *(як бы просячы)*. Але ведаеш што, Зюк... Хто ведае... Можа, твой міністр і не атрымліваў самых кепскіх знакаў... *(Зюк сядае.)* Можа б, мы павучыліся, бо калі так далей пойдзе, як за гэтыя тры дні... Ты ведаеш жа, што цётка дакляравала нас адсюль не выпусціць, аж пакуль мы не скончым свае заданні — давай павучымся і скончым!

З ю к. Не. Я мушу ўсё падужаць і ўсё вытрымаць. А, апрача таго, цётка павінна была параіцца са мной перад тым, як мяне сюды садзіць... Не — я страшэнна сярдзіты!

В і н ц у с ь *(падсоўваецца з крэслам да Зюка)*. А калі не зробім заданняў? Дык будзем жа гэтта сядзець аж давеку?

З ю к. Ты заўсёды аб адным. Тым для цябе горш. *(Кладзе праз стол руку на плячо Вінцуся.)* Эх, Вінця, трэба быць смелымі, маладымі героямі, мучанікамі, а не баяцца таго, што будзем сядзець. Будзем, ну й будзем. Помніш, як у тэй кніжцы, каторую я браў з гімназіі, гэны малады мужчына? Вось дзе герой быў: прасядзеў у бакшце трыццаць пяць гадоў, але не паддаўся.

В і н ц у с ь *(жаласліва, напалохаўшыся).* Ой, не, Зючак, — я столькі тут не вытрываю, я барзджэй памру... *(Вымае з кішэні хустачку і падносіць яе да вачэй.)*

З ю к *(прысуваецца з крэслам да Вінцуся і абнімае яго за шыю).* Вінцуська, братачка, не плач... Прашу цябе, не плач!

В і н ц у с ь *(хаваючы хустачку ў кішэню, глытаючы слёзы).* Я не плачу...

З ю к *(трошкі адхіляецца ад Вінцуся і рукой, каторай яго абнімаў, лёгка стукае па стале далонню).* Бачыш, трэба датрымаць сваё. Трымайся так, як я!

В і н ц у с ь. Бо ты саўсім не ведаеш, Зюк, аб чым я думаю... Найгорш... найгорш было б прасядзець тут, у гэтым пакоі пустым, усю ноч...

З ю к *(уражаны гэтымі слоўмі).* Гм... Ліха! Я аб гэтым не думаў! *(Жыва.)* Але не можа быць, пад вечар нас выпусцяць, — бо што ж гэта было б? А ў канцы заспакойся, братачка, нас жа двое. Калі хто і нападзе, дык будзем бараніцца. От, каб мне сюды маю шаблю!

В і н ц у с ь *(занепакоены).* Ты думаеш, на нас нехта мог бы напасці?

З ю к. Гм-м... бачыш, ноччу ўсяго можна спадзявацца. Заўсёды лепш мець зброю.

В і н ц у с ь. Божухна! Астацца тутака на ўсю ноч?! Я ўжо не баюся аб трыццаць пяць год, бо татка ж раней прыедзе і нас выпусціць, ну... але і адну ноч... *(уздрагвае)* помніш тых бедных дзетак ангельскага караля, аб каторых мы чыталі?..

З ю к. Помню, помню. Гэта страшна... Папраўдзе, гэта кепская гісторыя — за кару сядзець пад замком. Можа, і праўда лепш было б вучыцца... *(Кароткая паўза. Вінцусь зноў выцірае слёзы. Зюк у задуме апусціў галаву, аж раптам, ускочыўшы, кажа.)* Слухай, Вінцусь. Пышны плян... Ведаеш, да чаго я дадумаўся?

В і н ц у с ь *(сумна паднімаючы галаву).* Што ж?

З ю к. А вось: дай адразу сабе паможам і цётцы адудзячым за яе дабрату...

В і н ц у с ь. Якім спосабам?

З ю к. Уцякаючы адгэтуль. Хай тады цётка нас пашукае. Што яна скажа, як татка, прыехаўшы, запытаецца: «Дзе хлопцы?» — «Няма...» — «Як няма, чаму няма?» Што яна адкажа, га? Добра?

В і н ц у с ь. Добра. А куды ўцячом?

З ю к. Пытанне! У Амерыку, вось куды. Будзем ездзіць тамака сабе на мустангах і лавіць баволаў[6], хадзіць па сцежцы вайны, паліць люльку згоды, спаць пры агні, закрыўшыся самбрэрас...

В і н ц у с ь. Аднак гэта не так проста туды ўцячы.

З ю к. Фю-ю! Нічога лягчэйшага: на першай станцыі сесці на чыгунку і — проста да мора, а там схавацца ў бочку або ў вугаль на параходзе, і праз дзесяць дзён будзем у Амерыцы.

В і н ц у с ь. А да станцыі як?

З ю к. Як — як?

В і н ц у с ь. Ну, як да станцыі дастанемся? Трэба будзе ісці праз лес, а ў лесе нас ваўкі паперaймаюць.

З ю к *(разачаравана сядае на крэсла)*. Але, ваўкі, — праўду кажаш: гэта не саўсім бяспечна. Але... Мы і не будзем уцякаць у Амерыку, схаваемся толькі дзе-небудзь.

В і н ц у с ь. Дзе?

З ю к. Дзе? У адрыне пад сенам. Прынамсі, будзем чуць, як нас будуць шукаць і як цётка плакаць будзе.

В і н ц у с ь. Але ж у адрыне пацукі.

З ю к. Што ты кажаш?

В і н ц у с ь. Праўда. Анадай Палінар накладаў рэзгіны, — аж тут як ні выскачыць з-пад сена пацук, як ні пісне, як ні паляціць ды мне пад ногі скок! Аж я напалохаўся. Вось такі *(паказуе, расставіўшы рукі)* пацук!

З ю к. А... Гэта горш: з пацукамі не жарты... *(Задум.)* Бай! Не ўсё згублена. Ведаеш, дзе схаваемся — на вёсцы, у нашай старой нянькі Алены. Помніш, як яна нас шкадавала?

В і н ц у с ь. А Алена нікому не скажа?

З ю к *(з пагардай)*. Алена — скажа! Ого — Алена скажа, выдумаў! Яна нас яшчэ мёдам частаваціме кожны дзень, бо ў яе сына калоды...

В і н ц у с ь. Во, гэта мне лепш падабаецца, чым Амерыка і пацукі ў адрыне, прынамсі, мёду наядзімося. Аднак... Цётка нас замкнула і ключ забрала, — як жа мы ўцячом?

З ю к *(паказуючы на вакно)*. А во: прыставім стол і фю-ю на другі бок!

В і н ц у с ь. Не высака тут?

З ю к. Э, глупства. Я адзін выскачу, а табе прыстаўлю драбіну, і будзеш на волі.

В і н ц у с ь *(радасна)*. Слаўна прыдумана. Дай жа я табе памагу. *(Разам з Зюкам прымаюць усё са стала і падстаўляюць яго пад вакно.)* Ну, лезь! *(Зюк праз стол узлазіць на падаконніцу і праз шыбу глядзіць уніз.)* Што, як?

З ю к. Не, не выскачыш, — высака занадта, небяспечна.

В і н ц у с ь *(узлезшы на стол, глядзіць праз вакно)*. Высака.

З ю к *(злезшы на стол з вакна, хмарна)*. Высака... *(Паўза.)*

В і н ц у с ь. А можа, і лепш, што высака... Бо нават пакуль мы і ў Алены знайшліся б, татка мог бы набрацца страху, а за што ж яго палохаць. Пойдзем лепш, Зюк, паставім усё на месца і будзем вучыцца.

З ю к. Пачакай, там нехта ідзе па сцежцы. Цётка і... за кустом не відна... Ага, і нейкі мужчына.

В і н ц у с ь *(стаўшы на пальчыкі)*. Дзе? дзе? Зюк, дык гэта ж татка, татачка.

З ю к *(радасна)*. Праўда! Праўда. Божа мой, колькі часу мы ўжо не бачыліся! Якая гэта будзе радасць зараз пры спатканні!

В і н ц у с ь. А ведаеш, Зюк, аб чым тата цяпер з цёткай гаворыць?

З ю к. Аб чым?

В і н ц у с ь. Аб нас. І цётка, напэўна, ужо данесла тату, што мы ўжо трэці дзень не вучымся. І хто яго ведае, што тата яшчэ аб гэтым падумаў...

З ю к *(неспакойна)*. Так думаеш?

В і н ц у с ь. А пэўна. Слухай, няхай нас тата застане за працай: паставім усё на месца і пачнём вучыцца.

З ю к. Слушна гаворыш. *(Абодва саскакаюць са стала і даводзяць да пачатковага парадку. Ставяць на месца крэслы.)* Ну, я ўжо не зачну так другі раз...

В і н ц у с ь. Як і я. Гэта брыдка, што татусь нас тут застане, сорам! *(Сеўшы, бярэ граматыку і голасна цвічыцца[7] ў скланеннях.)* «Я буду пільны, ты будзеш пільны, ён будзе...»

З ю к *(піша з кнігі)*. «Праца ёсць школай для моладзі і аздобай для старасці». *(Кінуўшы пісаць.)* Ах, чаму ж яны не ідуць?

В і н ц у с ь. Спяшайся з заданнямі, стары мармытун, — потым назюкаешся. «Я быў пільны, ён быў пільны... Я быў...» *(За дзвярыма галасы, пакручваецца ключ у замку.)* Не вытрымаю. *(Бяжыць і выскакуе проста ў расчыніўшыяся дзверы.)* Татачка!

З ю к *(бяжыць за Вінцуком. Перад дзвярыма, абярнуўшыся да гледачоў, кажа)*. Але хто мне выткне[8], што я не датрымаў характару?

*К а н е ц.*

*1920*

# *Публіцыстыка*

## 25-Я ГАДАЎШЧЫНА P.P.S.[1]
## (Польскай Партыі Сацыялістычнай)

У снежні 1917 года споўнілася 25 гадоў ад тэй пары, калі злажылася і пачала сваю працу Польская Сацыялістычная Партыя (P.P.S.). Пачатак партыі быў паложаны на з'ездзе польскіх асацыялістычных дзеячаў у Парыжы ў лістападзе 1892 году асnаваннем Звязку загранічнага Сацыялістаў Польскіх, каторы ў лютым 1893 году злучыўся з «Пралетарыятчыкамі» і стварыў P.P.S. Ад самага свайго пачатку гэта партыя стаяла на чале работніцкага руху ў Польшчы, расшырыўшы сваю чыннасць на ўсе тры так званыя «заборы» — часткі, адыйшоўшыя да Расіі, Прус і Аўстрыі.

Асабліва вялікія заслугі перад польскім пралетарыятам мае партыя за сваё змаганне з уладаю рускага царызму ў Польшчы. Яна першая выразна ўстала за незалежнасць Польшчы, разумеючы, што толькі спосаб арганізацыі пралетарыяту ў абмежках уласнай нацыі можа прывесці да найлепшых скуткаў. Найбольш сільнай партыя была ў 1904–1908 гадах, налічаючы ў сваіх радах дзесяткі тысячаў членаў.

Праца P.P.S. была не саўсім чужою і для нас, беларусаў. Шмат хто, асабліва з першых яе працаўнікоў, быў родам з нашага краю. У Вільні заўсёды была арганізацыя P.P.S., і выходзіў партыйны орган, і ў ёй жа адбыўся III з'езд партыі. Яе працай быў паложаны пачатак беларускага сацыялістычнага руху, бо, працуючы сярод нашага работніцтва і сялянства, партыя старалася разбудзіць у іх нацыянальнае самапачуцце. Гэта рабілася як на моцы пастановы III з'езда «каб у стасунках[2] з проціўурадавымі групамі другіх народаў... старацца будзіць у іх

сепаратыстычныя бажанні» для супольнага здужання царызму, так і дзеля таго, што многія члены P.P.S. — беларусы, толькі ў яе радах пачаўшы працу, задумаўшыся мо ў першы раз над нацыянальным пытаннем, пачулі і пазналі, хто яны такія.

Частка гэтых, у лоне[3] P.P.S. пазнаўшых сябе сацыялістаў, увайшла потым у склад тых дзеячаў, каторымі заложана была першая беларуская сацыялістычная партыя «Беларуская Сацыялістычная Грамада»[4].

Цяпер польскі народ стаіць перад новым няшчасцем. Светлая думка яго аб залечаным целе, аб злучаным народзе гатова зацьміцца. Міжнародныя шахраі што момант гатовы абкроіць яе так, як ім будзе выгадней, і кінуць на шалькі[5] як вымушаную справядлівасцю прывеску. Цяпер, як ніколі болей, польскай дэмакратыі патрэбны шчырыя і ўсім жыццём сваім ёй адданыя сыны. Іх, гэтых праўдзівых сыноў народу, лучыць[6] партыя P.P.S.

Пабажаем жа ёй сілы і няўломнасці на яе пачэсным шляху.

*А. Прушынскі*

*1917*

## ОДГУКІ

Не мяркуючы з тым, што да гэтага часу рабіла Вялікая беларуская рада, Першы Усебеларускі з'езд у Мінску[1] выклікаў одгук з боку мясцовых расійскіх і польскіх газет. Расійскія, злашча[2] с.-р.-скія[3] газеты спачатку трымаліся бальшавіцкага тону, а пасля разгону з'езду далучылі свой голас да агульнаграмадскага пратэсту проціў бальшавіцкага прыгону. Адна з іх, як газета «Соц. Революціонер»[4], была нават закрыта.

Але наогул расійскія газеты нават сацыялістычныя і нават федэралістаў (с.-р.) мала пра нас пішуць. Мабыць, натта ўжо затурбованы «большой» палітыкай і пагарджаюць нашым маленькім краёвым «колокольным патриотизмом». Мусіць, у іх, як і ў «комиссаров западной области» да беларускага руху, «без радости любовь».

Затое з польскага боку «гарачая і моцная любоў» так і рвецца на свет, і відаць, што тут «разлука» прынясе шмат каму вялікую «печаль». Праўда, сацыялістычныя польскія газеты аб нас маўчаць, бо, мусіць, не ведаюць нічога, — апроч органу мінскіх «народных камісараў». «Польска Правда», каторая, ба-

ронячы свае моцныя пазіцыі каля «советского пирога», вымысляе на нас усялякія небыліцы. Але нас цікавіць тая «любоў», якую выяўляе другая частка польскай прэсы — буржуазная. Найлепшы паказчык гэтага падае «Дзеннік Мінскі» ў стацці п. К. П. аб Усебеларускім з'ездзе і ў пекнай патрыятычнай дэкламацыі п. Ал. Ляс. «З-над Эссы» (№ 147).

«Даганяючы, не нацалавацца», — уздыхае п. К. П., зазначыўшы, што беларусы гостра адварачываюцца ад іх і лепей слухаюць праф. Карскага[5] і іншых, што пужаюць іх польскімі легіонамі і настроіваюць на антыпольскі лад. Але з часам, — пацяшае сябе надзеяй п. К. П., — «калі заспакоіцца гарачая эканамічная справа (зямельная. — *А. П.*), хаця мы і заплацім за гэта вялікія кошты», «пераканаюцца людзі, што за гэтым нас нічога не раздзяляе, бо самі сабою знікнуць антаганізмы: рэлігійны і нацыянальны». Гэта што датычыцца народу. А як любяць яны нашую зямельку, трэба паслухаць п. Ал. Ляс., гэтага гарусніка «культурнай» працы з-над Эссы (Барыс. павет). «Над Эссай» малюецца яму як праўдзівы закутак Божы. Добрая, сплаўная рэчка; лясочкі, каторыя лёгка даюцца да загранічнага сплаву; «хлопі бялорускє» — быўшыя вуніяты, а ў засценках і асобных сялібах «людносць польска і каталіцка», надта прывязаная да польскасці і касцёлу, працавітая і заможная і, нягледзячы на царскі ўціск, захаваўшая традыцыі, веру, звычаі і зямлю. Толькі «обыватэльство» (памешчыкі) нікуды нягоднае, нічым не цікавіцца, забылася аб Польшчы і, пэўне, з маскалямі б здружылася, каб не некалькі «дзеячоў з Польшчы», каторых занесла над Эссу выгнанне. І, дзякуючы ім, «обыватэльство» ўваскрэсла. Завязаліся стасункі з Польскаю Радаю ў Мінску, адчыніліся ў некаторых пунктах польскія школы і г. д. Але ўсё гэта рушылася, як прыйшоў «хлоп бялорускі» і паразганяў тых, што рабілі тут «культурную працу» і завязвалі стасункі з Польскай Радай у Мінску. Прыйшлося ўцякаць з-над Эссы.

П. Ал. Ляс. скарыўся і з хрысціянскім смірэнствам упэўняе: «Няхай падаюць на нас цяжкія ўдары, але мы не кінем нашага краю, не аддамо гэтае зямлі, гэтае найдаражэйшае спадшчыны па бацькох, — будзем бараніць яе дастатку. Няхай няшчасце зробіць нас шляхетнейшымі, няхай узмоцніць злучанасць нашага далёкага кутка з усім польскім краем». А калі няшчасце абудзіць чуласць «обыватэльства» да Польшчы, то п. Ал. Ляс. гатоў благаславіць гэтае няшчасце.

Слухайце, пане К. П., і разумейце, што не праф. Карскі з іншымі настроіваюць проціў вас народ беларускі. Зразумейце, што калі слова «прыгоншчык» зрабілася адназначным слову «паляк», то тут вашая віна перад польскім народам, і праз гэтае народ беларускі ніколі не пацалуецца з вамі, хоць бы вы дагнялі яго з усіх сіл. Як вольны з вольным, роўны з роўным, пойдзе ён, працоўны беларускі народ, поруч з другімі народамі, а ў тым ліку і з польскім, але не з вамі, прыхваснямі польскага імперыялізму, хоць бы вы былі і тутэйшымі здраднікамі і перакінчыкамі, забыўшымі бацьку і мацяр сваю.

Пара зразумець, што вашага «стану посядання»[6] на Беларусі няма і не можа быць. Гэты стан пасядання трымаўся на зямельнай уласнасці, каторая павінна перайсці да яе праўдзівага, адвечнага гаспадара — «хлопа бялорускего», як вы яшчэ і цяпер называеце гаспадароў зямлі беларускай. Грунтуючыся на забранай у нас зямельнай уласнасці, вы заводзілі тут свае польскія «пляцоўкі»[7], забеспячаючы сабе лягчэйшую абарону «стану посядання». Вы перарабляеце «людносць католіцкую» на «народ польскі», паслугуючыся ўплывам на народ вашых духоўнікаў і працаю школ «Мацержы»[8], у якіх дзетак беларускага сялянства першым чынам навучаюць здрадніцтву і на пытанне «хто ты?» адказваць, што — «поляк». Супольна з братамі сваімі з маскоўскага боку, панасаджанымі на шыю нашую расійскім самадзяржавіем, вы загналі народ наш на самы дол, даючы яму заміж хлеба камень, заміж свету — цемру, заміж нацыянальнай свядомасці — здрадніцтва і рэнегацтва. Але гэта скончылася!..

Вуснамі пана Ал. Ляс. вы запэўняеце, што будзеце бараніць свае землі... Ось гэта і падае нам думку, што вашыя легіоны за дапамогаю... трымаюцца на нашых Беларускіх абшарах дзеля акупацыі.

Зямлю нашую вы называеце «найдаражэйшаю спадшчынаю па бацьках», — дык хіба ж с е л я н і н  Б е л а р у с і, хіба ж народ беларускі, гэты спрадвечны яе насельнік, — х і б а  ё н  в а ш  б а ц ь к а?.. Вы дамагаецеся большай спаяльнасці Беларусі з «Польскім краем», — а ці запыталі вы ў народу беларускага, пачом абышлася яму гэтая спаяльнасць? Ці ведаеце вы, што гэтыя падсуседзі з Польшчай і Маскоўшчынай сталі яму косткай у горле? Што гэтае падсуседства абдзёрла, абгалаціла яго і пазбавіла мення і ўласнага імені?

Не, — Масква і Варшава не святы, а страшны выраз для беларуса, і не Расію і Польшчу назаве ён маткаю сваею! Мат-

каю народу Беларускага будзе яго «тутэйшая», Беларуская зямля, вольная, незалежная Народная Беларусь. А калі вы, калі «обыватэльству» вашаму так жадаецца «святоі спаяльнасці», дык можаце саўсім зліцца з кім ахвота вашая будзе, але зямельку нашую, каторую вы з такім запалам збіраецеся бараніць (ад каго і якім спосабам?), мусіце пакінуць народу. Вы пакепліваеце з нас, што мы так заняты зямельным пытаннем. Так, бо зямельнае пытанне — частка нашага нацыянальнага пытання, бо народ наш да гэтага часу быў у аблозе. Навокал яго сядзелі ворагі і з усіх бакоў будавалі «пляцоўкі» — у грамадскіх установах — маскоўскія, у дварох — польскія. Зруйнаваць гэтыя пляцоўкі — гэта першы крок у бок аслабанення нашага народу ад усякага ўціску: і матэрыяльнага і культурнага. З гэтага павінна пачацца нашае з вамі паквітанне... А потым? Потым прыходзьце і служыце народу нашаму. Іншага шляху для вас мы не бачым, бо яго няма.

На Беларусі, сярод сялянства, мяшчанства і засцянковай шляхты палякаў няма, апроч тых, каторым вы сваею «культурнай працаю» задурылі галаву і закруцілі мазгі. Калі ж нам даводзяць праціўнае, то гэта сведчыць толькі, што там моцна прышчэплена тая навука бескрывавых забораў, да якіх так здольны нямецкія імперыялісты. Што гэта так — пра гэта даводзіць нам той запал, з якім вы трымаецеся за свае пляцоўкі, як, напр., у касцеле, адкуль праганяеце ксяндзоў беларусаў і беларускую мову, — той запал, з якім вы выстаўляеце свае культурныя заслугі, і той паспех, з якім збіраеце свaё войска на нашай зямлі — проціў каго? Проціў Германіі? Цэнтральных дзяржаваў? Ваш пратэст проці III украінскага універсалу, дэлегацыя «обыватэльства Літвы і Беларусі» ў Берлін аб прылучэнні Літвы і Беларусі да Польшчы — даюць ясны адказ, дзеля якой мэты арганізуеце вы на нашай зямлі польскія легіоны.

Але не будзе гэтага!..

*А. Прушынскі*

*1917–1918*

# УВАГІ ДА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ

«У істоце ўсякі нацыянальны рух мае мяшчанскі (буржуазны) характар і заўсёды становіцца ў адпор сацыяльным надзеям і дамаганням работніцкага стану».
«Нацыянальнае пачуццё падтрымліваецца і шырыцца валадарнымі станамі, каторым трэба падзяліць работнікаў, каб потым лягчэй было разбіваць іх у борках за эканамічныя паляпшэнні».

Такія, цалкам хвальшывыя погляды пашыраюцца шмат кім з правадыроў сучаснага (з бальшавіцкім нахілам) сацыялістычнага руху, якія, добра запамятаваўшы сабе словы граматы камуністаў: «работнікі не маюць бацькаўшчыны. Нельга пазбавіць іх таго, чаго ў іх няма», забыліся саўсім аб правіле: «спосаб разумавання марксізму дыялектычны».

Заданнем нашым не ёсць спрэчка з такімі сацыялістамі, але залічаем не лішнім сказаць некалькі слоў аб прычыне, змушаючай іх адступаць ад здаровага спосабу разумавання і правідловых поглядаў.

Прычына гэтая — псіхалагічнага парадку і мае пачатак у характары той працы, якую прыходзіцца рабіць сацыялісту.

Сацыялістычны ўстрой[1] — антытэза сучаснага ўстрою. Ён мае запанаваць толькі на грузах цяперашняга супольства*. Сацыялістычная ідэя — гэта брадзільны пачатак новых кшталтаў[2] жыцця ў цяперашнім устрою, заўсёды яму варожы і не свой. Праца сацыяліста скіравана да будавання гмаху новага жыцця сярод сучаснасці, каторую ён няўпынна намагаецца зруйнаваць, праз што заўсёды павінен быць на старожы, бо навокал яго непрыяцельскі кош[3]. Тысячы небяспячэнстваў пагражаюць яму — воіну за будучыну — у кожным мамэнце, а наперадзе свеціць вялікая «ваенная дабыча». І няма дзіва, што часамі ў ваяўнічым запале, а часам паддаўшыся слабасці, ён можа згубіць меру

* Слова «супольства» азначае гэтта суму дзяржаўна- і прыватнапраўнічых, таксама гаспадарчых адносін, якія пануюць паміж людзьмі, т. е. тое, што ў расійскай тэрміналогіі разумеецца пад слоўмі «социальный порядок».

відочных рэчаў і часу. Бо і сацыяліст мусіць прызнацца: «чалавек я, і ўсё чалавечае мной уладае». Тады яму здаецца, што мэта, да якой кіруецца ўсё яго духоўнае жыццё, ужо саўсім блізка і каб яе дастаць — досыць ступіць яшчэ адзін толькі крок ці выцягнуць руку. Тая грамадская сіла, на якую апіраючыся спадзяецца ён дасягнуць свае мэты, — пралетарыят, работнікі, — перацэніваецца[4] ім у такі мамэнт, здаецца мажнейшай[5], чым ёсць напраўду, бо яму, каторы заглядзеўся ў будучыну, чакаючы найбарзджэйшага яе зышчэння[6], моцна хочацца ўзмацавання гэтай сілы, каб, калі можна, зараз жа пераскочыць з «панства прымусу ў панства свабоды».

Моцнае бажанне найхутчэйшага зышчэння яго ідэалу, а часамі, у слабых людзей, і жаданне самому ўступіць у «зямлю абяцаную» — вось той псіхалагічны чыннік[7], які часамі змушае сацыяліста адступаць і ад гістарычнай праўды і ад правідловага спосабу разумавання.

Чыннік гэты, здаралася, панаваў часова і над людзьмі вялікай разумовай сілы і здольнасцяў. Сацыялісты-брэдоўцы (утапісты), як Оўэн[8], Сен-Сімон[9], Фур'е[10], Курбэ[11], — людзі вялікай аналітычнай моцы, найлепей за ўсіх сваіх сучаснікаў бачыўшыя хібы акаляючага іх свету, рабіліся дзяцьмі, як толькі пачыналі думаць аб будучыні. Ім здавалася, што для шпаркай, феерычна простай перабудовы супольства, апрача трафна[12] накрэсованага плану, трэба саўсім нямнога: толькі агульнай згоды, толькі паспалітай[13] добрай (як у іх) волі.

І з вядомых сацыялістаў т. зв. «навуковай школы» не ўсе былі чужымі гэтаму граху. Напрыклад, калі ў 1898 г. германская сац.-дэм. партыя атрымала першы раз на выбарах у рэйхстаг каля 3-х мільёнаў галасоў за сваіх кандыдатаў, адзін з бацькоў гэтай школы, Энгельс[14], паддаўся самаашуканству і прарочыў, што ў хуткім часе, усяго праз некалькі гадоў, мусіць наступіць сацыялізм.

Гэты ж чыннік, здаецца нам, ляжаў у грунце моцнага проціміліταрнага эрвэістскага руху ў Францыі, хаця жыццё зрабіла потым з Эрвэ[15] заядлейшага мілітарыста.

Ён жа выклікае ў жыццё і анархізм, які ў сваім тэарэтычным засноўку і практычных праявах ёсць не больш як бяссільны пратэст проціў сучаснасці.

Калі з такога пункту паглядзець на праявы расійскага грамадскага жыцця, пачынаючы ад марца 1917 году, то шмат якія з іх зробяцца і яснейшымі і больш зразумелымі, а паміж імі і тая неспагаднасць, з якой расійскія «цэнтральныя» і «левыя» сацыялісты адносіліся к праявам нацыянальнай свядомасці і на-

цыянальна-палітычнага руху сярод невялікарускіх народаў імперыі. «Дзеля таго, што ім так бажалася — ім так і здавалася». Ім, расійскім сацыялістам, такі доўгі час у кляшчатках найцяжэйшага самаўладства марыўшым аб свабодзе і так раптоўна, неспадзявана для сябе пазбаўленым усякіх перашкод, выскачыўшым з падполля на шырокае поле дзяржаўнага будаўніцтва, уроілася, што «другі дзень пасля сацыяльнай рэвалюцыі» мае быць «заўтра», а «першы» ўжо настаў «сягоння». Колькасць гэтых тэрмінаў не ўсімі, канечне, лічылася аднаковай, што залежала толькі ад характараў і дасвядчэння асобных людзей, але ад ніякіх праграмаў і тэорыяў.

Людзі больш спакойнага характару і лепшага тэарэтычнага і жыццёвага дасведчання расцягвалі «сягоння» і аддалялі «заўтра» на няпэўна доўгі час, гарачэйшыя з натуры аблічалі «сягоння» ў 10–15 гадоў, а «заўтра» паказвалася ім ужо ў малюнку праўдзівага Эдэму; а маласвядомыя і саўсім цёмныя навіцыушы[16] сацыялізму, у якіх перарабілася большая часць салдацкай, работніцкай і сялянскай люднасці ў Расіі, думалі проста: што «сягоння» гэта зараз жа, — як сказаць, а «заўтра» мае быць праз 24 гадзіны, і да такога разумення стараліся стасаваць свае ўчынкі.

І праявы нацыянальнага руху (які здаецца агульнанародным, але бывае такім вельмі рэдка) здаваліся большай часці з іх (расійскіх сацыялістаў) і непатрэбнымі і шкадлівымі для інтарэсаў неваладарных станаў, работніцкага і сялянскага. Нашто дзяліцца, калі наступіў час агульнага карыстання агульным дабром? Дзеля чаго драбіць свае сілы, калі патрэбна з'яднанне ўсіх для абароны «новага супольства»? Нашто гэтыя «мовы», «культуры» — забыткі[17] старога свету, калі заступіла на зямлю святая вестка ўсясветнага брацтва? Няйначай — гэта «работа мяшчанства». А калі нават гэта рух і самога працоўнага люду, то гэта адсталасць, якой не павінна быць месца ў сучаснасці. І адсюль: вайна словам, агнём і мячом проці нацыянальнага адраджэння. Вось прычына, якая змушае некаторых правадыроў сацыялізму ў Расіі і іх вучняў шырыць сярод паспольства хвальшывыя погляды на нацыянальнае пытанне і нацыянальны рух.

Другой няма. Праўдзівы, не заражаны псіхозам сацыяльнага бунту сацыяліст ніколі не ашукаецца ў значэнні слоў граматы камуністаў: «работнікі не маюць бацькаўшчыны. Нельга пазбавіць іх таго, чаго ў іх няма».

*1918*

# З ЦЯЖКІМ ВОЗАМ НА ГНІЛОЙ ГРЭБЛІ

Яшчэ не настаў час пісаць гісторыю перажытых нядаўна Беларуссю дзел. Яшчэ мы няпэўныя ў яе долі. Але карысным будзе цяпер, у цішэйшых варунках[1], зрабіць кароткі агляд пройдзенай дарогі і можа ўзяць стуль якую навуку для сваіх сягоняшніх крокаў. Тым важней зрабіць гэта цяпер, што, зноў скажам, мы не можам мець пэўнасці. Можа калі мы спознімся з гэтым цяпер, то потым нам ужо не пазволяць нічога зрабіць. Можа і само імя беларуса будзе забаронена. Быў жа некалі «Северо-Западный край»[2], была ж «Область» замест Беларусі...

Пачатак шырокай арганізацыйнай працы на гэтым, не занятым тады яшчэ немцамі баку Беларусі, умажлівіўся толькі з пачаткам рэвалюцыі ў Расіі. Калі мы азірнемся на той час, то ўбачым, што духоўныя праведцы беларускага дзяржаўнага руху спачатку сталі на праўдзівую дарогу.

Першы нацыянальны камітэт[3] паставіў сваёй мэтай аб'яднанне ўсяго народу дзеля дасягнення ім, глаўным чынам, нацыянальна-палітычнага ідэалу. Дзеячы беларускія зразумелі, што перш за ўсё патрэбны нацыянальная еднасць і магчымасць самаазначэння, а рэшта дадаецца само праз сябе, у парадку будоўлі ўласнай хаты. Праўда, хата гэта мыслілася тады яшчэ як пакой з асобнымі дзвярыма ў служнай хароміне расійскай федэрацыі, але, зразумела, што іначай не магло і не павінна было быць. Кепскім суседам лічыўся б той народ, каторы, маючы прад вачыма магчымасць добра ўжыцца з сваімі суседзямі, не папрабаваў бы выкарыстаць гэту магчымасць да канца.

Нацыянальны камітэт адразу пачаў шырокую працу. Выдаваліся адозвы да ўсіх станаў[4], у якіх народ заклікаўся да нацыянальнадзяржаўнай арганізацыі і будаўніцтва, паложаны быў пачатак нацыянальнаму фонду, заснавана было «Таварыства Беларускай Культуры», якое потым мелася зрабіцца народным міністэрствам прасветы, завязваліся стасункі з беларусамі, вялікімі масамі служыўшымі ў рускай арміі, пасылаліся дэлегацыі ў урадавыя расійскія цэнтры для абароны беларускай справы.

Але рэвалюцыя толькі паманула магчымасцю творчай працы, а самай магчымасці не стварыла. Новы расійскі «цэнтр» — сацыялісты, ці бліжэй дэмагогі ў сацыялістычных вопратках, не раздзяляючы кірункаў, с.-р. — ці бальшавікі, не веручы ў розум народа, баючыся, каб «буржуазныя» ўрады не «абдурылі» народу галаву, сам узяўся за гэту работу і пачаў выкідаць адін

за другім правакацыйныя лозунгі недаверыя да ўлады. «Углубленне рэвалюцыі» з цэнтру перакінулася і да нас. Зрабілася гэта тым лягчэй, што тут быў фронт, куды насылаліся тысячы агітатараў, тысячы пудоў правакацыйнай «літаратуры», і ў канцы тут быў «зем-саюз»[5], свой пастаўшчык усялякіх дэмагогаў, з каторых кожан думаў калі не аб міністэрстве, то, прынамсі, аб якім-небудзь камісарстве ці дэлегацтве.

Дзеячы Нацыянальнага камітэту апынуліся аколянымі[6] атмасферай лгарства, дэмагогіі, правакацыі і, не маючы ў сабе досіць унутранай сілы, каб змагацца з усім гэтым, адступілі. «Сацыялістычная» рэвалюцыя пачалася і на Беларусі...

«Сацыялістычную» рэвалюцыю Беларусь спаткала, не маючы моцнага, добра арганізаванага меськага пралетарыяту, з адным цёмным, забітым многавяковым гнётам з боку чужынцаў сялянствам. Праўда, сялянства гэта данясло і да апошняга часу сваю пашану да закону, да прыватнай уласнасці, маець вялікую неахвоту да чужынцаў, хціва прабіваецца да асветы і разумее яе карысць, але гэтыя добрыя прыкметы не памаглі яму ў патрэбны час. Надта асцярожны, беларускі селянін не схацеў сам забраць у свае рукі парадку, а дапусціў да гэтага «молодцов» з Тулы, якія ўслужліва ўзяліся пазбавіць яго ад усіх няшчасцяў капіталізму, каторага Беларусь яшчэ не перажывала.

Беларусь не мела ў гарадах і свайго «трэцяга стану», драбнейшыя слаі каторага, не астаўшыся з боку такога руху, маглі б надаць яму нацыянальны характар, як то рабілася ў Расіі, дзе крамнікі і рамесленікі абасноўвалі ідэёва с.-р. і бальшавіцкі цэнтралізм. Адукаваныя варствы[7] не былі народнымі: шляхоцкая часць, будучы «польскай», пагарджала «хлопствам», яго баялася і не любіла, а так званыя «разначынцы», дастаўляўшыя, глаўным чынам, працаўнікоў ва ўсякія расійскія канцыляріі, прапіталіся наскрозь духам расійскага бюракратызму і не аказаліся здольнымі да творчасці.

Невялічкія сілы яшчэ маладой і да гэтага падпаўшай разгрому ў 1906–1908 гадах беларускай сацыялістычнай партыі апыніліся ў надта цяжкіх варунках.

Тое, што паўсюдах навокал іх чуліся варожыя галасы; тое, што правакацыя дэмагогаў цэнтралістаў сыпалася аднакова і на сацыялістаў, стварыўшых новы нацыянальны цэнтр замест кааліцыйнага Нацыянальнага камітэту; тое, у канцы, што на гэту правакацыю лавіўся цёмны беларускі народ, — усё змушала беларускіх сацыялістаў «ісці ў кантакце» з рускай рэвалюцыяй. Кінуты рускай рэвалюцыяй лозунг: «далоў кааліцыю»

павінен быў прыняцца і імі, хаця беларускаму народу, як ніякому другому, гэта кааліцыя была патрэбна дзеля слабасці яго нацыянальных інтэлігентных сілаў. Мы павінны прызнаць, што гэта быў ядыны выхад для таго часу. Але як мала ён даў скуткаў! Замест стварэння моцнага, здольнага да дзяржаўна-арганізацыйнай працы цэнтру, тварыліся цэнтры на абраз і падобнасць расійскіх «исполкомов», праўда, лепшыя чым расійскія гаварыльні і пякарні рэзалюцыяў, бо пранятыя духам патрыятызму, але слабыя і мала здольныя да працы.

Усё ж такі гэта былі цэнтры, каля каторых збіралася беларуская свядомасць, пачці стыхійна ўзрастаўшая ў народзе і асабліва сярод войска. І папіханыя ўперад па дарозе чыну беларускія цэнтры — Цэнтральная Рада, а потым Вялікая Рада, станавіліся ўсё смялейшымі ў сваіх дамаганнях перад Расійскімі ўрадамі і ў сваіх арганізацыйных планах. Поруч з стараннем стварыць уласнае войска з'явілася думка склікаць першы агульнабеларускі з'езд.

Ось тутака і выявілася трагічнасць таго ўнутранага становішча, у якім знаходзіліся ўвесь час сацыялістычныя кіраўнікі беларускага нацыянальнага руху, яны добра разумелі, што каб надаць такому з'езду характар нацыянальнага кангрэсу, трэба, каб ён прадстаўляў увесь народ з яго заможнымі і незаможнымі станамі, а «кантакт» з ходам падзеяў Расіі вымагаў, каб аб «буржуазіі» нават і спаміну не было. Але на помач прыйшлі незалежныя ад сацыялістаў прычыны. Як ведама, у Расіі ад пачатку рэвалюцыі саўсім не стала палітычных партыяў правей к. д.[8] Ідэолагі станавых інтарэсаў перасунуліся ўлева і занялі не ўласцівыя ім мейсцы, абы б хоць як бараніць справаў сваіх станаў. Беларусь, ніколі не ведаўшая арганізаванай абароны інтарэсаў сваёй нацыянальнай буржуазіі, бо такавая як стан да беларушчыны ніколі і не прызнавалася, аказалася ў «лепшым», чым Расія, становішчы, — яна не мела партыяў і арганізацыяў, якія б стаялі правей за народных сацыялістаў. А ў земствах і гарадах гару ўзялі расійскія с.-р., якія ў сваіх шарэнгах, асабліва на Беларусі, мелі нават быўшых члонкаў[9] «союза истинно русских людей» і «Архангела Михаила».

З'езд склікаўся Вялікай Радай з трыма другімі беларускімі арганізацыямі: краёвым арганізацыйным бюро, рэпрэзентаваўшым[10] правыя і масквафільскія элементы, хаця і пад флагам расійскіх рэвалюцыйных партыяў, выканаўчым камітэтам 2 бежанскага з'езду ў Маскве, таксама рэпрэзентаваўшым хаця і шчыра беларускія, але масквафільскія тэндэнцыі, і з абласным

беларускім бюро пры Усерасійскай Сялянскай Радзе дэпутатаў, — арганізацыя права-с.-р.-ская і масквафільская.

З'езд налічаў 1167 дэлегатаў з правам пастанаўляючага, 705 з правам дарадчага голасу. Цывільныя дэлегаты на ім мелі перавагу, — разам дарадчых і пастанаўляючых 1156 галасоў. Яны прадстаўлялі земствы, гарады, кааператыўныя аб'яднанні, зямельныя і харчовыя камітэты, рады сялянскіх дэпутатаў і рады работніцкіх дэпутатаў, а таксама бежанскія, палітычныя і культурныя арганізацыі, каторыя разам мелі каля 300 галасоў з агульнай лічбы. Прыймаючы пад увагу працу, зробленую з'ездам да яго разгону 18 снежня, і разглядзеўшы рэзалюцыі, прынятыя з'ездам да і пасля афіцыяльнага разгону, трэба прызнаць яго ўдачным з боку нацыянальнага і саўсім няўдачным з боку дзяржаўнага, будаўнічага. Нацыянальны здабытак з'езду — гэта прызнанне ім нязгоднасці беларускіх інтарэсаў з інтарэсамі дзяржаўнага вялікарускага цэнтру і патрэбы для Беларусі свайго краёва-тэрытарыяльнага органу Улады. Мінусам было прызнанне, што гэты орган павінен быць пабудаваным на расійскі кшталт[11], павінен быць «Усебеларускаю Радаю Работніцкіх, Сялянскіх і Салдацкіх дэпутатаў». Такое прызнанне «совдеповской» сістэмы было ўступкай на карысць бушаваўшага навокал, ды і па самой Беларусі на фронце, расійскага бальшавізму.

Кароткі яшчэ пражыты намі час нямецкай акупацыі выявіў усю штучнасць і нежыццёвасць прынятай З'ездам пад прымусам акаляючых умоваў сістэмы ўлады. Адарваная ад расійскага анархічнага безначалія, яна аказалася мёртвай. Замкнуўшыся ў рамкі аднаго стану, Рада і створаны ёю Сакратарыят нічога не здолелі зрабіць.

Так з цяжкім возам народнай палітычна-нацыянальнай цемнаты і недасвячэння Беларусь, едучы па гнілой грэблі ўсерасійскага бязладу, не пасунулася далей першай вярсты...

Цяпер смялей, беларускія фурманы! Грэбля скончылася. Перад вашым возам шырокая гладкая шоса еўрапейскай дзяржаўнасці.

*А. Навадворскі*

*1918*

# СКРЫПТЫ ШАВІНІСТА

## I

Адкуль знянацку ўзялося ў бальшавікоў гэтакае міралюбства? Цэнтральны выкан(аўчы) камітэт «советов» у Петраградзе значнай большасцю прыймае мірны дагавор з Германіяй, «савет народных камісараў» праз камісара нацыянальных справаў аб'яўляе аб запыненні непрыязні між народамі (?) Расіі і Украіны, зноў жа «Смольняне»[1] падпісалі трактат з рэвалюцыйным урадам Фінляндзіі[2], на моцы якога абавязаліся ачысціць Фінляндзію ад свайго войска (а значыць і «чырвонай» арміі?); — што гэта значыць?

Зрабіўся буржуем «таварыш» Крыленка?[3] Ці ўзнёсся жывым у рай «нарком» чырвонай арміі Дыбенка?[4] Ці пачырванелі ў Фінляндзіі белагвардзейцы? Ці можа сацыялізіравалі, раздзялілі ўсім па кавалачку: Грушэўскі[5] — свой розум, Віннічэнка[6] — артызм і паношаную, але яшчэ добрую марынарку[7], «буржуазная украінская Рада», у якой засядала каля 700 буржуяў з украінскіх с.-р. і с.-д., — сваю «буржуазнасць»?

Ой не! Жывець «пралетарый» Крыленка, ходзіць па зямлі «нарком» Дыбенка, бялеюць фінскія гвардзейцы, трымаюць пры сабе сваю буржуазнасць украінскія с.-р. і с.-д. Дык адкуль жа цуд гэты з бальшавікамі? І якраз пасля таго, як дэмагогі адабралі ў гогаў Новачаркаск?

А для цуду патрэбна было, каб з'явіліся з заходу і ўсходу мільёны анёлаў згоды і прапісалі бальшавіком артыкулы правілаў жыцця «павэдлуг Боскага і людскіх законаў».

Часамі скажаш, як тое агароднае пужала ў Выспянскага «Wesel'ю»: «меў ты, хаме, волі рог!»[8]

*А. Навадворскі*

## II

«Мы жылі палавінным жыццём, трымаліся ў дзеяльнасці палавічных спосабаў і мелі сярод сябе агромны лік поў-палякаў». Час поў-жыцця, поў-спосабаў прамінуў. Цяпер трэба «ясна думаць, горача пачуваць, у паступках быць пэўным і няўломным». Для гэтага трэба мець свядомасць, хто ты і што. Звычайна на запытанне «хто ты?» «на крэсах нашых не многія адказ-

валі ясна і коратка: я паляк!» Замест такога адказу, каторы сам сабою з'яўляецца цэлай праграмай працы ў гэтым краю, шмат хто абазначаў сябе нічога не значучым імем «тутэйшага». «Другія, дастаўшы з сямейных архіваў беларускія дакументы, тлумачыліся, што з роду яны беларусы, а культуру маюць польскую». У перажываны момант «мусім пералічыць свае рады.., ведаць, хто з нас і колькі з нас стане да шчырай, польскай, блізкай сабе працы». «А поў-палякі няхай скінуць маскі і адступяць ад святой справы».

Гэта — з артыкула п. М. Даманскай у № 46 «Дзенніка Мінскага».

* * *

Якія добрыя, праўдзівыя, патрыятычныя мыслі! Каб замест слоў «паляк, палякі» падставіць «беларус, беларусы», то можна было б з'архітэктанізаваць пекны артыкул на балючую беларускую тэму.

Сапраўды нам трэба, каб усе гэтыя палавічнікі яшчэ раз пераглядзелі свае старыя «беларускія дакументы», метрыкі і фармуляры і хоць адзін раз у сваём жыцці шчыра і адкрыта сказалі, кім яны ёсць. Уласных, кроўных сваіх «спагадачоў» толькі нам цяпер не трэба. «Хай... адступяць ад святой справы» і, найлепей, едуць аздабляць сабою варшаўскія і маскоўскія, — залежна ад культуры — брукі.

«Баба з калёс — каню лягчэй».

*А. Навадворскі*

## III

Часамі дзіву дасіся, чалавек: адкуль такія спрытныя людзі бяруцца?

У добрай кумпаніі ён табе анекдотамі як з торбы сыпе, цікавымі апавяданнямі і вясёлымі жартачкамі нікому занудзіцца не дасць; у новага павятовага начальніка праз дзень сваім чалавекам робіцца — і частуе пана начальніка свежай цыгарай, і памагае выбіраць пані начальнічцы матар'ял на сукню, і падкідае на руках Мішаньку і Валодзеньку, і робіць строгую нагану[1] кухарцы за перасмажаных курчатаў.

На хрэсьбінах, імянінах, вяселлях, хаўтурах — паўсюдах ён. З усімі ён знаёмы, і ўсе яго ведаюць, прыймаюць і любяць, як учцівага і патрэбнага чалавека.

І нікога не дзівіць, калі ў тэстамэнце хцівай, любіўшай катоў і мопсаў больш за сіротаў-унучак старой квотніцы[2] яму акажуцца запісанымі дзесяць тысячаў, ці калі шчаслівым уладаром спорнага кавалка мясцовага грунту, за які 50 гадоў ішлі суды паміж месцам і сіроцкім судом, акажацца ён жа, хаця б імя яго ні разу не ўспаміналася ў працягу даўгалетняй спрэчкі.

Нават не прыгадаеш, што з такога чалавека спадзявацца можна.

Праўда, часамі абываталь бачыць, як да ляжачага ў нечыяй шкатуле золата працягваецца пекная, ценкая, з залатымі пярсцёнкамі на артыстычных доўгіх пальцах, з брыллянтовай спінкай у белым манкеце, адцянёная рукавом сурдута з чыстага ангельскага сукна, таемная, вісячая ў паветры рука.

Працягваецца асцярожна, скрадаючыся, здаецца, аглядуючыся навокал і пры найменшай трывозе хаваючыся сярод белага дня няма ведама гдзе.

І хаця здаецца абываталю, што ён ведае гэтую руку, бачыў гэтыя пальцы картуючымі калоду для вячэрняга сямейнага прэферансіка, але праміль̆гнуўшая візыя нічога не застаўляе ў памяці, і стасункі да спрытнага чалавека астаюцца найлепшымі.

Ён усё і ўсюдых гэты шчаслівец і з усяго скарыстае!

На такія, крыху нават зайздросныя мыслі можа навясці кавалачак з хронікі аднэй з тутэйшых газетаў. У ім чорным па беламу надрукована, што на прапазіцыю, зробленую ад Менскага пачтова-тэлеграфнага начальства польскаму прадстаўніцтву, каб вярнуць толькі частку (?) сумы (а не малая ж сума: 8½ мільёна грашмі і 14 мільёнаў працэнтнымі паперамі!), узятай польскімі легіянерамі з почты, пасля уцечкі бальшавікоў, начальнік пачтова-тэлеграфнага округу атрымаў ад польскага прадстаўніцтва такі адказ:

«Прэтэнзіі начальніка округу прыняты пад увагу і будуць разгледжаны Польскім Урадам пры рэгуліраванню ўзаемных стасункаў Урадаў Польскага і Рускага».

Якое аднашэнне Польскі Урад мае да менскіх грошы?

Хто калі мог падумаць, што грошы з почты у «Minsku Litewskim» павінны папасць у скарбонку да «ржонду Варшавскэго»?

— Спрыт! Праўдзівы спрыт! І глаўнае, што тую здрадніцкую **тутэйшую** руку, якая пасняшыла выхапіць з шкатулы

**тутэйшыя** грошы і перадаць іх чужому, Польскаму Ураду, ніхто не злавіў.

Ды і лавіць няма каму, бо праўдзівы гаспадар, выгнаны бальшавікамі, яшчэ не вярнуўся.

Эх, гора, гора!

*А. Навадворскі*

## IV

«...Пані Калантай[1] выйшла ў адстаўку, пакінуўшы пост камісара апекі...» «Кажуць, што гэта знаходзіцца ў звязку з арэштам яе мужа, быўшага камісара Дыбенка...»

«Ульянава назначаецца замясціцелем камісара прасветы ў Маскоўскім округу». «Кандыдаткай на пост, займаны п. Калантай, займець жонка Леніна».

Калі да гэтых свежых газетных вестак дадаць яшчэ, што жонка «главковерха» — Крыленка — п. Крыленчыха была главковыдаўцам нябожчыцы «Акопнай праўды»[2], у якую спрытна закопывала сотні тысяч «керанскіх і царскіх», то прыходзіш да высноўку, што бальшавіцкая ўлада з натуры сваёй мае матрыманіяльны характар. Усе пары: Крыленка — Крыленчыха, Ульянаў — Ульянчыха, Дыбенка — Дыбенчыха-Калантай...

Яно і выгадней, праўда, але для каго?..

* * *

«Абласны камітэт партыі с.-р., не раздзяляючы палітыкі беларускіх арганізацыяў у пытанні аб незалежнасці Беларусі, адазваў сваіх прадстаўнікоў... п. п. Макрэева, Злобіна і Белкінда...» — Таксама з газетаў — мінскіх.

Цікавы я ведаць, дзе знаходзіцца гэты «областной комитет». Бальшавікі, таксама не згодныя з палітыкай беларусаў, зрабілі свой «Комитет Северо-западной области» ў Смаленску, адкуль «областью» мае правіць «таварыш» Вашкевіч. А «область» «т. т.» Мокреева, Злобина и Белкинда — дзе яна? Калі ўсё яшчэ ў Мінску, дык вялікая шкода, што яе не адазваў адгэтуль цэнтральны камітэт куды-небудзь у Маскву, Петраград, Разань...

Там для «области» будзе шырокае поле для працы — уся разваліваючаяся Расія — а тут... Беларусь будуецца! — «Стеснительно!»

Тым болей, што лона[3] ўсіх гэтых обласцяў — земсаюз — ліквідуецца.

«Мінчанін Янко Лапацон...» — (Мінская газ.)[4].

Нішто сабе прозвішча для беларуса... Зграбна!

*А. Навадворскі*

V

Мінская «Минская мысль» шчыра ўзялася за адукацыю Рады і Сакратарыяту. Паміж абвесткамі аб аперэце «Шалунья» і апошнімі весткамі з тэатру вайны раз-у-раз з'яўляюцца артыкулы, у якіх розныя «мэтры» планава выкладаюць думкі па дзяржаўнаму праву і міжнароднай палітыцы спецыяльна для ўжытку «собирателей земли белорусской». Што ж, адукацыя — рэч вялікая і па праўдзе для некаторых патрэбная.

Але нас цікавіць інтарэс, дзеля якога так стараюцца паны з «М. М.» І аказуецца, што старанне ідзець аб тым, каб стварыць на далей дружную супольную працу Рады і земскіх і гарадскіх самаўправаў, прадстаўнікі каторых на сваёй нарадзе ў прошлую пятніцу пастанавілі, бачыце, «запрапанаваць Радзе пераглядзець пытанне аб незалежнасці Беларусі» і пастанавілі арганізаваць «Областной Союз земств и городов Белоруссии». Бо гэтыя прадстаўнікі ж — ёсць «прадстаўнікі тутэйшых жаданняў, надзеяў, патрэб і інтарэсаў», з чым «не можа не лічыцца Рада».

Шчыра спагадаючы незалежнасці Беларусі, паны «мэтры» радзяць Радзе як найхутчэй прызнаць за сваёй граматай аб незалежнасці «значэнне толькі дэкларатыўнага акту, выясняючага пазіцыю Рады ў гэтым пытанні, і павіннага быць разгледжаным і ўхваленым Усебеларускім Устаноўчым Соймам».

Вось у гэтым жа ўвесь і інтарэс, у незалежнасці.

І не столькі ў незалежнасці Беларусі наогул, як незалежнасці ад Расіі. Бо іначай не рабілі б яны поруч з разумнымі ўвагамі такіх неразумных прапазіцыяў, як апошняя. Бо іначай успомнілі б яны, што той акт аб незалежнасці Украіны, які прачытаў праф. М. Грушэўскі ў Малой Радзе (а не на Устаноўчым Сойме п. п. прафесары), чытаўся тагды, калі ўкраінскія бальшавіцкія франтавікі разам з вялікарускімі таварышамі з усіх

бакоў рушылі на Кіеў, меў таксама не больш, як дэкларатыўнае, фактычна, значэнне, пакуль яго не прызналі цэнтральныя дзяржавы. І не дрыжэлі б так «за Беларусь» і не пужалі бы Раду абласным «Союзом земств и городов». Сучасныя «земствы» і «гарады» на Беларусі — вялікія майстры закладаць усякія «саюзы» і прымаць рэзалюцыі. На што другое то можа не, а гэта яны могуць. Мікалаеўска-Ленінскія ўрады і Мураўёўскае «брацтва» падзялілі нас гэтымі «дзеячамі» не толькі на «земствы» і «гарады», але нават на беларускія культурныя арганізацыі.

Гэта ведама нам, панове беларускія Шульгіны[1].

*А. Навадворскі*

## VI

Палякі — народ раскіданы.

Думаеце па «тром заборам»[1] толькі?

Не, па ўсім свеце.

Гэта імперыялісты «ад Бога».

Польская думка сягала некалі далёка за Маскву, польскі дух гатоў быў па-брацку «абняць за шыю» нават «схызматыка» — «маскаля».

Дзе б ні завяліся тры палякі — пад суровым паўночным Сібірскім небам ці ў даброларнай Паўднёвай Амерыцы — пачынаецца «польске жыце», адчыняецца «Nowa Polonia».

Пры такой раскіданасці сваёй тэрытарыяльнай хціваcці палякі дзіўна злучаны ў спосабах, якімі дасягаюць сваёй «гістарычнай ідэі».

«Лончносць польска»[2] — дзіўнае з'явішча ў натуры.

Сіла, ласка, пагрозы, угаворы, лёсткі, абгавор-ашуканства — усё гэта робіцца ў розных кутках зямлі рознымі людзьмі, у розных варунках, у розных пасольствах, але так зручна, але так інстынктыўна — трапна і складна, што міма волі, грэбуючы ёю, гідзячыся, пачынаеш паважаць гэтую «Łączność».

Даўно «апрацаванае» ў польска-«ojczystym» духу ўкраінскае і беларускае панства, імпартаваныя з «Крулевства» (на) «kresy wschodnie» ойчулькі[3] — адкрытыя, у парахвіях — і падпольныя, з брацтва Язусавага — вянчаюць цяпер польскім, радамі і школьнымі пацержамі на «крэсах» працу апошніх 15–20 гадоў, працу «палюбоўнага» раздзелу беларускага, украінскага, літоўскага «хлопства» на «істных» палякаў і вялікарасійцаў.

Супрацоўнікі Пабеданосцава і Сталыпіна (з другога боку, разумеецца) у ўтрыманні ў цемнаце духоўнай гэтага «хлопства», цяпер карыстаючы яго рэлігійнымі перакананнямі, фэбароўна[4] прабіваюцца локцямі на свет па-за абрубы[5] сваёй маленькай і цесненькай, але хцівай бацькаўшчыны.

Гэта тут — на «крэсах», у Украіне, на Беларусі, у Літве.

А тамака — перад светам «лончносць» выяўляецца другім сваім бокам.

У цэнтральных пунктах нейтральных дзяржаваў сядзяць польскія мінезінгеры[6] народовай дэмократыі[7], якія пяюць песні ў славу нябеска пекных вочак кааліцыі і ўбаляваюць[8] над няверностю літвінаў, украінцаў, беларусаў і іншых нявольных коаліянтаў, каторыя цяпер шукаюць апекі ў Нямеччыне.

У Варшаве актывістычны Урад тым часам гатуецца к будаванню дзяржавы з «неабходным пашырэннем на ўсходзе».

А ў Берліне, памагаючы чым можа палітыцы пашырэння, дэпутат Тромпчынскі[9] ў Глаўнай Камісіі Рэйхстагу ўсоўвае палкі ў калёсы ўкраінскай справы, заяўляючы, што сярод украінцаў 80% няграматных, а па-ўкраінску няграматных 99%, і гэткаму народу ці можа быць дана незалежнасць?

— «Чым хвалішся, Юдзе?»

Мы не ведаем яшчэ, ці разглядалася ў Глаўнай Камісіі і справа беларуская, але пэўны, што калі разглядалася, то п.п. Тромпчынскія стараліся на ёй не менш, як над украінскай справай.

Бо «лончносць польска» гэтага вымагае.

*А. Навадворскі*

## VII

2 чэрвеня...

Менск...

Захараўская...[1]

«Orzeł»[2]... «Orzeł»... «Orzeł»...

Адзін... другі... трэці... дзесяты... дваццаты!

Маўляў, стая каршуноў носяцца над галавой пабожнага люду абскубаныя польскія арлы.

Трапечуць крыллямі на парушаных ветрам пратэсах...[3]

Хцівым, жэрлівым вокам выглядаюць сабе ахвяры.

У вокнах і на балконах, на вытыканых рукамі працавітай беларускай «хлопкі» кабялцох, дзе над абразом Маткі Божай і

Збавіцеля, дзе пад імі сядзяць зноў тыя самыя, падобныя да мокрай, абскубанай вароны нахабныя, хціваокія польскія арлы.

— Што гэта?

— Дэманстрацыя?

— Маніфестацыя? — Чаго?

— Для каго? Проціў каго?

— Не, гэта рэлігійная працэсія...

— Перарobленая палякамі ў польскую маніфестацыю.

Гэта абход свята Цела Божага[4], замучанага людской няпраўдаю і адданага на пашарпанне капцюрамі драпежніка.

Гэта падмена рэлігіі на палітыку.

Гэта маральны гвалт над нацыянальным пачуццём беларускага народу, учынены праз ашуканства, праз выкарыстанне яго рэлігійнасці...

Гэта блюзнерства над рэлігіяй.

Гэта нічым не вытлумачаны недагляд духавенства, каторае ў Дом Божы пушчае махляроў, выгнаных адтуль ужо адзін раз Тым, чыё Цела вышаў з дому ўрачыстым паходам святочна ўчціць беларускі каталіцкі люд.

*А. Навадворскі*

*1918*

## ДЫБЕНКІАДА

Цікавае з'явішча ўяўлялі з сябе пасяджэнні маскоўскага рэвалюцыйнага трыбуналу, які разглядаў справу бываўшага «главкофлота» Дыбенка[1].

Незвычайны суд, незвычайныя сведкі, незвычайныя пракуратары і адвакаты. Праглядаючы адчоты аб справе, выносіш уражанне, што гэта дзеці, састроіўшы міны сур'ёзных людзей, робюць гульню ў «суд». Ведаеце, як дзеці:

— Ты, Пятрок, не так гаворыш, прадсядаталь павінен казаць так: «...»

— Што ты мяне вучыш? Я сам знаю, як на судзе робіцца, я бачыў сам.

— Ну, то я не буду гуляць...

— І як сабе хочаш!..

І так далей, і так далей. А гульня ўсё ж такі не перастае, і «суд» ідзе сваім чарадом.

Там — так сама:

Штэйнберг, быўшы камісар юстыцыі, жаліцца, што выданая ім інструкцыя для рэвалюцыйных судоў саўсім не спаўняецца. — «У царскіх судах і то было лягчэй», — кажа ён і ў канцы, пасля доўгіх і частых спрэчак з маршалкам трыбуналу, заклікае да яго таварыскага спаўчуцця.

Маршалак аб'яўляе пастанову трыбуналу:

«Запрапанаваць абароне пакінуць параўнанне трыбуналу з царскім судом і на нетаварыскія стасункі не спасылацца».

— З табой гуляць нельга!

— Ну, то і не гуляй!

Але тое, на што хадзіла дзівіцца ў рэвалюцыйны трыбунал публічнасць, не было дзяцінай гульнёй. Гэта судзілася рэвалюцыйная Расія.

— А мяне, ведаеце, цікавіць ваша біяграфія, — кажа «вінавайца» Дыбенка.

— Мая біяграфія яшчэ наперадзе, — прэ «пракуратар» Крыленка на хлуслівае запытанне.

Крыленка абмыліўся: наперадзе ў яго ўжо няма біяграфіі. Уся яна асталася разгледжанай тутака, на гэтым «судзе Дыбенка», разам з біяграфіямі яго таварышаў па партыйнай і «дзяржаўнай» рабоце, пачынаючы ад глаўнага «наркамісара» Леніна і канчаючы тым матросам, каторага вывелі з публікі за неспакойнае ўтрыманне сябе ў часе дапросу Дыбенкі.

Гэта — біяграфія ўсёй расійскай рэвалюцыі, ад «прыказу № 1» да цяперашніх радыё, рассыланых Леніным.

Дыбенка не было за што судзіць. Гэта сімвал, а нерэальныя рэчы не павінны разглядацца кім бы то ні было.

Чудо ўсерасійскі «богатырь» матрос Дыбенка, усерасійскі «адданы пралетарыяту і рэвалюцыі», сляпы падпольны крот, «інтэлігент» партыі Крыленка не падлягаюць ні царскаму, ні рэспубліканскаму ні суду, ні рэвалюцыйнаму трыбуналу. Сучаснікі могуць быць проціў іх, могуць змагацца з імі, а суд... падзеі ўжо выносяць над імі свой суд, зганяючы іх усіх пад адзін дах і змушаючы тамака займацца ўзаемнай грызнёй.

Бо хіба ж гэта, пры ўсёй сур'ёзнасці прыбраных на сябе мінаў, суд, а не грызня, старая камітэцкая, «таварыская» грызня, — тое, што рабілася ў трыбунале?

Хіба Крыленка, навекі слаўны адгэтуль у гісторыі Маскоўшчыны «главковерх», той самы, аб якім сведкі казалі яму ж у вочы, што ад яго: ваеннай свядомасці — «як ад казла малака», —

хіба ён мог, меў маральнае ці якое іншае права магчы выступаць як пракуратар?

— Чаму я павінен за яго несці адказ? — пытаецца Дыбенка, пратэстуючы проці далучэння дакументаў аб некім Гадлеўскім, члене яго партызанскага аддзелу, каторы ўчыняў расстрэлы без суда. — Мала каго ён ні расстрэліваў? То ж і Духоніна забілі пры Крыленку. Ён жа не нясе адказу за гэтае забіўства?

Так, Крыленка фармальна не станавіўся вінавайцаю на гэтым судзе. Наадварот, выступаючы пракуратарам, ён скрупутна стараўся давесці перад судом, што Дыбенка — вялікі праступнік. Усё знайшоў, усё ўспомніў, нічога не абмінуў. І спірт, і нядбаласць, і няўмеласць, і расстрэлы нявінных людзей і шмат яшчэ чаго іншага выцягваў на Божы свет «главковерх» з біяграфіі «главкофлота».

Але няхай заспакоіцца няшчасны «главкофлот»:

Не адзін ён адказываў на судзе. Разам з ім судзіліся ўсе яго быўшыя таварышы. Ён быў толькі адным із раўнапраўных артыстаў у гэтай камедыі, на якую з рознымі пачуццямі на працягу некалькіх дзён дзівавалася не толькі Масква-сталіца і Масква-Вялікаросія, — дзівіўся ўвесь свет.

Тамака судзілася руская рэвалюцыя, пісалася біяграфія яе — цёмнай, п'янай, разбэшчанай, нелітасціва-зверскай, несправядлівай.

Судзіліся кранштадскія «чудо-богатыри», судзіліся «идеологи революции» ад с.-р. да... Бог яго ведае каго, і асуджалася азіятчына, каторая, прыбраўшыся ў сацыялістычныя шаты, вылезла на гару, калі гістарычныя падзеі паскраблі крышачку скуру «высокой русской культуры», панаваўшай у расійскай дзяржаве.

Судзіўся не Дыбенка.

Судзілася «Дыбенкіада».

А асуджалася азіятчына.

*А. Навадворскі*

*1918*

# РАСЦЯРУШАНАЕ БАГАЦЦЕ

«Эвакуацыі» прычынілі акраінам б. імперыі шмат шкоды, якую не лёгка і не скора можна будзе паправіць. Пад непераможным націскам нямецкіх войск ад гораду да гораду, ад лініі абароны да лініі абароны адступалі расійскія арміі, а перад імі вывозіліся — «эвакуіраваліся» з намечаных да аддачы мейсц поруч з тэхнічнымі прадпрыемствамі, якія па праўдзе маглі станавіць сабою ваенную дабычу немцаў, губернскія, павятовыя і валасныя адміністрацыйныя ўстановы з усімі іхнімі справамі і архівамі, публічныя бібліятэкі, архівы і музеі, школы, пачынаючы ад высшых закладаў[1] да самых нізшых. Вывозілася і літаральна раскідалася па твары ўсёй імперыі.

Мімаволі думалася тады: для чаго гэта робіцца? Каб ратаваць ад знішчэння? — Дык жа рускія арміі спакойна пакідалі гарады, і яны даставаліся немцам без бою, не знішчанымі? Каб не пакінуць непрыяцелю дабычу? Дык якую ж дабычу маглі станавіць сабой канцылярыі і архівы ўсякіх устаноў альбо тысячы школ з іх падручнікамі, пісанымі па-руску, а не па-нямецку, з фізічнымі і іншымі кабінетамі, каторыя пэўна ж немцы не лічылі бы сваёй «дабычай»?

І вось ад руйнацыі, якую рабіла, нямаведама для чаго, рускае войска, паўзсценныя краі б. імперыі пацярпелі бадай ці не больш, чым ад ваенных падзеяў. Пацярпела ў тым ліку і Беларусь.

Не кажучы нічога на гэты раз аб стратах у дашчэнту знішчанай прамысловасці, у разбуранай да тла сельскай гаспадарцы, у нязлічаных «бежанскіх» ахвярах, якія крыжамі адзначыліся па ўсіх закутках агромністага расійскага абшару — культурныя страты не маюць сабе цаны.

Усё, над стварэннем чаго дзесяткамі часоў затрудняласяся сягаўшая да прасветы Беларусь: школы, бібліятэкі, музеі, вучоныя архівы, скасована энергічнымі росчыркамі пяра бравых расійскіх эвакуатараў.

Не ўсе вывезеныя з Беларусі культурныя ўстановы спаткаў аднаковы лёс: адны з іх валяліся па складах і раскрадаліся адтуль, другія мадзелі сяк-так, цягнучы сваё існаванне ўсілкамі[2] шчырых краёвых патрыётаў. Не аб усіх мы маем поўныя весткі. Яны пагубляліся сярод расійскай бесталкоўшчыны. Але без мала ні ўсюдах, дзе ёсць эвакуіраваныя школы, ёсць некалькі чалавек, якія мараць аб звароце іх дамоў і сваім, хаця і не ўласным у гэтым дзеле, вокам чуваюць над імі[3].

Парушаючай да слёз была скарга, якую пачуў пішучы гэтыя радкі ад дырэктара нашай Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якую лёс закінуў усяго яшчэ толькі ў Смаленск, яг(омасця) Ярушэвіча: «Я, паночку, трэці год ужо змагаюся за тое, каб семінарыя асталася нашай. І што далей, то робіцца ўсё цяжэй, бо зашмат ёсць сквапных рук на нашае дабро. Увесь час я стараюся, каб з закладу выходзілі (выпускнікі), якія былі (б) карыснымі нашаму краю, і мне, дзякаваць Богу, яшчэ дагэтуль удалося захаваць беларускі склад вучняў. Але цяжка, цяжка! Папрасіце тамака (у Менску) якое помачы для нас».

У некалькіх кватэрах прыткнулася Менская гімназія ў Маскве, бароніць сябе, як уласнасць Беларусі. Менскі настаўніцкі інстытут у Яраслаўлі ўдаецца з просьбамі[4] да Украінскага ўраду аб захаванні яе для Беларусі. Віленская І гімназія, якая не мае на што жыць у Глухаве Чарн(ігаўскай) губ... І так болей і так далей... А аб нізшых школах і саўсім (не) чуваць ці апрача двух: Менскай двухкласнай у Казані і, здаецца, нейкай Гародненскай у Калузе.

Трэба, каб Народнае сакратарства асветы прышло да іх з помаччу і разам пачало збіраць для Бацькаўшчыны гэта расцярушанае дурнымі рукамі багацце. Яно павінна наладзіць рэгістрацыю ўсіх вывезеных з Беларусі школаў і навуковых закладаў і цяпер жа завязаць перагаворы з урадамі Вялікаросії і Украіны аб звароце іх дамоў. Бавіць нельга, бо дабро гэтае расцягваецца і нішчыцца ў складах. Паўсюдах у вялікарускіх і ўкраінскіх гарадах ёсць арганізацыі і асобныя людзі з беларусаў, якім можна даручыць апеку над гэтым культурным багаццем, запасшыся згодай адпаведных урадаў.

Разам з тым трэба наладзіць і апеку над забыткамі[5], вывезенымі ў Расію і Украіну, як у часе вайны, так і раней, і рэгістрацыю іх. Для гэтага ў нас знойдуцца адпаведныя сілы як у Маскве і Пецярбургу, так і ў Кіеве, каторым ведама, дзе і што перахоўваецца.

Наладжваючы справу захавання забыткаў за абмежкамі Беларусі, трэба звярнуць увагу і на тое, што ёсць тут, на месцы. Мы ведаем, што адсюль яшчэ да вайны ішла павольная «эвакуацыя» найцэннейшых забыткаў краёвай гісторыі ў польскія зборы ў Львове і Кракаве. Але ўсё ж такі большая часць абывацельства нашага, у якога перахоўваліся гэтыя цэнныя рэчы, хавалі іх для краю. Цяпер, калі барбарынства[6] бальшавікоў і пад'юджваных імі сялян нанясло непапраўныя ўшчэрбы гэтаму краёваму скарбу, шляхетныя замеры[7] нашых мецэнасаў гі-

сторыі паддаліся моцнаму ваганню. Шмат чаго можа беспаваротна ўтраціцца для краю пры такім настрою.

Трэба запабегчы гэтаму стварэннем «краёвага таварыства забыткаў» замест існуючага цяпер у Менску польскага таварыства, катораму належыць прынесці шчырую падзяку за шмат чаго, уратаванага ім у часы бальшавіцкай разрухі.

*А. Н.*

*1918*

## «РЭАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА»

Паказаўшыся пад такім аглаўкам у № 8-м «Dz. Min.» артыкул сведчыць аб новым паглядзе на «Крэсовую» палітыку, які дазравае ў мыслях мясцовых польскіх дзеячоў.

Мае яна быць дарогаю да найлепшага «нацыянальнага і грамадзянскага бытавання» і лічыцца з тым, што ёсць у самой рэчы. Такую палітыку можам хіба толькі вітаць.

Але нам здаецца, што артыкул мае апрача паведамлення для польскага грамадзянства яшчэ і другі характар, і ён з'яўляецца як бы пробнай галай[1], пусціўшы каторую мяйсцовыя польскія дзеячы хацелі даведацца аб настрою, пануючым сярод беларускага грамадзянства. У ім ёсць некаторыя пункты, якія самі сабой высоўваюцца на мейсца пунктаў будучай умовы, патрэбнай для супольнай працы. Разгляд памянёнага артыкулу з гэтага боку можа быць надта цікавым.

Што ж абяцаюць беларусам? З чым прыходзяць да нас нашыя тутэйшыя палякі?

— Абяцаюць «знайсці спосаб да супольнага жыцця з беларусамі». Прыходзяць з бажаннем злучыць на Беларусі ідучыя ў разброд і па рознаму гледзючыя ў прошласць (а не на будучыну?) станы[2]: земляўласнікаў, якія стаяць цяпер пад знакам запытання, мяшчанства, толькі пачаўшага жыць, і працуючага люду, цёмнага і няразвітага, каторыя ўсе маюць проціў сябе сільных і ўзапашаных у спосабы для змагання ворагаў.

Абяцаюць яшчэ, што пры гэтым злучэнню найбольшыя ахвяры панясе найвышэйшы стан.

З такімі дарамі з добрай волі хочуць прыйсці да беларусаў тутэйшыя палякі. Трэба сказаць, што дары вялікія і мо ў дыхт

такія, аб якіх мы сабе думаема, але... але той выкуп, які сабе за гэтыя дары вымагаюць нашыя «рэальныя палітыкі», можа хіба лішні раз абразіць беларусаў, а не «залагодзіць нянавісць», каторай і па-праўдзе не трэба было б.

Мы разумеем канечне, што паляк ніколі не перастане быць палякам, вялікарус — вялікарусам, а жыд — жыдам. У кожнага з іх былі і будуць свае нацыянальныя ідэалы, ад каторых барані нас, Божа, каго-небудзь адвучаць — мы занадта пазналі смак гэткага адвучання на сабе. І дзеля гэтага мы лічым патрэбным забеспячэнне прадстаўнікам кожнай замяшканай[3] на Беларусі не беларускай нацыянальнасці магчымасці захавання і развіцця сваёй нацыянальнай культуры і атрымання належнай часці з матэрыяльнага прыбытку краю.

Гэта вымагаецца нават нашым разуменнем агульнага краёвага дабра, каторае па-нашаму можа толькі выйграць ад вольнага споўпрацаўніцтва подлуг з беларускай яшчэ і другіх культураў.

Але нашыя мяйсцовыя палякі прыходзяць да нас не толькі для такой супольнай і братэрскай працы, аглядаючыся назад, на другіх, яны кажуць, што іх прыход — гэта толькі «лічэнне з тым, што ёсць, і дапасаванне метаду рэальнай палітыкі да варункаў данай хвілі і не азначае саўсім іх высвечання і прызнаня вечнымі». Яны адкідаюць, як крыўдзячую іх ацэнку гэтага становішча за «абцінанне нарадовай ідэі, за звужанне перспектывы ўсялякіх здабыткаў і карысцяў у палітыцы». Яны запэўніваюць, што гэта толькі розніца ў метадзе чыннасці, а саўсім не розніца ў мэтах, «каторыя па суці могуць быць аднаковымі».

«Варункі данай хвілі», гэта глаўным чынам нацыянальнае прабуджэнне беларускага народу і яго ўмацаванне ў кірунку стварэння беларускай дзяржаўнасці — гэтак мы разумеем. Калі яны для нашых тутэйшых жыхароў не маюць быць ані паважанымі [...], ані прызнанымі вечнымі, якім жа чынам яны прыйдуць да паразумення з беларусамі, для каторых гэтыя «варункі хвілі» маюць найістотнейшае значэнне?

Нарадовая ідэя беларуская ніколі не згодзіцца з такой жа ягелонскай ідэяй[4], а, як мы ведаем, толькі ягелонская ідэя і панавала ў мыслях польскіх палітыкаў да апошняга часу. Калі гэта ідэя і далей будзе кіраваць іх працай, што ж тады будзе за «супольнае жыццё»? Усё, што тварыціме беларуская ідэя, будзе бурыцца ягелонскай ідэяй, каму ж з гэтага карысць?

Прыпадкова прыкладам такой некарыснай працы з'яўляецца і цяпер нават самы артыкул у «Дзенніку», у каторым

аўтар, крытыкуючы «найбліжшы і найрэальнейшы» пастулат мяйсцовых палітыкаў, закідае ім, што за гэты пастулат трымаецца невялікая група грамадзянства, а паспольства адносіцца да яго «альбо ніякава, альбо нават з непрыязню». У звязку з часам, калі гэта пішацца, гэта прыпамінае нам тыя спецыяльныя інфармацыі, якія з рускага і польскага боку атрымоўваюць Берлін і Вена аб магчымасці творчай дзяржаўнай працы на Украіне.

Столькі аб «рэальнай» палітыцы. Рэальная іншая палітыка толькі тагды карысна народу і заслугоўвае на пашану, калі яна ў дадатку шчырая палітыка.

Такой шчырасці ў палітыцы беларускі народ, знаходзячыся ў трагічнейшым можа моманце ўсёй яго гісторыі, можа зажадаць сабе хаця б ад той часткі палякаў, каторыя з'яўляюцца тутэйшымі з крыві і косці даўнейшымі баярамі беларускімі.

*П.*

*1918*

## ДАЛЕЙ НЕ МОЖНА

Пастановаю Выканаўчага Камітэту Агульнабеларускага з'езду быў створаны 20 лютага г.г. Народны Сакратарыят Беларусі, які надзяляўся ўсімі правамі праўдзівага Ураду.

Цяпер не варта разглядаць пытання, насколькі гэты акт адпавядаў сітуацыі, якая была нават у часе, калі ён быў выданы.

Цяпер час, калі не толькі якая-небудзь урадавая пастанова, але кожны грамадзянін кожнага народу павінен не прабаўляць дарэмна часу і рабіць, рабіць на карысць свае айчызны. Дарагі кожны момант.

Прайшло цэлых 70 дзён ад часу ўтварэння Сакратарыяту — тэрмін роўны дзесяткам гадоў звычайнага часу — і мы маем права паглядзець, што зрабіў Народны Сакратарыят Беларусі для ўмацавання яе дзяржаўна-нацыянальных ідэалаў.

На жаль, абзнаёміўшыся с чыннасцю Сакратарыяту за гэты час, мы з смуткам для нашага патрыятызму павінны сказаць, што для ўмацавання народна-дзяржаўных ідэалаў Беларусі амаль што нічога не зроблена.

Народны Сакратарыят падгатаваў прынятыя Радай з'езду і Радай Рэспублікі акты 9 і 25 сакавіка[1] г.г., але нават і гэтага не можна паставіць яму ў вялікую заслугу, бо падгатоўка заключалася толькі ў напісанні праектаў грамат, а саўсім не ў патрэбных дыпламатычных і арганізацыйных кроках.

І цяпер, як два месяцы таму назад, мы стаім на немажліва нізкім стопню[2] арганізацыі і выяўляем сабой нават да зрабіўшыхся нам суседскімі Цэнтральных дзяржаваў «Terra incognita»[3].

Тыя крокі, якія пачыналіся нашым урадам як у адным, так і ў другім кірунку, былі няўдалымі і вялі за сабой часамі нават пагаршэнне беларускай справы. Напрыклад, пастанова Рады аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў неіснуючых пакуль што беларускіх дзяржаўных (па-за Радай, разумеецца) установах нічога не перамяніла ў тых арганізацыях, якія і дагэтуль існуюць правам «государства Российского», а калі ў іх і змянілася што, то хіба к горшаму.

Рэляцыі[4] ў прэсе аб чыннасці нашых міністраў, не глядзя на іх «благапалучны» стыль, нічога для добрага стану справы не даюць. Наш карабель стаіць на мейсцу.

Вінаваціць у гэтым няздольнасць адных толькі нашых Народных Сакратароў, каторыя пазначаліся Радаю, не выпадае. І наагул мы не хочам нікога вінаваціць. Нам толькі ходзіць аб тое, каб папрáвіць справу.

Цяпер у Раду ўлілася новая сіла, якая творыць радны цэнтр, і яна павінна прынесць з сабою новыя метады чыннасці ці добрыя папраўкі да старых.

Таксама ў ва ўсіх установах Рады — Старшыне і Сакратарыяце — ёй павінна быць аддадзена належнае мейсца, каб новая сіла магла выявіцца і ў працы. На нашае зданне[5], яна павінна правесці некаторыя рэформы, датычучыя ўнутранага строю нашага нячыннага дагэтуль міністэрства.

Адкладаць далей нічога не можна. 70 дзён працы нашых Народных Сакратароў — досыць доўгі адклад.

Трэба рабіць, рабіць!

*П.*

*1918*

# ПАД АДНЫМ ШТАНДАРАМ

Іменем «актывізму» назваўся ў Польшчы кірунак палітычнай мыслі, каторы ваюе за жывое дачыненне палякаў да палітычных падзеяў у цяперашні ж час. Ён заклікае палякаў к будаванню Польшчы зараз жа, не адкладаючы гэтай працы на далей, выкарыстоўваючы тыя магчымасці, якія існуюць у цяперашні момант.

Рэалізм у палітыцы, лозунг, які ставіць польскіх актывістаў проці пасівістаў — староннікаў нацыянальнага максімалізму, каторым зараз жа хацелася б усяго, хаця гэта ўсё не годзіцца з інтарэсамі другіх народаў і можа іх пакрыўдзіць, альбо нічога. Актывісты, не адмаўляючыся ад ідэалаў пасівістаў, лічаць, што пачынаць можна і з меншага.

Яшчэ адна прыкмета актывізму (польскага) — гэта бажанне вясці сваю працу ў згодзе з Цэнтральнымі Дзяржавамі, на іх апіраючыся.

Паскольку ў Польшчы актывізм — з'явішча нядаўняга часу, ён не сказаў новага слова. Бо раней польскіх у гэтым кірунку пайшлі літоўскія ўплывовыя партыі і, як мы бачым, раней за другіх дайшлі да пажаданых сабе скуткаў. Вынікам іх працы ёсць ужо дзяржаўная незалежнасць Літвы, т. зв. Малой Літвы, на якую, ідучы рэальнымі крокамі да свае мэты, згадзіліся літоўскія палітыкі.

Актывізм даў моцны рух наперад і польскай справе, каторая да яго з'яўлення стаяла надта кепска.

Нашыя «закардонныя» браты, беларусы Віленшчыны і Гарадненшчыны, знаходзячыся пад тымі самымі ўплывамі і ў тых самых жыццёвых варунках, што і літвіны, што і палякі, таксама не асталіся чужымі актывізму.

Як паказуе знаёмства з тамтэйшым жыццём, да яго яны прышлі аднача сна з літвінамі, калі не раней за іх, але асабліва цяжкія акалічнасці, створаныя вайной для Беларусі, не давалі ім магчымасці выступіць як значнейшая сіла і дайсці да жаданых скуткаў.

Толькі цяпер, калі для іх адчыніліся дзверы і ў нашу частку Беларусі, калі паволі на радзімыя мейсцы варочаюцца жыхары Вільні, і Горадні, і Беластоку, і ўсіх сёл і гарадоў той часці Зямлі Беларускай, для нашых братоў адчынілася магчымасць шырокай творчай працы. І вот пытанне «што рабіць?» цяпер жа, зараз жа становіцца тамака на чаргу,

«Гоман»[1], адбіваючы палітычныя думкі «тае» часці Беларусі, так адказуе на запытанне артыкулам Яг. Х. Х. у 44 нумары:

«Да ўсіх трагедый беларускага народу прылучылася цяпер новая. Гэта раздзел Беларусі на дзве часці лініяй Берасцейскае ўмовы». Выказуючы надзею на калішні перагляд Берасцейскай умовы, чаго з нецярпялівасцю чакае беларускі народ, «Гоман» гаворыць далей, што адным чаканнем не можна агранічывацца, а трэба пры гэтым працаваць і крэсліць такую праграму працы для беларусаў за рубяжом, праведзеным мірнаю ўмовай.

Беларусам прыходзіцца тут, у межах акупацыі, напружваць усе свае сілы ў барацьбе з тымі, хто здаўна цікуе на згубу беларускага народу. Нам прыходзіцца бароцца з двайным гвалтам над намі палякаў — гвалтам матэрыяльным, эканамічным, і гвалтам духовым на грунце культурна-нацыянальным і рэлігійным. Дзеля нацыянальнае самаабароны мы павінны арганізаваць свае сілы на кожным грунце, а тым болей на грунце ладжэння тымчасовага ўпраўлення нашым краем.

Другая задача, дзеля каторай мы павінны цяпер працаваць з усіх сіл сваіх, — гэта абарона нашай заходняй граніцы ад палякаў, абарона ад польскіх апетытаў нашае Беласточчыны, Бельшчыны, Горадненшчыны. Аб гэтым мы ўжо даволі пісалі, і цяпер няма патрэбы шмат тут гаварыць.

Урэшце, ёсць і трэцяя задача. Там, за лініяй Берасцейскага міру, ужо пачалася творчая гасударсцвенная работа беларускага народу — будаванне незалежнасці Беларусі. Тут, з гэтага боку гэнае лініі, дагэтуль усё спала, бо варункі нашага жыцця не давалі магчымасці пачаць будаванне сваёй дзяржаўнасці. І калі цяпер адкрываецца перад намі магчымасць такой працы, хоць і на грунце незалежнасці так званай «Малой Літвы», дык мы не павінны сядзець, злажыўшы рукі: памятуючы, што беларусы ў межах старой нямецкай акупацыі — гэта народ тэрытарыяльны, што яны займаюць тут свой асобны абшар (усю Горадненшчыну і бязмала ўсю Віленшчыну), мы павінны на сваёй палавіне «Малой Літвы» будаваць пачатак свае ўласнае гасударсцвеннасці, каб у прыпадку шчаслівай развязкі пытання аб пераглядзе Берасцейскае ўмовы і злучэння ў тэй ці іншай форме ўсіх беларускіх зямель мы на гэты бок фронту былі таксама прыгатаваны да самабытнага незалежнага гасударсцвеннага жыцця, як нашы браты-беларусы з-за фронту і нашы суседзі ў старой акупацыі Літвы.

Работа для нас ёсць, ды яе — нямала. Мы павінны толькі не губляць агульнабеларускай пуцяводнай зоркі: незалежнасці ўсіх Беларускіх зямель, — і раней ці пазней яна давядзе нас куды трэба.

Трэці пункт гэтай праграмы — «будаваць» на сваёй палавіне «Малой Літвы» пачатак уласнае гасударсцвеннасці, маючы мэтай «незалежнасць усіх Беларускіх зямель», мы адсюль можам толькі вітаць. Там і тутака мы павінны рабіць адну работу, — будаваць сваю гасударсцвеннасць. Там — у «Малой Літве», і тутака, пакуль што ўсё яшчэ ў «Росийской федеративной социалистической» рэспубліцы мы павінны працаваць пад адным штандарам, на якім для ўсіх нас напісана: «Няхай жыве Незалежная Беларусь!»

*П.*

*1918*

## ПОЛЬШЧА І ЯЕ СУСЕДЗІ

Як паведамляюць тэлеграфна з Бэрну, Літоўская Рада падала тэлеграфны пратэст прэм'ерам Францыі, Англіі і Італіі проціў ухвалы Версальскай ваеннай рады аб стварэнні Польскай дзяржавы з доступам да мора. Літвіны знаходзяць, што гэты праект не можа быць спраўджаны без нарушэння іх жыццёвых інтарэсаў. Азначаны факт — падача пратэсту з боку літвінаў — нас ані здзівіць, ані здаецца чымсь такім, што бы сведчыла аб асобна непрыязных стасунках да палякаў. Гэта — натуральнае рэха тае вялікадзяржаўнай ідэалогіі, якой кіраваліся ў сваіх учынках «мужы стану»[1] Польскай Рэчы Паспалітай.

Час цяснейшага супольнага дзяржаўнага жыцця — ад Люблінскай уніі 1569 г. аж да 3 раздзелу Польшчы, а потым грамадскага споўжыцця[2] — ад апошняга раздзелу і да нашых дзён, навучыў суседнія з Польшчай народы асцярожна адносіцца да запэўненняў аб братстве і спагаднасці і як агня баяцца новага панавання палякаў над сабой.

Не палітыка ўсяго польскага народу, разумеецца, але палітыка польскіх мужоў стану і, можна без вялікай крыўды для ісціны сказаць, праца ўсёй польскай інтэлігенцыі, справіла тое, што змучанае безупыннай вайной за свае нацыянальныя вольнасці казацтва пайшло ў Пераяслаў[3] шукаць апекі пад «высокай рукой цара маскоўскага»; яна ж — нацыянальным і рэлігійным уціскам на Беларусі — прыгатавала грунт для пазнейшай русіфікацыі, на якую найахвотней пайшлі праваслаўныя

беларусы, і ўжо саўсім нядаўна, у любках з Сталыпіным[4], «кідала жрэбій аб рызах» нашых, яна ж пакінула па сабе на Літве прыкрую памяць аб сквапнай дэнацыяналізацыі вышэйстанаў і дзеі саўсім нядаўняга часу — аб змаганні з нацыянальным рухам сярод літоўскага духавенства.

Гэта гісторыя, каторая нялёгка забываецца, хаця б нават і даваліся наймацнейшыя запэўнення, і каторую не варта забываць. Бо ніхто не можа спасылацца, што гэта рабіў не ён, а яго даверany, а ў тым ліку і ўвесь польскі народ: кожны народ мае на сваім чале таго, каго ён варт.

Аднак жа такі стасунак да палітычных запэўненняў не павінен стаяць на перашкодзе праўдзівым народным жаданням агульнай згоды і добрага суседскага жыцця. («Брацтва» трэба адкінуць, бо неяк заўсёды здараецца, што з двух ці некалькіх братоў адзін робіцца «старшым» і пачынаецца крыўда.)

Толькі да гэтага трэба ісці не дарогай фальшывага ідэалізму ў міжнародных стасунках, які даўно ўжо збанкрутаваў у навуцы і практыцы, а дарогаю ўразумення абапольных зыскаў ад тэй ці іншай формы збліжэння з суседзямі. Тагды, абгаварыўшы наперад усе варункі, як гэта робіцца ў гандлю, разам папрацаваўшы, пераканаўшыся ў чыстаце замераў з абаіх бакоў, можна дайсці і да ўзаемнага заўфання[5].

А покуль што, у обэцны[6] момант, калі яшчэ на тэрыторыі былых крэсаў Польшчы і «С-западной области» Расійск. імперыі толькі замыкаюцца ў свае даўнейшыя гістарычныя кшталты новыя дзяржаўныя адзінкі, калі агенты Польшчы, якія знаходзяцца ў абозе кааліцыі, кнуюць[7] (тут: правакуюць) тамака праціўныя гэтаму працэсу рухі, калі яшчэ не пакінута думка сілаю, — апіраючыся на чыюсь сілу, хаця бы і кааліцыі, — расцягнуць будуючае, — Польскае Каралеўства да мора, пратэсты і літвінаў, і беларусаў, і украінцаў, і ўсіх тых, праз чые землі мае пралегчы гэта дарога, будуць і натуральнымі, і зразумелымі, і... патрэбнымі для таго ідэалізму ў міжнародных стасунках, на які так любяць апірацца і польскія і рускія палітыкі.

*П.*

*1918*

# «НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ»

У адным з нумароў «Дзенніка Кіеўскага» знаходзіцца артыкул п. L. R., перадрукаваны цалкам у «Dz. Polski».

Падаўшы ў пачатку артыкулу ведамасць аб радзе і праклямаванні ёю незалежнасці Беларусі і змест I устаўной граматы п. L. R. так ацэнівае сітуацыю:

Перад усім, бяручы справу ў грунту, Беларусь мае шмат меней даных для панствовай самаіснасці з боку гістарычнага, эканамічнага і грамадскага, культурнага. Затым, праклямаванне незалежнасці Беларусі наступіла як бы крыху... ранавата і існаванне беларускага панства для сіл, важачых цяпер у міжнароднай палітыцы, не яўляецца канечнасцю, але надта жаданым фактам.

Беларусь парвала свае дзяржаўныя звязкі з Расіяй ужо пасля заключэння берасцейскага міру[1], устанаўліваючага заходнія граніцы Расійскай рэспублікі саветаў, у склад якой Беларусь дагэтуль уходзіла.

Берасцейскай умовай, каторай тэрыторыя, на якую беларускае прадстаўніцтва мае ўгрунтаваныя і неўгрунтаваныя прэтэнзіі, падзелена на часці. За рубяжом астаўся Мазырскі павет і паветы Гродзеншчыны, каторыя беларусы хочуць уважаць за свае, уключаючы нават Гродна і Беласток з этнаграфічна-польскім округам.

Да гэтага дня не ведамы лёсы Прыпяці на ўсход ад Выганоўскага возера, і хто ведае, ці не спаткае гэтую зямлю лёс Мазырскага павету, у скутак[2] чаго Беларусь згубіла бы каля мільёна этнаграфічна-беларускай люднасці і артэрыі воднай камунікацыі, маючыя агромністае гаспадарчае значэнне.

Апрача гэтага астаюцца яшчэ споры з літвінамі, каторыя свае прэтэнзіі расцягваюць за Берасцейскі Кардон, і неўрэгуляваныя стасункі з Расіяй — да сягодняшняга дня ўпраўлянай саветамі. I нарэшце справа стасункаў да Польшчы.

Абрысаваўшы далей унутранае становішча Беларусі, пан L. R. кажа далей:

Здаецца, аднак, што сярод тварцоў беларускай дзяржаўнай ідэі ёсць людзі, разумеючыя сітуацыю Беларусі. Людзі гэтыя стараюцца знайсці дарогі да злучэння ўсіх беларускіх земляў і хочуць паразумецца з Літвінамі.

Прагнуць яны «ўрэгуліравання» беларуска-літоўскіх дзяржаўна-нацыянальных стасункаў на аснове супольнага бу-

даўніцтва і таксама паразумення с Курляндзіяй у справе доступу да мора?

План гэты ёсць у істоце планам уваскрашэння гістарычнай Літвы, беларуска-літоўскай дзяржавы.

І трэба прызнаць, што гэтая канцэпцыя магла бы аказацца жыццёвай. Землі Вялікага Літоўскага Княства, звязаныя з сабой геаграфічнымі і эканамічнымі варункамі, маюць традыцыю многавекавога супольнага існавання...

Але — дадае п. L. R. — спраўджэнне гэтай канцэпцыі не залежыць толькі ад Беларусаў і волі Літвы, але ад сілы мацнейшай, дыктуючай варункі і Літве і Беларусі, і можна сумлявацца, чы гэтай сіле было выгадным уваскрашэнне ў тэй ці іншай форме гістарычнай Літвы.

Нас артыкул п. L. R. цікавіць як першая проба закардоннай польскай прэсы зрабіць больш аб'ектыўную ацэнку сітуацыі на Беларусі. Большая аб'ектыўнасць і большая спакойнасць, з якой аўтар піша аб гэтым у газеце, якая выходзіць на «kresach», дадае нам пэўнасці, што і ў сябе мы спаткаемся прынамсі са спакойным, калі не прыязным, стасункам да Беларускай панствовасці[3] з боку той часці нашых культурных сілаў, якая лічыць сябе духоўна належачай да Польшчы.

Не ўступаючы ў спрэчку па поваду некаторых падробнасцяў у артыкуле п. L. R., зазначым толькі, што сярод «тварцоў беларускай ідэі панствовай» пануе роўнае заўфанне ў добрае развязанне нашых «заходніх» стасункаў, і ў асобнасці да тае сілы, у якой сумлеваецца п. L. R. Але ўканстытуяванне гэтых стасункаў рэч такая, якая не глядзя на яе канечнасць[4], можа быць зроблена паволі і надта спяшаючыся. Першым і найважнейшым заданнем данага часу ёсць для нас аканчацельнае ўстанаўленне нашых дзяржаўных стасункаў з Усходам, толькі зрабіўшы гэта, мы здолеем аддаць больш усілкаў і больш увагі нашым заходнім справам.

*П.*

*1918*

# УРАЖАННІ

## 1

Асталася пазаду вялізная старая карчма, якая, як вока цыклопа, умясцілася на развілку двух дарог. Места з яго кіпучым жыццём скончылася. Шырокі шлях бяжыць прад вачыма і прападае недзе ў небасхіле за зялёным узгоркам.

Абапал дарогі хвалюе высокае жыта, і пераліваюцца па ім светла-зялёныя, нібы збляклавалыя, тоны. «Добры хлеб павінен сяголета быць! Хопіць яго на бедных і багатых». Вясёлая думка гэтая дадае мне, замаркоціўшамуся ў месце па новым хлебе чалавеку, энергіі, я ўжо не чую пад сабой зямлі, а нібыта вольна пасуваюся ў паветры, хапаючы вачыма распасцёртую навакол красу.

Вунь налева, за зялёнымі хвалямі жыта, якое, збегшы ў лагчынку, пнецца зноў на далёкі ўзгорак, пад астаткамі высечанага лесу, шахуецца поле — гэта роўныя чатырохкутнікі ўзаранага папару чаргуюцца з нізенькім аўсом. На правым баку дарогі з-паміж старых, густых і высокіх дрэў выглядае страха і шэрыя сцены невялічкага фальварскага будынка. Вялікае, закрытае ценню ад дрэў акно ніжняга паверха відаць так ясна, што пералічыш усе шыбы, хаця да фальварка, мусіць, не блізка...

А наперадзе прад вачыма, каля самага небасхілу, хмызнячкі, ляскі, кудзірка чуць цямнейшай рамкай акаляюць бяскрайняе поле...

Часамі на прыдарожным папары ўбачыш круглабокіх сытых кароў. Яны са смакам жуюць сочную траву, якая прабілася з зямлі пасля нядаўніх дажджоў, і заўзята адбіваюцца хвастамі ад назойлівых аваднёў. Маленькі хлопчык-пастушок ляжыць уніз жыватом на зямлі, задраўшы ўгару босыя ногі. Кудлаценькая, накрытая старым брылем галоўка апіраецца на пастаўленыя локцямі на зямлю рукі. Блакіт задуманых вочак задзіўлёны ў блакіт далёкага неба.

Пападаюцца ціхія беларускія вёскі. І сапраўды ціхія, бо верныя вартаўнікі гэтых старых, пакрытых ценню, яшчэ старэйшых за іх дрэў, хатаў, — вясковыя сабакі, цяпер усе на ланцугу і, зразумеўшы, што вуліца цяпер не да іх належыць, маўчаць.

Часам выгляне з чатырохшыбнага акна кабета і доўга праваджае зацікаўленымі вачыма. Часамі на прызбе, з другога канца

якой спакойна грабуцца куры, убачыш некалькі жывых, варушачыхся, кінутых на зямлю макавых кветак. Гэта будучыя гаспадынькі і гаспадары, апершыся ручкамі на зямлю, якой засыпана прызба, і сабраўшыся залатавалосымі галоўкамі ў адну кучу, паважна разглядаюць прадзіўную з'яву — бронзавага вялікага жука альбо, капаючыся ў мяккай прызбяной зямлі, ляпяць бабкі.

За вёскай — зноў бяскрайняе поле. Ад чыстага польнага арамату, ад вольнага паветра круціцца крыху галава, цесна неяк робіцца ў расшыраных грудзях, і толькі ледзь чутны ветрык праганяе гатовую апанаваць п'янасць.

І ўжо не толькі зямлі — сябе не чую ў гэтым родным мне прасторы і забываюся, дзе, куды і па што я іду.

Гэта ж ты, мая Беларусь!

2

Успамінаецца мне часам другая дарога...

Па шырокім, уезджаным шляху паміж Ленай і Ангарой, па гладзі бурацкага сталагор'я, падахвочваная рэзкім падсвістываннем фурмана-«карыма»*, бяжыць няўстаннай рыссю, робячы 10 вёрст у гадзіну, пачтовая пара. Аднатонна, у такт конскай рысі, бамкаюць падвязаныя пад дугу пазванцы. Мякка коціцца па курнай дарозе негустоўная, але надзіва моцна скалочаная пачтовая брычка. Мой спутчык адхінуўся на сядзенні і, упёршыся галавой у заднюю сценку рагожнай буды, спіць, закачаны доўгай яздой. А я, махінальна чытаючы лічбы на прабягаючых насустрач тэлеграфных слупах, дзіўлюся з свайго высокага сядзення на акаляючы абраз.

Куды ні глянеш — навакол здаецца, што ты знаходзішся ў самым цэнтры віднай для вока сфераідамнай паверхні.

І ўсё сцяпы, сцяпы... з саланчаковымі белымі плямамі, сцяпы.

Бедныя расліннасцю, высмаленыя слонцам, выедзеныя «кабылкай»**.

* Фурмана-«карыма» — Карымамі завуцца напаўрускія, напаўбураты жыхары некаторых мейсц у Іркуц. губ.

** Кабылка — кавалік, конік палявы.

Часамі далёка ад дарогі замаячыць бурацкі улус*, і не ведаеш: ці ёсць у ім жыццё, ці не. Гэта «зімнік», пакінуты на лета гаспадарамі, перавёўшымі сваё быдла ў больш прыдатнае для гадоўлі мейсца.

Часамі за прыдарожнай канавай прамільгне невысокі крыж, на каторым сквапнымі на ўражанні вачыма ўхопіш полусцертае часам «Убіенный»...

Пячэ несцярпіма слонца. З-пад конскіх капытоў узвіваецца над дарогай і лезе ў вочы і ў нос едкі кур. Непрыемна, няўстанна дражніць слух цвірканне «кабылкі».

Шпарчэй, шпарчэй бяжыце, коні!

Рэдка, праз 25–30 вёрст, пападаюцца вялікія карымскія сёлы. Іх не параўнаеш да нашай вёскі. Гэта адміністратыўныя і гандлёвыя цэнтры раскіданага на вялікім абшары насялення. Часта гладкая, высланая мастаўнікам пасярэдзіне, галоўная вуліца. Вялікія, двухпавярховыя, з усялякімі драўлянымі выразкамі, дамы.

Гэта гнёзды «кулакоў» з тутэйшых сялян альбо вельмі часта аседлых тут «пасяленцаў», якія, заняўшыся не тамаваным[1] ніякімі маральнымі правіламі гандлем, дабраліся да вялікага грошу.

І як надзіў, чаго саўсім няма ў нас, з-паміж разнародных шыльдаў убачыш дзе-небудзь пад ценню царкоўнага цвінтара і такі: «Богадельня имени крестьянина Петра Филиповича Аносова» альбо «Двухклассная школа имени купца 3-й гильдии Никодима Иннокентьевича Шестопалова».

Ваш фурман пры гэтым, канечне, абернецца да вас і, паказуючы пугаўём на шыльду ці на каменную царкву, скажа вам, і вы пачуеце ноткі гордасці ў голасе фурмана: «Здешний купец строил», і дадасць, «у сколькіх тысячах» той купец «ходзіць» альбо колькі іх пры сваім жыцці меў. Праўда, не абміне сказаць пры гэтым, што «шибко крутой» на грошы быў той фундатар, але так толькі, без усякай непрыязні да яго, бо ўсё ж такі свой чалавек быў і без карысці для свайго ці прыняўшага яго народу не памёр.

---

* Улус — бурацкая дзярэўня.

3

Вельмі часта па дарозе паміж нашымі вёскамі спатыкаюцца вялізныя будынкі...

Школы гэта, пастаўленыя для дабра сучаснікаў і памяці ў патомстве земскімі фундатарамі? Можа, шпіталі, узнесеныя бачнымі на здароўе ўбогага насялення дабрачынцамі? Можа, штонебудзь дзеля пашырэння і развітку культуры? — Не, гэта корчмы. Гэта, калі хочаце, адзнакі той духоўнай і матэрыяльнай культуры, якую надаваў краю існаваўшы ў ім цяпер яшчэ неперабыты феадалізм.

Вось першай з краю вялікай вёскі стаіць напаўразваліўшаяся карчма. Праваліўся ў некалькіх мейсцах крыты некалі гонтам дах над стадолаю. Чорнай плямаю Бог ведае калі расчыненыя, з пакрывіўшыміся, апаўшымі на кругах весніцамі свецяць яе вароты. Напалавіну павыбіваны шыбы ў вокнах, хаця відныя праз адно з іх кветкі сведчаць аб не саўсім замёршым жыцці.

У сярэдзіне вёскі, прамінуўшы дзесяткі з два невялічкіх сялянскіх хат, зноў будыніна, якой, каб яна не пачала разваліваццa, мейсца, здавалася б, лепі ў месці, а не на вёсцы. Моцны і дагэтуль яшчэ цэлы чарапічны дах, белыя, мураваныя сцены, грубіня ясна віднеіцца ў правалах быўшых некаль дзвярэй і вокан, высокая, з буйнага камню і ані зачэпленая часам падмуроўка — усё паказуе, што былі некалі добрыя будаўнічыя на Беларусі.

— Што было ў гэтым будынку, цётачка? — пытаюся ў кабеты, выглянуўшай з вакна procістоючай хаты.

— Карчма N-га пана, — адказвае кабета.

«Так, так, карчма!» — думаю і іду далей. Кіпела некалі жыццё ў гэтых карчмах, якімі беларускі феадал пераймаў і праездных, і прахожых, праз каторыя выбіраў і тыя невялікія здабыткі, да якіх дарабляўся селянін у пакінутыя яму законам дні непрыгоннай працы.

Прамінуўшы яшчэ некалькі хат, прамінуўшы ўбогую драўляную каплічку на разросшымся цвінтары, убогую і маленькую, нягледзячы на тое, што гэта парафіяльная праваслаўная царква, выходжу на другі край вёскі. Тутака апошняй з краю стаіць быўшая манаполька!

Наскалькі фундаментальныя, шырокія, багата пабудаваныя корчмы напамінаюць аб панаваўшым некалі над краем феадалу-магнаце — гасцінным пражоры, любіўшым выпіць, грубым, гарластым у бяседзе за чаркай, любіўшым паказаць сябе і пача-

ставаць як належыць прошаных і няпрошаных гасцей у сваім палацу, пастолькі гэта невялічкая, але накрытая жалезам, з абітымі бляхай дзвярыма, чыстая, абшалёваная, з маляванымі аканіцамі манаполька напамінае аб усё забраўшым у свае рукі нядаўна чыноўніку: сухім, даўгавязым, у віц-мундзірчыку, з ястрабінымі вачыма, з міністэрскім цыркулярам замест сэрца, з кар'ерызмам замест сумлення.

Але вартасць першага і другога адна. Яны стаялі над народам. Яны стваралі не народны стан. Яны глядзелі на народ, як на быдла, катораму нічога, апрача гарэліцы, не можна паказываць. Феадальнае панства і візантыйскае самаўладдзе стаялі на адным грунце, творачы новую Спарту[2], у якой ілотам павінен быць увесь народ.

І яны, аднолькава стараючыся, прывівалі яму «гарэлчаную» культуру. «Карымскі» Шэсціпалаў ці Аносаў — свае абіранаму імі народу, і думалі аб ім, і народ будзе аб іх лепшай памяці, чым наш аб сваіх магнатах.

Бо ў нас яшчэ шляхетны Ян Чачот[3] асудзіў іх, кажучы пры тлумачэнні слова віннік:

«Пэўне, гэта назва бярэ пачатак ад віно, што па-крывіцку абазначае водку, але радавод з слушнасцю можна б весці ад віны, бо папраўдзе непапраўімай віною зрабілася надмернае выганянне гарэлкі. "...Літва" плаціла некалі даніну віннікамі (венікамі) для лазні, плаціць цяпер далёка большую і ганебнейшую, дэмаралізуючыся і нішчучы ўласнае здароўе: усё гэта нібыта для брагі і навозу ў дварах»*.

## 4

Мімавольна, спатыкаючы на кожным кроку родную красу, вока пачынае прызвычаівацца. Супакоіваюцца пачуцці, і думкі шукаюць новай рэчы, на якой бы запыніцца.

Усё проста і проста лагчынамі і ўзгоркамі і роўнай раўнінаю бяжыць шырокі гасцінец...

Беларусь. Беларусь! Каб такім простым і лёгкім для паходу быў твой гістарычны шлях! Дзе б апынулася ты цяпер з сваім працавітым, гаспадарным, любячым асвету народам? Хто б угнаўся за табой ва ўсясветным поступе? Хіба далёка! Хіба што

---

* Piosenki wieśniacze... Wilno, 1846.

ніхто! А цяпер ляжыш ты на лоне сваёй мацеры зямлі, нямоцная, кволая. Не шляхі, а глыбокія разоры праложаны на тваім жывым целе, і не відаць часу таго, калі яны пагаяцца. Не суджана табе было жыць і квітнуці для сябе. Колькі разоў баламуціўся спакой палёў тваіх і ўрочая ціша лясоў бразганнем зброі і крыкамі здрывеўшых вояў? Не пераставалі курыць неба твае дарогі і гасцінцы. Ганяліся па іх ляшскія гуфцы[4], ветрам скідаліся татарскія загоны панура запушчанымі ў коні і ў людзей галовамі, у скураных латах праязджалі шведы, пасяшалі на свае мейсца ў залачоных магнацкіх бэрлінах[5] духоўныя дыпламаты Польшчы, энергічныя о. о. езуіты[6], імчаліся ў скарбовых брыках кур'еры «матушкі» Кацярыны II... колькі яшчэ. — «Усё прамільгнула перад намі, усе пабылі тут». І не толькі дарогі твае ўбівалі, Беларусь, але і народ твой забілі, па самы падол жыцця затапталі ў ім нахадзэнне[7] Боскае і годнасць чалавечую, капытамі жыватоў сваіх пабілі ўсе яго прывілеі на гэна, як шкадлівы статак дапушчаны сквапным няпраўдзівым суседам пабівае гаспадарскую рунь... Так было.

## «ШТО РАБІЦЬ, ШТО РАБІЦЬ!?»

— Усе школы на Беларусі — беларускія.

— Увесь народ на Беларусі ўсвядомлены нацыянальна.

— Грамадскае жыццё на Беларусі, а асабліва сярод беларусаў у найлепшым стане.

— Эканамічныя сілы Беларусі выкарыстоўваюцца ў найлепшай меры і згодна з доследам найлепшай усясветнай практыкі.

— Няма духоўнай цемнаты.

— Няма бязграматных.

— Няма бедных.

— Няма ні да чаго не прыпрэжаных сілаў.

Адным словам на Беларусі:

— Адукацыя квітнеіць.

— Эканоміка развіваецца.

— Край узбагачаецца.

— Культура мацнеіць.

— Цывілізацыя ідзе наперад.

Дарагі мой чытач! Хай не падумаеш толькі ты, што я займаюся падшуканствам — барані мяне Бог!

Я добра ведаю, што і ты гэта ведаеш, што ні гагу-усенька ў нас няма. Што школы яшчэ трэба рабіць, эканоміку ствараць, край узбагачаць, культуру паднімаць і што тагды толькі нашая цывілізацыя скранецца з мейсца.

А калі вышэй і выпісаў я гэныя няпраўды, барджэй падобныя да глупстваў, то адно для таго толькі, каб лепі ты сцяміў трагічныя запытання некаторых асоб з нашага грамадзянства:

— «Што рабіць? Скажэце, што рабіць?»

Здаецца, дапусці ты яго да нейкай працы, дык ён табе горы праз дзень пераварочае, хаця б гэта былі Карпаты якія-небудзь ці Альпы.

Папраўдзе ж — не вер яму, чытач. Хто пытаецца, што рабіць увобац[1] такой нязлічанай працы, той папросту грамадзянскі недамуга, скончаны чалавек, хадзячы мярцвяк, і не варта траціць словы на яго навучанне, бо, адыйшоўшы ад цябе, спаткае яшчэ кагось і да таго прычэпіцца, як і да цябе з сваім: «што рабіць?»

Гэта тэарэтык працы, спецыяльнасць якога — трагічнае гультайства.

Але, натрапіўшы на такога з іх, каторага, падумаеш, варта пашкадаваць, скажы яму, чытач:

— «Найперш трэба пакінуць гультайства. Потым трэба любіць сваю Бацькаўшчыну. Потым узяцца за спаўненне сваіх абавязкаў. Ідзі і рабі тое, да чаго цябе вучылі. І помні заўсёды, што ты робіш гэта дзеля Бацькаўшчыны. А таму — рабі добра.»

І каб ты, чытач, аказаўся шчаслівейшым за мяне і ўсе гэтыя амаль што ні Гамлеты пад тваім уплывам зракліся свайго гультайскага трагізму — на сколькі б скарэй споўнілася б тое, аб чым мы з табой думаем.

Ёсць яшчэ адзін гатунак людзей у нашым грамадзянстве:

Іду я нядаўна па вуліцы. Спатыкаю знаёмага. Некалі разам вучыліся. Цяпер ён… Ну што аб гэтым казаць — далей відаць будзе, што ён.

Затрымоўвае мяне. Хоча аб нечым распытацца. Слухаю.

— «Вы, як мне здаецца, бліжэй, чым я, да Рады?»

— То ест…

— Ну, бо вы і ў газеце…

— Хай так, кажу, «Дык што?»

— Дык ці думае Рада аб чым-небудзь?

— Пэўне ж думае, калі яна Рада, адказую, як жа так не думаць?

— А што яна робіць?

— Мусіць і робіць тое, што лічыць патрэбным.

— Слухайце, не можна ж так! Рада павінна ўсё ведаць. Рада павінна аб усім думаць і ўсё прадбачыць. Мяне гэта ўсё цікавіць як беларуса (а ўся гутарка на найпякнейшым расійскім дыялекце!). І хаця я нічога не раблю, бо не згаджаюся з тымі беларускімі партыямі…

— Выбачайце, дружа, што вас пераб'ю. Не маю часу. Усе беларускія партыі належаць да адной партыі, каторая любіць свой народ і край — любіць Бацькаўшчыну і робіць усё подлуг свайго разумення і сілаў. А калі вы не згаджаецеся з беларускімі партыямі, то значыць вам апрача «тургенеўскага» дыялекту, на якім вы так пекна «паясняетесь», нічога не трэба. І… давідзэння, бо мне з вамі не па адной дарозе.

Раю і табе, чытач, гэткім спосабам канчаць падобныя споведзі. Не марнуй часу. Не кідай бісеру…

*А. Навадворскі*

*1918*

# Лісты

## НЕВЯДОМАМУ АДРАСАТУ

...Нягледзячы на тое, што страшэнне сумна жыць здалёк ад роднай нашай старонкі, ад сваіх, а ўжо прызвычаіўся крыху да гэтых месц і народу, хаця ён мне і не надта падабаецца некаторымі старанамі свайго характару.

Тутака вы не спаткаеце таго, што ў нас: едзе які-небудзь дзядзька; ты ідзеш: «пахвалёны!» — «на векі векаў» — «сядай» — «дзякую» ці «падвязіце, дзядзька!..» — «сядай» — і ты паехаў.

Тутака ў нас чалавек спаткае падарожнага, дык часцей усяго так праедзе, калі незнаёмы; папросіць падвязці, пытае: «сколькі даш?» «Капейкі» іграюць у тутэйшага люду вялікую ролю, і браць іх любяць з каго ні папала і як найболей. Цяперака далей — «чалдоны» п'юць гарэліцу нічога сабе, а шынкоў колькі хочаш — што ні хата, то шынок. Ось і наш гаспадар, гдзе мы жывем, — сам не п'е; жонка толькі ў кампаніі, калі ідзе агульная гулянка: вяселле, свята ці што іншае. І ось у іх гарца гарэлкі часам не стае на тыдзень.

Ну, годзе аб гэтым — народ як народ, нічога сабе. У гэтым годзе ў Кірэнскі павет Іркуцкай губ. прыйшло 4 партыі, а ў іх многа «палітыкаў». Калі гэта перастануць пхаць сюды народ?! І так тутака людзі галадаюць, бо для ўсіх няма работы, дык і не ўсе ўмеюць што рабіць. Нядаўна ездзіў у Кірэнск і бачыў тамака бабусю Брэшка-Брашкоўскую[1]. Яе прыслалі ў Кірэнск, каб мець лепшы надзор за ёю. Сцерагуць, як могуць, дык і то баяцца, што ўцячэ. Чуў я, што і спраўнік хоча прасіць дазвалення (ці ўжо просіць) пасадзіць яе ў крэпасць, а то не можа паручыцца, што яна не ўцячэ. А баек каля яе... нагаварылі колькі?! І мільёншчыца яна — цэлых паўтара мільёны грошай мае; і

нейкая там «партія» пад яе ўласнай рукой знаходзіцца і т. д. і т. п. Ну, ось і бачыў ▪ гэтага цудоўнага чалавека, каторага так баяцца. Што за мілая кабета?!. Мае ўжо больш 65 гадоў, а столькі яшчэ духоўнай сілы ў сябе таіць і энергіі, што іх, здаецца, станее яшчэ на цэлы век. Ласкавая, як і сапраўды бабуля; простая, як вясковая кабеціна; жывая і вясёлая, як бы гадоў з 35 для яе дарма прайшлі. Распытывалася, як жывецца. Раіць асесці тутака і ўзяцца за што-небудзь такое гаспадарскае са сваім домам усім такім. А «Расея маўчыць; вы цяперака ёй не патрэбны — як трэба будзе, сама скліча вас». Дык ось каго я бачыў — буду памятаць яе доўга. Ось і ўсё найцікаўшае з майго жыцця ў далёкім Сыбіру.

*Алесь Гарун*

## ВАЦЛАВУ ЛАСТОЎСКАМУ

Высокапаважаны Пане Ластоўскі!

Пасылаю Пану, для «Н[ашай] Н[івы]» зноў сваіх колькі вершаў. З песнямі пакуль што маўчу. Ёсціка ў галаве пара матываў, але пакуль што заняты другім: як урву якую вольную часінку, то пакладаю на пісанне драмы для беларускага тэатру. Драма ў вершах, з сучаснага нам жыцця і будзе меці тытул «Дэпутат». Можа, крыху другі, але кончэ з «дэпут.»[1] Першы акт наперша скончыў, пачаў другі, але калі ўсё давяду да канца — не ведаю. А покуль што жычу ўсяго найлепшага і, моцна паціскаючы руку Пану, застаюся заўсёды ўдзячны і прыхільны.

*А.Прушынскі*
1912.30/X
Кірэнск



# *Успаміны пра Алеся Гаруна*

А. А–к

## АЛЕСЬ ГАРУН
## (Аляксандр Прушынскі)

Гэта было ў 1918 годзе — у старым Менску. У скромнай зале, за немаляванымі простымі сталамі, сабраліся прадстаўнікі беларускага народа. Адбывалася сесія Рады Рэспублікі[1]. Маладыя абліччы, гарачыя рэвалюцыйныя прамовы. Шмат тэмпераменту, шмат прыгожых рэзалюцый, але як мала натужнай[2] працы, як мала патрыятызму! Словы і словы... Рэвалюцыя, паглыбленне рэвалюцыі, змаганне з нямецкім імперыялізмам...

І не дзіўна: мядовыя месяцы вялікае ўздойміцы яшчэ не былі перажытымі, і цяжка было мірыцца з горкай праўдай, балюча было бачыць нямецкага шуцмана.

Старшыня Рады абвясціў, што слова належыць раднаму Прушынскаму. Паднялася крыху згорбленая, апранутая ў сялянскую жакетку, павольная статура. Бледнае аблічча, цёмныя засмучаныя вочы, спакойны, роўны, але цвёрды голас. Пачаў гаварыць просты сталяр, быўшы «катаржнік», якога лепшыя гады жыцця прайшлі ў халоднае і дзікае Сібіры. Па волі расійскага цара — за лепшыя ідэалы, за абарону правоў вякамі няволенага беларускага селяніна дзевяць гадоў катаргі, дзевяць гадоў голаду і маральных здзекаў... Толькі мужыцкі сын, гарачы патрыёт мог знайсці ў сабе сілы і веру, каб перажыць увесь цяжар катаргі. Гэтая вера і гарачая любоў да свайго роднага вылілася ў яркіх «думках»-песнях, у прыгожых і ўталентаваных вершах.

«Паны радныя, — гаварыў А.Прушынскі. — Я чуў тутака гарачыя і прыгожыя прамовы. Шмат гаварылася тутака аб рэвалюцыі, аб

заслугах блізкага нам расійскага пралетарыяту, аб патрэбе паглыбляць рэвалюцыю. Я шаную рэвалюцыю, я аддаю ёй сваю пахвалу. Я сам рэвалюцыянер, але аб адным забыліся вы: рэвалюцыі ў нас на Беларусі няма. Яе задушылі Гофман і Троцкі ў Бярэсці[3], разарваўшы яе на часці. Вы гаворыце аб паглыбленні рэвалюцыі ў той час, калі нямецкі шуцман можа прыйсці сюды і разагнаць гэты Высокі Сход. Іншыя з вас раюць нават змагацца з нямецкімі акупантамі аружнай сілай, весці наш народ на барацьбу з узброеным немцам кулямётамі і гарматамі. А ці падумалі тыя, якія раюць гэта рабіць і сваімі харошымі прамовамі і другіх да гэтага шалёнага ўчынку падбухторваць, што магло б стацца, каб сапраўды наш селянін з голымі рукамі пайшоў біцца з немцам? Ці падумалі аб тым, што мітынговыя прамовы пара скончыць, што трэба цяпераka займацца не прамовамі, а трэба, па маёй думцы, разважаць аб тым, як пачаць і з чаго распачаць нашае дзяржаўнае будаўніцтва. Трэба падумаць аб тым, як уцекачоў нашых пераправіць на Бацькаўшчыну, чым накарміць іх, — як школы адкрыць, як абараніць нашага селяніна ад рэквізіцыяў, як завесці суды і шмат, шмат яшчэ чаго.

Паны радныя, памятайце, што мы — прадстаўнікі народа, мы яго голас. Прыпомніце, што народ нас выбраў для працы, і працы цяжкой, а не для гульняў і прыемных гутарак і супярэчак. Наш селянін мала гаворыць, а шмат робіць. Вас — прадстаўнікоў народнае волі — я заклікаю да працы».

Вось прамова, якую я запісаў у сваім часе і якая даволі характарызуе нябожчыка Аляксандра Прушынскага.

1919 год. Нямецкую акупацыю змяніла бальшавіцка-маскоўская. Урадавыя беларускія ўстановы выехалі. Рада Рэспублікі сваю чыннасць спыніла. Сябры Рады Рэспублікі абвешчаны былі бальшавіцкай уладай «вне закона». Прушынскі застаўся ў Менску. «Нікуды не паеду, — казаў ён. — На Бацькаўшчыне шмат працы. Смерці ж я не баюся, дый і не расстраляюць мяне — пасаромяцца: усё ж такі я — стары рэвалюцыянер».

І застаўся працаваць, працаваў цяжка. Працаваў у дзіцячых прытулках, недаядаў часта, недасыпаў, хварэць пачаў. Меў шмат клопатаў і непрыемнасцяў ад бальшавіцкіх камісараў, але застаўся, як заўсёды, спакойным і гумару не траціў. Па вечарах дапозна сядзеў і пісаў свае думы-вершы. Дзяліўся са сваёй матуляй-старушкай сваімі радасцямі і смуткамі.

Пад канец панавання бальшавікоў у Менску распачаўся нялюдскі тэрор. Кожны дзень расстрэльваліся сотні людзей. Чэка агарнула якоесьці шалёнства. Стала цяжка дыхаць. Алесь пачаў нервавацца, пачаў пратэставаць адкрыта, не хаваючыся і не палохаючыся за ўласнае жыццё. З велізарным трудом, проста сілком, удалося прыяцелям Гаруна ўгаварыць яго выехаць на нейкі час з Менска. І гэта было зроблена ў пару, бо чэка ўжо яго шукала...

Бальшавіцкая акупацыя змянілася польскай. Заварушыліся беларусы, забегалі. Шмат працы, шмат працы! Трэба стварацъ усё спачатку, нанова. Няма газеты, няма грошай. Школы сталі — дзеці ў прытулках галадаюць.

Маніфест Пілсудскага[4] акрыліў надзеямі, паддаў энергіі і веры. «Як роўны з роўным, як вольны з вольным... Ідзём вызваляць вас з-пад чужацкага ярма, каб вы самі пастанавілі аб сваёй дзяржаўнай прыналежнасці...»

Прыгожыя словы, падсалоджаныя. Шмат хто паверыў ім — у тым ліку быў і Гарун. Я памятаю яго сільную зместам прамову да Пілсудскага[5], калі апошні быў у Менску. Гарун гаварыў і верыў, што сапраўды прыйшлі палякі, каб вызваліць Беларусь ад чужынцаў з усходу, каб сапраўды даць нашаму народу распачаць будаўніцтва свайго гаспадарства. І доўга трымалася ў ім гэта вера. Шчыра пачаў працаваць у кірунку збліжэння двух блізкіх народаў — паляка, ужо аслабаніўшагася, і беларуса, яшчэ прыгнечанага.

1920 год. Польская акупацыйная пята пачала крэпка душыць беларушчыну. Аб прыгожых словах маніфеста Пілсудскага ўжо забыліся. Былі «ўсходнія крэсы» з жандармерыяй, з галіцыйскімі чыноўнікамі і польскім шалёным шавінізмам.

Пачаліся фармацыі беларускага войска. Гэтай справай верхаводзіла вайсковая камісія[6]. На чале яе стаяў Прушынскі[7]. І тут ён верыў, што палякі пойдуць насустрач беларускаму грамадзянству — дадуць стварыць сваю збройную сілу. Алесь і тутака працуе, аддаючы гэтай справе свае, ужо надарваныя хваробай сілы. Пры надзвычайных варунках вялася гэтая праца. Халодныя і галодныя афіцэры першага беларускага войска, лепшая беларуская інтэлігенцыя, напружалі сілы, каб стварыць сваё войска, каб убачыць на родных вуліцах сталіцы беларускіх жаўнераў і пачуць беларускую жаўнерскую песню. Напружаліся, працавалі — але ўжо болей не верылі падсалоджаным словам польскага пана...

Перастаў ім верыць і Гарун. Не верыў і расчараваўся ў самой магчымасці штосьці зрабіць пад польскай пятой. Шалёная хвароба прыкавала бедака да ложка. Туберкулёз лёгкіх рабіў сваю работу. Алесь чах і відавочна слабеў. Але і тут знайшоў у сабе сілы не пакідаць каханай справы.

Ён пачаў пісаць свае знамянітыя «Дзіцячыя казкі». Кажу — знамянітыя, бо толькі чутная і крышталёвая душа Гаруна змагла даць такія прыгожыя, так глыбока разумеўшыя дзіцячую душу — казкі.

Пад навалай бальшавікоў польскае войска ўздрыгнулася, пачало паддавацца. Гарэлі вёскі і мястэчкі. Гэта палякі «каралі» беларускіх сялян. Пачаліся расстрэлы, пачаўся здзек. Агнём, крывёй і слязьмі беларускага селяніна генерал Шаптыцкі[8] хацеў стрымаць наступленне бальшавікоў...

Хворы, ледзь жывы, амаль што не з апошнім цягнікам, выехаў Гарун з Менска.

«Куды едзеш і па што едзеш?» — пытаюся. «Еду, — адказвае, — бо цяперака, калі б застаўся, дык не мінуў бы бальшавіцкае кулі. А жыць ▪ яшчэ хачу, дужа хачу».

І едзем. Едзем у таварным вагоне, на быдлячым гнаі. Шмат нас сабралася, усе мы пахмурыя, маўклівыя. І кожны з нас мае на думцы, напэўна, адно і тое: «Вось чым адплацілі палякі нашаму народу за наш давер — пажарам Беларусі! А нас, прадстаўнікоў яго, вязуць у гнаёўцы».

З цяжкімі і сумнымі думкамі даехалі да Ваўкавыска. Гарун зусім аслабеў. З болем у сэрцы прыйшлося палажыць яго ў паходны вайсковы шпіталь, які давёз у Кракаў.

У Кракаве, на чужыне, без ніводнага блізкага чалавека, знайшоў сабе Гарун вечны адпачынак...

Кажуць, што на вайсковых могілках можна знайсці магілку, на якой стаіць маленькі драўляны крыжык з ледзь-ледзь прыкметным надпісам: «Тутака пахаваны Аляксандр Прушынскі...»[9]

*1922*

Мікола Шыла

## АЛЕСЬ ГАРУН

Прыкра, жудасна і несамавіта адчувае сябе чалавек, папаўшы першы раз у астрог. Фізіяноміі дазорцаў суровыя, здаецца, што бязлітасныя. Кепска было і ў мяне на сэрцы. Прывялі, у канторы распранулі, абыскалі, забралі сякія-такія рэчы, запісалі і павялі. Адчынілі дзверы, буркнулі: «На палітычны карыдор» і выпхнулі на вялікі, вымашчаны каменем двор, пасярэдзіне якога стаяў чатырохпавярховы будынак з вежамі па кутох і з закратанымі вокнамі. Стаю і, як затраўлены звер, аглядаюся, не ведаючы, што з сабою рабіць. Раптам чую жаночы голас: «Таварыш, вы адкуль?» Аглядаюся — з акна, з другога паверха, махаюць рукой. Падышоў, разгаварыліся. Палітычныя жанчыны. Запрапанавалі на ручніках, прывязаных да кратаў, забрацца да іх на акно на ранішні пачастунак. Адмовіўся і папрасіў, каб накіравалі мяне да сваіх. Растлумачылі і сказалі, што на трэцім паверсе мяне спаткае палітычны стараста, якому аб гэтым зараз перададуць.

Пайшоў у дзверы. Падняўся па сходах на трэці паверх. Там мяне ў вялікіх краціністых варотах і спаткаў стараста Кірыл. А з ім паўсотні палітычных вязняў, сярод якіх быў і той, аб якім я і хачу напісаць. Прывялі мяне ў чатырнаццатую камеру і даручылі высокаму, маладому, як і я, бязвусаму хлапцу, старасце восьмае камеры — Алесю Прушынскаму.

Павёў ён мяне ў камеру № 8. Па дарозе мяне абміналі, і я абмінаў дзесяткі вязняў, сярод якіх былі і з кандаламі на нагах. Звон кандалоў на мяне зрабіў непрыемнае ўражанне. Прушынскі па маёй міне адчуў гэта і спакойна заўважыў, што не адзін із нас будзе насіць гэтыя бранзалеты. У камеры мяне абступілі з пытаннямі: адкуль і якой партыі. Даведаўшыся, што я належу да Беларускай Сацыялістычнай Грамады, сказалі, што тут ёсць мае аднапартыйцы — Букавецкі, Алесь Бурбіс[1] і Караткевіч. Адвялі мне месца на нарах, прынеслі сяннік і саламяную падушку. Пачалося маё новае жыццё, пачаў я прыглядацца да маіх сутаварышаў, да суадносінаў. Першыя веды турэмнага жыцця атрымаў я ад Прушынскага, які не пакідаў мяне, не даваў маркоціцца па волі, па блізкіх. Яго светлы, адкрыты твар з сінімі васільковымі вачыма свяціўся нейкай унутранай цеплынёй, дабратой, ласкавасцю. Часта ўначы, лежачы на нарах, перадаваў ён мне гісторыю свайго жыцця. Паходзіў ён з Менска. Бацька ягоны быў у Менску дворнікам. Шмат пазней я жыў з ім у адным доме. Вучыўся спачатку ў народнай школе, а потым у рамесніцкай школе па аддзелу сталяркі, якую і скончыў на выдатна і атрымаў працу. Будучы яшчэ ў школе, прымаў удзел у рэвалюцыйнай працы сацыялістаў-рэвалюцыянераў максімалістых. За арганізацыю падпольнай друкарні ён і папаў у астрог. Пісаць па-беларуску ён тады не пісаў, хаця адчуваў сябе беларусам. Кожны беларускі верш, які прыходзілася яму чытаць ці чуць ад А. Бурбіса, ён завучваў на памяць. Ледзь не кожны дзень ён дэкламаваў гэтыя вершы. Дэкламаваў ён вершы і Мацея Бурачка. «Дудку беларускую» ён знаў усю на памяць. На маё пытанне, адкуль ён ведае гэтыя вершы, была адпаведзь, што ў школе ён ад вучняў дастаў кніжку, выдадзеную гадоў 10 назад таму ў Кракаве, якую перапісаў і завучыў. Памяць ён меў фенаменальную. Даволі было прачытаць яму верш два-тры разы, каб ён яго ўжо дэкламаваў, нідзе не збіваючыся. Па натуры ціхі, крыху саромлівы, спакойны, ён ніколі не высоўваўся наперад, але затое, калі была ў турме сярод палітычных «валынка» (забурэнні, непаразуменні з начальствам), ён быў першым. Страху ён не знаў, быў перапоўнены адвагаю і станоўкасцю. Мяккі па характары, чулы, спагадлівы на кожную бяду, на кожнае няшчасце свайго блізкага, ён быў непакорны, няўмольны да сваіх палітычных ворагаў. Памятаю, чыталі камерай апавяданне, здаецца, Купрына, дзе рэвалюцыянер забіў у Адэсе граданачальніка. Ягоная жонка з'явілася да доктара, каб той паспяшыў з дапамогай ейнаму мужу. Доктар адмовіўся ісці ратаваць жыццё ката рэвалюцыянераў і народа. Але настойлівасць кабеты, ейныя довады, што яе муж цяпер звычайны чалавек, які стаіць перад Богам і Божым Судом, падзеялі на доктара, і ён згадзіўся паехаць. Разбіралася тэма: ці добра зрабіў доктар, што паехаў, ці блага. Большасць выказалася за тое, што нават ворагу ў такой бядзе трэба памагчы. Тады з палкай прамовай, падмацаванай фактамі з жыцця менскае турмы, выступіў Алесь Прушынскі з наганаю, што доктар зрабіў блага, што паехаў ратаваць жыццё ката, жыццё прыгнятальніка народа.

«Чаму яны не мелі літасці, — гаварыў ён, — да Караткевіча (і шмат, шмат іншых), якога павесілі, абрэзаўшы вяроўку, на якой ён вісеў, укінулі ў воз і павезлі хаваць. А калі прывезлі на родную зямельку, ён раптам ачуняў. Ці яны яго пашкадавалі? Не! Прывезлі назад і зноў павесілі. Вось вам літасць, вось вам іх чалавечнасць і гуманнасць, аб якіх вы тут так многа гаварылі. На іх гвалты, на іх здзекі мы павінны адказаць няўмольным тэрорам, каб яны пабачылі нашу сілу, моц і цвёрдасць, каб пачулі перад намі страх, каб іх ад нашага аднаго слова кідала ў дрыжыкі!».

Доўгія восеньскія вечары праводзілі мы на яго нарах. Расказваў ён мне аб сваім жыцці на вёсцы, а потым у месце, аб сваіх бацьках, асабліва аб маці, якую ён любіў неяк асабліва. Ён, як малое дзіця, называў яе ласкальнымі, пяшчотнымі словамі, ён думаў аб ёй, прыгадваў, што яна ў гэты момант робіць, дзе яе думкі. Недарма і зборнік сваіх вершаў ён назваў «Матчын дар». Яго гаротнае жыццё, яго пакуты, яго перажыванні, як мне думаецца, змусілі яго падпісаць свае першыя вершы, а потым і зборнік псеўданімам Алесь Гарун.

Радасці ў сваім жыцці ён бачыў мала. З малых гадоў памагаў бацькам то падмятаць вуліцу, то маці мыць бялізну і разносіць яе на кватэры давальнікаў. «Ты не паверыш мне, — казаў ён мне, — як цяжка было мне слухаць абразлівыя заўвагі, што бялізна кепска вымытая. Здаецца, плюнуў бы ім у твар, але я плакаў і цярпеў, несучы ў сэрцы пагарду да іх і помсту. Хацелася крывёю напісаць кнігу аб жыцці такіх, як я, пусціць на суд людзей, падняць іх да змагання за лепшае жыццё. Гэта і змусіла мяне ўступіць у партыю, арганізаваць падпольную друкарню, але не давялося кончыць».

У 1908 годзе Віленская судовая палата засудзіла яго на ссылку ў Сібір. Праз два месяцы яго з партыяй катаржнікаў і адправілі ў Сібір.

Жменька маіх успамінаў няхай будзе вянком на магілу выдатнага сына беларускага народа Алеся Гаруна.

*1950*

А. Эссон

## МАЕ ЎСПАМІНЫ АБ АЛЕСЮ ПРУШЫНСКІМ

Упершыню доля спаставіла мяне, паўночнага каўказца, з беларусам Алесем Прушынскім у аднолькава далёкай нам абодвум Сібіры ў 1909 годзе ў перасыльнай частцы славутай Аляксандраўскай Цэнтралкі, недалёка ад г. Іркуцка.

У гэтую перасыльную Цэнтралку з усіх канцоў імперыі зганялі асобныя партыі палітычных ссыльных, засуджаных ваеннымі і іншымі судамі на вечнае пасяленне. Пад канец 1909 года нас набралася шмат сотняў: былі тут латышы ў цёплых арыштанцкіх куртках, падшытых самімі ссыльнымі, так што цёплага падшыцця не было відаць з-пад звычайных арыштанцкіх халатаў з адмысловага грубага сукна. Тут былі беларусы, палякі і яўрэі з заходніх губерняў Расіі, колькі грэкаў, ладна расейцаў, грузіны, армяне, асеціны і расейцы з Каўказа; было нават двух кіргізаў. З усіх перасыльных найгорш былі апранутыя на зіму мінгрэльцы[1]. Іх было чалавек 25. Ад самага пачатку, як толькі апынуліся ў паўдзённай частцы Расеі, каля г. Растова, мы, каўказцы, пачалі хварэць на тыфус. Мінгрэльцы былі апранутыя ў лёгкія чэркескі з башлыкамі на галаве, а зіма была ў самым гарце. Тэмпература часта трымалася на 25–30 градусаў ніжэй за нуль тэрмометра Рэамюра; плюнь — і сліна застыгала ў паветры ледзяной куляй, перш чым даляцець да зямлі. Перасыльныя турмы звычайна былі перапоўненыя, і таму колькасць хворых была страшэнная; блізу ўсе мінгрэльцы перамерлі яшчэ перад Самарай.

Наша партыя каўказцаў прыбыла нарэшце ў Аляксандраўскую перасыльную турму, але ў куды меншай колькасці, як яна была ў Растове. Тут нас размясцілі па бараках сярод іншых, што прыйшлі раней. Не лішне будзе сказаць колькі словаў пра гэтую турму. Яна складалася з колькіх карпусоў і баракаў рознага памеру, прычым катаржнікі, што адбывалі свой тэрмін да выхаду на вольнае пасяленне, займалі большую частку іх, і турэмная арганізацыя базавалася, казаў той, на гэтай сталай частцы зняволеных. Будынкі ўсе былі драўляныя. У кожным бараку ўздоўж сценаў было па два рады юрцаў. Прамежнік паміж юрцаў быў калідорам, сюды звозілася ежа і ўсё іншае. Па канцах бараку, тут жа, каля самых юрцаў, стаяла колькі парашак. Усе баракі і двары былі абгароджаныя высокімі частаколамі з бярвення ў 25–30 футаў увышкі, з завостранымі вярхамі. Па вярхах гэтай высокай агарожы ўзвышаліся будкі варты і вузкія пляцоўкі, па якіх вартаўнікі хадзілі ўзад і ўперад з стрэльбамі на плячах. Турэмная варта была ўкамплектаваная маладымі здаровымі сытымі хлопцамі, усе былі як на падбор. Большыню іх лёгка было падкупіць. Так праз іх можна было за грошы дастаць не толькі белы хлеб, масла, малако і іншыя прадукты, але і такія рэчы, якія былі строга забароненыя турэмнай адміністрацыяй: нажы, чаравікі, акуляры, нелегальную пошту, і нават можна было наладзіць сувязь з мясцовай палітычнай нелегальнай арганізацыяй.

У бараку звычайна змяшчалася да 200 чалавек, даводзілася бадай увесь час быць у бараку, хадзіць паміж юрцаў, сядзець на юрцах і чытаць або гуляць у карты ці ў шахматы. З дазволу начальства мы нават арганізавалі даволі добры хор.

Неўзабаве па тым, як мы прыехалі, маю ўвагу прыцягнулі да сябе два перасыльныя, што прыехалі раней за нас з заходніх губерняў Расеі, яны былі ў адным з намі бараку. Адзін быў Кулага, эсэр, здаецца,

чыгуначнік, з вялікай шаўковай светлай барадой, хоць яму было не больш як 25–26 год. Гэта быў тыповы напышлівы чыноўнік. Ён быў за старасту ў нашым бараку, г. зн. вёў усе патрэбныя перамовы з нагляд-чыкамі і іншым начальствам у пытаннях нашага барачнага жыцця. Другі, Алесь Прушынскі, таксама беларус з Заходняга краю, быў поў-най супрацьлежнасцю да Кулагі. Высокага росту, крыху суглобы і блізу заўсёды сур'ёзны, але не гмырны. Алесь быў узорам спакойнага і ўдумлівага чалавека. У гутарцы з кім-небудзь ён заўсёды быў без афек-тацыі і, відаць, таму ад першага знаёмства вельмі гарнуў да сябе кож-нага. Не ведаю, можа, таму, што мы з ім былі зусім супрацьлежных характараў — ■ лахолісты, нервовы і гарачы каўказец, а ён — спакой-ны назіральнік усяго навакольнага, непрайманны беларус, а можа, про-ста ягонае спакойнае і сур'ёзнае аблічча спадабалася мне, але мы не-ўзабаве пасябравалі. Алесь быў дасканальны шахматыст, найлепшы з усіх нас, хто гуляў з ім. Гулялі часта. Звычайна ён, гуляючы на памяць, г. зн. без дошкі, быў адна партыя, а колькі нас — другая партыя. Ён расцягаўся на юрцах, накрываў твар хустачкай, і гульня пачыналася. Мы рэдка выгравалі, дармо што часта перагаворваліся — кансульта-валіся. У шахматнай гульні мяне найбольш уражала то, што Алесь ніколі не нерваваўся. Хіба толькі, калі ён часам забываўся палажэнне тае ці іншае фігуры пасля нашых даўніх нарадаў, можна было згле-дзець незадавальненне на ягоным твары. Ведама, што гульня ў шахма-ты адна з самых нервуючых, газардавых; ніколі мы не бачылі, каб у Алеся дрыжэлі рукі, як у нас, ці каб ён хваляваўся.

Я не памятаю, каб я калі бачыў Алеся ў гневе ці ў злосці, за вы-няткам аднаго выпадку. Тым разам на ягоным, звычайна непрайман-ным і спакойным твары было абурэнне. Гэта было аднойчы ў часе маёй спрэчкі з паляком-нацыяналістам. Калі не мылюся, гэта быў граф Чапскі, таксама ссыльны. Чапскі даводзіў канечнасць адлучэння поль-скай нацыяналістычнай партыі ад расейскіх рэвалюцыйных партыяў на той аснове, што расейцы нагэтулькі менш культурныя за палякаў, што не могуць мець аднае або аднолькавае з палякамі праграмы рэва-люцыйнага змагання. На мой бок неўзабаве стаў Алесь. Ён, відаць, бачыў, што я не знаю ні палякоў, ні іхняе культуры і што таму бяру довады Чапскага за грунтоўныя; ён так даў майму апаненту, што ўсе навакол паднялі на смех небараку Чапскага.

Алесь не быў марксісты і наагул не выказваўся за ніводную лінію, што тады панавалі, — ні за народніцкую, ні за марксісцкую. Ад Алеся я ўпершыню даведаўся, што ёсць апрычоная[2] беларуская мова, а не дыялект расейскай мовы. Ён пісаў вершы па-беларуску. Слухаючы яго ўважліва, я не мог нават ухапіць сэнсу, што ён чытаў. Для мяне гэта быў набор нейкіх незразумелых правінцыялізмаў. Агулам беручы, тое, што я чуў, рознілася ад расейскае гаворкі павольнаю плаўнасцю і мяк-чынёй зычных. Там, дзе расейская гаворка рэжа, як сякерай, або «ыкае», беларуская выдавалася мне расцягванай нароспеў. Гэта толькі маё ўражанне без крытычнага аналізу, без ведання мовы.

Мы прабылі ў Аляксандраўскай перасыльнай нядоўга. На пачатку вясны наша партыя ссыльных, якіх размеркавалі на Поўнач у розныя месцы Іркуцкай губерні і Якуцкай вобласці, рушылі ў дарогу. Для мяне абставіны склаліся так, што я не мог нават зберці свае манаткі: за тры дні да нашага адыходу я спяваў з хорам у бараку і быццам за «парушэнне цішыні» ды за «фізічнае ўздзеянне» на аднаго з наглядачоў быў пасаджаны ў цёмны карцэр. Пасля бесперапыннага агульнага пратэсту ўсяе перасыльнае турмы і толькі пасля таго, як прыбыў памочнік пракурора, выкліканы з горада, мяне выпусцілі перад самым выхадам партыі. Дык я і не паспеў развітацца з нікім з тых, хто быў вызначаны на жыццё ў іншыя месцы, у тым ліку і з Алесем.

*1963*

Францішак Кушаль

## СОРАК ДВА ГАДЫ ТАМУ
(Жменя ўспамінаў аб Алесю Гаруну)

Першыя мае ўспаміны аб Алесю Гаруну, што друкаваліся недзе ўвосень 1941 г. у менскай «Беларускай газэце», былі, магчыма, паўнейшыя, чымся тая жменька, што даю тут, бо тады, у 1941 г., ад трагічных падзеяў на Беларусі ў 1920 г. і майго апошняга развітання з Алесем Гаруном мінула было адно 21 год, сёння ж да іх дайшло яшчэ гэтулькі сама, а сорак два гады ў жыцці чалавека шмат значыць, асабліва ў дачыненні да гэткай нясталай ды нетрывалай рэчы, як людская памяць.

Упершыню я сустрэўся з Алесем Гаруном у Менску ў 1918 г. Прыйшоў я тады ў Менск пехатою з Забор'я, дзе жылі мае бацькі, з мясцовасці, якая ляжыць у сямідзесяці вярстах ад Менска і належала ў тыя часы да Ашмянскага павета. Мэтаю майго падарожжа ў Менск было дастаць там беларускіх кніжак для бібліятэкі гуртка беларускае моладзі, што я і мае сябры наважылі арганізаваць у мястэчку Івянцы. Беларуская кнігарня змяшчалася тады ў двухпавярховым доме на Захараўскай вуліцы, якраз насупраць «Новага» касцёла. Калі я ўвайшоў у дом, дык адразу пабачыў прылавень, на якім былі акуратна параскладаныя кнігі, а за ім — высокага худога чалавека, апраненага ў жакетку із саматканага вясковага сукна, з-пад якое было відаць белую палатняную кашулю з каўняром, вышываным беларускім узорам. Я кагадзе якраз пакінуў быў царскую армію, што развалілася ў выніку рэвалюцыйных падзеяў, і не патрапіў яшчэ пазбыцца вайсковых звычкаў. Стануўшы на «зважай» перад чалавекам у саматканай жакетцы, я назваў сваё прозвішча.

— Прушынскі, — адказаў мне ён, падаючы руку да прывітання.

Я ўжо ведаў, што Аляксандр Прушынскі — гэта сапраўднае імя паэта Алеся Гаруна, творы якога я з вялікім захапленнем вучыў на памяць і дэкламаваў, і адразу здагадаўся, з кім маю гонар пазнаёміцца. Мы разгаварыліся. Алесь Гарун з вялікай цікавасцю распытваў мяне аб тым, што робіцца на правінцыі, як пашыраецца беларуская сведамасць сярод сялянства ды інш. Нарэшце ён напакаваў маю торбу кніжкамі, сказаўшы, што грошы за іх спагоніць з нас тады, калі нашая бібліятэка пачне мець прыбыткі.

Улетку 1918 г., апрача гэтага першага разу, я вельмі часта бываў у Менску то пехатою, то прыязджаючы з івянецкімі балаголамі. Кожны раз я наведваў беларускую кнігарню і сустракаўся там з Алесем Гаруном. У гэтым жа доме на другім паверсе змяшчалася рэдакцыя беларускай газеты «Вольная Беларусь»[1]. Там я пазнаёміўся і з Язэпам Лёсікам і з ягонаю жонкаю Вандай Лявіцкай[2], дачкой вядомага беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш.

На свеце ўсцяж не было супакою. Увосень 1918 г. выбухла рэвалюцыя ў Нямеччыне. Немцы былі змушаны капітуляваць перад кааліцыяй. Нямецкія арміі пачалі пакідаць займаныя імі прасторы Беларусі. Следам за нямецкай арміяй, што адыходзіла на захад, з усходу ішло бальшавіцкае войска. Неўзабаве ўся Беларусь апынулася пад бальшавікамі. Увесну 1919 г. пачалася новая вайна — польска-бальшавіцкая. Палякі памаршыравалі на ўсход, і 19 красавіка 1919 г. польская армія здабыла Вільню, а колькі месяцаў пасля — 8 жніўня 1919 г. заняла Менск. Неўзабаве па заняцці палякамі Вільні, у траўні 1919 г. у Вільні адбыўся беларускі з'езд Віленшчыны і Горадзеншчыны, на якім было пастаноўлена пачаць пад польскай акупацыяй арганізацыю беларускага войска. На з'ездзе была абраная адмысловая вайсковая камісія, якой і было даручана пачаць захады перад польскім галоўным камандаваннем аб дазволе на арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў. Пасля вельмі даўгіх намаганняў і перамоваў, бо толькі 22 кастрычніка 1919 г. галоўнакамандуючы польскай арміяй Язэп Пілсудскі выдаў нарэшце дэкрэт аб дазволе арганізаваць беларускае нацыянальнае войска. Гэтым жа дэкрэтам паклікалася Беларуская вайсковая камісія (БВК), кожны сябра паіменна. У склад камісіі былі пакліканыя дэкрэтам гэткія асобы: на старшыню БВК прызначаўся Паўла Аляксюк[3], адвакат паводля прафесіі, вельмі актыўны ў тых часах беларускі дзеяч. На камандуючага беларускімі вайсковымі аддзеламі прызначаўся палкоўнік Канапацкі[4], беларус татарскага паходжання. У склад камісіі быў пакліканы і Аляксандр Прушынскі, а апрача яго, як сябры камісіі, гэткія асобы: Антон Аўсянік, маёр Якубецкі, Сымон Рак-Міхайлоўскі[5], палкоўнік-інтэндант Якубоўскі і я, капітан Францішак Кушаль. Месцам урадавання Беларускае вайсковае камісіі вызначаўся Менск (аб БВК быў мною ў сваім часе напісаны даўжэйшы артыкул «Ад Менску да Лодзі», які друкаваўся ў 1952 г., у лістападзе, снежні і студзені ў газеце «Беларус», нумары 21, 23, 24 і 25).

У снежні 1919 г. БВК пакінула Вільню і прыбыла ў Менск, дзе заняла даволі вялікі менскі гатэль «Гарні». На першым паседжанні камісіі быў абраны ейны прэзідыум, заступнікам старшыні якога стаўся Аляксандр Прушынскі. Памятаю, што ён станоўка адмаўляўся ад гэтае функцыі, матывуючы сваю адмову слабым здароўем. І сапраўды, досыць было глянуць на яго, і кожны мог пераканацца, што перад ім моцна хворы чалавек. Аднак, дармо што ўсе слушныя адмовы, Алесю Гаруну не ўдалося пераканаць камісію, і ён застаўся заступнікам старшыні Прэзідыуму БВК.

Паўла Аляксюк быў незвычайна энергічны чалавек, вельмі добры прамовец. Неўзабаве межы БВК сталіся яму зацесныя. Каб мець магчымасць шырэйшае дзейнасці, ён пачаў штораз часцей выязджаць у Варшаву, дзе, як казалі тады ў Менску, рабіў «высокую» палітыку. Паказаўшыся час-часом у камісіі, ён зноў на даўжэйшы час недзе знікаў. Ясна, што ўвесь цяжар працы ў БВК зваліўся на плечы хворага Прушынскага, а праца гэтая была вельмі цяжкая і нервовая. Бо, не зважаючы на дэкрэт найвышэйшага аўтарытэту, — галавы Польскае дзяржавы і галоўнакамандуючага польскай арміяй, Язэпа Пілсудскага, справа арганізацыі беларускага войска ад пачатку сутыкнулася з немагчымымі да абладжання перашкодамі.

Перашкоды гэтыя вынікалі найперш і з палажэння, што існавала тады на Беларусі. Зламаўшы супраціў бальшавіцкае арміі, польскае войска рынула за ворагам на ўсход, не даючы яму магчымасці арганізаваць дзе-колечы абарону. На прасторах Беларусі, займаных польскай арміяй, зараз жа арганізоўвалася адміністрацыйная ўлада, вядома, вылучна з паланізаваных паноў, панкоў ды паўпанкаў.

Неўзабаве ўсе адміністрацыйныя становішчы, а гэтаксама пасады ў паліцыі, былі занятыя гэтымі людзьмі. З вельмі малымі выняткамі, усе яны былі эндэцкае арыентацыі[6], а значыцца — зацятымі польскімі нацыяналістамі, ворагамі ўсяго беларускага, бо ж вядома, што няма горшага беларусаеда, як спаланізаваны беларус. Як і трэба было спадзявацца, гэтая зграя цалкам сабатавала дэкрэт Пілсудскага. Высыланыя БВК на правінцыю вербунковыя агенты звычайна арыштоўваліся і траплялі ў турмы. Ахвотнікаў ісці ў беларускае войска не дапушчалі ў Менск і страшылі рознымі карамі. Можна сабе ўявіць, як перажываў усе гэтыя несправядлівасці і перашкоды фактычны старшыня БВК Аляксандр Прушынскі, знясілены цяжкой хваробай, а таму асабліва чулы на кожную прыкрасць ці няўдачу.

Тым часам дні ішлі, набліжаўся ліпень 1920 г. БВК удалося з вялікімі цяжкасцямі арганізаваць толькі адзін беларускі батальён. Сярод сяброў камісіі пачало расці і мацнець вялікае незадавальненне. Нарэшце недзе ў канцы чэрвеня 1920 г. у Менск прыехаў Паўла Аляксюк. Адбылося вельмі бурнае пленарнае паседжанне БВК, і Алексюку быў аднагодна выказаны недавер. Аляксюк падаўся ў дымісію[7]. Тое самае зрабіў і палкоўнік Канапацкі. Беларуская вайсковая камісія апынулася ў крытычным палажэнні. Даць рады крызісу было вельмі цяж-

ка, бо Аляксюк быў вызначаны на старшыню БВК дэкрэтам польскага галоўнакамандуючага. Справу трэба было ўзгадняць з польскім камандаваннем. Аднак усе перашкоды ўдалося абладзіць. Новым старшынёй БВК згадзіўся быць адзін з былых рэдактараў першае беларускае газеты ў Вільні ў 1906 годзе, «Нашай долі», Францішак Умястоўскі[8], запрошаны на гэтае становішча ўжо самой БВК. Прыняўшы становішча, Умястоўскі адылі ў Менск не прыбыў. Давялося Аляксандру Прушынскаму і надалей узначальваць БВК.

За часам польскае акупацыі, дармо што вайна і няпэўнасць заўтрашняга дня, у Менску шырока разгарнулася беларускае культурнае жыццё. Тут стала жылі гэткія выдатныя беларускія пісьменнікі, як Янка Купала і Змітрок Бядуля, даездам з Вільні падоўгу запыняўся драматург Францішак Аляхновіч[9], які сам рэжысыраваў свае рэчы дзеля паказу на менскай сцэне, часта выступаў вядомы хор Тэраўскага[10], стала выходзіла беларуская газета «Беларусь» пад рэдакцыяй выдатнага журналіста і пісьменніка Язэпа Лёсіка, якога лучыла з Гаруном асаблівая прыязнь, паўсталая яшчэ за часамі супольна адбыванае імі ў Сібіры ссылкі. У гэтым шырокім культурным жыцці Алесь Гарун браў заўсёды дзейны ўдзел, тым болей, што быў ён у гэтым часе і старшынёю Беларускага нацыянальнага камітэта, які займаўся арганізацыяй і кіраваннем усяго беларускага жыцця ў Менску. Не было дня, каб у ягоным кабінеце ў БВК, пасля гадзінаў прыкрага і цяжкога ўрадавання, не збіраліся на нарады, што цягнуліся да позняе ночы, беларускія культурныя працаўнікі дзеля абмеркавання пільных справаў з галіны выдавецкай, школьнай ды інш. Гэтак, паважна хворы на сухоты, Алесь Гарун, стаміўшыся за дзень да апошняга, мусіў, пасля кароткага адпачынку, пачынаць назаўтра гэткі ж працоўны дзень, тыдзень па тыдні і месяц па месяцы. Нічога дзіўнага, што якраз да яго так хутка прычапілася яшчэ адна хвароба, стаўшыся беспасярэдняю прычынаю ягонае перадчаснае смерці.

5 ліпеня 1920 г. бальшавікі пачалі на шырокім фронце наступ на польскую армію. Палякам давялося адступаць. У Менску была абвешчаная эвакуацыя. Сябры Беларускае вайсковае камісіі зышліся, апошні ў Менску раз, на паседжанне. Яны перагледзелі і адабралі найважнейшыя і найпатрэбнейшыя дакументы, бо забраць усяго не было магчымасці, падзялілі іх міжсобку, пехатою пайшлі на чыгуначную станцыю і селі ў апошні эшалон, што пакідаў Менск.

Ніхто з нас не ўяўляў сабе, якую жахлівую паразу дастала на Бярэзіне польская армія. Мы былі перакананыя, што бальшавікі будуць неўзабаве затрыманыя, праўдападобна на Нёмне, і наважылі далёка не падавацца, а затрымацца дзе-колечы ў заходняй частцы Беларусі. Найдагаднейшым месцам супынку здаўся нам Ваўкавыск.

Лета 1920 г. было на Беларусі незвычайна гарачае. Рана і вельмі багата ўрадзіла гародніна. Беларускія сады аж хінуліся долу ад цяжкіх пладоў. Асабліва надзілі стомленых жаўнераў польскае арміі, што адыходзіла на захад, спелыя буйныя вішні. Яны рвалі іх, елі і запівалі ва-

дой з прыдарожных студняў ды ручаёў. Неўзабаве скрозь выбухла эпідэмія крываўкі (дызентэрыі).

Мы прыехалі ў Ваўкавыск каля паўдня наступнага дня ды пайшлі ў горад уладжвацца. Зайшліся на рынак. Сяляне прывезлі сюды на продаж поўныя вазы вішняў. Вішні былі буйныя і сакавітыя. Мы ўсе ў ахвоту імі ласаваліся. Пад'еў усмак вішняў і Аляксандр Прушынскі. На другі дзень нашага пабыту ў Ваўкавыску сябры БВК зышліся ў зале мясцовае гасцініцы, каб абмеркаваць становішча, у якім мы апынуліся, ды пастанавіць, што рабіць далей. Алесь Гарун на нараду не прыйшоў. Не памятаю ўжо, хто з сяброў сказаў, што «Прушынскі не прыйдзе, бо ляжыць хворы ў сябе на гасподзе». Я і Антон Аўсянік зараз жа пайшлі да яго, каб даведацца, што з ім. Гаспода Алеся Гаруна была на адной з ціхіх бочных вулічак Ваўкавыска і выглядала як звычайная сялянская хата. Калі мы ўвайшлі ў гэтую хату, дык адразу ж пабачылі на дзярвяным сялянскім ложку, засланым саматканаю коўдраю, Аляксандра Прушынскага — Алеся Гаруна. Ён слабым голасам расказаў нам, што ўчора, пад'еўшы вішняў, пачуў вялікую смагу і напіўся, раз і другі, сцюдзёнай вады. Пад вечар яму зрабілася дрэнна, забалеў жывот. Мучыўся ён ім усю ноч і цяпер адчувае незвычайную слабасць. Пачуўшы гэта, Аўсянік пабег шукаць доктара, а за гадзіну прывёў лекара з вайсковае камендатуры. Агледзеўшы хворага, лекар сказаў, што Аляксандр Прушынскі захварэў на тыповую дызентэрыю, і дадаў: «Я вам дам паперу, адвязеце хворага на чыгуначную станцыю і чакайце. Неўзабаве праз станцыю будзе праходзіць санітарны цягнік, вось і здайце хворага дзяжурнаму лекару гэтага цягніка». Селянін, у хаце якога прыпыніўся Алесь Гарун, сведка ўсяе гэтае сцэны, згадзіўся адвезці хворага на станцыю сваім канём. Мы дапамаглі Прушынскаму апрануцца і, калі пад ганак пад'ехала каламажка, вывелі яго пад рукі і пасадзілі на воз, бо сам ён стаяць на нагах ужо не мог. Аўсянік сеў побач з хворым і трымаў яго, абняўшы рукою, усю дарогу, я ж з фурманам сеў у перадку. Прыехаўшы на станцыю, мы сапраўды вельмі мала чакалі санітарны цягнік. Ён прыйшоў за якія паўгадзіны. Я і Аўсянік увялі зусім саслабелага Гаруна ў цягнік і перадалі санітару. Тут, у цягніку, мы — Антон Аўсянік і я, апошні раз пацікнулі руку Алесю Гаруну, жадаючы яму барзджэй ачуняць.

Колькі год пасля — памёр і Антон Аўсянік. І сёння хіба жывы на свеце адзін я, што апошні з беларусаў бачыў жывога Алеся Гаруна. У 1922 г. у часопісе «Беларускі Сцяг», выдаваным у Коўне, з'явіліся ўспаміны аб Алесю Гаруну, падпісаныя крыптонімам А. А-к. Няма ніякага сумлеву, што аўтарам іх мог быць адно Антон Аўсянік, што разам са мною выпраўляў Алеся Гаруна ў апошняе ягонае падарожжа таго, гэтак памятнага і па сараку год, ліпеньскага дня на станцыі ў Ваўкавыску.

Падзеі тым часам не стаялі на месцы. Польская армія затрымалася адно пад самай Варшавай, дзе і разбіла нарэшце бальшавікоў. Прыйш-

ло замірэнне. Польскае камандаванне вызначыла месцам дзеля рэарганізацыі і папаўнення БВК места Лодзь. Неяк увосень 1920 г. БВК атрымала ўрадавы ліст з вайсковага шпіталя ў Кракаве, у якім паведамлялася, што Аляксандр Прушынскі, сябра БВК, памёр ад дызентэрыі, і падавалася дакладная дата смерці ды месца паховінаў.

Вестка аб смерці Алеся Гаруна вельмі цяжка нас уразіла. БВК пастанавіла дэлегаваць некага з беларусаў у Кракаў, каб дакладна даведацца аб абставінах Гаруновае смерці ды знайсці ягоную магілу, зазначыўшы яе так, каб заўсёды можна было яе адшукаць. Гэткім дэлегатам ахвоча згадзілася паехаць у Кракаў Паўліна Мядзёлка[11], тады жонка вядомага беларускага дзеяча Тамаша Грыба[12], які ў тым часе, як эмігрант, жыў у Лодзі. За тыдні два яна вярнулася з Кракава і расказала нам, што ў Кракаўскім вайсковым шпіталі ёй далі ўсю патрэбную інфармацыю аб смерці Аляксандра Прушынскага ды паказалі ягоную магілу. Магіла гэтая знаходзіцца сярод магілаў польскіх жаўнераў, і на ёй стаіць просты дзерваны вайсковы крыжык з таблічкай, на якой напісаныя два словы: Аляксандр Прушынскі.

Гэткая доля нашых вялікіх людзёў, нашых вялікіх паэтаў і нацыянальных прарокаў. Косці Максіма Багдановіча тлеюць «над сіняй бухтай» у далёкім Крыме. Янка Купала знайшоў быў дамавіну ў Маскве. Алесь Гарун супачыў навечна ў чужым польскім Кракаве... Але прайдзе час, і ўсе яны знойдуць вечны супакой на роднай зямлі, у велічным пантэоне беларускіх нацыянальных герояў.

*1960*



# КАМЕНТАР

Гэта — найбольш поўнае выданне твораў А. Гаруна. Большасць з іх друкуецца паводле выд.: Алесь Гарун. Сэрцам пачуты звон. Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка. Мн., «Мастацкая літаратура», 1991. Іншыя творы — паводле перыядычных выданняў, пазначаных у гэтым каментары, а таксама паводле Збору твораў, падрыхтаванага ў 1929 г. спецыяльнай камісіяй у наступным складзе: І. І. Замоцін, М. М. Піятуховіч, А. І. Барычэўскі, В. Ф. Мачульскі, пад агульнай рэдакцыяй І. І. Замоціна. Многія вершы ўпершыню апублікаваны ў зб. А. Гаруна «Матчын дар» (Мн., 1918).

## ПАЭЗІЯ

### *ВЕРШЫ*

#### *Маці-Беларусі (с. 31)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1907, № 23, 21 чэрв. Першы апублікаваны твор паэта. У зб. «Матчын дар» (1918) друкаваўся без загалоўка з разбіўкай на чатырохрадковыя строфы. Другая і трэцяя строфы маюць тут наступны выгляд:

Горам, матуля, цяпер ты замучана,
Стогнам спавіта у сець з ланцугоў,
Рукі і ногі да слупа прыкручаны,
Ціха наругу ты зносіш, без слоў.

Толькі ж уцешся, матуля каханая!
Слуп твой патроху пачаў падгніваць,
Прыйдзе к нам воля святая, чаканая,
Сець з ланцугоў як пачнем разрываць.

### *«Брацця! Досыць цярпець нам і гнуцца...» (с. 31)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *Начныя думкі (с. 33)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1908, № 23, 7 ліст. Друкаваўся ў «Беларускім календары “Нашай нівы”» на 1911 г.

### *Успамненні (с. 34)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *Януку Купале (с. 35)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1908, № 21, 9 кастр. Верш прысвечаны зборніку Янкі Купалы «Жалейка».

### *Ветру (с. 35)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1909, № 35–36, 3(16) верас., з паметкай: «З Сыбіры». Друкуецца паводле зб. «Матчын дар».

Варыянт «Нашай нівы»:

Вецер, вецер вольны!
Зрабі мне паслугу
Не ў службу, а ў дружбу,
Як сябру, як другу:
    Злётай, як ты можаш,
    У маю краіну
    І пабач там бацьку,
    Матку і дзяўчыну...
І пабач яшчэ ты
На роднай старонцы
Народ беларускі,
Што гіне без сонца...
    І паклон мой шчыры
    Ім усім аддай
    І з адказам іхнім
    Да мяне звяртай!..

З Сыбіры

### *Вясна («Дзе дадуць — зраблю пазыку...») (с. 36)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910, № 18, 29 крас.

### *Вясна («Эх, вясна, вясна!..») (с. 37)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Вецер (с. 39)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910, № 23–24, 10 чэрв. Друкаваўся ў «Беларускім календары “Нашай нівы”» на 1912 г.

[1] *Сказаў слоўца...* — У зб. «Матчын дар» было: «Сказаў слаўцо...» Выпраўлена паводле Збору твораў 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

### *Мае думкі (с. 40)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910, № 4, 21 студз.

### *Беларусам у чатырохлецце «Нашай нівы» (с. 41)*

Упершыню — газ. «Наша ніва» 1910, № 47, 18 ліст.

[1] *Спадак* (паланізм) — спадчына.

### *«Ты,мой брат,каго зваць беларусам...» (с. 41)*

Варыянт верша «Беларусам у чатырохлецце “Нашай нівы”», апублікаваны ў зб. «Матчын дар».

[1] *Ляшскай* — польскай.

[2] *Герцы* — махляры, марнатраўцы.

### *Сірочая песня (с. 43)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *Восень (с. 44)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1911, № 37–38, 22 верас.

### *Роднаму краю (с. 45)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1911, № 40, 6 кастр. Друкаваўся ў «Беларускім календары “Нашай нівы”» на 1913 г.

[1] *Скруха* — туга, маркота.

[2] *З тваёі глебы, з тваёга неба* — дыялектныя формы ўскосных склонаў займеннікаў *твая, тваё.*

### *Ноч (с. 46)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 21, 24 мая, з паметкай: «27.XII.1911».

[1] *Пажагнаўшыся* (паланізм) — развітаўшыся.

### *Журба (с. 47)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 9, 1 сак.

### *Думы ў чужыне (с. 47)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 27, 5 ліп. Друкаваўся ў зборніку «Нашай нівы» (1912) і ў «Беларускім календары» на 1916 г.

[1] *Злыдняў* — тут у сэнсе: пажыткаў.

### *«Усе з аднэй мы выйшлі нівы...» (с. 50)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Песня («На чужой староначцы...») (с. 51)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Навакол... (с. 51)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 27, 5 ліп., пад крыптанімам А. Г.

### *Песня-звон (с. 53)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 41, 11 кастр.

### *З песняў няволі (с. 54)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 24, 15 кастр., з палеткай: «Сыбір, 1912 г.»

[1] *Я. Л–ку* — Язэпу Лёсіку. Алесь Гарун пазнаёміўся з ім і пасябраваў у час ссылкі ў Сібіры.

[2] *Зухвалым* (польск.) — смелым, дзёрзкім.

### *Малітва (с. 56)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 51–52, 21 сн., з паметкай: «26/X–1912». Аўтограф захоўваецца ў рукапісным аддзеле Бібліятэкі Літоўскай АН, ф. 21 (VBF) — 157. У канцы верша (на адвароце) рукою аўтара дапісана: «Варыянт пачатку:

Я бачыў: Сын Яго стаяў,
Маліўся, у пустэчы.
І гнеўны, просьбы прамаўляў
Сын Божы — чалавечы.

Які здасца лепшым, той і надрукуйце.

А. Г.»

### *Матцы (с. 57)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *Жабрачка (с. 58)*

Упершыню — зб. «Калядная пісанка». Вільня, 1913.
[1] *Скуткаў* (польск.) — вынікаў.

### *Юдам (с. 60)*

Упершыню — зб. «Калядная пісанка», 1913.
[1] *Яснейшага Мамона* — тут у значэнні: «Бога багаццяў».
[2] *Вы... імя вам Іуды.* — У зборніку «Матчын дар» было: «Вы... імя вам Юды». Выпраўлена паводле Збору твораў 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф. Форма «Іуды» больш адпавядае рытму радка.

### *«Нічога на небе... І зоркі ніводнай...» (с. 61)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 7, 15 лют. Друкаваўся ў «Беларускім календары» на 1914 г.

### *Гэй жа ж, мая вёска!.. (с. 62)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1913, № 39 пад псеўданімам А. Сумны.
[1] *Дзісь* (польск.) — сёння.
[2] *Кнеі* (польск.) — гушчары.
[3] *Це* (польск.) — цябе.

### *Ідуць гады (с. 63)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 5, 1 лют.

### *«Як надарыцца мінута...» (с. 64)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 33, 16 жн., з паметкай: «1913».

### *Матчын дар (с. 65)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 28, 12 ліп.
[1] *Як жа шанаваці...* — У зборніку «Матчын дар» было: «Як іх шанаваці». Выпраўлена паводле Збору твораў 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

### *Муляру (с. 66)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 34, 5 верас.

[1] *Вінкель* — вугламер сталярны, навугольнік.

### *Іванку (с. 67)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Вайкалакі (с. 68)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Вяселле (с. 68)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 45, 7 ліст.

### *Казка (с. 69)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 48, 28 ліст.

[1] *Цяжка а тужліва* — «а» ў польскай мове адыгрывае ролю злучніка, адпавядае беларускаму «і», «ды».

### *«Хай не льюцца дажджы цёмна-хмарныя...» (с. 71)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Правіца* (польск.) — правая рука.

[2] *Упякнёнага цнотамі* (паланізм) — упрыгожанага дабрачыннасцямі.

### *У выгнанні (с. 72)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Адзінец* — стары дзік.

### *«Думкі — дыяменты, краскі жыцця...» (с. 72)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Прадзгонны* (паланізм) — перадсмяротны.

### *«Дзяўчыначка-сэрца, сябе не трывож...» (с. 73)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Мая люба (с. 74)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Не ўластныя* (русізм) — не ўладныя.

### *Адбітак (с. 74)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Нязнаны госць (с. 75)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Эдэм* — рай.

### *Змора (с. 75)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Начлег (с. 76)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Людзям (с. 76)*

Гэтым вершам адкрываецца зб. «Матчын дар» (Мн., 1918), дзе ўпершыню апублікаваны.
[1] *Гвар* (польск.) — розныя галасы.
[2] *Кшталты* (польск.) — формы.
[3] *Шых* (шык — польск.) — шэраг, парадак, строй.

### *З навагодніх думак (с. 78)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 1.
[1] *Шклы* — акуляры.

### *Прывітанне (с. 78)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 3, 16 студз., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *«Божа мой! Я чую зноў...» (с. 80)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 8, 20 лют., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Браты! дакуль мы будзем спаць? (с. 80)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 14–15, 2 крас., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.
[1] *Ялмужна* (польск.) — міласціна жабраку.

### *Скуль у мяне... (с. 82)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 26, 26 чэрв., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Каб быў молад... (с. 83)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 17, 24 крас., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *На прымiцыю кс. Г. (с. 84)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 22, 30 мая, дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

[1] *Прыміцыя* (польск.) — у каталіцкім касцёле першая імша ксяндза, які толькі што атрымаў духоўны сан.

[2] *Кс.* — скарочанае ад слова «ксёндз».

[3] *Як жонка з Закону Старога...* — Лот і яго жонка жылі ў Садоме, якая была знішчана Богам у пакаранне за грахі. Сам Лот паспеў выратавацца, а жонка яго, якая парушыла загад не аглядвацца ў час уцёкаў, былаператворана ў саляны слуп.

[4] *Лазар* — імя біблейскага бедняка, які пакутаваў на зямлі, затое на тым свеце трапіў на лона Аўраама, гэта значыць, заслужыў блажэнства.

### *У прыпар (с. 85)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Добрыя дзецi (с. 86)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Салавейка (с. 87)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Дзяўчацi (с. 87)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Асеннi спеў (с. 88)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *На жагнанне* (паланізм) — на развітанне.

### *Песня («Прыказала слонца ветру...») (с. 89)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Мяцелiца (с. 90)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Хатка (с. 90)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Два каханнi (с. 91)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Хмары (с. 93)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 31, 1 жн., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Слонца (с. 94)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 36, 4 верас., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Праводзіны (с. 94)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1914, № 37, 18 верас. Друкаваўся ў зборніку «Дзень штукарства», Вільня, 1914, з паметкай: «1914, 14/VIII».

### *Бажанне (с. 96)*

Упершыню — газ. «Вольны сцяг», 1921, № 1, дзе апублікаваны з паметкай: «Барка на Лене, 1914 г.»

[1] *Бажанне* — моцнае жаданне

### *Завіруха (с. 96)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 36, 31 сн., з паметкай: «1914 г. Сыбір».

### *Песня («Віхар шугае ў полі...») (с. 97)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 42, дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Гімн роднай мове (с. 99)*

Упершыню — газ. «Беларус», 1914, № 52, 24 сн., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *«Развваж, гаю зеляненькі...» (с. 101)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *На варце (с. 101)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1915, № 21, 29 мая, дзе апублікаваны з паметкай: «Люты, 1915 г.»

### *Песня капачоў (с. 102)*

Упершыню — газ. «Вольны сцяг», 1921, № 1, дзе апублікаваны з паметкай: «Прыіск “Пракопьевскій”. Зіма 1915 г.»

### *У чужыне (с. 103)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1915, № 15, 16 крас., дзе апублікаваны з паметкай: «1915 г., 1 марца».

### *Чалавечая кроў (с. 104)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1915, № 22, 5 чэрв., дзе апублікаваны з паметкай: «15 марца 1915 г.» Друкаваўся ў зборніку «Зажынкі», 1919, пад назвай «Чырванюткая кроў» і ў газ. «Белорусская рада», 1917, 30 ліст.

### *У ноч на Новы Год (с. 105)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 1, 7 студз., дзе апублікаваны з паметкай: «1916 г.»

[1] *Утуруе* (паланізм) — акампаніруе.

### *Трэны (с. 106)*

Упершыню — часопіс «Рунь», 1920, № 9–10, 4 ліп., дзе апублікаваны з паметкай: «Зіма 1916 г.» Гэта адзін з апошніх прыжыццёвых друкаваных твораў.

[1] *Трэны* — элегіі.

[2] *Спраўцы* (польск.) — віноўнікі.

### *«Не журуся, што не маю...» (с. 106)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *«Добры вечар, мой Язэпка!» (с. 107)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

[1] *Язэпка* — мабыць, Язэп Лёсік, з якім А. Гарун блізка пазнаёміўся і пасябраваў у час сібірскай ссылкі.

[2] *«Дон Отэлло»* — «Атэла» — трагедыя англійскага драматурга Уільяма Шэкспіра (1564–1616), створаная ў 1604 г.

[3] *Пэнсыі* (паланізм) — заробкаў, заработнай платы.

[4] *«Як на мыдле пан Заблоцкі»* — пераасэнсоўваецца польская прыказка «Выйграў, як Заблоцкі на мыле», гэта значыць, страціў усё, прайграў зусім.

[5] *«Не шкадуе той валоссяў, хто ужо не мае гловы»* — ёсць не толькі польская, але і руская прыказка: «Снявши голову, по волосам не плачут».

### *Паходная (с. 109)*

Упершыню — газ. «Белорусская рада», 1917, № 1. Друкаваўся ў газ. «Гоман», 1918, № 28, 3 крас., часопісе «Часопісь», 1919, № 3–4.

[1] *Па блоні* (польск.) — па лузе, пашы.

### *«Хто сказаў: "І я з народам"...» (с. 110)*

Упершыню — газ. «Гоман», 1917, 1 мая.
[1] *Зглaдзіў* (паланізм) — знішчыў.

### *Лісток і надзея (с. 110)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 26, 26 кастр., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Песня («За рэчкай, за рэчкай...») (с. 112)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 26, дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *На плач мяне забірае (с. 113)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 26, дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Трохлінейка-магазынка (с. 114)*

Упершыню — газ. «Белорусская рада», 1917, № 1, 25 ліст. Друкаваўся ў зборніку «Зажынкі», 1919 і часопісе «Часопіс», 1919, № 3–4.

### *Адляцела душа (с. 115)*

Упершыню — газ. «Белорусская рада», 1917, 29 ліст.

### *Жыццё (с. 116)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 32, 30 ліст.

### *Багаты вы (с. 117)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 33, 8 сн., дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Шчаслівы той (с. 118)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 33, дзе апублікаваны пад псеўданімам А. Сумны.

### *Навука (с. 119)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 29, 14 ліст.

### *«Эх, сягоння ў гэту ночку...» (с. 120)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Віці* (польск.) — тут у сэнсе: заклік на барацьбу, змаганне.

### *На смерць (с. 121)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Запомнены* (паланізм) — забыты.

### *Nokturno (с. 123)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Nokturno* — невялікі музычны твор лірычнага характару.
[2] *Камратка* — сяброўка.
[3] *...і ту ж...* (паланізм) — і тут жа.
[4] *Няма пакуты дзе — няма пазнання.* — У зборніку «Матчын дар» было: «*Няма пакуты, дзе няма пазнання*». Выпраўлена ў адпаведнасці са Зборам твораў 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

### *«Скажы, братухна, калі паранне?..» (с. 124)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Нявістны* — чалавек, які не бачыць (гл. Слоўнік беларускай мовы І. Насовіча).

### *«Як ліст вярбінкі маладой...» (с. 125)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Цячы ракой з-пад горнае грады.* — У зборніку «Матчын дар» было: «*Цячы ракой з-над горнае грады*». Выпраўлена паводле Збору твораў 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

### *Літанне Адзіноце (с. 126)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Літанне* (паланізм) — малітва.
[2] *Упады* — жаданне дагадзіць (паводле Слоўніка беларускай мовы І. Насовіча).
[3] *Наглаю* (паланізм) — раптоўнаю.
[4] *Уразаў* (паланізм) — крыўдаў.

### *«Хрыстос нарадзіўся!..» (с. 127)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Цяпер я Тамаш і не веру...* — Тамаш (Фама) — чалавек, які не паверыў, што Хрыстос уваскрос (аб гэтым паведамляецца ў Евангеллі).

### *Паэту (с. 127)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Мне сэрца кроіцца* (паланізм) — мне сэрца баліць.

### *Слабасці (с. 128)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Спаўчуцця* (ад польск. współczucia) — спачуванне.

[2] *Шпоны* (польск.) — кіпцюры.

### *Хаўтуры (с. 129)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Цалавала жанулька свайго мужанька.* — У зборніку «Матчын дар» было: «*Цалавала жанулька свайго мужалька*». Выпраўлена паводле Збору твораў 1929 г., дзе робіцца спасылка на аўтограф.

### *Габруська (с. 129)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Не запомні* (паланізм) — не забудзь.

### *Сын (с. 130)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

[1] *Ды да роднай маткі.* — У зборніку «Матчын дар» было: «*Да радзонай маткі*». Выпраўлена паводле Збору твораў 1929 г., дзе даецца спасылка на аўтограф.

### *Згаварыліся (с. 131)*

Упершыню — газ. «Гоман», 1917, № 20, 9 сак. пад крыптанімам А. Г. Пасля гэтага нідзе не друкаваўся.

[1] *Dzień dobry, mój kochany Janku!* — Дзень добры, мой каханы Янак!

*Ja słyszałem, że jesteś Polak?* — Я чуў, што ты паляк?

*Nazwisko twoje, Janie?* — Тваё прозвішча, Ян?

*Nazwisko... to nazowa.* — Прозвішча... гэта як завуць.

*Nno... może powiesz, jak się zowiesz?* — Нну... можа скажаш, як цябе завуць?

*Poczekaj! po Moniuszcy zostało plemię tu? Ty jesteś Moniuszko?* — Пачакай! па Манюшцы захаваўся тут род? Ты Манюшка?

*Sławetny pan z rodaka!* — Вы славуты сваім сваяком!

*I może jaką operę pan napisał? I w ilu akty?* — І мо якую оперу вы напісалі? Колькі там актаў?

*I w jakie takty?* — І якія такты?

*Dla czego ż? Pan żeś Polak!?* — Для чаго ж? Вы ж паляк!?

*I gadasz że pan po polsku?* — І гаворыце ж вы па-польску?

### *Жыццё (с. 132)*

Упершыню — газ. «Белорусская рада», 1917, 29 ліст.
[1] *Ялмужнік* (паланізм) — жабрак.

### *Журба і смяхоцце (с. 132)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Выкпіны* (паланізм) — насмешкі.
[2] *Асані* (польск.) — васпані, пані.

### *«За тысячу вёрст ад радзімага краю...» (с. 134)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Без сказы* (польск.) — без заганы.
[2] *Перабэндзя* — кабзар, якога Тарас Шаўчэнка (1816–1861) славіць у зборніку «Кабзар» (1840).
[3] «*Дзе, Багдане, слаўны Хмелю...*» — гаворка пра Багдана Хмяльніцкага (1595–1657), кіраўніка антыпольскага паўстання на Украіне ў 1648–1649 гг.

### *«Каўказ» (с. 136)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 3.

### *Беларускі марш (с. 136)*

Упершыню — газ. «Гоман», 1918, № 24, без подпісу. У мюнхенскім выданні твораў Алеся Гаруна паведамляецца: «“Беларускі марш” нікім не падпісаны, але Гарунова аўтарства, хоць нікім не паданае, лёгка ўстанаўляецца і паводле фактуры вершу, і паводле простага меркавання, што напісаць яго апрача Гаруна літаральна не было больш каму ў вабставінах таго часу й месца» (Алесь Гарун. Матчын дар і іншыя творы. Пад рэдакцыяй Ант. Адамовіча й Ст. Станкевіча. Выдавецтва «Бацькаўшчына». Нью Ёрк — Мюнхэн 1962, с. 51). Аўтарства твора аднак спрэчнае. Мог яго напісаць і Змітрок Бядуля. І тым не менш цытата з верша:

> І Беларусь-Маці долю адродзіць,
> Устане, як Лазар, з руін забыцця... —

была выкарыстана на помніку Алесю Гаруну на Ракавіцкіх могілках у Кракаве.

### *На сяло (с. 138)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 8, 10 сак.
[1] *Места* — горад.

### *Ён не згіне... (с. 138)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 9, 17 сак., дзе апублікаваны з паметкай: «4/III 1918 г.»

### *На Віціме (с. 139)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 14, 21 крас. Друкаваўся ў зборніку «Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства», Кіеў, 1919.

### *Лірнік (с. 140)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 20–21, 9 чэрв. Напісаны ў сувязі са смерцю беларускага паэта Каруся Каганца.

### *Край няволі (с. 141)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 31, 15 верас.

### *Народ (с. 141)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 31, 15 верас.

### *Пажар (с. 142)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 39–40, 20 ліст.

[1] *Удалася* (паланізм) — накіравалася.

### *Шлюб (с. 143)*

Упершыню — газ. «Беларускае жыццё», 1920, № 7, 18 сак., з паметкай: «12.X 1918.»

### *Відзенне (с. 143)*

Упершыню — газ. «Вольны сцяг», 1921, № 1, дзе апублікаваны з паметкай: «Восень 1918 г.»

### *Рэдактарскі сон (с. 144)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 3, 26 сак., пад псеўданімам Сальвэсь.

[1] *«Іх фарстэй ніт вілт — ір вос»* (яўр.) — Я не разумею, што вы хочаце.

[2] *«Сон цыгары до паленя?»* (польск.) — Ці ёсць сігары для курэння?

[3] *«Кей я не умем»* (дыялектнае польскае) — Калі я не ўмею.

14 Зак. 1133

### *Кар'ера (с. 146)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 38, 10 мая, пад псеўданімам Сальвэсь.

### *Адрас (с. 147)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 100, 23 жн., пад псеўданімам Сальвэсь.

### *«Саботажнік» (с. 147)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 71, 20 чэрв., дзе апублікаваны пад псеўданімам Сальвэсь.

[1] *У загарку* (паланізм) — у гадзінніку.

### *Маленькі фельетон (с. 148)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 86, 10 ліп., дзе апублікаваны пад псеўданімам Сальвэсь.

[1] *Кунгс* — князь.

[2] *Кандацьеры* (італьянск.) — ваенныя наёмнікі; гутарка вядзецца пра вядомых латышскіх стралкоў, якія ў час грамадзянскай вайны змагаліся супраць ворагаў Кастрычніцкай рэвалюцыі.

### *Дакоры (с. 149)*

Упершыню — газ. «Беларускае жыццё», 1919, № 11, 31 жн.

### *З астрожных картак (с. 150)*

Упершыню — газ. «Беларускае жыццё», 1919, № 11, 31 жн.

[1] *Запомніўшы* (паланізм) — забыўшы.

[2] *Граты* (польск.) — старая мэбля, ламачына.

[3] *Па цэлі* (польск.) — па камеры.

[4] *Суфіт* (польск.) — столь.

### *Хвейнаму другу (с. 152)*

Упершыню — газ. «Беларускае жыццё», 1919, № 22, 12 сн., дзе апублікаваны з паметкай: «Мінск, у верасні 1919 г.»

[1] *Хвейнаму* (паланізм) — няўстойліваму.

[2] *Жаднай* (дыялектн.) — ніякай.

[3] *Тамуе* (паланізм) — стрымлівае.

### *«Брацця, к агульнаму шчасцю...» (с. 153)*

Упершыню — зборнік «Дзень Чырвонае Арміі», 1919. Друкаваўся і ў зборніку «Зажынкі», 1919.

[1] *Квотнікаў* — ліхвяроў.
[2] *У панстве* (паланізм) — у дзяржаве.

### *«Лётала чайка, сумна крычала...» (с. 154)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *У гары і доле (с. 154)*

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 37, 20 лют., дзе апублікаваны з паметкай: «28.XII.1919 г.»
[1] *Міна* — капальня.
[2] *Узрок* (паланізм) — зрок.

### *Баданне аб спосабах (мэтодзе) (с. 155)*

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 40, пад псеўданімам Сальвэсь.
[1] *Баданне* (польск.) — даследаванне.
[2] *Злашча* (паланізм) — асабліва.
[3] *Звады* (польск.) — спрэчкі, калатнеча.
[4] *Вальчыць ту* (польск.) — змагацца тут, ваяваць.
[5] *Ухвала* (польск.) — пастанова.
[6] *Дзісейшага* (польск.) — сённяшняга.
[7] *Рэвіровага* (польск.) — участковага.
[8] *Мацерж* — Польска Мацеж Школьна (1905–1907, 1916–1939), таварыства, якое займалася справамі асветы на тэрыторыі цэнтральных і ўсходніх ваяводстваў Польшчы.
[9] *Скутэчную* (польск.) — эфектыўную.
[10] *«Зорка»* — беларуская граматыка, якую падрыхтавала і выдала ў Вільні (1919) Аляксандра Смоліч.
[11] *Гаржа* — гажа, г. зн. грошы, плата агенту.

### *Самсон (с. 158)*

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 47 (103), 3 сак., дзе апублікаваны з паметкай «28 лютага 1920 г.»
[1] *Самсон* — біблейскі асілак. Яго подзвігі, паводле Свяшчэннага пісання, звязаны з эпохай войнаў паміж ізраільцянамі і філістымлянамі. Самсон адзін мог перамагчы цэлую тысячу ворагаў, але да таго часу, пакуль у яго на галаве зберагаліся валасы. Гэта ён разадраў пашчу льва, які сустрэўся яму па дарозе. Аднойчы яго чарговая любоўніца Даліла выведала сакрэт яго сілы і выдала філістымлянам. У час сну Самсона астрыглі, закавалі ў ланцугі і асляпілі. Але праз нейкі час Бог дараваў яму віну і вярнуў сілу. Самсон магутнымі рукамі разбурыў слупы, на якія апіраўся філістымлянскі храм, пахаваўшы тры тысячы ворагаў, што здзекаваліся і насміхаліся з яго. Загінуў і сам.

[2] *Баалавай святыні.* — Баал — бог ураджаю і дабрачыннасці, адзін з галоўных багоў семіцкіх плямён.
[3] *Насяклы* (паланізм) — набрыനялы, намочаны.
[4] *Рыхла* (польск.) — хутка.
[5] *У маястаце* (польск.) — у велічнасці, у вялікасці.
[6] *У акропным* (польск.) — у магутным, жудасным.

### *Пралескі (с. 159)*

Упершыню — часопіс «Рунь», 1920, № 5–6.
[1] *Праслічная* (паланізм) — надзвычай прыгожая.

### *Кліч (с. 160)*

Упершыню — часопіс «Рунь», 1920, № 7–8.

### *Салдацкія песні (с. 160)*

Абедзве салдацкія песні апублікаваны без подпісу ў зборніку «Падарунак Беларускаму Жаўнеру». Выданне Беларускай вайсковай камісіі. Друкарня інвалідаў. Менск, 1920. Алесь Гарун, як вядома, у камісіі адыгрываў адну з галоўных роляў. Гэта дае падставу лічыць яго магчымым аўтарам гэтых вершаў. У той самай Друкарні інвалідаў у 1920 годзе ён выдаў свой зборнік «Жывыя казкі».

### *Лябёдачка-дзяўчыначка (с. 162)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».
[1] *У сугонь* — наўздагон.

### *«Як дзеўча ў веку квіцення...» (с. 162)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *Песня («Ды ўжо слонейка за лес коціцца...») (с. 163)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *Рацэя (с. 164)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».
[1] *Зюні на 19/III* — Паводле каталіцкага календара 19 сакавіка прыпадаюць імяніны Язэпа (Юзэфа, Зюка) і Юзэфіны (Зюні). Зюня — сястра Алеся Гаруна.
[2] *Рым* (польск.) — рыфма.
[3] *Бляер* — выдумка, хлусня.
[4] *Валька* (польск.) — змаганне.
[5] *Найльжэйшыя* (паланізм) — найлягчэйшыя.
[6] *Змыслы* (польск.) — тут у сэнсе: пачуцці.

### *Галасуюць (с. 165)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *«Сталася здарэнне дый каля крыніцы...» (с. 166)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

[1] *Jaś konia poił* (польск.) — Ясь каня паіў (папулярная народная песня).

## *ЧАРНАВЫЯ НАКІДЫ*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *«"Бабуля, казку!" — так, бывала...» (с. 176)*

[1] *Пачынак* — пража, якую наматалі на верацяно або знялі з яго.
[2] *Сукаць* — скручваць некалькі нітак пражы ў адну.

## *ПАЭМЫ, АПАВЯДАННІ ВЕРШАМ І БАЙКІ*

### *Мае Коляды (с. 179)*

Паэма апублікавана ў 1920 годзе ў Вільні пад псеўданімам А. Сумны асобнай кнігай з паметкай: «Вёска Капанікі, 13 студзеня 1905 г.» Гэта першы вядомы твор Алеся Гаруна.

[1] *Сколькі спёк я там ракаў* — колькі разоў чырванеў.

### *Шчасце Мацея (с. 190)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910, № 25. Друкаваўся ў зб. «Апавяданні і легенды вершам розных аўтараў», Вільня, 1914 і ў зб. «Матчын дар».

[1] *Бэльзэбула* — д'ябла.

### *Каму што (с. 194)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1910, № 40. Твор друкаваўся ў «Беларускім календары» на 1914 г., у зб. «Апавяданні і легенды вершам розных аўтараў», Вільня, 1914, у газ. «Гоман», 1917, 7 жн., у зб. «Матчын дар».

### *Жураў і лісіца (с. 196)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».

### *Варожба (с. 199)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 30.
[1] *Адвэнт* — калядны пост у каталікаў.
[2] *Тамы* (польск.) — перашкоды.
[3] *...Прад Маткай Святой з Вострай Брамы* — перад вядомай каталіцкай іконай у Вільні.
[4] *Рожы* — ружы.
[5] *У мамалюка* — у турэцкага ваякі.
[6] *Каб гэтак не яглііў* — каб гэтак настырна не дамагаўся.
[7] *Не наглііў* (паланізм) — не прыспешваў.

### *Канец Паўлючонка (с. 205)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».
[1] *Злорачыш* (польск.) — праклінаеш, зневажаеш.
[2] *Райтарада* (польск. з французскай мовы) — уцёкі.
[3] *Фэбра* (польск. з лац. мовы) — ліхаманка, трасца.
[4] *Тайстра* — кайстра, торба, клунак.

### *Спрэчка (с. 213)*

Упершыню — зб. «Матчын дар».

### *Згода (с. 214)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».
[1] *Пробашч* (польск.) — ксёндз.
[2] *Сукцэсы* (польск.) — спадчына.
[3] *Люфа* (польск.) — ствол вінтоўкі.
[4] *Кольба* (польск.) — прыклад.
[5] *Багнэт* (польск.) — штык.

### *Апякун (с. 217)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 12, 7 крас., дзе апублікавана з паметкай: «23/III 1918». Друкавалася ў газ. «Гоман», 1918, № 42, 24 мая.

### *Спогадзь (с. 219)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 29, 18 жн.
[1] *Экспенсаў* — выдаткаў.

## АПАВЯДАННІ

### *Першы снег (с. 223)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 39.
[1] *Без сказы* (польск.) — без заганы.

### *Маладое (с. 224)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1912, № 40.
[1] *Дазорца* (польск.) — наглядчык.
[2] *Перачатаваць* (паланізм) — перасядзець у схованцы.

### *Пан Шабуневіч (с. 229)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, № 6.
[1] *Тэрмінаваў* (паланізм) — вучыўся.
[2] *«Я в огродзе полен грэнды»* (польск.) — «Я ў агародзе палю грады».
[3] *Тэнды* (польск.) — тудэма.
[4] *Курыя* — разрад выбаршчыкаў паводле нацыянальнай, рэлігійнай ці іншай прыналежнасці.

### *Чалавек без крыві (с. 237)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1915, № 17.

### *П'ера і Каламбіна (с. 240)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 3.
[1] *З суфіту* (польск.) — са столі.
[2] *Затурбавана* — заклапочана.
[3] *Уфна* (польск.) — даверліва.

### *Свята (с. 248)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 16.
[1] *Залзавелі* (паланізм) — праслязіліся.
[2] *Кпінкаватым* — насмешлівым.

### *У Панасавым сяле (с. 259)*

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 1.
[1] *Мурымскі* — мабыць, мурынскі. Мурын — чорны чалавек, «арап» (гл. Слоўнік беларускай мовы І. Насовіча).
[2] *«Беларусь»* — беларуская штодзённая грамадска-палітычная газета (21.10.1919–9.07.1920).
[3] *«... З. Бядуля панапісываў аб Панасавым жыцці на небе»* — Маецца на ўвазе апавяданне Змітрака Бядулі «Панас на небе».

[4] *Ураднікаў* — тут у сэнсе: чыноўнікаў.
[5] *Бонка* — жанчына, якая знаходзіцца на ўтрыманні (гл. Слоўнік беларускай мовы І. Насовіча).
[6] *Стан* (польск.) — саслоўе.
[7] *Варэнная* — кухня (гл. Слоўнік беларускай мовы І. Насовіча).

### *Дні (с. 263)*

Упершыню — зб. «Сэрцам пачуты звон».
[1] *У фатэлі* (польск.) — у мяккім крэсле.
[2] *Панары* — узгоркі каля Вільні.
[3] *З цытрынай* (польск.) — з лімонам.
[4] *Квадранс* (польск.) — чвэрць гадзіны.

## П'ЕСЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### *Жывыя казкі (с. 267)*

Зборнік «Жывыя казкі» апублікаваны ў 1920 г. у Мінску. Уключае аўтарскую прадмову і тры п'есы для дзяцей: «Хлопчык у лесе», «Шчаслівы чырвонец» і «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць».

П'есы друкуюцца па кнізе: Алесь Гарун. Сэрцам пачуты звон. Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка. Мн., 1991.

### *Хлопчык у лесе (с. 268)*

[1] *Строп* — скляпенне.
[2] *Укоіцца* — супакоіцца.
[3] *Скіну* (паланізм) — дам знак.
[4] *Не страціўся* (паланізм) — не разгубіўся.

### *Шчаслівы чырвонец (с. 301)*

[1] *Чатавацца* — у дзіцячай гульні пералічванне ўдзельнікаў, каб даведацца, хто павінен выконваць нейкае заданне.
[2] *Лякоба* — лячэнне.
[3] *Ласоткі* — прысмакі.

### *Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць (с. 325)*

[1] *Здэтанаваўшыся* (паланізм) — разгубіўшыся.
[2] *Апрыскліва* (польск.) — рэзка, груба.
[3] *Гжэчнінька* (паланізм) — ветлівенька.

### *Датрымаў характар (с. 334)*

Упершыню — кн.: Зборнік твораў для дзіцячага тэатру. — Мн, 1920. У падзагалоўку заўвага: «Пераробка з польскага "За кару" М. І.» Ініцыялы «М. І.» расшыфраваць не ўдалося.

[1] *Ружанец* (польск.) — нанізаныя на вяроўку пацеркі, якія выкарыстоўваюцца каталікамі ў час малітвы.

[2] *Паслом* — дэпутатам.

[3] *«Ізба»* — палата.

[4] Кміціц — герой раманаў польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча «Агнём і мячом» і «Патоп».

[5] *Дануся, Збышка, Ягенка* — героі рамана Генрыка Сянкевіча «Крыжакі».

[6] *Баволаў* (польск.) — буйвалаў.

[7] *Цвічыцца* (паланізм) — практыкуецца.

[8] *Хто мне вы ткне...?* — Хто мяне папракне...?

## ПУБЛІЦЫСТЫКА, ЛІСТЫ

## *ПУБЛІЦЫСТЫКА*

### *25-я гадаўшчына P.P.S. (с. 343)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1917, № 36, 31 сн.

[1] *P.P.S.* — скарочанае ад Polska Partia Socjalistyczna — Польская партыя сацыялістычная.

[2] *У стасунках* (паланізм) — ва ўзаемаадносінах.

[3] *У лоне* (паланізм) — тут у сэнсе: у асяроддзі.

[4] *Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ)* — беларуская нацыянальная партыя, створаная зімою 1902—1903 г. Яе першапачатковая назва — Беларуская рэвалюцыйная грамада. Заснавальнікамі партыі былі браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Алесь Бурбіс (Стары Пiлiп), Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Вацлаў Іваноўскі (Вацюк Тройца), Францішак Умястоўскі (Дзядзька Пранук). Існавала да 1918 года.

[5] *На шалькі* (польск.) — на вагу.

[6] *Лучыць* (польск. łączy) — аб'ядноўвае.

### *Одгукі (с. 344)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 1, 7 студз.

[1] *«Першы Ўсебеларускі з'езд у Мінску...»* — Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый і партый, створаная ў ліпені 1917 года, пад-

рыхтавала і 15(28) сн. 1917 года склікала Першы Ўсебеларускі кангрэс, на які сабраліся 1872 дэлегаты ад усіх рэгіёнаў Беларусі, розных грамадскіх і палітычных арганізацый, пасланцы губернскіх земстваў, органаў мясцовага кіравання. Былі там прадстаўнікі бежанцаў і тых, хто служыў у арміі ці на флоце, хто жыў у Петраградзе або ў Маскве. Бальшавіцкія кіраўнікі Заходняй вобласці (так афіцыйна называлася Беларусь пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі), пераканаўшыся, што ўдзельнікі кангрэса абмяркоўваюць толькі нацыянальныя праблемы жыцця беларускага народа, ноччу з 30 на 31 сн. (новы стыль), выкарыстаўшы вайсковую сілу, разагналі кангрэс, які аднак паспеў стварыць Выканаўчы камітэт, і ён з гэтага часу пачаў кіраваць нацыянальна-вызваленчай барацьбой беларускага народа.

[2] *Злашча* (паланізм) — асабліва.

[3] *С.-р-скія* — эсэраўскія.

[4] *Социалист-революционер* — штодзённая газета, орган Мінскага абласнога камітэта партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, выходзіла з 23 кастр. да 19 сн. 1917 у Мінску.

[5] *Карскі* Яўхім Фёдаравіч (1861–1931) — беларускі філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мова- і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, аўтар 3-томнай працы «Беларусы» (1903–1922).

[6] *«Стану посядання»* (польск.) — маёмасці.

[7] *«Пляцоўкі»* (паланізм) — фарпосты.

[8] *«Мацерж»* (Polska Macierz Szkolna) — таварыства, якое займалася справамі польскай асветы на польскіх і беларускіх землях (1905–1907 і 1916–1939 гг.).

### *Увагі да нацыянальнага руху (с. 348)*

Упершыню — газ. «Вольная Беларусь», 1918, № 9, 7 сак.

[1] *Устрой* (паланізм) — дзяржаўны лад.

[2] *Кшталтаў* (польск.) — формаў.

[3] *Кош* — даўней так называўся вайсковы лагер, казацкі або татарскі. Адсюль паходзіць прыметнік «кашавы» (атаман).

[4] *Перацэніваецца* (паланізм) — перабольшваецца.

[5] *Мажнейшай* — больш уплывовай, мацнейшай.

[6] *Зьішчэння* — здзяйснення.

[7] *Чыннік* (польск.) — фактар.

[8] *Оўэн* Роберт (1771–1858) — англійскі сацыяліст-утапіст, палітычны дзеяч, які імкнуўся спалучыць сацыялістычныя ідэалы з рабочым рухам. Пры гэтым ён з'яўляўся праціўнікам сацыяльнай рэвалюцыі.

[9] *Сен-Сімон* Клод Анры (1760–1825) — французскі філосаф, прапагандыст ідэі утапічнага сацыялізму.

[10] *Фур'е* Франсуа Мары Шарль (1772–1837) — французскі утапічны сацыяліст.

[11] *Курбэ* Жан Дэзірэ Гюстаў (1819–1877) — французскі жывапісец, удзельнік рэвалюцыйных падзей 1848 г. і Парыжскай Камуны 1871 г.

[12] *Трафна* (польск.) — удала, дакладна.
[13] *Паспалітай* (польск.) — усеагульнай.
[14] *Энгельс* Фрыдрых (1820–1895) — адзін з заснавальнікаў тэорыі навуковага камунізму.
[15] *Эрвэ* Гюстаў (1871–1944) — французскі палітычны дзеяч. У Французскай секцыі рабочага інтэрнацыянала ўзначальваў ультралевы антымілітарысцкі напрамак. Напярэдадні першай сусветнай вайны Эрвэ пераходзіць на шавіністычныя пазіцыі. У 30-х гадах стаў прыхільнікам фашызму.
[16] *Навіцыушы* (паланізм) — навічкі.
[17] *Забыткі* (польск.) — памятнікі.

### *З цяжкім возам на гнілой грэблі (с. 351)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, №№ 18, 19, 20, пад псеўданімам А. Навадворскі.
[1] *У варунках* (польск.) — ва ўмовах.
[2] *«Северо-Западный край»* — Беларусь у XIX–пачатку XX ст. афіцыйна называлася Паўночна-Заходнім краем (Северо-Западный край). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі яе ператварылі ў Заходнюю вобласць (Западная область).
[3] *Першы Нацыянальны камітэт.* — Першы Беларускі Нацыянальны камітэт у колькасці 18 чалавек быў выбраны на з'ездзе прадстаўнікоў беларускіх партый і арганізацый, які адбыўся ў Мінску адразу ж пасля Лютаўскай рэвалюцыі.
[4] *Да ўсіх станаў* (польск.) — да ўсіх саслоўяў.
[5] *Зем.-саюз* — Усерасійскі земскі саюз — ваенна-грамадская арганізацыя, створаная ў 1914 г. з мэтай аказання дапамогі ўладам у арганізацыі тыла для вядзення вайны.
[6] *Аколянымі* — акружанымі.
[7] *Варствы* (польск.) — слаі грамадства.
[8] *К. д.* — кадэтаў.
[9] *Члонкаў* (польск.) — членаў.
[10] *Рэпрэзентаваўшым* (паланізм) — які прадстаўляў.
[11] *На расійскі кшталт* (паланізм) — на расійскі ўзор.

### *Скрыпты шавініста (с. 355)*

Пад такім загалоўкам у газеце «Беларускі шлях» у 1918 г. была апублікавана серыя артыкулаў, падпісаных псеўданімам А. Навадворскі. Псеўданім звязаны з месцам нараджэння Алеся Гаруна, які, пачынаючы з другога нумара газеты «Беларускі шлях» (з 25 сак. 1918 г.), стаў яе галоўным рэдактарам, аб чым паведамлялася на самым відным месцы першай старонкі газеты, у левым верхнім кутку: «Выдавецтва газеты "Беларускі шлях" гр. П. Алексюком пярэдана выдавецкаму т(аварыст)ву "Заранка". Рэдактарам з 2 нумару становіцца гр. А. Пру-

шынскі, пры бліжэйшым учасці тых самых супрацоўнікаў.» Подпіс: «Беларускае Выдавецкае Т-ва "Заранка" ў Мінску». І тут жа падаецца яшчэ адна інфармацыя на гэтую ж тэму: «У звязку з прынятымі на сябе новымі абавязкамі ў беларускай культурнай і палітычнай працы, рэдактарства газеты "Беларускі шлях" пераходзе да грамадз. А. Прушынскага. Кірунак газеты астаецца той самы, які абвешчаны быў у № 1.» Подпіс: П. Аляксюк.

Алесь Гарун як галоўны рэдактар сваім прозвішчам ці агульнавядомымі літаратурнымі псеўданімамі не падпісваў ніякіх артыкулаў у газеце.

Каб не паўтараць за кожным разам адзін і той самы загаловак «Скрыпты шавініста», у нашым выданні рымскімі лічбамі падаюцца нумары чарговых артыкулаў, першы з якіх быў апублікаваны ў другім нумары газеты.

### *I*

[1] *«Смольняне»* — кіраўнікі бальшавіцкага ўрада, які размяшчаўся ў Смольным у Петраградзе (так у час вайны перайменавалі Санкт-Пецярбург).

[2] *З рэвалюцыйным урадам Фінляндзіі* — у 1918 г. у Фінляндыі была абвешчана так званая Фінляндская рабочая рэспубліка. 1 сак. 1918 г. РСФСР заключыла дагавор з гэтай рэспублікай (у дагаворы яна называлася Фінляндскай сацыялістычнай рабочай рэспублікай), прызнаючы дзяржаўны суверэнітэт Фінляндыі. У красавіку-маі гэты ўрад краіны быў звергнуты.

[3] *Крыленка* Мікалай Васільевіч (1885–1938) — пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў першым савецкім урадзе член Камітэта па ваенных і марскіх справах. 9(22) ліст. 1917 г. прызначаны вярхоўным галоўнакамандуючым Чырвонай арміі. У сакавіку 1918 г. з'явіўся адным з арганізатараў суда і пракуратуры. (Звесткі аб удзельніках Кастрычніцкай рэвалюцыі прыводзяцца паводле выдання: «Великая Октябрьская социалистическая революция. Энциклопедия». — Москва, 1987. Там аднак ні разу не паведамляецца, які лёс напаткаў колішніх бальшавіцкіх дзеячаў у 1937 ці ў 1938 гадах. І чытач павінен здагадвацца сам, ведаючы, з якім размахам дзейнічала тады сталінская рэпрэсіўная машына.)

[4] *Дыбенка* Павел Яфімавіч (1889–1938) — бальшавіцкі палітычны і ваенны дзеяч. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі да сакавіка 1918 г. уваходзіў у склад савецкага ўрада, з'яўляўся членам Камітэта па ваенных і марскіх справах, затым наркомам па марскіх справах.

[5] *Грушэўскі* Міхаіл Сяргеевіч (1866–1934) — украінскі вучоны і палітычны дзеяч, адзін з лідэраў партыі украінскіх эсэраў. Узначальваў на Украіне Цэнтральную раду.

[6] *Віннічэнка* Уладзімір Кірылавіч (1880–1951) — украінскі пісьменнік і палітычны дзеяч, адзін з арганізатараў украінскай Цэнтраль-

най рады і адзін з кіраўнікоў Украінскай Народнай Рэспублікі, яе Генеральнага сакратарыята. У 1920 г. эміграваў за мяжу.

[7] *Марынарка* (польск.) — пінжак.

[8] *«Меў ты, хаме, волі рог!»* — у драме Станіслава Выспянскага «Вяселле» («Wesele») агароднае пудзіла спявае песню «Меў ты, хаме, залаты рог. Меў ты, хаме, шапку з пер'яў. Шапку вецер панёс, рог гукае недзе ў лесе, а ў цябе засталася толькі вяроўка». Песню згадваюць пры той аказіі, калі вядзецца гаворка пра людзей, якія не далі рады зберагчы тое, што мелі.

*II*

Другі артыкул з цыкла «Скрыпты шавініста» апублікаваны 27 сак. у чацвёртым нумары газеты.

*III*

Трэці артыкул пабачыў свет 28 сак. у пятым нумары газеты «Беларускі шлях».

[1] *Нагана* (польск.) — вымова.

[2] *Квотніца* — ліхвярка.

*IV*

Чацвёрты артыкул надрукаваны 10 крас. у № 15 газеты.

[1] *Калантай* Аляксандра Міхайлаўна (1872–1952) з'яўлялася членам першага савецкага ўрада, займала пост камісара апекі.

[2] *«Акопная праўда»* — бальшавіцкая газета, якая выходзіла з 13 мая (новы стыль) 1917 г. да сярэдзіны лютага 1918 г. спачатку ў Рызе, потым у Вендэне.

[3] *Лона* — тут у сэнсе: база, апора.

[4] *«Минская газета»* — штодзённая грамадска-палітычная газета ліберальна-кадэцкага інфармацыйна-асветніцкага напрамку. Выдавалася ў Мінску са жніўня 1912 г. да канца лістапада 1918 г.

*V*

Пяты артыкул апублікаваны 11 крас. у № 16 газеты.

[1] *Шульгін* Васіль Вітальевіч (1878–1976) — пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адзін з арганізатараў антысавецкай Дабраахвотнай арміі.

*VI*

Чарговы, шосты артыкул пабачыў свет 15 мая ў № 42 газеты.

[1] *Па «тром заборам»* — на тэрыторыях колішняй Рэчы Паспалітай, якія ў канцы XVIII стагоддзя захапілі тры дзяржавы: Расія, Прусія і Аўстрыя.

[2] *Лончносць польска* («Łączność Polska») — «польская сувязь» («польскі хаўрус») — нацыянальна-патрыятычныя аб'яднанні палякаў на розных тэрыторыях.

[3] *Імпартаваныя з «Крулевства» (на) «kresy wschodnie» ойчулькі* (замест «wschodnie» ў артыкуле памылкова надрукавана «uchodnie») — імпартаваныя з карэннай Польшчы (Крулевства) на «ўсходнія ўскраіны» ксяндзулькі («ойчулькі» — памяншальна-зневажальнае ад «айцец»).

[4] *Фэброўна* — ліхаманкава (ад польскага «febra» — ліхаманка).

[5] *Абрубы* (ад польскага «obrąb») — межы.

[6] *Мінезінгеры* — сярэдневяковыя нямецкія паэты, аўтары і выканаўцы любоўных песень.

[7] *Народова дэмократыя* — нацыяналістычны, шавіністычны напрамак у польскім нацыянальна-вызваленчым руху (у гутарковай мове называецца «эндэцыяй»). «Мінезінгеры народовай дэмократыі» — песняры нацыяналізму і шавінізму.

[8] *Убаляваюць* (ад польскага «ubolewają») — смуткуюць.

[9] *Тромпчынскі* Войцех (1860–1953) — адзін з актыўных дзеячаў эндэцыі.

## *VII*

Сёмы артыкул апублікаваны 5 чэрв. 1918 г. у № 59 газеты.

[1] *Захараўская* — галоўная вуліца Мінска (сённяшняя Савецкая і праспект Францішка Скарыны).

[2] *Orzeł* — арол, дзяржаўны герб Польшчы.

[3] *Пратэса* — харугва.

[4] *Абход свята Цела Божага...* — «Божае Цела» («Boże Ciało»), каталіцкае свята, якое прыпадае на дзесяты дзень пасля Сёмухі (Тройцы). У гэты дзень праводзяцца ўрачыстыя рэлігійныя працэсіі па вуліцах гарадоў.

## *Дыбенкіада (с. 362)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях» 26 мая 1918 г., № 51, пад псеўданімам А. Навадворскі.

[1] *Дыбенка* — гл. каментарый да артыкула «Скрыпты шавініста» № I.

## *Расцярушанае багацце (с. 365)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях» 16 чэрв. 1918 г., № 68, пад крыптанімам А. Н.

[1] *Заклад* (польск.) — установа.

[2] *Усілкамі* (паланізм) — намаганнямі.

[3] *Чуваюць над імі* (паланізм) — сцерагуць іх, клапоцяцца аб іх.

[4] *Удаецца з просьбамі* (паланізм) — звяртаецца з просьбамі.

[5] *Над забыткамі* (польск.) — над памяткамі мінулых эпох.
[6] *Барбарынства* (паланізм) — варварства.
[7] *Замеры* (паланізм) — намеры.

### *«Рэальная палітыка» (с. 367)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 32, 30 крас. пад крыптанімам «П.»
[1] *Пробная гала* — пробны шар.
[2] *Станы* (польск.) — саслоўі.
[3] *Замяшканай* (польск.) — заселенай.
[4] *Ягелонская ідэя* — тут у сэнсе: ідэя аб'яднання беларусаў і палякаў у адной агульнай дзяржаве (як гэта было здзейснена ў 1569 г. у Любліне апошнім каралём з дынастыі Ягелонаў Жыгімонтам II Аўгустам).

### *Далей не можна (с. 369)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 35, 4 мая пад крыптанімам «П.»
[1] *9 і 25 сакавіка* — 9 сакавіка 1918 г. Другой устаўной граматай была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, а 25 сакавіка Трэцяй устаўной граматай — дзяржаўная незалежнасць БНР.
[2] *Стопень* (польск.) — ступень, узровень.
[3] *Terra incognita* (лац.) — невядомая зямля.
[4] *Рэляцыі* (польск.) — справаздачы, паведамленні.
[5] *На нашае зданне* (паланізм) — на нашу думку.

### *Пад адным штандарам (с. 371)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 61, 7 чэрв. пад крыптанімам «П.»
[1] *«Гоман»* — беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета нацыянальна-дэмакратычнага адраджэнскага кірунку. Выдавалася з лютага 1916 да канца 1918 у Вільні. Рэдактары В. Ластоўскі, Я. Салавей.

### *Польшча і яе суседзі (с. 373)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 67, 15 чэрв. пад крыптанімам «П.»
[1] *«Мужы стану»* (паланізм) — дзяржаўныя дзеячы.
[2] *Споўжыцця* (паланізм) — сумеснага жыцця.
[3] *«... казацтва пайшло ў Пераяслаў»* — у 1654 г. на сходзе прадстаўнікоў украінскага народа, скліканым гетманам Багданам Хмяльніцкім у г. Пераяслаў (цяпер Пераяслаў-Хмяльніцкі), было прынята рашэнне аб далучэнні Украіны да Расіі.

[4] *Сталыпін* Пётр Аркадзьевіч (1862–1911) — расійскі дзяржаўны дзеяч. У 1906 г. міністр унутраных спраў, затым старшыня Савета Міністраў. Пасля задушэння рэвалюцыі 1905–1907 гг. ажыццявіў аграрную рэформу.
[5] *Заўфання* (польск.) — даверу.
[6] *Обэцны* (польск.) — сучасны, цяперашні.
[7] *Кнуюць* (паланізм) — правакуюць.

### *«Незалежная Беларусь» (с. 375)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, № 73, 22 чэрв. пад крыптанімам «П.»
[1] *Берасцейскі мір* — мірны дагавор Савецкай Расіі з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй, падпісаны 3 сак. 1918 г. у Брэст-Літоўску (Брэсце). Тэрыторыя Беларусі аказалася падзеленай па лініі Дзвінск–Свянцяны–Ліда–Пружаны–Брэст. Асноўная частка адыходзіла да Расіі, частка Віленшчыны і Гродзеншчыны — да Літвы.
[2] *У скутак* (польск. wskutek) — у выніку.
[3] *Панствовасці* (польск.) — дзяржаўнасці.
[4] *Канечнасць* (паланізм) — неабходнасць.

### *Уражанні (с. 377)*

Упершыню пад назвай «Уражэнні» — газ. «Беларускі шлях», 1918, №№ 88, 90, 91, 95, пад псеўданімам І. Ж. Твор аб'яднаў у сабе асаблівасці апавядання, мастацкага рэпартажа і публіцыстычнага артыкула. Ён каштоўны сваім роздумам над тагачаснымі праблемамі жыцця.
[1] *Не тамаваным* (паланізм) — не абмежаваным.
[2] *Спарта* — старажытная дзяржава ў лаўднёвай частцы паўвострава Пелапанес. Ілоты — бяспраўныя жыхары Спарты, якія займаліся земляробствам.
[3] *Чачот Ян* (1796–1847) — беларускі паэт, фальклярыст, аўтар фальклорных зборнікаў «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны» (т. 1–6, 1837–1846).
[4] *Гуфцы* (польск.) — узброеныя атрады.
[5] *Бэрлінка, бэрліна* (польскае з нямецкай мовы) — колішняя брычка, а таксама крытая рачная баржа.
[6] *О.о. езуіты* — айцы езуіты.
[7] *Нахадзэнне* — тут у сэнсе: сутнасць.

### *«Што рабіць, што рабіць!?» (с. 382)*

Упершыню — газ. «Беларускі шлях», 1918, 18 жн.
[1] *Увобац* (польск. wobec) — у сувязі з …

## *ЛІСТЫ*

Захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Навуковай бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук, фонд 21 (VBF). Друкуюцца паводле зб. «Сэрцам пачуты звон», дзе ўпершыню апублікаваны.

### *Невядомаму адрасату (с. 385)*

Ліст пісаўся ў Сібіры.

[1] *...бабусю Брэшка-Брашкоўскую...* — Кацярына Канстанцінаўна Брэшка-Брашкоўская (1844—1934) — вядомая руская рэвалюцыянерка — яе звалі бабуляй рускай рэвалюцыі — адна са стваральнікаў і кіраўнікоў партыі сацыял-рэвалюцыянераў (эсэраў). За рэвалюцыйную дзейнасць яе шмат разоў арыштоўвалі, у тым ліку і ў 1907 г. Праз два гады яе вывезлі ў Сібір, дзе з ёю пазнаёміўся Алесь Гарун. Вызваліла іх Лютаўская рэвалюцыя.

### *Вацлаву Ластоўскаму (с. 386)*

[1] *«Дэпутат»* — ні сама п'еса, ні яе першы акт не захаваліся.

## ДАДАТАК

## *УСПАМІНЫ ПРА АЛЕСЯ ГАРУНА*

Успаміны Антона Аўсяніка, Міколы Шыла, А.Эссона, Францішка Кушаля і біяграфічныя даведкі пра іх друкуюцца паводле кнігі: «На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі». Укладанне, прадмова і звесткі пра аўтараў Б. І. Сачанкі. Мінск, 1994.

### *А. А – к*
### *Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) (с. 389)*

*А. А–к* — Антон Аўсянік, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, член Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). Нарадзіўся ў 1888 г. у в. Кабылле на Вілейшчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў тэхналагічны інстытут у Харкаве, вучыўся ў Пецярбургскім політэхнічным інстытуце. У 1918–1919 гг. член Народнага сакратарыята БНР, у 1919–1920 гг. — член Беларускай вайсковай камісіі. У 1922 г. абраны пас-лом (дэпутатам) сейма Рэчыпаспалітай Польшчы. У пачатку 30-х гадоў пераехаў у БССР. Далейшы лёс яго невядомы.

[1] *Рада Рэспублікі* — была створана ўдзельнікамі Усебеларускага з'езда 1917 г. Выканкам Рады ў Першай Устаўной грамаце да наро-

даў Беларусі 20 лют. 1918 г. абвясціў сябе часовай уладай Беларусі, а выканаўчую ўладу перадаў Народнаму Сакратарыяту. У Другой Устаўной грамаце 9 сак. 1918 г. абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) і асноўныя заканадаўчыя прынцыпы дзяржаўнага ладу. Трэцяя Устаўная грамата 25 сак. 1918 г. абвясціла дзяржаўную незалежнасць БНР. Аднак нямецкія акупацыйныя ўлады не прызналі гэтай незалежнасці, абрабавалі касу Народнага Сакратарыята, сарвалі беларускі сцяг. Адным з членаў Рады з'яўляўся А. Аўсянік.

[2] *Натужнай* — напружанай.

[3] *«Гофман і Троцкі ў Бярэсці»* — гл. каментар да артыкула «Незалежная Беларусь» пра Брэсцкі мір. Леў Троцкі быў наркомам Савецкай Расіі па замежных справах. М. Гофман з'яўляўся начальнікам штаба Усходняга фронта..

[4] *Маніфест Пілсудскага* — 22 крас. 1919 г. у сваім звароце да жыхароў тэрыторый колішняга Вялікага Княства Літоўскага Юзаф Пілсудскі абяцаў ім, што яны будуць мець права самі вырашаць свой лёс. Ю. Пілсудскі (1867–1935) з лістапада 1918 да снежня 1922 г. — Начальнік Польскай Дзяржавы, галоўнакамандуючы Войска польскага ў час польска-савецкай вайны 1920 г.

[5] *«Я памятаю яго... прамову да Пілсудскага...»* — 19 верас. 1919 г. Аляксандр Прушынскі ад імя беларускай грамадскасці вітаў у Мінску Ю. Пілсудскага.

[6] *«...верхаводзіла вайсковая камісія»* — пра Беларускую вайсковую камісію (БВК) пішуць розныя аўтары ўспамінаў, але ніхто не падае дакладных звестак пра яе. 28 ліп. 1919 г. дэлегацыя беларускіх дзеячаў на чале з Браніславам Тарашкевічам наведала начальніка Польскае дзяржавы Ю. Пілсудскага і перадала яму дэкларацыю Цэнтральнае Беларускае рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, дзе, у прыватнасці, было сказана: «...Рада зварочваецца да Вашае міласці з просьбаю падтрымаць стварэнне збройнае сілы, як вядомага знаку мкнення беларускага народу да вольнага і незалежнага жыцця» (Беларускае жыццё, 1919, № 9). Там жа паведамляецца і пра адказ начальніка Польскае дзяржавы: «Што датычыцца войска, дык (Пілсудскі. —*У. К.*) сказаў, што зараз дасць мясцовым ваенным уладам прыказ, каб, згаварыўшыся з Беларускаю радаю, заняліся арганізацыяй збройнай сілы». Рада выбрала вайсковую камісію, якую ўзначаліў Павел Аляксюк. Камісія павінна была «пачаць тварыць збройную сілу беларускага народу» (Беларускае жыццё, 1919, № 10). І неўзабаве старшыня камісіі заявіў: «Я веру, што хутка беларуская нацыянальная армія будзе ваяваць разам з польскай арміяй за свабоду Беларусі, і пралітая супольна кроў утворыць брацкі саюз» (апублікавана ў рускай газеце «Минский курьер» і перадрукавана ў газеце «Беларускае жыццё», 1919, № 13). А потым у друку з'явілася паведамленне: «Прадстаўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Парыжы генерал Кандратовіч і сябар б. Дзяржаўнай рады Азнабішын атрымалі ад амерыканскіх вайсковых колаў прапазіцыю закупіць для

Беларусі ваенныя матэрыялы, якія засталіся ў Францыі пасля амерыканскай арміі. Прапазіцыя гэта прынята. Прадстаўнікі Беларусі падпісалі ўмову аб куплі на 400 мільёнаў долараў» («Беларусь», 1919, № 6).

Тут заканамерна ўзнікае пытанне: адкуль такія сумы маглі ўзяць кіраўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі? Нейкі адказ на гэтае пытанне дае перадавы артыкул «Беларусі» ад 22 студз. 1920 г. пад загалоўкам: «Час прайшоў — час настаў»: «Аднэй з першых нашых патрэб павінна быць — стварэнне войска і заняцце часткі фронту. З дазволу галавы Польскага гаспадарства фармаванне войска нам не забараняецца. Далей чакаць праступна. Амуніцыю і аружжа мы павінны мець ад Антанты, гэта дзела нашых дыпламатаў, яны павінны клапаціцца, а мы арганізоўвацца. З дабравольчых атрадаў трэба перайсці да мабілізацыі ўсіх народных сілаў...» Заслугоўвае ўвагі яшчэ адно паведамленне друку: «Члены французскай вайсковай місіі былі гэтымі днямі ў Беларускай вайсковай камісіі і знаёміліся са справай арганізацыі беларускай арміі» («Беларусь», 1920, № 41).

Умовы для стварэння цэлай арміі былі дастаткова спрыяльныя. Была б падтрымка з боку Антанты, на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі антысавецкія партызанскія атрады, было Слуцкае ўзброенае паўстанне. А газета «Беларускае жыццё» 16 лют. 1920 г. (№ 4) паведамляла: «У Эстоніі цяпер знаходзіцца беларускі атрад з 4000 чалавек. Ёсць атрады кавалерыі і артылерыі. Беларускімі войскамі камандуе генерал Балаховіч». Нават за межамі тэрыторыі Беларусі ствараліся беларускія ўзброеныя сілы, не маючы той падтрымкі, якой магла карыстацца БВК. А чаго дасягнула Беларуская вайсковая камісія, якая актыўна публікавала заклікі, адозвы, праводзіла агітацыйную работу? У студзені 1920 г. беларускі штомесячнік «Часопісь» (Коўна) паведамляў: «Расхвалены праект арганізацыі беларускіх частак у польскай арміі, атрымаўшы высокую згоду начальніка Рэчы Польскай Паспалітай і распаўсюжэны яшчэ ў восень 1919 году, да студзеня 1920 году не даў ніводнага салдата, ніводнага беларускага штыка». Пісала пра гэта і газета «Беларусь» у артыкуле «Час азірнуцца»: «Беларуская вайсковая камісія зложана аж з 9 асобаў; пад ведаю гэтых дзевяцёх асобаў ёсць яшчэ шмат іншых асобаў; кожны дзень яны ходзяць у штаб, нешта робяць, а рэзультату іх працы дасюль не відаць. Ці не пара ўжо ўсяму беларускаму грамадзянству азірнуцца ў гэтай рабоце назад і сур'ёзна падумаць аб тым, каб будаванне войска сапраўды скрануць з нежывога пункту» (18 сак. 1920 г., № 60).

З трывогай пісала пра гэта «Незалежная думка» 8 чэрв. 1920 г.: «Ужэ блізка каля году, як стварылася так званая "Беларуская вайсковая камісія", існуючая ў Мінску. Мэтай яе было і ёсць арганізаваць беларускае войска, каторае стаяла б на варце абароны бацькаўшчыны ад ворагаў. Доўга чакала беларускае грамадзянства хоць якіх-небудзь рэзультатаў ад працы камісіі і не дачакалася. Радужныя надзеі беларускіх незалежніцкіх кругоў патроху паблеклі і змяніліся на чорную безна-

дзейнасць. Цяпер мала хто верыць, што з вайсковай беларускай справы будзе пры сучасных палітычных варунках якая-небудзь карысць...» Тут называюцца дзве галоўныя прычыны такога становішча. Першая з іх — непрыхільныя адносіны польскіх правых сіл, у асаблівасці так званай «эндэцыі» да беларусаў. «Другая прычына, перашкаджаючая фарміраванню беларускага войска, — падкрэсліваецца ў артыкуле, — ляжыць у самым напрамку працы павадыроў Беларускай вайсковай камісіі... Камісія прасявае праз вузкае сіта розных “эвідэнцыйна-кваліфікацыйных” камісій кожнага, жадаючага паступіць у беларускае войска, і рэдка хто з гэтага сіта высяваецца. Большасць, пры тым аграмадная, як непатрэбныя высеўкі, выкідаецца з сіта на сметнік. Дзякуючы гэтаму, у шырокім беларускім грамадзянстве даўно ўжо ведама, што ў беларускае войска цяжэй папасці, як у рай Магамета, што ў беларускае войска, асабліва ў беларускія афіцэры, папасці беларусу такім, якім ён ёсць, проста немагчыма... Разумеецца, што ад такой працы вайсковай камісіі нічога добрага чакаць не можна. Па ўсяму відаць, што ў вайсковай камісіі сядзяць людзі, кірунак працы каторых не адпавядае патрэбам і настрою беларускага народу... Калі ўсё застанецца па-старому, то войска беларускага як не было, так і не будзе...» У адказ на такое абвінавачанне Беларуская вайсковая камісія паведаміла, што «гэтакае “сіта” лічыць яна канечне патрэбным дзеля таго, каб у беларускае войска не пападалі чужацкія, варожа настроеныя да беларусасці элементы. Беларуская вайсковая камісія стаіць на тым пагля дзе, што для нашай беларускай справы важней маральная вартасць і нацыянальная свядомасць жаўнера, чымсь яго колькасць».

У беларускім друку той пары паведамлялася, што партызанскія антысавецкія атрады заяўлялі аб сваім падпарадкаванні Беларускай вайсковай камісіі. У адной з такіх інфармацый, напрыклад, чытаем: «Атрад Семенюка рэарганізуецца. Беларускай вайсковай камісіяй назначаецца ў гэты атрад шэсць беларускіх афіцэраў, каторыя будуць камандаваць на беларускай мове. Атрад пераходзіць пад загад Беларускай вайсковай камісіі» («Беларусь», 25 лют. 1920 г., № 41). А вось яшчэ адно паведамленне той самай крыніцы: «Дэлегацыя партызанскіх атрадаў Смаленшчыны і Віцебшчыны, якая прыбыла ў Менск, звярнулася да Беларускай вайсковай камісіі з просьбай аб прыняцці пад свой загад, на што дана згода». Інфармацыя пра адзін з такіх атрадаў была змешчана і ў 37-м нумары «Беларусі» за 1919 г.

Такія магчымасці мела Беларуская вайсковая камісія. Аднак за ўвесь перыяд яна ўкамплектавала ўсяго толькі адну роту («кампанію»), якую адправіла не на фронт, а на курсы беларусазнаўства. Чаму так магло здарыцца? Адказ на гэтае пытанне памагаюць знайсці архіўныя дакументы. Дзейнасцю ўсіх беларускіх арганізацый, у тым ліку і БВК, праз нейкі час зацікавілася разведка польскага генеральнага штаба. У падрыхтаваным ёю дакуменце паведамляецца, што восенню 1919 г. у Смаленску паміж прадстаўнікамі беларускіх арганізацый і бальшавікамі было заключана пагадненне аб сумеснай

барацьбе супраць войск Пілсудскага. У адпаведнасці з 4-м параграфам пагаднення (усіх параграфаў было пяць) беларускія дзеячы павінны былі ўстанавіць кантроль над Беларускай вайсковай камісіяй. «Дзякуючы гэтаму, — паведамляецца ў дакуменце, — эсэры і камуністы з'явіліся амаль адзінымі кіраўнікамі гэтай самай важнай справы — стварэння беларускага войска. Выкарыстоўваючы свой уплыў, не падпускалі яны да беларускага войска афіцэраў, пра якіх ведалі, што яны з'яўляюцца ворагамі бальшавікоў. Не прымалі таксама б(ылых) афіцэраў армій Карнілава, Дутава, Калчака або Юдзеніча. У той жа час ахвотна прымалі і вербавалі б(ылых) афіцэраў і салдат Савецкай Арміі». Упаўнаважаныя БВК, паведамляецца далей, «ішлі ў народ, праводзячы антыпольскую агітацыю і заклікаючы да ўзброеных выступленняў. Прабіраліся яны таксама ў атрады, ужо створаныя Беларускай вайсковай камісіяй, і або перацягвалі іх на свой бок, або разганялі, калі агітацыйная дзейнасць не памагала, не адмаўляючыся ад забойства больш упартых камандзіраў». Такім чынам, у дакуменце аддзела разведкі польскага генеральнага штаба паведамляецца пра тую ролю, што была адведзена Аляксандру Прушынскаму ў Беларускай вайсковай камісіі. А канкрэтныя карэспандэнцыі ў беларускім друку не пярэчаць тым звесткам.

[7] *«На чале яе стаяў Прушынскі»* — Беларускую вайсковую камісію ўзначальваў Павел Аляксюк. Аляксандр Прушынскі з'яўляўся членам камісіі.

[8] *Шаптыцкі* Станіслаў (1867–1950) — генерал Войска польскага, у 1919–1920 гг. камандаваў Літоўска-беларускім фронтам.

[9] *«Тутака пахаваны Аляксандр Прушынскі...»* — магіла Алеся Гаруна захавалася на Ракавіцкіх могілках у Кракаве. 24 верас. 1988 г. на ёй быў адкрыты помнік, дзякуючы стараниям Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы (БГКТ). На ўрачыстасці адкрыцця прысутнічалі прадстаўнікі беларускай грамадскасці ў Польшчы, дэлегаты з Беларусі, беларускія дзеячы з замежных краін, у тым ліку з Англіі і Аўстраліі.

## *Мікола Шыла*
## *Алесь Гарун (с. 392)*

*Шыла* Мікола (1888–1948) — настаўнік, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Нарадзіўся на Міншчыне. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. З'яўляўся членам Беларускай сацыялістычнай грамады, прымаў удзел у выданні «Нашай нівы», у падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага кангрэса ў канцы снежня 1917 г. Пасля першай сусветнай вайны жыў у Заходняй Беларусі. Памёр у Германіі.

[1] *Бурбіс* Алесь (1885–1922) — вядомы дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, з'яўляўся адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

### *А. Эссон*
### *Мае ўспаміны аб Алесю Прушынскім (с. 394)*

Звестак пра А. Эссона не захавалася. Вядома толькі, што паходзіў з Паўночнага Каўказа.

[1] *Мінгрэльцы* — жыхары Мінгрэліі (Заходняя Грузія).

[2] *Апрычоная* (дыялектн.) — адасобленая, самастойная. У «Слоўніку беларускай мовы» І. Насовіча ёсць словы: «опрично», «опричный», «опричоник», «опричонне», «опричонно», «опричонники», «опричь».

### *Францішак Кушаль*
### *Сорак два гады таму*
### *(Жменя ўспамінаў аб Алесю Гаруну) (с. 397)*

*Кушаль* Францішак (1895–1968) — дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Нарадзіўся ў Пяршаях Валожынскага павета. У царскай арміі даслужыўся да звання штабс-капітана. У 1919 г. быў членам Беларускай вайсковай камісіі. Потым служыў у польскай арміі. У час Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску ўдзельнічаў у арганізацыі беларускага батальёна самаахове. З 1944 г. — камандзір Беларускай Краёвай абароны. Быў мужам Наталлі Арсенневай. Памёр у ЗША.

Эсэ апублікавана ў часопісе «Конадні», Нью-Йорк, 1963, № 7.

[1] *«Вольная Беларусь»* — грамадска-палітычная, эканамічная і літаратурная газета нацыянальна-дэмакратычнага напрамку. Выдавалася з чэрвеня 1917 да лістапада 1918 г. у Мінску на беларускай мове. Рэдактар Я. Лёсік.

[2] *Лявіцкая* Ванда Антонаўна (1895–1969) — беларуская пісьменніца.

[3] *Аляксюк* Павел Паўлавіч (нар. у 1892 — год смерці невядомы) — удзельнік беларускага нацыянальнага руху. У 1919–1920 узначальваў Беларускую вайсковую камісію.

[4] *Канапацкі* Гасан Амуратавіч (1879–1953) — удзельнік беларускага нацыянальнага руху, татарын па паходжанні.

[5] *Рак-Міхайлоўскі* Сымон (1885–1938) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, педагог. У 1918 г. член Рады БНР.

[6] *Эндэцкае арыентацыі* — эндэцыя (ад: Народова дэмократыя) — крайне правы, нацыяналістычны і шавіністычны напрамак у польскім нацыянальна-вызваленчым руху.

[7] *Дымісія* (польск.) — адстаўка.

[8] *Умястоўскі* Францішак Іванавіч ( псеўд. «Дзядзька Пранук», 1882–1940) — беларускі пісьменнік.

[9] *Аляхновіч* Францішак Каролевіч (псеўд. Ю. Монвід, Ягор Монвід, 1883–1944) — беларускі драматург і тэатральны дзеяч. Восенню 1919 г. нелегальна пераехаў з Вільні ў Мінск, акупіраваны польскімі войскамі, стаў дырэктарам і рэжысёрам Беларускага тэатра. Аўтар папулярных драматычных твораў.

[10] *Тэраўскі* Уладзімір Васільевіч (1871–1938) — беларускі харавы дырыжор, кампазітар, фалькларыст.

[11] *Мядзёлка* Паўліна Вінцэнтаўна (1893–1974) — дзеячка беларускай культуры. Адна з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай камедыі Янкі Купалы.

[12] *Грыб* Тамаш Тамашавіч (1895–1938) — беларускі палітычны і культурны дзеяч. Член Рады БНР і яе выканаўчага камітэта.

# SUMMARY

The writings of Ales Harun (Alexander Uladzimiravich Prushynski, 1887–1920) are an extraordinary phenomenon in the literature of Belarus. The fate of no other Belarussian writer has been as tragic as his. At the age of twenty he was jailed, then endured hard labor in Siberian exile before returning to Belarus and the suffering of the wartime. Finally, he came to an early death at 33 in a foreign land. He started writing while in jail and continued writing during the nights in Siberia, after composing his works in his head as he toiled at the hard labor during the day. He did not stop his writing after he returned to occupied Belarus during the war years. As he pursued the everyday worker's life at the same time that he was involved with high levels of government, his writings speak to all levels of society. The people, who lived together with him at that time, his comrades in the struggle for the better future of Belarus told us about his public work.

Ales Harun entered the annals of Belarus literature as an author of excellent poetic works which were collected in the book "Mother's Gift" and also printed in many publications. He was a creator of short stories, plays for children's theater and various articles. By his life as well as his art, the writer provided an example of courage and patriotism and demonstrated how the fatherland and its native language should be preserved. He condemned the betrayal, acquiescence, social injustice, lies and falsehood of the prevailing culture.

This book includes the works, which Ales Harun was able to print during his life as well as those writings of his that were saved by his contemporaries. It also contains memoirs of those who lived and struggled together with him.



# ЗМЕСТ

*ЧАРНАВЫЯ НАКІДЫ*

*ПАЭМЫ, АПАВЯДАННІ ВЕРШАМ І БАЙКІ*



## АПАВЯДАННІ



## П'ЕСЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА, ЛІСТЫ

*ПУБЛІЦЫСТЫКА*

## *ЛІСТЫ*



# ДАДАТАК

## *УСПАМІНЫ ПРА АЛЕСЯ ГАРУНА*

**Гарун А.**

Г 21 Выбраныя творы / Алесь Гарун; Уклад.,прадм., камент. У. Казберука. — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 2003. — 448 с. (4) с.: іл. — (Беларускі кнігазбор; Сер. 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 985-6730-08-2.

**У гісторыю беларускай літаратуры Алесь Гарун (Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі, 1887–1920) увайшоў як аўтар высокамастацкіх паэтычных твораў, сабраных у зборніку «Матчын дар» і раскіданых у розных выданнях, а таксама арыгінальных апавяданняў, п'ес для дзіцячага тэатра, надзённых публіцыстычных артыкулаў.**

**У кнізе сабраны творы, якія самому аўтару ўдалося апублікаваць пры жыцці, і тое, што нейкім чынам зберaглі яго сучаснікі. Друкуюцца і ўспаміны людзей, якія разам з Алесем Гаруном змагаліся і пакутавалі.**

**Дваццаць чацвёртая кніга серыі «Беларускі кнігазбор».**

**УДК 821.161.3-8**
**ББК 84 (4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

Беларускі кнігазбор
Серыя I. Мастацкая літаратура

**Гарун Алесь**

Выбраныя творы

Рэдактар Кастусь Дуброўскі
Мастак Мікалай Казлоў
Тэхнічны рэдактар Алег Глекаў
Карэктар Марыя Казбярук
Набор і вёрстка Алеся Казберука

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 6.06.2003.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 23,52 + 0,21 укл. Ул.-выд. арк. 24,0.
Наклад 2500 асобнікаў. Зак. 1133.

МГА «Беларускі кнігазбор». 220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.
Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.2002 г. тэл/факс: (017) 220-70-27,
E-mail: kniha@bk.lingvo.minsk.by; http://knihazbor.cjb.net

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.



БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць.
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
СТАРАЖЫТНАЯ ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ. Зборнік